Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

В. А. Белазаровіч

# ГІСТАРЫЯГРАФІЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Дапаможнік
па аднайменным курсе
для студэнтаў спецыяльнасцяў
1 – 21.03.01 – 01 – Гісторыя,
1 – 02.01.02 – 04 – Гісторыя. Замежная мова

Гродна 2006

УДК 303.446.4(476)
ББК 63.1(4 Беі)
Б 43

Рэцэнзенты: кандыдат гістарычных навук, дацэнт *Н.У.Казлоўская,*
кандыдат гістарычных навук, дацэнт *А.І.Шаланда*.

Пад агульнай рэдакцыяй кандыдата гістарычных навук, прафесара *І.П.Крэня,*
доктара гістарычных навук, прафесара *А.М.Нечухрына.*

Рэкамендавана саветам гістарычнага факультэта ГрДУ імя Я.Купалы

**Белазаровіч, В.А.**

Б 43 Гістарыяграфія гісторыі Беларусі : дапаможнік / В.А.Белазаровіч ; пад агульн. рэд. І.П.Крэня, А.М.Нечухрына. – Гродна : ГрДУ, 2006. – 346 с.

ISBN 985-417-858-7

Дапаможнік змяшчае разгорнутую панараму развіцця гістарыяграфіі гісторыі Беларусі ад з'яўлення першых гістарычных звестак пра Беларусь па сённяшні дзень. Выданне ўтрымлівае тэматыку і планы заняткаў, спіс літаратуры, тэматыку рэфератаў, тэсты для самаправеркі.

Прызначаны для спецыялістаў па гісторыі гістарычнай навукі, студэнтаў-гісторыкаў, выкладчыкаў гісторыі Беларусі.

**УДК 303.446.4(476)**
**ББК 63.1(4 Беі)**

**ISBN 985-417-858-7**

# Прадмова

Пераход да нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі ў Беларусі, які быў здзейснены ў першай палове 90-х гг. XX ст., прадвызначыў увядзенне ў праграмы ВНУ курса «Гістарыяграфія гісторыі Беларусі». Гэтая спецыяльная гістарычная дысцыпліна прадугледжвае вывучэнне творчасці гісторыкаў, навуковых кірункаў, вызначэнне іх ролі ў айчыннай гістарыяграфіі. Асобная ўвага надаецца аналізу дзейнасці навуковых і навучальных установаў гістарычнага профілю ў Беларусі. У дапаможніку ахопліваецца перыяд гісторыі гістарычнай думкі Беларусі ад яе вытокаў па сённяшні дзень.

Выкладанне курса пабудавана на аснове праграмы «Гістарыяграфія гісторыі Беларусі» для студэнтаў гістарычных спецыяльнасцяў, зацверджанай Саветам Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Дапаможнік утрымлівае тэматыку і планы лекцыйных і практычных заняткаў, літаратуру да іх. Для паглыбленага вывучэння прапануюцца прыкладныя тэмы рэфератаў па асобных пытаннях гістарыяграфіі гісторыі Беларусі. Кожная тэма мае тэкставае суправаджэнне. Да кожнай тэмы ёсць праверачныя тэсты, разлічаныя як на веданне фактычнага матэрыялу, так і на яго аналіз. Адказваючы на іх, студэнты могуць ацаніць ступень засваення і разумення той ці іншай тэмы айчыннай гістарыяграфіі.

У працэсе падрыхтоўкі да семінарскіх заняткаў спачатку неабходна прагледзець канспект лекцыяў, прысвечаных вывучаемай тэме. Затым – прачытаць тэкст дапаможніка, прааналізаваць спіс рэкамендаванай літаратуры, які складаецца з манаграфіяў, навучальных дапаможнікаў, абагульняльных навуковых працаў, навуковых артыкулаў. Заключным момантам ёсць вывучэнне літаратуры і работа з праверачным тэстам.

# Тэма 1. Уводзіны

## План

1. Прадмет курса «Гістарыяграфія гісторыі Беларусі».

2. Задачы курса «Гістарыяграфія гісторыі Беларусі».

3. Прынцыпы і метады гістарыяграфічнага пазнання. Гістарыяграфічны факт і гістарыяграфічная крыніца

4. Праблема перыядызацыі гістарыяграфіі гісторыі Беларусі.

5. Станаўленне гістарыяграфіі гісторыі Беларусі як навукі.

## Рэкамендаваная літаратура


1. Барг, М.А. Категории и методы исторической науки / М.А.Барг. – М.: Наука, 1984. – 342 с.

2. Белазаровіч, В.А. Асноўныя этапы гістарыяграфіі гісторыі Беларусі (да праблемы перыядызацыі) / В.А.Белазаровіч // Подготовка педагогических и научных кадров историков и развитие исторической науки в Беларуси: материалы респ. науч. – практ. конф., 30 сент. 2004 г., Гродно / Грод. гос. ун-т; под ред. Е.А.Ровбы, А.Н.Нечухрина, И.П.Креня. – Гродно: ГрГУ, 2005. – С. 131 – 134.

3. Біч, М.В. Гістарыяграфія / М.В.Біч // Беларуская Энцыклапедыя. У 18 т. – Мн.: БелЭн, 1997. – Т. 5. – С. 273 – 274.

4. Дербов, Л.А. Введение в изучение истории / Л.А.Дербов. – М.: Высш. шк., 1981. – 184 с.

5. Достижения исторической науки в БССР за 50 лет (1919 – 1969 гг.). Краткий очерк / под ред. И.С.Кравченко и З.Ю.Копысского. – Мн.: Наука и техника, 1970. – 96 с.

6. Достижения исторической науки в БССР за 60 лет / Поболь Л.Д. [и др.]; под ред. З.Ю.Копысского и П.Т.Петрикова. – Мн.: Наука и техника, 1979. – 80 с.

7. Завелев, А.И. Историографическое исследование: методологические аспекты / А.И.Завелев. – М.: Высш. шк., 1987. – 159 с.

8. Игнатенко, А.П. Введение в историю БССР / А.П.Игнатенко. – Мн.: Высш. шк., 1965. – 48 с.

9. Иоффе, Э.Г. Пичета как историк социально-экономического развития Белоруссии в эпоху феодализма (XVI – первая половина XVII века) / Э.Г.Иоффе; автореф дис. на соиск. уч. степ. канд ист. наук: 07.00.09 – историография и источниковедение. – Мн., 1974. – 21 с.

10. Историография истории России до 1917 г.: учебник для студ. высш. учеб. заведений. В 2 т. / под ред. М.Ю.Лачаевой. – М.: ВЛАДОС, 2003. – Т. 1. – С. 12 – 25.

11. Каспяровіч, М.І. Краязнаўства / М.І.Каспяровіч. – Мн.: Бел. дзярж. выд-ва, 1929. – 160 с.

12. Методология истории: Учеб. пособие для студентов вузов / А.Н.Нечухрин [и др.]. – Мн.: НТООО «ТетраСистемс», 1996. – 240 с.

13. Михнюк, В.Н. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919 – 1941 гг.) / В.Н.Михнюк; под ред. П.Т.Петрикова. – Мн.: Наука и техника, 1985. – 286 с.

14. Михнюк, В.Н. Историческая наука Белорусской ССР, 80-е годы / В.Н.Михнюк, П.Т.Петриков. – Мн.: Наука и техника, 1987. – 120 с.

15. Наука в БССР за 30 лет. – Мн., 1949.

16. Навука ў Беларускай ССР за 40 год. – Мн.: Выд. АН БССР, 1958. – С. 64 – 89.

17. Навука БССР за 50 год. – Мн.: Навука і тэхніка, 1968. – С. 52 – 78.

18. Наука Беларуси в XX столетии. – Мн.: Белорусская наука, 2001. – С. 49 – 91.

19. Очерки истории исторической науки в СССР / под ред. М.Н.Тихомирова. – М.: Изд. АН СССР, 1955. – Т. 1.

20. Петрыкаў, П.Ц. Перыядызацыя гісторыі гістарычнай навукі ў БССР / П.Ц.Петрыкаў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1990. – №6. – С. 52 – 65.

21. Петрыкаў, П.Ц. Асноўныя этапы гістарыяграфіі Беларусі / П.Ц.Петрыкаў // Беларускі гістарычны часопіс. – 2003. – №4. – С. 34 – 42.

22. Пичета, В.И. Введение в русскую историю (источники и историография) / В.И.Пичета. – М.: Коопер. «Наука и просвещение», 1922. – 205 с.

23. Шаўчук, І.І. Гістарыяграфія / І.І.Шаўчук // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мн.: БелЭн, 1996. – Т. 3. – С. 15 – 16.

24. Шчарбакоў В.К. Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі / В.К.Шчарбакоў. – Мн.: Выд. Бел. АН, 1934. – 104 с.

**Тэматыка рэфератаў**

1. У.І.Пічэта – даследчык гісторыі гістарычнай навукі Беларусі.
2. З.Ю.Капыскі – даследчык гісторыі гістарычнай навукі Беларусі.
3. У.М.Міхнюк – даследчык гісторыі гістарычнай навукі Беларусі.
4. П.Ц.Петрыкаў – даследчык гісторыі гістарычнай навукі Беларусі.

**1. Прадмет курса «Гістарыяграфія гісторыі Беларусі».** Гістарычная навука Беларусі прайшла складаны і супярэчлівы шлях развіцця, асабліва ў савецкі час. Склалася сістэма ўстановаў гістарычнага профілю, падрыхтаваны кваліфікаваныя кадры даследчы-

каў, назапашаны вялікі аб’ём гістарычных ведаў. Гістарычная навука не можа развівацца без аналіза набытых звестак, вызначэння ўкладу асобных вучоных і калектываў у вырашэнне навуковых праблемаў. Яна мае патрэбу ў ацэнцы выкарыстаных вучонымі крыніцаў і іх інтэрпрэтацыі, вызначэння метадалогіі даследавання, дакладнасці вынікаў, новага ўкладу ў развіццё навукі. Усё гэта вызначае высокую ролю гістарыяграфіі гісторыі Беларусі сярод іншых гістарычных дысцыплінаў.

Тэрмін «гістарыяграфія» мае грэчаскае паходжанне і складаецца з двух словаў: «гісторыя», што азначае «апавяданне аб мінулым», і «графо» – «пішу». Такім чынам, у прамым сэнсе «гістарыяграфія» азначае «апісанне чаго-небудзь», «пісьмовае апавяданне аб мінулым». Гэтае значэнне тэрміна захавалася да XX ст., а тых, хто займаўся гісторыяй, называлі «гістарыёграфамі». Напрыклад, у дарэвалюцыйнай Расіі існавала званне прыдворнага гістарыёграфа. Яно прысвойвалася вядомым вучоным і пісьменнікам (Г.Ф.Мілеру, М.М.Шчарбатаву, М.М.Карамзіну). Пасада давала ім вялікі грашовы аклад і доступ у архівы. Такую ж пасаду займаў і нямецкі гісторык Л.Ранке.

У XX ст. значэнне тэрміна «гістарыяграфія» змянілася. Пад ёю сталі звычайна разумець сукупнасць гістарычных работ, прысвечаных той ці іншай праблеме або сукупнасць даследаванняў, аб’яднаных агульнымі рысамі: *нацыянальнымі* (беларуская, расійская, амерыканская гістарыяграфія), *тэарэтычнымі* (ліберальная, дваранска-манархічная, марксісцкая гістарыяграфія), *тэматычнымі* (гістарыяграфія ВКЛ, гістарыяграфія аграрнай гісторыі), *хранalaгічнымі* (гістарыяграфія 20 – сярэдзіны 50-х гг., гістарыяграфія сярэдзіны 50 – 80-х гг. XX ст.).

Не адразу зацвердзілася вызначэнне гістарыяграфіі як гісторыі гістарычнай навукі, якое стала ўжывацца з пачатку XX ст. Паколькі гісторыя гістарычнай навукі – гэта працэс развіцця навукі і яе падсістэм, то гістарыяграфія – гэта навуковая дысцыпліна, якая вывучае гэты працэс. **Гістарыяграфія – гэта навука, якая вывучае працэс накаплення ведаў аб развіцці чалавечага грамадства і пераўтварэння іх у навуку, характарызуе розныя погляды на гістарычныя з’явы, разглядае працэс удасканалення метадаў гістарычнага даследавання**. Прадметам гістарыяграфіі гісторыі Беларусі з’яўляецца *гісторыя вывучэння айчыннай гісторыі ў гістарычнай навуцы Беларусі.*

Паколькі прадмет даследавання цесна звязаны з паняццем «гістарычная навука», гістарыяграфія ўключае ў сябе два кірункі:

1) арганізацыя навукі (структура навуковых і вучэбна-навуковых установаў, падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў, крыніцазнаўчая база навукі, метадалагічная аснова даследаванняў, перыядычныя выданні і выдавецкая база і інш.); 2) дасягненні гістарычнай навукі (абагульняльныя калектыўныя працы, манаграфіі, артыкулы, дакументальныя публікацыі і інш.).

Таму гістарыяграфія гісторыі Беларусі вывучае арганізацыю гістарычнай навукі, даследчыцкую праблематыку (паказвае развіццё навуковага пазнання гістарычнага мінулага), тэарэтычную базу даследаванняў (выяўляе, якім чынам тыя ці іншыя тэарэтычныя канцэпцыі выкарыстоўваюцца ў працы даследчыка, уплываюць на фарміраванне навуковых школаў, плыняў), паказывае ўплыў палітычнай сітуацыі на канцэптуальную пазіцыю даследчыка.

Крытэрыяў вызначэння гістарыяграфіі як самастойнай гістарычнай дысцыпліны – пяць: значныя дасягненні ў галіне тэорыі і метадалогіі гістарычных даследаванняў, фармаванне цэнтраў па распрацоўцы гістарычных праблемаў, падрыхтоўка кадраў гісторыкаў, якія прафесійна займаюцца мінулым сваёй навукі, стварэнне навуковых даследаванняў, якія асвятляюць працэс развіцця гістарычнай навукі, фармаванне асаблівай навуковай лексікі.

**2. Задачы курса «Гістарыяграфія гісторыі Беларусі».** Вывучаемы курс ставіць шэраг задачаў, якія неабходна вырашыць: 1) вывучэнне заканамернасцяў змены гістарычных канцэпцыяў і іх аналіз; 2) аналіз метадалагічных прынцыпаў, якімі кіраваліся даследчыкі гісторыі Беларусі ў розныя гістарычныя перыяды; 3) даследаванне працэсу накаплення фактычных ведаў аб чалавечым грамадстве на тэрыторыі Беларусі, увядзення ў навуковы зварот новых крыніцаў (аднак гістарыяграфія не займаецца пошукам і публікацыяй гістарычных крыніцаў); 4) вывучэнне змены і ўдасканалення метадаў і прыёмаў крыніцазнаўчага аналізу; 5) вывучэнне праблематыкі гістарычных даследаванняў; 6) вывучэнне гістарычных навуковых установаў, а таксама сістэмы гістарычнай адукацыі ў краіне; 7) аналіз сродкаў навуковай інфармацыі і распаўсюджвання гістарычных ведаў, іх уплыву на грамадскую самасвядомасць; 8) даследаванне міжнародных сувязяў айчыннай гістарычнай навукі, уплыву замежнай філасофіі і навуковай думкі на беларускіх вучоных; 9) вывучэнне ўмоваў развіцця гістарычнай навукі і адукацыі, і, асабліва ўрадавай палітыкі ў вышэйадзначанай галіне.

**3. Прынцыпы і метады гістарыяграфічнага пазнання**. Вывучэнне гістарыяграфіі гісторыі Беларусі прадугледжвае выкарыстанне шэрагу прынцыпаў навуковага пазнання. Першым з іх ёсць прынцып гістарызму. Ён вызначае аналіз любой гістарыяграфічнай з'явы (канцэпцыі вучонага, навуковага кірунку і г.д.) у развіцці і ў сувязі з фактарамі, якія яе абумовілі. Разглядаючы той ці іншы гістарыяграфічны факт, неабходна ўлічваць узровень развіцця тагачаснай гістарычнай навукі, каб не было неабгрунтаваных заўваг да сваіх папярэднікаў.

Другі прынцып – прынцып сістэмнасці. Ён арыентуе даследчыка на вывучэнне перыядаў і кірункаў гісторыі гістарычнай навукі як сістэмы.

Трэці прынцып – прынцып каштоўнаснага падыходу, які прадугледжвае вылучэнне тых ідэяў і з'яваў мінулага, якія маюць значэнне для сучаснага этапа развіцця гістарычнай навукі.

Вылучаецца шэсць асноўных метадаў гістарыяграфічнага пазнання: 1) параўнальна-гістарычны метад (параўнанне розных гістарычных канцэпцыяў з мэтай вызначэння іх агульных рысаў, асаблівасцяў, ступеняў параўнання), 2) храналагічны метад (аналіз эвалюцыі навуковай думкі, змены канцэпцыяў, ідэяў у храналагічнай паслядоўнасці), 3) праблемна-храналагічны метад (дзяленне шырокай тэмы на шэраг вузкіх праблемаў, кожная з якіх разглядаецца ў храналагічнай паслядоўнасці), 4) метад перыядызацыі (вылучэнне асобных этапаў у развіцці гістарычнай навукі з мэтай вызначэння вядучых кірункаў навуковай думкі), 5) метад рэтраспектыўнага аналізу (вывучэнне развіцця гістарычнай думкі ад сучаснасці да мінулага), 6) метад перспектыўнага аналізу (вызначэнне перспектывы будучых даследаванняў, тэмаў, праблемаў).

У сучаснай гістарыяграфіі гістарыяграфічным фактам прынята лічыць канцэпцыю вучонага, прадстаўленую ў навуковых працах. Гістарыяграфічная крыніца – гэта працы гісторыкаў (манаграфіі, артыкулы, даклады, рукапісы і г.д.), дакументацыя навуковадаследчых устаноў (пратаколы з'ездаў, канферэнцыяў, «круглых» сталоў, стэнаграмы дыскусіяў і г.д.), рэцэнзіі на гістарычныя даследаванні.

**4. Праблема перыядызацыі гістарыяграфіі гісторыі Беларусі**. Развіццё гістарычнай навукі Беларусі патрабуе аналізу і сістэматызацыі пройдзенага ёю шляху пры дапамозе перыядызацыі. Зразумела, што любая перыядызацыя азначае спрошчванне і схематызацыю гістарычнага працэсу, але ўзровень развіцця навукі на

сучасным этапе і выкладанне на гістарычных факультэтах вучэбнай дысцыпліны «Гістарыяграфія гісторыі Беларусі» звяртае даследчыкаў да гэтага пытання.

Пытанне аб перыядызацыі гісторыі гістарычнай навукі паўстала ў пачатку 60-х гг. ХХ ст., калі ішла падрыхтоўка «*Очерков истории исторической науки в СССР»*. Акадэмік АН СССР М.В.Нечкіна разгарнула на старонках часопіса «История СССР» дыскусію, якая ахапіла шырокае кола навукоўцаў. Гісторыкі паставілі пытанне аб крытэрыях перыядызацыі, якіх было прапанавана пяць: выкарыстанне марксісцка-ленінскай метадалогіі, змена праблематыкі даследаванняў, праведзеныя прыёмы даследавання, увядзенне ў навуковы зварот новых крыніцаў, змены ў арганізацыі гістарычнай навукі. Таму савецкія гістарыёграфы сталі падзяляць гісторыю гістарычнай навукі ў СССР на тры перыяды: 1917 – сяр. 30-х гг. – станаўленне савецкай гістарычнай навукі, кансалідацыя гісторыкаў на падставе марсісцка-ленінскай метадалогіі; сяр. 30 – сяр. 50-х гг. – накапленне даследчыкамі факталагічных ведаў, стварэнне першых абагульняльных працаў; сяр. 50-х – 80-я г. – уздым савецкай гістарычнай навукі.

З беларускіх вучоных да гэтай праблемы адным з першых звярнуўся **А.П.П'янкоў**. У зборніку «*Наука в БССР за 30 лет»* ён вызначыў наступныя перыяды: ад адкрыцця БДУ ў 1921 г. да выхада пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў маі 1934 г.; з 1934 г. да чэрвеня 1941 г.; з пачатку Вялікай Айчыннай вайны да сучаснага яму часу (1949 г.). Цікава, што гісторык за пачатак развіцця беларускай савецкай гістарычнай навукі прыняў не 1917 г. (Кастрычніцкая рэвалюцыя), не 1919 г. (утварэнне БССР), а менавіта арганізацыю Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Блізкую пазіцыю заняў **А.П.Ігнаценка**. У брашуры «*Введение в историю БССР»* ён без аргументацыі вылучыў два перыяды: з 1921 г. да Вялікай Айчыннай вайны і пасляваенны.

Пад уплывам пераменаў, якія адбыліся ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі, грунтоўны аналіз праблемы перыядызацыі гісторыі гістарычнай навукі ў БССР прапанаваў у 1990 г. член-карэспандэнт АН БССР **П.Ц.Петрыкаў**. Гісторык вызначыў чатыры перыяды. Першы: 1917 – 20-я гг. – станаўленне навуковай марксісцка-ленінскай канцэпцыі гісторыі Беларусі, барацьба з яўрэйскімі гісторыкамі-марксістамі і беларускімі нацыянальнымі гісторыкамі. Другі перыяд: 30-я – першая пал. 50-х гг., характарызуецца аўтарам як поўнае панаванне марксісцка-ленінскай канцэпцыі гісторыі

Беларусі, глыбокае вывучэнне даследчыкамі прац К.Маркса, Ф.Энгельса і У.І.Леніна. З другога боку, Петрыкаў адзначыў, што гістарычная навука ў гэты час была падначалена «многім ненавуковым і валюнтарысцкім пастулатам». Трэці перыяд працягваўся з сяр. 50 – па першую пал. 80-х гг. Для яго характэрны «ачышчэнне гістарычных ведаў ад дагматычных установак сталінізму», выданне калектыўных і манаграфічных прац, але «культ асобы аднаго чалавека быў трансфарміраваны ў культ КПСС». А вось чацвёрты перыяд аўтар пачаў з XXVI з'езда КПСС (1986 г.) і вызначыў яго часам адмаўлення ад догмаў і стэрэатыпаў, памылковых канцэпцыяў у гістарычнай навуцы.

З атрыманнем Беларуссю суверэнітэту гісторыкі прыступілі да фармавання нацыянальнай канцэпцыі гісторыі. Зноў паўстала праблема універсальнай перыядызацыі гісторыі гістарычнай навукі. У 3-м томе «*Энцыклапедыі гісторыі Беларусі*» (1996 г.) аўтары артыкула «*Гістарыяграфія гісторыі Беларусі*» (**Г.В.Штыхаў**, **Д.У.Караў**, **З.Ю.Капыскі**, **М.В.Біч**, **М.П.Касцюк**, **Г.Г.Сяргеева**) яе ў цэльным выглядзе не прапанавалі. Даследчыкі вылучылі *летапісны перыяд*, *XVI – пачатак XX ст.*, *савецкі перыяд*. Апошні фактычна супаў з перыядызацыяй П.Ц.Петрыкава за выключэннем сярэдзіны 80-х гг. Аўтары прадоўжылі яго да канца 80-х гадоў.

Імкненне стварыць лінейную храналогію гісторыі гістарычнай навукі Беларусі сутыкнулася з праблемай суадносінаў паняццяў «беларуская гістарыяграфія» і «гістарыяграфія гісторыі Беларусі». **В.Галубовіч** заўважыў, што апошняе паняцце па сваім змесце больш шырокае. Да таго ж Галубовіч прапанаваў свой падыход – вылучыць у кожным перыядзе шэраг «гістарыяграфічных сюжэтаў». Гісторык у чатырох перыядах (гістарыяграфія гісторыі Беларусі IX – XIII стст., гістарыяграфія гісторыі ВКЛ, гістарыяграфія гісторыі Беларусі XIX – пач. XX ст., гістарыяграфія гісторыі Беларусі XX ст.) разглядае такія тэматычныя аспекты, як «польская гістарыяграфія», «літоўская гістарыяграфія», «расійская гістарыяграфія».

У 2002 г. свой погляд на праблему перыядызацыі беларускай гістарыяграфіі найноўшага часу прапанаваў **В.Астрога**. Ён вылучыў сем перыядаў, распачаўшы шлях гістарычнай навукі Беларусі з 1918 г. – з прац А.І.Цвікевіча і М.В.Доўнар-Запольскага. Кожны перыяд падзяляецца на мноства дробных этапаў. Перыядызацыя В.Астрогі нагадвае асноўныя вехі грамадска-палітычнага развіцця рэспублікі ў складзе СССР, а другая палова 90-х гг. падаецца як час цяжкага становішча гістарычнай навукі – «перыяд абыякавасці дзяржавы да сваёй гістарычнай спадчыны». З гэтым тэзісам пагадзіцца нельга.

Новую перыядызацыю ў 2003 г. распрацаваў **П.Ц.Петрыкаў**. Беларускі гісторык вызначыў чатыры этапы гістарыяграфіі гісторыі Беларусі: легендарна-апісальны (XII – канец XVIII ст.), апісальна-навуковы (канец XVIII – XIX ст.), навукова-дыялектычны (1910 г. – 80-я гг. XX ст.), плюралістычны (з 90-х гг. XX ст.). Відавочна, што ў аснову перыядызацыі пакладзены пануючы метад даследавання мінулага. Праўда, апошні этап звязаны больш са зменамі ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі. Аўтар скептычна ставіцца да метадалагічнай канцэпцыі М.П.Касцюка і М.В.Біча.

Храналагічна гістарыяграфію гісторыі Беларусі можна падзяліць на шэраг перыядаў: *першы перыяд* (**XII – першая палова XVI ст.**) – накапленне гістарычных звестак аб Беларусі ў летапісах, хроніках і іншых сярэднявечных творах. *Другі перыяд* (**другая палова XVI – канец XIX ст.**) – фармаванне вытокаў беларускай гістарыяграфіі ў межах польскай гістарычнай думкі. Гэты перыяд падзяляецца на чатыры этапы: другая палова XVI ст. – далучэнне культурна-гістарычных працэсаў у ВКЛ да заходнееўрапейскай культурнай традыцыі (М.Стрыйкоўскі); XVII – першая палова XVIII ст. – манаполія ордэна езуітаў на гістарычнае выхаванне моладзі, тэалагічная гістарыяграфія (А.Віюк-Каяловіч); другая палова XVIII ст. – вылучэнне гісторыі ў асобную вучэбную дысцыпліну, фармаванне «манархічнай» школы А.Нарушэвіча. *Трэці перыяд* (**канец XVIII – пачатак 60-х гг. XIX ст.**) – з’яўленне беларускага крыніцазнаўства, фармаванне «рамантычнай» школы І.Лялевеля, зварот да гісторыі Беларусі расійскай дваранскай гістарыяграфіі, фармаванне плеяды «мясцовых» даследчыкаў «гісторыі Літвы» (браты Тышкевічы, Т.Нарбут, А.Кіркор і інш.). *Чацвёрты перыяд* (**пачатак 60-х гг. XIX – пачатак XX ст.**) – вывучэнне гісторыі Беларусі даследчыкамі заходнерускага (М.В.Каяловіч і інш.) і ліберальнага (М.К.Любаўскі і інш.) кірункаў, афармленне беларускай нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі (М.В.Доўнар-Запольскі, В.Ю.Ластоўскі). *Пяты перыяд* (**1919 г. – 80-я гг. XX ст.**) – беларуская савецкая гістарыяграфія – падзяляецца на тры этапы: 1919 г. – 20-я гг. – пераходны этап ад абмежаванага канцэптуальнага плюралізму да ўстанаўлення марксісцкай метадалогіі, актуалізацыя гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыкі; 30-я – сярэдзіна 50-х гг. – манаполія марксісцка-ленінскай метадалогіі, прыярытэт гісторыі сацыяльна-эканамічных адносінаў і рэвалюцыйнага руху; другая палова 50-х – 80-я гг. – адносны плюралізм у метадалогіі гістарычнай навукі, пашырэнне яе дакументальнай і крыніцазнаўчай асновы, з’яўленне калектыўных абагульняльных працаў па гісто-

рыі Беларусі, актуалізацыя гісторыі партызанскага і падпольнага руху на тэрыторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны, гісторыі сельскай гаспадаркі і сялянства, гісторыі прамысловасці, гарадоў і рабочага класа і інш. кірункаў. *Шосты перыяд* (**з 90-х гг. XX ст. да нашых дзён**) – пераход да нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі, плюралізм у метадалагічных падыходах.

**6. Станаўленне гістарыяграфіі гісторыі Беларусі як навукі**. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі як навука пачынае афармляцца ў 20-я гг. XX ст. паралельна з арганізацыяй першых вучэбна-навуковых і навуковых цэнтраў у Беларусі – БДУ і Інбелкульта. Адным з заснавальнікаў гістарыяграфічнай навукі лічыцца першы рэктар БДУ, акадэмік **У.І.Пічэта**.

**Уладзімір Іванавіч Пічэта** (1878 – 1947 гг.) нарадзіўся ў г. Палтаве. У 1901 г. скончыў Маскоўскі універсітэт. Вучань М.К.Любаўскага. У 1918 г. абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Аграрная рэформа Сігізмунда-Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве». Паралельна ўзначальваў Беларускае навукова-культурнае таварыства ў Маскве, чытаў курс лекцыяў «Гісторыя беларускага народа» у Беларускім народным універсітэце (Масква). Па прапанове ўрада БССР узначаліў маскоўскую камісію па арганізацыі БДУ. Рэктар БДУ з 1921 па 1930 г. У 1926 г. атрымаў званне заслужанага прафесара БССР, а ў 1929 г. быў абраны акадэмікам АН БССР. Апублікаваў каля 150 працаў па гісторыі, гістарыяграфіі, археалогіі і г.д. У 1930 г. арыштаваны па справе акадэміка Платонава.

У 1921 г. у часопісе «Вестник Наркомпроса Белоруссии» ён апублікаваў артыкул «*Новые работы по истории Белоруссии»,* у якім зрабіў гістарыяграфічны аналіз працаў польскіх гісторыкаў (С.Кутшэбы, Л.Калянкоўскага і інш.). Аўтар высока ацаніў факталагічны бок даследаванняў, вызначыў іх прыналежнасць да гісторыка-юрыдычнай школы, але адзначыў непрымальнасць іх метадалагічнага падыхода – вялікапольскага шавінізму.

У 1922 г. у Маскве Пічэта выдаў манаграфію «*Введение в русскую историю (Источники и историография)»,* якая складаецца з трох раздзелаў: 1) «Собирание и издание источников. Белоруссия»; 2) «Источники Белоруссии»; 3) «Историография Белоруссии». Аўтар узняў пытанне гістарыяграфічнага вывучэння Беларусі ў XIX – пачатку XX ст. Ён прааналізаваў стан крыніцавай базы айчыннай гісторыі, параўнаў канцэптуальныя падыходы расійскіх і польскіх даследчыкаў да гісторыі Беларусі на прыкладзе чатырох гістарычных (Кіеў, Пецярбург, Масква, Вільня) і археаграфічных цэнтраў

(Вільня, Кіеў, Пецярбург і Віцебск). Пічэта адзначыў уплыў украінскай школы У.Б.Антановіча («пионер в деле изучения литовско-белорусского государства»), маруднае развіццё ўласна беларускай гістарыяграфіі, яе арыентацыю на крыніцазнаўчыя даследаванні, яе сувязь з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам. Праўда, аўтар манаграфіі перабольшваў заслугі свайго настаўніка М.К.Любаўскага – лічыў, што яго канцэпцыя «остается неопровержимой по своей отчетливости и убедительности», не даў ацэнку гістарыяграфіі як з'явы грамадскай думкі.

У артыкуле «*Формы нацыянальнага і апазіцыйнага руху на Беларусі*» («Полымя», 1924 г., №2), прысвечанаму беларускаму нацыянальна-вызваленчаму руху канца XIX – пачатка XX ст., Пічэта паспрабаваў даць характарыстыку айчыннай гістарыяграфіі ў кантэксце развіцця нацыянальна-рэвалюцыйнага руху. Таксама ўвага даследчыка была звернута да гістарыяграфіі літоўска-беларускага права XV – XVI стст.: у 1926 г. ён апублікаваў артыкул «*Распрацоўка гісторыі літоўска-беларускага права XV – XVI стст. у гістарыяграфіі*». Значны ўклад Пічэта ўнёс у распрацоўку «Скарыніяны». У зборніку «*400-лецце беларускага друку, 1525 – 1925*» (1924 г.) ён зрабіў гістарыяграфічны агляд публікацыяў, прысвечаных дзейнасці беларускага першадрукара, якія выйшлі ў перыяд з 70-х гг. XVIII ст. па 20-я гг. XX ст.

Акрамя Пічэты, да распрацоўкі асобных аспектаў гістарыяграфіі гісторыі Беларусі ў 20-я гг. XX ст. звярнуліся **В.Д.Дружчыц** (гістарыяграфія беларускага феадальнага горада), **У.М.Ігнатоўскі** (гістарыяграфія Кастрычніцкай рэвалюцыі). У 1929 г. выйшла манаграфія **А.І.Цвікевіча** «*Заходнерусізм»: Нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX ст.»,* у якой аўтар разглядаў заходнерусізм найперш як плынь грамадска-палітычнай думкі і, у другую чаргу, як гістарыяграфічны феномен.

Выклікае цікавасць праца навуковага сакратара Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце **М.І.Каспяровіча** «*Краязнаўства (Нарысы)»,* выдадзеная ў 1929 г. У ёй аналізуюцца тры плыні краязнаўчага вывучэння Беларусі: польская, руская і беларуская. Да апошняй аўтар адносіў «Нашу Ніву», беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта, студэнцкі гурток па вывучэнні Беларусі і Літвы.

Гэта былі першыя гістарыяграфічныя работы ў беларускай савецкай гістарычнай навуцы, напісаныя ва ўмовах, калі ішло фармаванне арганізацыйных асноў навукі, пачыналася даследаванне праблем менавіта гісторыі Беларусі, падрыхтоўка спецыялістаў-

гісторыкаў. З другога боку, грамадска-палітычная актыўнасць даследчыкаў і навуковы плюралізм 20-х гг. паступова змяняюцца аднадумствам і насаджэннем марксісцка-ленінскай метадалогіі.

Першая гістарыяграфічная праца 30-х гг. ХХ ст. – «*Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі*» (1934 г.) **В.К.Шчарбакова**, якая стала здабыткам не толькі беларускай, але і агульнасавецкай гістарыяграфіі.

**Васіль Карпавіч Шчарбакоў** (1898 – 1938 гг.) нарадзіўся ў в.Дуброўка Аршанскага павета. Доктар гістарычных навук (1934 г.). Скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю, Харкаўскую вышэйшую партыйную школу. Удзельнік грамадзянскай вайны. З 1930 г. загадчык сектара навукі і асветы пры ЦК КП(б)Б. У 1931 – 1935 гг. віцэ-прэзідэнт, у 1935 – 1937 гг. неадменны сакратар АН БССР. У 1931 – 1937 гг. намеснік дырэктара, дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР. Прафесар Мінскага педагагічнага інстытута і БДУ. Першы дэкан гістарычнага факультэта БДУ. Рэпрэсаваны ў 1938 г.

Манаграфія ўвабрала ў сябе шматлікае кола гістарычных даследаванняў таго часу, але ў асноўным змяшчала крытыку публікацый 20-х гг. Яна складаецца з шасці раздзелаў. Першы – «*Гістарычная навука і яе палітычнае значэнне*» – носіць тэарэтычны характар. У ім былі акрэслены новыя задачы, якія паставіла Камуністычная партыя перад гістарычнай навукай у СССР. Шчарбакоў зыходзіў з таго, што ва ўсе перыяды гісторыя выкарыстоўвалася пануючымі класамі для ўмацавання свайго становішча, таму ніколі не была аб’ектыўнай. Асаблівую актуальнасць гэта з’ява набыла ў найноўшы перыяд, калі абвастрылася класавая барацьба. Аўтар адзначыў, што «...Марксісцкая гістарычная навука ў рэвалюцыйнай барацьбе пралетарыята, у нашым сацыялістычным будаўніцтве, у барацьбе з класава-варожымі нам вылазкамі ў СССР і БССР, у выхаванні працоўных мас у духу пралетарскага інтэрнацыяналізма, – ва ўсіх гэтых галінах адыгрывае вельмі вялікую ролю». «...Тэарэтычны фронт, фронт навукі», на яго думку, «толькі адзін з участкаў класавай барацьбы», «...Якую б тогу аб’ектыўнасці ні надзяваў вучоны, ён заўсёды ў сваіх працах адказвае на актуальныя пытанні палітычнай сучаснасці». «...У класавым грамадстве», працягвае, «не можа быць някласавай навукі».

У гісторыі Беларусі марксісцкая метадалогія патрабавала звярнуць увагу на «распрацоўку гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, гісторыі фабрык і заводаў і гісторыі пралетарыяту Беларусі». Паколькі з перамогай Кастрычніцкай рэвалю-

цыі гісторыя набыла пралетарскі характар, то даследчыкам неабходна «...паказаць рост пролетарыята на Беларусі ў сувязі з развіццём капіталізма, яго склад, эксплуатацыю, ускрыць формы пролетарскай барацьбы, яго гераічны ўдзел у рэвалюцыі 1905 г., Кастрычніцкай рэволюцыі...». У дадатак Шчарбакоў адзначыў, што «...Беларускія гісторыкі-нацыяналісты, ... стараліся ўсяляк абыходзіць пытанне аб пролетарыяце на Беларусі...». Некалькі лепш, на думку аўтара, абстаіць справа з вывучэннем сялянскага руху на Беларусі. Аднак і тут няма суцэльнай карціны яго развіцця, пры даследаванні гэтага пытання належыць паказаць, што «...толькі пад кіраўніцтвам пролетарыята і яго большэвіцкай партыі сялянства пакончыла са сваім цяжкім мінулым у Кастрычніцкую рэвалюцыю».

Новая метадалогія прадугледжвала крытыку гістарыяграфічных кірункаў немарксісцкага характару. Другі раздзел «*Чарнасоценцы-русіфікатары аб гістарычным развіцці Беларусі»* і трэці раздзел «*Схема гістарычнага развіцця Беларусі рускіх буржуазных гісторыкаў-вялікадзяржаўнікаў»* прысвечаны расійскай дакастрычніцкай гістарыяграфіі, а чацвёрты «*Вялікадзяржаўна-нацыяналістычныя ўстаноўкі гісторыкаў польскай шляхты і буржуазіі на гістарычнае развіццё Беларусі»* – польскай гістарыяграфіі. Згодна з аўтарам, расійскія дарэвалюцыйныя гісторыкі абгрунтоўвалі права Расіі на Беларусь, у той час як «гісторыкі імперыялістычнай фашысцкай Польшчы» даказывалі свае правы на «ўсходнія крэсы».

Асобнае месца займае крытыка нацыянал-дэмакратычнай плыні. Ёй аўтар прысвяціў пяты раздзел «*Схема гістарычнага развіцця Беларусі контррэвалюцыйных беларускіх нацыянал-дэмакратаў».* У паняцце «нацдэмаўшчына» даследчык укладвае адмоўны сэнс: «...Нацдэмаўская схема гістарычнага развіцця Беларусі – гэта схема беларускай буржуазіі і кулацтва». Першыя пачаткі поглядаў нацдэмаў Шчарбакоў адшукаў у 80-х гг. XIX ст., у прыватнасці, у газеце «Гоман». Першым нацдэмаўскім гісторыкам ён называе В.Ластоўскага, першай нацдэмаўскай гісторыяй «Кароткую гісторыю Беларусі». Аўтару не спадабалася стаўленне Ластоўскага да беларускай інтэлігенцыі, якую, па яго словах, ён «...узносіць на небывалую вышыню...». Гэта было выклікана тым, што інтэлігенцыя паходзіла з асяроддзя буржуазіі, шляхты і кулацтва, з’яўлялася распрацоўшчыкам і рупарам беларускай нацыянальнай ідэі, выступала супраць сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі. Даследчык абураецца, што гісторыя В.Ластоўскага не змяшчае ні слова аб развіцці капіталізму на Беларусі, аб пралетарыяце і яго ўдзеле ў рэвалюцыі

1905 г., аб сялянскіх паўстаннях і дыферэнцыяцыі сялянства. Яшчэ адным асяродкам беларускага нацыяналізму Шчарбакоў называе газету «Наша Ніва»: «...З номера ў номер газета «Наша Ніва» фарміруе ідэалогію беларускіх нацыяналістаў, развівае буржуазна-нацыяналістычныя погляды на гісторыю Беларусі, фальсіфікуючы падзеі гістарычнага развіцця яе».

Але, нягледзячы на гэтыя здабыткі, нацдэмаўская гістарычная школа, на думку аўтара, не змагла ў дасавецкі перыяд сфармаваць сваіх уласных гісторыкаў. Шчарбакоў тлумачыць гэта ростам пралетарскага рэвалюцыйнага руху і нерашучасцю «нацыяналістаў» гучна казаць аб сваіх патрабаваннях. Буржуазныя па сваёй сутнасці, яны з самага пачатку выступілі супраць сацыялістычнай рэвалюцыі, мабілізаваўшы ўсе сілы і сродкі для барацьбы з пралетарыятам. Пасля абвяшчэння БНР пачынаецца дыскусія аб беларускай дзяржаўнасці: «...Дзеячы БНР гатовы былі ў гэты перыяд прызнаць за навуковы аўтарытэт каго ўгодна, толькі б ён сваімі выказваннямі дапамог унушыць масам аб неабходнасці перамогі буржуазнай дэмакратыі».

Такім чынам, праца В.К.Шчарбакова – гэта водападзел паміж лібералізмам 20-х і ідэалагічнай аднабаковасцю 30-х гадоў. Яна адлюстравала тыя змены, якія адбываліся ў грамадска-палітычным жыцці савецкіх рэспублік па меры ўмацавання культу асобы Сталіна.

Першы абагульняльны гістарыяграфічны агляд працаў па гісторыі Беларусі прапанаваў **У.І.Пічэта** ў кнізе «*25 лет исторической науке в СССР»* (1942 г.). Ён апублікаваў артыкул «*История Белоруссии в советской историографии»,* які сведчыў аб імкненні аўтара раскрыць пазітыўны ўклад беларускіх савецкіх гісторыкаў у распрацоўку праблемаў гісторыі Беларусі. На думку Пічэты, уся гісторыя Беларусі пасля 1569 г. і да перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. была зусім не вывучанай. Таму савецкія гісторыкі павінны вырашыць гэтую задачу. У.І.Пічэта прааналізаваў дасягненні беларускай савецкай археалогіі, працы па аграрнай гісторыі XVI ст. і даследаванні сваіх вучняў Д.А.Дудкова і К.І.Кернажыцкага. Ён прытрымліваўся метаду каштоўнаснага падыхода: разглядаў працы даследчыкаў у адпаведнасці са ступенню выкарыстання імі марксісцкай метадалогіі.

Аўтар звярнуў увагу на адсутнасць манаграфічных працаў па гісторыі Беларусі: «...построение синтетической истории Белоруссии на основе марксистско-ленинской методологии можно выполнить только на базе монографических исследований. Такие моно-

графические исследования должны были дать тот конкретный материал, который бы позволил восстановить историю Белоруссии».

Вядома, што Пічэта ў гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў над рукапісам сінтэтычнай «Гісторыі БССР» са старажытных часоў да адмены прыгоннага права. Гэты рукапіс сёння захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. З 990 старонак тэксту 664 напісаў сам аўтар. Пяцьдзесят з іх складаюць гістарыяграфічны агляд.

Далейшы агляд развіцця беларускай савецкай гістарыяграфіі быў прадстаўлены **А.П.П'янковым** у зборніку «*Наука в БССР за 30 лет»* (1949 г.).

**Аляксей пятровіч П'янкоў** (1901 – 1987 гг.) – беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1949 г.), прафесар (1950 г.). Скончыў Пермскі універсітэт. У 1937 – 1941 гг., 1945 – 1950 гг. загадчык кафедры, дэкан гістарычнага факультэта, прарэктар па навуковай рабоце БДУ, загадчык сектара Інстытута гісторыі АН БССР. З 1950 г. працаваў у Магілёўскім, у 1954 – 1978 гг. у Мінскім педагагічным інстытуце імя М.Горкага.

У артыкуле «*Основные этапы в развитии белорусской историографии»* вучоны ўпершыню ў беларускай гістарычнай навуцы ўзняў праблему перыядызацыі беларускай савецкай гістарыяграфіі. Пры гэтым аўтар паўтарыў пазіцыю, выказаную Пічэтай, што да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. гісторыя Беларусі не з'яўлялася самастойным прадметам навуковага вывучэння. П'янкоў рэзка крытыкаваў тэорыю «залатога веку», школу М.М.Пакроўскага, абвінаваціў Інбелкульт у нацыяналістычным скажэнні гісторыі, даў станоўчую ацэнку працам У.І.Пічэты, Д.А.Дудкова, А.М.Ясінскага, І.Ф.Лочмеля.

Амаль праз дзесяць гадоў у зборніку «*Навука ў Беларускай ССР за 40 год»* (1958 г.) выйшаў калектыўны артыкул «*Гістарычная навука за 40 год»,* падрыхтаваны **У.М.Перцавым**, **І.С.Краўчанкам** і **З.Ю.Капыскім**. Аўтары зрабілі сціплы агляд развіцця гістарычнай навукі ў савецкай Беларусі, акцэнтаваўшы ўвагу на метадалагічных памылках даследчыкаў 20 – 30-х гг.

Паколькі ў другой палове 50-х – 60-я гг. XX ст. Камісія па гісторыі гістарычнай навукі АН СССР рыхтавала выданне «Очерков истории исторической науки в СССР» у 7 тамах, то з БССР для напісання адпаведных артыкулаў былі запрошаны **У.М.Перцаў**, **З.Ю.Капыскі** і **Я.М.Карпачоў**.

Асобны раздзел, прысвечаны гістарыяграфіі гісторыі Беларусі, прадстаўлены ў брашуры **А.П.Ігнаценкі** «*Введение в историю БССР»* (1965 г.).

**Аляксандр Пятровіч Ігнаценка** (нарадзіўся ў 1932 г.) – беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1978 г.), прафесар (1980 г.). Скончыў БДУ. Выкладчык, намеснік дэкана завочнага і гістарычнага факультэтаў (1966 – 1978 гг.), загадчык кафедры гісторыі Беларусі (1990 – 1994 гг.), прафесар БДУ.

Аўтар адным з першых у пасляваенны час звярнуўся да дасавецкага перыяду ў вывучэні гісторыі Беларусі: прапанаваў аналіз рускай дваранскай і буржуазнай гістарыяграфіі, польскай гістарыяграфіі, вылучыў аспект «фальсіфікацыя гісторыі Беларусі беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі».

У зборніку «*Навука БССР за 50 год*» (1968 г.) быў надрукаваны калектыўны артыкул **З.Ю.Капыскага**, **Я.М.Карпачова**, **І.С.Краўчанкі**, **І.Я.Марчанкі**, **А.Р.Мітрафанава** «*Беларуская гістарычная навука*». Аўтары вызначылі тры этапы ў развіцці беларускай савецкай гістарыяграфіі. Першы этап (1919 – сярэдзіна 30-х гг.) – гэта перыяд станаўлення гістарычнай навукі Беларусі на падставе марксісцка-ленінскай метадалогіі. Другі этап (сярэдзіна 30 – сярэдзіна 50-х гг.) характарызуецца разгортваннем даследаванняў гісторыі класавай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў эпоху феадалізму і капіталізму, вывучэннем савецкай гісторыі. На трэцім этапе (сярэдзіна 50-х – 60-я гг.) вядучае месца займае гісторыя савецкага грамадства, гісторыка-партыйная тэматыка, патрыятычны подзвіг беларускага народу ў Вялікай Айчыннай вайне.

У 70-я гг. XX ст. убачылі свет два юбілейныя гістарыяграфічныя зборнікі, якія падагульнялі развіццё гістарычнай навукі ў БССР. Першы з іх выйшаў у 1970 г. пад рэдакцыяй **І.С.Краўчанкі** і **З.Ю.Капыскага** «*Достижения исторической науки в БССР за 50 лет (1919 – 1969 гг.)*». Калектыў аўтараў, які падрыхтаваў гэтае выданне (**В.Д.Будзько**, **А.Р.Мітрафанаў**, **Г.В.Штыхаў**, **І.Я.Марчанка**, **І.С.Краўчанка**, **З.Ю.Капыскі**), зыходзіў з фармацыйнай перыядызацыі гісторыі Беларусі. Таму развіццё гістарычнай навукі ў БССР прадстаўлена па тэмам даследаванняў: археалогія Беларусі, гісторыя Беларусі перыяду феадалізму, перыяда капіталізму, перыяду Кастрычніцкай рэвалюцыі і перамогі сацыялізма, перыяда Вялікай Айчыннай вайны, перыяда завяршэння будаўніцтва сацыялізму і перахода да камунізму. Асобны артыкул быў прысвечаны навуковым установам гістарычнага профілю ў БССР і падрыхтоўцы кадраў гісторыкаў.

Зборнік «*Достижения исторической науки в БССР за 60 лет*» (1979 г.) быў складзены новым аўтарскім калектывам (**З.Ю.Капыскі**, **П.Ц.Петрыкаў**, **Л.Д.Побаль**, **М.В.Біч**, **П.А.Селіванаў**,

**В.А.Палуян**, **Э.Ф.Языковіч**, **А.П.Купрэева** і інш.). Сціплы аналіз прац даследчыкаў прапанаваны па чатыром кірункам: археалогія Беларусі, гісторыя Беларусі феадальнага перыяду, капіталістычнага перыяду, савецкага перыяду.

Відавочна, што вышэйназваныя зборнікі носяць схематычны і бібліяграфічны характар. Аўтары акцэнтавалі ўвагу толькі на пазітыўным характары даследчыцкіх працаў і не закраналі недахопаў і нявырашаных праблемаў.

70-я гг. XX ст. вызначаюцца пачаткам падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі па спецыяльнасці 07.00.09 – гістарыяграфія і крыніцазнаўства. У 1974 г. была абаронена дысертацыя на суісканне вучонай ступені кандыдата гістарычных навук «*В.И.Пичета как историк социально-экономического развития Белоруссии в эпоху феодализма (XV – первая половина XVII вв.)*» **Э.Р.Іофэ**. Ён у далейшым працягваў вывучэнне гэтай праблематыкі і выдаў манаграфію «*Из истории белорусской деревни: (Советская историография социально-экономического развития белорусской деревни середины XVII – первой половины XIX в.)*» (1990 г.).

**У.М.Міхнюк** у 1975 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю «*Историография социально-экономического развития белорусской деревни в 1917 – 1929 гг.*», а ў 1987 г. – доктарскую дысертацыю, якая грунтавалася на манаграфіі «*Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919 – 1941 гг.)*» (1985 г.).

> **Уладзімір Мікалаевіч Міхнюк** (1947 – 2004 гг.) – беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1987 г.), прафесар (1991 г.). Скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут. З 1973 г. выкладчык Гродзенскага педагагічнага інстытута, з 1975 г. супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. У 1982 – 1987 гг., 1991 г. супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі. У 1987 – 1991 гг. выкладчык Мінскай ВПШ (з 1990 г. Інстытут паліталогіі і сацыяльнага ўпраўлення КПБ). З 1992 г. дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы. У 1997 – 1998 гг. загадчык аддзела Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ. З 1998 г. прафесар кафедры гісторыі Беларусі БДУ.

Даследаванне Міхнюка стала абагульненнем даваеннага перыяду развіцця беларускай савецкай гістарыяграфіі. Аўтар раскрыў фармаванне інстытутаў гістарычнай навукі ў БССР, працэс падрыхтоўкі гістарычных кадраў, у тым ліку і вышэйшай кваліфікацыі, прааналізаваў тэматыку даследаванняў і іх публікацыю, паказаў

устанаўленне марксісцка-ленінскай метадалогіі праз барацьбу з яўрэйскай марксісцкай і беларускай нацыянальнай плынямі. Зразумела, што ацэнка шэрагу працаў і іх аўтараў носіць палітызаваны характар, але трэба ўлічвасць час, грамадска-палітычную сітуацыю, у якой знаходзіўся і працаваў аўтар.

**У.М.Міхнюк** і **П.Ц.Петрыкаў** у 1987 г. выдалі абагульняльную працу «*Историческая наука БССР, 80-е годы»,* у якой прааналізавалі арганізацыйнае развіццё гістарычнай навукі рэспублікі за 80-я гады XX ст. і падвялі вынікі навуковага вывучэння гісторыі БССР і гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі.

**Пётр Ціханавіч Петрыкаў** (нарадзіўся ў 1927 г.) – беларускі гісторык. Член-карэспандэнт НАНБ (1977 г.). Доктар гістарычных навук (1973 г.), прафесар (1978 г.). Скончыў БДУ. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1961 г. у Інстытуце гісторыі АН БССР, з 1962 г. вучоны сакратар, з 1968 г. намеснік дырэктара па навуковай працы. У 1975 – 1988 гг. дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР, у 1984 – 1990 гг. загадчык аддзела гісторыі навукі. З 1991 г. дырэктар музея НАНБ, адначасова з 1996 г. першы намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя П.Броўкі.

У 70-я – першай палове 80-х гг. пачынаецца гістарыяграфічная распрацоўка шэрагу кірункаў і тэмаў айчыннай гістарычнай навукі. Праблемы беларускага крыніцазнаўства плённа даследаваў **М.М.Улашчык**, што знайшло адлюстраванне ў дзвюх манаграфіях: «*Очерки по археографии и источниковедению истории Беларуси феодального периода*» (1975 г.), «*Введение в изучение белорусско-литовского летописания*» (1985 г.). Адным з першых даследчыкаў гістарычнай думкі на Беларусі ў XVI – XIX стст. стаў **Г.А.Каханоўскі**, праца якога «*Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI – XIX стст.»* (1984 г.) не страціла сваёй актуальнасці па сённяшні дзень.

Але асноўная ўвага даследчыкаў была накіравана на вывучэнне гістарыяграфічных праблемаў гісторыі савецкага часу. У прыватнасці, можна адзначыць даследаванне гістарыяграфіі беларускага савецкага сялянства **У.М.Міхнюком**, гістарыяграфіі КПЗБ і Заходняй Беларусі – **І.П.Хаўратовічам**, гістарыяграфіі Кастрычніцкай рэвалюцыі – **Н.І.Стужынскай** і інш.

Шэраг прац неслі на сабе адбітак ідэалагічнага супрацьстаяння на міжнароднай арэне. У 1975 г. выйшлі манаграфіі **М.Г.Жаркова** «*Против буржуазной фальсификации истории Октября»,* **В.Ф.Раманоўскага** «*Против фальсификации истории Белоруссии*

*периода Великой Отечественной войны»,* а ў 1987 г. **І.А.Брадко** «*Критика буржуазных фальсификаций истории образования БССР».* Аўтары ва ўмовах гістарычнага аднадумства і метадалагічнага манапалізму крытыкавалі замежных гісторыкаў за іх падыходы да савецкага перыяду гісторыі. З другога боку, гэтыя працы давалі шырокаму колу айчынных даследчыкаў магчымасць азнаёміцца з гістарычнымі даследаваннямі і канцэптуальнымі палажэннямі замежнай гістарыяграфіі.

У другой палове 80-х гг., калі ў савецкім грамадстве актыўна разгарнуліся «перабудовачныя» працэсы, набыла актуальнасць праблема развіцця гістарычнай навукі БССР у пасляваенны перыяд. Яна была вырашана ў кандыдацкіх дысертацыях **В.Ц.Леанаўца** «*Организация и развитие исторической науки в БССР (1961 – 1970 гг.)»* (1987 г.), **Л.П.Храпко** «*Развитие исторической науки в БССР (1945 – конец 1950-х годов)»* (1989 г.), **І.І.Шаўчука** «*Развитие исторических наук в БССР (70-е годы)»* (1989 г.). Гэтыя даследаванні змяшчаюць грунтоўны і крытычны аналіз развіцця гістарычнай навукі (устаноў гістарычнага профілю, падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў, крыніцазнаўчай базы і метадалагічнай асновы даследаванняў, перыядычных выданняў і выдавецкай базы і г.д.) з улікам уплыву грамадска-палітычнай сітуацыі.

У 1996 г. пад рэдакцыяй **П.Ц.Петрыкава** выйшла калектыўная праца «*Очерки истории науки и культуры Беларуси IX – начала XX вв.»,* у якой упершыню вучоныя Беларусі і Украіны вывучылі асноўныя тэндэнцыі і этапы развіцця гуманітарных і прыродазнаўчых навук у Беларусі.

З вучэбных дапаможнікаў па гістарыяграфіі гісторыі Беларусі прадстаўлена праца **З.Ю.Капыскага** і **В.У.Чапко** «*Историография БССР (эпоха феодализма): Учеб. пособие»* (1986 г.). Аўтары раскрылі вывучэнне феадальнага перыяду гісторыі Беларусі ад летапісання па савецкі час. Пры гэтым крытычныя заўвагі былі накіраваны ў адрас гістарыяграфіі XIX – пачатка XX стст. і поўнасцю станоўчая ацэнка даецца працам савецкіх даследчыкаў. У дапаможніку часам замест аналізу прадстаўлены прамы пераказ тэксту і не акцэнтуецца ўвага на нявырашаных праблемах.

З пачатку 90-х гг. у РБ пачалася падрыхтоўка спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі па спецыяльнасці 07.00.09 – гістарыяграфія, крыніцазнаўства і метады гістарычнага даследавання. За 1991 – 2003 гг. было абаронена 5 доктарскіх і 25 кандыдацкіх дысертацыяў. Цікавасць вучоных абумоўлена развіццём навуковых гістарычных даследаванняў, пашырэннем іх крыніцавай базы, развіццём метадалогіі гісторыі.

Вывучэннем дасавецкага перыяду развіцця беларускай гістарыяграфіі плённа займаецца Д.У.Караў.

**Дзмітрый Уладзіміравіч Караў** (нарадзіўся ў 1949 г.) – беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1996 г.), прафесар (1997 г.). Скончыў Маскоўскі дзяржаўны гісторыка-архіўны інстытут. У 1973 – 1979 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі, археалогіі і этнаграфіі народаў Далёкага Усходу Далёкаўсходняга навуковага цэнтра АН СССР, у Далёкаўсходнім дзяржаўным універсітэце. З 1979 г. выкладчык, загадчык кафедры эканамічнай тэорыі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

У 1996 г. ён абараніў дысертацыю на суісканне вучонай ступені доктара гістарычных навук «*Белорусская историография в конце XVIII – начале XX вв.»,* у якой прапанаваў уласнае бачанне вытокаў і этапаў развіцця беларускай гістарычнай думкі. Пад кіраўніцтвам Д.У.Карава пачалася распрацоўка асобных аспектаў дасавецкай гістарыяграфіі Беларусі: гістарыяграфія шляхты ВКЛ (**Н.У.Казлоўская**), гістарыяграфія заходнерусізма (**А.У.Літвінскі**). У 1988 і 1990 гг. Д.У.Караў арганізаваў дзве першыя навуковыя канферэнцыі па пытаннях гістарычнага краязнаўства і генеалогіі Беларусі. Іх вынікам стаў выпуск серыі публікацый «*Наш радавод»* (6 тамоў).

Гісторыю гістарычнай думкі Беларусі і Расіі ў XIX – пачатку XX ст. даследуе А.М.Нечухрын.

**Аляксандр Мікалаевіч Нечухрын** (нарадзіўся ў 1952 г.) – беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1993 г.), прафесар (1995 г.). Скончыў Томскі універсітэт. З 1979 г. працуе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я.Купалы. З 1984 г. загадчык кафедры ўсеагульнай гісторыі, з 2001 г. дэкан гістарычнага факультэта, з 2006 г. першы прарэктар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

У 1989 г. ён выдаў кнігу «*Историки Гродненщины»,* у якой адлюстраваны ўклад гісторыкаў – ураджэнцаў Гродзенскай губерні ў развіццё айчыннай гістарычнай навукі. Пад яго навуковым кіраўніцтвам у 2002 г. была падрыхтавана і абаронена кандыдацкая дысертацыя **А.І.Мялешкі**, прысвечаная гістарычным поглядам П.В.Баброўскага.

Пад кіраўніцтвам прафесара Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы **І.І.Коўкеля** былі падрыхтаваны і абаронены кандыдацкія дысертацыі **С.А.Сіткевіча** па гістарыяграфіі польскага падполля (2002 г.), **І.Р.Кулевіч** па гістарыяграфіі беларускага нацыянальнага руху (2004 г.).

У 2005 г. выйшла манаграфія доктара гістарычных навук, прафесара **В.П.Панюціча** «*Историография аграрной истории Беларуси 1861 – 1917 гг.».* Аўтар прааналізаваў дасягненні і недахопы беларускай гісторыка-эканамічнай літаратуры ў асвятленні адмены прыгоннага права, пазямельных адносінаў, капіталістычнай эвалюцыі сельскай гаспадаркі і сялянства, фармавання сельскагаспадарчага пралетарыяту і іншых аспектаў.

З апошніх працаў замежных даследчыкаў, прысвечаных гістарыяграфіі гісторыі Беларусі, уяўляе цікавасць кніга нямецкага гісторыка **Р.Ліндэра** «*Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст.»* (2003 г.). Даследаванне нямецкага вучонага прысвечана суадносінам гістарычнай навукі і палітыкі ў Беларусі. Аўтар прасочвае працэс станаўлення беларускай нацыі і нацыянальнай гісторыі ў апошні перыяд Расійскай імперыі, у 1921 – 1944 гг., у перыяд паміж Другой сусветнай вайной і «адлігай», у «позне- і постсавецкую эпоху».

## Праверачны тэст

***I. Дайце тлумачэнне паняццям:***

1. Гістарыяграфія.
2. Гістарыяграфічны факт.
3. Гістарыяграфічная крыніца.

***II. Вызначце правільны адказ:***

1. Гістарыяграфія
   А) дапаможная гістарычная дысцыпліна
   Б) спецыяльная гістарычная дысцыпліна
   В) асноўная гістарычная дысцыпліна.
2. Званне прыдворнага гістарыёграфа ў Расійскай імперыі меў
   А) Г.Ф.Мілер
   Б) В.В.Ключэўскі
   В) С.М.Салаўёў.
3. Аналіз перыяду або накірунка гістарыяграфіі як сістэмы прадугледжвае
   А) прынцып гістарызму
   Б) прынцып цэласнасці
   В) прынцып каштоўнаснага падыходу.
4. Дазваляе вывучыць развіццё гістарычнай думкі гісторыкаў ад сучаснасці да мінулага
   А) метад храналагічны
   Б) метад перыядызацыі
   В) метад рэтраспектыўны.

5. Праблемай перыядызацыі гістарыяграфіі гісторыі Беларусі займаўся
  А) У.М.Міхнюк
  Б) М.В.Біч
  В) П.Ц.Петрыкаў.
6. «Введение в русскую историю» У.І.Пічэта выдаў у
  А) 1921 г.
  Б) 1922 г.
  В) 1923 г.
7. Выданне «Достижения исторической науки в БССР за 60 лет» мае
  А) аналітычны характар
  Б) праблемны характар
  В) бібліяграфічны характар.
8. Развіццё гістарычнай навукі ў БССР 70-х гг. даследаваў
  А) І.І.Шаўчук
  Б) В.Ц.Леанавец
  В) Л.П.Храпко.
9. У 1974 г. дысертацыя па спецыяльнасці 07.00.09 была абаронена
  А) Н.І.Стужынскай
  Б) У.М.Міхнюком
  В) Э.Р.Іофэ.

***III. Складзіце пералік:***

1. Віды гістарыяграфіі: ...
2. Крытэрыі вылучэння гістарыяграфіі ў самастойную дысцыпліну: ...
3. Задачы гістарыяграфіі: ...
4. Тыпы гістарыяграфічных крыніц: ...
5. Этапы гістарыяграфіі гісторыі Беларусі (па П.Ц.Петрыкаву): ...

***IV. Ці згодны вы з выказваннем (так, не).***

1. Тэрмін «гістарыяграфія» выкарыстоўваецца ў вузкім і шырокім сэнсе.
2. Параўнальна-гістарычны метад прадугледжвае вызначэнне перспектыў будучых даследаванняў, тэмаў і праблемаў.
3. Перыяд 30-х – сярэдзіны 50-х гг. XX ст. характарызуецца манаполіяй марксісцка-ленінскай метадалогіі.
4. Плюралістычны этап у развіцці гістарыяграфіі гісторыі Беларусі пачынаецца з XX з’езда КПСС.
5. Заснавальнікам беларускай гістарыяграфіі лічыцца У.М.Ігнатоўскі.
6. Дасавецкі перыяд беларускай гістарыяграфіі даследаваў Д.У.Караў.

***V. Вызначце дату:***

1. Выданне манаграфіі А.І.Цвікевіча «Заходнерусізм»: Нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі».
2. Арганізацыя Камісіі па гісторыі гістарычнай навукі СССР у АН СССР.

# Тэма 2. Першыя звесткі па гісторыі Беларусі. Назапашванне гістарычных ведаў

## План

1. Звесткі аб насельніцтве Беларусі ў працах антычных і арабскіх аўтараў.

2. Старажытнарускія летапісы, лівонскія хронікі і скандынаўскія сагі пра падзеі на тэрыторыі Беларусі.

3. Польскія храністы аб гісторыі беларускіх земляў.

4. Адлюстраванне гісторыі беларускіх зямель у нататках замежных дыпламатаў і падарожнікаў XV – XVII стст.

## Рэкамендаваная літаратура


1. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. – Мн.: БелЭн, 2005. – 688 с.

2. Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд. – Мн.: Выш. шк., 1985. – С. 66 – 83.

3. Грыцкевіч, В. Шляхі вялі праз Беларусь: нарыс / В.Грыцкевіч, А.Мальдзіс. – Мн.: Маст. літ., 1980. – 272 с.

4. Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі ў сярэднія вякі (VI – XV ст.) / пад рэд. Г.В.Штыхава. – Мн.: Народная асвета, 1998. – 191 с.

5. Загарульскі, Э.М. Заходняя Русь. IX – XIII ст. / Э.М.Загарульскі. – Мн.: Універсітэцкае, 1998. – С. 18 – 109.

6. Златоструй. Древняя Русь X – XIII вв. – М.: Мол. гвардия, 1990. – С. 36 – 105.

7. Інфляцкія хронікі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мн.: БелЭн, 1996. – Т. 3. – С. 501.

8. Котлярчук, А. Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў / А.Котлярчук. – Мн.: Энцыклапедыкс, 2002. – 296 с.

9. Копысский, З.Ю. Историография БССР (эпоха феодализма): учеб. пособие / З.Ю.Копысский, В.В.Чепко. – Мн.: Университетское, 1986. – С. 5 – 15.

10. Материалы по истории СССР для семинарских и практических занятий. Вып. 1: учеб. пособие. – М.: Высш. школа, 1985. – С. 207 – 298.

11. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыкл. даведнік. – Мн.: БелЭн, 1995. – 671 с.

12. Пашуто, В.Т. Образование Литовского государства / В.Т.Пашуто. – М.: Изд-во АН СССР, 1959. – С. 9 – 77, 127 – 148.

13. Рассадзін, С.Я. Землі амаль невядомыя: Будучая Беларусь паводле антычных манускрыптаў / С.Я.Рассадзін. – Мн.: Полымя, 1996. – 95 с.

14. Санько, С. Загадкавая краіна Артанія / С.Санько, Х.Кашкурэвіч // Імя тваё Белая Русь / уклад. Г.М.Сагановіч. – Мн.: Полымя, 1991. – С. 172 – 180.

15. Седов, В.В. Происхождение и ранняя история славян / В.В.Седов. – М.: Наука, 1979. – С. 29 – 32.

16. Чамярыцкі, В.А. Таямніцы Полацкага летапісу / В.А.Чамярыцкі // Архівы і справаводства. – 1999. – № 1. – С. 31 – 37; № 2. – С. 17 – 21; № 3. – С. 37 – 43.

17. Юхо, Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі: вучэб. дапам. / Я.А.Юхо. – Мн.: Універсітэцкае, 1992. – С. 4 – 17.

**Тэматыка рэфератаў**

1. Звесткі антычных аўтараў аб старажытным насельніцтве на тэрыторыі Беларусі.

2. Звесткі арабскіх географаў і гісторыкаў аб старажытных славянах.

3. Праблема полацкага летапісання.

**1. Звесткі аб насельніцтве Беларусі ў працах антычных і арабскіх аўтараў**. Першыя звесткі аб насельніцтве сучасных беларускіх земляў сустракаюцца ў антычных гісторыкаў і географаў, найперш старажытнагрэчаскіх, што было выклікана каланізацыяй элінамі Паўночнага Прычарнамор’я.

Сярод антычных аўтараў вылучаецца **Герадот** з Галікарнаса (? 485 – 425 гг. да н. э.), які пакінуў нашчадкам «*Гісторыю»* у 9 кнігах. Чацвёртая кніга «Мельпамена» была прысвечана Скіфіі і яе наваколлю. У ёй аўтар пісаў аб неўрах і андрафагах.

«...Вышэй алазонаў жывуць скіфы-земляробы, якія сеюць хлеб не для ўласнага спажывання ў ежу, а на продаж. Вышэй іх жывуць неўры, а краіна, што ляжыць на поўнач ад неўраў, наколькі мы ведаем, не заселеная людзьмі...

...У неўраў звычаі скіфскія; за адно пакаленне да пахода Дарыя ім давялося пакінуць усю сваю краіну з-за змеяў; зямля іх нарадзіла мноства змеяў, а яшчэ больш з’явілася іх з пустэльных земляў, пакуль зможаныя імі неўры не пасяліліся разам з будзінамі, пакінуўшы сваю радзіму. Можна думаць, што гэтыя людзі чараўнікі: па крайняй меры, па словах скіфаў і жывучых у Скіфіі элінаў, кожны неўр штогадова па разу на некалькі дзён робіцца ваўком і потым зноў прымае ранейшы выгляд...».

Гэтыя скупыя звесткі ўжо ў XIX ст. заставілі даследчыкаў шукаць лакалізацыю герадотавых неўраў: чэшскі гісторык П.Й.Ша-

фарык размяшчаў іх у басейне р.Нараў (Польшча), а вядомы этнограф П.М.Шпілеўскі – на тэрыторыі Беларусі, бо лічыў, што ўяўленні аб ваўках-пярэваратнях тут былі найбольш пашыраны.

У 50 – 60-я гг. XX ст. маскоўскі археолаг В.М.Мельнікоўская выказала думку аб неўрах як насельніцтве мілаградскай культуры, якая ў VIII – III стст. да н.э. займала паўднёвы ўсход Беларусі. На яе думку, плямёны мілаградскай археалагічнай культуры прыйшлі на тэрыторыю Беларусі з заходняй часткі Валыні. Гэтую гіпотэзу падтрымаў акадэмік Б.А.Рыбакоў, зыходзячы з таго, што будзіны (носьбіты юхнаўскай археалагічнай культуры), да якіх перабраліся неўры, пражывалі на тэрыторыі сучаснай Бранскай вобласці Расійскай Федэрацыі, памежнай з Гомельшчынай.

Беларускі археолаг С.Я.Рассадзін удакладніў лакалізацыю неўраў у басейне р.Гарынь (заходняя частка мілаградскага арэала). Ён лічыць, што адтуль неўры рушылі да Паўднёвага Буга – да скіфаў. Таму ўпамінанне аб будзінах ёсць памылка перапісчыка. З ім салідарны даследчык скіфскай культуры А.І.Цераножкін.

Упамінанне Гeрадотам змеяў звязана, на думку Рассадзіна, са зменай клімату. У сярэдзіне VI ст. да н.э. назіралася паніжэнне сярэдніх тэмператур і ўзрастанне вільготнасці (шмат дажджоў, паводкі, забалочванне нізінаў). Таму насельніцтва перасялялася на сухія месцы. А змяя – міфалагічны сімвал дажджу.

Калі скіфы для барацьбы з персідскім царом Дарыям папрасілі дапамогі ў неўраў, то пачулі ў адказ: «Калі б вы першыя не рабілі крыўду персам і не пачыналі з імі вайны, то цяперашнюю просьбу вашу і цяперашнія вашы размовы мы палічылі б правільнымі... Што датычыць нас, то ні тады мы не крыўдзілі гэтага народа, ні цяпер не будзем абражаць яго. Вось калі б персідскі цар уварваўся і ў нашу зямлю і першы пакрыўдзіў нас, мы таксама не засталіся б у баку».

З гэтага запісу Герадота С.Я.Рассадзін робіць дзве высновы. Неўраў было даволі многа, і яны былі моцныя, бо на іх падтрымку разлічвалі скіфы. Неўры не з’яўляліся дзікунамі, а мелі палітычную арганізацыю – «норавы скіфскія», а ў Скіфіі ў той час ужо склалася рабаўладальніцкая дзяржава.

Пісалі аб неўрах і старажытнарымскія аўтары: Пампоній Мела (I ст. н. э.), Гай Пліній Секунд (I ст. н. э.), Марцін Капела (V ст.). Яны звязывалі тэрыторыю герадотавых неўраў з Тырасам (Днестр) і Барысфенам, г.зн. Дняпром.

Герадот таксама ўпамінаў андрафагаў: «З усіх людзей андрафагі маюць найбольш дзікунскія норавы: яны не прызнаюць праў-

ды і не маюць ніякіх законаў. Яны праводзяць вандроўнае жыццё, носяць вопратку, падобную на скіфскую, але маюць асобную мову; яны адны з гэтых плямёнаў ядуць людзей...». Дарэчы, андрафагі ўпамінаюцца аўтарам пяць разоў – калі Герадот акрэслівае паўночную мяжу Скіфіі, раскрывае барацьбу з персамі.

Спробы лакалізацыі андрафагаў назіраліся ў XIX ст. У кухонных адкідах археолагі шукалі чалавечыя косткі з абламанымі эпіфізамі. Але даследаванні, праведзеныя ў XX ст., сведчаць аб шырокім распаўсюджанні канібалізму ў жалезным веку. Таму гісторыкі пачалі зыходзіць з інфармацыі Герадота, параўноўваючы яе з іншымі геаграфічнымі звесткамі кнігі: «самы верхні народ». Акадэмік Б.А.Рыбакоў лакалізаваў андрафагаў у арэале днепрадзвінскай культуры – на Смаленшчыне, археолаг Б.А.Шрамко – у басейне р.Сулы, А.І.Цераножкін – у арэале мілаградскай культуры, М.І.Артамонаў – у басейне р.Росі (Украіна), Б.М.Грэкаў – у ніжнім цячэнні Дняпра, А.П.Смірноў – у стэпавай зоне ніжняга цячэння Дняпра.

Рассадзін размяшчае андрафагаў таксама ў арэале днепрадзвінскай культуры ранняга жалезнага века (VIII ст. да н.э. – V ст. н.э.), але не на тэрыторыі Смаленскай вобласці, а на Міншчыне. Ён лічыць, што ніжнія пласты лабенскай археалагічнай культуры пазбаўлены скіфскага ўплыву ў адрозненне ад смаленскага варыянту. Да таго ж запіс Герадота аб «верхнім народзе» на Барысфене не можа адназначна адносіцца да вытокаў Дняпра. Рассадзін салідарны з пецярбургскім даследчыкам Б.А.Булкіным, што вытокам Барысфена антычныя аўтары лічылі Беразіну і нават Свіслач.

Таксама беларускі археолаг аналізуе тэрмін «андрафагі». Згодна з Герадотам, гэта «пажыральнікі мужчын», бо людаеды – «антрапафагі». Выказана думка, што пад андрафагамі можна разумець «амадокаў», вядомых яшчэ Пталамею.

Грэчаскі гісторык і географ **Страбон** (I ст. н.э.) пісаў пра *бастарнаў*, якіх некаторыя даследчыкі суадносяць з плямёнамі зарубінецкай археалагічнай культуры (канец III ст. да н.э. – I ст. н.э.): «Яны ваяўнічыя і храбрыя. Не ведаючы ні земляробства, ні жывёлагадоўлі, яны займаюцца толькі вайсковымі практыкаваннямі і думаюць толькі аб вайне».

У першыя стагоддзі нашай эры антычныя аўтары ўсё большую ўвагу пачынаюць надаваць старажытным славянам. Рымскі консул, гісторык, аўтар «*Гісторыі», «Аналаў»* **Публій Карнелій Тацыт** (58 – 117 гг.) называў славян «*венетамі».* «Венеты пераняілі шмат з іх нораваў... [германцаў], бо з-за драпежніцтва ходзяць

па лясах і гарах... Аднак іх хутчэй можна далучыць да германцаў, таму што яны будуюць сабе дамы, носяць шчыты і перамяшчаюцца пешшу...». Тацыт размяшчаў венетаў паміж пеўкінамі (востраў Пеўкі ў вусці Дуная) і фенамі (продкі запалярнага народа саамі). Шэраг гісторыкаў тацытавых венетаў лакалізуюць з познезарубінецкімі плямёнамі, якія пашырыліся да Прыднястроўя.

Аб венетах пісаў і гоцкі гісторык і царкоўны дзеяч **Іярдан** (першая палова VI ст.) у кнізе «*Аб паходжанні і дзеяннях готаў».* Аўтар размяшчаў венетаў не на тэрыторыі Беларусі, а хутчэй у сучаснай Польшчы, у раёне Кракава. Іх нібыта перамог у IV ст. гоцкі кароль Германарых. Іярдан таксама ўпамінаў *склавен* і *антаў*, якія, на яго думку, маюць адзінае паходжанне з венетамі. «Цяпер яны лютуюць паўсюдна [VI ст.], а раней падпарадкоўваліся ўладзе Германарыха». Склавен ён размясціў у раёне ад возера Мурсіянскага да Днястра і Віслы, а антаў – ад Днястра да Дняпра.

Сучаснік Іярдана сірыйскі грэк, візантыец **Пракопій з Кесарыі** ў працы «*Вайна з готамі»* славян і антаў выводзіць не ад венетаў, а ад *барбараў* (ніжэйшых за рымлян). Аўтар адзначаў, што раней іх называлі «*спорамі»,* г.зн. «рассеяннымі па паселішчах». Ён раскрыў іх норавы: «Гэтыя плямёны, славяне і анты, не кіруюцца адным чалавекам, але здаўна жывуць у народапраўстве, і таму ў іх шчасце і няшчасце ў жыцці лічацца справай агульнай... Яны лічаць, што адзін толькі бог, творца маланак, з'яўляецца валадаром над усімі... Уступаючы ў бітву, большасць з іх ідзе на ворагаў з шчытамі і дроцікамі ў руках, панцыраў жа яны ніколі не адзяюць... І па знешнім выглядзе яны не адрозніваюцца між сабой. Яны вельмі высокага росту і велізарнай моцы. Колер скуры і валасоў у іх вельмі белы або залацісты...».

З візантыйскіх аўтараў аб славянах пісалі **Псеўда-Маўрыкій** (582 – 602 гг.) ў «*Страцегіконе»,* **Феафілакт Сімаката** (першая палова VII ст.) у «*Гісторыі»,* дзяк **Ігнацій** (першая палова IX ст.) у «*Жыціі Георгія Амастрыдскага»,* **Канстанцін VII Багранародны** (X ст.) у «*Біяграфіі Васіля І Македаняніна».*

Пры агульным недахопе пісьмовых матэрыялаў аб усходніх славянах да XI ст. арабскія крыніцы набываюць важнае значэнне. Краіны Арабскага халіфата мелі добра наладжаныя гандлёвыя і палітычныя сувязі з краінамі Усходняй Еўропы. Вельмі значнымі былі сувязі з Хазарскім каганатам, Паўночным Каўказам, менш – са славянскім светам. Інфармацыя аб апошнім паступала ў мусульманскія краіны двума шляхамі: праз Візантыю і праз Сярэднюю Азію і Хазарыю. Звесткі з Візантыі, якія дасягалі арабаў, цяжка

каменціруюцца сучаснымі гісторыкамі, бо утрымліваюць дадзеныя аб агульным славянскім свеце без падзелу іх на заходніх, усходніх і паўднёвых. Другі канал інфармацыі (праз Хазарыю) больш верагодны, таму што датычыцца непасрэдна ўсходніх славян.

Творы арабскіх аўтараў (**Аль-Балхі**, **Аль-Істахры**, **Ібн-Хаўкаль**, **персідскі анонім «***Кніга межаў свету ад усходу да захаду»*) маюць тэкстуальныя супадзенні. Гэта сведчыць аб тым, што аўтары карысталіся адной крыніцай, якая не дайшла да нашых дзён. Яе складанне адносіцца да VIII – IX стст.

У арабскіх крыніцах даецца інфармацыя аб Русах і іх трох цэнтрах: Куябе, Славіі і Артаніі. Першыя два цэнтры даследчыкі суадносяць з Кіевам і Ноўгарадам, а трэці рэгіён – загадкавы. Ібн-Хаўкаль пісаў: «...Артанцы па вадзе спускаюцца да Куябы з мэтай гандлю...», персідскі анонім сцвярджаў: «...З Арты вывозяць чорных сабалёў, свінец, чорных лісіц, мячы».

Беларускія гісторыкі С.Санько і Х.Кашкурэвіч прапанавалі гіпотэзу, што Артанія знаходзілася на тэрыторыі племяннога саюза крывічоў. У якасці доказаў яны прывялі наступныя палажэнні: чорныя лісіцы вадзіліся на поўначы Русі, а ў лесастэпавым раёне Кіева яны былі рэдкасцю; свінец да крывічоў пападаў з Польшчы, Скандынавіі, Венгрыі; праз тэрыторыю крывічоў праходзіў гандлёвы шлях «з вараг у грэкі»; каля Лукомля, Оршы, Гараўлянаў, Полацка, Смаленска былі знойдзены скарбы арабскіх манетаў.

Таямнічую «Арту» С.Санько і Х.Кашкурэвіч звязваюць са словам «Арса», бо ў арабскім арыгінале стаіць літара, якае перадае гук, падобны на англійскае міжзубнае «th», якога няма ў славянскіх мовах. Слова «орс» у перакладзе з асецінскай мовы азначае «белы», «эрзіс» з новаперсідскай мовы – «свінец, белы светлы метал». На іх думку, Арта – гэта горад Рша (Орша), які стаіць на рацэ Аршыцы. Але археолагі не пацвярджаюць гэтае меркаванне. Таму аўтары лічаць, што Орша магла быць перанесена ў пачатку XI ст. да буйной воднай магістралі, а раней яна знаходзілася паміж дзвюма рэкамі – Аршыцай і Лучосай, бо там былі знойдзены чатыры скарбы дырхемаў, альбо каля в.Чаркасава.

**2. Старажытнарускія летапісы, лівонскія хронікі і скандынаўскія сагі пра падзеі на тэрыторыі Беларусі**. Пачатковая гістарыяграфія ўсходніх славян звязана з Кіевам і Ноўгарадам. Першыя звесткі размешчаны ў Кіеўскім летапісным зводзе «*Аповесць мінулых гадоў»,* які меў тры рэдакцыі.

Асновай твора з'яўляецца старажытны летапісны звод, у якім падзеі даводзяцца да 1037 г. Яго стваральнікі былі блізкімі людзьмі да князя Яраслава Мудрага, таму выражалі інтарэсы Кіева, займалі патрыятычную пазіцыю.

Першую рэдакцыю звода зрабіў буйны царкоўны і палітычны дзеяч Русі **Нікан**, які працягнуў падзеі да 1073 г., унёс літаратурны запіс аб прызванні варагаў. З 1061 г. ім даюцца дакладныя звесткі. Нікан упершыню паведаміў аб Менску пад 1067 г. і апісаў бітву на Нямізе (магчыма, па расказах яе ўдзельнікаў).

Другая рэдакцыя атрымала назву Пачатковага звода, бо падзеі былі даведзены да 1093 г. і дапоўнены наўгародскімі звесткамі. Яго аўтар ва ўмовах аслаблення Кіеўскай Русі імкнецца даць станоўчую ацэнку першым кіеўскім князям, высока ацаніць іх ваенныя заслугі.

Трэцюю рэдакцыю зрабіў каля 1113 г. **Нестар** у Кіева-Пячэрскім манастыры. Ужо ў самым пачатку звода ён вызначыў пастаўленную перад сабой задачу – адказаць, «...Откуда есть пошла Руская земля, кто въ Киеве нача первее княжити, и откуда Руская земля стала есть». Нестар упершыню паспрабаваў звязаць гісторыю ўсходніх славян з гісторыяй усяго чалавецтва, стварыў своеасаблівую гістарычную канцэпцыю.

«Аповесць мінулых гадоў» пабудавана на метадалагічных прыёмах антычнай гістарыяграфіі, вызначаных у II ст. да н.э. грэчаскім гісторыкам Палібіем. Яны прадугледжвалі тры правілы: веданне гістарычных сачыненняў папярэднікаў, шырокі агляд геаграфіі даследавання, сувязь падзеяў мінулага і сучаснага. Як і Фукідзід і Арыстоцель, Нестар асноўную ўвагу надаваў апісанню палітычных і ваенных падзеяў. Уплыў антычнай традыцыі вельмі выразна адчуваецца тады, калі летапісец укладвае ў вусны сваіх персанажаў антычныя афарызмы, напрыклад, «маці гарадоў рускіх». З другога боку, відавочныя прынцыпы і падыходы, характэрныя для сярэднявечнай метадалогіі –правідэнцыялізму. У многіх выпадках летапісец тлумачыць падзеі і дзеянні людзей са спасылкай на Слова Божае. Метадалагічная структура летапіснага звода складаецца з тлумачальнай (галоўнай) і правідэнцыяльнай (дапаможнай) гісторыі. Тлумачальная гісторыя будуецца на прынцыпах заканамернасці, ісціны і праўды.

Беларускі даследчык М.У.Смяховіч «Аповесць мінулых гадоў» адносіць да пасіўна-сузіральнага кірунку школы базавай верыфікацыі. У зводзе адсутнічаюць элементы крытыкі, папярэдні аналіз матэрыялаў, запазычаных з іншых крыніцаў. Летапісец найперш

выконваў камунікатыўную функцыю, каб перадаць гістарычна цэласныя веды, якія назапасіла грамадства.

Летапісны звод пабудаваны на прызнанні заканамернасці сацыяльнага развіцця і па лагічнай схеме: ад апісання падзеі да тлумачэння прычынаў яе ўзнікнення, ад тлумачэння прычынаў – да абагульных высноваў.

Пасля смерці Святаполка і паўстання ў Кіеве ў 1113 г. палітычная арыентацыя «Аповесці мінулых гадоў» не магла задаволіць новага князя Уладзіміра Манамаха. Летапіс забралі з Кіева-Пячэрскага манастыра і перадалі ў Выдубіцкі манастыр, які меў статус прыдворнай абіцелі Манамаха. Ігумен манастыра **Сільвестр** ў 1116 г. перапрацаваў «Аповесць мінулых гадоў»: ён паказвае кіеўскага князя памяркоўным, ухваляе яго за тое, што «не загінула зямля Руская» (праца Сільвестра дайшла да нас у складзе Лаўрэнцьеўскага летапіснага звода).

У «Аповесці мінулых гадоў» вялікая ўвага надаецца Полацку і Полацкай зямлі, у прыватнасці, раздача гарадоў Рурыкам, удзел палачан у паходзе Алега на Царград, забойства Рагвалода, напад Брачыслава на Ноўгарад, бітва на Нямізе і іншыя падзеі.

Першы летапісны звод аказаў значны ўплыў на развіццё ўсходнеславянскага летапісання. У наступны час ён уключаўся амаль ва ўсе мясцовыя летапісы ў якасці своеасаблівых уводзінаў, бо галоўная ідэя твора – абарона Русі – была зразумелай і блізкай летапісцам.

У найбольш поўнай рэдакцыі «Аповесць мінулых гадоў» дайшла да нас у *Іпацьеўскім* і *Лаўрэнцьеўскім спісах*. Іпацьеўскі спіс (канец XIII ст.) складаецца з «Аповесці мінулых гадоў», Кіеўскага і Галіцка-Валынскага летапісаў, а Лаўрэнцьеўскі спіс (XIV ст.) – з «Аповесці мінулых гадоў» (самы дасканалы тэкст), летапісных запісаў аб гісторыі Паўночна-Усходняй Русі па 1305 г., «Павучэння Уладзіміра Манамаха», падання пра Рагнеду і полацкіх Усяславічаў, жыція Аляксандра Неўскага.

Найбольшую цікавасць выклікае *Кіеўскі летапіс*, які быў складзены ў Выдубіцкім манастыры на падставе мясцовых летапісаў і асобных пагадовых запісаў. У адрозненне ад «Аповесці мінулых гадоў» ён прысвечаны пераважна мясцовым падзеям (гісторыі Кіева) з 1118 г. да 1200 г., мае больш свецкі характар. Летапісец асуджае княжацкія ўсобіцы, апісвае барацьбу ўсходніх славян з полаўцамі. Пад 1159 г. у творы размешчаны аповед аб падзеях у Полацкай зямлі, у прыватнасці, аб дзейнасці веча Полацка і Друцка, узаемаадносінах веча і князёў. Таксама аўтар акцентуе ўвагу на Тураве, Пінску, Бярэсці. На думку С.М.Салаўёва, У.Ц.Пашуты,

Л.В.Аляксеева, у Кіеўскім летапісе ёсць урыўкі з *Полацкага летапіса*.

Даследчыкі неаднаразова выказывалі меркаванні аб існаванні летапісання ў Полацку і Смаленску. Доказам можа быць аповед пад 1159 г. пра вяртанне выгнанага палачанамі князя Рагвалода Барысавіча, які напісаны відавочцам, з яркімі дэталямі. Другім доказам з'яўляецца фрагмент пад 1180 г. з Іпацьеўскага спіса пра паход кіеўскіх, чарнігаўскіх і полацкіх князёў сумесна з наўгародцамі супраць смаленскага князя Давыда, заняўшага Друцк. Дакладная дата падзеі, падрабязны пералік князёў – усё сведчыць аб мясцовым полацкім запісе.

Аб існаванні летапісання ў Полацку нам таксама засведчыў рускі гісторык XVIII ст. **В.М.Тацішчаў**. У сваёй працы «*Гісторыя Расійская»* ён упамінаў аб спісе, які належаў пецярбургскаму архітэктару П.Яропкіну. Дзесяць разоў Тацішчаў спасылаўся на змест гэтага летапіса, але да нашых дзён рукапіс не дайшоў.

Тацішчаў размясціў *аповесць пра Святохну* – твор зусім невядомы ў іншых усходнеславянскіх крыніцах. Полацкі князь Барыс Давыдавіч ажаніўся другі раз з Святохнай – дачкой паморскага князя Казіміра. Разам з ёй у Полацк прыбылі шмат памаран. У Святохны нарадзіўся сын Войцэх, якога бацька назваў Уладзімірам. Каб зрабіць свайго сына адзіным спадкаемцам полацкага прастола, Святохна вырашыла пазбавіцца ад сыноў Барыса ад першага шлюбу – Васількі і Вячкі. Яна здолела з дапамогай інтрыг выслаць старэйшых сыноў полацкага князя і іх прыхільнікаў, затым задумала атруціць Васільку. Той звярнуўся да палачан з заклікам абароны ад іншаземцаў-памаран. Веча раскрыла злачынствы Святохны, якую пасадзілі ў турму.

Тацішчаў датаваў гэту падзею 1217 г., а польскі гісторык Я.Паверскі – 1197 – 1201 гадамі. Беларускі даследчык старажытнарускага летапісання В.А.Чамярыцкі даказаў, што аповесць пра Святохну – гэта фальсіфікат XVIII ст., бо яшчэ ў XIX ст. М.Лыжын выказаў думку, што гэты твор з'яўляецца своеасаблівым памфлетам на Бірона і нямецкае засілле ў Расіі. Чамярыцкі адзначыў беднасць мовы і стылю, неадпаведнасць сінтаксісу і лексіцы твора XIII ст., заўважыў, што факталогія твора не супадае з гістарычнымі крыніцамі.

Паданне аб Усяславічах, зафіксаванае ў Лаўрэнцьеўскім спісе пад 1128 г., магчыма, было створана ў Полацкай зямлі і адтуль трапіла ў Кіеў. На думку беларускага даследчыка Ю.А.Зайца, яно

з'яўляецца пераказам тэксту гістарычнай песні, пашыранай на тэрыторыі Полаччыны ў канцы XI – пачатку XII ст.

*Галіцка-Валынскі летапіс* змяшчае унікальныя звесткі па гісторыі Наваградка, Бярэсця, Гародні, Ваўкавыска і інш. заходнебеларускіх гарадоў, пра асобныя помнікі беларускай культуры (Лаўрышаўскі манастыр, Камянецкая вежа), пра жыццё і дзейнасць князёў Вялікага княства Літоўскага Міндоўга, Войшалка, Тройдзеня. Гісторыкі У.Ц.Пашута і М.І.Ермаловіч выказалі гіпотэзу, што інфармацыя аб літоўскіх князях запазычана з Наваградскага летапісу, магчыма, складзенага ў Лаўрышаўскім манастыры. Фактычна гэта адзіны помнік, які шырока асвятляе пачатковы этап і працэс утварэння ВКЛ. Падзеі пададзены з пазіцыі галіцка-валынскіх князёў, якія прэтэндавалі на Панямонне. Часам яны тэндэнцыйныя, але ў цэлым адпавядаюць гістарычнай праўдзе.

Важныя звесткі аб гістарычных падзеях на тэрыторыі Беларусі ўтрымліваюцца ў сярэднявечных гістарыяграфічных творах – *лівонскіх хроніках*. Самай найстарэйшай з іх з'яўляецца *Хроніка* **Генрыха Латвійскага,** нямецкага храніста, які жыў з 1205 г. у Рызе і быў ідэолагам Ордэна мечаносцаў. Хроніку ён напісаў для папскага легата Вільгельма Мадэнскага па заказу епіскапа Альберта, які хацеў атрымаць сан архіепіскапа. Зразумела, што аўтар услаўляў дзеянні Альберта, накіраваныя на рыцарскае заваяванне Усходняй Прыбалтыкі і хрышчэнне мясцовых плямён. Ёсць інфармацыя пра Кукенойс і Герцыке, барацьбу з Ордэнам полацкага князя Уладзіміра, мірныя дагаворы 1210, 1212, 1222 гг.

Невядомы нямецкі аўтар у сярэдзіне XIII ст. напісаў *Старэйшую рыфмаваную хроніку*, у якой раскрыў гісторыю крыжацкага заваявання Усходняй Прыбалтыкі да 1290 г. Магчыма, аўтар сам быў відавочцам і ўдзельнікам апісваемых падзей. Гэты твор лічыцца найважнейшай крыніцай па гісторыі ўтварэння ВКЛ: падрабязна паказана дзейнасць Міндоўга.

*Малодшая рыфмаваная хроніка* **Барталамея Хёнэке**, складзеная ў першай палове XIV ст., не дайшла да нашага часу (яе змест быў пакладзены ў аснову хронікі Германа Вартберга). Аўтар паказаў узаемаадносіны Ордэна з ВКЛ, Псковам і Ноўгарадам у 1315 – 1348 гг.

Выхадзец з Вестфаліі, капелан Лівонскага ордэна **Герман Вартберг** у канцы XIV стст. напісаў *«Хроніку Лівоніі».* Ён выкарыстаў творы сваіх папярэднікаў, а таксама шматлікія граматы і канцылярскія матэрыялы з ордэнскага архіва. Падзеі даведзены да 1378 г. Аўтар з'яўляўся апалагетам Ордэна: пісаў аб яго велізарных за-

слугах і бескарыслівых подзвігах на славу хрысціянства, апраўдваў гвалт і разбой «братоў-хрысціян».

Багаты матэрыял па гісторыі Беларусі XIII – XIV стст. змяшчае «*Хроніка»* **Віганда з Марбурга**, герольда пры двары магістра Тэўтонскага ордэна Конрада Валенрода. Твор утрымлівае звесткі пра рыцарскія паходы на тэрыторыю Беларусі і Літвы, у прыватнасці, Гарадзеншчыну і Берасцейшчыну. Аўтар падрабязна апісаў бітву на Стрэве, паходы крыжакоў з 1363 г. на Гародню.

Віганд правільна размяшчаў зямлю дрыгавічоў на Берасцейшчыне, «замак Нойгартэн» – на левым беразе Нёмана, насупраць Гарадзенскага замка, пабудаванага Вітаўтам у 1391 г. Хроніка дае інфармацыю пра аблогу Полацка (1381 г.) Скіргайлам і магістрам Лівонскага ордэна, пра трагічны штурм Гарадзенскага замка ў 1393 г. рыцарамі з Германіі, Францыі, Галандыі і пра іншыя акцыі крыжакоў. Аўтар ідэалагічна абгрунтоўваў палітыку Тэўтонскага ордэна.

Каштоўную інфармацыю аб гісторыі беларускіх зямель можна знайсці ў скандынаўскіх паданнях (сагах), запісаных каталіцкімі манахамі ў XII ст. «*Эймундава сага»* апавядае пра варага Эймунда Хрынгсана. Ёсць звесткі пра княжацкую барацьбу пасля смерці Уладзіміра Святаславіча (1015 г.) з удзелам князёў Яраслава Мудрага і Святаполка Яраполчыча. Зусім нетрадыцыйна ў параўнанні са старажытнарускімі летапісамі раскрываецца супрацьстаянне паміж полацкім князем Брачыславам Ізяславічам і кіеўскім Яраславам Мудрым.

*«Сага пра Торвальда Вандроўніка»* прысвечана Торвальду Кодрансану – ісландскаму падарожніку і місіянеру X стагоддзя. У 1000 г. ён накіраваўся ў Палестыну, адтуль вяртаўся дадому праз Канстанцінопаль і Кіеў. Паводле сагі, Торвальд «памёр у Русі недалёка ад Полацка. Там ён пахаваны ў адной гары ў царкве Яна Хрысціцеля, і называюць палачане яго святым». Невялікая па аб’ёме «*Сага пра Торвальда Вялікага Падарожніка»* (татра) удакладняе гэтыя звесткі: магіла Торвальда знаходзіцца «над высокай гарой у Дрофне пры царкве Святога Яна», дзе ён нібыта заснаваў манастыр. Згодна з гэтай сагай Торвальд быў накіраваны ў Русь як афіцыйны прадстаўнік візантыйскага імператара.

Гара ў Дрофне не лакалізавана па сённяшні дзень. Даследчыкі ідэнтыфікуюць яе з наступнымі мясцінамі: 1) полацкім верхнім замкам, насупраць якога, на востраве, знаходзіўся манастыр св.Яна; 2) раёнам Дрэтунь на паўночны ўсход ад Полацка; 3) «гарой Рагнеды» на паўвостраве Перавоз паміж вусцем р.Ушчы і вытокам р.Дрысы (А.Кіркор адзначаў, што там, паводле народнага падання, быў

забіты ўдарам каменнага молата князь Рагвалод, а потым была пахавана Рагнеда).

**3. Польскія храністы аб гісторыі беларускіх зямель**. У польскай гістарыяграфіі позняга сярэднявечча важкую ролю адыграў **Ян Длугаш** (1415 – 1480 гг.), якога лічаць «бацькам польскай гістарыяграфіі».

Ян Длугаш паходзіў са шляхецкай сям'і, вучыўся на філасофскім факультэце Кракаўскага універсітэта (1428 – 1431 гг.), здзейсніў падарожжа ў Аўстрыю, Венгрыю, Італію і Палестыну. Длугаш сустракаўся з гуманістам і географам Мікалаем Кузанскім, цікавіўся творамі рымскіх аўтараў і тэндэнцыямі італьянскага гуманізму. Пад уплывам кракаўскага біскупа Збігнева Алясніцкага Длугаш прыступіў да працы над «*Гісторыяй Польшчы»* (у 12 кн.), напісанай у 60 – 80-я гады XV ст.

Значэнне Длугаша ў славянскай гістарыяграфіі надзвычай вялікае. Ён першы ва Усходняй Еўропе паказаў гісторыю славянскіх краін на агульным фоне сусветнай гісторыі. Ён раней за іншых зразумеў значэнне гістарычных крыніц і выкарыстаў іх у сваёй працы.

«Гісторыя Польшчы» была самым папулярным сярод тагачасных гісторыкаў даследаваннем, але яе надрукавалі толькі ў пачатку XVIII ст., бо Ян Длугаш даў вельмі смелыя характарыстыкі каралям, буйным магнатам і іерархам каталіцкай царквы.

Аўтар раскрыў гісторыю ВКЛ, асабліва ў перыяды збліжэння з Польшчай. Длугаш паказаў сваё адмоўнае стаўленне да Крэўскай уніі – лічыў, што «справядлівы Бог пакараў палякаў каралямі, якія больш клапаціліся пра Літву, чым пра Польшчу». Услед за «Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх» храніст апісаў барацьбу Кейстута і Карыбута, Вітаўта і Ягайлы, Скіргайлы і Вітаўта, раскрыў уключэнне Смаленска ў склад ВКЛ, шмат увагі надаваў няўдалай каранацыі Вітаўта, міжнародным адносінам, барацьбе супраць татараў. Длугаш прытрымліваўся рэспубліканска-арыстакратычнай мадэлі паходжання літоўскай знаці – ад Пампея, праціўніка Цэзара. Але ў цэлым гісторыю ВКЛ аўтар «Гісторыі Польшчы» разглядаў дастаткова павярхоўна. Напрыклад, вайну 1386 – 1392 гг. ён тлумачыў асабістым супрацьстаяннем Вітаўта і Ягайлы.

Таксама Длугаш заклаў гістарыяграфічную традыцыю разумення «Русі». Ён лічыў, што «Русь» – гэта землі, населеныя рускімі (найперш Галіцка-Валынская і Чырвоная Русь). Жыхары паўночна-ўсходніх і паўднёвых раёнаў ВКЛ, якія падтрымалі Свідрыгайлу падчас феадальнай вайны 30-х гг. XV ст., таксама рускія. Рускімі

населены Смаленшчына, Віцебшчына і Полаччына. Ноўгарад Длугаш называе «самай аграмаднай і багатай з земляў Русі». Жыхароў жа паўночна-ўсходняй Русі ён не ўключае ў лік «рускіх», населеныя імі землі называе «зямля масквічоў, маскавітаў, Масковія».

Рукапісная праца Длугаша стала асновай для гістарыяграфіі XVI ст., якая найперш прадстаўлена каралеўскім сакратаром і прыдворным дзеепісьменнікам Жыгімонта I Старога **Бернардам Вапоўскім**.

У гістарыяграфіі лічыцца, што *«Хроніка Польшчы»* Вапоўскага ў сваёй значнай частцы ёсць кампіляцыя працы Длугаша (падзеі з 1380 да 1480 гг.). Але вядома, што кампілятыўнасць – характэрная рыса сярэднявечных гістарычных твораў. Аднак ёсць і адрозненні. У часы напісання хронікі з усходу бяспецы ВКЛ і Польшчы стала пагражаць Вялікае княства Маскоўскае, а з поўдня – Крымскае ханства. Такім чынам, перад аўтарам паўстала задача прадэманстраваць неабходнасць палітычнага саюзу ВКЛ і Польшчы. Вось чаму дзве тэмы – унія Польшчы і ВКЛ і барацьба з крыжакамі – галоўныя. Крэўская унія была заключана «да вялікай радасці і вясёласці польскага і літоўскага народаў». Вапоўскі значна больш месца і ўвагі, чым Длугаш, надаваў падзеям у Літве і на беларускіх землях. Невыпадкова пасля апісання Крэўскай уніі ў Вапоўскага размешчаны нарыс па геаграфіі і этнаграфіі Літвы, чаго няма ў «Гісторыі Польшчы» Длугаша. Такія размеркаванне матэрыялу і парушэнне храналогіі тлумачацца тым, што Вапоўскі лічыў неабходным азнаёміць польскага чытача з гісторыяй, звычаямі і геаграфічнымі асаблівасцямі земляў, аб’яднаных, паводле ягоных слоў, «у вечным саюзе з Польскім каралеўствам». На некаторыя праблемы гісторыі ВКЛ Вапоўскі глядзеў больш глыбока, чым ягоны папярэднік.

Вапоўскі бліжэй, чым Длугаш, стаяў да гуманістычнай гістарыяграфіі, якая ставіла новыя задачы перад нацыянальнай гістарычнай навукай. Праца гісторыка разглядалася ім не проста як навуковая дзейнасць, а як грамадска-гістарычная місія. Вапоўскі быў таксама выдатным географам і картографам свайго часу. Вялікай яго заслугай з’яўляецца публікацыя карты «Сарматыя», дзе можна знайсці шмат геаграфічных пунктаў паўднёвай Беларусі.

**Мацей з Мяхова** (Мяхоўскі, Мехавіта) (каля 1457 – 1523 гг.) – польскі гісторык, географ, прафесар медыцыны, астролаг. Ён восем разоў выбіраўся рэктарам Кракаўскага універсітэта (акадэміі), які абавязаны яму сваім росквітам. Праславіўся сваёй дабрачыннасцю.

Вядомасць Мацею з Мяхова забяспечыла яго праца «*Хроніка палякаў»,* выдадзеная ў 1519 г. Але ўвесь тыраж каронны канцлер Я.Ласкі загадаў канфіскаваць. Шэраг старонак замянілі на новыя, тэндэнцыйна адрэдагаваныя самім канцлерам. Змены датычыліся шлюбу Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай, элекцыі Яна Ольбрахта, валошскага паходу 1497 г., панавання Аляксандра і некаторых іншых падзей.

Мацей з Мяхова выказаў гіпотэзу пра аўтахтоннасць славян, вызначыўшы іх прарадзіму ў Псарах. Ён цікавіўся галоўным чынам усходняй праблематыкай, шмат увагі надаваў падзеям у ВКЛ. Аўтар крытыкаваў эканамічныя супярэчнасці ў Літве, якія прыводзілі да падзелу грамадства на два слаі – сялянства і магнатаў. Адлюстраваў усе палітычныя акцыі ВКЛ. Аднак пісаў не столькі аб палітыцы, сколькі аб культуры. Замест прыярытэту палітыкі, дзяржаўнай арганізацыі, асобы і яе вялікіх учынкаў увёў паняцці аб нараджэнні і пачатках плямёнаў і народаў, славянскай супольнасці, адводзіў Польшчы цэнтральнае месца ў славянскім свеце.

У «*Трактаце аб дзвюх Сарматыях»* Мацей Мяхоўскі ўпершыню звярнуў увагу на этнаграфічныя асаблівасці Русі, Літвы і Жмудзі. Перад гэтым ён зрабіў кароткі экскурс у гісторыю: «Старадаўнія пісьменнікі сведчаць, што некаторыя жыхары Італіі пакінулі сваю краіну з-за варожасці ўнутры Рымскай імперыі, прыбылі ў літоўскія землі і назвалі іх назвай сваёй радзімы – Італія, а людзей, якія жылі там, назвалі італамі. А іх нашчадкі дадалі адну літару напачатку, сталі называць краіну Літалія, а людзей – літалы. Суседнія палякі і русіны яшчэ больш змянілі тыя назвы і да сённяшняга дня называюць краіну Літвой, а яе жыхароў літвінамі». Мяхоўскі таксама паўтарыў звесткі Длугаша аб тым, што ў былыя часы русіны лічылі літвінаў народам цёмным, вартым пагарды, жабрацкім, так што кіеўскія князі бралі з іх у знак падданства толькі дубовую кару і скураныя паясы. Старонкай вышэй у сваім «Трактаце» Мяхоўскі апісвае Русь (якая належала да Кароны) у самых лепшых выразах, як багатую і прыгожую краіну.

Імёны двух храністаў бацькі і сына Бельскіх займаюць у польскай гістарыяграфіі другой паловы XVI ст. асобнае месца. **Марцін Бельскі** (1495 – 1575 гг.) упершыню пачаў пісаць свае творы па-польску (афіцыйнай мовай справаводства і навукі ў Польшчы лічылася лаціна). Яго твор «*Хроніка ўсяго свету»,* прысвечаная Жыгімонту II Аўгусту, з'явілася першым падручнікам па ўсеагульнай гісторыі ў Польшчы. Сама ідэя напісання падобнага твора па-

даецца прагрэсіўнай для свайго часу, праявай гуманістычнага светапогляду аўтара.

Наконт «геніяльнасці» М.Бельскага існуюць спрэчныя погляды. Адзін з даследчыкаў яго творчасці А.Павіньскі даў наступную характарыстыку: «Цудоўная «Хроніка свету», якая, уласна кажучы, павінна блішчэць бляскам зоркі першай велічыні». Другі польскі даследчык І.Хшаноўскі лічыў «Хроніку свету» «сярэднявечнай кампіляцыяй, якую ад суцэльнай сярэднявеччыны ратуе толькі пратэстанцкая тэндэнцыя, як адзіны новы элемент, адзіная рыса XVI ст., бо іншых рысаў гэтага стагоддзя, духу гуманізму «Хроніка свету» не мае». Магчыма, апошняе сцвярджэнне мае рацыю, але з пункту гледжання верагоднасці і маштабнасці ахопленых падзеяў гэты твор неардынарны.

«Хроніка свету» мела тры выданні (1551, 1554, 1564 гг.). Трэцяе выданне складаецца з дзесяці кніг. Дзевятая кніга «Аб маскоўскім альбо рускім народзе. Аб пасольстве Васіля да папы рымскага. Аб Літве, Аб Ліфлянцкай зямлі. Аб Татарах» закранае гісторыю ВКЛ. Амаль увесь раздзел «Аб маскоўскім народзе» – гэта пераважна скарачэнне «Запісак аб Масковіі» Сігізмунда Герберштэйна. Геаграфічная частка, звесткі пра тэрытарыяльныя памеры ўзяты з «Трактата аб дзвюх Сарматыях» Механіты. Інфармацыя пра Літву ў гэтым раздзеле таксама запазычана ў С.Герберштэйна.

Адным з самых слабых месцаў працы М.Бельскага было тое, што аўтар некрытычна ставіўся да сярэднявечных паданняў і нават анекдотаў, не адрозніваў значныя выпадкі ад нязначных, непрапарцыянальна скампанаваў матэрыял. Магчыма, «Хроніка ўсяго свету» не стала б прадметам гістарыяграфічнага даследавання, калі б не ягоны сын **Яўхім Бельскі**.

У 1597 г. ён выдаў «Хроніку польскую». Гэтую кнігу можна ўпэўнена лічыць «першай шляхецкай гісторыяй» (Фінкель). Калі Марцін Бельскі, удзельнік шматлікіх бітваў, галоўным абавязкам шляхты лічыў рыцарскую справу, то Яўхім разглядаў паходжанне шляхецкіх і магнацкіх фамілій.

Над Яўхімам усё жыццё вісеў «грэх» – рэфармацыйныя погляды бацькі. Толькі перарабіўшы галоўны твор бацькі, пазбавіўшы яго рэфармацыйных тэндэнцый, можна было захаваць яго імя для нашчадкаў. Паступова Яўхім пазбавіўся духу пратэстантызму і ў 1595 г. пакінуў евангелісцкую канфесію.

Аўтар у «Польскай хроніцы» разглядае ВКЛ як правінцыю Рэчы Паспалітай, якая «добраахвотна ўцеленая была ў Карону за Ягайлы і вечнай уніяй за Жыгімонта Аўгуста была звязаная, заха-

ваўшы свае правы і юрысдыкцыю цалкам». Згодна з шляхецкай канцэпцыяй твора, Яўхім піша, што «Вялікае Княства Літоўскае ўжывае на харугве з аднаго боку Пагоню, г.зн. узброенага мужа з голым мечам на кані, бягучага на ўсім скаку, з другога боку – тры белыя слупы ў чырвоным полі». Далей ён пералічвае ваяводствы, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ: Віленскае, Трокскае, Смаленскае, Полацкае, Наваградскае, Брэсцкае, Віцебскае, Мсціслаўскае, Мінскае, – падзяляючы кожнае на паветы. Усе сучасныя беларускія землі Бельскія называюць літоўскімі. «Русь жа мае тыя самыя ваяводствы: Рускае, Бэлзскае, Падольскае, Брацлаўскае». У Рускае ваяводства ўваходзілі Львоўская, Галіцкая, Холмская і Перамыская землі. Падобная традыцыя цягнецца па сённяшні дзень: Русь у польскай гістарыяграфіі атаясамляецца з сучаснай Украінай (былой Галіцка-Валынскай зямлёй), беларускія ж землі традыцыйна называюцца Літвой.

«Польская хроніка» падзяляецца на дзве няроўныя часткі: 1) ад старажытнасці да 1553 г.; 2) ад 1553 да 1586 г. Першая частка носіць кампілятыўны характар – аўтар перапісаў бацькавы твор, дапоўніўшы яго звесткамі ад Длугаша, Стрыйкоўскага, Кромэра і інш. Найбольш важная другая частка. Але і тут толькі чацвёртая частка мае самастойны характар – нататкі з уласнага вопыту ці здабытыя ў архівах дакументы. Тым не менш усе гістарычныя творы Марціна і Яўхіма Бельскіх з’яўляюцца каштоўнай крыніцай інфармацыі аб мінулым ВКЛ.

Епіскап Вармінські **Марцін Кромэр** (1512 – ?) па даручэнні Жыгімонта II Аўгуста напісаў, а ў 1555 г. надрукаваў трактат «*Аб паходжанні і дзеяннях палякаў XXX кніг*». Гісторыя Польшчы, напісаная Кромэрам, мела дзяржаўны характар: стаяла на абароне агульнадзяржаўных інтарэсаў, супрацьстаяла як правінцыяльнаму сепаратызму (літоўскаму і прускаму), так і прывілеям шляхты. Аўтар давёў падзеі да 1506 г., да княжання Жыгімонта I Старога.

Твор Кромэра быў кампіляцыяй працаў Длугаша і Вапоўскага, але вельмі дасканалай. Кніга прызначалася для замежнага чытача, яна паказывала магутнасць Польшчы і яе гісторыі. Заслуга храніста ва ўвядзенні ў навуковы зварот больш за 100 дакументаў, а таксама звяртанне да самай старой польскай хронікі Гала Аноніма. Кромэр скампанаваў у адзіны твор шматлікія кавалкі гістарычных ведаў, аб’яднаўшы іх уласнай гістарычнай канцэпцыяй, змяніўшы многія традыцыйныя погляды, якія дагэтуль панавалі ў гістарыяграфіі.

У Польшчы і ВКЛ праца Кромэра была прынята варожа, таму што ўсхваляла касцёл і ўладу магнацкай алігархіі, асцярожна выказывалася да шырокіх правоў шляхты, непрыхільна ставілася да ВКЛ. Гэта моцна абурыла шляхту і магнатэрыю княства. На сеймах 1556 – 1557 гг., а потым на сейме 1563 – 1564 гг. супраць Кромэра выступіў М.Радзівіл Чорны. Пасля Люблінскай уніі гэтыя настроі паступова зніклі. У 1580 г. сейм выказаў Кромэру публічную падзяку.

**Аляксандр Гваньіні** (1534 – 1614 гг.) – гісторык, вайсковец, дзейнасць якога ў ВКЛ да канца не высветлена не толькі ў беларускай, але ў польскай і літоўскай гістарыяграфіі. Імя яго звязваюць з працай «*Апісанне еўрапейскай Сарматыі*» (1578 г.), прысвечанай каралю Стэфану Баторыю. Гэты вялікі твор, у якім налічваецца 203 лісты, багата ілюстраваны, складаецца з чатырох частак, дзе змешчаны гісторыя і геаграфія Польшчы, Літвы, Інфлянтаў, Прусіі, Масковіі і татар аж да часоў караля Генрыха Валуа. Скончваецца апісаннем пахавання Жыгімонта Аўгуста ў 1574 г.

Вядома, што Стрыйкоўскі абвінавачваў Гваньіні ў тым, што той прысвоіў сабе ягоны рукапіс «Сарматыі» і апублікаваў пад сваім прозвішчам. 14 ліпеня 1580 г. кароль Стэфан Баторый выдаў Стрыйкоўскаму дакумент, дзе сцвярджалася, што «Апісанне еўрапейскай Сарматыі» з’яўляецца яго літаратурнай уласнасцю. Большасць даследчыкаў лічаць, што менавіта гэтая абставіна стала прычынай выезду Гваньіні ў Швецыю. Але смерць Стрыйкоўскага, якая наступіла ў канцы 80-х – пачатку 90-х гг. XVI ст., дала магчымасць Гваньіні фактычна без перашкод карыстацца плагіятам.

**Барталамей Папроцкі** (каля 1543 – 1614 гг.) – польскі гісторык, паэт. Знакаміты як геральдык, аўтар першага польскага гербоўніка «*Гербы польскага рыцарства»,* дзе даецца паходжанне гербоў і інфармацыя аб некаторых родах. Папроцкі карыстаўся не толькі хронікамі, але і шматлікімі дакументамі, якія захоўваліся ў замках, кляштарах, часам сямейнымі хронікамі. Генезіс асобных гербаў і пачаткі шляхецкіх родаў прадстаўляў некрытычна. Верыў у старажытнарымскае паходжанне шляхты. 92 гербы выводзіў з-за мяжы і толькі 58 лічыў тутэйшымі. Некрытычна карыстаўся крыніцамі.

Твор падзелены на пяць кніг. Чацвёртая з іх прысвечана сімвалу ВКЛ – Пагоні, а таксама Гедзімінавічам і Ягелонам разам з хронікай іх панавання. Паколькі «з-за далёкасці і шырокасці не ўсіх мог знаць», даў толькі кароткія генеалагічныя інфармацыі аб найвыдатнейшых баярскіх родах, продкі якіх у 1413 г. у Гародлі прынялі

польскія гербы. Дадаў таксама кароткія ўзгадкі аб іншых сем'ях, галоўным чынам валынскіх. Усяго называе каля 130 прозвішчаў шляхты ВКЛ.

**4. Адлюстраванне гісторыі беларускіх зямель у нататках замежных дыпламатаў і падарожнікаў XV – XVII стст.** Адным з першых апісанняў Беларусі, зробленых замежнымі падарожнікамі, лічацца нататкі фламандца **Жылібера дэ Ланаа**. Камергер бургундскага герцага ў 1413 г. быў накіраваны паслом у Ноўгарад. Назад, у Францыю, ён вяртаўся праз Дынабург – Вільню – Трокі – Коўна – Мемель. На зваротным шляху сустракаўся з вялікім князем літоўскім Вітаўтам, атрымаў ад яго падарункі. У сваім кароткім і вельмі агульным апісанні адзначыў наяўнасць у жыхароў ВКЛ асобнай мовы і 12 епархій.

Большую інфармацыю аб Беларусі ў XV ст. аставілі два венецыянцы – пасол **Амброджа Кантарыні** і **Джозафата Барбара**. Магчыма, апошні тут не быў, а тэкст скампіляваў у Кантарыні (выдадзены ў 1543 г.). Кантарыні ў лютым 1477 г. праязджаў праз ВКЛ, накіроўваючыся з Масковіі ў Заходнюю Еўропу, а праз дзесяць гадоў апублікаваў свае ўражанні.

У XVI ст. рымскага папу наведаў рускі пасол Дзмітрый Герасімаў. Яго аповеды пра ВКЛ запісаў італьянскі гісторык **Паола Джовія Навакомскі**. Потым невядомы аўтар амаль слова ў слова паўтарыў звесткі, прыведзеныя Паола Джовія, у кнізе «*Данясенні аб Масковіі»* (1557 г.). Дарэчы, ў той час кампіляцыя не лічылася справай крамольнай. Напрыклад, рымскі папа **Пій II** паўтарыў апісанне ВКЛ, зробленае чэхам Геранімам. Той сцвярджаў, што на тэрыторыі Беларусі можна ездзіць толькі зімой, а замест грошай мясцовыя жыхары выкарыстоўваюць кавалачкі медзі і серабра.

Асабліва цікавыя звесткі пакінуў пасол Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Герберштэйн.

**Сігізмунд Герберштэйн** (1486 – 1566 гг.) нарадзіўся ў Штырыі, рос у асяроддзі славенцаў. Вучыўся ў Венскім універсітэце: у 16 гадоў атрымаў ступень бакалаўра. За ваенную службу Габсбургам быў прысвечаны ў рыцары. Займаўся дыпламатычнай справай.

У 1516 – 1517 гг. і 1526 – 1527 гг. ён двойчы праязджаў у Маскву і Ноўгарад. Вынікам гэтых падарожжаў стала кніга «*Записки о Московии»,* у якой асобны раздзел прысвечаны Беларусі – «Аб Літве». Аўтар пад Літвой разумеў ВКЛ. Ён пісаў: «Бліжэй за ўсіх да Масковіі Літва. Я гавару цяпер не пра адну толькі вобласць, але

аб краінах, якія да яе прылягаюць і разумеюцца пад агульнай назвай Літва. Яна цягнецца доўгай паласой ад горада Чаркасы, які знаходзіцца ля Барысфена (Дняпра), аж да Лівоніі». Раздзел пачынаецца з панегірыка Яўстафію Дашковічу, ад якога Герберштэйн даведаўся не толькі пра падрабязнасці набегу на Северскую зямлю, але і пра характар узаемадзеяння літоўскіх і крымскіх войскаў падчас набегу 1521 г., дэталі адносінаў чаркаскага ваяводы з крымскім ханам Мухамедам-Гірэем. Пра войны з Масковіяй у 1517 – 1518 гг. расказваў канцлер ВКЛ Ольбрахт Гаштольд, якому Герберштэйн прыпісвае і звесткі пра гандаль у Кіеве. У іншым месцы Герберштэйн называў беларускія землі Руссю, сцвярджаючы, што большай часткай Русі валодае вялікі князь маскоўскі, а астатнімі яе часткамі – вялікі літоўскі князь Жыгімонт. Паводле Герберштэйна, усе гарады на заходнім беразе Дняпра былі «падпарадкаваны каралю польскаму, тыя ж, што ляжаць па ўсходняму берагу, падуладны гаспадару Маскоўскаму, акрамя Дуброўны і Мсціслава, якія знаходзяцца пад уладай Літвы». Аўтар разглядаў рэкі Беларусі адносна іх прыналежнасці да розных басейнаў. Прыпяць, Тур і Бярэзіну ён адносіў да басейна Дняпра. Буг, Нёман і Нараў, паводле яго, цякуць на поўнач. Адзначыў такую адметную рысу Беларусі, як балоты, таксама называў яе «даволі лясістым краем». Праязджаючы з Вільні ў Полацк, ён часта бачыў «вялікія і нязмерна працяглыя лясы, што распасціраліся на 50 нямецкіх міляў». Дарогі былі блытаныя. Казальнікамі звычайна служылі капцы, на якія кожны вандроўнік павінен быў падкінуць камень або сухую галіну. Часам заломваліся сукі, рабіліся засечкі на дрэвах ці на абчэсаных камлях выпальваліся магнацкія гербы. Але разбойнікі ўстанаўлівалі лжэзнакі, каб завабіць абозы ў непраходныя нетры. Таму падарожжа па Беларусі, з Вільні да Полацка, здалося Герберштэйну не толькі цяжкім, але і небяспечным. Аўтар піша пра гарады. Закінутым падалося старажытнае Крэва. Піша пра «замак і горад драўляны» ў Гродне. Менск быў так умацаваны, што Міхал Глінскі, паўстаўшы ў 1508 г., толькі падыйшоў да яго і мусіў адступіць назад, каб потым напасці на іншыя гарады і крэпасці. Звяртае ўвагу на тое, што ў Барысаве Бярэзіна суднаходная.

Герберштэйн прыкмеціў, што праваслаўныя жыхары перамешаны з «чужымі, іншамоўнымі і іншавернымі плямёнамі». Аўтара здзіўляла бяспраўнае становішча прыгоннага сялянства і дробнай шляхты. «Народ там прыгнечаны цяжкім рабствам», – сцвярджаў ён. Пра мясцовую шляхту Герберштэйн пісаў так: «Калі ёй пагражае адкуль-небудзь вайна, і яна павінна абараняць сваю маёмасць

ад варожай сілы, то яна з’яўляецца на месца збору з вялікай пышнасцю, гатовая больш да самахвальства, чым да вайны, а па заканчэнні збору яна хутка разыходзіцца; тыя ж, хто застаецца, адпраўляюць дамоў лепшых коней і рыштунак... А магнаты, абавязаныя пасылаць за свой кошт вызначаную колькасць воінаў, адкупляюцца за грошы, якія даюць ваенаначальніку, і застаюцца дома... Сярод іх назіраецца такое самахвальства ва ўсіх учынках, што, відаць, яны не толькі карыстаюцца непамернай свабодай, але і злоўжываюць ёю».

Ёсць звесткі пра гаспадарку тагачаснай Беларусі. Пра Гарадзеншчыну Герберштэйн напісаў: «У тым княстве даволі добрыя ўраджаі, у адпаведнасці з прыродай той краіны». Сцвярджаў, што з Беларусі ў Гданьск, а адтуль у Нідэрланды адпраўлялі мёд, воск і паташ, а таксама смалу, збожжа і драўніну для пабудовы караблёў, быў сведкам таго, што з усходу сюды завозілі соль, скуры, футра і «доўгія белыя зубы звяроў, якія завуцца маржамі і жывуць у Паўночным моры». Як відаць з запісак Герберштэйна, беларускія купцы карысталіся ў гандлі з Маскоўскай дзяржавай прывілеямі: «Не ўсякаму купцу, акрамя літоўцаў, палякаў ці падначаленых іхняй уладзе, адкрыты свабодны доступ у Масковію». Дыпламат падае таксама спіс епіскапстваў, якія існавалі ў ВКЛ. Адзначае тры каталіцкія – Віленскае, Жамойцкае і Кіеўскае, і праваслаўныя Віленскае, Полацкае, Уладзімірскае, Луцкае, Пінскае, Холмскае і Перамышльскае. Называе двух найбольш знакамітых тагачасных палкаводцаў – Канстанціна Астрожскага і Міхала Глінскага. Герберштэйн падрабязна апісвае мяцеж апошняга супраць караля Жыгімонта І Старога.

Пазней за Герберштэйна, у другой палове XVI ст., пра Беларусь пісалі венецыянец **Рафаэль Барберыні** (1565 г.), польскі шляхціц з-пад Торуні **Кшыштаф Граеўскі** (1574 – 1575 гг.), якога магнаты кінулі ў турму, абвінавацІўшы ў шпіянажы на карысць Івана IV, паслы Свяшчэннай Рымскай імперыі **Ганс Кабенцль фон Просег** і князь **Даніэль фон Бухаў** (1575 г.), англійскі пасол **Джэрам Горсі** (1591 г.).

У канцы XVI ст. колькасць падарожнікаў рэзка ўзрасла. Праз тэрыторыю Беларусі праязджалі немец **Самуэль Кіхель** з Ульма, які вандраваў толькі па цікаўнасці (1586 г.), сакратар пасольства Ганзы да цара Барыса Гадунова **Іёган Брамбах** (1603 г.), шведскі дыпламат і гісторык **Пер Персан** (1620 г.), немец **Адам Эльшле-**

**гер** (Алеарый) (1647 г.), рэзідэнт Швецыі ў Расіі **Іёган дэ Родэс** (1655 г.), пасол Свяшчэннай Рымскай імперыі **Аўгусцін Майерберг** (1662 г.), англічанін на рускай службе **Сэмуэл Колінз** (1671 г.), курляндзец **Якаб Рэйтэнфельс** (1680 г.) і інш.

Большасць падарожнікаў называлі Беларусь Літвой або Руссю. Што датычыцца тэрміна «Белая Русь», то ў XV – XVI ст. ён ужываўся і да Уладзіміра-Суздальскага княства, і да Урала, і да Вялікага княства Літоўскага.

Для чужаземных падарожнікаў адметнымі рысамі ВКЛ былі суровыя зімы з маразамі і мноствам снегу, вялікая колькасць лясоў, рэчак і балотаў. Як правіла, яны скардзіліся на сцюжу.

Герберштэйн пісаў, што першага студзеня 1527 г., калі ён выехаў з Гродна ў м.Крынкі, «ударылі жорсткія маразы, а імклівы вецер, падобны віхуры, круціў і раскідваў снег так, што ад гэтага холаду памерзлі коні і сабакі». Іёган Корб пісаў пра неверагодную глыбіню снежных сумётаў, пра непраглядныя завеі ў канцы лютага 1698 г.

Падарожнікі добра апісалі беларускія рэкі і азёры. А.Маерберг падрабязна апісаў Днепр і яго прытокі. Шмат месца адведзена густым і непраходным лясам, расліннаму і жывёльнаму свету Беларусі.

Дарогі звычайна былі ў дрэнным стане. Чужаземцы скардзіліся аб гэтым. Д. фон Бухаў пісаў: «З-за вузкай дарогі (з Вільні ў Оршу) мы не змаглі карыстацца сваімі павозкамі і мусілі звярнуцца за дапамогай да татар, чые павозкі былі меншыя». Што датычыцца мастоў, то яны ў той час былі часовымі і трымаліся не на сваях, а на плоскіх суднах, напрыклад, у Оршы.

Падарожнікі зрабілі ў сваіх запісах апісанне сродкаў перадвіжэння, карчмоў, якія называліся Пачакай, Вясёлая, Зладзейка, Рым, Выгода. Засталося шмат звестак аб гарадах Беларусі: Мінску, Барысаве, Магілёве, Оршы, Полацку, Віцебску, Ваўкавыску, Пінску, Слоніме і інш. Іншаземцаў здзіўляла гасціннасць мясцовых жыхароў. Б.Танер пісаў: «Тутэйшыя жыхары вельмі гасцінныя; мы прабылі восем дзён, і яны ўдосталь забяспечвалі нас living рознымі прыпасамі: півам, мёдам, водкай, віном, шчодра кармілі ўсіх нашых коней».

У цэлым замежныя падарожнікі заставілі шмат запісаў аб гаспадарчым жыцці, гандлі, гістарычных помніках і гарадской архітэктуры ВКЛ.

## Праверачны тэст

***I. Дайце вызначэнне паняццям.***

1. «Венеды».
2. Летапіс.
3. Правідэнцыялізм.
4. Сага.

***II. Выберыце правільны адказ.***

1. Аб неўрах упершыню напісаў
   А) Страбон
   Б) Герадот
   В) Пампоній Мела
   Г) Марцін Капела.
2. С.Я.Рассадзін лакалізаваў андрафагаў у басейне
   А) р.Сулы
   Б) р.Росі
   В) р.Гарыні
   Г) р.Бярэзіны.
3. Аб бастарнах пісаў
   А) Тацыт
   Б) Страбон
   В) Герадот
   Г) Іардан.
4. У арабскіх крыніцах пад Славіяй разумеецца
   А) Ноўгарад
   Б) Полацк
   В) Наваградак
   Г) Кіеў.
5. Першую рэдакцыю «Аповесці мінулых гадоў» зрабіў
   А) Нестар
   Б) Сільвестр
   В) Уладзімір Манамах
   Г) Нікан.
6. «Аповесць мінулых гадоў» адносіцца да
   А) антычнай гістарыяграфіі
   Б) крытычнай школы
   В) школы базавай верыфікацыі
   Г) сярэднявечнай гістарыяграфіі.
7. Доказам існавання летапісання ў Полацку з'яўляецца фрагмент Кіеўскага летапісу аб падзеях у Полацкай зямлі ў
   А) 1119 г.
   Б) 1127 г.
   В) 1159 г.
   Г) 1163 г.

8. Барацьбу Полацкага княства з Ордэнам мечаносцаў першым апісаў
А) Генрых Латвійскі
Б) Барталемей Хёнэке
В) Герман Вартберг
Г) Віганд з Марбурга.

9. Аб княжанні Брачыслава Ізяславіча ў Кіеве апавядае
А) «Аповесць мінулых гадоў»
Б) «Эймундава сага»
В) «Сага пра Торвальда Вандроўніка»
Г) «Сага пра Торвальда Вялікага Падарожніка».

10. Да ВКЛ адмоўна ставіўся
А) Я.Длугаш
Б) Мацей з Мяхова
В) Б.Вапоўскі
Г) М.Кромер.

11. Першым ідэю аб аўтахтоннасці славян выказаў
А) М.Бельскі
Б) Мацей з Мяхова
В) Б.Вапоўскі
Г) М.Кромер.

12. Першае апісанне Беларусі было зроблена
А) Джозафата Барбарам
Б) Амброджа Кантарыні
В) Паола Навакомскім
Г) Жыліберам дэ Ланаа.

13. Аўтарам «Запісак аб Масковіі» з'яўляецца
А) Паола Навакомскі
Б) С.Герберштэйн
В) А.Гваньіні
Г) М.Кромер.

***III. Складзіце пералік.***

1. Метадалагічныя прыёмы антычнай гістарыяграфіі (паводле Палібія): ...

2. Лівонскія хронікі: ...

3. Замежныя падарожнікі і дыпламаты, якія праязджалі праз Беларусь у другой палове XVI ст.: ...

# Тэма 3. Развіццё гістарычных ведаў у другой палове XVI – XVIII стст.

**План**

1. Беларуска-літоўскія летапісы XV – XVI стст. і іх ідэйна-палітычная накіраванасць.

2. Гісторыя Беларусі ў мясцовых летапісах і хроніках XVII – XVIII стст.

3. Адлюстраванне гістарычных падзей на тэрыторыі Беларусі ў мемуарнай літаратуры XVII – XVIII стст.

4. Мацей Стрыйкоўскі – першы гістарыёграф Вялікага княства Літоўскага.

5. Развіццё гістарычнай думкі ў ВКЛ у XVII – першай палове XVIII ст.

6. Гістарычныя даследаванні ў ВКЛ у другой палове XVIII ст.

7. «Манархічная» школа А.Нарушэвіча.

**Рэкамедаваная літаратура**


1. Беларускі фальклор: энцыклапедыя: У 2 т. – Мн.: БелЭн, 2005. – Т. 1. – 768 с.

2. Беларускія летапісы і хронікі / укладанне У.Арлова. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 1997. – С. 25 – 428.

3. Беларусы: У 8 т. – Мн.: Беларуская навука, 1999. – Т.3: Гісторыя этналагічнага вывучэння. – С. 30 – 50.

4. Бирало, А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII – середине XVIII в. / А.А.Бірало. – Мн.: БГУ, 1971. – 179 с.

5. Бирало, А.А. Философские проблемы в науке эпохи Просвещения в Белоруссии и Литве / А.А.Бірало. – Мн.: БГУ, 1979. – 160 с.

6. Блинова, Т.Б. Иезуиты в Беларуси. Роль иезуитов в организации образования и просвещения / Т.Б.Блінова. – Гродно: ГрГУ, 2002. – 427 с.

7. Вайтовіч, Н.Т. Баркулабаўскі летапіс / Н.Т.Вайтовіч. – Мн.: Навука і тэхніка, 1977.

8. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2 т. – Мн.: БелЭн, 2005. – Т. 1. – 688 с.

9. Дзяржаўнасць і права Беларусі са старажытных часоў да канца XVI ст. Ч. 1: Гістарыяграфія гісторыі дзяржавы і права феадальнай Беларусі / Я.А.Юхо. – Мн.: Серыя «Гісторыя Бацькаўшчыны», дадатак да часопіса «Права і эканоміка», 2001. – 104 с.

10. Капыскі, З.Ю. Беларуска-літоўскія летапісы як помнікі гістарычнай думкі / З.Ю.Капыскі // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. – 1986. – № 4. – С. 80 – 88.

11. Караў, Д.У. Беларуская і польская гістарыяграфія ў XVI – XX стст. / Д.У.Караў // Беларусика = Albaruthenika: Кн. 3: Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне. – Мн.: Навука і тэхніка, 1994. – С. 242 – 251.

12. Копысский, З.Ю. Историография БССР (эпоха феодализма) / З.Ю.Копысский, В.В.Чепко. – Мн.: Университетское, 1986. – С. 16 – 20.

13. Лабынцаў, Ю.А. Пачатае Скарынам: Бел. друк. літ. эпохі Рэнесансу / Ю.А.Лабынцаў. – Мн.: Маст. літ., 1990. – 333 с.

14. Мальдзіс, А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст.: Нарысы быту і звычаяў / А.В.Мальдзіс. – Мн.: Маст. літ., 1982. – 256 с.

15. Мальдзіс, А. Календары, выдадзеныя ў XVIII ст. / А.Мальдзіс // Книговедение в Белоруссии. – Мн., 1977.

16. Мальдзіс, А. Першыя календары Беларусі / А.Мальдзіс // ЛіМ. – 1970. – 7 жн.

17. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыкл. даведнік. – Мн.: БелЭн, 1995. – 671 с.

18. Подокшин, С.А. Философия истории М. Стрыйковского / С.А.Подокшин // Беларусика = Albaruthenika: Кн. 3: Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне. – Мн.: Навука і тэхніка, 1994. – С. 287 – 290.

19. Рогов, А.И. Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения. (Стрыйковский и его хроника) / А.И.Рогов. – М.: Наука, 1966. – 310 с.

20. Свяжынскі, У.М. «Гістарычныя запіскі» Фёдара Еўлашэўскага / У.М.Свяжынскі. – Мн.: Навука і тэхніка, 1990.

21. Семянчук, А.А. Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі: вучэб. дапам. / А.А.Семянчук. – Гродна: ГрДУ, 2000. – 161 с.

22. Улащик, Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания / Н.Н.Улащик. – М.:Наука, 1985. – 262 с.

23. Улащик, Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода / Н.Н.Улащик. – М.: Наука, 1973. – С. 16 – 62.

24. Чамярыцкі, В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры / В.А.Чамярыцкі. – Мн.:Навука і тэхніка, 1969. – 191 с.

25. Ючас, М.А. Хроника Быховца / М.А.Ючас // Летописи и хроники. – М.: Наука, 1974. – С. 220 – 231.

26. Юхо, Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі: вучэб. дапам. / Я.А.Юхо. – Мн.: Універсітэцкае, 1992. – С. 4 – 17.

**Тэматыка рэфератаў**

1. Вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання ў беларускай гістарыяграфіі.

2. Даследаванне гісторыі ў часы Стэфана Баторыя.

3. Выданне каляндароў у Беларусі ў XVIII ст.

**1. Беларуска-літоўскія летапісы XV – XVI стст. і іх ідэйна-палітычная накіраванасць.** Беларуска-літоўскімі лічацца летапісы, у якіх выкладаецца гісторыя ВКЛ і якія былі складзены на тэрыторыі гэтай дзяржавы. Агульнадзяржаўнае галоўным чынам па сваёй тэматыцы і канцэпцыях летапісанне ў ВКЛ у XIV – XVI стст. насіла пераважна прыватна-арыстакратычны або царкоўны характар і вельмі адрознівалася ад больш цэнтралізаванага рускага летапісання.

Тэрмін «беларуска-літоўскія летапісы» быў уведзены ў навуковы зварот ў 1969 г. М.М.Улашчыкам і В.А.Чамярыцкім. Вядомы беларускі гісторык М.М.Улашчык падрыхтаваў да друку XXXII і XXXV тамы «*Полного собрания русских летописей*». На сённяшні дзень гэта самае поўнае выданне ўсіх вядомых беларуска-літоўскіх летапісаў. Таксама Улашчык у сваёй апошняй манаграфіі «*Введение в изучение белорусско-литовского летописания*» (1985 г.) правёў крыніцазнаўчы і археаграфічны аналіз усіх вядомых спісаў. Значны ўклад у вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання ўнёс В.А.Чамярыцкі ў манаграфіі «*Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў*» (1969 г.). Аўтар раскрыў паходжанне летапісаў, зрабіў іх класіфікацыю і літаратуразнаўчы аналіз. Пад яго рэдакцыяй у серыі «Беларускі кнігазбор» выйшла кніга «*Беларускія летапісы і хронікі*» (1997 г.).

Згодна з класіфікацыяй, прапанаванай А.А.Семянчук, беларуска-літоўскае летапісанне падзяляецца на падставе асноўных летапісных зводаў на тры этапы: Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г., Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага, Хроніка Быхаўца.

Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г. лічыцца першым агульнадзяржаўным летапісным зводам ВКЛ. Ён заснаваны на летапісы, складзеным на мяжы 20 – 30-х гг. XIV ст. у Смаленску, магчыма, пры двары мітрапаліта Герасіма, які з’яўляўся прыхільнікам палітыкі князя Вітаўта.

Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г. раскрывае гістарычныя падзеі з IX ст. да 1446 г. Звесткі запазычаны са старажытнарускіх летапісаў і твораў, напісаных у Кіеве, Смаленску, Маскве, Вільні.

Неад’емнай часткай звода з’яўляецца «*Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»* і «*Пахвала Вітаўту».*

Тэкст Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. складаўся паступова. Беларускі даследчык Ю.А.Заяц адзначыў тэндэнцыйнасць адбору аўтарам звестак са старажытнарускіх крыніцаў, што было звязана з грамадзянскай вайной 30-х гг. XV ст. і расколам ВКЛ: было небяспечна ўзгадваць аб дзяржаўнай самастойнасці Полацкай зямлі ў X – XIII стст. Таксама летапісец не ўключыў звесткі аб рассяленні ўсходніх славян, аб паходзе Аскольда і Дзіра на Царград, выключана інфармацыя пра паходы кіеўскіх князёў на яцвягаў, радзімічаў, балгар, харватаў, палякаў. Аўтар не праявіў цікавасці да асуджэння княжацкіх міжусобіцаў, што было характэрна для «Аповесці мінулых гадоў».

Як і ў «Аповесці...», аўтарам Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. кіравала ідэя незалежнасці радзімы ад іншаземцаў. Гэтая пазіцыя прасочваецца ў запісах аб бітве на Вожы (1378 г.), пра Кулікоўскую бітву (1380 г.), аб прыняцці Смаленскам князя Юрыя Святаславіча (1401 г.). Тагачасная рэчаіснасць заставіла аўтара прасачыць тры сюжэты: татарскае нашэсце, дзейнасць вялікіх князёў маскоўскіх і гістарычныя падзеі ў ВКЛ, якія падаюцца ў цеснай сувязі з гісторыяй Маскоўскай Русі і ў пераемнасці з гісторыяй Кіеўскай Русі.

У «Летапісцы...» раскрываецца палітычная гісторыя ВКЛ амаль за стагоддзе: ад смерці Гедыміна па смерць Вітаўта. У форме суцэльнага апавядання прадстаўлены змова Альгерда і Кейстута супраць Яўнуція, дынастычная вайна паміж Вітаўтам і Ягайлам, грамадзянская вайна паміж Свідрыгайлам Альгердавічам і Жыгімонтам Кейстутавічам. Але па сваёй структуры летапісны звод не мае цэласнага характару. У заключнай частцы твора падзеі пераносяцца на Падолію (ад бітвы на р.Сінія Воды па паход Вітаўта ў гэты рэгіён).

У Беларуска-літоўскім летапісу 1446 г. абгрунтоўваецца заканамернасць палітычнага аб’яднання літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх земляў у складзе ВКЛ і цэнтралізатарская палітыка літоўскіх князёў, выяўляецца імкненне перадавых колаў тагачаснага грамадства асэнсаваць гістарычную ролю ВКЛ ва Усходняй Еўропе. Адчуваецца ўплыў канцэпцыі правідэнцыялізму, аўтар адбіраў для пераказу толькі тыя факты і падзеі, якія адлюстроўвалі дзейнасць князёў, ваенаначальнікаў, найвышэйшага духавенства. Але ў параўнанні са старажытнарускім летапісаннем прасочваецца больш свецкі характар.

Змена культурна-палітычнай сітуацыі ў ВКЛ напачатку XVI ст. прывяла да таго, што беларуска-літоўскі звод ужо не задавальняў кіруючыя колы краіны. З'яўленне «*Хронікі Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага»* было выклікана новымі грамадска-палітычнымі тэндэнцыямі, патрэбай умацавання міжнароднага становішча ВКЛ, гістарычнага абгрунтавання яго права на беларускія і ўкраінскія землі, імкненнем даказаць высакароднае паходжанне кіруючай княжацкай дынастыі.

Нельга не адзначыць уплыў рэнесансавых ідэяў. У XVI ст. у Еўропе ствараюцца велічныя і патрыятычна накіраваныя гісторыі краінаў і народаў. Прадстаўнікі асобных арыстакратычных фаміліяў шукалі славутых продкаў. Напрыклад, у Польшчы ў XVI – XVII стст. была распаўсюджана канцэпцыя паходжання польскай шляхты ад старажытных сарматаў, у Венгрыі – ад гунаў.

Кіруючыя колы ВКЛ ужо не былі задаволены Беларуска-літоўскім летапісам 1446 г. У ім гісторыя ВКЛ з'яўлялася арганічным працягам гісторыі Кіеўскай Русі, а літоўскія князі выступалі носьбітамі агульнарускіх тэндэнцыяў. Арыстакратыя краіны больш цікавілася мінулым сваёй радзімы – уласна літоўскіх земляў – генэзісам ВКЛ.

«Хроніка ВКЛ» складзена ў 20-я гг. XVI ст., магчыма ў Вільні. Аўтар гэтага летапіснага зводу быў набліжаным да магнатаў Гаштольдаў. Хроніка ВКЛ раскрывае гісторыю дзяржавы ад князя Палемона да Гедыміна.

У аснову летапіса пакладзена легенда пра паходжанне літоўскіх князёў ад рымскіх арыстакратаў. У І-м ст. н.э. 500 сем'яў рымскай знаці, ратуючыся ад жорсткасцяў імператара Нерона, уцяклі марскім шляхам у Жмудзь. На чале эмігрантаў стаяў Палемон, або Публій Лібон. Яго сын Кунас заклаў дынастыю літоўскіх князёў, прадстаўніком якой быў заснавальнік ВКЛ Міндоўг. Нават слова «Літва» выводзіцца ад лацінскага «lituus» – труба, сігнальны ваенны ражок.

Аўтар тлумачыць уладу літоўскіх князёў на Русі наступствамі мангола-татарскага нашэсця і шлюбамі з дачкамі мясцовых князёў. Прасочваецца антыпольская накіраванасць летапіснага зводу: Ягайла называецца клятвапарушальнікам, забойцам.

Вядома, што легенды служылі канкрэтным палітычным мэтам. Да таго ж гэты міф сведчыў аб патрэбе этнічнага самаакрэслення літоўцаў. Рымскія продкі ўзносілі літоўцаў над іншымі народамі, цешылі іх нацыянальны гонар. Згодна з легендай, літоўцы вялі свой радавод ад каталіцкага Захаду і не мелі нічога супольнага

з Усходам (Руссю). Гэта падкрэсліў **Міхалон Літвін** (магчыма, Вянцлаў Мікалаевіч, магчыма, Міхайла Цішкевіч) у трактаце «*Аб норавах татар, літоўцаў і маскавіцян»,* які быў напісаны да 1550 г., а выйшаў у свет у 1615 г.

Літвін свядома выбраў манархічную мадэль паходжання літоўскай арыстакратыі – ад Юлія Цэзара, які быццам бы захапіў Літву і зрабіў яе правінцыяй Рыма. У якасці доказу ён прывёў падабенства лацінскай і літоўскай моваў. Таксама Літвін абураецца жорсткім стаўленнем шляхты да сялян і чэлядзі нявольнай, крытыкуе тагачасныя законы, паводле якіх сяляне і дробная шляхта не мелі права без згоды пана распараджацца сваёй маёмасцю, крытыкуе шляхту, якая не абараняла дзяржаву ад крымскіх татар, а бавіла час у корчмах.

Трэцім этапам у развіцці агульнадзяржаўнага летапісання лічыцца «*Хроніка Быхаўца».* Яна была складзена ў сярэдзіне XVI ст. і дайшла ў адзіным спісе канца XVII – пачатку XVIII ст. Пэўны час крыніца лічылася фальсіфікатам, які прыпісвалі гісторыку Тэадору Нарбуту (1784 – 1864 гг.). Ён упершыню выдаў «Хроніку Быхаўца» ў серыі «Помнікі літоўскай гісторыі» (1846 г.), пасля чаго рукапіс бясследна знік. Гэтая акалічнасць, а таксама тое, што тэкст хронікі ўтрымлівае супярэчнасці і анахранізмы, прывялі да абвінавачвання Нарбута ў фальсіфікацыі крыніцаў. Аднак большасць расійскіх, беларускіх і польскіх гісторыкаў даказалі адваротнае. За некалькі гадоў перад Нарбутам урывак з хронікі надрукаваў настаўнік Віленскай гімназіі Г.Клімашэўскі. Ён чытаў летапісны звод у маёнтку шляхціца А.Быхаўца «Магілёўцы» (сучасная в.Магілёўцы Пружанскага раёна) і апублікаваў фрагмент аб забойстве вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча ў 1440 г. Быхавец у 1834 г. пераслаў рукапіс хронікі Нарбуту, які выкарыстаў яго пры напісанні «Старажытнай гісторыі літоўскага народа».

Другі раз «Хроніка Быхаўца» была апублікавана ў 1907 г. у XVII томе Поўнага сбору рускіх летапісаў. Улашчык даказаў, што ў дадзеным летапісу не хапае толькі 10 % тэксту, а складзены ён быў у 30-я гг. XVI ст. аўтарам, блізкім да магнатаў Гаштольдаў і Алелькавічаў.

«Хроніка...» пачынаецца з апісання бегства «рымлян», праўда, Палямон называецца Апалонам, а завяршаецца разгромам крымскіх татар пад Клецкам (1506 г.). Дамінуючая тэма твора – ваенна-патрыятычная, таму аўтар падкрэсліў факты тэрытарыяльнага росту ВКЛ, усхваляў знешнюю палітыку Вітаўта, яго ролю ў Грунвальдскай бітве. Адчувальна антыпольская накіраванасць вык-

ладзеных падзеяў. Заходняя суседка ВКЛ падаецца галоўным ворагам яго незалежнасці. Паколькі «Хроніка Быхаўца» стваралася ў перадлюблінскі перыяд, то аўтар высока ацэньваў ролю беларуска-літоўскай шляхты ў гісторыі краіны, выказываў заклапочанасць яе лёсам.

Агульнадзяржаўныя па сваім характары летапісы і хронікі з'яўляюцца беларуска-літоўскімі па змесце. Гэтая асаблівасць сведчыць пра агульнасць гістарычных лёсаў двух народаў.

**2. Гісторыя Беларусі ў мясцовых летапісах і хроніках XVII – XVIII стст.** Унікальныя звесткі аб мінулым Беларусі змяшчаюць мясцовыя летапісы і хронікі. Сярод іх *Баркулабаўская хроніка,* або *Баркулабаўскі летапіс*. Гэты твор быў складзены ў м.Баркулабава (Быхаўскі раён) у пачатку XVII ст. Аўтарам, магчыма, з'яўляецца мясцовы праваслаўны святар Фёдар Філіпавіч Магілёвец.

Летапіс пачынаецца са звестак пра сойм 1545 г. у Брэсце, пабудову ў 1526 г. Магілёўскага замка. Затым назіраецца адзінаццацігадовы перапынак. Больш сістэматызавана выкладзены падзеі з 1563 г. (захоп Іванам IV Полацка) і да 1608 г. У канцы летапіса ёсць пазнейшы допіс невядомага аўтара аб паходзе караля Уладзіслава IV Вазы на Смаленск у вайне 1632 – 1634 гг.

Баркулабаўскі летапіс змяшчае ўнікальныя звесткі па гісторыі Усходняй Беларусі: інфармацыя пра асобныя ваенна-гістарычныя падзеі, па гісторыі беларускай культуры і праваслаўнай царквы, пра гістарычных асобаў, у т.л. двух Ілжэдзмітрыяў, пра ўзнікненне м.Баркулабава.

Разгорнута апісана Берасцейская царкоўная унія. Магчыма, аўтар быў удзельнікам ІІ-га Берасцейскага царкоўнага сабора 1596 г. і абараняў інтарэсы праваслаўнага насельніцтва. Асноўнымі крыніцамі для летапіса сталі асабістыя назіранні і ўспаміны аўтара, выкладзеныя ў яркіх эмацыянальных замалёўках жыцця і побыту беларускай вёскі ў цяжкія гады ваенных ліхалеццяў, розных стыхійных бедстваў. Летапісец асвятляў падзеі з патрыятычных пазіцыяў. Ён асуджаў дзеянні ўкраінскіх казакаў, якія «вялікую шкоду чынілі... горш, чым злыя непрыяцелі».

У твор уключаны ліст Івана IV да Стафана Баторыя 1580 г., грамата Жыгімонта III Вазы 1592 г., тэкст «Універсала рокашу 1606 г.».

Помнікам гарадскога летапісання XVIII ст. з'яўляецца *Віцебскі летапіс*. Гэты твор быў складзены ў 1768 г. на польскай мове жыхаром Віцебска Стэфанам Гаўрылавічам Аверкам на аснове летапісу Міхала Панцырнага (звесткі датаваны 896 – 1709 гг.), кароткіх

гістарычных запісаў Яна Чарноўскага (1601 – 1633 гг.) і Гаўрылы Аверкі (1733 – 1757 гг.), а таксама аўтарскіх матэрыялаў.

Летапіс носіць кампіляцыйны характар, складаецца пераважна з кароткіх сухіх паведамленняў, месцамі нелагічна размешчаных. Звесткі аб гістарычных падзеях запазычаны з польскіх хронік. Найбольшую каштоўнасць уяўляе арыгінальная інфармацыя па айчыннай гісторыі, асабліва тая, якая датычыцца ваенна-палітычных падзеяў канца XVII – пачатку XVIII стст.

Мэта аўтараў – рэгістрацыя фактаў і падзеяў. Але яны абмежаваны гісторыяй Віцебска ў дзейнасці каралёў Рэчы Паспалітай і войнах. Таму летапіс зафіксаваў амаль усё: пастаўкі харчавання, пастой войскаў, удзел гараджан у бітвах. Таксама адзначаны выпадкі пажараў і эпідэміяў.

Апошнім мясцовым беларуска-літоўскім зводам з’яўляецца *Магілёўская хроніка*. Яна была складзена ў Магілёве на працягу XIII – XIX стст. купецкім старастам і лаўнікам Трафімам Раманавічам Суртам і рэгентам канцылярыі Юрыем Трубніцкім, прадоўжана яго сынам Аляксандрам і ўнукам Міхаілам.

Найбольшую навуковую і гістарычна-літаратурную каштоўнасць мае частка, напісаная першымі двума храністамі. Крыніцамі паслужылі запісы і ўспаміны сучаснікаў, матэрыялы магілёўскага архіва, хронікі Гваньіні і Стрыйкоўскага, Кіеўскі сінопсіс, асабістыя назіранні аўтараў.

Хроніка ўсебакова адлюстроўвае жыццё Магілёва. У цэнтры ўвагі аўтараў – справы і клопаты гараджан у сувязі са знешнімі падзеямі. Запісы аб II-й Паўночнай вайне (1700 – 1721 гг.) паказваюць цяжкае становішча горада і яго жыхароў. Створаны вобразы Пятра I, Карла XII, Меньшыкава, Мазепы і інш.

Многія старонкі хронікі прасякнуты сацыяльным падтэкстам, спачуваннем простаму чалавеку. Аўтары не страцілі сувязі з народнымі традыцыямі і абапіраліся на беларускую культурную спадчыну.

Таксама ў хроніцы змешчаны літаратурныя творы першай паловы XVII ст. (вершаваны пасквіль на кардынала М.Радзяёўскага і караля Аўгуста II Моцнага, алегарычная сатыра «Карнавал іншаземцаў у Польшчы» і інш.).

**3. Адлюстраванне гістарычных падзеяў на тэрыторыі Беларусі ў мемуарнай літаратуры XVII – XVIII стст.** Помнікам эпістalярнай літаратуры лічацца *Пісьмы Ф.Кміты-Чарнабыльскага*.

**Філон Сямёнавіч Кміта-Чарнабыльскі** (1530 – 1587 гг.) паходзіў са шляхецкага роду Кмітаў, аселага ў Кіеўскім ваяводстве. Прымаў актыўны ўдзел у Лівонскай вайне, за што атрымаў ад Жыгімонта II Аўгуста ў вечнае карыстанне Чарнабыльскае ўладанне і Аршанскае староства. У 1580 г. прызначаны камендантам крэпасці Вялікія Лукі.

Да нашага часу дайшло 30 лістоў, якія Кміта-Чарнабыльскі дасылаў з Оршы ў Вільню членам паны-рады ВКЛ. Першы ліст датуецца 1573 г., а апошні – 1574 г. Гэта службовыя данясенні пра ваенна-палітычную сітуацыю на ўсходніх межах краіны. Яны раскрываюць становішча ў Маскоўскай дзяржаве, планы Івана IV, руска-татарскія адносіны і інш. У некаторых лістах аўтар характарызуе ўнутрыпалітычнае жыццё Рэчы Паспалітай, закранае вострыя сацыяльныя праблемы. Асобна вылучаюцца лісты да трокскага кашталяна Я.Валовіча, у якіх выразна паўстае асоба аўтара, яго індывідуальны стыль, адлюстраваныя жыццё і побыт служылай шляхты. Лісты напісаны на старабеларускай мове з выкарыстаннем прыказак і прымавак, народных сродкаў гумару і сатыры.

Мемуары на тэрыторыі Беларусі з’явіліся ў канцы XVI – першай палове XVII ст. і былі прадстаўлены ў асноўным «дыярыушамі», г.зн. дзённікамі. Іх стваральнікі – прадстаўнікі шляхецкага саслоўя, таму яны адлюстроўвалі факты свайго гаспадарчага і асабістага жыцця, а таксама найбольш важныя палітычныя падзеі.

Звесткі пра асобныя гістарычныя падзеі XVI – XVII стст. утрымлівае *Дзённік* Фёдара Еўлашоўскага.

**Фёдар Міхайлавіч Еўлашоўскі** (1546 – пасля 1616 г.) нарадзіўся ў Ляхавічах у праваслаўнай шляхецкай сям'і. Шляхам самаадукацыі яшчэ ў юнацтве набыў глыбокія веды па матэматыцы, справаводстве і юрыспрудэнцыі. З 18 гадоў пачаў самастойнае жыццё. Магнаты (М.Радзівіл, Я.Хадкевіч, К.Астрожскі) даручалі яму весці судовыя справы. У 1576 г. быў выбраны паслом ад шляхты Навагрудскага павета на Варшаўскі вальны сейм, а ў 1592 г. – падсудкам навагрудскага земскага суда.

Аўтар пачаў пісаць мемуары ў 1603 г. і завяршыў іх у 1604 г., магчыма, пад уплывам дыярыуша М.К.Радзівіла Сіроткі «Паломніцтва да святой зямлі». Мемуары носяць аўтабіяграфічны характар, факты ў іх пададзены ў строгай храналагічнай паслядоўнасці. Аўтар імкнуўся пакінуць нашчадкам звесткі пра сваё жыццё, асабістыя ўражанні ад грамадска-палітычных падзеяў. Ён звярнуў увагу на асобныя бітвы Лівонскай вайны, прыёмы каралямі Рэчы Паспалітай замежных паслоў, заключэнне Люблінскай уніі, выбары

каралёў. Дэталёва апісана паўстанне С.Налівайкі (1595 – 1596 гг.). Аўтар спачуваў казакам, але асудзіў грабяжы і тэрор паўстанцаў.

Праўда, Еўлашоўскі не праявіў цікавасці да «вялікай» палітыкі, бо лічыў яе прэрагатывай магнатаў. Закранаючы некаторыя аспекты палітычнага жыцця, сваю абыякавасць ён тлумачыў тым, што не мае намеру паўтараць сказанае іншымі людзьмі. Мемуары сведчаць аб памяркоўным лібералізме аўтара, рэлігійнай верацярпімасці, яго мясцовым патрыятызме. Еўлашоўскі ганарыўся ВКЛ і крытычна ставіўся да Польшчы.

«Успаміны» Еўлашоўскага – своеасаблівы зборнік цікавых, месцамі разгорнутых бытавых навел, у цэнтры якіх рэальны чалавек з уласцівымі яму рысамі характару і псіхалогіяй. Перад чытачом паўстае вобраз самога аўтара – прыкладнага шляхціца, прыкладнага сем'яніна, прыкладнага сына.

Каштоўнасць уяўляе *Дыярыуш* Афанасія Філіповіча.

**Афанасій Філіповіч** (каля 1595 – 1648 гг.) – пісьменнік-публіцыст, палітычны і царкоўны дзеяч. Выхадзец са шляхецкай сям'і. Меў добрую адукацыю. У 1622 г. канцлер ВКЛ Л.Сапега прызначыў яго выхавацелем Я.Ф.Лубы, якога польскія прыдворныя выдавалі за прэтэндэнта на рускі трон. Правёў жыццё ў манастырах. У 1637 – 1638 гг. быў у рускага цара, сведчыў аб цяжкім становішчы праваслаўных у Беларусі і ва Украіне. Расстраляны па абвінавачванні ў дапамозе казакам Б.Хмельніцкага. Кананізаваны праваслаўнай царквой.

У 1646 г. выйшаў зборнік публіцыстыкі Філіповіча – «Дыярыуш». Аўтар змясціў свае падарожныя і тлумачальныя запіскі, успаміны і дзённікі, аўтабіяграфічны нарыс, легенды і містычныя прывіды, пасланні і лісты, выкрывальныя прамовы, канспектыўныя накіды асобных артыкулаў, філасофскія трактаты. Філіповіч выступаў за адраджэнне праваслаўнай царквы і саюз з Расіяй, крытыкаваў палітыку Рэчы Паспалітай і магнатаў краіны.

Гістарычнае значэнне мае «*Дзённік Люблінскага сейма 1569 г.*», у якім зроблены запіс перамоваў паміж літоўскай і польскай дэлегацыямі. У творы раскрываецца напружаная сітуацыя падчас заключэння Люблінскай уніі.

Вышэйназваныя творы прадоўжылі традыцыі беларуска-літоўскага летапісання, стварылі шырокую панараму тагачаснага грамадска-палітычнага жыцця, ахарактарызавалі многіх гістарычных асобаў, паказалі жыццё розных слаёў грамадства.

Першымі мемуарнымі дыярыушамі на польскай мове, складзенымі на тэрыторыі Беларусі, з'яўляюцца «*Дыярыушы*» Самуіла Маскевіча і Багуслава Маскевіча.

**Самуіл Іванавіч Маскевіч** (1580 – 1642 гг.) нарадзіўся ў в.Сэрвач на Навагрудчыне ў шляхецкай сям'і. Адукацыю атрымаў у Навагрудку. У перапынках паміж вайсковай службай служыў пры дварах маганатаў А.Вішнявецкага і Радзівілаў. У 1617 – 1618 гг. быў выбраны дэпутатам Галоўнага Трыбунала ВКЛ ад Навагрудскага павета, потым займаў пасаду навагрудскага земскага пісара. Шмат падарожнічаў.

«Дыярыуш» С.Маскевіча ахоплівае падзеі з 1594 па 1621 гг. Аўтар пісаў на падставе ўласных успамінаў, а не па свежых слядах падзеяў. Маскевіч аднолькава праўдзіва характарызуе і сваіх сябраў, і сваіх ворагаў. Падрабязна апісваючы аблогу Смаленска, аўтар адзначыў мужнасць абаронцаў горада, асабліва яго ваяводу М.Шэйна, крытычна ставіўся да дзеянняў ваенаначальнікаў Рэчы Паспалітай.

У «Дыярыушы» падрабязна раскрыты побыт маскоўскіх баяр, майстэрства рамеснікаў. Аўтару імпанавалі меркаванні расіян наконт польскіх шляхецкіх вольнасцяў як шляхецкага свавольства. Значнае месца адводзіцца паказу некаторых рысаў жыцця рускага сялянства, яго рэакцыі на прыход войска Рэчы Паспалітай (вайна 1609 – 1618 гг.). С.Маскевіч справядліва падкрэсліў, што войны выклікалі жорсткасць у простых людзей і іх помсту.

Відавочна, аўтар крытычна ставіўся да самога сябе. Будучы прадстаўніком засцянковай шляхты, ён турбаваўся пра ўласны матэрыяльны дабрабыт, а вырашэнне пытанняў вялікай палітыкі перакладаў на магнатаў. Паколькі аўтар вызнаваў кальвінізм, то ўсе падзеі апісаны ім аб'ектыўна, без палітычнай і рэлігійнай перадузятасці.

**Багуслаў Казімір Маскевіч** (1625 – 1683 гг.) нарадзіўся ў в.Сэрвач на Навагрудчыне ў шляхецкай сям'і. Адукацыю атрымаў у Навагрудку. Служыў пры дварах харунжага ВКЛ Б.Радзівіла, потым у люблінскага кашталяна Ф.Забжыдоўскага на Пружаншчыне. У 1646 – 1648 гг. знаходзіўся ў войску І.Вішнявецкага, у складзе якога пабываў у Запарожскай Сечы. У 1650 г. пакінуў вайсковую службу, быў выбраны маршалкам Ашмянскага павета.

Б.Маскевіч заставіў нашчадкам два «Дыярыушы» на польскай мове.

Першы «Дыярыуш» ахоплівае падзеі 1643 – 1649 гг., ваенныя дзеянні І.Вішнявецкага на Украіне, а таксама барацьбу М.Каліноўскага і М.Патоцкага супраць Багдана Хмяльніцкага. Аўтар раскрыў паход гетмана ВКЛ Януша Радзівіла на поўдзень Беларусі, Лоеўс-

кую бітву 1649 г. У творы шмат партрэтных і пейзажных замалёвак, апісанняў узаемаадносінаў паміж людзьмі ва ўмовах вайны.

Казацка-сялянская вайна 1648 – 1651 гг. раскрыта праўдзіва, з усімі жорсткасцямі і разбурэннямі, шматлікімі ахвярамі. Маскевіч не абмінуў карціны злачынстваў у Мазыры, Бабруйску, пад Рэчыцай. Але зразумела, што сімпатыі аўтара на баку Рэчы Паспалітай, а не паўстаўшых украінскіх казакаў.

Другі «Дыярыуш» раскрывае ваенныя дзеянні вайны 1654 – 1667 гг., у прыватнасці, паход рускага ваяводы І.Хаванскага напачатку 1660 г. і разгром яго пад Палонкай (каля Слоніма).

Цікавая інфармацыя падаецца ў мемуарах Яна Цадроўскага.

**Ян Янавіч Цадроўскі** (1617 – 1682 (?) гг.) нарадзіўся ў в.Пагост (сучасны Салігорскі раён). Вучыўся ў Кёнігсбергскім універсітэце, быў слухачом Ягелонскага універсітэта. З 1637 г. служыў у Б.Радзівіла, разам з ім падарожнічаў па краінах Заходняй Еўропы. Заставіў пасля сябе мемуары (без назвы), напісаныя на польскай мове.

Мемуары Цадроўскага складаюцца з дзвюх частак. У першай частцы прадстаўлены кароткія біяграфічныя звесткі, адлюстраваны гістарычныя і грамадскія падзеі, апісаны дыпламатычныя даручэнні падчас вайны 1654 – 1667 гг., голад 1656 г. на Міншчыне, расправа каталікоў над віленскімі кальвіністамі ў 1682 г. Другая частка твора складаецца ў асноўным з мартыралога, дзе прыведзены звесткі пра родных і знаёмых людзей. У аснове мемуараў – выключна свецкія падзеі. Сам аўтар заклікае да талерантнасці, услаўляе зямное жыццё чалавека.

**4. Мацей Стрыйкоўскі – першы гістарыёграф Вялікага княства Літоўскага**. У 20 – 90-я гг. XVI ст. на гістарычнае развіццё ВКЛ і Рэчы Паспалітай значны ўплыў аказалі Адраджэнне і Рэфармацыя. Яны прадвызначылі ўключэнне беларускіх земляў у сферу ўплыву заходнееўрапейскай культурнай традыцыі. Прафесар Д.У.Караў назваў гэты працэс «вестэрнізацыяй» беларускай культуры». На яго думку, новая тэндэнцыя ў духоўным жыцці беларускага грамадства суправаджалася этнакультурнай дэзінтэграцыяй, кардынальнай зменай рэлігійнай і моўнай сітуацыі, што прывяло да з’яўлення публіцыстыкі (творы П.Скаргі, І.Пацея, М.Літвіна і інш.).

Інтэнсіўная палеміка паміж прыхільнікамі «традыцыйнай» і «заходняй» арыентацыі садзейнічала росту грамадскай цікавасці да гісторыі як асобнай галіны ведаў. Таму ў гістарыяграфіі зацвярджаецца жанр хранографаў, які звязваў гісторыю беларускага на-

рода з сусветнай. Першай працай падобнага тыпу ў ВКЛ стала «*Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі*» **Мацея Стрыйкоўскага**, якая ўключыла гісторыю ВКЛ у арбіту заходнееўрапейскай гістарыяграфічнай традыцыі.

Мацей Стрыйкоўскі (1547 – 1590 (1593) гг.) нарадзіўся ў м.Стрыйкаў каля Лэнчыц (сучаснае Лодзінскае ваяводства Польшчы) у сям'і судовага вознага. Па жаночай лініі ён паходзіў са знакамітага роду Леліва, а па мужчынскай – Асостаў. Па маці ягоным продкам быў мазавецкі ваявода Хрысцін, які вызначыўся ў бітве пры Захвосце (1205 г.).

У сем гадоў Стрыйкоўскі пайшоў вучыцца ў парафіяльную граматычную школу ў Бжэзінах. Сам ён назваў яе «Падуяй і Балоньяй», бо атрымаў там грунтоўную адукацыю. Далейшы лёс Стрыйкоўскага супярэчлівы. Беларуская даследчыца А.А.Семянчук называе яго «геніяльным саманавукам» і лічыць, што ён не атрымаў вышэйшай адукацыі. Расійскі гісторык А.І.Рогаў сцвярджае пра вучобу Стрыйкоўскага ў Кракаўскай акадэміі (універсітэце): у 1564 г. атрымаў ступень бакалаўра. Вучоба перапынялася вандроўкай ў ВКЛ. Ёсць гіпотэза, што Стрыйкоўскі падчас Лівонскай вайны быў «рыскуном» (шпіёнам).

У 1567 – 1569 гг. яго імя зноў значыцца ў спісах студэнтаў Кракаўскай акадэміі. Там Стрыйкоўскі добра авалодаў лацінскай мовай і антычнай літаратурай. Таксама ён ведаў нямецкую мову, інжынернае мастацтва. Магчыма, гэтая акалічнасць заставіла яго вярнуцца ў ВКЛ на ваенную службу ў Віцебскі гарнізон (1572 – 1574 гг.).

У 1574 г. М.Стрыйкоўскі выдаў у Кракаве вершаваную кнігу «*Ганец цноты*» (дабрадзейнасці). Аўтар услаўляў шляхту, якую лічыў крыніцай дабрачыннасці. Ён пісаў пра сармацкае паходжанне шляхецкага саслоўя, што прадвызначала іх больш шырокія правы, чым у караля Рэчы Паспалітай. Пад уплывам Адраджэння Стрыйкоўскі звяртаецца з заклікам вывучаць навукі, найперш гісторыю. Ужо ў гэтай працы аўтар зрабіў кароткі агляд гісторыі Літвы.

У тым жа годзе Стрыйкоўскі напісаў паэму «*Праваслаўнага ўезду да Кракава і памяці годнай каранацыі Генрыха Валуа апісанне*». Магчыма, гэтым творам ён шукаў каралеўскай службы, што дало плён. У верасні 1574 г. яго накіравалі ў складзе пасольства Рэчы Паспалітай у Канстанцінопаль. Там Стрыйкоўскі склаў дзесяць карт Турцыі, план г.Канстанцінопаля, а па вяртанні напісаў кнігу «*Пра пачатак, паходжанне, мужнасць, рыцарскія і грамадзянскія справы слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага*».

У гэтым творы супрацьпастаўляюцца «залатыя» шляхецкія вольнасці як своеасаблівы палітычны лад становішчу славянскіх народаў, якія знаходзіліся пад прыгнётам Асманскай імперыі. Пры гэтым аўтар раскрыў гісторыю Турцыі, выкарыстаўшы турэцкую хроніку, якую яму пераклаў атурэчаны венгр. Крытычны характар кнігі выклікаў незадаволенасць караля Стэфана Баторыя, бо Асманская імперыя аказала яму падтрымку пры выбранні на трон Рэчы Паспалітай. Верагодна, з гэтай прычыны Стрыйкоўскі пакінуў дзяржаўную службу.

З 1576 па 1578 гг. ён знаходзіўся пры двары князёў Алелькавічаў у Слуцку і Капылі пад пратэкцыяй князя Юрыя Юр'евіча Алелькавіча. Там Стрыйкоўскі пачаў пісаць «Хроніку польскую, літоўскую, жамойцкую і ўсяе Русі». Пасля смерці свайго апекуна ён пераходзіць пад пратэкцыю жмудскага біскупа Мельхіора Гедройца. З яго дапамогай Стрыйкоўскі атрымаў пасаду жмудскага каноніка. Неверагодна, але паляк заняў пасаду ў ВКЛ. А.А.Семянчук тлумачыць гэты факт схільнасцю Стрыйкоўскага да Княства, тым, што ён адстойваў правы ВКЛ на Падолію, а таксама падтрымкай з боку магнатаў (Радзівілаў, Глябовічаў, Хадкевічаў і інш.).

*«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі»* была выдадзена ў Круляўцы (сучасны г.Калінінград) у 1582 г. на польскай мове. Хроніка прысвечана каралю Стэфану Баторыю, віленскаму біскупу Радзівілу, сынам Юрыя Алелькавіча. Гэта першая друкаваная гісторыя ВКЛ. Твор складаецца з пяці частак: рыфмаванай аўтабіяграфіі Стрыйкоўскага, прадмовы са зваротам да шляхты, самой Хронікі (25 кніг, падзеленых на главы), спіса памылак друку, рэестра ўласных імёнаў.

Стрыйкоўскі паўстае ў хроніцы не ў якасці сярэднявечнага кампілятара, а як даследчык. Гэта відавочна ў шырокім выкарыстанні аўтарам гістарычных крыніцаў (працы Герадота, Ціта Лівія, Клаўдзія Пталамея, Страбона, Я.Длугаша, Мехавіты, М.Кромэра, П.Дусбурга, «Аповесць мінулых гадоў», беларуска-літоўскія летапісы і інш.).

Вельмі падрабязна ён раскрыў гісторыю ВКЛ ад Палямона да Стэфана Баторыя. Характарызуючы вялікіх князёў літоўскіх, Стрыйкоўскі не згадзіўся з польскімі храністамі аб «нізкім» паходжанні Гедыміна (конюх Віценя). Дарэчы, гэта пазіцыя была характэрна для лівонскіх хроністаў. Таксама ён сцвярджаў, што ў Альгерда былі дзве жонкі: віцебская княжна Марыя і цвярская Улляна. Грунтоўна падаецца аналіз знешнепалітычных акцыяў ВКЛ.

С.А.Падокшын і А.А.Семянчук лічаць хроніку ўзорам шляхецкай гісторыі, а М.І.Ермаловіч называў Стрыйкоўскага «свядомым фальсіфікатарам» на карысць М.Гедройца. Твор адметны «літоўскім» патрыятызмам, прыхільнасцю да дынастыі Ягелонаў. Адной з асаблівасцяў хронікі можна назваць вершаваныя ўстаўкі на батальную тэму (бітва пад Клецкам 1506 г., бітва пад Оршай 1514 г., бітва на Уле 1564 г.). Але аўтар прадэманстраваў некрытычны падыход да гістарычных крыніцаў, апублікаваўшы часам фантастычныя звесткі.

Метадалагічныя прынцыпы Стрыйкоўскага сфармаваліся пад уплывам эпохі Адраджэння. Рухальнай сілай гісторыі ён лічыў не столькі Бога, колькі чалавека. Таму гісторыя – гэта адзіны паток з мінулага, сучаснага і будучага. Чалавек павінен зацвердзіць сябе не ў пасіўна-сузіральным, а ў дзейнасна-практычным жыцці. Прычым галоўная ўзнагарода яго чакае не ў загробным свеце, а ў памяці нашчадкаў.

У працэсе гістарычнага пазнання Стрыйкоўскі вылучаў два ўзроўні: фундаментальны (пазнавальны) і маральна-дыдактычны (навучальны). Гэты падыход адрознівае Стрыйкоўскага ад сярэднявечнай гістарыяграфіі, у якой асноўны змест і сэнс гісторыі зводзіліся да маральнага вопыту, а вопыт палітычны, сацыяльны амаль што не разглядаўся.

**5. Гістарычная думка ў ВКЛ у XVII – першай палове XVIII стст.** У XVII – першай палове XVIII стст. гістарычная думка знаходзілася пад кантролем езуітаў, якія манапалізавалі сістэму адукацыі ў ВКЛ.

Навучальны план езуіцкіх навучальных установаў «Ratio et institutio studiorum Societatis Jesu» быў распрацаваны ў 80-я гг. XVI ст. Ніжэйшыя школы – калегіўмы – мелі трох- і пяцікласнае навучанне. Веды па гісторыі, геаграфіі, міфалогіі даваліся ў чацвёртым класе паэтыкі і ў пятым класе рыторыкі. Навучанне ў вышэйшай школе (Акадэміі) прадугледжвала вывучэнне на філасофскім і багаслоўскім факультэтах логікі, фізікі, метафізікі, этыкі (паводле Арыстоцеля).

XVI ст. стала пачатковым этапам у развіцці адукацыі ордэна езуітаў. Гісторыя не з’яўлялася самастойным прадметам навучання, а выкарыстоўвалася для вывучэння паэтыкі і рыторыкі. Гістарычныя веды павінны былі садзейнічаць маральнаму і хрысціянскаму выхаванню моладзі.

Крыніцамі гістарычнай інфармацыі з'яўляліся працы і каментары антычных аўтараў. Ужо ў класе граматыкі пры вывучэнні моваў паўстала праблема выкарыстання гістарычнай інфармацыі для вызначэння стылю паэта і г.д. Жыццё і дзейнасць старажытнагрэчаскіх і старажытнарымскіх гісторыкаў разглядалі ў класе паэзіі. Наступным этапам прадугледжвалася вывучэнне непасрэдна працаў антычных аўтараў (Тацыта, Ціта Лівія, Фукідзіда і інш.).

З 1593 г. у вучэбным працэсе сталі карыстацца кнігай **Антонія Пасевіна** «*Выбраныя кнігі»,* у якой аўтар прадставіў пералік працаў, неабходных для навучання ў калегіўмах, кароткую інфармацыю аб розных народах і дзяржавах. Першы падручнік па гісторыі для калегіўмаў выдаў рэктар рымскай семінарыі **Гарацый Турчаліні** (? – 1599 г.) у 1598 г. – «*Historiarum ab origine mundi usque ad annum 1598»* у 10 кнігах. Гэты падручнік па сусветнай гісторыі ахопліваў падзеі ад біблейскіх часоў да сярэднявечча. Па ініцыятыве генерала ордэна К.Аквавівы навучэнцам было загадана вывучаць кнігу ў сямі тамах «*Гісторыя таварыства Ісуса»,* у якой разглядалася гісторыя езуітаў ад моманту ўзнікнення ордэна да 1632 г. У Заходняй Еўропе набыла папулярнасць праца **Дзіянісія Петавія** (1583 – 1652 гг.), аўтар якой першым пачаў датаванне гістарычных падзеяў біблейскай гісторыі да нараджэння Ісуса Хрыста. Па яго падручнікам навучэнцы школаў Гродна і Нясвіжа рабілі тэатральныя пастаноўкі нават і ў XVIII ст.

Кардынальных пераменаў у гістарычнай адукацыі езуітаў не адбылося і ў першай палове XVII ст. Праўда, пры арганізацыі Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў прайшла нарада (лістапад 1609 г.), прысвечаная гуманітарнай адукацыі. Яе рашэнні сведчылі аб тэндэнцыі да мадыфікацыі «Ratio studiorum», жаданні ўлічыць спецыфіку правінцыі. Удзельнікі сустрэчы прапанавалі стварыць кафедры гісторыі ў тых калегіўмах, дзе выкладалася філасофія. Гэта тлумачылася просьбамі мясцовай шляхты, якая жадала, каб шляхецкая моладзь навучылася дастойна выступаць на пасяджэннях соймікаў і вальнага сойма. Але генерал ордэна катэгарычна адхіліў прапанову, растлумачыўшы сваю пазіцыю тым, што гісторыі прысвечана дастаткова ўвагі ў класах паэтыкі і рыторыкі.

У езуіцкіх школах Літоўскай правінцыі іх навучэнцы карысталіся падручнікамі **Яна Квяткевіча**, выдадзенымі ў 1627 г. і 1698 г. Па іх вывучалі лацінскую мову і гісторыю антычнага свету ў класе рыторыкі. Таксама атрымала пашырэнне кніга **Флоруса** (1646 г.), у якой асвятлялася гісторыя Старажытнага Рыма ад легендарных часоў да Аўгуста. Даследаванне адпавядала сармацкай ідэалогіі,

таму што ўсхваляла рэспубліканскія інстытуты ўлады. Напрыклад, Я.Квяткевіч параўноўваў Уладзіслава IV Вазу з Александрам Македонскім.

У Польскай правінцыі езуітаў гісторыю Польшчы вывучалі на падставе працы **Альберта Інэса** (1620 – 1658 гг.) «*Лехіада»* (1655 г.). Аўтар у паэтычнай форме раскрыў дзейнасць каралёў Польшчы. На прыкладах айчыннай гісторыі ў вучняў фармаваліся патрыятычныя пачуцці, занепакоенасць за лёс Рэчы Паспалітай у сувязі з І-й Паўночнай вайной 1655 – 1660 гг.

У Літоўскай правінцыі езуітаў мінулае ВКЛ вывучалі на аснове «*Гісторыі Літвы»* – першага сістэматызаванага курса гісторыі ВКЛ, які быў створаны шляхціцам, пісьменнікам, палемістам, гісторыкам Альбертам (Войцехам) Віюком Каяловічам.

**Альберт Віюк Каяловіч** (1609 – 1677 гг.) нарадзіўся ў Коўне. У Нясвіжы вывучаў філасофію, потым займаўся ў класе паэзіі ў Смаленску. У 1634 – 1638 гг. вучыўся на тэалагічным факультэце Віленскай акадэміі. Абараніў дысертацыю на званне магістра філасофіі, выкладаў логіку, фізіку, метафізіку, этыку. Рэктар Віленскай акадэміі (1653 г.). Пазней – рэктар дома езуітаўпрафесараў у Вільні. Віюк Каяловіч пакінуў вялікую колькасць палемічных твораў, накіраваных супраць пратэстантаў, а таксама шмат біяграфій езуітаў і багаслоўскія трактаты.

*«Гісторыя Літвы»* была выдадзена ў 2-х частках (ч.1 у Гданьску, 1650 г.; ч.2 у Антвэрпэне, 1669 г.) на лацінскай мове і прысвечана магнату Казіміру Сапеге. Таксама твор прызначаўся замежнаму чытачу, каб данесці ў Еўропу звесткі пра ВКЛ.

Першая частка ўяўляе па сваёй сутнасці пераказ «Хронікі» Стрыйкоўскага. Аўтар адзначыў, што яго кніга з’яўляецца літаратурнай апрацоўкай «Хронікі», а не арыгінальным творам. Праўда, А.Каяловіч адкінуў шмат яе фантастычных звестак і разглядаў гісторыю ВКЛ да Крэўскай уніі больш сістэмна. Другая частка носіць самастойны характар і даводзіць падзеі да Люблінскай уніі.

Гісторык, у адрозненне ад М.Стрыйкоўскага, прывёў іншы варыянт легенды пра паходжанне літоўскай знаці, апусціў шэраг фрагментаў пра суседзяў ВКЛ, правёў уласны аналіз і сістэматызацыю гістарычных звестак. Як і Стрыйкоўскі, аўтар апісаў падзеі палітычнай і ваеннай гісторыі. Тэндэнцыйнасць Каяловіча праявілася пры раскрыцці язычніцкіх князёў Літвы. Міндоўга ён прадставіў тыранам, які прыняў хрышчэнне пад націскам знешніх падзеяў. Аднабакова ацэненыя Тройдзень, Віцень і іншыя князі. Толькі Кейстут параўноўваецца з антычным Адысеем.

Аўтар раскрыў барацьбу з крыжацкай агрэсіяй на мяжы XII – XIII стст. Пры гэтым указывалася на экспансіяніcцкія намеры нямецкага рыцарства. ВКЛ, на яго думку, абараняла свой суверэнітэт. Калі Стрыйкоўскі пры апісанні Грунвальдскай бітвы, паказаў вырашальную ролю княства, то А.Каяловіч не забыўся напісаць аб паляках, якія мелі меншыя страты: ім, а не літоўцам, дапамог Бог.

Праца А.Віюка-Каяловіча выкарыстоўвалася не толькі ў езуіцкіх школах, але і ў піярскіх навучальных установах.

Таксама Каяловіч у кнізе «*Аб ваенных дзеяннях 1648 і 1649 г. супраць запарожскіх казакоў»* апісаў ваенны паход гетмана Януша Радзівіла супраць казацкіх «загонаў» падчас казацка-сялянскай вайны 1648 – 1651 гг.

У 1648 г. Каяловіч пачаў працу над кнігай аб гісторыі шляхты ВКЛ. Але яе друкаванне было спынена па патрабаванні адной шляхецкай сям'і, якая палічыла сябе абражанай. Дарэчы, Каяловіч сапсаваў свае адносіны з Радзівіламі, бо ў 1653 г. выдаў «*Радзівілаўскі летапіс»,* у якім раскрыў таямніцы іх роду. Сапсаваў адносіны і з Сапегамі, бо іх паходжанне выводзіў ад баярына Сунігайлы, а не ад Гедыміна.

Выкладчыкі-езуіты здолелі да сярэдзіны XVIII ст. вырашыць сваю галоўную задачу – стварыць пакаленне моладзі, адданае папе рымскаму і артадаксальнаму каталіцызму. Але ў самой сістэме падрыхтоўкі кадраў багасловаў адчуваўся пэўны дуалізм. Езуіты рыхтавалі не толькі фанатычных каталікоў, але і багасловаў-палемістаў. Гэта ў сваю чаргу патрабавала грунтоўнай адукацыі ў сферы гуманітарных навук, найперш гісторыі.

Езуіты надавалі вялікую ўвагу вывучэнню антычнай спадчыны, у асноўным лацінскай, цудоўна разумелі неабходнасць яе гістарычнага і геаграфічнага тлумачэння. Для каментавання антычных аўтараў імі выкарыстоўваліся працы, у якіх матэрыял сістэматызаваўся не па храналагічным, а па прадметна-энцыклапедычным прынцыпе. У якасці падручніка падобнага тыпу ў ВКЛ выкарыстоўвалася кніга італьянскага езуіта **Мусантыя**. У 1706 г. прафесар Віленскай Акадэміі **Ян Дрэўс** (1645 – 1710 гг.) выдаў падручнік па гісторыі і геаграфіі (у 4-х частках), які ўяўляў сабой скарочаны варыянт кнігі Мусантыя. Я.Дрэўс зрабіў кароткае апісанне народаў і дзяржаў свету, паказаў ролю каталіцкай царквы ў распаўсюджанні цывілізацыі, варожа ставіўся да арабаў і магаметан. У першай палове XVIII ст. падручнік перавыдаваўся дзевяць разоў.

Пад уплывам Асветніцтва і рэформы піярскіх школаў у 1741 г. гісторыя была ўведзена ў школы Літоўскай правінцыі езуітаў як самастойны прадмет. Гэта ажыццявіў правінцыял Кароль Бартольд.

**Кароль Бартольд** (1680 – 1745 гг.) нарадзіўся ў Мазовіі. Вучыўся ў езуіцкіх навучальных установах Пултуска, Варшавы і Вільні. Прафесар філасофіі і тэалогіі. У 1735 – 1737 гг. займаў пасаду рэктара Віленскай акадэміі, затым правінцыяла Літоўскай правінцыі езуітаў. Выкладаў рыторыку, філасофію, тэалогію, кананічнае права. Вёў барацьбу з піярамі за ўплыў на сістэму адукацыі, абараняў шляхецкія вольнасці.

Будучы прафесарам Віленскай акадэміі, Бартольд у 1719 г. напісаў падручнік па гісторыі «*Свята для першага класа»,* які шэсць разоў перавыдаваўся пад назвай «*Вобразы князёў і каралёў Польшчы».* Аўтар звёў гісторыю Рэчы Паспалітай да гісторыі польскіх каралёў і літоўскіх князёў ад легендарных часоў да Аўгуста II Моцнага. Тэкст перамяжаецца палітычнымі і маральнымі высновамі, а таксама павучаннямі.

Папулярнасць у першай палове XVIII ст. набыла праца Адама Нарамеўскага «*Воблік сарматаў».*

**Адам Нарамеўскі** (1686 – 1736 гг.) – ураджэнец ВКЛ. Пасля заканчэння Віленскай акадэміі працаваў у ёй прафесарам, а затым выкладаў у езуіцкіх калегіях Варшавы і Пултуска.

У адпаведнасці з сярэднявечнай традыцыяй Нарамеўскі апісаў жыццё і дзейнасць каралёў, князёў, прымасаў і епіскапаў. Аўтар звярнуў увагу на працэс утварэння Польскага каралеўства і ВКЛ, паказаў гісторыю шляхты, рэфармацыйны рух, развіццё школьнай справы езуітамі. Праўда, ён некрытычна пераняў інфармацыю з гістарычных крыніцаў, таму ў кнізе шмат фантастычных звестак. Нарамеўскі выступіў з асуджэннем Казіміра Лышчынскага.

Пачатак перыядычнаму друку ў ВКЛ у гэты час паклаў Ян Пашакоўскі.

**Ян Пашакоўскі** (1684 – 1757 гг.) паходзіў са шляхты Упіцкага павета (Літва). Скончыў езуіцкую школу ў Коўне, Нясвіжскую педагагічную семінарыю, Віленскую акадэмію. Выкладаў філасофію, граматыку і тэалогію ў Коўне, Крожах, Вільні, Нясвіжы. У 1713 г. атрымаў сан каталіцкага святара. Выхоўваў сыноў магната Міхала Казіміра Рыбанькі, займаў пасаду надворнага тэолага. Напісаў шмат сачыненняў багаслоўскага характару, рабіў пераклады з лацінскіх твораў, складаў панегірыкі.

Як багаслоў-тэолаг Пашакоўскі абараняў вучэнне каталіцкай царквы, крытыкаваў пратэстантызм. У Вільні ён выдаў працу «*Голас пастыра Ісуса Хрыста...»* (1736 г.), у якой даказваў існаванне Бога, сцвярджаў пра ілжывасць атэізму. Аўтар звярнуўся да гісторыі пратэстантызму ў ВКЛ, вывучаў янсенізм (адгалінаванне ката-

ліцызму ў Нідэрландах і Францыі, блізкае да пратэстантызму), іслам. Ён рыхтаваў працу па гісторыі царквы ў Рэчы Паспалітай, якую, на жаль, не паспеў завяршыць.

Але галоўнай справай жыцця Пашакоўскага стала падрыхтоўка каляндароў, што дало пачатак перыядычнаму друку ў ВКЛ. Толькі ў Вільні на працягу 1735 – 1749 гг. ён выдаў дваццаць «*Палітычных каляндарыкаў»*. Адзін з іх, напрыклад, прызначаўся нават жанчынам. У каляндарах крытыкавалася геліяцэнтрычная сістэма М.Каперніка, пералічваліся астранамічныя з'явы, называліся найважнейшыя падзеі з гісторыі ВКЛ і Польшчы. Аўтар вельмі клапаціўся аб дакладнасці прыводзімых у сваіх выданнях біяграфічных звестках. Апошнія гады жыцця ён быў паралізаваны, памёр у Нясвіжы.

З арыгінальных працаў гісторыкаў-езуітаў вызначаюцца «*Гісторыя Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў»* **С.Растоўскага** і «*Гісторыя Віленскай Акадэміі»* **Яна Прэўсгайфа**. Кніга Прэўсгайфа, якая выйшла ў 1707 г., стала першай спробай напісання гісторыі Віленскага універсітэта. Але тэкст мае сумбурны характар і ўтрымлівае шэраг факталагічных памылак.

**6. Гістарычныя даследаванні ў ВКЛ у другой палове XVIII ст.** Другая палова XVIII ст. характарызуецца секулярызацыяй гістарычнай думкі і ў цэлым адукацыі ў ВКЛ. Гэта адбылося пад уплывам рэформы ордэна піяраў, якую правёў Station Станіслаў Канарскі ў 50 – 60-я гг. XVIII ст. Рэформа прадугледжвала вывучэнне польскай і французскай моваў, прыродазнаўчых дысцыплінаў, эстэтычнае і фізічнае выхаванне дзяцей, правядзенне практычных заняткаў за кошт скарачэння курса тэалогіі.

Таксама свой уплыў аказалі ідэі французскіх асветнікаў, творы якіх перакладаліся пры садзейнічанні Адукацыйнай камісіі. Адбыўся пераход ад гісторыі, узгодненай са Святым Пісаннем, да гісторыі дэсакралізаванай.

Пад кантролем і апекай графа Ігната Патоцкага былі напісаны новыя падручнікі па сусветнай гісторыі **братамі Скшатускімі** «*Палітычная гісторыя для дваранскай моладзі», «Заўвагі па ўсеагульнай гісторыі для народных вучылішчаў»*. Да іх блізкай па сваёй свецкай накіраванасці стала кніга па ўсеагульнай гісторыі піяра **Д.Шыбінскага** «*Кароткія звесткі пра важнейшыя манархіі свету, старажытныя каралеўствы і рэспублікі»*. Ён адным з першых сярод гісторыкаў Рэчы Паспалітай зрабіў спробу ўвесці ўласную перыядызацыю гісторыі, заснаваную на падзеях свецкай гісторыі, першым імкнуўся аддзяліць гісторыю царквы ад грамадзянскай гісторыі.

Прааналізаваўшы выкладанне гуманітарных дысцыплінаў, Адукацыйная камісія запатрабавала, каб пры вывучэнні ўсеагульнай гісторыі асноўная ўвага надавалася гісторыі Польшчы. У Галоўнай Літоўскай школе кафедру ўсеагульнай гісторыі ўзначальваў прафесар Томаш Гусаржэўскі.

**Томаш Гусаржэўскі** (1731 – 1797 гг.) нарадзіўся ў Варшаве у шляхецкай сям'і, карані якой узыходзяць да ВКЛ. Пасля вучобы стаў ксяндзом-місіянерам. Выкладаў у духоўных семінарыях Варшавы і Вены. У 1783 г. узначаліў кафедру ўсеагульнай гісторыі Галоўнай Літоўскай школы.

Гусаржэўскі не пакінуў пасля сябе значных гістарычных твораў. Але яго заслуга ў прапагандзе асветніцкага разумення гісторыі. У працы «*Уводзіны ва ўсеагульную гісторыю, у асаблівасці царкоўную»* (1775 г.) ён выказаў ідэю прагрэсіўнага развіцця чалавецтва па ўзыходзячай лініі. На яго думку, гісторыя павінна вывучаць увесь шлях, пройдзены чалавецтвам. Аўтар закрануў праблему верыфікацыі гістарычных крыніцаў, іх навуковага аналізу. Ён таксама спрабаваў аддзяліць царкоўную гісторыю ад свецкай.

У другой палове XVIII ст. значную папулярнасць набылі працы Францішка Папроцкага і Кароля Вырвіча, якія фактычна сталі асноўнымі падручнікамі па гісторыі ВКЛ.

**Францішак Папроцкі** (1723 – 1805 гг.) паходзіць з тэрыторыі Беларусі. Стаў членам ордэна езуітаў у 1740 г. у Полацку. Адукацыю атрымаў у Польшчы. З 1758 г. прафесар. Выкладаў філасофію, гісторыю і геаграфію ў Варшаўскай і Віленскай акадэміях, кіраваў шляхецкімі калегіямі ў Вільні і Камянцы.

Папроцкі прадоўжыў справу, распачатую Я.Пашакоўскім, – выдаваў у Вільні «*Палітычныя каляндарыкі».* У календары за 1764 г. ён размясціў храналогію польскіх каралёў і князёў ВКЛ, апісаў першае бескаралеўе, якое наступіла пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста.

З працаў, прысвечаных усеагульнай гісторыі, вылучаецца кніга «*Найбольш значныя войны...»* (1763 г.). Яна напісана на падставе твораў антычных і сярэднявечных гісторыкаў. У прадмове аўтар пісаў: «Няма нічога больш непрыемнага для народаў, чым войны, і ў той жа час веданне гісторыі войнаў дазваляе высветліць прычыны ўзвышэння і падзення дзяржаў і, што асабліва важна, шляхі ўмацавання свабоды і незалежнасці Айчыны». У такой форме Папроцкі выказваў занепакоенасць патрыятычных сілаў лёсам Рэчы Паспалітай. Трывогай за будучыню краіны прасякнута праца «*Аб рыцарскім пытанні ў Польшчы»* (1776 г.). На падставе аналізу пры-

чынаў перамог і паражэнняў у мінулым ВКЛ і Рэчы Паспалітай аўтар паспрабаваў выказаць свае рэкамендацыі па ўмацаванні абароны дзяржавы і павышэнні баяздольнасці яе арміі.

Цікавасць выклікаюць дзве невялікія працы Папроцкага «*Дамашнія весці аб ВКЛ*» (1763 г.) і «*Дамашнія весці аб Польскім каралеўстве*» (1771 г.). Яны ўяўляюць кароткія энцыклапедычныя даведнікі аб геаграфічным становішчы, прыродных умовах, гісторыі, дзяржаўным ладзе, судах, арміі і іншых атрыбутах гэтых дзяржаваў. Кнігі ўяўляюць сабой даведнікі, якія прызначаліся для навучэнцаў школаў. У дачыненні да гісторыі аўтар паказаў палітычныя і рэлігійныя падзеі на тэрыторыі княства да Люблінскай уніі 1569 г. без іх аналіза. Ён паўтарыў гістарычныя канцэпцыі Длугаша і Літвіна.

Папроцкі зыходзіў з рацыяналістычнага разумення гістарычнага працэсу і сваёй дзейнасцю падрыхтаваў глебу для ўспрымання ідэі заканамернага развіцця гісторыі ў апошняй трэці XVIII ст. З другога боку, ён трактаваў гістарычны працэс як простую паслядоўнасць падзеяў. Падобны эмпірычны падыход быў характэрны для ўсіх гісторыкаў асветніцкага часу.

Найбольшай папулярнасцю ў школах ВКЛ карысталіся кнігі Кароля Вырвіча.

**Кароль Вырвіч** (1717 – 1793 гг.) нарадзіўся ў Браслаўскім павеце ў беднай шляхецкай сям'і. Вучыўся ў езуіцкіх калегіях Пінска і Дынабурга, скончыў Віленскую акадэмію. Працаваў прафесарам рыторыкі, гісторыі і геаграфіі ў Навагрудскай езуіцкай калегіі, затым прафесарам варшаўскага Collegium Nobilium і яго рэктарам. Будучы выхавацелем сына віленскага ваяводы Яна Гільзена, змог наведаць Францыю, Галандыю, Германію, дзе вывучаў арганізацыю асветы.

Вырвіч з'яўляўся аўтарам двух падручнікаў, напісаных на французскай мове, «*Паходжанне сучасных дзяржаў і народаў*» (1769 г.) і «*Кароткае сістэматычнае выкладанне ўсеагульнай гісторыі*» (у 2-х т., 1766 – 1771 гг.).

Светапогляд Вырвіча мае супярэчлівы характар. У яго творах спалучаюцца дзве тэндэнцыі: тэалагічная, бо з'яўляўся езуітам, і асветніцкая, бо разумеў ролю рацыяналістычнай філасофіі. Будучы гісторыкам, Вырвіч знаходзіўся пад уплывам ідэй французскага Асветніцтва. Ён адмоўна ставіўся да разумення гісторыі як працэсу адлюстравання палітычных падзей і войнаў. Даследчык лічыў, што гісторыя – гэта сукупнасць зменаў у палітычным жыцці, звычаях, рэлігіі, навуцы, мастацтве, эканоміцы.

Важнае месца адводзіў ролі эканомікі ў грамадскім жыцці, у прыватнасці, эканамічнаму развіццю Рэчы Паспалітай. Галоўнай крыніцай багацця краіны ён лічыў гандаль, які мог пашырацца толькі на падставе развіцця прамысловасці і земляробства. Вырвіч падтрымліваў палітыку пратэкцыянізму.

У другой палове XVIII ст. гістарычная навука ВКЛ набывае трывала крыніцазнаўчы фундамент, які быў закладзены Мацеем Догелем.

**Мацей Догель** (1715 – 1760 гг.) нарадзіўся ў в.Гембулы Лідскага павета ў сям'і дробнага шляхціца. Пасля заканчэння піярскай школы ў Шчучыне ўступіў у ордэн піяраў. З 40-х гг. – рэктар піярскай калегіі ў Вільні. Заснаваў школу з асобным інтэрнатам для шляхецкай моладзі. Шмат падарожнічаў. З'яўляючыся выхавацелем сына маршалка ВКЛ С. дэ Кампа, змог выехаць за мяжу. Наведваў лекцыі ў Лейпцыгскім і Парыжскім універсітэтах.

З 1748 г. у якасці пасла Рэчы Паспалітай Догель працаваў у архівах і бібліятэках Германіі, Францыі, Галандыі. Таксама карыстаўся малавядомымі і сакрэтнымі дакументамі ў каралеўскіх архівах Кракава і Нясвіжа. Гэта дазволіла яму пачаць выданне зборніка дакументаў і матэрыялаў «*Дыпламатычны кодэкс Каралеўства Польскага і ВКЛ*». З васьмі запланаваных тамоў выйшлі тры. Нявыдадзеныя матэрыялы ў рукапісах паступілі ў Каралеўскую бібліятэку ў Варшаве, потым – у Віленскі універсітэт, а адтуль – у Пецярбургскую публічную бібліятэку. Догель выдаў яшчэ адзін зборнік дакументаў па размежаванні дзяржаўнай мяжы ВКЛ з Польшчай у сярэдзіне XVI ст. Яго зборнікі матэрыялаў па гісторыі міжнародных адносінаў Польшчы, Літвы і Беларусі за XIII – XVIII стст. як гістарычныя крыніцы не страцілі свайго значэння да нашых дзён.

**7. «Манархічная» школа А.Нарушэвіча**. Дакуметамі, сабранымі Догелем, карыстаўся вядомы польскі паэт, асветнік і гісторык Адам Нарушэвіч.

**Адам Нарушэвіч** (1733 – 1790 гг.) нарадзіўся ў Пінскім павеце ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Пінскай і Ліёнскай (Францыя) калегіях езуітаў. Выкладаў паэтыку і рыторыку ў Віленскай акадэміі, затым у Варшаўскай калегіі. Для завяршэння адукацыі на сродкі канцлера ВКЛ Міхала Чартарыйскага здзейсніў другую замежную вандроўку ў Францыю, Італію, Германію. У 1762 – 1773 гг. зноў выкладчык Варшаўскай калегіі. У гэты час

ён вядомы і папулярны паэт. Ствараў панегірычныя оды, вершы, пераклаў оды Гарацыя, рэдагаваў штотыднёвік «Забавы пшыемне і пожытэчне».

З 70-х гг. Нарушэвіч пачынае цікавіцца праблемамі ўсеагульнай і айчыннай гісторыі. Ён прыняў удзел у напісанні калектыўнай працы «*Палітычная гісторыя старажытных дзяржаў»* (1772 г.), дзе прадэманстраваў крытычны падыход да гістарычных легендаў і паданняў. Аўтары працы ставілі галоўнай задачай раскрыць прычыны развіцця і заняпаду старажытных дзяржаваў. Ужо тады А.Нарушэвіч прадэманстраваў сваю схільнасць да манархічнага ладу, вызначыўшы свой ідэал у форме асветнай манархіі.

Забарона на дзейнасць ордэна езуітаў і матэрыяльныя цяжкасці заставілі Нарушэвіча прыняць сан каталіцкага святара. Пры дапамозе караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ён атрымаў парафію ў Немянчыне пад Вільняй. Пазней становіцца біскупам смаленскім, затым луцкім. Гэты перыяд жыцця быў найбольш плённым для Нарушэвіча як гісторыка. Ён працягваў працу над перакладам і выданнем твораў старажытнарымскага гісторыка Тацыта, але ў цэнтры ўвагі была гісторыя Рэчы Паспалітай.

На аснове архіваў Сапег і Хадкевічаў у 1773 – 1776 гг. Нарушэвіч напісаў сваю першую буйную гістарычную працу «*Жыццё Яна Караля Хадкевіча, віленскага ваяводы, вялікага гетмана ВКЛ»* (1781 г.). Таксама рыхтаваў кнігу пра Льва Сапегу, але яе не завяршыў.

Паводле прапановы караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага Нарушэвіч пачаў працаваць над «*Гісторыяй польскага народа»*. Яе стварэнню папярэднічала вялізарная праца па зборы і сістэматызацыі гістарычных крыніцаў. Для іх перапіскі ён прапанаваў каралю арганізаваць групу капіравальшчыкаў. На сродкі Панятоўскага ў 1781 г. у Германію, Італію, Швейцарыю былі накіраваны адпаведныя спецыялісты. Падобную работу правялі і ў Рэчы Паспалітай. У выніку гісторык сабраў 231 том матэрыялаў, якія ўвайшлі ў т.зв. «папку Нарушэвіча» (захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Кракава).

З другога па сёмы тамы «Гісторыі польскага народа» былі выдадзены ў 1780 – 1786 гг., а першы том выйшаў пасмяротна – у 1824 г. Выданне ахоплівае перыяд са старажытных часоў да 1836 г. Пад польскім народам Нарушэвіч разумеў шляхту і гараджан. Даволі грунтоўна і падрабязна адлюстравана гісторыя Беларусі і Літвы. Аўтар абгрунтоўваў сваю цікавасць да Беларусі тым, што «значная частка краю ўвайшла ў склад польскага краю», а «русакі пераўтварыліся ў палякаў».

Даследчык вызначыў тры праблемы ў гісторыі Рэчы Паспалітай: узаемаадносіны царквы і дзяржавы, паходжанне прыгоннага права, заняпад Рэчы Паспалітай і шляхі яго пераадолення.

Паколькі Нарушэвіч у свой час быў езуітам, то не ўтойваў сваё негатыўнае стаўленне да «дысідэнтаў», г.зн. іншаверцаў. Гэта асабліва адчувальна пры аналізе аўтарам рэфармацыйнага руху.

У другой палове XVIII ст. разгарнулася вострая дыскусія аб рэформе палітычнага ладу Рэчы Паспалітай. Нарушэвіч падзяляў папулярную ў той час тэорыю «знешняга заваявання»: славяне-сарматы заваявалі тубыльцаў, разбурылі ранейшыя грамадскія ўстоі, заснаваныя на «гмінаўладдзе», г.зн. роўнасці і свабодзе. Ад заваёўнікаў паходзіць шляхта, а ад заваяваных – прыгоннае сялянства.

Нарушэвіч у «Гісторыі польскага народа» неаднаразова адзначаў цяжкія падаткі і павіннасці простых людзей, выказваў спачуванне сялянам. Прычыны цяжкага становішча сялянства ён бачыў у сквапнасці паноў і шматлікіх войнах. Але гісторык не падзяляў асветніцкую ідэю ліквідацыі саслоўяў. Ён лічыў, што кожнае саслоўе павінна быць карысным сваёй краіне. Таксама была абмежаванай яго пазіцыя па сялянскім пытанні. Зямля, на яго думку, павінна заўсёды заставацца ўласнасцю шляхты. Няроўнасць паміж людзьмі абумоўлена самой прыродай чалавека. Прыгнёт з’яўляецца вынікам праяўлення дрэнных чалавечых якасцяў, якія прыйшлі да славян ад германцаў.

Гістарычныя творы Нарушэвіча, блізкага да караля і яго акружэння, былі прасякнуты манархічным духам і ўяўлялі сабой апалагетыку моцнай каралеўскай уладзе. Росквіт Польшчы ён адносіў да часоў Пястаў і звязваў яго з самадзяржаўнай уладай караля. Але далейшае аслабленне краіны адбылося ў выніку перахода ад польскага да нямецкага права, якое было больш карысна буйным землеўласнікам і прывяло да абмежавання ўлады караля. Прычыны заняпаду непасрэдна Рэчы Паспалітай гісторык бачыў у сквапнасці магнатаў і эгаізме шляхты, слабасці цэнтральнай улады з прычыны магнацкай анархіі. Ён прапагандаваў ідэю асветнага абсалютызму. Манархічнае кіраванне супрацьпаставіў арыстакратычнаму, услаўляў тых каралёў, якія адстойвалі адзінства дзяржавы.

У рабоце «*Мемарыял адносна напісання народнай гісторыі»,* якую Нарушэвіч накіраваў каралю ў 1775 г., аўтар прадэманстраваў свае погляды на гістарычны працэс, прадмет і метад гістарычнай навукі. Упершыню ў гістарыяграфіі Польшчы, Беларусі і Літвы даследчык супрацьпаставіў тэалагічнай гістарыяграфіі асветніцкае разуменне гісторыі як свецкай навукі. Нарушэвіч адмаўляў умя-

шальніцтва Бога ў гістарычны працэс, лічыў, што гісторыя – вынік узаемадзеяння прыродных прычынаў, уласцівых чалавечаму грамадству. Праўда, з'яўляючыся каталіцкім святаром, ён абвяшчаў Бога найвышэйшай інстанцыяй у гісторыі чалавецтва.

Нарушэвіч пашырыў прадмет гістарычнай навукі. На яго думку, яе прадметам павінна быць жыццё ўсяго «народа», а не дзеянні асобных военачальнікаў і кіраўнікоў дзяржаваў. Галоўным рухавіком гістарычнага працэсу гісторык лічыў чалавечы розум. Асабліва пашырылася роля асветніцтва і мудрасці, як адзначаў аўтар, у XVIII ст.

У некаторай ступені Нарушэвічу характэрна ідэя прагрэсу. У адным са сваіх лістоў ён прызнаваў рух чалавецтва наперад і нават супрацьпастаўляў у гісторыі Польшчы сучасны яму перыяд з эпохай Пястаў.

Нарушэвіч лічыў гісторыю навукай, якая мае не толькі пазнавальныя, але і маральна-палітычныя мэты. Паводле яго словаў, гісторыя павінна вучыць, што неабходна рабіць, каб пазбегнуць памылак продкаў, каб выправіць звычаі і норавы, каб зрабіць людзей шчаслівымі. Гэтыя палажэнні адпавядалі характэрнаму асветніцкай ідэалогіі погляду на гісторыю як навуку, якая павінна садзейнічаць радыкальным сацыяльным пераўтварэнням у грамадстве.

Праўда, поўнасцю рэалізаваць праграму, вызначаную ў «Мемарыяле адносна напісання народнай гісторыі», Нарушэвіч не здолеў. Шэраг аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынаў садзейнічалі разрыву паміж метадалагічнай канцэпцыяй аўтара і яго навуковай дзейнасцю. Па-першае, гісторык не валодаў у дастатковым аб'ёме гістарычным матэрыялам. Узровень навукі ў той час быў нізкім – практычна адсутнічалі навуковыя даследаванні па важнейшых перыядах гісторыі Рэчы Паспалітай. Група капіравальшчыкаў пачала працу, калі «Гісторыя польскага народа» была ўжо практычна завершана. Па-другое, Нарушэвіч не здолеў радыкальна пераадолець каноны папярэдняй гістарыяграфіі. Па традыцыі ён раскрыў гістарычныя падзеі на аснове храналагічнага прынцыпа. У цэнтры ўвагі – каралі, князі і інш. знакамітыя асобы. Звесткі аб эканамічным, палітычным і культурным жыцці грамадства размясціў у шматлікіх заўвагах. Дарэчы, у адным з лістоў ён пісаў, што не можа ўключыць у «цела гісторыі» пытанні палітычнага ладу і эканамічнага развіцця краіны. Гэта тлумачыцца тым, што Нарушэвіч разглядаў гісторыю як вынік творчай дзейнасці асобаў, якія займалі дзяржаўныя пасады. Ён хацеў напісаць гісторыю народа, але пад уплывам старой гістарыяграфіі напісаў гісторыю каралёў.

Навуковая дзейнасць А.Нарушэвіча паклала пачатак новай гістарыяграфіі Польшчы, Беларусі і Літвы, хаця ён не здолеў пераадолець старыя традыцыі і праяўляў непаслядоўнасць пры аналізе гісторыі Рэчы Паспалітай.

Да прадстаўнікоў «школы Нарушэвіча» адносяць Тадэвуша Чацкага, Самуэля Ліндэ, Ежы Бандтке і іншых даследчыкаў. Яны гуртаваліся ў **Таварыстве сяброў навук**, якое было заснавана ў Варшаве ў 1800 г.

Актыўным членам таварыства з'яўляўся **Юльян Марцэлевіч Нямцэвіч**, якога паляк Б.Ліманоўскі назваў «ліцвінам рускага паходжання». Нямцэвіч не лічыў сябе палякам і ніколі не звязываў свой родны край з Польшчай.

Ю.Нямцэвіч шмат зрабіў для вывучэння і прапаганды помнікаў мінулага. Хаця ён сам спецыяльна не займаўся археалагічнымі даследаваннямі, але сваімі выступленнямі на пасяджэннях таварыства ён абуджаў іншых да гэтай дзейнасці. Нямцэвіч таксама праводзіў ідэю аховы помнікаў старажытнасці.

Падарожжы 1809, 1816, 1819 гг. па Беларусі дазволілі аўтару скласці «*Збор гістарычных помнікаў пра даўнюю Польшчу*» (1822 – 1833 гг.), у якім даецца апісанне Брэста, Нясвіжа, Мінска, Магілёва і іншых гарадоў.

**Тадэвуш Чацкі** (1765 – 1813 гг.) нарадзіўся ва Украіне. Атрымаў дасканалую хатнюю адукацыю. З 1781 г. практыкант каралеўскага суда ў Варшаве. Член Скарбавай камісіі. Заснаваў у 1800 г. Таварыства аматараў навук (Варшава). Садзейнічаў адкрыццю Крамянецкага юрыдычнага ліцэя.

Чацкі належаў да прыхільнікаў Нарушэвіча, ведаў яго асабіста. Гістарычная спадчына прадстаўлена шэрагам твораў, прысвечаных палітычнай гісторыі ВКЛ, гісторыі права, культуры і манетнай справы: «*Карціна панавання Жыгімонта Аўгуста*» (1835 г.), «*Аб яўрэях*» (1807 г.), «*Аб камісіі і адукацыі ў Літве*» (1807 г.), «*Аб манетнай справе ў Польшчы і Літве*» (1810 г.). Аўтар разглядаў культурную спадчыну беларускага і ўкраінскага народаў як частку польскай культуры. Кніга «*Аб літоўскіх і польскіх законах...*» (1800 – 1801 гг.) стала першай спробай інтэрпрэтацыі права ў польскай гістарыяграфіі. У ёй Чацкі крытыкаваў сцвярджэнне, што прававыя нормы ВКЛ грунтуюцца на рымскім праве.

**Самуэль Багуміл Ліндэ** (1771 – 1847 гг.) – знакаміты польскі лексікограф. Працаваў у Лейпцыгскім універсітэце. З 1804 г. займаў пасаду дырэктара Варшаўскага ліцэя, а ў перыяд герцагства Варшаўскага – дырэктара народнай адукацыі.

Галоўная праца Ліндэ «*Слоўнік польскай мовы*» выйшла ў 6-ці тамах з 1807 па 1814 гг. Таксама даследчык адным з першых у польскай гістарыяграфіі звярнуўся да Статута ВКЛ 1529 г., аналіз якога прадставіў у кнізе «*Пра Статут літоўскі...*» (1816 г.).

**Ежы Самуэль Бандтке** (1768 – 1835 гг.) вучыўся ў Гальскім і Іенскім універсітэтах. Доктар філасофіі. З 1811 г. прафесар бібліяграфіі Кракаўскага універсітэта, дырэктар Ягелонскай бібліятэкі.

У кнізе «*Гісторыя Каралеўства Польскага*» (1810 – 1835 гг.) зрабіў сціплы агляд гісторыі ВКЛ да Люблінскай уніі. Аўтар канцэптуальна поўнасцю паўтарыў пазіцыю Нарушэвіча. Бандтке напісаў шэраг працаў, прысвечаных гісторыі кнігадрукавання ў Польшчы і ВКЛ. Ён прывёў шмат цікавай інфармацыі пра старажытнабеларускія кірылічныя кнігі, дзейнасць першадрукароў і кнігавыдаўцоў у Вільні, Заблудаве, Супраслі, Нясвіжы і іншых гарадах. Даследчык пакінуў нашчадкам кніжны каталог (каля 15 тыс. тамоў) у Ягелонскай бібліятэцы.

**Праверачны тэст**

***I. Выберыце правільны адказ.***

1. Беларуска-літоўскае летапісанне пачалося ў
   А) Вільні
   Б) Наваградку
   В) Смаленску
   Г) Віцебску.
2. Беларуска-літоўскае летапісанне было
   А) мясцовым
   Б) цэнтралізаваным
   В) прыватна-арыстакратычным
   Г) шляхецкім.
3. Беларуска-літоўскі летапіс быў складзены ў
   А) 1443 г.
   Б) 1444 г.
   В) 1445 г.
   Г) 1446 г.
4. М.Літвін выводзіў літоўскую знаць ад
   А) Нерона
   Б) Цэзара
   В) Пампея
   Г) Актавіяна.
5. Берасцейская царкоўная унія разгорнута апісана ў
   А) Баркулабаўскай хроніцы
   Б) Слуцкім летапісу

В) Магілёўскай хронiцы
Г) Віцебскім летапісу.

6. Вобразы Пятра I, Карла XII прадстаўлены ў
А) Баркулабаўскай хроніцы
Б) Слуцкім летапісу
В) Магілёўскай хронiцы
Г) Віцебскім летапісу.

7. У пісьмах Ф.С.Кміты-Чарнабыльскага асвятляюца падзеі
А) вайны 1500 – 1503 гг.
Б) вайны 1507 – 1508 гг.
В) вайны 1534 – 1537 гг.
Г) вайны 1558 – 1582 гг.

8. Дэталёвае апісанне паўстання С.Налівайкі зрабіў
А) Ф.С.Кміта-Чарнабыльскі
Б) Ф.М.Еўлашоўскі
В) А.Філіповіч
Г) С.І.Маскевіч.

9. За адраджэнне праваслаўнай царквы выступаў
А) Ф.С.Кміта-Чарнабыльскі
Б) Ф.М.Еўлашоўскі
В) А.Філіповіч
Г) С.І.Маскевіч.

10. Вайну 1609 – 1618 гг. апісаў
А) Б.К.Маскевіч
Б) Ф.М.Еўлашоўскі
В) А.Філіповіч
Г) С.І.Маскевіч.

11. Расправу над віленскімі кальвіністамі апісаў
А) Ф.С.Кміта-Чарнабыльскі
Б) Я.Я.Цадроўскі
В) А.Філіповіч
Г) С.І.Маскевіч.

12. Пра ваенныя падзеі 1648 – 1649 гг. пісаў
А) Я.Я.Цадроўскі
Б) Ф.М.Еўлашоўскі
В) Б.К.Маскевіч
Г) С.І.Маскевіч.

13. Першая кніга М.Стрыйкоўскага
А) «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі»
Б) «Ганец цноты»
В) «Праваслаўнага ўезду да Кракава і... Генрыха Валуа апісанне»
Г) «Пра пачатак, паходжанне... народа літоўскага, жамойцкага і рускага».

14. Асаблівасць «Хронікі польскай, літоўскай...» М.Стрыйкоўскага
А) сугучнасць лівонскім хронікам
Б) вузкая крыніцавая база

В) адпаведнасць антычнай гістарыяграфіі
Г) схільнасць да Ягелонаў.

15. «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» М.Стрыйкоўскага складаецца з
А) 22 кніг
Б) 23 кніг
В) 24 кніг
Г) 25 кніг.

16. Першым пачаў датаванне падзей біблейскай гісторыі
А) Ян Кваткевіч
Б) Дзіянісій Петавій
В) Альберт Інэс
Г) Антоній Пасевіна.

17. Першы сістэматызаваны курс «Гісторыі Літвы» напісаў
А) М.Стрыйкоўскі
Б) К.Бартольд
В) А.Віюк Каяловіч
Г) А.Нарамеўскі.

18. Гісторыя як самастойны прадмет была ўведзена ў Літоўскай правінцыі езуітаў у
А) 1740 г.
Б) 1741 г.
В) 1742 г.
Г) 1743 г.

19. Пачатак перыядычнаму друку ў ВКЛ паклаў
А) Я.Дрэўс
Б) К.Бартольд
В) С.Растоўскі
Г) Я.Пашакоўскі.

20. Я.Прэўсгайф з'яўляецца аўтарам
А) «Радзівілаўскага летапісу»
Б) «Гісторыі Літоўскай правінцыі езуітаў»
В) «Гісторыі Віленскай Акадэміі»
Г) «Вобліка сарматаў».

21. У Галоўнай Літоўскай школе кафедру ўсеагульнай гісторыі ўзначальваў
А) Т.Гусаржэўскі
Б) Э.Гродэк
В) Ф.Папроцкі
Г) А.Нарамеўскі.

22. Вядучую ролю гандлю ў гісторыі Рэчы Паспалітай адводзіў
А) Ф.Папроцкі
Б) А.Нарушэвіч
В) К.Вырвіч
Г) М.Догель.

23. М.Догель заклаў асновы
   А) рацыяналістычнай філасофіі
   Б) крыніцазнаўства
   В) асветніцкага разумення гісторыі
   Г) рамантычнай гістарыяграфіі.
24. А.Нарушэвіч скончыў калегію езуітаў у
   А) Гродне
   Б) Полацку
   В) Варшаве
   Г) Пінску.
25. Найвышэйшай інстанцыяй у гістарычным працэсе А.Нарушэвіч лічыў
   А) чалавека
   Б) Бога
   В) дзяржаву
   Г) манархію.
26. З'яўленне прыгоннага права А.Нарушэвіч тлумачыў
   А) тэорыяй знешняга заваявання
   Б) унутраным развіццём Польшчы
   В) уплывам магдэбургскага права
   Г) памкненнямі магнатаў.
27. Палітычным ідэалам Нарушэвіча з'яўлялася
   А) абмежаваная манархія
   Б) дэспатыя
   В) шляхецкая рэспубліка
   Г) асветніцкая манархія.
28. Першай спробай інтэрпрэтацыі права ВКЛ у польскай гістарыяграфіі была дзейнасць
   А) Е.Бандтке
   Б) Ф.Шміта
   В) Т.Чацкага
   Г) С.Ліндэ.

***II. Прадоўжыце пералік***

3. Этапы беларуска-літоўскага летапісання: ...
4. Гісторыкі – даследчыкі беларуска-літоўскага летапісання: ...
5. Аўтары Магілёўскай хронікі: ...

# Тэма 4. Беларусь у гістарычных даследаваннях канца XVIII – пачатку 60-х гг. XIX ст.

**План**

1. «Рамантычная» школа І.Лялевеля.

2. Станаўленне беларускага крыніцазнаўства ў першай трэці XIX ст.

3. Гістарычныя звесткі пра Беларусь у працах рускіх гісторыкаў канца XVIII – пачатку XIX ст.

4. Дзейнасць урадавых установаў Расійскай імперыі па вывучэнні мінулага Беларусі.

5. Расійская гістарыяграфія другой трэці XIX ст. аб гісторыі ВКЛ.

6. Вывучэнне гісторыі «мясцовымі» даследчыкамі Беларусі і Літвы ў 30-я – пачатак 60-х гг. XIX ст.

**Рэкамендаваная літаратура**


1. Аксамітаў, А.С. З душой славяніна: Жыццё і дзейнасць З.Я.Даленгі-Хадакоўскага / А.С.Аксамітаў, Л.А.Малаш. – Мн.: Полымя, 1991. – 151 с.

2. Алексеев, Л.В. Археология и краеведение Белоруссии XVI в. – 30-е годы XX в. / Л.В.Алексеев. – Мн.: Беларуская навука, 1996. – С. 19 – 78.

3. Басевич, А.М. Иоахим Лелевель: польский революционер, демократ, ученый / А.М.Басевич. – М.: Изд. соц. – экономич. лит., 1961. – 192 с.

4. Габрусевіч С.А. Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына: гіст. нарыс / С.А.Габрусевіч, С.В.Марозава. – Гродна: ГрДУ, 2005. – 216 с.

5. Дзяржаўнасць і права Беларусі са старажытных часоў да канца XVI ст. Ч. 1: Гістарыяграфія гісторыі дзяржавы і права феадальнай Беларусі / Я.А.Юхо. – Мн.: Серыя «Гісторыя Бацькаўшчыны», дадатак да часопіса «Права і эканоміка», 2001. – 104 с.

6. Ермаловіч, М. Тацішчаўскія звесткі пра Беларусь / М.Ермаловіч // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1976. – № 2. – С. 33 – 35.

7. Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении: Литовское и Белорусское Полесье: Репринт. Воспроизведение изд. 1882 г. – 2-е изд. – Мн.: БелЭн, 1994. – 550 с.

8. Запрудскі, І.М. Адам Кіркор як гісторык беларускай літаратуры / І.М.Запрудскі // Роднае слова. – 2000. – № 4. – С. 18 – 19.

9. Запрудскі, І.М. «Заваяваць сабе свабоду...» / І.М.Запрудскі // Настаўніцкая газета. – 2002. – 7 верас.

10. Историография истории России до 1917 года: учеб. для студ. высш. учеб. заведений: В 2 т. – М.: ВЛАДОС, 2003. – Т. 1. – С. 261 – 268.

11. Историография истории южных и западных славян: учеб. пособие. – М.: МГУ, 1987. – 262 с.

12. История Вильнюсского университета (1579 – 1979) / ред. кол.: Й.Кубилюс, С.Лазутка. – Вильнюс: Мокслас, 1979. – 373 с.

13. Караў, Дз. Пачаткі беларускага крыніцазнаўства / Дз.Караў // Спадчына. – 1994. – № 1. – С. 4 – 14.

14. Карев, Д.В. Белорусская историография в конце XVIII – начале 60-х годов XIX в. / Д.В.Карев // Очерки истории науки и культуры Беларуси IX – начала XX в. / П.Т.Петриков [и др.]. – Мн.: Наука и техника, 1996. – С. 24 – 39.

15. Карев, Д.В. У истоков белорусской национальной историографии. Конец XVIII – 50-е годы XIX в. (Историческая наука Белоруссии и Литвы времён Т.Нарбута) / Д.В.Карев // Наш радавод: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII – пачатку XX стст.». – Гродна, 1990. – Кн. 5 (ч. 2). – С. 199 – 252.

16. Каханоўскі, Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI – XIX стст. / Г.А.Каханоўскі. – Мн: Навука і тэхніка, 1984. – С. 23 – 72.

17. Каханоўскі, Г.А. Тэадор Нарбут і Беларусь / Г.А.Каханоўскі // Чырвоная змена. – 1989. – 18 ліст.

18. Каханоўскі Г.А. Руплівец нашай старасветчыны: Яўстах Тышкевіч / Г.А.Каханоўскі, А.Г.Каханоўскі. – Мн.: Навука і тэхніка, 1991.

19. Кісялёў, Г.В. Героі і музы: Гіст. – літ. Нарысы / Г.В.Кісялёў. – Мн.: Маст. літ., 1982. – 255 с.

20. Копысский, З.Ю. Историография БССР (эпоха феодализма): учеб. пособие / З.Ю.Копысский, В.В.Чепко. – Мн.: Университетское, 1986. – 175 с.

21. Мелешко, Е.И. Концепция исторического развития белорусских земель в трудах П.О.Бобровского / Е.И.Мелешко // Вестник ГрГУ. Серия 1. – 2000. – № 2. – С. 43 – 50.

22. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыкл. даведнік. – Мн.: БелЭн, 1996. – 671 с.

23. Ненадавец, А. Тэадор Нарбут / А.Ненадавец. – Мн.: Полымя, 1996. – 63 с.

24. Нечухрин, А.Н. Отечественные историки – уроженцы Гродненщины / А.Н.Нечухрин. – Гродно: ГрГУ, 1989. – 31 с.

25. Попков, Б.С. Польский ученый-революционер Иоахим Лелевель / Б.С.Попков. – М.: Наука, 1974. – 212 с.

26. Пыпин, А.Н. История русской этнографии / А.Н.Пыпин. – Т. 4. Белоруссия и Сибирь. – Мн.:БелЭн, 2005. – 256 с.

27. Цітоў, В. С. Этнаграфічная спадчына. Беларусі. Традыцыйна-бытавая культура: вучэб. – метад. дапаможнік / В.С.Цітоў. – Мн.: Беларусь, 1997. – 207 с.

28. Юхо, И. Татищев о Белоруссии / И.Юхо // Неман. – 1989. – № 3. – С. 174 – 176.

**Тэматыка рэфератаў**

1. Погляды І.Лялевеля на гісторыю ВКЛ і Расіі.

2. Віленскі універсітэт – цэнтр гістарычнага вывучэння Беларусі ў першай трэці XIX ст.

3. В.М.Тацішчаў аб гістарычных падзеях на тэрыторыі Беларусі.

4. А.К.Кіркор як даследчык мінулага свайго краю.

5. Т.Нарбут аб гісторыі ВКЛ.

6. Уклад братоў Тышкевічаў у развіццё археалогіі і краязнаўства Беларусі.

7. Дзейнасць Віленскай археалагічнай камісіі.

**1. «Рамантычная» школа І.Лялевеля**. У першай трэці XIX ст. цэнтрам прапаганды ідэй Асветніцтва на тэрыторыі Беларусі і Літвы становіцца Віленскі імператарскі універсітэт, створаны на базе галоўнай Літоўскай школы ў 1803 г. па загадзе Аляксандра І. Цыкл гуманітарных, у тым ліку і гістарычных дысцыплінаў, выкладаўся на двух факультэтах: факультэце навук маральных і палітычных; факультэце літаратур і свабодных мастацтваў. Іх абслугоўвала кафедра ўсеагульнай гісторыі. Адным з яе загадчыкаў з’яўляўся вядомы польскі гісторык і грамадска-палітычны дзеяч Іаахім Лялевель.

**Іаахім Лялевель** (1786 – 1861 гг.) скончыў у 1808 г. Віленскі універсітэт. Працаваў у ім спачатку выкладчыкам, затым ад’юнктам, потым прафесарам і загадчыкам кафедры ўсеагульнай гісторыі. Заснавальнік і рэдактар часопіса «Tygodnik Wilenski». Ідэйны натхняльнік тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў, адзін з кіраўнікоў паўстання 1830 – 1831 гг. Пасля паражэння паўстання эміграваў у Заходнюю Еўропу, дзе ўзначальваў польскія дэмакратычныя арганізацыі. Лялевель, магчыма, мае беларускія карані, бо яго маці Е.Шалюта паходзіла з беларускіх земляў. Сам ён пісаў, што бацька яго быў сынам прусака і саксонкі, а дзед «Шалюта» быў «русінам, а можа і маскалём... Вось такая сумесь атрымалася... як гарох і капуста, а ляха няма».

Упершыню ў польскай гістарыяграфіі Лялевель вызначыў паняцце сусветнай гісторыі як гісторыі ўсіх народаў і дзяржаваў. Ён з'яўляецца заснавальнікам і галоўным прадстаўніком «рамантычнай» школы ў гістарыяграфіі Польшчы, Беларусі і Літвы. Пад уплывам польскага нацыянальнага руху ён лічыў справу вывучэння гісторыі актуальным і патрыятычным абавязкам. Гісторыя, на яго думку, ствараецца для народа, а народ – гэта сялянства і шляхта.

У працах «*Гісторыка»* (1815 г.), «*Якім павінен быць гісторык»* (1818 г.) Лялевель падкрэсліваў, што гістарычнае даследаванне павінна мець сувязь з сучаснасцю. Гісторыкам лічыцца той, хто вызначае прычыны і наступствы дзейнасці людзей, а гэта патрабуе шырокага выкарыстання гістарычна-параўнальнага метада. Пад прадметам гістарычнага даследавання Лялевель бачыў «вывучэнне стану чалавечага роду, яго здольнасцяў і схільнасцяў..., спосабаў яго вытворчасці».

У 1822 г. ён выдаў кнігу «*Навукі, якія дазваляюць вывучыць гістарычныя крыніцы»,* якая ўвабрала курс крыніцазнаўства і дапаможных гістарычных дысцыплінаў, які чытаў аўтар у Віленскім універсітэце. Тым самым Лялевель пашырыў крыніцазнаўчую базу гістарычнай навукі за кошт дапаможных дысцыплінаў: геаграфіі, статыстыкі, храналогіі, археалогіі, нумізматыкі, сфрагістыкі і інш. Ім былі распрацаваны навуковыя прыёмы крытыкі гістарычных крыніцаў.

Сам працэс пазнання мінулага згодна з І.Лялевелем складаецца з трох этапаў. Першы прадугледжвае вывучэнне гістарычнай крыніцы, адказ на пытанне: «як, што, дзе і калі гэта адбывалася». Глыбокі аналіз крыніцаў, на яго думку, змяншае небяспеку мадэрнізацыі мінулага, вызваляе даследчыка ад чужога ўплыву. «Гісторыю і гістарычныя крыніцы я пазнаваў уласнымі намаганнямі, я накопліваў уласны вопыт... Мною кіравалі прыклады пісьменнікаў, але іх ацэнка залежала ад мяне», – пісаў Лялевель.

Другі этап – «этыялогіка». Гісторыя не роўназначная фактаграфіі. Гісторыя ў шырокім сэнсе гэтага слова азначае сінтэз, г.зн. крытычнае, філасофскі асэнсаванае абагульненне мінулага. Паколькі з'явы ў гісторыі не аднолькавыя, таму даследчык павінен вылучыць толькі галоўныя: «У прыродзе і лісце дрэў адрозніваецца адзін ад аднаго, – я заўсёды аб гэтым помніў і затраціў шмат сіл на вызначэнне адрозненняў у з'явах». Важнай задачай этыялогікі Лялевель лічыў раскрыццё прычынаў і наступстваў гістарычных падзеяў па схеме: прычыны – падзея – наступствы.

У цэнтр гістарычнага працэсу даследчык паставіў чалавека, які з'яўляецца часткай грамадства і дзейнічае ў яго межах. Чалавек па-за грамадствам не можа быць аб'ектам вывучэння «філасофскай» гісторыі, толькі народ як комплекс грамадскіх групаў. Кожны народ мае свой спецыфічны «дух», які з'яўляецца рухавіком гістарычнага працэсу і прагрэсу.

Трэці этап гістарычнага даследавання ёсць непасрэдна гістарыяграфія – «мастацтва пісаць гісторыю», уменне растлумачыць усе бакі грамадскага жыцця. Пры гэтым вялікая ўвага павінна надавацца стылю твора. Гісторык павінен быць «і паэтам, і мастаком».

Відавочна, што аснову рамантычнай гістарыяграфіі складала ідэя «нацыянальнага духу», «патокаў культуры» і іншых духоўных з'яваў, якія вызначаюць лёс народа. У кнізе «*Гісторыя Польшчы да смерці Стэфана Баторыя»* (1813 г.) Лялевель вызначыў «нацыянальны дух» палякаў у схільнасці да свабоды, мужнасці, адкрытасці, імкненні захаваць старажытныя славянскія свабоды, дапоўніўшы іх рэспубліканскімі інстытутамі. Польскую мову ён лічыў самай найбагацейшай за іншыя славянскія мовы, паколькі ў ёй адсутнічаюць паняцці «дэспатызм», «самадзяржаўе». Таму гісторыя Польшчы – гэта гісторыя самаразвіцця, узвышэння і заняпаду «нацыянальнага духу» польскага народа.

Падобны падыход адлюстроўваў погляды дробнай шляхты і прагрэсіўнай інтэлігенцыі рэспубліканскага кірунку. Рускі гісторык М.І.Карэеў адзначаў: «Трагічны лёс роднай зямлі заставіў іх (палякаў) перанесці свае сімпатыі ў мінулае і, параўноўваючы з ім крыўднае сучаснае, зрабіць з гэтага мінулага прадмет паўрэлігійнага культу... У гэту эпоху прадстаўнікі нацыі адчулі крыўду, спачуванне да саміх сабе, жаль аб страчаным палітычным існаванні, і ўсё гэта павінна было адбіцца на гістарыяграфіі пачаткам ідэалізацыі былой Рэчы Паспалітай».

Свае погляды на гісторыю ВКЛ і Русі Лялевель раскрыў у манаграфіі «*Гісторыя Літвы і Русі да Люблінскай уніі з Польшчай 1569 года»* (1839 г.). Ён паспрабаваў даць комплексную панарамную характарыстыку іх унутранага развіцця, дзяржаўна-палітычных адносінаў, знешніх фактараў, у тым ліку дзяржаўных і царкоўных уніяў з Польшчай. Лялевель крытычна ацаніў развіццё гістарычнай думкі ад узнікнення рускага летапісання да пачатку XIX ст. Упершыню ў гістарыяграфіі даследчык вывучыў польскія крыніцы па гісторыі Расіі.

Лялевель адобрыў перыядызацыю расійскай гісторыі, прапанаваную М.М.Карамзіным, але быў супраць вылучэння вялікіх храналагічных перыядаў. У рускай гісторыі даследчыка зацікавілі «нарманская» тэорыя і роля нарманаў у стварэнні Старажытнарускай дзяржавы, грамадска-палітычнае развіццё Маскоўскага княства і стварэнне Рускай цэнтралізаванай дзяржавы, гісторыя Ноўгарада, руска-польскія адносіны. Лялевель адным з першых даказваў магчымасць сяброўскіх адносінаў народаў Расіі і Польшчы. Праўда, ён ідэалізаваў знешнюю палітыку Рэчы Паспалітай, сцвярджаў, што яна не прадугледжвала захопы і пашырэнне сваёй тэрыторыі, як гэта было характэрна рускім манархам.

Гісторыя ВКЛ пачынаецца з часоў Кіеўскай Русі і заканчваецца Люблінскай уніяй. На думку даследчыка, княства было асноўным пераемнікам гістарычнай, традыцыйнай і культурнай спадчыны Кіеўскай Русі, што садзейнічала яго ўнутранаму развіццю і знешняй адпорнасці. «Гаспадарства ўзнікла на рыштаваннях тагачаснай Русі, – пісаў Лялевель, – і прыстасаванні да іх наезднічай Літвы». Рэспубліканскія погляды Лялевеля адбіліся ў яго ідэалізацыі абшчынных парадкаў, т.зв. «гмінаўладства», свабоды і роўнасці, у крытыцы феадальных парадкаў ВКЛ, самапраўства і панавання арыстакратыі, у схільнасці да саслоўна-прадстаўнічага (шляхецкага) дзяржаўнага ладу. Праца Лялевеля ахоплівала розныя бакі этнічнай, царкоўна-рэлігійнай, грамадскай, эканамічнай гісторыі Літвы і Русі. Аўтар прытрымліваўся класавай ацэнкі сацыяльных працэсаў, ускладваў гістарычныя надзеі на дзейнасць сярэдніх і ніжэйшых пластоў грамадства, з улікам знешніх фактараў шукаў унутраныя прычыны для тлумачэння буйных палітычных рухаў, дзяржаўных і царкоўных уніяў.

Па сваёй featнабаковасці, этнічнай і палітычнай талерантнасці ў асвятленні самага значнага перыяду фармавання і развіцця ВКЛ і па сваёй галоўнай тэматыцы, звязаўшай Русь і Літву ў адным дзяржаўна-палітычным рэчышчы, – кніга Лялевеля засталася унікальнай з’явай у гісторыі польска-літоўскай гістарыяграфіі. Па сутнасці, гэта першы сінтэтычны абагульняльны агляд «літоўска-рускай» дзяржаўнасці. Усе наступныя абагульняльныя працы польскіх і літоўскіх гісторыкаў былі абмежаваны або адасобленай гісторыяй Літвы ці Русі, або гісторыяй Літвы і Польшчы, Літвы і ВКЛ, ці разглядалі больш вузкія сферы. Ацэньваючы перспектывы нацыянальна-вызваленчых рухаў, Лялевель спадзяваўся на падтрымку рускага народу.

**2. Станаўленне беларускага крыніцазнаўства ў першай трэці XIX ст.** У канцы XVIII ст. узрастае прэстыж гісторыі ў шляхецкім асяродку, што было выклікана пашырэннем грамадска-палітычнага руху. Згодна з уяўленнямі паланізаванай беларускай шляхецкай інтэлігенцыі гісторыя павінна служыць барацьбе за захаванне нацыянальнай культуры. Таму мясцовая інтэлігенцыя праяўляла схільнасць да гістарычнай праблематыкі і гістарычных даследаванняў. Д.У.Караў назваў гэты працэс «крыніцавым бумам». Попыт нараджаў прапанову, а практыка прыватнага калекцыянавання патрабавала рацыянальнага аналіза крыніцаў.

У першай трэці XIX ст. у Вільні сфармавалася група гісторыкаў, якія стаялі ля вытокаў не толькі беларусазнаўства, але і беларускай нацыянальнай ідэі. Яны асвятлялі гісторыю ВКЛ з патрыятычных літоўска-беларускіх пазіцыяў, выказваліся за аднаўленне самастойнасці ВКЛ і вяртанне дзяржаўнага статуса старабеларускай пісьмовай мове.

**Ігнат Мікалаевіч Даніловіч** (1788 – 1843 гг.) паходзіў з сям'і уніяцкага святара. Выпускнік, а затым прафесар Віленскага універсітэта. Атрымаў добрую падрыхтоўку ў галіне заканадаўства ў Варшаве і Пецярбургу. Пасля разгрому тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў быў накіраваны ў Харкаўскі універсітэт прафесарам расійскага і правінцыяльнага права (1825 г.). У 1835 – 1842 гг. выкладаў крымінальнае права ў Кіеўскім і Маскоўскім універсітэтах. Першы дэкан юрыдычнага факультэта Кіеўскага універсітэта. Памёр у Графенбергу, дзе праходзіў курс лячэння ад псіхічнай хваробы.

Працуючы ў Віленскім універсітэце, Даніловіч пачаў займацца зборам, вывучэннем і публікацыяй пісьмовых крыніцаў па гісторыі Беларусі і Літвы. Даследчык сам праводзіў археаграфічныя пошукі матэрыялаў у архівах Пецярбурга, Варшавы, Масквы. У бібліятэцы графа М.П.Румянцава ён знайшоў Судзебнік Казіміра IV 1468 г., а ў Супрасльскім манастыры – Супрасльскі летапіс. Віленскія студэнты прывозілі свайму прафесару пергаментныя рукапісы пераважна з уніяцкіх цэркваў і манастыроў. Зборы рукапісаў ён класіфікаваў і крытычна разбіраў.

З прыездам у Вільню Лялевеля Даніловіч разам з М.К.Баброўскім пачаў рыхтаваць праект выдання помнікаў заканадаўства ВКЛ. Пры Віленскім універсітэце ў 1821 г. быў створаны спецыяльны камітэт для выдання Статутаў ВКЛ. Першы Статут 1529 г., падрыхтаваны да друку Даніловічам, быў апублікаваны ў 1841 г. У працы «*Гістарычны агляд літоўскага заканадаўства*» (1837 г.) ён

зрабіў агляд гісторыі права ў Беларусі і Літве. Аўтар паказаў, што права ВКЛ мела адзіную крыніцу са старажытнарускім правам, лічыў «Рускую праўду» помнікам гарадскога права, які не ахопліваў усіх бакоў народнага жыцця Русі.

Цікавым фактам з яго жыцця з'яўляецца супрацоўніцтва з М.М.Сперанскім у Пецярбургу, куды гісторык быў накіраваны ў 1830 г. Ён атрымаў даручэнне скласці «Звод мясцовых правоў заходніх губерняў». Але пасля паўстання 1830 – 1831 гг. на тэрыторыі Беларусі і Літвы распаўсюджваецца агульнарасійскае заканадаўства, таму гэты праект не быў рэалізаваны.

Даніловіч адным з першых пачаў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання. Ён разам з М.К.Баброўскім у 1827 г. апублікаваў Супрасльскі летапіс пад назвай «*Летапісец Літвы і Руская хроніка».* Фактычна гэта першае выданне беларуска-літоўскага летапіса 1446 г. Працы І.Даніловіча «*Пра літоўскія летапісы»* (1840 г.), «*Паведамленне пра сапраўдных літоўскіх летапісцаў»* (1841 г.) далі пачатак навуковаму вывучэнню беларуска-літоўскага летапісання.

Археаграфічная дзейнасць вучонага знайшла адлюстраванне ў зборніку пісьмовых крыніцаў па гісторыі Беларусі і Літвы «*Скарбніца грамат»,* які быў выдадзены Я.Тышкевічам у 1860 – 1862 гг. Зборнік уключае 2500 дакументаў – ад выпісак з Герадота да актаў 1569 г., апісаных Даніловічам. Вядомы расійскі даследчык права М.Ф.Уладзімірскі-Буданаў назваў яго «патрыётам-ліцвінам,... грамадзянінам ВКЛ».

**Ігнат Сымонавіч Анацэвіч** (1780 – 1845 гг.), псеўданім Жэгота, паходзіць з Гродзеншчыны, з сям'і уніяцкага святара. Скончыў Кёнігсбергскі і Віленскі універсітэты. Працаваў выкладчыкам у Беластоцкай гімназіі, затым ад'юнктам і прафесарам статыстыкі Віленскага універсітэта. Але канфлікт з рэктарам і абвінавачванне ва ўдзеле ў студэнцкай арганізацыі «Племя сарматаў» спынілі навуковую дзейнасць у Беларусі. З 1834 г. працаваў у Пецярбургу памочнікам бібліятэкара Румянцаўскага музея і членам Археаграфічнай камісіі.

Гістарычная спадчына гэтага вядомага даследчыка вывучана недастаткова поўна. Праблемным застаецца пытанне прыналежнасці аўтара да пэўнай нацыянальнай гістарыяграфіі, а таксама яго метадалагічны падыход да гістарычнага працэсу, гістарыясофская аснова і крыніцавая база даследаванняў.

Часткова адказ на пастаўленыя пытанні можна знайсці ў працы Анацэвіча «*Заўвагі да ўсеагульнай гісторыі».* Аўтар прыйшоў да высновы, што гісторыя – гэта рэальная частка працэсу пазнан-

ня свету, «архіў роду людскога». На яго думку, гісторыя ствараецца для народа, а «народ, калі не слухае голасу гэтай навукі, будзе асуджаны і ў доўгай чарадзе паразаў будзе дарэмна аплакваць сваю невідушчнасць». Як і Лялевель, Анацэвіч пад прадметам гістарычнай навукі разумеў вывучэнне дзейнасці не толькі ўрада, паліцыі, палітыкі, промысла, гандлю, войнаў, але і «звычаяў, характару народа, яго выхавання, правоў, рэлігійных абрадаў».

Пазіцыя даследчыка ў супрацьвагу тэалагічнай гістарыяграфіі мае асветніцкі характар, што збліжае Анацэвіча з гістарычнай школай Нарушэвіча. Аўтар лічыць, што гісторыя – свецкая навука, якой прысутны пазнавальныя і маральныя функцыі: «гісторыя з'яўляецца найвышэйшым трыбуналам справядлівасці, перад якім усе ўчынкі народаў і людзей вырашаюцца канчаткова і неперадузята». Ён згодны з антычным тэзісам «historia – est magistra vitae». «Гісторыя як філасофія ў прыкладах, святло праўды, жыццё памяці, настаўніца звычаяў» «...захоўвае помнікі дзеяў і думак людскіх, гэта паходня праўды, якая вынішчае памылкі, забабоны, гэта дакладнае люстэрка адышоўшых стагоддзяў, якое можа служыць невычэрпнай крыніцай перасцярог, навукі, маральнасці будучым стагоддзям», – пісаў аўтар. Праўда, Анацэвіч дапускаў пэўныя ваганні з прычыны прызнання Бога і ролі рэлігіі ў грамадскім і духоўным жыцці. На яго думку, гісторыя павінна падрыхтаваць «род людскі да шанавання канонаў рэлігіі і беззаганнага выканання сваіх абавязкаў».

Анацэвіч пашырыў крыніцазнаўчую базу гістарычнай навукі за кошт іншых гістарычных дысцыплінаў: геаграфіі, храналогіі, генеалогіі, геральдыкі, дыпламатыі, нумізматыкі, эпіграфікі, статыстыкі, міфалогіі і археалогіі. Геаграфію і храналогію ён залічыў да навук, якія маюць «непадзельную сувязь з гісторыяй», а астатнія – да дапаможных. Аўтар паказаў не толькі добрае веданне даследчыкаў і іх працаў па кожнай дапаможнай навуцы, але і зрабіў іх крытычны аналіз. На першае месца ён паставіў геаграфію і храналогію, бо яны адказваюць на пытанне, «калі і дзе здарылася» гістарычная падзея. Асобна выдзелены К.Вырвіч і Я.Снядэцкі, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё «палітычнай і эканамічнай геаграфіі» ў Рэчы Паспалітай. Анацэвіч прадэманстраваў крытычнае стаўленне да гістарычных крыніцаў па ўсеагульнай гісторыі, вызначыў правілы аўтэнтычнасці старажытных манетаў.

Анацэвіч прапанаваў навуковыя прыёмы крытыкі гістарычных крыніцаў. Ён прытрымліваўся пазіцыі, згодна з якой даследчык павінен дакладна і поўна адлюстроўваць падзеі мінулага. Ад-

паведна працэс гістарычнага пазнання, згодна з аўтарам, складаецца з трох этапаў. Першы этап прадугледжвае аналіз або «крытыку» самаго даследчыка, г.зн. умоваў яго жыцця, каб высветліць магчымасць праўдзівага асвятлення гісторыі. Другі – пошук «крыніц фактаў» з мэтай іх наступнай ацэнкі, а трэці – аналітычны, які ставіў сваёй мэтай аналіз гістарычных падзеяў: «трэба найперш зрабіць самы сціслы аналіз пануючай думкі, народнага характару, рэлігійнага ўплыву і палітычнага кіравання, перад тым, як адно асудзіць, а іншае пахваліць».

Гісторык заклікае сучасных яму і будучых даследчыкаў «засцерагацца прымаць прыблізнае непадабенства за абсалютнае», рабіць «розніцу паміж цудам і дзівам». На думку аўтара, любы гістарычны факт мае разнастайныя прычыны, а яго доказ залежыць не толькі ад колькасці крыніцаў, але і ад іх каштоўнасці.

Сусветную гісторыю даследчык падзяляў на чатыры перыяды: старажытны (да 476 г.), сярэднія вякі (да 1492 г. – адкрыцця Амерыкі), новы (да 1789 г. – Вялікай французскай рэвалюцыі), найноўшы (з канца XVIII – пачатку XIX ст.). Відавочна супадзенне двух першых перыядаў з сучасным падыходам да перыядызацыі сусветна-гістарычнага працэсу.

У працы «Заўвагі да ўсеагульнай гісторыі» асобны раздзел прысвечаны «крытычнай Гісторыі Гісторыі», альбо гістарыяграфіі. Гэта сведчыць аб выкарыстанні аўтарам гісторыка-параўнальнага метаду, пераходу ад апісальнасці мінулага да яго крытычнага аналіза. Услед за Лялевелем Анацэвіч лічыў, што «гісторык павінен быць філосафам, палітыкам, чыноўнікам і гледачом».

Умоўна гістарыяграфію сусветнай гісторыі, прапанаваную аўтарам, можна падзяліць на тры перыяды: антычны, сярэднявечны і новы. Самы першы перыяд напісання ўсеагульнай гісторыі Анацэвіч звязвае з гісторыкамі Старажытнай Грэцыі і Рыма. Ён вызначыў іх характэрную асаблівасць – выкарыстанне маналогаў («каб пахваліцца талентам красамоўства) і скупасць звестак аб сацыяльна-эканамічным жыццці грамадства, у прыватнасці, аб «заканадаўстве і палітычнай эканоміцы».

Анацэвіч ставіў старажытнарымскую гістарыяграфію на больш нізкую ступень за старажытнагрэчаскую, лічыў яе водгукам дзеепісьменства Грэцыі. «Пераможаныя (грэкі – В.Б.) пісалі пераможцам (рымлянам – В.Б.) гісторыю дзеля славы сваёй болей, чым для праўды». Таму з рымскіх аўтараў пад увагу даследчыка папалі Трог Пампей за Гістарычную анталогію і Ціт Лівій за Гісторыю ў 14 частках.

Сярэднявечны перыяд гістарыяграфіі ўсеагульнай гісторыі Анацэвіч лічыў «найсмутнейшым часам для ўсіх навук і для гісторыі». Гэта звязана найперш са знішчэннем антычных пісьмовых крыніцаў «фанатычнымі першымі хрысціянамі». Па-другое, непісьменнасцю большай часткі насельніцтва, бо навукамі займалася «выключна толькі духоўнае саслоўе». Гісторык адзначыў хроніку Эўзэбія як аснову ўсеагульнай гісторыі для сярэднявечных кампілятараў. Таксама аўтар выказаў свой сумнеў у аб'ектыўнасці арабскіх крыніцаў. Пры гэтым ён заўважаў, што сярэднявечныя творы могуць быць важнымі крыніцамі па ўсеагульнай гісторыі, бо перапісчыкі-манахі старанна перапісвалі тэксты, пазбягаючы каментара і аналітыкі.

Ужо ў XVII – XVIII стст. у некаторых еўрапейскіх універсітэтах пачынаецца выкладанне ўсеагульнай гісторыі. Езуіт Дыянісій Петавій у працы «Пералік часоў» першым раскрыў падзеі ўсеагульнай гісторыі, за ім – біскуп з Меакса Басуэт. Анацэвіч указаў на асаблівасць гэтых гістарычных працаў – метад правідэнцыялізму («Абачнасць Божую, што кіруе стырнам свету»).

Развіццё гарадоў Паўночнай Італіі і актывізацыя ў іх гарадскога саслоўя, на думку Анацэвіча, прадвызначылі рост цікавасці да свецкіх ведаў і, несумненна, гісторыі. На этапе Адраджэння італьянцы распаўсюджвалі творы антычных аўтараў, таму «Грэцыя другі раз, пры садзеянні італьянцаў, выратавала Еўропу ад цемры варварства». Адным з першых прыкладаў «гістарычнай прагматычнасці» стала праца М.Макіявелі «Гісторыя Фларэнцыі». Затым І.Анацэвіч называе «Гісторыю Італіі» Ф.Гуікардзіні і іншыя працы.

Відавочна глыбокае і грунтоўнае веданне Анацэвічам гістарыяграфіі ўсеагульнай гісторыі. Гэта дало яму падставу зрабіць аналічны яе агляд і прапанаваць уласную перыядызацыю гісторыі гістарычнай думкі. А метадалагічныя падыходы аўтара сведчаць аб яго набліжанасці да гістарыяграфічных школаў Нарушэвіча і Ляляевеля.

Гісторыя ВКЛ разглядалася І.Анацэвічам у спецыяльным курсе, а не пры вывучэнні ўсеагульнай гісторыі. Лекцыі карысталіся папулярнасцю сярод студэнтаў. Гісторык планаваў напісаць абагульняльную працу, але не атрымалася. Ужо пасля смерці выйшлі артыкулы на польскай мове «*Погляд на першапачатковую гісторыю Літвы»* (1846 г.), «*Погляд на гісторыю Вялікага княства Літоўскага»* (1849 – 1850 гг.). ёсць меркаванне, што рукапіс сваёй «Гісторыі Літвы» вучоны перадаў Ігнату Крашэўскаму.

У гістарычнай канцэпцыі Анацэвіч зыходзіў з паходжання літоўцаў ад герулаў (германскіх плямёнаў), якія падзяліліся «на ліцвінаў, прусаў, яцвягаў, жмудзінаў, куронаў, лівонаў і крывічоў». Назву «крывічы» ён выводзіў ад старажытнабалцкага «архікаплана Крыве». Гісторыю ВКЛ даследчык падзяляў на пяць перыядаў: 1) 1009 – 1183 гг. – міфічная гісторыя ад першага летапіснага ўспаміну аб Літве; 2) 1183 – 1240 гг. – няпэўная гісторыя ад паходаў Літвы на Русь да княжання Міндоўга; 3) 1240 – 1386 гг. – больш пэўная гісторыя ад Міндоўга да хрысціянізацыі Літвы; 4) 1386 – 1447 гг. – магутнасць Літвы; 5) 1447 – 1569 гг. – завяршэнне асобнай гісторыі Літвы, яе далучэнне да гісторыі Польшчы.

**Іосіф Бенядзіктавіч Ярашэвіч** (1793 – 1860 гг.) – сын судовага пісара з Бельска (Польшча). Скончыў Беластоцкую гімназію, маральна-палітычны факультэт Віленскага універсітэта. Выкладаў у Крамянецкім юрыдычным ліцэі, затым стаў прафесарам крымінальнага і грамадзянскага права Віленскага універсітэта.

Ярашэвіч актыўна займаўся даследаваннем старажытнай гісторыі ВКЛ і крыніцазнаўствам. Вялікі ўплыў на яго аказаў загадчык кафедры ўсеагульнай гісторыі Лялевель, з якім вучоны ў 1817 – 1830 гг. вёў інтэнсіўную перапіску.

Дакладнае вывучэнне гістарычных крыніцаў дазволіла Ярашэвічу падрыхтаваць фундаментальнае выданне «*Вобраз Літвы з пункту гледжання цывілізацыі ад найстаражытнейшых часоў да канца XVIII ст.»,* якое выйшла ў трох тамах (830 старонак) у 1844 – 1845 гг. Гэтае даследаванне стала адлюстраваннем істотнага праграсу ў развіцці гістарычнай навукі Беларусі і Літвы. Ярашэвіч першым у айчыннай гістарыяграфіі стаў разумець гістарычную навуку як цывілізацыйны закон развіцця асветы грамадства.

Першы том змяшчае інфармацыю аб жыцці і побыце балцкіх плямёнаў да хрысціянізацыі Літвы. Другі том пачынаецца з распаўсюджвання каталіцызму ў ВКЛ да Рэфармацыі. Трэці том аўтар прысвяціў дзейнасці ордэна езуітаў, раскрыў рэформы А.Тызенгаўза. Перыядызацыя Ярашэвіча для першай паловы XIX ст. была новай з'явай – амаль усе даследчыкі завяршалі асвятленне гісторыі ВКЛ Люблінскай уніяй або прывілеем Ягайлы аб хрышчэнні Літвы. Ярашэвіч давёў гэтую гісторыю да канца XVIII ст.

Аўтар прызнаваў літоўцаў аўтахтонным насельніцтвам з III ст. н.э. Але ён памылкова адносіў іх да плямёнаў Паўночнай Еўропы. Ярашэвіч крытыкаваў польскага храніста В.Кадлубка і гісторыка А.Нарушэвіча за іх погляд на язычніцкую Літву як на варварскі перыяд. Ён адзначаў, што людзі, якія «займаюцца жы-

вёлагадоўляй і земляробствам, не могуць быць на нізкім узроўні развіцця». Гісторык прааналізаваў спрэчныя думкі вакол асобы Крыва-Крывэйтэ. У гісторыка выклікаў скептычную ўсмешку факт беднасці старажытных літоўцаў, якія быццам бы нават даніну плацілі рускім князям бярозавымі венікамі.

Ярашэвіч вельмі асцярожна ставіўся да некаторых звестак «Хронікі Быхаўца». Паданне пра Палямона, яго сыноў і ўнукаў ён апусціў. Відаць, лічыў, што гэта легендарная частка летапіса. Гісторык не пагаджаецца з назвамі мясцінаў, дзе адбыліся бітвы літоўскіх войск на чале з князем літоўскім Міндоўгам з татарамі.

Адным з першых у гістарыяграфіі Польшчы, Беларусі і Літвы Ярашэвіч выдвінуў канцэпцыю існавання феадальнага ладу ў ВКЛ. На яго думку, феномен феадалізму ў гэтым рэгіёне мае ўнутраныя прычыны, а не знешнія. Феадалізм аўтар вызначаў з XI ст. і звязваў яго з імем князя Эрдзвіла Манцівілавіча. На яго думку, узнікненне феадалізму выклікана ленным правам атрымання зямлі.

Аўтар вызначыў ролю праваслаўя ў гісторыі ВКЛ. Ён лічыў, што некаторыя літоўскія князі прымалі праваслаўную веру «дзеля сваіх палітычных інтарэсаў». Уключэнне беларускіх земляў у склад княства ацэньваецца ў развіцці літоўскай цывілізацыі станоўча, таму што яны знаходзіліся на больш высокай ступені развіцця. Прыняцце каталіцызму дапамагло стварыць бяспеку ад крыжацкай агрэсіі і захаваць раўнавагу паміж рознымі цывілізацыямі, якія аказывалі ўплыў на ВКЛ. Агульны канфесійны стан краіны да канца XVI ст. ацэньваецца як талерантны, але з царкоўнай уніі пачынаюцца рэлігійныя ганенні.

Ярашэвічу належаць працы «*Пра ўплыў хрысціянскай рэлігіі на цывілізацыю славян*» (1826 г.) і «*Пра стан цывілізацыі Літвы перад і пасля заснавання акадэміі*» (сяр. 40-х гг.). У апошняй ён негатыўна ставіцца да езуітаў – лічыць, што яны затрымалі развіццё культуры ў ВКЛ. На думку вучонага, для ордэна езуітаў асвета была «не мэтай, а сродкам правядзення сваіх рэакцыйных планаў у жыццё».

Гістарычную каштоўнасць мае кніга «*Матэрыялы да статыстыкі і геаграфіі Гродзенскай губерні: Бельскі павет»,* выдадзеная ў 1848 г. У ёй даецца этнаграфічная характарыстыка розных групаў насельніцтва Бельскага павета, у якім назіралася надзвычай вялікая стракатасць яго па нацыянальным складзе. Беларусаў Бельскага павета аўтар называе «рускім племенем». Многа месца адводзіцца параўнанню побыту беларусаў і палякаў. У нарысе змешчаны каштоўны матэрыял аб размяшчэнні, занятках, жыллі, адзенні, ежы і фальклоры беларусаў.

**Міхаіл Кірылавіч Баброўскі** (1784 – 1848 гг.) – вядомы славіст, багаслоў, палеограф, гісторык славянскай культуры, збіральнік славянскіх старажытнасцяў. Нарадзіўся ў в.Вулькі Бельскага павета ў шляхецкай сям'і уніяцкага святара. Скончыў Драгічынскае вучылішча, Беластоцкую гімназію, Галоўную Духоўную семінарыю пры Віленскім універсітэце. Атрымаў ступень магістра багаслоўя і высокіх мастацтваў, а ў 1814 г. магістра грамадзянскага і крымінальнага права Віленскага універсітэта. З 1816 г. дацэнт Галоўнай Духоўнай семінарыі, выкладчык экзегетыкі. Пасля замежнай вандроўкі па Еўропе ўзначаліў кафедру Свяшчэннага Пісання і стаў выкладаць арабскую мову. У 1823 г. атрымаў ступень доктара багаслоўя і быў прызначаны ардзінарным прафесарам экзегетыкі і герменеўтыкі Віленскага універсітэта. Памёр ад халеры ў м.Шэрашава (Пружанскі раён).

На працягу ўсяго свайго жыцця Баброўскі займаўся пошукам гістарычных крыніцаў. У прыватнасці, падчас знаходжання ў Заходняй Еўропе ён вывучаў старажытнаславянскія рукапісы Ватыканскага архіва, рабіў іх копіі ў Парыжы. У сховішчах Еўропы было назапашана багата навуковых матэрыялаў. Камандзіроўкі прыводзілі да трывалых сувязяў з пэўным асяродкам еўрапейскіх вучоных, прызнаных аўтарытэтаў у галіне вывучэння крыніцаў. Падобныя паездкі патрабавалі значных сродкаў і былі немагчымы без падтрымкі мецэнатаў. Напрыклад, за дзейнасцю М.К.Баброўскага сачыў Адам Чартарыскі, папячыцель Віленскай навучальнай акругі.

Летам 1823 і 1824 гг. даследчык разам з Даніловічам зддзейсніў археаграфічныя экспедыцыі па манастырах і архівах Падляшша і Заходняй Беларусі. Менавіта тады быў знойдзены і атрыбутаваны «Хранограф» і Супрасльскі летапіс. У 1825 г. на старонках «Библиографических листов» з'явіўся «Супрасльскі рукапіс», палімпсест з Барберынскай бібліятэкі Ватыкана. Апошні быў укладам М.К.Баброўскага ў развіццё айчыннай археаграфіі, вынікам яго доўгіх археаграфічных шуканняў.

Матэрыялы часопісаў дазваляюць прасачыць метады навуковай працы. Баброўскі ў карчме вёскі Куніца рабіў «для памяці» запісы словаў, пачутых ім ад простых жанчын-прачак. У бібліятэцы ў Герліцы ён выпісваў загалоўкі рукапісаў і друкаваных крыніцаў, якія датычылі славянскай мовы лужыцкіх сербаў. Пры гэтым ён карыстаўся слоўнікам Х.Генінга 1705 г. Даследчык цікавіўся саманазвай «славяне», вывучаў мясцовыя славянскія варыянты мовы, суадносіў граматыкі і слоўнікі. Усё гэта дапамагала арыентавацца ў бязмежным рукапісным багацці Ватыкана, Вены, Парыжа.

Высокі ўзровень адукацыі дазволіў М.К.Баброўскаму прыняць удзел у стварэнні каталога славянскіх рукапісаў А.Мее. У перапісцы Баброўскага і І.М.Лабойкі за 1825 г. выкарыстоўваецца тэрмін «гравіраваныя здымкі» старажытных славянскіх літараў. Гэта таксама крыніца тэрміналогіі археаграфічных даследаванняў. Такім чынам, у айчынную грамадскую думку паступова ўваходзіла новая галіна ведаў – славяназнаўства.

Пасля ссылкі ў Жыровіцкі манастыр (1824 – 1826 гг.) гісторык распрацаваў курсы біблейскай археалогіі, герменеўтыкі, славянскай бібліяграфіі, апісаў калекцыі медалёў і манетаў ВКЛ. З гэтых лекцыяў паступова склаўся «*Курс славянскай бібліяграфіі*» – фундаментальная праца (у рукапісу), у якой даваўся поўны разбор славянскіх помнікаў кірылічнага пісьма.

Працы і дзейнасць Баброўскага сталі пачаткам сусветнага славяназнаўства. Ён спрыяў узнікненню асобнага кірунку ў гуманітарных навуках – беларусазнаўства. Па сённяшні дзень не вывучаны лёс яго збору рукапісаў і кніг. Каля дзвюх тысяч кніг яшчэ ў 1824 г. набыла Галоўная Духоўная семінарыя, але найбольш каштоўныя рукапісы засталіся ў вучонага да смерці. У 1848 г. яны дасталіся вядомаму бібліёграфу Трэнбіцкаму, а праз яго – у кнігасховішчы графаў Замойскіх. Частка збору разыйшлася сярод мясцовых калекцыянераў. Аднак большая іх частка загінула ў гады Другой сусветнай вайны. Таму навуковая дзейнасць М.К.Баброўскага не знайшла адпаведнага гістарыяграфічнага вывучэння.

Шырокую дапамогу і матэрыяльную падтрымку мясцовым даследчыкам-гісторыкам аказаў граф **Мікалай Пятровіч Румянцаў** (1754 – 1826 гг.) – вядомы дзяржаўны дзеяч Расійскай імперыі – старшыня Дзяржаўнага Савета, міністр замежных справаў, канцлер. Пасля адстаўкі ў 1814 г. жыў у Гомелі. Румянцаў збіраў рукапісныя і старадрукаваныя кнігі, дакументы, якія затым склалі аснову Румянцаўскага музея ў Пецярбургу, а з 1861 г. – «Маскоўскага публічнага музеума», а з 1926 г. – Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна СССР. Мецэнат арганізаваў гурток, у які ўвайшлі вядомыя гісторыкі, мовазнаўцы, археографы.

Членам Румянцаўскага гуртка з’яўляўся **Ігнат Мікалаевіч Лабойка** (1786 – 1861 гг.) – прафесар расійскай славеснасці Віленскага універсітэта. Ён перыядычна чытаў курсы гісторыі Расіі. Вучоны скончыў Харкаўскі універсітэт, быў добразычлівым, кантактным чалавекам. Лабойка хутка ўстанавіў сяброўскія адносіны з мясцовай інтэлігенцыяй, рэкамендаваў графу Румянцаву многіх знаўцаў «літоўскай» старыны. Акрамя сваёй выкладчыцкай дзей-

насці, ён энергічна займаўся палеяграфіяй, археалогіяй, пошукам помнікаў славянскай пісьменнасці. Пад яго кіраўніцтвам студэнты універсітэта склалі апісанне 80 мястэчак і гарадоў Заходняй Беларусі і Літвы. Сам І.Лабойка пакінуў шэраг гістарычных працаў: «*Апісанне польскіх і літоўскіх гарадоў»,* «*Даследаванне аб Літве»,* «*Аб важнейшых выданнях Герберштэйна».*

Пансіянерам графа М.Румянцава з'яўляўся Іван Грыгаровіч.

**Іван Іванавіч Грыгаровіч** (1790 (1792) – 1852 гг.) нарадзіўся ў Прапойску (Слаўгарадзе) Магілёўскай губерні ў шматдзетнай сям'і праваслаўнага святара. Маці – пляменніца вядомага беларускага архіепіскапа Г.Каніскага. Пасля заканчэння Магілёўскай духоўнай семінарыі працаваў выкладчыкам у Магілёўскім духоўным вучылішчы. З 1820 г. саборны протаіерэй, рэктар Гомельскага духоўнага вучылішча. На сродкі графа М.Румянцава атрымаў адукацыю ў Духоўнай акадэміі Пецярбурга. У 1829 г. прызначаны рэктарам мясцовых навучальных установаў у Віцебску. З 1831 г. жыў у Пецярбургу і служыў пры царкве лейб-гвардыі Фінляндскага палка, з 1838 г. пры царкве Анічкава палаца. Пахаваны на Волкавых могілках у Пецярбургу.

Навуковай дзейнасцю Грыгаровіч пачаў займацца падчас вучобы ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Па даручэнні свайго апекуна ён шукаў у бібліятэках і архівах рэдкія творы, прапаноўваў іх да выдання, збіраў звесткі ў рукапісах, перакладаў дакументы з лацінскай і польскай моваў, апісваў рукапісныя кнігі з Румянцаўскай бібліятэкі. У прыватнасці, ім складзена апісанне Дабрылава евангелля 1164 г., Кормчай кнігі і Служэбніка XIV ст., Лаўрышаўскага евангелля XIII ст.

Знойдзеныя матэрыялы ляглі ў аснову зборніка «*Беларускі архіў старажытных грамат»* – першага ў беларускай навуцы археаграфічнага зборніка. Першая частка была выдадзена на сродкі Румянцава ў 1824 г. Выданне ўключала 57 старажытных актаў, у асноўным з гісторыі Магілёва XV – XVIII стст. У прадмове аўтар падкрэсліваў, што гэтыя дакументы «з'яўляюцца крыніцай па гісторыі Беларусі, царкоўнай і грамадзянскай, і ў гэтых адносінах змяшчаюць у сабе шмат вартага і цікавага». Пры ўсім станоўчым значэнні гэтага выдання для развіцця айчыннай гістарыяграфіі нельга не адзначыць яго ідэалагічны характар. Зборнік «выяўляў», на думку гісторыка, «дух папізма» і той уціск ад яго, які прыйшлося вынесці праваслаўным у Беларусі. З гэтым згаджаўся і сам М.Румянцаў.

У Гомелі Грыгаровіч падрыхтаваў кандыдацкую дысертацыю пра наўгародскіх пасаднікаў (*«Исторический и хронологический*

*опыт о Посадниках Новгородских: Из древних русских летописей»*), за што атрымаў ступень кандыдата багаслоўя. Знаходзячыся ў Віцебску, гісторык зрабіў першую спробу навуковага апісання Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы ў Полацку (*«Вести о древнем храме Христа Спасителя, построеннога в XII в. преподобной Ефросиньей вблизи Полоцка»*).

Пецярбургскі перыяд навуковай творчасці даследчыка звязаны з працай над другой і трэцяй часткамі «Беларускага архіва старажытных грамат». Збіраць дакументы яму дапамагалі супрацоўнікі графа М.Румянцава. Але другая частка зборніка засталася ў рукапісу. Спробы Грыгаровіча зацікавіць выданнем мітрапаліта Балхавіцінава, Акадэмію навук, прадаць права на публікацыю ці сабраць грошы праз падпіску не прынеслі поспеху. Частку матэрыялаў вучоны выкарыстаў пры падрыхтоўцы «*Актов, относящихся к истории Западной России»* Пецярбургскай археаграфічнай камісіяй, членам якой ён з'яўляўся з 1837 г.

У апошнія гады жыцця паводле прапановы міністра народнай асветы П.А.Шырынскага-Шахматава Грыгаровіч займаўся складаннем *слоўніка беларускай мовы*. Свой падыход да гэтай грунтоўнай працы ён вызначыў наступным чынам: «Складальнік слоўніка, як праўдзівы летапісец, павінен запісаць усе словы, якія ўжывае народ у сваім хатнім побыце, у служэнні і ў сваіх малітвах да Бога і ў сваіх законах. Слоўнік ёсць летапіс мовы, і ў гэты летапіс павінны быць унесены ўсе факты, якія былі і ёсць». Але закончыць працу аўтар не паспеў. Захаваліся рукапісы толькі на літары А, Б, В.

Пра сэнс навуковай дзейнасці Грыгаровіч пісаў брату Васілю: «... і наша Беларусь не зусім знікне з твару зямлі, але хай ведае свет, што былі часы, калі яна была больш слаўная і дабрачынная, чым зараз». Дарэчы, дзеці напісалі на яго надмагіллі – «Ne frustra videar vixisse» («Мне здаецца, што недарэмна пражыў»).

Апякунствам Румянцава карыстаўся гродзенскі калекцыянер археаграфічных матэрыялаў Антоній Глябовіч, які пасля і сам стаў вывучаць старажытнасці.

**Антоній Баляслаў Глябовіч** (1801 – 1847 гг.) скончыў Віленскі універсітэт са ступенню кандыдата філасофіі. Член таварыства філарэтаў. З 1823 г. працаваў у Пецярбургу ў Міністэрстве народнай адукацыі, быў сакратаром графа М.Румянцава. З 1830 г. займаўся педагагічнай дзейнасцю ў Варшаве.

У 1821 г. пад кіраўніцтвам Анацэвіча ён напісаў «*Кароткі нарыс жыцця Вітаўта»* – першую навуковую біяграфію вялікага князя літоўскага, прысвечаную галоўным чынам яго знешнепалі-

тычным акцыям. Кніга пабудавана на Хроніцы Быхаўца, хроніках Я.Длугаша, М.Стрыйкоўскага, «Гісторыі дзяржавы Расійскай» М.М.Карамзіна.

Глябовіч займаўся сістэматызацыяй рукапісных матэрыялаў, сабраных Догелем, якія збераглісяў бібліятэцы Віленскага універсітэта. Знойдзеныя там лісты персідскіх шахаў да Жыгімонта III Вазы і артыкул «Гісторыя булгараў» ён апублікаваў у газеце «Віленскі дзённік». На жаль, многае з яго збораў бясследна страчана.

Заснавальнікам навуковай археалогіі ў Беларусі лічыцца Адам Чарноцкі (Зарыян Даленга-Хадакоўскі).

**Зарыян Якаўлевіч Даленга-Хадакоўскі** (1784 – 1825 гг.) нарадзіўся ў фальварку Падгайная на Лагойшчыне ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў слуцкім каталіцкім вучылішчы і Крамянецкім юрыдычным ліцэі. Працаваў хатнім настаўнікам, прыватным адвакатам, упраўляючым маёнтка графа Ю.Несялоўскага. За падтрымку Напалеона лішыўся шляхецтва, быў разжалаваны ў салдаты. Уцёк з планам Бабруйскай крэпасці ў Варшаву. Пасля 1812 г. узяў псеўданім «Даленга-Хадакоўскі».

Вучоны падтрымліваў сувязі з «Таварыствам аматараў навук» у Варшаве, дасылаў туды свае нататкі па розных праблемах старажытнай гісторыі, этнаграфіі і фальклору. Амаль адначасова ён прапанаваў свае паслугі пецярбургскаму «Вольнаму таварыству аматараў расійскай славеснасці». У 1819 г., калі кіраўніком таварыства стаў дзекабрыст Фёдар Мікалаевіч Глінка, Даленга-Хадакоўскі ўвайшоў у яго склад.

Падчас падарожжаў па Беларусі і Украіне даследчык адчуў цяжкасці ў зборы навуковага матэрыялу з-за адсутнасці адпаведных дакументаў. Таму ў снежні 1818 г. З.Даленга-Хадакоўскі (упершыню на Беларусі) атрымаў ад Віленскага універсітэта дазвол (адкрыты ліст) на правядзенне раскопак. Даследаваў гарадзішчы ў Полацку, Віцебску, Тураве, Бабруйскім павеце, каля Брэста, Гомеля, Магілёва, рабіў запісы фальклору, абрадаў, мясцовых дыялектаў.

У найбольш значнай працы «*Пра славяншчыну да хрысціянства»* (1818 г.) ён упершыню зрабіў спробу паказаць старажытнаславянскі побыт, культуру і народную творчасць у дахрысціянскі перыяд. Таксама крытыкаваў некаторыя палажэнні Карамзіна і ўдакладняў факты з гісторыі Беларусі ў кнізе «*Даследаванні адносна рускай гісторыі»* (1819 г.).

Ён склаў чатырохтомавы «*Слоўнік назваў гарадзішчаў і ўрочышчаў»* (1844 г.). Па звестках Г.А.Каханоўскага, у ім налічваецца каля 200 пунктаў на тэрыторыі Беларусі.

Даленга-Хадакоўскі лічыцца заснавальнікам гістарычнай геаграфіі ў Беларусі. Ён першым пачаў складаць «*Славянскую геаграфію»*. Таксама даследчык першым узяўся за вывучэнне старажытных шляхоў зносінаў. Са спасылкай на гістарычныя крыніцы прасачыў на беларускіх землях перавалачныя дарогі з Кіева ў Полацк, Прыпяцкі водны шлях.

З.Даленга-Хадакоўскі ў працах «*Праект вучонага падарожжа па Расіі для вытлумачэння старажытнай славянскай гісторыі»* (1820 г.), «*Гістарычная сістэма Хадакоўскага»* (1838 г.) абгрунтаваў археалагічную тэорыю гарадзішчаў, вызначыў прынцыпы збору фальклору і дыялектнай лексікі, паказаў тэрыторыю пашырэння беларускай мовы, упершыню ў славістыцы прадэманстраваў ролю тапанімікі ў гістарычных даследаваннях. Л.А.Малаш-Аксамітава назвала даследчыка «першым беларускім мовазнаўцам, фалькларыстам, археолагам і этнографам». Фальклорны архіў З.Даленгі-Хадакоўскага паралельна са зборам серба Вука Караджыча – першы і самы багаты збор фальклору славянскіх народаў па колькасці запісаў і па велічыні ахопленай тэрыторыі.

**3. Гістарычныя звесткі пра Беларусь у працах рускіх гісторыкаў канца XVIII – пачатку XIX ст.** Адным з першых расійскіх даследчыкаў, які прааналізаваў гістарычныя падзеі на Беларусі, з’яўляецца Васіль Тацішчаў.

> **Васіль Мікітавіч Тацішчаў** (1686 – 1750 гг.) паходзіць з роду беларускіх князёў Саламярэцкіх. Актыўны ўдзельнік ІІ Паўночнай вайны: у 1710 г. на чале ваеннага атрада прайшоў ад Пінска да Кіева, быў паранены пад Палтавай. Заснавальнік расійскай гістарычнай навукі, хаця сам не з’яўляўся прафесійным гісторыкам. Галоўная праца – «Гісторыя Расійская» (1768 – 1848 гг.) у пяці кнігах. Упершыню ў расійскай гістарыяграфіі паспрабаваў знайсці заканамернасці ў гістарычным развіцці Расіі. З яго імем звязаны працэс пераўтварэння гістарычных ведаў у навуку.

Вядома, што В.М.Тацішчаў чытаў і выкарыстаў у сваёй «*Истории Российской»* Полацкі летапіс. Таму яго праца з’яўляецца каштоўнай крыніцай, на падставе якой удакладняюцца многія падзеі з гісторыі Беларусі. У прыватнасці, аўтар вызначыў прычыну нападу наўгародскага князя Уладзіміра Святаславіча на Полацк у 980 г. – паход Рагвалода на Наўгародскія землі, раскрыў намер менскага князя Глеба Усяславіча заваяваць Наўгародскія і Смаленскія землі. Тацішчаў лічыў, што горад Навагрудак заснаваны князем

Яраславам Мудрым падчас яго паходу на Літву ў 1044 г., што полацкі князь Усяслаў Брачыславіч здзейсніў ваенную акцыю не на Ноўгарад, а на Навагрудак (памылкова). Бітву на Нямізе даследчык лакалізаваў на Нёмане 10 сакавіка 1067 г. Таксама аўтар паказаў акалічнасці ўтварэння ВКЛ, апісаў помсту Войшалка забойцам Міндоўга і інш.

Тацішчаў адным з першых зрабіў спробу перыядызацыі гісторыі Полацкага княства, вызначыўшы тры перыяды: мясцовага княжання, вечавы і ў складзе ВКЛ. Ён упершыню даследаваў пытанне паходжання і геаграфічнага значэння тэрміна «Белая Русь». Даследчык лічыў, што гэтая назва ўзнікла ў XII ст. у дачыненні да Растова-Суздальскіх земляў. Традыцыю Тацішчава прадоўжыў вядомы расійскі вучоны-прыродазнаўца, паэт, мастак Міхаіл Васільевіч Ламаносаў (1711 – 1765 гг.), які стаяў на пазіцыі аўтахтоннасці Русі, у склад якой ён адносіў і беларускія землі.

У XVIII ст. пачынаецца навуковая публікацыя крыніцаў па гісторыі Беларусі, распачатая Герардам Мілерам.

**Герард-Фрыдрых Мілер** (1705 –1783 гг.) – гістарыёграф і акадэмік. Нарадзіўся ў Вестфаліі ў сям'і рэктара гімназіі, вучыўся ў Рынтэльскім і Лейпцыгскім універсітэтах. У 1725 г. быў запрошаны імператарам Пятром I для працы ў Пецярбургскай Акадэміі навук. З 1731 г. прафесар. Аўтар нарманскай тэорыі паходжання Русі. Распрацаваў праграму вывучэння і выдання крыніцаў па гісторыі Расіі.

З 1732 г. Мілер стаў выпускаць часопіс «*Собрание русской истории». *У шасці нумарах за гэты год у перакладзе на нямецкую мову ён апублікаваў частку Радзівілаўскага летапіса (падзеі з 860 па 1175 гг.). Поўны тэкст быў выдадзены ў апошняй трэці XVIII ст.

У канцы XVIII ст. былі апублікаваны і іншыя летапісы, у якіх асноўная ўвага надавалася падзеям палітычнай, ваеннай гісторыі і гісторыка-геаграфічнаму матэрыялу. Напрыклад, у Васкрасенскім летапісу даецца спіс гарадоў, якія падзяляліся на польскія, кіеўскія, валынскія і літоўскія. У кожнай групе былі названы і беларускія гарады. Таксама ўвагу летапісца прыцягнуў факт з'яўлення бесаў на вуліцах Полацка, узгаданы пад 1092 г.

Акрамя летапісаў, у апошняй трэці XVIII ст. пачынаецца публікацыя дакументаў справаводства. Заслуга ў гэтай справе належыць **Мікалаю Іванавічу Новікаву** (1744 – 1818 гг.). У 1772 г. ён выдаў у Пецярбургу «*Опыт исторического словаря о российских писателях»,* які стаў першай спробай даць гістарыяграфічную ацэнку прадстаўнікам рускай грамадска-гістарычнай думкі. Новікаў

першым пачаў публікацыю крыніцаў па генеалогіі і біяграфістыцы, аб чым сведчыць «*Древняя Российская Вивлиофика»* (1773 – 1775 гг.) у дзесяці кнігах. У ёй мы знаходзім два тыпы крыніцаў, якія ўтрымліваюць звесткі пра Беларусь. Першы тып – гэта дакументы, звязаныя з руска-польскімі перамовамі 1582 – 1583 гг. па выніках Лівонскай вайны (пытанні аб межах, палонных, дзейнасці на рускай тэрыторыі ваяводы С.Паца). Другі тып – граматы, якія рускія баяры даслалі каралю Польшчы Жыгімонту ІІ Аўгусту і гетману ВКЛ Я.Хадкевічу ў 1567 г. у адказ на «напрасное, его короля, склонение их в польское к нему подданство». Таксама Новікаў выдаў «*Бархатную книгу»,* у якой улічаны полацкія князі і некаторыя магнацкія роды ВКЛ.

Звесткі пра Беларусь можна атрымаць у дакументальных дадатках да працы князя **Міхаіла Міхайлавіча Шчарбатава** (1733 – 1790 гг.) «*История Российская».* Гэта найперш скаргавыя спісы пятнаццатага стагоддзя аб нападах на гандляроў і падарожнікаў з Вялікага княства Маскоўскага, дакументы пра перамовы аб перамір'і ў гады Лівонскай вайны, дакументы пра ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі ў перыяд ІІ Паўночнай вайны 1700 – 1721 гг.

У 1773 г. у Маскве ва універсітэцкай друкарні быў выдадзены першы рускі «*Географический словарь Российской державы»,* падрыхтаваны калежскім асэсарам **Ф.А.Палуніным** і гістарыёграфам, акадэмікам Імператарскай Пецярбургскай Акадэміі навук **Г.Ф.Мілерам**. Расійскі чытач упершыню атрымаў якасную інфармацыю пра беларускія землі. Мілер дастаткова падрабязна вызначыў абставіны і час з'яўлення назваў «Вялікая», «Малая», «Белая» і «Чырвоная» Расія. Ён лічыў, што назвы «Малая» і «Белая» Расія ўзніклі адначасова для адрознення ўласна рускіх земляў ад тэрыторыяў, якія адыйшлі падчас падзелаў ад Рэчы Паспалітай у склад Расійскай імперыі. Аўтар прааналізаваў гіпотэзы паходжання назвы «Белая Русь».

Прапанаваная Мілерам канцэпцыя гісторыі беларускіх земляў носіць стрыманы характар. Але ў ёй праяўляецца тэндэнцыя да абгрунтавання права Расіі на ўключаныя тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Каштоўнасць выдання – у апісанні каля 30 беларускіх гарадоў: Полацка, Себежа, Віцебска, Магілёва, Быхава, Шклова, Рагачова і інш.

Паколькі дзеячы польскага грамадскага руху імкнуліся даказаць польскі характар далучаных земляў, а расійскія ўрадавыя колы – рускі характар, то Кацярына ІІ падчас падзелаў Рэчы Паспалітай выказала жаданне, каб паміж Беларуссю і Расіяй «исчезла

грань инородия», каб гэтыя «древнерусские» землі сталі «русскими не только по названию, но и душой, и сердцем».

Відавочна, што праблема русіфікацыі моцна хвалявала расійскую імператрыцу Кацярыну II. Аб гэтым сведчыць адна з першых рускіх кніг пра Беларусь – афіцыйны *шляхаўказальнік*, які быў выдадзены да прыбыцця ў 1780 г. Кацярыны II у Беларусь. Гістарычны лёс краю ў ім трактуецца своеасабліва: некалі гэта краіна належала рускім князям, але потым Расія была разрабавана на часткі. Пачынаючы з Івана III, цары пачалі збіраць краіну, і ў 1772 г. усё страчанае вярнулася ў дзяржаву Кацярыны II.

У гэты час на ніве гісторыі плённа працаваў рускі дваранскі гісторык Мікалай Бантыш-Каменскі.

**Мікалай Мікалаевіч Бантыш-Каменскі** (1737 – 1814 гг.) нарадзіўся ў г.Нежыне. Вучыўся ў Кіеўскай і Маскоўскай акадэміях, затым у Маскоўскім універсітэце. У 1765 г. прызначаны памочнікам гістарыёграфа Г.Ф.Мілера. Пад яго кіраўніцтвам займаўся разборам і апісаннем старажытных актаў. Падрыхтаваў шэраг зборнікаў дыпламатычных дакументаў, сярод якіх «*Дипломатическое собрание дел между российским и польским дворами, с самого оных начала по 1700 год*».

У 1794 г. Кацярына II праз обер-пракурора Сінода графа Мусіна-Пушкіна даручыла Бантыш-Каменскаму падрыхтаваць падрабязныя звесткі пра «уніятаў польскіх». Вынікам праведзенага даследавання стала кніга «*Исторические сведения о возникшей в Польше унии...»,* выдадзеная ў Маскве ў 1805 г. Аўтар сцвярджаў, што ўнія выражала інтарэсы папства, была сродкам дзяржаўнай палітыкі і вынікам кампраміснай пазіцыі праваслаўных іерархаў. Усё гэта выклікала шырокае народнае супраціўленне. Расійскі імператар Аляксандр I узнагародзіў гісторыка дыяментавым пярсцёнкам.

З ураджэнцаў Беларусі ў канцы XVIII ст. шырокую вядомасць атрымаў Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч.

**Станіслаў Іванавіч Богуш-Сестранцэвіч** (1731 – 1826 гг.) нарадзіўся ў в. Занкі Свіслацкага раёна ў сям'і пратэстанцкага шляхціца. Вучыўся ва універсітэтах Кёнігсберга, Франкфурта, Амстэрдама, Лондана. Служыў у прускім гусарскім палку, у Літоўскай гвардыі. Быў выхавацелем дзяцей князя Радзівіла, у доме якога прыняў каталіцызм. З 1782 г. архіепіскап Беларускай каталіцкай епархіі. З 1813 г. прэзідэнт Вольнага эканамічнага таварыства, член Расійскай Акадэміі навук і Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі.

Кола навуковых інтарэсаў Богуш-Сестранцэвіча было звязана з праблемай паходжання славян, прапагандай ідэяў Асветніцтва і гуманізму. Асаблівую ўвагу надаваў вывучэнню Беларусі. Яго галоўнай працай з'яўляецца кніга «*Аб Заходняй Расіі»,* выдадзеная ў Магілёўскай друкарні ў 1793 г. У ёй аўтар даследаваў пытанні гісторыі ўсходнеславянскіх народаў, абгрунтаваў гістарычнае адзінства беларусаў, украінцаў і рускіх. Ёсць звесткі, што Богуш-Сестранцэвіч напісаў «*Граматыку літоўскую»,* але рукапіс не быў апублікаваны.

**4. Дзейнасць урадавых установаў Расійскай імперыі па вывучэнню мінулага Беларусі**. У другой трэці XIX ст. узрастае цікавасць да беларускіх губерняў з боку расійскіх журналістаў і навукоўцаў, а таксама афіцыйнай улады. Шляхецкае паўстанне 1830 – 1831 гг. сведчыла аб адсутнасці падтрымкі мерапрыемстваў рускага ўрада ў дадзеным рэгіёне. Узнікла патрэба ў зборы грунтоўнай інфармацыі пра Беларусь з той мэтай, каб распачаць прапагандысцкую дзейнасць па пераарыентацыі мясцовага насельніцтва на бок Расіі.

Цікавасць да беларускай праблематыкі ў 30 – 40-я гг. пачынаюць праяўляць Сінод, Міністэрства ўнутраных справаў, жандармерыя. У часопісах цэнтральных урадавых установаў («Журнал МВД», «Журнал Министерства народного просвещения», «Журнал Министерства государственных имуществ») з'яўляюцца гісторыка-статыстычныя артыкулы пра Беларусь.

У 1834 г. былі арганізаваны *губернскія статыстычныя камітэты*. Іх функцыя заключалася ў зборы звестак аб мінулым і сучасным стане гаспадаркі, насельніцтве, гісторыка-бытавых асаблівасцях заходніх губерняў. Супрацоўнікі камітэтаў распрацавалі праграмы для выдання «Губернских ведомостей» (газеты выходзілі пры губернскіх управах з 1838 г.) і «Памятных книжек» губерняў (выдаваліся з канца 30-х гг. XIX ст.). У іх неафіцыйных частках часта публікаваліся гісторыка-краязнаўчыя нарысы, нататкі, гістарычныя дакументы. Пры ўсёй сваёй праўрадавай накіраванасці яны да пачатку 80-х гг. XIX ст. абуджалі інтарэс да гісторыі Беларусі.

Віленскі, Гродзенскі, Віцебскі, Мінскі і Магілёўскі статыстычныя камітэты працавалі з рознай ступенню эфектыўнасці, але іх роля ў развіцці гістарычнай навукі ў Беларусі несумненная. Па сутнасці, статыстычныя камітэты былі адзінымі навукова-інфармацыйнымі цэнтрамі ў губернях, якія праводзілі комплекснае вывучэнне Беларусі. Камітэты выконвалі шматлікія запыты Рускага геаграфі-

чнага таварыства, Пецярбургскай археаграфічнай камісіі, Генеральнага штаба. Цікава, што з канца 1848 г. пры віленскім генерал-губернатары была ўведзена спецыяльная пасада чыноўніка па асобых даручэннях з мэтай збору статыстычных і гістарычных звестак.

Як правіла, супрацоўнікі губернскіх статыстычных камітэтаў да сваіх абавязкаў ставіліся добрасумленна і з ініцыятывай. Ужо ў 30 – 50-я гг. XIX ст. з’яўляюцца «*Исторические обозрения*» і «*Исторические описания*» Віцебскай, Віленскай, Гродзенскай, Магілёўскай губерняў, Беластоцкай вобласці, статыстычныя карты і дэмаграфічныя табліцы па ўездам.

У 40-я гг. XIX ст. пачынаецца сістэматычнае гісторыка-статыстычнае даследаванне заходніх губерняў краіны чыноўнікамі Міністэрства ўнутраных справаў (МУС). Доўгі час гэтыя работы выкарыстоўваліся толькі для службовых справаў. Таксама МУС Расіі ў сярэдзіне XIX ст. арганізавала комплекснае даследаванне рэгіёна сіламі аматараў гісторыі – праз афіцэраў, праваслаўных святароў, сапраўдных статскіх саветнікаў і нават генералаў. Прыкладам з'яўляецца дзейнасць ураджэнца Мінскай губерні, выпускніка Кіеўскай духоўнай акадэміі **Івана Пятровіча Барычэўскага** (Барычэўскага-Тарнава) (1810 – 1887 гг.). У сваіх працах «*Исследование о происхождении, названии и языке литовского народа*» (1847 г.), «*Православие и русская народность в Литве*» (1851 г.) ён адным з першых пачаў вывучаць гісторыю і старажытнасць народаў Беларусі і Літвы.

Падтрымку даследчыкам у справе вывучэння гісторыі Беларусі аказвалі прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі, у прыватнасці, грамадзянскія губернатары. Яны праяўлялі ініцыятыву ў пошуку гістарычных дакументаў і іх выданні з той мэтай, каб даказаць, што ў мінулым Беларусь і Літва былі рускім праваслаўным краем. У 1843 г. грамадзянскі губернатар Віленскай губерні князь Далгарукі садзейнічаў выданню 200 дакументаў, прысвечаных гісторыі праваслаўнай царквы ВКЛ у XIV – XVIII ст., «*Собрание древних грамот городов: Вильно, Ковно, Трок, православных монастырей, церквей и по разным предметам*». Праз пяць гадоў па ініцыятыве мінскага грамадзянскага губернатара А.Сямёнава ўбачыла свет «*Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам*», у якім разглядаўся лёс праваслаўя на беларускіх землях.

Значны ўклад у вывучэнне гістарычнага мінулага Беларусі і Літвы ўнеслі афіцэры Генеральнага штаба Расійскай імперыі. З 1837 па 1854 гг. спецыялісты гэтай ваеннай установы тры разы выда-

валі для службовага карыстання спецыяльныя статыстычныя матэрыялы аб заходніх губернях краіны. Паралельна ішла камплектацыя архіва ваенна-тапаграфічнага бюро, збор дакументаў па гісторыі воінскіх частак, рыхтаваліся ваенна-гістарычныя і ваенна-тэарэтычныя работы, прысвечаныя гісторыі ваенных дзеянняў у XVIII ст., паўстання 1794 г., вайны 1812 г., паўстання 1830 – 1831 гг.

Пасля паражэння ў Крымскай вайне (1853 – 1856 гг.) ваеннае міністэрства вырашыла праз афіцэраў Генеральнага штаба сабраць гістарычныя звесткі пра заходнія губерні імперыі. Таму ў 1857, 1858, 1859 гг. для іх былі выдадзены спецыяльныя інструкцыі. Пры гэтым афіцэры абапіраліся на працу генерал-маёра Міхаіла Без-Карніловіча «*Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии...»,* якая выйшла ў друкарні III-га аддзялення ў 1855 г.

**Міхаіл Восіпавіч Без-Карніловіч** (1796 – 1862 гг.) паходзіў з дваранскай сям'і Магілёўскай губерні. Скончыў 1-ы кадэцкі корпус. Удзельнік руска-турэцкай вайны 1828 – 1829 гг. У 1831 –1847 гг. кіраваў тапаграфічнай экспедыцыяй на тэрыторыі Беларусі і Польшчы. Пасля адстаўкі працаваў у архівах.

Праводзячы тапаграфічную здымку мясцовасці і статыстычнае вывучэнне Мінскай, Віцебскай, Наўгародскай, Валынскай губерняў і Беластоцкай вобласці, Без-Карніловіч сабраў значны матэрыял для напісання кнігі.

Аўтар паставіў перад сабой мэту азнаёміць чытача з Беларуссю, пад якой ён разумеў Віцебскую і Магілёўскую губерні. Паходжанне тэрміна «Беларусь» даследчык выводзіў ад светлага колеру твара і вачэй насельніцтва, белага колеру адзення. Асобая ўвага прысвечана гісторыі Полацкага княства і крывічоў. Вельмі коратка прадстаўлены падзеі на Полаччыне ў перыяд ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Цікава, што аўтар даказваў паходжанне Віценя з дынастыі полацкіх князёў.

Без-Карніловіч зыходзіў з дваранска-манархічных пазіцыяў пры асвятленні мінулага беларусаў, але лічыў іх нашчадкамі крывічоў і радзімічаў. Праўда, цэльнай гістарычнай канцэпцыі ён не стварыў. Вартасць даследавання – у гісторыка-геаграфічных і этнаграфічных замалёўках гарадоў і мястэчак Паўночнай і Усходняй Беларусі.

З 1859 г. афіцэры дэпартамента Генеральнага штаба прыступілі да рэалізацыі пастаўленай перад імі задачы. Цэнтральны статыстычны камітэт МУС спецыяльным цыркулярам прадпісаў грамадзянскім губернатарам аказываць ім дапамогу і падтрымку праз

гарадскую і ўездную паліцыю. Ужо з 1861 г. пачалі выходзіць першыя гісторыка-статыстычныя апісанні заходніх губерняў пад назвай «*Материалы для географии и статистики России».* Том «Матэрыялаў...», прысвечаных Віленскай губерні, падрыхтаваў капітан **А.Карэва** (1861 г.), Смаленскай губерні – штабс-капітан **М.Цэбрыкаў** (1862 г.), Мінскай губерні – падпалкоўнік **І.Зяленскі** (1864 г.). Але найбольш грунтоўнай працай лічацца два тамы па Гродзенскай губерні (1863 г.), складзеныя падпалкоўнікам П.Баброўскім.

**Павел Восіпавіч Бабpоўскі** (1832 – 1905 гг.) нарадзіўся ў сям'і доктара філасофіі, доктара права Восіпа Кірылавіча Бабpоўскага. Пляменнік вядомага вучонага-славіста М.К.Бабpоўскага. Вучыўся ў Пружанскім дваранскім вучылішчы, Полацкім кадэцкім корпусе, Канстанцінаўскім ваенным вучылішчы, Мікалаеўскай акадэміі Генеральнага штаба. Служыў у розных вайсковых структурах. Генерал-маёр. Член Рускага геаграфічнага таварыства. Захапляўся гісторыяй і этнаграфіяй.

Кніга Баброўскага ўяўляе сабой арыгінальнае і грунтоўнае навуковае даследаванне. Аўтар прадставіў уласнае канцэптуальнае бачанне гісторыі беларускіх земляў, у якой адчуваецца адбітак палітычнай сітуацыі ў заходніх губернях і заходнерускай тэндэнцыі. Даследчык імкнуўся даказаць, што Гродзенская губерня па гістарычным паходжанні з'яўляецца неад'емнай часткай Расіі. На падставе дзяржаўніцкага крытэрыя аўтар прапанаваў уласную перыядызацыю гісторыі Заходняй Русі, вылучыўшы наступныя перыяды: 1) старажытнарускі (IX – сяр. XIII ст.); 2) «уладарніцтва Літвы» (сяр. XIII ст. – 1569 г.); 3) «уладарніцтва Польшчы» (1569 – 1795 гг.). У першым перыядзе адбывалася самастойнае развіццё «народных сіл», волю якіх выконвалі рускія князі. Літоўскае заваяванне гэтага рэгіёна прывяло да ўтварэння ВКЛ. Яно па сваім характары заставалася рускай дзяржавай. Але Люблінская унія прывяла да асіміляцыі мясцовага насельніцтва палякамі, якія прынеслі з сабой прыгоннае права. У цяжкіх палітычных умовах Рэчы Паспалітай традыцыйныя звычаі мясцовага насельніцтва захоўвала праваслаўная царква. Падзелы Рэчы Паспалітай прывялі да вызвалення «заходнерусаў» ад прыгнёту. Баброўскі назваў прычыны складанай палітычнай сітуацыі ў заходніх губернях краіны і нелаяльнасці мясцовага насельніцтва да афіцыйнай палітыкі: уплыў польскай культуры, высокі працэнт яўрэйскага насельніцтва, варожая расійскім уладам пазіцыя каталіцкай царквы.

Гістарычныя погляды Баброўскага мелі пэўныя разыходжанні са славянафільскай ідэалогіяй. У прыватнасці, ён узняў праблему ролі яцвяжскага элемента ў этнагенезе насельніцтва Гродзенскай губерні. Яцвягаў даследчык не адносіў ні да славян, ні да балтаў. На яго думку, яны сталі адной з этнічных крыніцаў «заходнерусаў». Баброўскі станоўча ставіўся да палітыкі вялікіх літоўскіх князёў, адзначаў талерантнасць Вітаўта. Таксама аўтар надаваў пазітыўны характар магдэбургскаму праву. Ён лічыў, што прывілеі, атрыманыя рамеснікамі і купцамі ў ВКЛ, сталі прадумовай эканамічнай самастойнасці гарадоў, садзейнічалі ўтварэнню буйных гандлёвых цэнтраў. Свае аргументы Баброўскі супрацьпаставіў панаваўшай тады тэорыі аб магдэбургскім праве як адной з прычынаў анархіі ў Рэчы Паспалітай. Сапраўдную прычыну слабасці гэтай краіны ён бачыў у недасканаласці дзяржаўнага апарату.

П.В.Баброўскі пакінуў шэраг краязнаўчых працаў: «*Несколько слов о Зельвенской ярмарке», «Колония Супрасль», «Исторические сведения о городах Гродненской губернии», «Историческая монография города Гродно».*

Работы афіцэраў Генеральнага штаба адрозніваліся сваёй гістарычнай і крыніцазнаўчай базай. Парой яны абапіраліся на неправераныя крыніцы (паведамленні жыхароў, мясцовыя паданні і інш.). Аднак іх выданні ўтрымлівалі каштоўны матэрыял, узяты з прыватных шляхецкіх архіваў і калекцыяў рукапісаў.

У першай палове XIX ст. у сувязі з «разборамі шляхты» праблемай стала фальсіфікацыя гістарычных дакументаў, якія пацвярджалі права на шляхецкае званне. Мінск лічыўся сталіцай падробак, упісаных у старажытныя актавыя кнігі. Мікалай I у 1843 г. быў вымушаны стварыць тры камісіі для разгляду актавых кніг, але яны працавалі неэфектыўна, бо адсутнічалі прафесійныя археографы. З другога боку, значная частка дакументаў справаводства страчвалася з прычыны адсутнасці централізацыі ў архіўнай справе – архівы былі ведамаснымі. У 1845 г. МУС выдала правілы, якія патрабавалі кожны год арганізоўваць пры губернскіх упраўленнях спецыяльныя камісіі для разбору справаводства. Паколькі прафесійныя архівісты адсутнічалі, то камісіі знішчалі шмат каштоўных гістарычных дакументаў. Усё гэта прымусіла ўрад прыняць рашэнне аб арганізацыі ў 1852 г. Віленскага і Віцебскага цэнтральных архіваў. Перад імі была пастаўлена задача сабраць старажытныя актавыя кнігі і дакументы да 1799 г.

**5. Расійская гістарыяграфія другой трэці XIX ст. аб гісторыі ВКЛ.** Ліберальная палітыка імператара Аляксандра I у польскім пытанні не знайшла падтрымкі сярод рускай арыстакратыі, аб чым сведчыць вядомы ліст М.М.Карамзіна да імператара (1811 г.). У ім прыдворны гісторык выступіў супраць планаў цара аднавіць самастойнасць Польшчы: «Можете ли Вы с мирною совестью отнять у нас Белоруссию, Литву, Волынь, Подолию, утвержденных собственностью России еще до Вашего царствования... Да, разделы Польши при Екатерине II – захват «по праву меча», но дело это совершено, и для Вас уже свято: для Вас Польша есть исконно русское достояние... К тому же Белоруссия... была некогда коренным достоянием России...». Паўстанне 1830 – 1831 гг. яшчэ раз пераканала Пецярбург, што духоўнага яднання беларускіх земляў з Расіяй не адбылося. У гэтых умовах вялікая роля стала надавацца журналістыцы.

Яшчэ ў 20-я гг. XIX ст. у краіне з’явіліся новыя часопісы, у сваёй большасці гістарычнага характару. На старонках расійскіх перыядычных выданняў сталі друкавацца рэцэнзіі на кнігі і крыніцы, выдадзеныя ў Беларусі і Літве (І.Лялевеля, З.Даленгі-Хадакоўскага, Т.Нарбута і інш.). У часопісах «Северный архив», «Соревнователь просвещения», «Вестник Европы», «Отечественные записки» з’яўляліся артыкулы аб гістарычных падзеях, якія адбыліся на тэрыторыі Беларусі ў XVI – пачатку XIX ст., друкаваліся мемуары сучаснікаў і нататкі падарожнікаў.

Вялікая заслуга ў азнаямленні расійскіх навуковых колаў з гісторыяй Беларусі належыць **Васілю Рыгоравічу Анастасевічу** (1775 – 1845 гг.), які займаўся вывучэннем заканадаўства ВКЛ. Працуючы сакратаром графа М.П.Румянцава, а затым у канцылярыі папячыцеля Віленскай навучальнай акругі князя А.Чартарыйскага, ён ажыццявіў навуковае выданне III Статута ВКЛ 1588 г.

Адным з першых рускіх гісторыкаў і археографаў апісаў стадрукі Ф.Скарыны і іншыя выданні першых усходнеславянскіх друкарняў **Канстанцін Фёдаравіч Калайдовіч** (1792 – 1832 гг.). Ён падрыхтаваў да публікацыі творы Кірылы Тураўскага, склаў кароткі слоўнік беларускай мовы «*Пра беларускую гаворку*» (1822 г.).

Актывізацыя археаграфічнай дзейнасці ў 30-я гг. XIX ст. была выклікана арганізацыяй у 1834 г. Пецярбургскай археаграфічнай камісіі. Яе ўдзельнікі падрыхтавалі да выдання 5 тамоў «*Актов, относящихся к истории Западной России*» (1846 – 1853 гг.): складальнік і рэдактар І.І.Грыгаровіч, 14 тамоў «*Актов, относящихся к истории Южной и Западной России*» (1861 – 1892 гг.): рэдактары

М.І.Кастамараў, Г.Ф.Карпаў. Апублікаваныя дакументы ў сваёй большасці датычацца палітычнай і царкоўнай гісторыі Беларусі і Украіны. Яны заклалі аснову вялікадзяржаўна-манархічнай версіі айчыннай гісторыі.

Пецярбургская археаграфічная камісія ў другой трэці XIX ст. сабрала найкаштоўнейшыя рукапісы з архіваў Сапег у Дзярэчыне, грэка-уніяцкіх мітрапалітаў у Жыровіцах, Віленскага універсітэта. Калі не атрымлівалася цалкам вывезці сховішчы, то складаліся падрабязныя вопісы дакументаў, або працавалі капіравальшчыкі.

Другая трэць XIX ст. характарызуецца паскораным выспяваннем розных славянафільскіх і часткова на іх аснове вялікадзяржаўных канцэпцыяў гісторыі «Заходняй Русі». Менавіта у гэты перыяд пры ўдзеле гісторыкаў М.П.Пагодзіна і С.П.Шавырова складваюцца абрысы тэарэтычнай канцэпцыі, якая атрымала пазней назву тэорыі «афіцыйнай народнасці». Згаданая канцэпцыя павінна была абгрунтаваць святасць і непарушнасць расійскай манархіі і дзяржаўнага ладу, а ў сваім рэгіянальным кантэксце гістарычную правамернасць і законнасць вяртання ў Расійскую імперыю «рускіх» земляў Рэчы Паспалітай. Яна супрацьстаяла паланізацыйным і нацыянальна-вызваленчым працэсам. Невыпадкова пасля паўстанняў 1830 – 1831 гг., 1863 г., у якіх удзельнічалі і пэўныя слаі карэннага насельніцтва Беларусі і Літвы (пераважна з ліку шляхты, каталіцкага, уніяцкага духавенства) выйшлі у свет найбольш адыёзныя панрасійскія гістарычныя працы, прысвечаныя гісторыі Заходняй Русі XIII – XVI стст.

Калі заснавальнікі тэорыі афіцыйнай народнасці – міністр народнай асветы Увараў і вышэйназваныя прафесары Маскоўскага універсітэта праецыравалі яе на агульнарускім гістарычным фоне, то ў кантэксце «Заходняй Русі» яе першым абгрунтаваў Мікалай Устралаў. У 30-я гг. XIX ст. упершыню ў расійскай гістарыяграфіі ён паспрабаваў уключыць гісторыю «Заходняй Русі» у канцэптуальную схему рускай гісторыі.

**Мікалай Герасімавіч Устралаў** (1805 – 1870 гг.) паходзіў з сям'і прыгоннага, які ўпраўляў маёнткамі князя Куракіна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Загадчык кафедры рускай гісторыі, прафесар. Распрацаваў сістэму прагматычнай гісторыі.

У гісторыка-літаратурным эсэ «*Россия и Польша: мысли русского офицера»* (1832 г.), пабудаваным у форме дыялога паміж «рускім», «палякам» і «французам», Устралаў выказаў адносіны да падзеяў 1830 – 1831 гг. у Польшчы, Літве і Беларусі. Ён адзначыў,

што ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай Расія забрала свае землі, якія падманным шляхам захапілі палякі пасля Крэўскай уніі. Падзелы Рэчы Паспалітай прынеслі карысць не толькі Расіі і Польшчы, але і Еўропе. Польшча, на думку аўтара, уяўляла сабой небяспеку для кантынента. Пры гэтым даследчык спасылаўся на польскіх гісторыкаў і сцвярджаў, што на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны пражывала не болей 9 % палякаў. Гэта рабіла беспадстаўнымі прэтэнзіі шляхты на беларускія губерні.

У 1837 г. выйшла першае, а ў 1842 г. – другое выданне асноўнай працы Устралава «*Русская история*» у двух тамах. Даследаванне аўтар падрыхтаваў паводле прапановы міністра народнай асветы графа С.С.Уварава. Устралаў прапанаваў уласную метадалогію вывучэння гісторыі заходніх земляў Русі: 1) як узнікла ВКЛ і як страціла сваю самастойнасць? 2) як ставілася да ВКЛ Маскоўская дзяржава? 3) як разумелі ВКЛ сучаснікі да канца XVII ст.? 4) што думалі пра ВКЛ пазнейшыя гісторыкі Расіі?

Ён заклаў асновы так званай «заходнерускай» афіцыйнай ідэалогіі. Згодна з асноўнымі парадыгмамі гэтай канцэпцыі для ўсёй хрысціянскай Русі з даўніх часоў было характэрна спалучэнне трох духоўных імператываў: праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць.

Асобная глава кнігі прысвечана гісторыі ВКЛ. Устралаў адзначыў сваю цікавасць да мінулага Вялікага княства Літоўскага адсутнасцю адзінага падыхода сярод вучоных. Адныя даследчыкі лічылі ВКЛ рускай дзяржавай, другія польскай правінцыяй. Устралаў звярнуў увагу на тэрытарыяльную, дэмаграфічную, культурную і рэлігійную перавагу рускага насельніцтва ВКЛ над этнічнымі літоўцамі. Тэрыторыю ВКЛ у XIV – XVIII ст. ён падзяляў на дзве часткі: «Русские княжества, – пісаў ён, – к западу от Днепра, кроме Галиции, присоединившейся к Польше, слились также в одно целое и образовали вместе с Литовским народом самостоятельное государство, под именем Великого княжества Литовского, главою коего был дом Гедимина». Гісторык лічыў, што ВКЛ было заснавана Гедымінам, які па прыкладзе маскоўскіх князёў рознымі шляхамі збіраў землі вакол Вільні. Пры яго пераемніках «Літоўская дзяржава» уяўляла тую ж сістэму княстваў, што і «Масква» да Івана III. Таксама ў Вялікім княстве Літоўскім мова, вера, заканадаўства былі «рускімі». «Западная Русь до конца XVI века оставалась под властью Князей Литовских, в роде Гедимина, но так же, как и Восточная, спасла свою веру, свой язык, свои уставы гражданские. Следовательно самые крепкие узы связывали её с Восточной Россией, и народ, свято сохраняя законы прародителей, неоднократно

обнаруживал живейшее желание возвратиться в подданство Царя православного, целыми областями присоединяясь к его державе». Вялікім злом для дзяржаўнага развіцця стала Крэўская унія 1385 г., якая азначала паварот на захад. А пасля Люблінскай уніі ВКЛ стала здабычай езуітаў («иго польское, тягостнее татарского»). Усё «рускае», г.зн. праваслаўнае, стала знішчацца. Рускія цары, пачынаючы ад Івана Каліты да Кацярыны ІІ, імкнуліся аб'яднаць усю Русь – гэта галоўны накірунак знешняй палітыкі Расіі.

Аўтар вызначыў тры галоўныя памылкі, якія былі дапушчаны рускімі даследчыкамі пры аналізе гісторыі ВКЛ. Па-першае, лічылі літоўцаў народам, больш магутным за славян. Па-другое, глядзелі на ВКЛ як на варожую Расіі дзяржаву. Па-трэцяе, не вызначалі унію ВКЛ і Польшчы як зло для рускага насельніцтва княства. Задачай рускага гісторыка, на думку Устралава, ёсць раскрыццё барацьбы Русі супраць польскага прыгнёту і вяртання яе да Расіі. Таму расійскі даслечык павінен гісторыі ВКЛ надаваць такую ж увагу, як і гісторыі Паўночна-Усходняй Русі.

Устралаў заклаў аснову канцэпцыі заходнерусізму ў гістарычнай навуцы, але не здолеў стварыць сінтэзнай канцэпцыі гісторыі ВКЛ. Гэта тлумачыцца слабой распрацаванасцю праблемаў сацыяльна-палітычнай гісторыі Беларусі і Літвы і адсутнасцю абагульняльнай інфармацыі аб іх культурным, канфесійным, эканамічным развіцці.

Асобую цікавасць выклікае кніга ўраджэнца Магілёўскай губерні, прадстаўніка пецярбургскай юрыдычнай школы **Восіпа Вікенцьевіча Турчыновіча** (1824 – ?) «*Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен»,* якая была выдадзена ў 1857 г. у Пецярбургу.

Турчыновіч першым у беларускай гістарыяграфіі паспрабаваў разглядзець гісторыю Беларусі як самастойны прадмет даследавання. Ён паставіў перад сабой мэту ахарактарызаваць Беларусь і даказаць, што яна мае ўласную гісторыю. У рэчышчы дваранскай гістарыяграфіі аўтар разглядзеў толькі ваенна-палітычныя і рэлігійныя падзеі з мінулага Беларусі і Літвы – апісаў дзеянні князёў і каралёў. Твор кампілятыўны. Аўтар звёў у адным творы звесткі з працаў М.Догеля, А.Нарушэвіча, Т.Чацкага, І.Лялевеля, В.Тацішчава і інш. Тым не менш кніга Турчыновіча стала важным этапам у развіцці айчыннай гістарыяграфіі. Яна трактавала гісторыю Беларусі не як частку Расіі, ВКЛ ці Рэчы Паспалітай, а як гісторыю краіны і народа, якія маюць гістарычную спецыфіку і асаблівасці.

**6. Вывучэнне гісторыі Беларусі і Літвы «мясцовымі» даследчыкамі ў 30-я – пачатак 60-х гг. XIX ст.** Нават пасля закрыцця Віленскага універсітэта (1832 г.) Вільня захавала за сабой статус культурнага і гістарычнага цэнтру Беларусі і Літвы. На 30-я – 50-я гг. прыпадае росквіт перыядычнага друку. Навуковая і грамадская дзейнасць прафесараў Віленскага універсітэта садзейнічала выхаванню цэлай плеяды таленавітых гісторыкаў-даследчыкаў, аматараў мінуўшчыны, публіцыстаў.

На другую трэць XIX ст. прыпадае навуковая дзейнасць гісторыка, архівіста, бібліёграфа **Мікалая Маліноўскага** (1799 – 1865 гг.). Будучы вучнем Гродэка і Лялевеля, ён працаваў над гісторыяй Польшчы і ВКЛ. У 1846 – 1849 гг. выйшла кніга «*Гісторыя кароны Польскай і ВКЛ»,* а ў 1847 – 1850 гг. – «*Успаміны пра даўнюю Польшчу часоў Жыгімонта Аўгуста».* Маліноўскі сабраў вялікую бібліятэку, якая пасля яго смерці была набыта Ю.К.Дзялынскім для кніжнага збору ў Курніку.

**Міхал Ігнатавіч Балінскі** (1794 – 1864 гг.) нарадзіўся ў маёнтку Цярэспаль полацкага павета ў сям'і інфлянцкага чашніка. Скончыў у 1818 г. фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта. Супрацоўнічаў з часопісам «Dziennik Wilenski», разам з Лялевелем рэдагаваў часопіс «Tygodnik Wilenski». Член таварыства шубраўцаў, адзін з рэдактараў яго газеты «Wiadomosci brukowe». За ўдзел у падрыхтоўцы паўстання 1830 – 1831 гг. быў арыштаваны. З 1836 г. жыў у Варшаве, дзе выдаваў навуковалітаратурны часопіс «Biblioteka Warszawska». У 1846 г. пераязджае ў Вільню. Выкоўваў абавязкі віцэ-старшыні Віленскай археалагічнай камісіі. Член Рускага геаграфічнага таварыства.

Першай буйнай працай Балінскага стала трохтомавая «*Гісторыя горада Вільні»* (1836 – 1837 гг.) ад узнікнення горада да часоў Стэфана Баторыя. У кнізе ўтрымліваецца шмат фактаў з гісторыі Беларусі. Яго пяру таксама належаць запіскі пра Барбару Радзівіл у пяці тамах.

Разам з Ціматэўшам Ліпінскім была выдадзена манаграфія «*Старажытная Польшча»* у трох тамах – з 1843 па 1850 гг.

**Ціматэўш Ліпінскі** (1797 (1799) – 1818 гг.) нарадзіўся ў м.Дзярэчын у сям'і маёра польскага войска. Скончыў факультэт прыгожых навук і мастацтваў Варшаўскага універсітэта. Працаваў у Варшаўскім політэхнічным інстытуце. Прымаў удзел у паўстанні 1830 – 1831 гг. Шмат вандраваў, збіраў помнікі пісьменства, гістарычныя крыніцы, манеты.

Трэці том выдання, які прысвечаны непасрэдна Беларусі, напісаў М.Балінскі. Аўтар лічыў гэтую тэрыторыю адвечна польскай. Ён выказаў меркаванне, што славяне прыйшлі сюды ў V ст. н.э. і, верагодна, паходзяць ад каўказскага племені. Гісторык не адмаўляў ролю скандынаваў у развіцці старажытнарускай дзяржаўнасці. У кнізе ёсць звесткі аб шэрагу населеных пунктаў Беларусі і Літвы, іх гістарычным мінулым.

Актыўную выдавецкую дзейнасць праводзіў ураджэнец м.Радашковічы (зараз Маладзечанскі раён) **Антон Марціноўскі** (1781 – 1855 гг.). Пасля заканчэння Мінскай гімназіі і Віленскага універсітэта ён на правах арэнды пачаў выдаваць у Вільні газету «Kurier Litewski» (1817 – 1839 гг.). А ў 1819 г. Марціноўскі заснаваў першы на тэрыторыі Беларусі і Літвы навукова-літаратурны часопіс «Dziennik Wilenski». Ён таксама арганізаваў друкарню, у якой было выдадзена каля 400 назваў кніг, у тым ліку творы І.Даніловіча, Т.Нарбута і іншых аўтараў.

Марціноўскі з’яўляецца аўтарам працаў па педагогікі, антыпрыгонніцкай сатыры «*Машына для біцця хлопаў»* (пад псеўданімам Патэле, 1817 г.), у якой паказаў цяжкае становішча прыгонных сялян. На жаль, яго мемуары загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. Ёсць меркаванне, што ў вайну 1812 г. Марціноўскі пісаў на беларускай мове адозвы да сялян, у якіх заклікаў выступіць супраць памешчыкаў.

У 1841 г. у Вільні з’явіўся новы часопіс, які адыграў значную ролю ў культурным жыцці Беларусі і Літвы, «Athnaeum». Яго рэдактарам быў Юзэф Крашэўскі (псеўданімы Б.Балеславіта, К.Пастарнак).

> **Юзэф Ігнацы Крашэўскі** (1812 – 1887 гг.) – вядомы польскі пісьменнік, гісторык. Нарадзіўся ў Варшаве ў сям’і пружанскага харунжага. Дзіцячыя і юнацкія гады правёў пад Пружанамі ў маёнтку Раманава. Скончыў Свіслацкую гімназію і Віленскі універсітэт. За ўдзел у паўстанні 1830 – 1831 гг. быў высланы радавым на Каўказ. З 1833 па 1859 гг. жыў на Палессі, а затым пераехаў у Варшаву. Ганаровы доктар навук універсітэтаў у Кракаве і Франкфурце-на-Майне. Памёр у эміграцыі, у Жэневе. Літаратурная спадчына складае 600 тамоў.

Гісторыя Беларусі і Літвы стала галоўнай тэмай яго шматлікіх гістарычных раманаў – вылучаецца цыкл з 29 твораў (*«Старое паданне»*, «*Кунігас. Раман з літоўскіх паданняў»*, «*Пан Твардоўскі»*, «*Апошнія са слуцкіх князёў»*, «*Часы Жыгімонта»*, «*Кароль у Нясвіжы. 1784»* і інш.). Таксама выдаў шэраг гістарычных працаў, ся-

род якіх «*Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мовы, вера, звычаі, песні»* (1847 – 1850 гг.), «*Мастацтва ў славян, асабліва ў Польшчы і дахрысціянскай Літве».* Крашэўскі шмат вандраваў па Беларусі і пакінуў цікавыя дарожныя нататкі, напрыклад, «*Пінск і Піншчына»* (1837 – 1838 гг.). Праца Крашэўскага «*Успаміны з Палесся, Валыні і Літвы»* (1840 г.) носіць белетрыстычны характар. Побач з красамоўнымі апісаннямі прыроды тут прыводзяцца каштоўныя звесткі аб жыцці народа, яго занятках, прыладах працы, жыллі, адзенні і ежы. Напісана яна з ліберальных пазіцыяў. Польскі пан і беларускі селянін – члены адзінай сям'і, і не добры пан, а дрэнны аканом з'яўляецца віноўнікам цяжкага становішча селяніна.

Асаблівую цікавасць у даследчыка выклікала гісторыя культуры і побыту насельніцтва ВКЛ у XVIII ст., якую ён добра ведаў і выклаў у працы «*Польшча ў час трох падзелаў».* Аўтар заклікаў да комплекснага вывучэння народнай культуры. Гэтым прынцыпам ён кіраваўся пры напісанні гістарычнай чатырохтомавай працы «*Вільня ад яе пачатку да 1750 года»* (1842 г.).

Выдавецкую эстафету Крашэўскага падхапіў вядомы археолаг, этнограф, гісторык Адам Кіркор (псеўданімы Ян са Слівіна, Ян Валігурскі, Саборы).

**Адам-Ганоры Карлавіч Кіркор** (1818 – 1886 гг.) нарадзіўся ў в.Слівіна каля Мсціслава Магілёўскай губерні ў сям'і шляхціца-аднадворца татарскага паходжання. Вучыўся ў Магілёўскай гімназіі, затым у Віленскім дваранскім інстытуце, які скончыў экстэрнам.

Яшчэ ў гады гімназічнага навучання Кіркор зацікавіўся фальклорам і этнаграфіяй. Яго першы артыкул «*Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі: Купала. Русалкі»* быў надрукаваны ў зборніку лепшых сачыненняў выхаванцаў Беларускай навучальнай акругі (1839 г.). На маладога даследчыка вялікі ўплыў аказаў краязнаўца, член Віленскай археалагічнай камісіі, доктар медыцынскіх навук, прафесар фізіялогіі **Міхал Гамаліцкі** (ураджэнец в.Бялавічы Слонімскага павета, аўтар рэцэнзіі на кнігу М.Балінскага «Гісторыя горада Вільні»).

У 1838 – 1864 гг. Кіркор працаваў у Віленскай казённай палаце. Але ён паралельна займаўся літаратурна-навуковай дзейнасцю, пісаў тэатральныя рэцэнзіі, пачаў выдаваць альманахі: з 1843 г. – «Radegast», з 1845 г. – «Pametniki umyslowe».

У 1846 г. улады даручылі яму сакрэтную місію ў сувязі з сацыяльнымі канфліктамі ў Галіцыі – разведаць настроі насельніцтва ў Заходняй Беларусі. Кіркор напісаў цікавую дакладную запіску,

у якой адзначыў глыбокую варожасць мясцовых сялян да памешчыкаў. Да гэтага ж часу адносіцца яго нешчаслівы шлюб з артысткай-прыгажуняй Аленай Маеўскай. У 1857 г. жонка пакінула яго і з’ехала ў Польшчу, дзе актыўна ўдзельнічала ў паўстанні 1863 г.

Стаўшы членам Віленскага статыстычнага камітэта А.Кіркор пачаў непасрэдна займацца гісторыяй. Як сакратар камітэта, ён рэдагаваў «Памятныя кніжкі» Віленскай губерні (1850 – 1854 гг.), пашырыў у іх неафіцыйны аддзел, змясціў багаты матэрыял па гісторыі і статыстыцы Віленшчыны, у тым ліку яе беларускіх паветаў.

Кіркор вёў шматлікія археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Ён раскапаў (часткова з Я.Тышкевічам) каля 1000 курганоў. Таксама прыняў актыўны ўдзел у арганізацыі Музея старажытнасцяў у Вільні (1855 г.), стаў яго хавальнікам і сакратаром Віленскай археалагічнай камісіі.

Даследчык выступіў выдатным знаўцам гісторыі і этнаграфіі Беларусі і Літвы. Ён падрыхтаваў некалькі папулярных даведнікаў па Вільні і яе ваколіцах, друкаваў шматлікія навуковыя матэрыялы ў польскай і рускай перыёдыцы. Асабліва каштоўнай для беларускай навукі была яго праца «*Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню»* (1857 – 1859 гг.), складзеная паводле праграмы Рускага геаграфічнага таварыства. У ёй выказана вялікая павага да духоўнага жыцця беларускага народа, прыведзена больш за 100 народных песень, 200 прыказак, слоўнік «беларуска-крывіцкай гаворкі». Праца складаецца з уводзін і шасці раздзелаў: знешнасць, мова, хатні побыт, асаблівасці грамадскага побыту, разумовыя і маральныя якасці, народныя паданні і помнікі. Па-сутнасці, гэта агляд, бо аўтар не паказаў этнаграфічныя асаблівасці розных групаў насельніцтва губерні. Ён не праводзіць дакладны падзел паміж літоўцамі і беларусамі, хаця адзначаў, што яны «ў многім адрозніваюцца паміж сабою». Кіркор падкрэсліў іх станоўчыя якасці, паказаў цяжкае жыццё сялянства. Але выхад з гэтага становішча ён бачыў у клопатах «добрых» паноў аб дабрабыце сваіх сялян.

Кіркор у 1857 – 1858 гг. з дазволу Аляксандра II арганізаваў неперыядычны зборнік «Teka Wilenska». Але за размяшчэнне пісьма палітычнага эмігранта (Лялевеля) выданне было закрыта. Пасля Кіркор засноўвае ў Вільні ўласную друкарню і выдае там шэраг навуковых і мастацкіх кніг, у тым ліку творы Ю.Крашэўскага, У.Сыракомлі, Ю.Ляскоўскага і інш. У гэты час вакол гісторыка склаўся гурток мясцовых (польскіх, літоўскіх, беларускіх) літаратараў і культурных дзеячаў, у які ўваходзілі У.Сыракомля, В.Каратынскі,

В.Дунін-Марцінкевіч, А.Вярыга-Дарэўскі, А.Адынец, І.Ходзька, М.Маліноўскі, Я.Тышкевіч, В.Пшыбыльскі, С.Манюшка і іншыя. Ёсць думка, што гэты гурток можна лічыць першым беларускім літаратурным гуртком, тым самым падкрэсліваючы яго значэнне для станаўлення новай беларускай літаратуры.

Паводле недакладных звестак, сам Кіркор «пісаў для народа папулярныя беларускія брашуркі», але сёння навука пра іх нічога не ведае. Затое добра вядомая яго прыхільнасць да беларуска-літоўскага краю, які традыцыйна ў тыя часы называўся «Літвой». «Я літвін, – пісаў А.Кіркор, – ніколі не знішчыць ува мне гэтага пачуцця». У іншых выпадках ён называў сябе «не прыродным палякам, а беларусам».

З 1860 г. Кіркор становіцца рэдактарам галоўнай урадавай газеты літоўска-беларускага рэгіёна – «Віленскі веснік», якая выдавалася на рускай і польскай мовах. Ён прыняў удзел у стварэнні т.зв. «*Віленскага альбома»,* які быў складзены ў гонар прыезду ў Вільню імператара Аляксандра ІІ. Гэты ўчынак быў расцэнены прадстаўнікамі польскай інтэлігенцыі як здрада нацыянальнай ідэі і выклікаў жорсткую крытыку, асабліва ў прадстаўнікоў эміграцыі. Ліберальная пазіцыя Кіркора, накіраваная на супрацоўніцтва з царскімі ўладамі, не раз выклікала крытыку і потым. Асабліва цяжкія выпрабаванні выпалі на яго долю ў перыяд паўстання 1863 г., калі віленскі генерал-губернатар М.Мураўёў ператварыў «Віленскі веснік» у афіцыйны орган. Разам з тым Кіркор быў прыцягнуты да следства ў сувязі з удзелам у паўстанні яго жонкі А.Маеўскай, у варшаўскай кватэры якой хаваўся кіраўнік паўстанцкага ўрада Р.Траўгут. І, хоць следства не знайшло яго віны, Кіркор перабіраецца ў Пецярбург. Там ён пачаў выдаваць газету «Новы час» (1868 – 1871 гг.), але з-за фінансавых цяжкасцяў і пагрозы даўгавой турмы вымушаны быў эмігрыраваць у Кракаў. Апошнія гады жыцця гісторык цяжка хварэў і жыў у вялікай беднасці.

Да апошніх гістарычных працаў Кіркора адносяцца «*Літва і Русь у гістарычных і археалагічных адносінах»* (1875 г.), нарысы па гісторыі і культуры ў трэцім томе «*Жывапісная Расіі»* (1882 г.), у якім аўтар размясціў 18 нарысаў пра Беларусь: пра прыроду, археалогію, заняткі насельніцтва, вераванні, фальклор і культуру беларусаў. Аўтар падкрэсліў іх высокія духоўна-маральныя якасці, адзначыў беднасць, факты п'янства, неўладкаванасць побыту. Падрабязна апісаў абрады і звычаі.

Плённа на ніве гісторыі працаваў выхаванец Віленскага універсітэта, вядомы гісторык і археолаг Тэадор Нарбут.

**Тэадор Яўхімавіч Нарбут** (1784 – 1864 гг.) нарадзіўся ў маёнтку Шаўры Лідскага павета (сучасны Воранаўскі раён). У 1808 г. скончыў Віленскі універсітэт, затым вучыўся ў Пецярбургскім кадэцкім корпусе. Служыў ваенным інжынерам у рускай арміі. Удзельнічаў у рэгуляцыі русла Нёмана. Магчыма, ён аўтар праекта Бабруйскай крэпасці. Пасля кантузіі, з 1812 г. жыў у сваім родавым маёнтку, вёў гаспадарку і даследаваў гісторыю ВКЛ.

Навуковая дзейнасць Нарбута пачалася выпадкова. Пры будаўніцтве абарончых пабудоў на берагах Дняпра і Бярэзіны было знойдзена шмат старажытных прыладаў, што вельмі ўразіла маладога афіцэра. Ён пачаў актыўна займацца археалагічнымі даследаваннямі: спачатку ў Беларускім Падняпроўі, затым – на захадзе Беларусі. У 1820 г. ім было знойдзена старажытнае пахаванне недалёка ад уласнага маёнтка і скарб рымскіх манетаў. Разам з касцянымі рэшткамі яму трапілі сасуды асаблівай канфігурацыі.

Адным з першых Нарбут вызначыў, што курганы – гэта месцы старажытных пахаванняў. На думку аўтара, нябожчыка выносілі ў прызначанае месца, там адбываўся абрад трупаспалення або трупапалажэння, ставілі ежу і піццё, потым усе ўдзельнікі пахавання насыпалі земляны курган. Даследчык вывучаў структуру курганаў, параўноўваў іх па рэгіёнам.

Гісторык у тлумачэнні паходжання плямёнаў дапускаў спрошчанасць. Напрыклад, назву драўлян выводзіў ад слова «древность», а дрыгавічы, нібыта, жылі толькі каля Кіева. Ён памылкова адносіў яцвягаў да скіфскіх, а не да балцкіх плямён.

Шмат увагі Нарбут надаваў вывучэнню Лідскага замка і гісторыі г.Ліды. Гэты горад ён лічыў адным з найстарэйшых у Беларусі. Зацікаўленасць аўтара тлумачыцца тым, што ў Лідзе пражываў баярскі род Шуйскіх, а ад іх пайшоў род Нарбутаў.

У заслугу Нарбуту трэба паставіць адкрыццё ім археаграфічнага помніка «Хронікі Быхаўца». Да яго вывучэння даследчык звярнуўся ў 1834 г., калі рыхтаваў да друку «Старажытную гісторыю літоўскага народа». На жаль, арыгінал хронікі згубіўся неўзабаве пасля яго першай публікацыі ў 1846 г. Калі б не самаадданая праца Нарбута, то магло б здарыцца, што гэты летапіс так і не дайшоў бы да нас. У канцы свайго выдання Нарбут змясціў своеасаблівы паказальнік-слоўнік некаторых тэрмінаў. Пры яго складанні даследчык свядома змяніў імёны і прозвішчы: рускія імёны на польскія (Юры на Ежы), польскія на беларускія (Зубравіцкі на Зубрэвіч).

Галоўная праца Т.Нарбута – «*Старажытная гісторыя літоўскага народа»,* выдадзеная ў 9-ці тамах у 1835 – 1841 гг. Дзесяты

том застаўся ў рукапісу. Аўтар прасачыў гісторыю ВКЛ ад легендарных часоў да Люблінскай уніі, стварыўшы ўласную канцэпцыю ўтварэння ВКЛ і яго гісторыі.

Пагаджаючыся з тым, што Палямон (Апалон) прыбыў у Літву на чале пяці сотняў рыцараў, Нарбут лічыў, што той прывёў не рымлян, а нашчадкаў герулаў з Ніжняй Саксоніі. Потым яны рушылі на паўночны ўсход і ў IX ст. аселі сярод славян на левым беразе Віслы. Такім чынам, Нарбут адносіць прыбыццё Палямона ў Літву не да I ст. і не да пачатку V ст., як гэта зацвердзілася да яго, а да IX ст.

Паводле легенды, Палямон прыбыў у незаселеную краіну. Але Нарбут не пагадзіўся з гэтым фактам і сцвярджаў, што літоўскі народ жыў на гэтай тэрыторыі раней, уключаючы і правы, і левы берагі Віслы. Але ў гісторыка няма абсалютнай яснасці. Бо тут жа ён паказвае, што на левым беразе жылі і «русіны». Нарбут будуе арыгінальную схему: сыны Палямона сталі гаспадарыць у асобных княствах Літвы і Жамойціі, дзякуючы ўдаламу абручэнню з дочкамі мясцовых землеўладальнікаў.

Нарбут не прыняў версію з «Хронікі Быхаўца» аб паходжанні назвы «Літва» ад злучэння двух слоў «літус» (бераг) і «туба» (труба) – «Лістубанія» («Літубанія»). З сумневам гісторык паставіўся да паведамлення хронікі аб князе Скірмунце, які загадаў адрэзаць татарскім паслам косы, губы і вушы. Нарбут адхіляе факт удзелу татар на баку рускіх дружынаў у бітве ля в.Магільна, бо, паводле ягоных падлікаў, гэтая падзея адбылася ў 1235 г., а тады татараў тут не было. Паводле яго меркавання, гэта маглі быць полаўцы.

Не падзяляў Нарбут пазіцыю хронікі адносна заснавання Наваградка. У летапісе гаворыцца, што горад заснаваў князь Скірмунт. Сам жа даследчык лічыць, што паселішча існавала тут задоўга да згаданых падзеяў. Менскі князь Глеб, якога Нарбут характарызуе як жорсткага, бязлітаснага і неспакойнага чалавека, трапіў у няміласць да вялікага князя Святаполка. Святаполк аб'яднаўся з іншымі князямі і пайшоў на Глеба ў 1104 г., але гэты першы паход завяршыўся няўдала. Менскі князь узмацніў прыгнёт сваіх падданых і не даваў спакою сваім суседзям. Уладанні яго сталі пусцець: народ бег у Літву Завілейскую, дзе тым часам панаваў Жывінбуд. Князь Глеб неаднаразова нападаў на Завілейскую Літву, даходзіў з баямі да р.Дзітвы і паланіў мірных земляробаў. У адказ на гэта літоўскі князь Жывінбуд здзейсніў напад на Менскае княства ў 1114 г., дайшоў да самай сталіцы, якую ўзяў рашучым прыступам, і спаліў Менск. З багатай здабычай вярнуўся назад. Перапалоханы Глеб надоўга перастаў хадзіць на землі Жывінбуда.

Але, перастаўшы турбаваць Літву, Глеб звярнуўся на іншыя землі і княствы, спустошваў іх воласці і браў у палон. Ад Прыпяці да Дняпра дыміліся вёскі і воласці. Горад Друцк, паводле словаў Нарбута, з'яўляецца ў той час «галоўным цэнтрам гандлю рабамі». Глеб прадаваў няшчасных людзей у рабства ці сяліў ля р.Бярэзіны. Менскі князь так вымуштраваў сваіх падначаленых, што яны зрабіліся сапраўднымі гандлярамі нявольнікамі. Раскрываючы гэтыя падзеі з гісторыі Беларусі, Нарбут спасылаўся на дакументы 1589 г., але тыя не дайшлі да нашых часоў. Паўсюдна раздаваліся скаргі і наракання супраць варварскага промыслу. Сам Уладзімір Манамах пагражаў Глебу, прымусіў нават кіеўскага мітрапаліта падвергнуць анафеме менскага князя. Нарэшце вялікі князь Манамах, злучыўшыся з Давыдам Чарнігаўскім і Ольгавічамі, узяў у 1116 г. Оршу і Копысь, якія належалі Менскаму княству, і на некаторы час уціхамірыў Глеба. Але той нядоўга сядзеў склаўшы рукі. Нарбут піша пра яшчэ адзін паход менскага князя на Літву, а потым і на Смаленскае княства. Раз'юшаны Манамах даручыў свайму сыну Яраполку ў 1119 г. пакараць менскага князя, пайсці на Друцк. З'явілася мноства жадаючых удзельнічаць у гэтым паходзе, бо ваяваць з Глебам і яго хаўруснікамі, праклятымі царквой, азначала выконваць боскую волю. У бітве прымаў удзел і Жывінбуд. Князь Яраполк Уладзіміравіч напаў на Друцк, «узяў на шчыт Друцк», разграміў дручан, але не знішчыў іх, а, наадварот, загадаў перавезці на новае месца жыхарства і там пабудаваць горад, каб забыць пра гэтае страшнае месца і пра гандаль рабамі. Новым горадам стаў Навагрудак. Пазней, пасля захопу Навагрудка літоўскімі князямі, Мінгайла заваяваў Полацк, стварыўшы, такім чынам, вялікае княства Літоўска-Полацкае. Напэўна, Нарбут робіць некалькі памылак. Папершае, на Друцк, гаворыцца ва ўсіх летапісах, выступіў сам кіеўскі князь, а ў працах некаторых даследчыкаў сустракаюцца іншыя імёны: у Тацішчава на Друцк ідзе сын Манамаха – Мсціслаў, а паводле Нарбута – Яраполк. Па-другое, паход на Друцк Нарбут адвольна аднёс да 1119 г. (на самой справе – 1116 г.).

Выклікаюць недавер звесткі пра будаўніцтва Полацкай Сафіі міфічным князем літоўскага паходжання Барысам Гінгілавічам. Гісторык М.І.Ермаловіч адзначаў, што «ёсць ўсе падставы лічыць Усяслава ініцыятарам будаўніцтва полацкай Сафіі». Гэта пацвярджае «Слова пра паход Ігаравы», калі ў ім гаворыцца: «Тому (Усяславу) в Полотске позвониша заутреню ране у Святыя Софеи колоколы, а он в Киеве звон слыша». Як добра вядома, Усяслаў знаходзіўся ў Кіеве ў 1067 – 1069 гг., і, значыць, да гэтага часу сабор ўжо існаваў.

Праца напісана з пазіцыі ідэалізацыі сармацкага мінулага ВКЛ, крытычнага стаўлення да палітыкі польскіх феадалаў. Праўда, аўтар вызначаў высокую ролю каталіцкай царквы і польскай культуры ў гісторыі Літвы і Беларусі. Пазней беларускі вучоны М.В.Доўнар-Запольскі у сваёй «Гісторыі Беларусі» адзначаў: «Нягледзячы на вялікую любоў да мінулага і на жаданне высветліць яго гісторыю, Нарбут яшчэ дрэнна разбіраецца ў пытаннях пра тое, чым адрозніваецца беларуская гісторыя ад гісторыі Польшчы».

Яшчэ сучасныя Нарбуту польскія гісторыкі знаходзілі ў яго працах адсутнасць прафесійнай падрыхтоўкі і крытычных адносінаў да крыніцаў. Але, як адзначыў А.Кіркор, даследчыку не хапала шырокай крыніцавай базы. У сучаснай беларускай гістарыяграфіі за Нарбутам замацавалася мянушка «Беларускі Карамзін».

У развіцці гістарычнай навукі на тэрыторыі Беларусі і Літвы ў другой трэці XIX ст. вылучаюцца постаці братоў Тышкевічаў.

**Канстанцін Піевіч Тышкевіч** (1806 – 1868 гг.) і **Яўстафій Піевіч Тышкевіч** (1814 – 1873 гг.) нарадзіліся ў Лагойску ў сям'і шляхціца Пія Феліцыянавіча Тышкевіча (1756 – 1858 гг.). Канстанцін скончыў Віленскі універсітэт, затым працаваў у міністэрстве фінансаў Царства Польскага. Удзельнік паўстання 1830 – 1831 гг. З 1836 г. жыў у Лагойску, дзе займаўся гаспадарчай і навуковай дзейнасцю. Член Маскоўскага археалагічнага таварыства.

Яўстафій пачаў вучыцца ў Віленскай, а скончыў Мінскую гімназію. З 1833 г. працаваў у ордэнскім капітуле ў Пецярбургу, затым у канцылярыі віленскага генерал-губернатара, потым у аналагічных установах Харкава і Мінска. З 1840 г. апякун школаў, маршалак Барысаўскага павета. З 1855 г. старшыня Віленскай археалагічнай камісіі. Ганаровы член Пецярбургскай АН, член Дацкага таварыства аматараў паўночных старажытнасцяў, Стакгольмскай Каралеўскай Акадэміі выяўленчага мастацтва і старажытнасцяў, Лонданскага археалагічнага інстытута.

Галоўным для К.Тышкевіча стала вывучэнне старажытных помнікаў. Разам з братам ён праводзіў раскопкі курганаў, могільнікаў і іншых археалагічных аб'ектаў. Ім даследавана каля 200 курганаў і гарадзішчаў жалезнага веку, замчышчаў на тэрыторыі Мінскай губерні. Вынікі сваіх даследаванняў К.Тышкевіч публікаваў у польскім штотыднёвіку «Przyjaciel ludu», у выдаваемай Кіркорам газеце «Новы час».

Археолаг прытрымліваўся ўласнай методыкі раскопак: здымаў зверху «пласт за пластом, пачынаючы з аднаго боку». Пазней

ён зразумеў яе нязручнасць і прыняў метад Кіркора – весці раскопкі кургана траншэйным спосабам: «ад верху да нізу ў форме крыжа».

Даследчык першым склаў тапаграфічныя планы замкаў і гарадзішчаў. Ім былі зроблены планы замкаў у Заслаўі, Чашніках, Лагойску і іншых месцах. Іх навуковая каштоўнасць заключаецца ў тым, што фіксуецца стан помнікаў да і пасля раскопак. Свае назіранні археолаг падмацаваў малюнкамі аб’ектаў. Метад К.Тышкевіча быў падхоплены Кіркорам і Сыракомляй.

Сваю першую публікацыю «*Гістарычныя звесткі пра старажытныя замкі, гарадзішчы і курганы ў Літве і Літоўскай Русі»* (1859 г.) К.Тышкевіч прысвяціў характарыстыцы стану агульнаеўрапейскай археалогіі, у тым ліку ў Расіі, Украіне, Польшчы, і паказаў на гэтым фоне дасягненні мясцовых аматараў вывучэння матэрыяльнай культуры. Аўтар у гэтым артыкуле таксама раскрыў гісторыю Лагойска, яго старажытнага замка. Даследчык паводле тэхнікі апрацоўкі і матэрыялаў выканання першым класіфікаваў знаходкі, выяўленыя на старажытным селішчы Чырвоны Бор, прадставіў іх у выглядзе сістэматызаваных табліцаў.

Найважнейшай работай К.Тышкевіча з’яўляецца манаграфія «*Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі»,* якая была выдадзена ў 1865 г. невялікім накладам у 200 паасобнікаў. Кніга прысвечана унікальным знаходкам старажытнага пісьменства славян і яцвягаў X – XIV стст., што былі выяўлены на Бузе каля г.Драгічына. На думку аўтара, там праходзіла яцвяжская граніца. Гэтая пазіцыя не супадала з падыходам І.Лялевеля.

У 1856 г. даследчык арганізаваў экспедыцыю ўздоўж р.Віліі, падчас якой сабраў багаты этнаграфічны, фальклорны і археалагічны матэрыял. Вынікам стала выдадзеная ў 1871 г. (пасмяротна) краязнаўчая манаграфія «*Вілія і яе берагі».* Працуючы над кнігай, даследчык выкарыстаў вопыт апісання Дуная, Рэйна, Тэмзы, працы мясцовых краязнаўцаў М.Борха, І.Ходзькі, С.Мураўскага. Гісторык пабываў у 295 вёсках і мястэчках, апісаў найбольш цікавыя прыбярэжныя мясціны. Шмат месца ён прысвяціў помнікам старажытнай архітэктуры. Некаторыя з іх замаляваў мастак А.Бартэльс.

Асноўным заняткам Я.Тышкевіча была навука. Пачынаючы з 1837 г., ён кожнае лета даследаваў курганы. Спачатку раскопкі праводзіў траншэйным спосабам, але затым перайшоў на перакрыжаваны. Археолаг прыйшоў да высновы, што курганы ёсць на Беларусі паўсюдна, але па-рознаму называюцца, што старажытнае насельніцтва ведала бронзу раней за жалеза. Па самых нязначных

дэталях пахавальнага абраду Я.Тышкевіч мог прааналізаваць старажытную эпоху. Даследчык выкарыстоўваў параўнальна-тыпалагічны метад. Археолаг па форме скроневага кальца ў жанчын-крывічанак вызначаў тэрыторыю рассялення гэтага племяннога саюза. Аналіз пахавальнага інвентару дазволіў яму сцвярджаць, што мясцовае насельніцтва ў перыяд т.зв. «ваеннай дэмакратыі» было не болей «варварскім», чым у Заходняй Еўропе. Даследчык адзначаў высокі ўзровень развіцця жалезнай металургіі на тэрыторыі Беларусі, сацыяльную дыферэнцыяцыю сярод людзей. Слова «гарадзішча» Я.Тышкевіч лічыў славянскім і выказаў думку пра яго не толькі ваеннае, але і абрадавае прызначэнне. А замкі ён звязваў з абарончымі аб'ектамі – этымалогію слова выводзіў ад дзеяслова «замыкаць».

Археалогію даследчык падзяляў на чатыры часткі: уласна археалогія, нумізматыка, гліптыка, палеаграфія. У 1842 г. ён выдаў манаграфію «*Погляд на крыніцы мясцовай археалогіі, або апісанне некаторых помнікаў старажытнасцей у Заходніх губернях Рускай дзяржавы*». Каб папоўніць свае веды па старажытнай гісторыі, археолаг у 1843 г. накіраваўся на стажыроўку ў Данію, Фінляндыю, Швецыю. Гэта быў першы выпадак навуковай камандзіроўкі за мяжу. Я.Тышкевіч пераняў метад дацкага археолага К.Томсена падзелу старажытнасцяў на тры эпохі-вякі: каменны, бронзавы і жалезны, і выкарыстаў яго пры арганізацыі музеяў у Лагойску і Вільні. Вярнуўшыся з замежжа, выдаў працу «*Археалогія ў Літве*» (1872 г.).

Унікальнай па сваім значэнні з'яўляецца кніга Я.Тышкевіча «*Апісанне Барысаўскага павета...*», апублікаваная ў 1847 г. Аўтар працаваў над ёй амаль дзесяць гадоў і выкарыстаў шмат першакрыніцаў, нават этнаграфічных і лінгвістычных.

Грунтоўна займаўся даследчык і фальклорам. Пры апісанні вяселля, абрадаў і ўсяго цыклу гаспадарчага календара беларусаў ён імкнуўся растлумачыць сувязь язычніцкіх абрадаў з хрысціянскімі вераваннямі. У яго запісах сабрана каля 450 прымавак і прыказак, якія ў падборках ён публікаваў у часопісе «Biblioteka Warszawska». Трапнымі прыкладамі з фальклору беларусаў Я.Тышкевіч праілюстраваў сваю працу «*Узоры хатняга сумеснага жыцця ў Літве*» (1864 г.), дзе выклаў свае погляды на культуру шляхты ранейшых стагоддзяў. Ім жа складзены нарыс пра магната Радзівіла ў кнізе «*Нашы краі*». Захаваліся і літаратурныя творы Я.Тышкевіча.

У галіне фалькларыстыкі плённа працаваў ураджэнец Віцебшчыны **Аляксандр Феліксавіч Рыпінскі** (1811 – 1900 гг.). У кнізе

«*Беларусы»,* выдадзенай у Парыжы ў 1840 г., ён упершыню сістэматызаваў вусную народную творчасць па жанрах і тэматыцы, заклікаў да вывучэння беларусаў, але лічыў іх часткай польскай народнасці. Палітычным ідэалам аўтара з'яўлялася «вялікая Польшча» ад Балтыкі да Чорнага мора і Смаленска.

Дастаткова рана зарэкамендаваў сябе як краязнаўца выпускнік юрыдычнага факультэта Маскоўскага універсітэта **Рамуальд Андрэевіч Друцкі-Падбярэзскі** (1813 (1814) – 1856 гг.), які кіраваў у Пецярбургу гуртком беларускай моладзі, выдаваў у Вільні «Rosznik literacki» і «Pamietnik naukowo-literacki». Сваю цікавасць да мінулага беларускага народа даследчык выказаў у прадмове да кнігі Я.Баршчэўскага «Шляхціц Завальня». У публікацыі «*Горад Барысаў»* аўтар, спасылаючыся на Тацішчава, аднёс заснаванне горада да 1102 г. Ён адным з першых указаў, што горад быў закладзены ў 5 – 6 вярстах на поўнач ад сучаснага Барысава. Гэтую думку пазней пацвердзіць беларускі археолаг Г.В.Штыхаў. Друцкі-Падбярэзскі цікавіўся легендамі, мікратапанімікай, геральдыкай. Ён шукаў камяні з надпісамі. Адзін з іх з літарамі «R. S. B» краязнаўца знайшоў у басейне р.Поня.

Кнігу **Міхаіла Іосіфавіча Борха** (1806 – 1881 гг.) «*Два словы пра Дзвіну»* (1843 г.) раскрытыкаваў Нарбут за няўменне растлумачыць помнікі мінулых часоў і неразуменне аўтарам гандлёва-эканамічных асаблівасцяў краю. Спрэчка пачалася за бурштын, які з'яўляўся прадметам гандлю. Борх лічыў, што на Падзвінні ў старажытнасці бурштыну не было. Аднак археалагічныя даследаванні пацвярджаюць, што насельніцтва Падзвіння ўсё ж мела бурштын, хоць і імпартны, з Прыбалтыкі, які паступаў па т.зв. «вялікаму сонечнаму шляху».

Вывучэннем беларускага фальклору займаўся ўраджэнец Свянцянскага павета Віленскай губерні, выхаванец Віленскага універсітэта, настаўнік з Палесся **Рамуальд Сымонавіч Зянькевіч** (1811 – 1868 гг.). У часопісе «Athenaeum» ён змясціў 219 беларускіх песень – «*Народныя песенькі пінскага люду»* (1851 г.). Побач з арыгіналам аўтар зрабіў пераклад на польскую мову, што значна павысіла навуковую вартасць гэтай працы. У паасобных раздзелах песень складальнік зрабіў апісанне абрадаў, вераванняў, гульняў і працоўных працэсаў.

Шмат краязнаўчых працаў пакінуў пасля сябе Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч).

**Уладзіслаў Сыракомля** (1823 – 1862 гг.) нарадзіўся ў ф.Смольгаў Бабруйскага павета Мінскай губерні ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў дамініканскай школе ў Нясвіжы і Навагрудку, працаваў у нясвіжскай канцылярыі Радзівілаў. У 1844 г. арэндаваў фальваркі. За ўдзел у маніфестацыях 1861 г. быў арыштаваны і пасаджаны ў віленскую турму. Вядомы польскі і беларускі паэт.

Вывучэнню Беларусі Сыракомля прысвяціў шэраг працаў, у прыватнасці, нарыс «*Нясвіж»,* якi прызначаўся для «Старажытнай Польшчы» М.Балінскага. У нарысе ў храналагічнай паслядоўнасці апісаны найбольш важныя ваенныя бітвы, звязаныя з гісторыяй горада, дадзена высокая ацэнка яго архітэктурным помнікам.

Да лепшых узораў краязнаўчага апісання адносіцца праца Сыракомлі «*Вандроўкі па маіх былых ваколіцах...»,* якая ўбачыла свет у 1853 г. Аўтар зрабіў гістарычныя нарысы мястэчак Любчы і Міра, разглядзеў мясцовыя падзеі ў кантэксце агульнаеўрапейскай гісторыі. Ён лічыў, што Мірскі замак маладзейшы за Навагрaдскі, Лідскі і Крэўскі. Аўтар падрабязна апісаў беларускую вёску, у прыватнасці, жыллё, вясковае адзенне, звычаі і абрады мясцовых сялян – у наваколлі Міра, Нясвіжа, Стоўбцаў, Койданава, Слуцка.

Сыракомлі належыць «*Апісанне Мінска»* (1857 г.) – своеасаблівай хронікі горада. Даследчык прадставіў асноўныя этапы з жыцця гараджан, адзначыў запамінальнасць архітэктуры горада, выказаў думку, што Мінск пачаў забудоўвацца з захаду на ўсход.

Пад уплывам манаграфіі К.Тышкевіча «Вілія і яе берагі» краязнаўца стварыў працу «*Нёман ад вытокаў да вусця»,* выдадзеную ў 1861 г. Гэта першае апісанне беларускай ракі, у якім прапаноўвалася методыка такога тыпу даследаванняў.

Вядома, што Сыракомля захапляўся археалогіяй – праводзіў раскопкі ў Віленскім, Навагрудскім і Ковенскім паветах. Ён прымаў удзел у арганізацыі Віленскага музея старажытнасцяў, з'яўляўся членам Віленскай археалагічнай камісіі.

Для навуковай апрацоўкі і публікацыі гістарычных крыніцаў у 1855 г. у Вільні пры Музеі старажытнасцяў была створана **Археалагічная камісія** пад старшынствам Я.Тышкевіча. Ён жа ахвяраваў музею сваю калекцыю кніг, рукапісаў і прадметаў побыту з Лагойска.

Археалагічная камісія павінна была скласці збор (калекцыю) старажытных кніг, актаў, рукапісаў, манетаў, зброі, паясоў, партрэтаў, садзейнічаць захаванню помнікаў старажытнасці, арганізаваць даследчыцкую дзейнасць па вывучэнні мінулага Беларусі і Літвы. Арганізатары камісіі марылі аб стварэнні універсітэта. Ужо ў 1860 г.

функцыянавала бібліятэка з фондам 15 тыс. кніг, былі сабраны нумізматычная (47 тыс. экспанатаў) і археалагічная (3412 экспанатаў) калекцыі, калекцыя бюстаў, галерэя карцін.

Камісія ўключыла ў сваю дзейнасць такіх вядомых гісторыкаў і аматараў мінуўшчыны, як Т.Нарбут, А.Кіркор, М.Маліноўскі, Ю.Крашэўскі і іншыя. З 1858 г. сталі выходзіць «*Запіскі*». У тым жа годзе на высокім археаграфічным узроўні было выдадзена «*Собрание государственных и частных актов, касающихся Литвы и соединенных с нею владений (1387 – 1710 гг.)*», у 1860 – 1862 гг. – «*Skarbiec diplomatow...*» І.Даніловіча.

Царская адміністрацыя з недаверам ставілася да дзейнасці камісіі, бачыла ў ёй асяродак польскага і літоўскага сепаратызму. Публічна сваю незадаволенасць улады выказалі пасля выдання камісіяй «Збора» М.Круповіча – падборкі дакументаў паланафільскага характару. Тым не менш члены Археалагічнай камісіі абуджалі інтарэс да духоўнага і матэрыяльнага мінулага беларускага народа.

У другой трэці XIX ст. афармляецца плынь літоўскай гістарыяграфіі, прадстаўленая **Сіманасам Даўкантасам** (1793 – 1864 гг.). Даследчык адмоўна ставіўся да Польшчы, выступаў за адраджэнне Літвы. У «*Деяниях древних литовцев и жемайтов*» (1822 г.) ён у даступнай для чытачы форме раскрыў гісторыю літоўскага народа са старажытных часоў да смерці Вітаўта. Як і А.Віюк Каяловіч, аўтар лічыў, што літоўцы паходзяць ад племені герулаў, якое пасля доўгіх вандровак асела ў Прыбалтыцы. Барацьба з мясцовымі плямёнамі была вырашана жрацом Вайдэвутасам: «Ніякага падпарадкавання не павінна быць. Усе ўлады павінны быць выбарнымі». Гэта была першая праца па гісторыі Літвы, напісаная на літоўскай мове.

Працуючы ў канцылярыі Сената ў Пецярбургу, Даўкантас на падставе новых крыніцаў Метрыкі ВКЛ напісаў кнігу «*Быт старажытных літоўцаў, аукштайтаў і жэмайтаў*» (1845 г.), у якой ідэалізаваў мінулае літоўскага народа. Але самай значнай працай даследчыка стала двухтомавая «*Гісторыя Літвы*», у якой аўтар прааналізаваў гістарычныя падзеі ад старажытнасці да Люблінскай уніі.

Стан беларускай гістарыяграфіі ў другой трэці XIX ст. характарызуецца больш марудным развіццём у параўнанні з гістарыяграфіяй Расіі і Украіны. Але ў гэты час фармуюцца спецыяльныя (археалогія, этнаграфія) і дапаможныя (нумізматыка, палеаграфія, генеалогія і інш.) гістарычныя дысцыпліны.

У гэты перыяд была закладзена вялікадзяржаўная канцэпцыя гісторыі Беларусі, праваднікам якой сталі прадстаўнікі ўрадавых установаў: губернскія статыстычныя камітэты, афіцэры Генеральнага штаба, праваслаўныя святары. З падачы расійскіх даследчыкаў і з дапамогай ураджэнцаў беларускіх губерняў гістарыяграфіі быў нададзены дваранскі характар.

Разам з афіцыйнай канцэпцыяй гісторыі Беларусі фармуецца плынь «мясцовых даследчыкаў», часта непрафесійных, якія прадметам вывучэння выбралі мінулае ВКЛ. Нягледзячы на вялікапольскі падыход у ацэнцы гістарычных падзеяў, аўтары заклалі аснову планамернага і грунтоўнага вывучэння айчыннай гісторыі. Асяродкам тутэйшых даследчыкаў былі віленскія часопісы і Віленская археалагічная камісія.

## Праверачны тэст

***I. Дайце тлумачэнне паняццям.***

1. «Атэніўм».
2. «Рэдэгаст».
3. Параўнальна-тыпалагічны метад.

***II. Вызначце правільны адказ.***

1. Бітву на Нямізе В.М.Тацішчаў лакалізаваў на
   А) Нямізе
   Б) Дняпры
   В) Нёмане
   Г) Бярэзіне.
2. Першая праца ў Расіі, прысвечаная царкоўнай уніі ў ВКЛ, была напісана
   А) В.М.Тацішчавым
   Б) Г.Ф.Мілерам
   В) С.І.Богуш-Сестранцэвічам
   Г) М.М.Бантыш-Каменскім.
3. Тэндэнцыя да абгрунтавання права Расіі на беларускія землі прасочваецца ў
   А) «Истории Российской»
   Б) «Древней Российской Вифлиофике»
   В) «Бархатной книге»
   Г) «Географическом словаре Российского государства».
4. Аўтар кнігі «О Западной России»
   А) В.М.Тацішчаў
   Б) Г.Ф.Мілер
   В) С.І.Богуш-Сестранцэвіч
   Г) М.М.Бантыш-Каменскі.

5. Першай спробай інтэрпрэтацыі права ВКЛ у польскай гістарыяграфіі была дзейнасць

А) Е.Бандтке

Б) Ф.Шміта

В) Т.Чацкага

Г) С.Ліндэ.

6. На думку І.Лялевеля, філасофскі асэнсаванае абагульненне мінулага – гэта

А) гістарыяграфія

Б) этыялогіка

В) фактаграфія

Г) крыніцазнаўства.

7. Самай багатай са славянскіх моваў І.Лялевель лічыў

А) беларускую

Б) украінскую

В) чэшскую

Г) польскую.

8. Аснова «рамантычнай» гістарыяграфіі

А) гісторыя дзяржавы

Б) гісторыя манархіі

В) «нацыянальны дух»

Г) рэспубліканскія інстытуты ўлады

9. Першы дэкан юрыдычнага факультэта Кіеўскага універсітэта

А) І.Даніловіч

Б) І.Анацэвіч

В) М.К.Баброўскі

Г) І.Ярашэвіч.

10. Першым гісторыю ВКЛ у Віленскім універсітэце пачаў выкладаць

А) І.Даніловіч

Б) І.Анацэвіч

В) І.Ярашэвіч

Г) М.К.Баброўскі.

11. Канцэпцыю існавання феадалізму ў ВКЛ упершыню прапанаваў

А) І.Даніловіч

Б) І.Анацэвіч

В) І.Ярашэвіч

Г) М.К.Баброўскі.

12. І.І.Грыгаровіч супрацоўнічаў з археаграфічнай камісіяй

А) Кіева

Б) Пецярбурга

В) Вільні

Г) Масквы.

13. Асновы славяназнаўства заклаў

А) І.Даніловіч

Б) І.Анацэвіч

В) І.Ярашэвіч
Г) М.К.Баброўскі.

14. Першы ў беларускай навуцы археаграфічны зборнік
А) «Скарбніца грамат»
Б) «Беларускі архіў старажытных грамат»
В) «Акты, относящиеся к истории Западной России»
Г) «Собрание русской истории».

15. Упершыню матэрыялы дахрысціянскай міфалогіі, сабраныя на тэрыторыі Беларусі, былі апублікаваны
А) В.Суравецкім
Б) М.Чарноўскай
В) І.Загорскім
Г) А.Плятарам.

16. «Ліцвінам рускага паходжання» называлі
А) В.Суравецкага
Б) Ю.Нямцэвіча
В) І.Загорскага
Г) А.Плятара.

17. 20 разоў перавыдаваўся твор
А) «Манеты даўняй Польшчы»
Б) «Пошукі пачаткаў славянскіх народаў»
В) «Гістарычныя песні»
Г) «Аб даўніх трунах».

18. Першым атрымаў права на правядзенне археалагічных раскопак
А) А.Плятар
Б) З.Даленга-Хадакоўскі
В) П.Кепен
Г) Ю.Нямцэвіч.

19. Аўтар «Гісторыі горада Вільні» (1836-1837 гг.)
А) Ц.Ліпінскі
Б) М.Балінскі
В) М.Маліноўскі.

20. Ураджэнец м.Дзярэчын
А) Ц.Ліпінскі
Б) М.Балінскі
В) А.Марціноўскі.

21. Арганізатар друкарскага таварыства ў Вільні, заснавальнік навукова-літаратурнага часопіса «Дзённік Віленскі»
А) М.Маліноўскі
Б) М.Балінскі
В) А.Марціноўскі.

22. Часопіс «Візерункі разрывкове» з’яўляўся
А) энцыклапедычным выданнем
Б) літаратурным выданнем
В) сатырычным выданнем

23. Арганізатар першага беларускага літаратурнага гуртка
А) Ю.Крашэўскі
Б) У.Сыракомля
В) А.Кіркор.
24. Першым з Беларусі здзейсніў замежную навуковую стажыроўку
А) К.Тышкевіч
Б) Я.Тышкевіч
В) Т.Нарбут
25. Браты Тышкевічы праводзілі раскопкі
А) ямным спосабам
Б) траншэйным спосабам
В) перакрыжаваным спосабам.
26. Методыка краязнаўчага апісання рэк упершыню прапанавана ў манаграфіі
А) «Вілія і яе берагі»
Б) «Нёман ад вытокаў да вусця»
В) «Апісанне Барысаўскага павета...».
27. У 1811 г. В.Р.Анастасевіч ажыццявіў навуковае выданне
А) І-га Статута ВКЛ
Б) ІІ-га Статута ВКЛ
В) ІІІ-га Статута ВКЛ.
28. М.В.Без-Карніловіч Беларусь абмяжоўваў тэрыторыяй
А) Віцебскай і Магілёўскай губернямі
Б) Віцебскай і Мінскай губернямі
В) Віцебскай і Віленскай губернямі.
29. Адным з першых паспрабаваў уключыць гісторыю ВКЛ у канцэптуальную схему рускай гісторыі
А) М.М.Карамзін
Б) П.М.Строеў
В) М.Г.Устралаў.
30. Першым у айчыннай гістарыяграфіі гісторыю Беларусі вызначыў прадметам асобнага вывучэння
А) І.П.Барычэўскі
Б) В.В.Турчыновіч
В) П.М.Бацюшкаў
31. У польскай гістарыяграфіі другой трэці XIX ст. панавала
А) «манархічная школа» А.Нарушэвіча
Б) «рамантычная школа» І.Лялевеля
В) пецярбургская «юрыдычная школа».
32. «Гісторыю Літвы» у 2-х т. напісаў
А) С.Даўкантас
Б) А.Марачэўскі
В) К.Гофман

***III. Складзіце пералік.***

1. Віленскі перыядычны друк першай паловы XIX ст.: ...
2. Гістарычныя раманы Ю.І.Крашэўскага: ...
3. Расійскія перыядычныя выданні першай паловы XIX ст., якія размяшчалі публікацыі гісторыкаў Беларусі і Літвы: ...
4. Гістарычныя працы П.В.Бабро ўскага: ...
5. Задачы, пастаўленыя перад Віленскай археалагічнай камісіяй: ...

***IV. Ці згодны вы з выказываннем (так, не)?***

1. Аўтарам «Старажытнай гісторыі літоўскага народа» (1835 – 1841) з'яўляецца А.Кіркор.
2. Экспазіцыя ў Віленскім музеі старажытнасцяў будавалася паводле канцэпцыі дацкага археолага К.Томпсена.
3. «Беларускай Адысеяй» называюць працу Я.Баршчэўскага «Шляхціц Завальня».
4. П.В.Бабро ўскі ўпершыню ўзняў пытанне аб ролі фіна-ўгорскага элемента ў этнагенэзе беларусаў.

***V. Вызначце дату.***

1. Арганізацыя першага музея на тэрыторыі Беларусі.
2. Арганізацыя губернскіх статыстычных камітэтаў.
3. Адкрыццё Віленскага і Віцебскага Цэнтральных архіваў старажытных актавых кніг.
4. Пачатак дзейнасці Віленскай археалагічнай камісіі.

***VI. Аб кім ідзе размова?***

1. Аўтар працаў па педагогіцы, антыпрыгонніцкай сатыры, паказаў бяспраўнае становішча сялян.
2. Вядомы пісьменнік, гісторык, псеўданімы: «Б.Балеславіта», «К.Пастарнак».
3. Гісторык і археолаг, «беларускі Карамзін».
4. Упершыню сістэматызаваў беларускі фальклор па жанрах і тэматыцы, марыў аб «вялікай Польшчы» ад Балтыкі да Смаленска.
5. Старшыня Віленскай археалагічнай камісіі, стваральнік Віленскага музея старажытнасцяў.
6. Вядомы археолаг, этнограф, гісторык, псеўданімы: «Ян са Слівіна», «Ян Валігурскі».

# Тэма 5. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі ў 60-я гг. XIX – пачатку XX ст.

## План

1. Русіфікатарская палітыка ўрада пасля паўстання 1863 г. Дзейнасць Віленскай археаграфічнай камісіі.

2. «Заходнерусізм» і яго прадстаўнікі ў расійскай гістарыяграфіі.

3. Ліберальны кірунак у расійскай, украінскай і беларускай гістарыяграфіі.

4. Гісторыя Беларусі ў даследаваннях польскіх гісторыкаў.

## Рэкамендаваная літаратура


1. Булахов, М.Г. Е.Ф.Карский: Жизнь, научная и общественная деятельность / М.Г.Булахов; под ред. В.И.Бобковского. – Мн.: Изд-во БГУ, 1981. – 271 с.

2. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. – Мн.:БелЭн, 2005. – Т. 1. – 688 с.

3. Грушевский, М.С. История украинского народа. Автобиография / М.С.Грушевский. – М.: Монолит-Евролинц-Традиция, 2002. – 416 с.

4. Гулак, А.А. Ідэі заходнерусізму ў «Гісторыі беларускага краю» Пятра Бяссонава / А.А.Гулак // Беларускі гістарычны часопіс. – 2004. – №4. – С. 34 – 37.

5. Дзяржаўнасць і права Беларусі са старажытных часоў да канца XVI ст. Ч. 1: Гістарыяграфія гісторыі дзяржавы і права феадальнай Беларусі / Я.А.Юхо. – Мн.: Серыя «Гісторыя Бацькаўшчыны», дадатак да часопіса «Права і эканоміка», 2001. – 104 с.

6. Историография истории южных и западных славян: учеб. пособие для студ. высш. учеб. заведений. – М.: Изд-во МГУ, 1987. – С. 50 – 65.

7. Евгений Ляцкий: материалы к биографии / подготовка текстов и публикация С.И.Михальченко. – Брянск: Изд-во БГПИ, 2000. – 176 с.

8. Карев, Д.В. Академик М.К.Любавский. Судьба и наследие / Д.В.Карев // Наш радавод. – Гродна, 1994. – Кн. 6. – Ч. 3. – С. 450 – 619.

9. Карев, Д.В. Белорусская историография во второй половине XIX – начале XX в. / Д.В.Карев // Очерки истории науки и культуры Беларуси IX – начала XX в. / П.Т.Петриков [и др.]. – Мн.: Наука и техника, 1996. – С. 40 – 47.

10. Карев, Д.В. Белорусская историография в эпоху капитализма (1861 – 1917 гг.) / Д.В.Карев // Наш радавод. – Кн. 3. – Ч. 1. – Гродно, 1991. – С. 49 – 115.

11. Копысский, З.Ю. Историография БССР (эпоха феодализма): учеб. пособие / З.Ю.Копысский, В.В.Чепко. – Мн.: Университетское, 1986. – С. 20 – 62.

12. Коялович, М.О. История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям / М.О.Коялович. – Мн.: Лучи Софии, 1997. – 688 с.

13. Кушнер, В. Стваральнік канцэпцыі беларускай нацыянальнай гісторыі / В.Кушнер // Беларускі гістарычны часопіс. – 2004. – №9. – С. 53 – 59.

14. Лаппо, И.И. Витебский центральный архив и его издание / И.И.Лаппо // Журнал Министерства народного просвещения. – 1904. – С. 326 – 356.

15. Ліндпэр, Р. Гісторыкі і ўлада: Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст. / Р.Ліндпер. – СПб.: Неўскі прасцяг, 2003. – С. 70 – 146.

16. Литвинский, А. Западноруссизм в российской историографии второй половины XIX – начала XX веков / А.Литвинский, Д.Карев // Стэфан Баторый у гістарычнай памяці народаў Усходняй Еўропы. – Гродна: ГЦДУЕ, 2004. – С. 195 – 324.

17. Любавский, М.К. Отзыв о сочинении И.И.Лаппо «ВКЛ во второй половине XVI столетия. Литовско-Русский повет и его сеймик» (Юрьев, 1911), составленный профессором М.К.Любавским / М.К.Любавский. – Пг.: Типогр. Импер. АН, 1912.

18. Михальченко, С.И. Киевская школа: Очерки об историках / С.И.Михальченко. – Брянск: Изд-во БГПИ, 1994. – 76 с.

19. Новік, Н.Я. Выкладанне гісторыі ў навучальных установах дарэвалюцыйнай Беларусі / Н.Я.Новік // Гісторыя: праблемы выкладання. – 2001. – №1. – С. 39 – 51.

20. Пыпин, А.Н. История русской этнографии. Т. 4: Белоруссия и Сибирь / А.Н.Пыпин. – Мн.:БелЭн, 2005. – 256 с.

21. Цвікевіч, А. «Западнорусизм»: Нарысы з гісторыі грамадскай мысьлі на Беларусі ў XIX – пачатку XX ст. / А.Цвікевіч. – Мн.: Навука і тэхніка, 1993. – 352 с.

22. Цыхун, А.П. Акадэмік з вёскі Лаша. Я.Ф.Карскі: краязн. – біягр. Нарыс / А.П.Цыхун. – Гродна, 1992. – 76 с.

23. Черепица, В.Н. М.О.Коялович. История жизни и творчества / В.Н.Черепица. – Гродно: ГрГУ, 1988. – 328 с.

24. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мн.: БелЭн, 1993. – Т. 3. – С. 19 – 21.

25. Яцкевіч, З. Віленская археаграфічная / З.Яцкевіч // Беларуская мінуўшчына. – 1994. – № 2. – С. 32.

**Тэматыка рэфератаў**

1. Падрыхтоўка і выданне гістарычных крыніцаў па гісторыі Беларусі ў 60-я гг. XIX – пачатку XX ст.

2. Заходнеруская гістарыяграфія ў пачатку XX ст. (1905 – 1915 гг.).

3. Я.Ф.Карскі – прадстаўнік ліберальнай гістарыяграфіі канца XIX – пачатку XX ст.

4. Гістарычная школа М.К.Любаўскага.

**1. Русіфікатарская палітыка ўрада пасля паўстання 1863 г. Дзейнасць Віленскай археаграфічнай камісіі**. Моцны ўплыў на развіццё айчыннай гістарыяграфіі парэформеннага часу аказала паўстанне 1863 г. у Польшчы, Літве і Беларусі. Яно зноў звярнула ўвагу ўрада і расійскага грамадства ў цэлым на заходні рэгіён краіны, прымусіла нанова адкрыць Беларусь і яе гісторыю. Каб абвергнуць польскія прэтэнзіі на Беларусь і Літву, царскі ўрад пачаў актыўна даказваць рускі характар «заходняга краю» імперыі. Дзеля гэтага былі выдадзены два гістарычныя атласы.

Першы атлас з шасці картаў падрыхтаваў палкоўнік **Р.Ф.Эркерт** (1863 г.). Выданне раскрывае арэал рассялення ў «заходнім краі» рускіх, палякаў, літоўцаў, латышоў, немцаў і яўрэяў. Зразумела, што ўкраінцы і беларусы былі аднесены да рускага этнасу. Першае выданне атласа выйшла на французскай мове і прызначалася для еўрапейскай дыпламатыі ў адказ на падзеі 1863 г.

У 1864 г. выйшаў атлас, складзены падпалкоўнікам **А.Ф.Рыціхам** пад кіраўніцтвам Пампея Бацюшкава.

**Пампей Мікалаевіч Бацюшкаў** (1811 – 1892 гг.) скончыў артылерыйскае вучылішча ў Пецярбургу, у 1832 – 1840 гг. афіцэр рускай арміі. З 1850 г. – віцэ-губернатар Ковенскай губерні, затым памочнік папячыцеля Віленскай навучальнай акругі, у 1856 – 1857 гг. – віцэ-дырэктар дэпартамента духоўных спраў іншаземных веравызнанняў. Кіраваў будаўніцтвам Храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве, праводзіў палітыку русіфікацыі: садзейнічаў пабудове больш за 2 тыс. праваслаўных храмаў на тэрыторыі Беларусі і Украіны. Спрабаваў перавесці набажэнства ў касцёлах Мінскай губерні з польскай на рускую мову. Гістарычнае развіццё Беларусі зводзіў да гісторыі праваслаўнай царквы і палітычнай дзейнасці князёў. Галоўная праца – «*Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края»* (1890 г.).

У 1864 г. падпалкоўнік А.Ф.Рыціх пачаў збор матэрыялаў для складання атласа. За аснову ён узяў дадзеныя, атрыманыя з МУС і чыноўнікаў, якія спецыяльна былі накіраваны ў заходнія губерні

для агляду стану праваслаўных цэркваў і манастыроў. Дзесяць картаў атласа раскрываюць геаграфію рассялення рускіх, пад якімі разумеліся ўсе праваслаўныя, і палякаў (усе каталікі).

Актыўную падтрымку ўраду аказалі прадстаўнікі позняга расійскага славянафільства і ліберальная інтэлігенцыя, аб чым сведчаць публікацыі ў славянафільскіх выданнях «День», «Москва», «Русь». Да супрацоўніцтва з імі быў запрошаны прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі, ідэолаг заходнерусізму М.В.Каяловіч, які звярнуўся з заклікам да расійскіх газет размяшчаць этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы аб «Заходняй Расіі». Погляды М.В.Каяловіча вабілі славянафілаў сваёй палонафобіяй: на гістарычных прыкладах даследчык паказаў, колькі зла «заходнерускаму народу» прынеслі Захад, Польшча і каталіцызм. Таксама ён выдвінуў тэзіс пра сапсаванасць «лацінскага свету» і яго несумяшчальнасць з праваслаўным светам. Газета «Московские ведомости» абвясціла пра неабходнасць «духоўнага заваявання заходняга края Расіі».

Пазіцыя М.В.Каяловіча знайшла падтрымку ў віленскага генерал-губернатара **Міхаіла Мураўёва**. Ён разумеў усю карысць гісторыі ў працэсе фармавання грамадскай самасвядомасці жыхароў заходніх губерняў. Генерал-губернатар, акрамя русіфікацыі мясцовай адміністрацыі, прапанаваў імператару Аляксандру II правесці рэформу школаў і радыкальна змяніць змест гістарычнай адукацыі: «Необходимо всем и постоянно разъяснить, что край Северо-Западный всегда был и есть русский и что польский элемент есть временный, заброшенный в эпоху польского владычества».

У пачатку 1864 г. Мураўёў задумаў выданне кнігі пра падзеі 1863 года. Гродзенскаму і ковенскаму губернатарам ён накіраваў даручэнне скласці «Очерк о начале и ходе бывшего мятежа по губернии и о польской революционной организации, которая существовала в ней». Падобныя прадпісанні атрымалі начальнік інфлянцкіх паветаў Віцебскай губерні, віленскі, віцебскі, магілёўскі губернатары, старшыні следчых камісіяў. Восенню 1864 г. у канцылярыю Мураўёва сталі паступаць першыя нарысы. Іх абагульненнем займаўся са сваімі памочнікамі генерал-маёр **Васіль Фёдаравіч Ратч** (1816 – 1870 гг.). Вынікам стала двухтомавая праца, выдадзеная ў 1867 – 1868 гг.: «*Сведения о польском мятеже 1863 года в Северо-Западном крае»*. Затым кнігу пераклалі на французскую мову і выдалі ў Парыжы.

Для прапаганды ўрадавай палітыкі М.М.Мураўёў запрасіў у Вільню Ксенафонта Гаворскага.

**Ксенафонт Антонавіч Гаворскі** (1821 – 1871 гг.) нарадзіўся ў Кіеве ў сям'і уніяцкага святара з Віцебшчыны. Скончыў грэка-уніяцкую семінарыю ў Полацку, Пецярбургскую духоўную акадэмію. Выкладаў у Полацкай семінарыі, у т.л. гісторыю і археалогію. Праводзіў раскопкі курганаў каля Полацка, апісаў старажытную «альгердаву дарогу» з Вільні ў Полацк.

У 1857 – 1858 гг. Гаворскі з'яўляўся рэдактарам неафіцыйнай часткі «Віцебскіх губернскіх ведамасцяў». Яго заўважылі расійскія славянафілы, увялі ў навуковыя сталічныя салоны і зрабілі вядучым спецыялістам па «польскім» пытанні. Прафесар М.В.Каяловіч садзейнічаў прызначэнню Гаворскага рэдактарам часопіса «*Вестник Юго-Западной и Западной России»,* які выдаваўся з 1862 г. у Кіеве. Часопіс быў эклектычным – у ім друкаваліся дакументы з Кіеўскай археаграфічнай камісіі па гісторыі рэлігіі і царквы, матэрыялы па гісторыі Украіны і Беларусі. Выданне падтрымлівалі Сінод, МУС, Міністэрства народнай асветы, Пецярбургская духоўная акадэмія. Але ў Кіеве часопіс быў непапулярным, і ў хуткім часе яго закрылі.

Па просьбе Мураўёва і папячыцеля Віленскай навучальнай акругі І.П.Карнілава выданне з 1864 г. перанеслі ў Вільню пад назвай «*Вестник Западной России*». Па тэматыцы публікацыяў часопіс быў гісторыка-літаратурным, але, з другога боку, ён з'яўляўся выразнікам афіцыйных поглядаў на палітыку, навуку, публіцыстыку. Аўтары змешчаных у ім артыкулаў аддавалі пашану праваслаўю, якое вызваліла Беларусь ад прыгнёту паланізму і лацінізму. Часопіс выходзіў пад дэвізам – «Калі Польшча не загінула, хай загіне – мы так хочам!». Уся гісторыя Беларусі падавалася аўтарамі «польскай інтрыгай» і «каталіцкім прымусам».

Тэндэнцыйнасць выдання прадвызначыла яго непапулярнасць і ў Вільні. Сітуацыю не выправіла нават абавязковая падпіска для духавенства і чыноўнікаў. У 1871 г. часопіс закрылі.

Каб пераарыентаваць гістарычную свядомасць насельніцтва Беларусі і Літвы, па прыкладу Пецярбурга і Кіева ў Вільні з 29 красавіка 1864 г. пачала дзейнічаць **Віленская археаграфічная камісія**. Выбар Вільні быў заканамерным. Там размяшчаліся багатыя архіўныя зборы (Архіў Галоўнага Трыбунала, Архіў Скарбавага трыбунала, справы Трокскага архіва, архівы Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губерняў, архіў Сапег), кніжныя сховішчы, друкарні. Вільня з'ўлялася цэнтрам генерал-губернатарства, таму вельмі зручна было кантраляваць і накіроўваць працу камісіі.

Перад членамі Археаграфічнай камісіі былі пастаўлены наступныя задачы: «а) доказать фактически, что Западный край никогда не был счастлив под польским правительством; б) что цивилизация Польши, а с нею и Западного края далеко отставала от той степени совершенства, на которую ставили ее поляки; в) что только под русским правительством Западный край забыл свои страдания, исцелил прежние раны и начал свое историко-политическое существование». У цэлым камісія павінна была гісторыка-дакументальна даказаць, што Беларусь мае праваслаўную і рускую прыроду.

Адразу ад камісіі запатрабавалі працу ў вялікім аб'ёме, хаця ўмовы для гэтага створаны не былі. Само сховішча размяшчалася ў двух паўпадвальных памяшканнях Віленскага універсітэта. З чатырох сябраў камісіі, уключаючы старшыню, працаваць з першакрыніцамі мог толькі адзін – архіварыўс (загадчык) архіва, кандыдат філасофска-тэалагічных навук **Мікіта Іванавіч Гарбачэўскі** (1804 – 1879 гг.). Ён зрабіў найвелізарнейшую чарнавую працу, склаўшы «*Каталог старажытным актавым кнігам губерняў: Віленскай, Гродзенскай, Мінскай і Ковенскай...»* (1872 г.), выдаў «*Слоўнік старажытнай актавай мовы»* (1874 г.). Плённа працаваў выпускнік Рыжскай духоўнай семінарыі **Іван Якаўлевіч Спрогіс** (1833 – 1918 гг.). За некаторыя гады ён прачытываў ад 20 да 60 тыс. рукапісных лістоў, напісаў прадмовы да 11 тамоў. Даследчык таксама склаў геаграфічныя паказальнікі па дакументах архіва.

Вынік працы Віленскай археаграфічнай камісіі ўражвае. За 1865 – 1915 гг. было выдадзена 39 тамоў «*Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі».* Разам з Віленскай навучальнай акругай супрацоўнікі камісіі выпусцілі 14 тамоў «*Археаграфічнага зборніка дакументаў па гісторыі Паўночна-Заходняй Русі»* (1867 – 1904 гг.). Агульны аб'ём выдадзеных крыніцаў склаў каля 29 тыс. старонак. Камісія апублікавала матэрыялы копных і земскіх судоў, дакументы гродскіх судоў і магістратаў, інвентары староstваў і маёнткаў, магістрацкія акты, матэрыялы пра руска-польскую вайну 1654 – 1667 гг., вайну 1812 г., царкоўную унію. Нягледзячы на тэндэнцыйнасць у працы камісіі, яе выданні з'яўляюцца каштоўнай крыніцай вывучэння гісторыі, эканомікі, культуры Беларусі, гісторыі беларускай мовы.

У другой палове XIX – пачатку XX стст. гісторыя выкладалася ва ўсіх ніжэйшых і сярэдніх навучальных установах Беларусі. У курс уваходзілі сусветная і руская гісторыя з элементамі мясцовай гісторыі Паўночна-Заходняга краю. Расійская адміністрацыя, у тым

ліку і кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі, імкнулася пашырыць рускі ўплыў у заходніх губернях.

З 1877 г. руская і сусветная гісторыя выкладаліся ў рамках адзінага курса, у якім матэрыял па рускай гісторыі ўключаўся паміж адпаведнымі раздзеламі сусветнай гісторыі. З 1913 г. руская гісторыя была вылучана ў самастойны курс. На падставе тыпавых міністэрскіх праграмаў настаўнік складаў рабочую праграму і прадстаўляў яе на разгляд педагагічнага савета.

Праграмы сведчаць аб наяўнасці ў курсе гісторыі некаторых сюжэтаў з мясцовай гісторыі, напрыклад, «Літоўскія плямёны, іх побыт, норавы і рамёствы, першыя літоўскія князі (Міндоўг, Гедымін, Альгерд, Кейстут)». У рамках курсу гісторыі даваліся характарыстыкі Ягайле, Вітаўту, Крэўскай уніі. У рамках пытання «Маскоўская і Літоўская Русь» разглядаліся ўзаемаадносіны ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы. У падраздзеле «Заходняя Русь у XVI – XVIII стст.» даваліся звесткі пра Люблінскую унію, пранікненне езуітаў, Берасцейскую царкоўную унію, прычым акцэнт рабіўся на рэлігійныя пераследы праваслаўных у Рэчы Паспалітай, дзейнасць праваслаўных брацтваў. Перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай у праграме быў адлюстраваны ў наступнай фармулёўцы: «Умяшальніцтва Кацярыны II у польскія справы. Польская выбарчая сістэма. Пытанне аб дысідэнтах. Барская канфедэрацыя. Паўстанне на Украіне. І-ы падзел Польшчы і становішча пасля яго. Канстытуцыя 3 мая і Таргавіцкая канфедэрацыя. ІІ-і падзел Польшчы. Паўстанне ў Польшчы і ІІІ-ці падзел». Курс гісторыі закранаў і падзеі XIX ст. Навучэнцы вывучалі такія пытанні, як «Змова дзекабрыстаў», «Паўстанне ў Польшчы 1830 г.», «Мяцеж у Польшчы 1863 г.».

Працэс выкладання гісторыі быў забяспечаны падручнікамі і вучэбна-метадычнымі дапаможнікамі, у тым ліку і створанымі выкладчыкамі навучальных установаў Беларусі. Сярод іх – **А.Турцэвіч**, **П.Аляксандраў**, **В.Ярмаловіч** і інш. У навучальных установах Беларусі набыла распаўсюджанне *«Кніга для чытання па рускай гісторыі»* (пад рэдакцыяй М.В.Доўнар-Запольскага), якая выйшла ў Маскве ў 1904 г. На думку складальнікаў, гэтае выданне павінна было стаць карысным для выкладчыкаў, навучэнцаў, для ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй. Кожны артыкул уяўляў сабой самастойны нарыс і быў напісаны спецыяльна для дапаможніка. Аўтары не пазбягалі дыскутыўных пытанняў, аднак імкнуліся зрабіць дапаможнік даступным для чытача як па змесце, так і па аб'ёме асобных артыкулаў. Дапаможнік мог быць выкарыстаны для класнага і хатняга чытання.

Аналіз праграмаў, падручнікаў, навучальных дапаможнікаў сведчыць, што яны змяшчалі даволі значны пласт падзеяў гісторыі Беларусі, прычым аб'ём фактычнага матэрыялу перавышаў той, што выкарыстоўваўся пры выкладанні беларускай гісторыі ў сярэдніх школах у савецкі час. Аднак трэба мець на ўвазе, што вывучэнне гісторыі Беларусі ў дарэвалюцыйных навучальных установах было накіравана на дасягненне ідэалагічнай мэты – абгрунтаваць гістарычную прыналежнасць Паўночна-Заходняга краю да Расіі, выхаваць у навучэнцаў вялікадзяржаўныя патрыятычныя пачуцці.

**2. «Заходнерусізм» і яго прадстаўнікі ў расійскай гістарыяграфіі.** Заходнерусізм – гэта канцэпцыя, якая адмаўляла гістарычнасць беларусаў як самастойнай і самабытнай этнічнай адзінкі, атаясамлівала іх з вялікарускім этнасам. У заходнерусізме вылучаліся дзве плыні: кансерватыўная (К.А.Гаворскі) і ліберальная (М.В.Каяловіч). Прадстаўнікі першага кірунку лічылі, што этнічныя асаблівасці беларусаў з'яўляюцца вынікам уплыву польска-каталіцкай экспансіі, таму заходняму краю неабходна вярнуць рускі характар. Прадстаўнікі ліберальнай плыні прызнавалі пэўную гісторыка-этнічную адметнасць Беларусі, але выключалі магчымасць яе нацыянальна-культурнага самавызначэння.

А.У.Літвінскі вызначыў два перыяды ў развіцці заходнерусізму. Першы перыяд (60 – 80-я гг. XIX ст.) падзяляецца на тры этапы: 60-я гг. – час актывізацыі публіцыстаў і гісторыкаў заходнерускай плыні з мэтай выкрыцця «польскай інтрыгі»; 70-я гг. – аслабленне заходнерускай тэндэнцыі ў сувязі з «патапаўшчынай» (курс віленскага генерал-губернатара А.Л.Патапава, накіраваны на замірэнне царызма з польскім дваранствам), смерцю Гаворскага і пераходам Каяловіча да грунтоўнай навуковай дзейнасці; 80-я гг. – пашырэнне цікавасці да заходнерусізму з боку ўрада (Аляксандра II, Сінода і інш.).

Другі перыяд ахоплівае 90-я гг. XIX ст. – да 1917 г. Ён падзяляецца на два этапы: першы (90-я гг. XIX ст. – 1905 г.) – аслабленне заходнерускай тэндэнцыі ў гістарыяграфіі з прычыны афармлення ліберальнай плыні ў развіцці гістарычнай думкі і смерці Каяловіча; другі (1905 – 1917 гг.) – барацьба з польскім і беларускім нацыянальным рухам, калі заходнерусізм не атрымаў навуковага акадэмічнага кірунку, а меў публіцыстычны характар.

Канцэпцыя заходнерусізму была выклікана актывізацыяй польскага нацыянальна-вызваленчага руху ў першай палове XIX ст. Менавіта тады ўзнікла патрэба стварыць супрацьвагу для шляхец-

кай ідэалогіі, якая ставіла на мэце аднавіць Рэч Паспалітую ў межах 1772 г. Паўстанне 1863 г. стала тым штуршком, які вымусіў урад зрабіць заходнерусізм галоўным ідэалагічным кірункам афіцыйнай палітыкі ў заходніх губернях краіны.

Ідэйна заходнерусізм узыходзіць да славянафільства – філасофскай дактрыны, якая сфармавалася ў адказ на нямецкую класічную філасофію і часткова нямецкую гістарычную думку з місіяй абароны славянскага свету. Прадстаўнікі расійскага славянафільства зыходзілі з трох асноўных пастулатаў: 1) праваслаўны Усход супрацьстаіць каталіцкаму Захаду; 2) праваслаўе мае духоўную перавагу над каталіцызмам; 3) Расія – лідэр славянству і перашкода на шляху сацыялізму і рэвалюцыяў, якія маюць заходняе паходжанне. Заходнерусісты поўнасцю падзялялі гэтыя погляды. М.В.Каяловіч пісаў: «...Я находил такой русский субъективизм, который и больше всех других обнимает фактическую часть русской истории, и лучше других освещает действительные и существенные его стороны. Такой русский субъективизм я находил и нахожу в сочинениях... славянофилов. Он лучше других и в народном и в научном смысле...».

Афармленне заходнерусізма як гістарыяграфічнага кірунку было немагчымым без дзейнасці мясцовых даследчыкаў, г.зн. гісторыкаў Беларусі і Літвы, якія гуртаваліся вакол Віленскага універсітэта, а пазней вакол віленскіх перыядычных выданняў. Яны заклалі крыніцазнаўчую аснову ў вывучэнні мінулага рэгіёна, паставілі пытанне аб рухальных сілах мясцовай гісторыі, стварылі атмасферу навуковага пошуку. Арганізацыйнае афармленне гэтага кірунка адбылося ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі, а гістарыяграфічнае афармленне заходнерусізму звязана з працамі Міхаіла Каяловіча. Ён пашырыў і ў значнай ступені ўдакладніў гістарычныя погляды М.Г.Устралава. Яго канцэпцыя была панрасійскай, славянафільскай і антыпольскай.

**Міхаіл Восіпавіч Каяловіч** (1828 – 1891 гг.) нарадзіўся ў м.Кузніца Сакольскага павета Гродзенскай губерні ў сям'і уніяцкага святара. Скончыў Супрасльскае духоўнае вучылішча, Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, Пецярбургскую духоўную акадэмію. Выкладаў у Рыжскай і Пецярбургскай семінарыях. Меў выдатныя здольнасці да навукі і ў 31 год стаў прафесарам Духоўнай акадэміі (1862 г.). З 1869 г. загадчык кафедры рускай гісторыі. Ганаровы член Пецярбургскага славянскага дабрачыннага таварыства, Гродзенскага царкоўна-археалагічнага камітэта, Археаграфічнай камісіі.

Свае метадалагічныя погляды Каяловіч раскрыў у кнізе «*История русского самосознания»* (1884 г.), якая стала буйной гістарыяграфічнай падзеяй – першай абагульнай гістарыяграфічнай працай у Расіі. Даследчык прааналізаваў шырокае кола пытанняў па гісторыі гістарычнай навукі ад рускага летапісання па сучасныя яму працы.

Гісторык лічыў, што гістарычнае даследаванне не можа быць аб’ектыўным, таму вучоны павінен адмовіцца ад пошуку абсалютнай ісціны праз выбар прымальнай для яго пазіцыі. Сам М.В.Каяловіч выбраў для сябе т.зв. «рускі» суб’ектывізм славянафільскага характару. Аднак даследчык выступаў супраць адвольнага выкарыстання гістарычных крыніцаў, указваў на неабходнасць ацэнкі іх аб’ектыўных звестак. Ён размяжоўваў навуковы і літаратурны падыходы да гісторыі, не прызнаваў гістарычнай белетрыстыкі. Каяловіч адмоўна ацаніў крыніцазнаўчую дзейнасць Даніловіча і Нарбута, таму што яны друкавалі летапісы лацінскім шрыфтам, а не аўтэнтычнай кірыліцай.

Сам гісторык абапіраўся на традыцыі расійскай дваранскай гістарыяграфіі, спасылаўся на працы М.М.Бантыш-Каменскага, М.М.Карамзіна, М.Г.Устралава, М.В.Без-Карніловіча і інш. Але адзначым, што да Каяловіча гісторыя ВКЛ і Рэчы Паспалітай не з’яўлялася прадметам асобнага даследавання для расійскіх гісторыкаў.

Асноўныя працы прысвечаны гісторыі Беларусі, Польшчы і Расіі. У магістарскай дысертацыі «*Литовская церковная уния»* (апублікавана ў 1859 – 1861 гг.) і доктарскай дысертацыі «*История воссоединения западнорусских униатов старых времен (до 1800 г.)»* (апублікавана ў 1873 г.) М.В.Каяловіч звярнуўся да вывучэння праблемы Берасцейскай царкоўнай уніі. Аўтар адным з першых звярнуў увагу на працэс лацінізацыі уніі праз дзейнасць базыльянскага ордэна, рашэнні Замойскага сабора, паставіў пытанне аб крызісе уніяцкай царквы.

З сінтэтычных абагульняльных працаў, якія атрымалі грамадскае гучанне, можна назваць «*Лекции по русской истории»* (1862 – 1864 гг.), якія мелі чатыры выданні, і «*Чтения по истории Западной России»* (1884 г.). У іх Каяловіч прапанаваў уласную гістарычную канцэпцыю гісторыі Заходняй Расіі. Ён зыходзіў з вяршэнства праваслаўя ў гістарычным мінулым Беларусі, адзінства інтарэсаў мясцовага насельніцтва з рускай арыстакратыяй. Гісторыю Беларусі аўтар зводзіў да нацыянальна-канфесійнага пытання, а сацыяльна-эканамічныя праблемы не закранаў.

Гістарыяграфічны падыход Каяловіча грунтаваўся на пазіцыі, што Заходняя Расія – гэта «западная Русь», якая ахоплівала «Белоруссию, западную Малороссию, или т.н. Украину, и Литву в собственном смысле слова». Дзяржаўнасць спачатку сфармавалася ў межах рускага арэалу «заходняй Русі», а потым пад ціскам перасяленцкіх працэсаў была ўспрынята суседнімі літоўцамі. Да гэтага аб'яднальнага працэсу пад пагрозай крыжакоў з часам далучыліся жэмайты, якія ўжо ў XIII ст. мелі свае дзяржаўныя формы.

Фактарам гістарычнага развіцця ён лічыў барацьбу «дзвюх сілаў»: рускай і польскай. Гісторыя Заходняй Русі да канца XVIII ст., сцвярджаў Каяловіч, была прасякнута барацьбой польска-каталіцкай і рускай праваслаўнай цывілізацыяў. Задача даследчыка заключаецца ў вывучэнні крыніцаў і прычынаў «польскага трыумфу». Польскі ўплыў сапсаваў заходнерускае грамадства, садзейнічаў яго расколу. Каяловіч адзначаў, што «польская, езуіцкая» цывілізацыя – «вельмі дурная цывілізацыя», якая не прынесла народам Заходняй Расіі нічога карыснага (нават прыгоннае права прыйшло адтуль), бо палякі былі прасякнуты «духам лацінства», абсалютна не прымальнага славянамі. Збліжэнне з Польшчай, Люблінская і Берасцейская уніі дэфармавалі духоўнае жыццё у ВКЛ, апалячылі, акаталічылі значную частку заходнерускай шляхты, але асноўныя пласты народа нязменна цягнуліся да Расіі, бо адчувалі з ёю сваё племяннное, культурнае, моўнае і рэлігійнае адзінства. Асноўнай апорай Русі з часоў фармавання маскоўскага самадзяржаўя з яго земскімі саборамі, народным прызнаннем і праваслаўем аўтар лічыў цэнтральныя землі Расіі, якія захоўвалі сваю аб'яднаўчую, матэрыяльную, духоўна-цывілізацыйную і абарончую ролю і ў сярэдзіне XIX ст. Гісторык адзначаў безальтэрнатыўнасць і прадвызначанасць гістарычнага лёсу Рэчы Паспалітай, падзелы гэтай краіны садзейнічалі ўз'яднанню заходнерускіх земляў з Расіяй, іх духоўнаму адраджэнню.

Свае меркаванні Каяловіч падмацоўваў прыкладамі і характарыстыкай шырокага кола гістарычных крыніцаў. У яго публікацыях выкарыстоўваліся і некаторыя іншыя аргументы: прэтэнзіі Польшчы на землі Беларусі і Украіны ў межах 1772 г. не мелі пад сабой падставаў; само разуменне народа сярод прыхільнікаў тэорыі афіцыйнай народнасці (з галоўнай апорай на сялянства) прыкметна адрознівалася ад поглядаў апазіцыйнай польскай гістарыяграфіі з яе акцэнтацыяй на палітычную роль шляхты.

У гісторыі Заходняй Расіі Каяловіч вылучаў пяць этапаў на падставе знешнепалітычнага становішча края: 1) падзел рускага

народа на дзве часткі і спробы Заходняй Расіі ўтварыць свой цэнтр; 2) злучэнне Заходняй Расіі з Літвой; 3) злучэнне Літоўска-Заходнерускага княства з Польшчай праз знешні саюз; 4) зліццё Заходняй Расіі з Польшчай і распад Руска-Польскай дзяржавы; 5) анамальнае развіццё руска-польскага пытання (у складзе Расійскай імперыі).

Даследчык займаўся і гісторыка-этнаграфічным вывучэннем Беларусі, аб чым сведчаць працы «*О расселении племен Западного края России», «Об этнографическом атласе западных губерний», «Об этнографической границе между Западной Россией и Польшей»* і інш. Каяловіч лічыў, што беларуская народнасць склалася ў X – XI стст. з плямён крывічоў і дрыгавічоў і раднілася па веры, мове і традыцыях з рускімі і ўкраінцамі. Пэўную розніцу паміж заходнімі і ўсходнімі беларусамі гісторык выводзіў ад міжэтнічных кантактаў з літоўцамі і палякамі ў XIV – XVIII стст., а таксама палітыкі паланізацыі і акаталічвання ў Рэчы Паспалітай.

Вядомы ўклад М.В.Каяловіча ў выданне крыніцаў па гісторыі Беларусі. Па даручэнні археаграфічнай камісіі ў 1865 г. ён апублікаваў «*Документы, объясняющие историю Западной России и ее отношение к Восточной России и Польше»,* у 1867 г. – «*Летопись осады Пскова Стефаном Баторием», «Дневник последнего похода Стефана Батория»,* у 1869 г. – «*Дневник Люблинского сейма 1569 г.».*

Канцэпцыя Каяловіча ўпісалася ў афіцыйную расійскую гістарыяграфію і публіцыстыку. На спрошчаным узроўні яна была размножана ў шматлікіх вучэбных, асветніцкіх і палемічных публікацыях. Кантрасная, выключна адмоўная ацэнка яго поглядаў была дадзена з боку дэмакратычнай ліберальнай грамадскасці другой паловы XIX ст. і панегірычная – з боку афіцыйных і царкоўных колаў. У найноўшай гістарыяграфіі погляды Каяловіча былі раскрытыкаваны У.І.Пічэтам («прекрасный показатель того, как не нужно изучать исторические явления»), а таксама адным з заснавальнікаў савецкай канцэпцыі ўтварэння ВКЛ У.Ц.Пашутам, М.М.Улашчыкам, Д.У.Каравым і інш.

У Пецярбургскай духоўнай акадэміі М.В.Каяловіч стварыў заходнерускую гістарычную школу, заснаваную на ідэях вялікадзяржаўнасці і манархізму. Але яе прадстаўнікі ўлічвалі ўплыў ліберальнай гістарыяграфіі, таму большую ўвагу сталі надаваць сацыяльнаму кантэксту ў гісторыі канфесійных адносінаў.

Адным з вядомых прадстаўнікоў заходнерускай гістарычнай плыні і вучняў Каяловіча з'яўляўся Платон Жуковіч.

**Платон Мікалаевіч Жуковіч** (1857 – 1919 гг.) нарадзіўся ў м.Пружаны ў сям'і праваслаўнага святара. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію. Выкладаў у Полацкім духоўным вучылішчы, навучальных установах Вільні, а з 1891 г. у Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Прафесар (1894 г.), доктар царкоўнай гісторыі (1901 г.). Пасля закрыцця Акадэміі працаваў у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М.Я.Салтыкова-Шчадрына.

Жуковіч стаў вядомы пасля выхаду ў 1892 г. працы «*Кардинал Гозий и польская церковь его времени*». Даследчык пасля М.В.Каяловіча працягваў вывучэнне гісторыі рэлігійных адносінаў у Рэчы Паспалітай. Цэнтральнае месца па-ранейшаму займала царкоўная унія, аб чым гавораць наступныя працы: «*Борьба против унии на современных ей польско-литовских сеймах (1595 – 1660 гг.)*» (1897 г.), «*Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией*» (1901 – 1912 гг.).

Жуковіч, як і Каяловіч, лічыў Берасцейскую царкоўную унію большым злом для насельніцтва Заходняй Расіі, чым Люблінскую. Прычыну царкоўнай уніі ён бачыў у імкненні праваслаўных іерархаў устанавіць кантроль над праваслаўнымі брацтвамі, у імкненні папскай курыі пашырыць свой уплыў на Усходзе за кошт Маскоўскай дзяржавы і інш. Даследчык указаў на адсутнасць падтрымкі уніі з боку насельніцтва і яе накіраванасці ў бок каталіцкай царквы. Праўда, у адрозненне ад Каяловіча, Жуковіч займаў больш стрыманую пазіцыю ў ацэнцы сквапнасці праваслаўных іерархаў ВКЛ, паказаў альтэрнатывы развіцця канфесійнага пытання ў Рэчы Паспалітай. Новым падыходам можна назваць раскрыццё ўнутрыпалітычных падзеяў у Рэчы Паспалітай на шырокім міжнародным фоне.

Жуковіч з'яўляецца адзіным прадстаўніком заходнерускай гістарыяграфіі, які звярнуўся да пытанняў сацыяльна-эканамічнай гісторыі, найперш аграрнай гісторыі Беларусі канца XVIII – сярэдзіны XIX ст. У 1895 г. ён выдаў працу «*О русском землевладении в Северо-Западном крае от времени присоединения его к России*». З аднаго боку, аўтар зыходзіў з канонаў заходнерусізму і ўсхваляў працэс уз'яднання «Заходняга краю» з Расіяй. З другога боку, ён заўважыў, што на тэрыторыі Беларусі дазвалялася прадаваць сялян без зямлі, што раздача дзяржаўных маёнткаў рускім памешчыкам праводзілася не на падставе ідэалагічных матываў, што ў гісторыі Заходняй Расіі былі дзве важныя падзеі: 1839 г. (рэформа П.Д.Кісялёва) і 1861 г. (адмена прыгоннага права). Аўтар пісаў аб заслугах віленскага генерал-губернатара М.М.Мураўёва перад мясцовымі сялянамі – у арганізацыі рускіх пасяленняў.

Напрыканцы жыцця Жуковіч звярнуўся да аналізу саслоўнага складу насельніцтва Заходняй Расіі ў перыяд Кацярыны ІІ. Раскрываючы стан рэгіёна пры Паўле І, даследчык вызначыў у якасці галоўнага не уніяцкае, а аграрнае пытанне. Гэта сведчыла аб пэўнай эвалюцыі поглядаў аўтара ў ліберальным кірунку.

Да старэйшых выкладчыкаў школы Каяловіча адносіцца Канстанцін Харламповіч.

**Канстанцін Васілевіч Харламповіч** (1870 – 1932 гг.) нарадзіўся ў в.Рагачы Брэсцкага павета ў сям'і праваслаўнага святара. Скончыў Віленскае духоўнае вучылішча, Літоўскую духоўную семінарыю, Пецярбургскую духоўную акадэмію. З 1909 г. прафесар Казанскага універсітэта. Член-карэспандэнт Петраградскай АН (1916 г.), акадэмік АН Украіны (1919 г.).

Навуковыя працы Харламповіча прысвечаны культуралагічнай праблематыцы ў кантэксце гісторыі праваслаўнай царквы: «*К истории западнорусского просвещения. Виленская братская школа в первые полвека своего существования*» (1897 г.), «*Острожская православная школа*» (1897 г.), «*Западнорусские церковные братства и их просветительская деятельность в конце XVI и начале XVII в.*» (1899 г.). Галоўнай працай яго жыцця стала кніга «*Западнорусские православные школы XVI и начале XVII в. ...*» (1899 г.), за якую ён атрымаў Увараўскую і Карпаўскую прэміі. Аўтар упершыню разглядзеў рэлігійныя адносіны ў ВКЛ з пазіцыяў ліберальнай гістарыяграфіі, увёў у навуковы зварот значны і каштоўны фактычны матэрыял. Харламповіч вельмі падрабязна, а гэта асаблівасць ягонага стылю, параўноўваў каталіцкую, праваслаўную і пратэстанцкую сістэмы навучання, раскрыў уплыў польскай культуры на заходнерускае насельніцтва.

Яскравым прадстаўніком заходнерускай гістарыяграфіі з'яўляецца рускі гісторык- славянафіл, археограф Іван Бяляеў.

**Іван Дзмітрыевіч Бяляеў** (1810 – 1873 гг.) скончыў Маскоўскі універсітэт. Працаваў у Маскоўскай канторы Сінода, затым – у архівах. З 1858 г. прафесар Маскоўскага універсітэта. Сакратар Маскоўскага і член Адескага таварыстваў гісторыі і старажытнасцяў расійскіх, Археаграфічнай камісіі. Адным з першых у расійскай гістарыяграфіі пачаў вывучаць гісторыю сялянства.

Бяляеў даследаваў гісторыю Беларусі да сярэдзіны XVI ст. У працы «*Очерк истории Северо-Западного края России*» (1867 г.) ён прасачыў гістарычнае развіццё Беларусі са старажытнасці да Крэўскай уніі 1385 г. Як і Каяловіч, разглядаў мінулае праз прызму барацьбы праваслаўнага насельніцтва супраць «націску лацінства

і Нямеччыны». Аўтар падкрэсліваў, што яго кніга павінна «способствовать развитию у учащихся верных понятий в исконном господстве православия и русской народности...».

У «*Истории Полотска или Северо-Западной Руси от древнейших времен до Люблинской унии»,* якая была надрукавана ў 1872 г., Бяляеў прааналізаваў сацыяльны і нацыянальны склад насельніцтва, гісторыю царквы, адміністрацыі Кіеўскай Русі і ВКЛ. Па сутнасці, аўтар паспрабаваў стварыць этнічную мадэль Полацкай зямлі. Вучоны лічыў, што тэрыторыя паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной, Дняпром і Нёманам, Літва, землі суседніх прыбалтыйскіх плямён былі аб’яднаны ў працэсе славянскай каланізацыі ў адну Полацкую дзяржаву. Увесь разгляд гісторыі Полаччыны ў яго пабудаваны на прынцыпе аналогіі сацыяльнага жыцця Полацка і Ноўгарада (вечавыя сходы гараджан, арганізацыя купецтва і інш.) як вынік славянскай каланізацыі Полацка з Ноўгарада. Даследчык выказаў ідэю бесканфліктнай садружнасці ўлады і народа, першы з рускіх гісторыкаў зрабіў этнаграфічнае апісанне беларусаў, якіх лічыў крывічамі.

Найбольш выразна заходнеруская гістарыяграфічная пазіцыя прасочваецца ў працах рускага гісторыка Паўла Бранцава.

> **Павел Дзмітрыевіч Бранцаў** (1845 – ?) працаваў выкладчыкам мужчынскай гімназіі ў Сімферопалі, затым выкладаў гісторыю і геаграфію ў Віленскім рэальным вучылішчы, да 1906 г. дырэктар народных вучылішчаў Курляндскай губерні. У 90-я гг. XIX ст. супрацоўнічаў у «Виленском календаре» і «Виленском вестнике».

Кнігі Бранцава (*«История Литовского государства с древнейших времен»* (1889 г.), «*Польский мятеж 1863 г.»* (1891 г.), «*Очерк древней Литвы и Западной России»* (1896 г.) і інш.) паказывалі добратворны ўплыў на лёс «Заходняга краю» усяго праваслаўнага і рускага і адмоўны ўплыў усяго каталіцкага і польскага: «...после Люблинской унии было реализовано усиленное стремление поляков к окончательному уничтожению... самостоятельности Литовского государства». На яго думку, заслугай беларускіх князёў з’яўлялася іх барацьба за абарону праваслаўя. Рускія цары вызвалілі беларусаў ад літоўскай і польскай асіміляцыі. Аўтар станоўча ацэньваў дзейнасць віленскага генерал-губернатара М.М.Мураўёва, накіраваную на ліквідацыю паўстання 1863 г.

Адным з першых выкарыстаў тэрмін «Заходняя Русь» прадстаўнік позняга заходнерусізму **І.П.Філевіч**, які ў 1896 г. апублікаваў «*Историю древней Руси».* У сваім даследаванні аўтар паказаў

негатыўны ўплыў Ягайлы на лёс Беларусі, раскрыў складванне мясцовай спецыфікі пад уплывам каталіцызму і нямецкага права, што прывяло да гістарычнай несамастойнасці Заходняй Русі ў параўнанні з Масквой, патрабаваў уніфікаваць «рускае» жыццё рэгіёна па маскоўскім узоры.

Прапагандысцка-публіцыстычны кірунак у заходнерускай гістарыяграфіі прадстаўляў Іван Карнілаў.

**Іван Пятровіч Карнілаў** (1811 – 1901 гг.) у 1864 – 1868 гг. займаў пасаду папячыцеля Віленскай навучальнай акругі. Заснаваў у Вільні Паўночна-Заходняе аддзяленне Рускага геаграфічнага таварыства. Кіраваў дзейнасцю Віленскай археаграфічнай камісіі. Цесна супрацоўнічаў з М.М.Мураўёвым у справе русіфікацыі Беларусі і Літвы.

У 1901 г. Карнілаў выдаў «*Русское дело в Северо-Западном крае: Материалы для истории Виленского учебного округа преимущественно в муравьевскую эпоху»*. Аўтар у прадмове раскрыў свой погляд на гісторыю Беларусі і Літвы, найперш у XIX ст. Ён лічыў, што «Западный край, это наша древнейшая коренная страна, оплот православия и русской народности...». Аўтар ухваляў дзейнасць віленскага генерал-губернатара Мураўёва па знішчэнні польскага ўплыву ў гэтым рэгіёне, крытыкаваў пазіцыю А.Патапава, называў рускіх лібералаў ворагамі Заходняй Расіі.

Працы Карнілава, нягледзячы на іх нізкі навуковы ўзровень і суб’ектывізм, цікавы тым, што абвяргаюць тэзіс аб выключнай аўтаномнасці заходнерусізму як грамадска-палітычнай і навуковагістарычнай думкі. Яны сведчаць аб зацікаўленасці ўрадавых колаў у яго развіцці.

Прыхільнікі заходнерусізму з русафільскіх і палонафобскіх пазіцыяў вялі барацьбу з беларускім нацыянальна-культурным рухам, лічылі яго «польскай інтрыгай», а дзеячоў называлі «белаляхамі». З другога боку, заходнерусісты супрацьстаялі польскаму ўплыву на Беларусі, які стаў узмацняцца пасля рэвалюцыі 1905 – 1907 гг.

**3. Ліберальны кірунак у расійскай, украінскай і беларускай гістарыяграфіі.** Пад уплывам пазітывізму ў другой палове XIX ст. у расійскай гістарыяграфіі сфармавалася дзяржаўная або дзяржаўна-прававая школа, ля вытокаў якой знаходзіліся К.Д.Кавелін, Б.М.Чычэрын, С.М.Салаўёў. Гісторыкі праяўлялі зацікаўленасць да філасофіі гісторыі Гегеля, яго дыялектычнага метаду, сфармулявалі канцэпцыю гістарычнага развіцця расійскай дзяржаўнасці,

яе інстытутаў і прававых нормаў. Дзяржава разглядалася імі як суб’-ект і рухавік гістарычнага прагрэсу.

Да другога пакалення прадстаўнікоў дзяржаўна-прававой школы адносяцца Міхаіл Уладзімірскі-Буданаў, Федар Леантовіч.

**Міхаіл Флягонтавіч Уладзімірскі-Буданаў** (1838 – 1916 гг.) скончыў Тульскую духоўную семінарыю, Кіеўскі універсітэт. У 1869 – 1874 гг. выкладаў гісторыю рускага права ў Дзямідаўскім ліцэі Яраслаўля, з 1875 г. прафесар Кіеўскага універсітэта. Займаў пасаду галоўнага рэдактара кіеўскай Часовай камісіі для разбору старажытных актаў, старшыні гістарычнага таварыства Нестара-летапісца. Вывучаў гісторыю права Расіі, Украіны, Беларусі, Літвы і Польшчы.

У сваіх працах (*«Немецкое право в Польше и Литве»* (1868 г.), «*Население Юго-Западной России от пол. XIII до пол. XVIII в.»* (1886 г.)) Уладзімірскі-Буданаў аснову гістарычнага развіцця Вялікага княства Літоўскага бачыў у развіцці заканадаўчых нормаў краіны. Праўда, крыніцы і інстытуты права ён лічыў рускімі. Пагаршэнне становішча сялян тлумачыў тым, што нормы звычаёвага права былі выцеснены дзяржаўным правам, напрыклад «Уставай на валокі» Жыгімонта ІІ Аўгуста.

Уладзімірскі-Буданаў распрацаваў тэорыю «абшчыннага права» як «поўнага, вечнага і спадчыннага ўладання землямі нараўне з зямянамі і баярамі ў XVI ст.», якая пазней была абвергнута М.К.Любаўскім.

Зыходзячы з пазіцыяў прававога ідэалізму, даследчык лічыў, што магдэбургскае права, прынесенае ў ВКЛ з Польшчы разам з феадалізмам, стала прычынай заняпаду не толькі гарадоў Рэчы Паспалітай, але і краіны ў цэлым. Адзначым панславянскую пазіцыю Уладзімірскага-Буданава, які выступаў з ідэяй аб'яднання славянскіх народаў пад эгідай Расіі.

**Фёдар Іванавіч Леантовіч** (1833 – 1910 гг.) скончыў Кіеўскі універсітэт. Пасля працаваў там прыват-дацэнтам, а з 1865 г. у Новарасійскім універсітэце (г.Адеса): да 1884 гг. прафесар, рэктар, дэкан юрыдычнага факультэта, прарэктар. У 1892 – 1902 гг. чытаў курс рускага права ў Варшаўскім універсітэце. Даследаваў гісторыю дзяржаўных установаў і права Старажытнай Русі. Лаўрэат Увараўскай прэміі (1895 г.).

У манаграфіях «*Очерки истории литовско-русского права»* (1894 г.), «*Сословный тип территориально-административного состава Литовского государства и его причины»* (1895 г.) Леантовіч прааналізаваў працэс утварэння ВКЛ (аўтар сфармуляваў тэзіс

аб добраахвотным аб'яднанні Русі з Літвой дзеля вызвалення ад татара-мангольскага іга), ахарактарызаваў сацыяльны стан беларускіх земляў у складзе гэтай краіны, прававое становішча розных катэгорыяў сялянства ВКЛ, класіфікаваў сялянскія павіннасці. Даследчык развіваў тэорыю абшчыннага паходжання Рускай дзяржавы.

Аўтарам шырокага гістарычнага сінтэзу, складзенага на падставе лекцыйнага курсу ў Маскоўскім універсітэце, стаў выдатны прадстаўнік ліберальнай гістарыяграфіі рускі гісторык Мацей Любаўскі.

**Мацей Кузьміч Любаўскі** (1860 – 1934 гг.) скончыў Разанскую духоўную семінарыю і гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта. Вучань В.В.Ключэўскага. Абараніў у 1894 г. магістарскую дысертацыю «*Абласны падзел і мясцовае кіраванне Літоўска-Рускай дзяржавы да часу выдання першага Літоўскага статута»,* у 1901 г. – доктарскую дысертацыю «*Літоўска-рускі сейм».* З 1894 г. прыват-дацэнт, з 1901 г. прафесар, у 1911 – 1917 гг. рэктар Маскоўскага універсітэта, у 1913 – 1929 гг. старшыня Маскоўскага таварыства гісторыі і старажытнасцяў расійскіх. Пасля «Платонаўскай справы» у 1930 г. высланы ў Уфу, дзе працаваў навуковым супрацоўнікам Башкірскага навукова-даследчага інстытута нацыянальнай культуры.

На працягу трох дзесяцігоддзяў Любаўскі чытаў у Маскоўскім універсітэце спецкурс па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, вёў семінары па крыніцазнаўстве ВКЛ. Але рукапісы і матэрыялы даследчыка дайшлі да нас у нязначнай колькасці – у аб'ёме каля 200 старонак.

Найбольш значная абагульняльная праца па гісторыі ВКЛ – «*Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно»* (1910 г.). Выданне падобнай сінтэзнай працы аўтар растлумачыў адсутнасцю даступных абагульняльных дапаможнікаў, а ў навуковым сэнсе – вывучэннем парадаксальна розных шляхоў гістарычнага равіцця «Літоўскай і Паўночна-Усходняй Русі» і тым самым для лепшага разумення станаўлення і эвалюцыі апошняй. Любаўскі стаў пачынальнікам тыпалагічна-параўнальнага метаду ў вывучэнні гісторыі ВКЛ. У гістарыяграфіі традыцыйна залічваюць аўтара ў групу пазітывістаў-гісторыкаў дзяржаўна-прававой школы, што патрабуе значнай карэкціроўкі. Ён імкнуўся да шырокага асвятлення гісторыі ВКЛ, і толькі недахоп сур'ёзных культуралагічных і сацыяльна-эканамічных працаў перашкодзіў у ажыццяўленні ягоных планаў.

Манаграфія стала абагульненнем магістарскай і доктарскай дысертацыяў аўтара. На падставе папярэдняй гістарыяграфічнай

традыцыі Любаўскі раскрыў сацыяльна-палітычную эвалюцыю ВКЛ у XIII – XVI ст. Даследчык прыйшоў да новых высноў: 1) ВКЛ – легітымная дзяржава – спадкаемца Кіеўскай Русі; 2) ВКЛ – дэмакратычная альтэрнатыва Маскве; 3) феадальнае грамадства ВКЛ ідэнтычнае заходнееўрапейскаму.

Значная ўвага надавалася характарыстыцы дзяржаўнага ладу, зменам дзяржаўна-адміністрацыйнай сістэмы, развіццю сацыяльна-палітычных рухаў, цэнтральнаму і мясцоваму кіраванню, прывілегіям пануючага саслоўя, землеўладанню, становішчу сялянства і мяшчанства. Прычынамі своеасаблівай палітычнай эвалюцыі ВКЛ і збліжэння з Польшчай у XIV – XVI ст. аўтар лічыў слабую цэнтралізацыю дзяржаўнага ладу, што часткова тлумачыцца даволі працяглым захаваннем палітычнай спадчыны з часоў Кіеўскай Русі, супярэчнасцямі паміж Літвой і «літоўскай Руссю» з яе неагляднай тэрыторыяй, насельніцтвам, гаспадарчымі і ваенна-палітычнымі магчымасцямі, ўласныя інтарэсы магнатаў і шляхты, ціскам з боку Тэўтонскага ордэна, а з канца XV ст. Маскоўскай Русі і Польшчы. Люблінскую унію 1596 г. аўтар ацаніў як канец самастойнай гісторыі ВКЛ.

Навуковай падставай для Любаўскага служылі яго ўласныя папярэднія працы (*«Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута»* (1892 г.), «*Литовско-Русский сейм»* (1900 г.), «*К вопросу об удельных князьях и местном самоуправлении в Литовско-Русском государстве»* (1894 г.), «*О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода»* (1896 г.)), а таксама «Гісторыя Украіны-Русі» М.С.Грушэўскага, работы польскага гісторыка права С.Кутшэбы і інш. У дадатку да кнігі аўтар змясціў тэксты асноўных агульназемскіх і абласных прывілеяў.

Прычынай своеасаблівасці дзяржаўнага ладу ВКЛ, яго палітычнай слабасці аўтар лічыў старажытную карнявую аселасць мясцовага насельніцтва Літвы і Заходняй Русі, – ад сялян, што спакон вякоў жылі тут «племяннымі гнёздамі», да князёў, паноў і баяр, якія стагоддзямі захоўвалі свае ўладанні. Гэта «вячыстая» устойлівая землеўласнасць мясцовых баяр (у адрозненне ад маскоўскіх, што жылі гасударавым «жалаваннем») разам з такімі ж старадаўнімі «вячыстымі» гарадамі забяспечылі (нехарактэрную для Маскоўскай дзяржавы) устойлівасць мясцовых саюзаў землеўласнікаў, гараджан, сялян, палітычных аб'яднанняў. Над усім гэтым моцна арганізаваным грамадствам можна было б надстроіць уплывовую

цэнтральную ўладу, калі б вялікія князі праяўлялі «больш творчай волі і разума», а не абмяжоўваліся нязначнымі зменамі і рэформамі па прынцыпе «мы старыны не рушым, а навін не ўводзім».

Другой галоўнай прычынай аўтар лічыў уплыў Польшчы. Ужо першая унія дала землеўласнікам польскія правы і вольнасці, асабліва важнае права выбіраць вялікага князя, садзейнічала пашырэнню саслоўных і палітычных набыткаў землеўласнікаў (што яшчэ больш абмяжоўвала вярхоўную ўладу), развіццю феадалізму, які разлажыў дзяржаву і прывёў да росту абласнога і вотчыннага патрыятызму замест агульнадзяржаўнага.

Высновы Любаўскага заслугоўваюць увагі, але яны далёка не поўныя, да таго ж недакладныя. Перабольшана не толькі ступень аселасці насельніцтва (бо ўжо з XIII ст. на яе ўздзейнічала масавая міграцыя з поўдня пад уплывам мангола-татарскага нашэсця і татарскіх набегаў, войны, перасяленні сялян у гарады, каланізацыйныя працэсы), але і рэальныя магчымасці вярхоўнай улады. Пры тым раскладзе дэмаграфічных, матэрыяльных і іншых рэсурсаў у Літве і «літоўскай Русі» варыянт абсалютнай манархіі (аналагічнай маскоўскаму самаўладдзю) быў немагчымы. Спрэчнай з’яўляецца і трактоўка працэсу ўзнікнення буйной зямельнай уласнасці ў «літоўскай Русі», які быў звязаны не толькі са шматпакаленнай аселасцю баярства, але і з асаблівасцямі фармавання шляхецкага саслоў’я ў XV – XVI стст., інтарэсамі і палітыкай вярхоўнай улады і пануючага асяроддзя.

Аб высокім узроўні рускай гістарыяграфіі гісторыі ВКЛ у пачатку XX ст. сведчыць праца прафесара Пецярбургскага універсітэта **А.Е.Праснякова** «*Лекции по русской истории (читанные автором в 1908–1910 гг.)*» (1939 г.), які фактычна стаяў на глебе эканамічнага матэрыялізму. Сацыяльна-эканамічныя інтарэсы вярхоўнай улады, мясцовых князёў з іх вотчынамі, розных іншых пластоў насельніцтва знаходзяцца ў цэнтры яго абагульняльнай працы пры апісанні ўсіх унутраных і знешнепалітычных працэсаў і сацыяльна-палітычных рухаў. Храналагічна курс лекцыяў ахоплівае перыяд ад часоў Кіеўскай Русі да Люблінскай уніі і панавання Стэфана Баторыя. Упершыню ў навуковых і дыдактычных працах такога ўзроўню гісторыя Заходняй Русі – Беларусі і Украіны – прадстаўлена самастойным аб’ектам даследавання і ў пэўнай ступені суб’ектам уласнай гісторыі і тэматычна выдзелена з агульнай гісторыі «Літоўска-Рускай» дзяржавы. Нямала месца адведзена характарыстыцы нацыянальна-канфесійных адносінаў, дзяржаўнага ладу, палітычнай кансалідацыі шляхты, запрыгоньванню сялянства.

Праснякоў сфармуляваў дзве новыя канцэпцыі, якім была суджана доўгая дыскутыўная гісторыя ў пазнейшай гістарыяграфіі: 1) Кіеўская Русь, на яго думку, стала асновай зараджэння трох народнасцяў – беларускай, украінскай і рускай; 2) у адрозненне ад Любаўскага, задоўга да манаграфіі І.І.Лапы, аўтар прыйшоў да высновы, што дзяржаўнасць ВКЛ захоўвалася і пасля Люблінскай уніі. Лекцыі Праснякова былі апублікаваны толькі ў 1939 г., а ў пачатку XX ст. былі вядомы толькі абмежаванаму колу студэнцкай моладзі.

У другой палове XIX ст. фармуецца ліберальная плынь ва ўкраінскай гістарыяграфіі, прадстаўленая «кіеўскай школай» **У.Б.Антановіча**. Погляды яе прадстаўнікоў на «літоўскі» перыяд у развіцці ўкраінскіх і беларускіх земляў былі прынцыпова рознымі, але падыходы і метадалогія даследавання насілі дэмакратычны характар. Яны не прымалі пазіцыю расійскай афіцыйнай гістарыяграфіі аб супадзенні дзяржаўнай і народнай гісторыі. У працах Антановіча і яго навуковага апанента **М.П.Дашкевіча** падкрэслівaўся пераважна мірны характар фармавання ВКЛ у XIII – XIV стст., захаванне традыцыяў старога палітычнага ладу, узаемадзеянне дзвюх пануючых этнаграфічных і культурна-бытавых стыхіяў. У адрозненне ад Антановіча, які лічыў, што саперніцтва літоўскай і «рускай» народнасцяў у палітычным і духоўным жыцці ВКЛ мела драматычныя вынікі ўжо на ранніх этапах яго гісторыі, Дашкевіч меркаваў, што гэты працэс пачаўся пасля уніі з Польшчай у 1386 г. Абодва даследчыкі адзначалі вялікі ўплыў «рускіх» дзяржаўных інстытутаў, матэрыяльных і дэмаграфічных рэсурсаў, духоўнай і пісьмовай культуры на Літву, прычым, паводле слушнай заўвагі У.Ц.Пашуты, Дашкевіч у працы «*Заметки по истории Литовско-Русского государства»* (1885 г.) першым паставіў пытанне аб сінтэзе некаторых літоўскіх і рускіх элементаў у грамадскіх, палітычных і культурных адносінах ВКЛ.

Сярод даследчыкаў «кіеўскай школы» вылучаецца арганізатар акадэмічнай гістарычнай навукі ва Украіне Міхаіл Грушэўскі.

**Міхаіл Сяргеевіч Грушэўскі** (1866 – 1934 гг.) скончыў Тыфліскую гімназію, гісторыка-філалагічны факультэт Кіеўскага універсітэта. Вучань У.Б.Антановіча. У 1894 – 1914 гг. узначальваў кафедру ўсеагульнай гісторыі Львоўскага універсітэта. Рэарганізатар і кіраўнік Навуковага таварыства імя Шаўчэнкі ў Львове. Дэпутат І-й Дзяржаўнай думы, старшыня Украінскай Цэнтральнай Рады, прэзідэнт УНР. З 1919 г. у эміграцыі. У 1924 г. вярнуўся ў Кіеў. Арыштаваны ў 1931 г. па справе «Украінскага нацыянальнага цэнтра». Вызвалены з правам жыць і працаваць у Маскве. Памёр у Кіславодску.

Грушэўскі ўпершыню ва ўкраінскай гістарыяграфіі напісаў абагульняльную 10-томавую працу «*Історія України-Руси*» (1898 – 1936 гг.). Некалькі кніг (т. IV – «XIV – XVI віки – відносини політични», т. V – грамадска-палітычна эвалюцыя украінскіх земляў «під литовським і польским режімом (XIV – XVII вік.)»; т. VI – эканамічнае жыццё, культурныя і нацыянальныя адносіны) асвятляюць перыяд станаўлення і развіцця ВКЛ.

Як ідэолаг самастойнасці ўкраінскага народа, асобнай яго гісторыі, Грушэўскі адмаўляў пазіцыю, што гісторыя ўкраінскага народа з'яўляецца часткай агульнарасійскай гісторыі. Ён лічыў «агульнарускую народнасць» і «агульнарускую» гісторыю міфам. На яго думку, ад «украінска-рускай» народнасці пайшла Кіеўская Русь, а ад «вялікарускай» – Уладзіміра-Маскоўскае княства. Аўтар не бачыў гістарычнай сувязі апошняга са Старажытнарускай дзяржавай. У метадалагічным плане для працаў Грушэўскага характэрны *этнацэнтрызм* – падыход, згодна з ім гісторыю кожнага народа неабходна вывучаць паасобна. Ён прытрымліваўся комплекснага падыходу да ацэнкі гістарычных з'яваў і падзеяў. Нацыянальную гісторыю даследчык трактаваў як гісторыю ўсіх пластоў народа (княжацкіх дынастыяў, паноў, шляхты, магнатаў, сялянства, мяшчанства, казацтва). Шмат увагі ён надаваў дзяржаўна-палітычнаму ладу, сацыяльным аспектам, царкоўна-рэлігійным адносінам, «культурна-нацыянальным» рухам.

У гісторыі ВКЛ даследчык галоўнае месца адводзіў пастаяннай барацьбе да сярэдзіны XV ст. паміж літоўскімі каталіцкімі і рускімі (украінска-беларускімі) магнатамі і шляхтай. На яго думку, літоўская народнасць трапіла пад уплыў славянскіх дзяржаўных і грамадскіх формаў, рэлігіі, побыту, пісьменнасці, беларуская мова мела дзяржаўны статус. Таму літоўская дынастыя абрусела і частка князёў прыняла праваслаўе.

Гісторыя Беларусі закранаецца ў творах М.С.Грушэўскага галоўным чынам пры даследаванні агульнагістарычных працэсаў, што развіваліся ў ВКЛ, або асобна аб'ядноўвалі ўкраінскія і беларускія землі (грамадска-палітычныя традыцыі, духоўнае жыццё, царква, брацтвы і інш.). Аўтар вызначыў асобную ролю беларускіх земляў у палітычным і духоўным развіцці ВКЛ, абгрунтоўваў гэта іх геапалітычным становішчам і больш доўгім знаходжаннем у яго складзе.

Даследчык неправамерна лічыў украінскімі па характары Берасцейскую зямлю, Турава-Пінскае Палессе, творы Ф.Скарыны. Ён шкадаваў, што «слава і заслуга ўкраінскага народа не раскрыта перад еўрапейскай гісторыяй».

Сугучна М.С.Грушэўскаму пазіцыя яго брата, вядомага ўкраінскага гісторыка, прафесара **Аляксандра Сяргеевіча Грушэўскага** (1877 – 1943 гг.). У першай частцы кнігі «*Пинское Полесье»* (1901 г.) ён раскрыў летапісныя звесткі пра гарады і князёў Турава-Пінскай зямлі, іх сувязі з Кіевам. Даследчык паказаў гаспадарчае і сацыяльнае становішча насельніцтва, прааналізаваў працэс хрысціянізацыі Турава, развіцця культуры. У другой частцы (1903 г.) на падставе матэрыялаў Літоўскай Метрыкі гісторык разгледзеў мінулае гэтага рэгіёну ў складзе ВКЛ.

Таксама А.С.Грушэўскі займаўся вывучэннем гісторыі гарадоў Вялікага княства Літоўскага. У 1918 г. ён выдаў манаграфію «*Города Великого княжества Литовского в XIV – XVI вв.: Старина и борьба за старину»,* у якой паўтарыў канцэпцыю Уладзімірскага-Буданава аб негатыўным уплыве магдэбургскага права на гарады ВКЛ. Аўтар лічыў, што асновай развіцця гарадскіх паселішчаў з'яўлялася адзінства горада і воласці. А.С.Грушэўскі раскрыў сутнасць гарадскога кіравання, сацыяльнае жыццё мяшчан, падатковую сістэму, параўноўваў становішча дзяржаўных і прыватных гарадоў.

Да гісторыі цэхавой арганізацыі ў гарадах Беларусі і Літвы звяртаўся **Ф.В.Кліменка**. У кнізе «*Западнорусские цехи XVI – XVIII вв.»* ён прааналізаваў праблему развіцця рамеснай вытворчасці і яе арганізацыі ў гарадскіх паселішчах ВКЛ. Даследчык лічыў, што ўзнікненне цэхаў было выклікана ўнутранымі сацыяльна-эканамічнымі зменамі, а не знешнім фактарам (уніямі з Польшчай). Гэтая пазіцыя аддзяляла аўтара ад заходнерусістаў, якія разглядалі цэхі як форму царкоўна-рэлігійнага саюза. Праўда, Кліменка не раскрыў прычыны іх з'яўлення, механічна пераносіў рысы арганізацыі цэхаў XVIII ст. на XV – XVII стст., а нормы цэхаў г.Вільні – на усе гарады Беларусі.

Ліберальная традыцыя ў вывучэнні гісторыі Беларусі ў беларускай гістарыяграфіі звязана з прозвішчамі Яўхіма Карскага, Івана Лапы, Арсена Турцэвіча, якія зыходзілі з самабытнага характару беларускай гісторыі.

**Яўхім Фёдаравіч Карскі** (1861 – 1931 гг.) нарадзіўся ў в.Лаша Гродзенскага павета. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю, Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут. Выкладаў у Віленскай гімназіі, у Варшаўскім, Растоўскім-на-Доне універсітэтах. З 1917 г. прафесар Петраградскага універсітэта, з 1918 г. прафесар Мінскага педагагічнага інстытута. Аўтар больш за 700 навуковых працаў па славістыцы, беларусістыцы і русісты-

цы. Узнагароджаны вялікім Залатым медалём Рускага геаграфічнага таварыства (1894 г.) за працы па беларусазнаўстве, малой Ламаносаўскай прэміяй (1901 г.) за працы ў галіне палеаграфіі. Член Археаграфічнай камісіі Маскоўскага археалагічнага таварыства, Таварыства аматараў старажытнага пісьменства. Акадэмік Пецярбургскай АН, Чэшскай АН.

«Энцыклапедыяй беларусазнаўства» стала фундаментальная праца Карскага «*Беларусы»,* якая выйшла ў сямі выпусках (трох тамах) з 1903 па 1922 гг. На падставе комплекснага параўнальна-гістарычнага абагульнення разнастайных пісьмовых і этнаграфічных крыніцаў даследчык абгрунтаваў нацыянальную самабытнасць беларусаў як самастойнага славянскага народа, які мае сваю багатую і арыгінальную культуру, старажытныя традыцыі.

У першым томе «Уводзіны да вывучэння мовы і народнай славеснасці» аўтар даследаваў паходжанне беларускага народа. Прарадзімай славян Карскі лічыў Палессе (басейн Прыпяці, верхняга Нёмана і ніжняй Бярэзіны), вызначыў час фармавання беларускай народнасці – у XIII – XV стст. Гісторык сцвярджаў, што аснову беларускай народнасці склалі плямёны дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў, прыйшоў да высновы аб іх аўтахтоннасці на тэрыторыі Беларусі. У навуковым артыкуле, апублікаваным у «Магілёўскіх губернскіх ведамасцях» (1902 г.), Карскі вызначыў тэрытарыяльныя межы распаўсюджвання беларускай мовы. Карта была надрукавана ў 1917 г.

З крыніцазнаўчых працаў Карскага можна вызначыць «*Два памятника старого западнорусского наречия: 1) «Лютеранский катехезис 1562 г.»* и 2) «*Католический катехезис» 1585 г.»* (1893 г.), «*О языке так называемых литовских летописей»* (1894 г.), «*Западнорусские переводы псалтыря в XV – XVII вв.»* (1896 г.). Да 1908 г. яго даследаванні ў галіне палеаграфіі былі адзінымі вучэбнымі работамі *(«Из лекций по славянской кириллической палеографии»,* «*Образцы славянского кирилловского письма с X по XVIII вв.»,* «*Очерк славянской кирилловской палеографии»).*

Навуковая спадчына Карскага не страціла сваёй значнасці па сённяшні дзень і з’яўляецца асновай для далейшай распрацоўкі беларусазнаўства.

**Іван Іванавіч Лапа** (1869 – 1944 гг.) нарадзіўся ў Віцебскай губерні. Скончыў Пецярбургскі універсітэт. У 1905 – 1919 гг. прафесар Юр’еўскага універсітэта. З 1921 г. працаваў у Празе, з 1933 г. прафесар Каўнаскага, у 1941 г. Вільнюскага універсітэтаў.

Асноўныя працы Лапы прысвечаны сацыяльна-палітычнай гісторыі ВКЛ у XVI ст.: «*Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569 – 1586). Опыт исследования политического и общественного строя»* (1901 г.), «*Великое княжество Литовское во второй половине XVI ст. Литовско-русский повет и его сеймик»* (1911 г.), «*Западная Россия и ее соединение с Польшей в их историческом прошлом: Исторические очерки»* (1924 г.).

Лапа ў сваіх даследаваннях прыйшоў да высновы аб федэратыўнай пабудове Рэчы Паспалітай. Ён лічыў, што пасля Люблінскай уніі 1569 г. ВКЛ захоўвала дзяржаўную самастойнасць ад Польшчы. Гісторык глыбока вывучыў асаблівасці сацыяльна-палітычнай структуры ВКЛ на двух узроўнях: макраструктуры (сацыяльныя і палітычныя інстытуты ВКЛ) і мікраструктуры (мясцовыя органы ўлады і «рэгіянальны» воблік шляхты). Відавочна блізкасць аўтара да гісторыкаў дзяржаўна-прававой школы.

**Арсен Восіпавіч Турцэвіч** (1848 – 1915 гг.) нарадзіўся ў сям'і праваслаўнага святара Мінскай губерні. Скончыў Пецярбургскі універсітэт. Выкладаў у сярэдніх навучальных установах Літвы (Шаўлі, Вільня), а з 1901 г. працаваў у Віленскай археаграфічнай камісіі.

Турцэвіч уяўляе сабою прыклад эвалюцыі ў гістарыяграфіі: ад кансерватыўнай да ліберальнай пазіцыі. Даследчык напісаў падручнік «*Руская гісторыя (у сувязі з гісторыяй Вялікага княства Літоўскага)»* для гімназіяў, які меў 13 перавыданняў. Раздзелы падручніка, дзе раскрывалася гісторыя ВКЛ, лічыліся неабавязковымі для настаўнікаў. Але Турцэвіч настойліва рэкамендаваў сваім калегам не ігнараваць іх, паколькі «заходнеруская» гісторыя мае такое ж вялікае значэнне, як і «паўночнаруская» гісторыя.

У кнізе маюцца 26 тэмаў, тры з іх цалкам прысвечаны гісторыі Заходняга краю («Вялікае княства Літоўскае», «Заходняя Русь у XVI – першай палове XVII ст.», «Уз'яднанне Заходняй Русі»). У некаторых тэмах таксама змешчаны звесткі па заходнерускай гісторыі.

Падручнік А.В.Турцэвіча быў забяспечаны метадычным апаратам: у ім меліся пытанні для паўтарэння, радаслоўная і храналагічная табліцы, каляровыя гістарычныя карты, а таксама ілюстрацыі. Тэкст падручніка падзяляўся на асноўны і дадатковы. Дадатковы матэрыял, на думку аўтара, меў другароднае значэнне, аднак ён раіў выкладчыкам звяртаць увагу на гэты матэрыял пры вывучэнні тэмаў па заходнерускай гісторыі. Варта адзначыць, што падручнік напісаны даступнай, вобразнай моваю.

Турцэвіч акрамя падручніка, стаў складальнікам і навучальнага дапаможніка «*Хрэстаматыя па гісторыі Заходняй Расіі».* У хрэстаматыі, якая ўбачыла свет у 1892 г., былі падабраны артыкулы вядомых гісторыкаў таго часу, прысвечаныя некаторым праблемам гісторыі Паўночна-Заходняга краю. Навучальны дапаможнік прызначаўся для навучэнцаў сярэдніх класаў мужчынскіх і жаночых навучальных установаў.

Пасля 1905 г. погляды гісторыка набываюць ліберальны характар. У манаграфіі «*Русские крестьяне под владычеством Литвы и Польши»* (1911 г.) аўтар прыйшоў да «скандальнай» высновы аб пагаршэнні становішча сялян пасля ўваходжання Беларусі ў склад Расіі.

Неабходна канстатаваць, што ўплыў беларускіх гісторыкаў ліберальнага кірунку быў нязначным у параўнанні з уплывам рускіх і ўкраінскіх даследчыкаў.

**4. Гісторыя Беларусі ў даследаваннях польскіх гісторыкаў.** На мяжы XIX – XX стст. узрастае цікавасць польскіх даследчыкаў да гісторыі Беларусі, што было абумоўлена патрэбамі польскага нацыянальнага руху, каб абгрунтаваць права Польшчы на «крэсы ўсходнія».

У польскай гістарыяграфіі склаліся дзве асноўныя гістарыяграфічныя школы па вывучэнні мінулага Беларусі і Літвы: кракаўская і варшаўская. Нямецкі даследчык Р.Ліндэр вызначыў чатыры школы, дадаўшы познаньскую і кансерватыўную.

Прадстаўнікі *кракаўскай школы* (**Валер'ян Калінка, Юзэф Шуйскі, Міхал Бабжыньскі, Станіслаў Смолька**) у супрацьвагу Ляляевелю лічылі, што ля вытокаў Польшчы знаходзілася не народная дэмакратыя, а княжацкі абсалютызм. Яны выступалі з пазіцыі моцнай улады па ўзоры Аўстра-Венгрыі, лічылі шкоднымі ідэі Асветніцтва, пісалі аб станоўчай ролі каталіцкай царквы на тэрыторыі Украіны і Беларусі. Прафесар Кракаўскага універсітэта М.Бабжыньскі прапагандаваў цывілізатарскую місію Польшчы на ўсходзе. У 1912 – 1914 гг. лідэр ППС **Леон Васілеўскі** апублікаваў кнігу «*Літва і Беларусь».* Аўтар бачыў галоўную тэндэнцыю гістарычнага развіцця Літвы і Беларусі ў збліжэнні з Польшчай. Уніі тлумачыліся як прагрэсіўныя акты па сацыяльным ураўнанні ВКЛ і Кароны. Даследчык лічыў, што польская культура на ўсходзе і паланізацыя шляхты садзейнічалі дэмакратызацыі ВКЛ. Статус беларускай мовы ацэньваўся як пераходны. Л.Васілеўскі і іншыя польскія даследчыкі вымушаны былі прызнаць, што палякі яшчэ ў часы Вітаўта пачалі асядаць на былых яцвяжскіх землях, а ў

літоўскіх гарадах пачалі сяліцца польскія рамеснікі. Дробная шляхта знаходзіла службу ў магнатаў, а пасля Люблінскай уніі 1569 г. шырэй пачала перасяляцца на землі ВКЛ і займаць афіцыйныя пасады. Сучасная польская гістарыяграфія лічыць гэта перабольшаннем, адзначаючы, што польскі ўплыў адбываўся не шляхам дэмаграфічных зменаў насельніцтва, а ў выніку культурна-цывілізацыйнага ўзаемадзеяння.

Гісторыкі *варшаўскай школы* (**Тадэвуш Корзан, Уладзіслаў Смаленьскі**) зыходзілі з «ягелонскай ідэі» безгістарычнасці народаў: калі народ не мае сваёй уласнай дзяржавы, то ён не мае сваёй гісторыі. Адпаведна беларусы – «безгістарычны» народ. Упершыню тэрмін «ягелонская ідэя» увёў у навуковы зварот **Фелікс Канечны** – аўтар кнігі «*Ягайла і Вілаўт падчас Крэўскай уніі».* Падобны падыход дамінаваў у польскай гістарыяграфіі да Першай сусветнай вайны. **Оскар Галецкі** ў манаграфіі «*Літва, Русь і Жмудзь як часткі ВКЛ»* (1916 г.) адзначыў незалежнасць княства ад Маскоўскай Русі, але ўсю гісторыю Беларусі зводзіў да збліжэння з Польшчай.

Даследчыкі *познаньскай школы* (**Іаахім Лялевель, Анджэй Марачэўскі**) на падставе асветніцкай ідэалогіі сцвярджалі аб мірным і легальным заваяванні Польшчай Заходняй Русі і Галіцыі яшчэ з XI ст. А гісторыкі *кансерватыўнага* кірунку (**Бібіяна Марачэўская, Валер'ян Урублеўскі**) абвінавачвалі вышэйшыя колы ўкраінскага грамадства ў паланафобіі, у непрыманні цывілізатарскай місіі Польшчы і «праўдзівага» хрысціянства.

Польскія даследчыкі не разглядалі ВКЛ у якасці самастойнага суб'екта ўнутранай і знешняй палітыкі. Яны зыходзілі з таго, што Беларусь і Літва – перыферыйная правінцыя Польшчы.

На ІІІ-м з'ездзе польскіх гісторыкаў (1900 г.) канчаткова распаўся лагер пазітывісцкіх гісторыкаў. Вызначыліся новыя кірункі ў гістарыяграфіі: гісторыка-юрыдычны, неарамантычны і эканамічны.

Гісторыка-юрыдычную плынь прадстаўляў прафесар Кракаўскага універсітэта **Станіслаў Кутшэба** (1876 – 1946 гг.), аўтар двухтомавай «*Гісторыі дзяржаўнага ладу Польшчы»* (1914 г.). У другім томе «Літва» паказана сувязь дзяржаўных установаў і права з грамадскім ладам і класавай структурай грамадства. Аўтар разглядаў гісторыю ВКЛ да 1791 г. як самастойнае дзяржаўнае ўтварэнне.

Неарамантычны кірунак вызначылі працы **Станіслава Закшэўскага** (1873 – 1936 гг.), які сталі новым словам у метадалогіі. У 1908 г. ён выдаў манаграфію «*Гістарычныя праблемы»,* у якой адзначыў вялікую ролю інтуіцыі ў гістарычным даследаванні, пра-

панаваў гераічную канцэпцыю, згодна з якой гісторыю ажыццяўляюць «моцныя асобы». Прадстаўнікі неарамантызму імкнуліся суаднесці гістарычныя з'явы з ідэаламі барацьбы за незалежнасць.

Эканамічны кірунак прадстаўлялі **Уладзіслаў Грабскі** (1874 – 1938 гг.), **Францішак Буяк** (1875 – 1953 гг.), **Ян Руткоўскі** (1886 – 1949 гг.), якія сталі выкарыстоўваць новыя крыніцы і звяртацца да эканамічных сюжэтаў польскай гісторыі.

У канцы XIX – пачатку XX ст. у польскай гістарыяграфіі змяніліся прыярытэты ў адносінах да праблемы беларускіх земляў у складзе Расійскай імперыі. Пасля публікацыі матэрыялаў Віленскай археаграфічнай камісіі і вынікаў Усерасійскага перапісу насельніцтва 1897 г. польскія гісторыкі сталі больш асцярожна выказвацца аб колькасці палякаў на тэрыторыі Беларусі, іх паходжанні, этнічных межах беларусаў. Польскія гісторыкі выводзілі колькасць палякаў на тэрыторыі Беларусі не па этнічнай прыкмеце, а па веравызнанні – лічылі ўсіх каталікоў палякамі. Гэта дазволіла ім павысіць колькасць палякаў у Беларусі з 2,4 % да 13 – 13,5 % па веравызнанні.

Пад уплывам работ Я.Ф.Карскага некаторыя польскія гісторыкі (Л.Васілеўскі і інш.) былі вымушаны значна пашырыць межы рассялення беларусаў. Яны прызналі, што заходняя граніца беларускага этнасу праходзіць уздоўж р.Нараў і Сураж, паўднёвая – выключае з беларускай этнічнай тэрыторыі Палессе на карысць украінцаў (як у Карскага), усходняя – у Смаленскай, Арлоўскай, Калужскай, Цвярской і Пскоўскай губернях. Адначасова яны адзначалі пярэстасць этнічнага складу насельніцтва Гродзенскай і паўднёвай часткі Віленскай губерняў, польска-літоўскія анклавы на іх тэрыторыі.

Гэтыя змены ў ацэнцы становішча беларускіх земляў у складзе Расійскай імперыі сведчаць аб больш гнуткіх падыходах польскай гістарыяграфіі да гістарычнага мінулага Беларусі.

## Праверачны тэст

***I. Выберыце правільны адказ.***

1. Гістарычны атлас падпалкоўніка А.Ф.Рыціха ўключаў
   А) 6 картаў
   Б) 7 картаў
   В) 10 картаў
   Г) 12 картаў.
2. К.А.Гаворскі з'яўляўся рэдактарам неафіцыйнай часткі
   А) Гродзенскіх губернскіх ведамасцяў
   Б) Віленскіх губернскіх ведамасцяў
   В) Віцебскіх губернскіх ведамасцяў
   Г) Магілёўскіх губернскіх ведамасцяў.

3. Аб'яднанне Віленскага цэнтральнага архіва і Віцебскага цэнтральнага архіва адбылося ў

А) 1900 г.
Б) 1901 г.
В) 1902 г.
Г) 1903 г.

4. Пераход ад заходнерусізма да ліберальнай плыні ў гістарыяграфіі быў характэрны для

А) І.І.Лапы
Б) М.К.Любаўскага
В) А.В.Турцэвіча
Г) Я.Ф.Карскага.

5. Аўтар «Звестак аб польскім мяцежы 1863 г. у Паўночна-Заходнім краі»

А) М.М.Мураўёў
Б) К.А.Гаворскі
В) В.Ф.Ратч
Г) П.М.Бацюшкаў.

6. Першым апісаў «альгердаву дарогу»

А) К.А.Гаворскі
Б) І.І.Лапа
В) П.Д.Бранцаў
Г) Я.Ф.Карскі.

7. На думку М.В.Каяловіча, беларуская народнасць сфармавалася з крывічоў і

А) дрыгавічоў
Б) радзімічаў
В) драўлян
Г) валынян.

8. Прадстаўнік дваранскай гістарыяграфіі, які звярнуўся да вывучэння сацыяльна-эканамічнай гісторыі

А) І.П.Філевіч
Б) І.П.Карнілаў
В) М.В.Каяловіч
Г) П.Д.Бранцаў.

9. Аўтар тэорыі «абшчыннага права»

А) М.Ф.Уладзімірскі-Буданаў
Б) К.Д.Кавелін
В) Ф.І.Леантовіч
Г) М.К.Любаўскі.

10. Прарадзімай славян Я.Ф.Карскі лічыў

А) Падзвінне
Б) Паазер'е
В) Палессе
Г) Пабужжа.

***II. Што аб’ядноўвае пералік?***

1. «Літоўская царкоўная унія», «Гісторыя ўз’яднання заходнерускіх уніятаў старажытных часоў», «Чытанні па гісторыі Заходняй Расіі».

2. П.М.Жуковіч, К.В.Харламповіч, І.Д.Бяляеў, П.Д.Бранцаў.

3. М.С.Грушэўскі, А.С.Грушэўскі, У.Б.Антановіч.

***III. Ці згодны вы з выказваннем (так, не)?***

1. Славянафілы крытыкавалі ўрад за палітыку, праводзімую ў заходніх губернях.

2. Віленская археаграфічная камісія апублікавала 19 тамоў гістарычных дакументаў.

3. М.В.Каяловіч лічыў, што падзелам Рэчы Паспалітай не было альтэрнатывы.

4. П.М.Жуковіч лічыў Берасцейскую царкоўную унію большым злом, чым Люблінскую.

5. Прыхільнікі «каланізацыйнай тэорыі» сцвярджалі аб каланізацыі Полацка Ноўгарадам.

6. Палеаграфічныя працы Я.Ф.Карскага да 1908 г. былі адзінымі навучальнымі дапаможнікамі.

7. І.І.Лапа працаваў у Пецярбургскім і Дэрптскім універсітэтах.

8. Канцэпцыі Кіеўскай Русі як «калыскі» трох усходнеславянскіх народнасцяў прытрымліваўся А.Е.Праснякоў.

9. У 1901 г. М.К.Любаўскі абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Літоўска-рускі сейм».

10. Прынцып этнацэнтрызму ў гістарычнае даследаванне ўвёў А.С.Грушэўскі.

11. С.Кутшэба прадстаўляў кракаўскую школу.

12. Аслабленне заходнерусізму ў 70-я гг. XIX ст. было выклікана «патапаўшчынай».

***IV. Хто з’яўляецца «лішнім» у пераліку?***

1. К.В.Харламповіч, Ф.В.Кліменка, П.Д.Бранцаў.

2. І.І.Лапа, М.К.Любаўскі, Л.Васілеўскі.

3. К.А.Гаворскі, Ф.Р.Эркерт, Я.Ф.Карскі.

***V. Дайце тлумачэнне паняццям.***

1. «Ягелонская ідэя».

2. «Заходнерусізм».

3. «Белаляхі».

***VI. Аб кім ідзе размова?***

1. Даследчык, які прааналізаваў праблему расмеснай вытворчасці і яе арганізацыю ў гарадах ВКЛ, крытыкаваў гісторыкаў дзяржаўна-прававой школы.

2. Кандыдат філасофска-тэалагічных навук, архіварыўс, аўтар «Каталога старажытным актавым кнігам», «Слоўніка старажытнай актавай мовы».

# Тэма 6. Фарміраванне беларускай нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі ў XIX – пачатку XX ст.

## План

1. Станаўленне беларусазнаўства як асновы беларускай нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі. Этнаграфічнае і археалагічнае вывучэнне Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.

2. Роля беларускай літаратуры другой паловы XIX – пачатку XX ст. у станаўленні беларускай нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі.

3. Погляды К.Каліноўскага і беларускіх народнікаў на мінулае беларускага народа.

4. Гістарычная публіцыстыка «Нашай Долі» і «Нашай Нівы».

5. Станаўленне дэмакратычнай плыні беларускай гістарыяграфіі.

## Рэкамендаваная літаратура


1. Алексеев, Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI в. – 30-е годы XX в. / Л.В.Алексеев. – Мн.: Беларуская навука, 1996. – С. 81 – 173.

2. Беларускі фальклор: энцыклапедыя: У 2 т. Т. 1. – Мн.: БелЭн, 2005. – 768 с.

3. Беларусы: У 8 т. Т. 3: Гісторыя этналагічнага вывучэння. – Мн.: Беларуская навука, 1999. – С. 51 – 256.

4. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. – Мн.:БелЭн, 2005. – Т. 1. – 688 с.

5. Ганущ, А.Г. Мітрафан Доўнар-Запольскі / А.Г.Ганущ, П.С.Кручок; пад рэд. В.Ф.Кушнера. – Мн.: Агенцтва «Геронт – А», 1995. – 29 с.

6. Довнар-Запольский М. В. История Белоруссии / М.В.Довнар-Запольский. – Мн.: Беларусь, 2003. – 680 с.

7. Карев, Д.В. Белорусская историография во второй половине XIX – начале XX в. / Д.В.Карев // Очерки истории науки и культуры Беларуси IX – начала XX в. / П.Т.Петриков [и др.]. – Мн.: Наука и техника, 1996. – С. 40 – 47.

8. Карев, Д.В. Белорусская историография в эпоху капитализма (1861 – 1917 гг.) / Д.В.Карев // Наш радавод. – Кн. 3. – Ч. 1. – Гродно, 1991. – С. 49 – 115.

9. Каханоўскі, Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI – XIX стст. / Г.А.Каханоўскі. – Мн: Навука і тэхніка, 1984. – С. 73 – 77.

10. Копысский, З. Ю. Историография БССР (эпоха феодализма): учеб. пособие / З.Ю.Копысский, В.В.Чепко. – Мн.: Университетское, 1986. – С. 20 – 62.

11. Кушнер, В. Стваральнік канцэпцыі беларускай нацыянальнай гісторыі / В.Кушнер // Беларускі гістарычны часопіс. – 2004. – № 9. – С. 53 – 59; № 10. – С. 53 – 60.

12. Ластоўскі, В. Кароткая гісторыя Беларусі / В.Ластоўскі. – Мн.: Універсітэцкае, 1993. – 126 с.

13. Ліндэр, Р. Гісторыкі і ўлада: Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст. / Р.Ліндэр. – СПб.: Неўскі прасцяг, 2003. – С. 70 – 146.

14. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыкл. даведнік. – Мн.: БелЭн., 1995. – 671 с.

15. Турук, Ф. Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов / Ф.Турук. – М.: Типография Под/отдела Инвалидов, 1921. – 141 с.

16. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. – Мн.: БелЭН, 1993. – Т. 3. – С. 19 – 21.

**Тэматыка рэфератаў**

1. Роля «мясцовага» дваранства ў фармаванні беларусазнаўства.

2. Адозвы беларускіх народнікаў.

3. Археалагічнае вывучэнне Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.

4. Дзейнасць Рускага геаграфічнага таварыства па вывучэнні «заходніх губерняў».

5. М.В.Доўнар-Запольскі як заснавальнік эканамічнай гісторыі Беларусі.

**1. Станаўленне беларусазнаўства як асновы беларускай нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі. Этнаграфічнае і археалагічнае вывучэнне Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.** Асаблівасцю гістарыяграфіі Беларусі з'яўляецца працяглае панаванне ў ёй дзвюх канцэпцыяў – вялікапольскай і вялікарускай, якія адмаўлялі сам факт існавання беларускага этнасу, яго мовы, культуры, прызнавалі Беларусь часткай Польшчы або Расіі, а беларусаў – галіной адпаведна польскага або рускага народаў. Панаванне іншанацыянальных канцэпцыяў у нацыянальнай гістарыяграфіі – сведчанне прыгнечанага становішча адпаведнай краіны. У суверэнных дзяржавах такая з'ява немагчымая. Кожны

цывілізаваны народ мае сваю нацыянальную гістарыяграфію, якая адлюстроўвае менавіта яго гістарычную памяць, яго погляд на ўласны гістарычны шлях, а таксама на гісторыю суседніх народаў, сусветную гісторыю ў цэлым. Менавіта нацыянальная гістарыяграфія з'яўляецца апорай нацыянальнай самасвядомасці кожнага народа.

Станаўленне нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі тоесна звязана з развіццём навуковых ведаў пра Беларусь і беларускі народ – *беларусазнаўства*. У канцы XVIII – пачатку XIX ст. Беларусь у навуковых адносінах заставалася амаль зусім не вывучаным рэгіёнам. Адсутнічалі даследаванні аб мове, вуснай народнай творчасці, матэрыяльнай культуры, этнічных межах рассялення беларусаў, гісторыі краю. Не існавала адзінай назвы народа і краіны. Назва «Беларусь» на той час замацавалася толькі за ўсходнімі губернямі – Віцебскай і Магілёўскай. У асобных публікацыях да Беларусі далучалася Смаленская губерня (яе цэнтральная і заходняя часткі). Мінская, Гродзенская і Віленская губерні называліся Літвою, а іх насельніцтва – ліцвінамі або літоўцамі. Сацыяльныя вярхі грамадства і інтэлігенцыя былі паланізаваны. У грамадска-культурным жыцці краю панавала польская мова. Таму многімі прадстаўнікамі расійскай інтэлігенцыі Беларусь успрымалася як частка Польшчы.

На развіццё этнічнай самасвядомасці беларускага народа адмоўна ўплываў яго раскол па веравызнанні на праваслаўных і каталікоў. Праваслаўе ўспрымалася як «руская» вера, каталіцызм – як «польская». Адпаведную прапаганду вялі царква і касцёл. Веравызнаннем вызначалася этнічная прыналежнасць не толькі ў свядомасці селяніна, але і ў разуменні інтэлігенцыі, нават вучоных.

Расійская афіцыйная навука ўзброіла Кацярыну II дэвізам «Отторженная возвратих», які зыходзіў з вялікадзяржаўнага погляду на Беларусь як гістарычнае ўладанне расійскіх манархаў і на беларусаў як частку рускага народа, «сапсаваную» польска-каталіцкім уплывам. З другога боку, польскія вучоныя (А.Нарушэвіч, Т.Чацкі, С.Ліндэ і інш.) імкнуліся тэарэтычна абгрунтаваць погляды польскай і апалячанай шляхты на Беларусь як частку Польшчы і разглядалі беларусаў этнічнай групай польскага народа. Супраць вялікадзяржаўных расійскіх і польскіх поглядаў на Літву-Беларусь і яе гісторыю ў пачатку XIX ст. выступала група прафесараў славістыкі, гісторыі і права Віленскага універсітэта: **М.К.Баброўскі**, **І.Даніловіч**, **І.Ярашэвіч** і інш. Яны асвятлялі гісторыю ВКЛ з патрыятычных пазіцыяў, выказваліся за аднаўленне самастойнасці

ВКЛ і вяртанне дзяржаўнага статуса старабеларускай пісьмовай мове, лічылі уніяцтва нацыянальнай верай беларускага народа і звязвалі з ёю магчымасць пераадолення супрацьстаяння на Беларусі праваслаўя і каталіцызму.

Паступова разгортваліся этнаграфічныя і археалагічныя даследаванні Беларусі, вынікі якіх публікаваліся ў польскіх і расійскіх перыядычных выданнях. У 1837 – 1846 гг. **Ян Чачот** выдаў у Вільні шэсць фальклорных зборнікаў «*Вясковых песень»,* сабраных ім на Беларусі. У прадмове да апошняга зборніка ён прааналізаваў асаблівасці беларускай лексікі і граматычнага ладу беларускай мовы, якую называў «славяна-крывіцкай». Даследчык выказаў пэўныя сумневы ў яе далейшым лёсе, але адназначна заявіў пра неабходнасць складання граматыкі і слоўніка беларускай мовы і заклікаў да гэтай работы прадстаўнікоў малодшага пакалення інтэлігенцыі. Знаўцам старажытнай гісторыі славян, пачынальнікам беларускай археалогіі, фалькларыстыкі і моваўнаўства быў **З.Я.Даленга-Хадакоўскі**. Каштоўныя дакументы па гісторыі Беларусі ў 9-ці тамах выдаў у 40-я гг. **І.І.Грыгаровіч**. Ён таксама склаў два слоўнікі беларускай мовы. Значны ўклад у гістарычнае краязнаўства Беларусі братоў **Тышкевічаў**. Шмат зрабіў для развіцця культуры і навукі Беларусі **А.Кіркор**. У 1850 – 1860-я гг. вакол яго літаратурнага гуртка ў Вільні групавалася беларуская, польская і літоўская інтэлігенцыя.

У папулярызацыі ведаў пра Беларусь і беларускі народ у розных пецярбургскіх выданнях значную ролю адыгралі шматлікія публікацыі **П.М.Шпілеўскага**. Ён склаў слоўнік і граматыку беларускай мовы. Аднак Расійская Акадэмія навук адхіліла апошнюю, спаслаўшыся на тое, што «дыялекты не могуць мець уласных граматычных катэгорыяў».

Складальнікі расійскіх этнаграфічных атласаў у 60 – 70-я гг. XIX ст. пры вызначэнні этнічнай прыналежнасці насельніцтва Беларусі зыходзілі з веравызнання і ўсіх беларусаў-каталікоў запісвалі ў палякі. Адным з першых выступіў супраць такога ненавуковага падыходу гісторык і этнограф **П.В.Баброўскі**. У сваім даследаванні «*Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния»* (1863 г.) ён зрабіў апісанне жылля і гаспадарчых будынкаў, адзення і страў, хатняга і сямейнага побыту, вераванняў, абрадаў і звычаяў, працоўнай дзейнасці беларусаў. Крытэрыем вызначэння этнасаў Баброўскі лічыў мову, якая ўжывалася ў штодзённай гутарцы, песнях і прымаўках. З мовай ён звязваў асаблівасці нацыянальнага

характару, мыслення, нормаў маралі, традыцыяў і звычаяў народа. П.В.Баброўскі адзначаў, што «беларус-селянін, ці будзе ён праваслаўны, ці каталік, мае свае перакананні, сваю маральную філасофію і передае гэта разам з мовай сваім дзецям і ўнукам». Адсутнасць этнічнай самасвядомасці ў большасці беларусаў у сярэдзіне XIX ст. і нават тое, што яны не называлі сябе беларусамі, на думку Баброўскага, не мела істотнага значэння.

У 60 – 70-я гг. XIX ст. пры падтрымцы ўрада, Расійскай Акадэміі навук і Рускага геаграфічнага таварыства шырока разгарнуліся навуковыя даследаванні народнай культуры беларусаў з мэтай абгрунтавання афіцыйных поглядаў на беларусаў як «заходнерусаў». Аднак аб'ектыўна гэтыя даследаванні, часта насуперак намерам аўтараў пацвярджалі існаванне самастойнага беларускага этнасу.

**Міхаіл Аляксеевіч Дзмітрыеў** (1832 – 1873 гг.) нарадзіўся ў Пецярбургу. Скончыў Галоўны педагагічны інстытут. З 1853 г. стаў працаваць настаўнікам дваранскага вучылішча, пазней дырэктарам гімназіі ў Навагрудку. У 1867 – 1873 гг. займаў пасаду інспектара, потым дырэктара Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Член Рускага геаграфічнага таварыства.

Займаўся збіраннем беларускай вусна-паэтычнай творчасці, асабліва тапанімічных і міфалагічных легендаў, якія публікаваў у газетах «Виленский вестник», «Минские губернские ведомости», часопісах «Вестник Западной России» і «Вестник императорского Русского географического общества». Апісваў народныя звычаі, абрады, сялянскі побыт, цікавіўся жывой беларускай мовай – спрабаваў скласці паказальнік словаў і выразаў Навагрудчыны. У архівах сабраў каштоўныя звесткі пра А.Міцкевіча. Выдаў зборнік беларускай народнай паэзіі «*Вопыт збірання песень і казак сялян Паўночна-Заходняга краю»* (1868 г.) і «*Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў сялян Паўночна-Заходняга краю»* (1869 г.). У «Збор...» уключана 277 сямейна-бытавых, каляндарна-абрадавых і пазаабрадавых песень, 8 казак і апісанні абрадаў.

**Юльян Фаміч Крачкоўскі** (1840 – 1903 гг.) нарадзіўся ў в.Азяты Жабінкаўскага раёна. У 1861 г. скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію, працаваў настаўнікам рускай мовы ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, інспектарам народных вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі, дырэктарам Полацкай настаўніцкай семінарыі і Віленскага настаўніцкага інстытута, Туркестанскай настаўніцкай семінарыі. Крачкоўскі ў 1888 – 1902 гг. з'яўляўся старшынёй Віленскай археаграфіч-

най камісіі. Укладальнік 16-га і 20-га тамоў, аўтар прадмоў да іх і да 25-га тома «Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі». У 1900 – 1902 гг. пад яго рэдакцыяй і з яго прадмовамі выйшлі 12-ы і 13-ы тамы «Археаграфічнага зборніка дакументаў».

Крачкоўскі апублікаваў нарыс пра старажытную Вільню *(«Старая Вільня да канца XVII стагоддзя»* (1893 г.)) і зборнік дакументаў аб гісторыі Віленскай навучальнай акругі *(«Гістарычны агляд дзейнасці Віленскай навучальнай акругі за першы перыяд яе існавання. 1803 – 1832»* (1903 г.)). Яму належыць аўтарства першага грунтоўнага даследавання пра радзінны абрад беларусаў і выхаванне дзіцяці (*«Нарысы быту заходнярускага селяніна»* (1869 г.) і фальклорна-этнаграфічнага зборніка «*Быт заходнярускага селяніна»* (1874 г.), прысвечанага сямейным (пераважна вясельным) і каляндарна-аграрным абрадам беларусаў, у якім, акрамя вядомых матэрыялаў, выкарыстаны і новыя запісы.

**Іван Іванавіч Насовіч** (1788 – 1877 гг.) нарадзіўся ў в.Гразівец Быхаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Чавускі раён) у сям'і псаломшчыка. Адукацыю атрымаў у Магілёўскай гімназіі, потым у Магілёўскай духоўнай семінарыі. З 1812 г. Насовіч працаваў выкладчыкам рускай мовы і славеснасці вышэйшага аддзялення Аршанскага духоўнага вучылішча, выкладчыкам, рэктарам Мсціслаўскага духоўнага вучылішча, загадчыкам, наглядчыкам, выкладчыкам Дынабургскай гімназіі, Маладзечанскага, Свянцянскага дваранскіх вучылішчаў.

Пераезды па службе, а таксама падарожжы па Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губерням далі яму магчымасць глыбока пазнаёміцца з народнай творчасцю, сабраць багаты лексічны, фразеалагічны і фальклорны матэрыял з розных рэгіёнаў Беларусі. Выйшаўшы ў 1843 г. у адстаўку і пасяліўшыся ў Мсціславе, ён заняўся навуковай працай. У выніку цеснага супрацоўніцтва з археаграфічнай камісіяй, этнаграфічным аддзяленнем Рускага геаграфічнага таварыства, аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Пецярбургскай Акадэміі навук ён распачаў падрыхтоўку першага гістарычнага слоўніка беларускай мовы «*Алфавітны паказальнік старажытных беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі»* (1853 г.). У ім ён даў тлумачэнне 13 тыс. словаў.

Здабыткам беларускай фалькларыстыкі сталі яго зборнікі «*Беларускія прыказкі і прымаўкі»* (1852 г.), «*Беларускія прыказкі і загадкі»* (1868 г.), «*Зборнік беларускіх прыказак»* (1867 г.). У апошнім ён змясціў каля 3500 прыказак, прымавак і блізкіх да іх прыгаворак, праклёнаў, скорагаворак, тонка прааналізаваў змест і сэнс «ма-

ральна-практычнай філасофіі простага народа». У многіх выпадках ён высвятляў паходжанне, прыводзіў эквіваленты з рускай, а часам і іншых моваў. За гэты зборнік яму прысуджаны залаты медаль Рускага геаграфічнага таварыства, ён быў абраны членам гэтага таварыства па аддзяленні этнаграфіі. У зборніку «*Беларускія песні»* (1873 г.), акрамя 350 тэкстаў песень, даследчык змясціў шэраг артыкулаў, прысвечаных песеннай культуры беларусаў.

Значную ўвагу надаваў Насовіч пытанням гісторыі, асабліва старажытнай гісторыі Беларусі. У гісторыка-лінгвістычным даследаванні «*Аб плямёнах да часоў Рурыка, што засялялі беларускую тэрыторыю»* ён даводзіў, што назвы плямён «дрыгавічы», «радзімічы» і «крывічы» паходзяць ад беларускіх народных слоў. Ён пераклаў з лацінскай мовы 3-томавую працу А.Тэйнера «Старажытныя помнікі, што асвятляюць гісторыю Польшчы і Літвы», у якой адлюстраваны ўзаемадачыненні Польшчы і ВКЛ, гісторыя беларускіх земляў з 1217 па 1696 гг. Даследчык з’яўляецца аўтарам грунтоўнай (каля 1000 старонак) гісторыка-мемуарнай працы «*Успаміны з майго жыцця»,* дзе прадстаўлена тагачаснае грамадства, раскрыты духоўныя інтарэсы і маральнае аблічча беларускай інтэлігенцыі з канца XVIII да сярэдзіны XIX ст. Значнае месца ў гэтым творы адведзена педагагічным ідэям самога Насовіча, які больш як 30 гадоў працаваў на ніве асветы.

Асноўнае месца ў навуковай спадчыне Насовіча займае тлумачальна-перакладны «*Слоўнік беларускай мовы»,* над якім ён працаваў 16 гадоў. Гэта самы поўны на той час збор лексікі і фразеалогіі жывой беларускай мовы, які ахоплівае больш за 30 тыс. слоў. У гэтым арыгінальным творы засведчаны ўзровень развіцця беларускай мовы сярэдзіны XIX ст. Матэрыялы для слоўніка аўтар браў з гаворак Магілёўшчыны, Міншчыны, Віцебшчыны, Гродзеншчыны, некаторых паветаў Прывіленскага краю – г.зн. усяго моўнага ландшафту тагачаснай Беларусі. Аўтар свядома не ўключаў словы, агульныя для беларускай і рускай моваў. Для пацвярджэння ўжывальнасці слоў і дакладнасці тлумачэння іх семантыкі выкарыстоўваў самы народныя песні, прыказкі, выслоўі, фразеалагізмы. Многія словы ўзяты са старабеларускіх пісьмовых помнікаў. Усе значэнні слоў і словазлучэнняў раскрываюцца аўтарскімі тлумачэннямі і цытатамі з дыялектнай, фальклорнай ці агульналітаратурнай мовы; часам даецца этымалогія слоў. Такім чынам, у «Слоўніку...» шырока выкарыстана жывое народнае беларускае слова, да гэтага часу ён з'яўляецца унікальным творам у беларускай лексікаграфіі.

**Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі** (1845 – 1910 гг.) нарадзіўся ў в.Вымна на Віцебшчыне ў сям'і дзяка мясцовай царквы. Пачатковую адукацыю атрымаў у прыватнай сельскай школе. З 1855 г. вучыўся ў Віцебскім духоўным вучылішчы. У 1861 г. як лепшы вучань быў прыняты на казённае ўтрыманне ў Віцебскую духоўную семінарыю. Прапанову прадоўжыць адукацыю ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі не змог прыняць з-за адсутнасці сродкаў. Пасля перападрыхтоўкі ў кастрычніку 1867 г. прызначаны настаўнікам народнага вучылішча ў в.Лоўжа. Працаваў настаўнікам гімназіі ў Віцебску і Віцебскай губерні, у Свіслацкай і Маладзечанскай семінарыях. З'яўленне ў Віцебску этнографа П.В.Шэйна ўзмацніла цікавасць Я.Нікіфароўскага да вывучэння побыту, культуры і творчасці беларускага народа. Больш як дваццаць гадоў быў карэспандэнтам Шэйна, а з 90-х гг. выступаў з самастойнымі працамі. Апублікаваў каля 20 даследаванняў па этнаграфіі, фальклоры і гісторыі Віцебшчыны.

Грамадскаму побыту і сацыяльна-эканамічнаму становішчу розных слаёў і групаў насельніцтва Віцебшчыны Нікіфароўскі прысвяціў серыю публікацыяў у часопісе «Этнографическое обозрение» пад агульнай назвай «*Нарысы Віцебскай Беларусі»* (1892 – 1899 гг.): «Старцы», «Дудар і музыка», «Памагатыя жыхара», «Падданыя памагатыя», «Пітушчыя і прапойцы», «Гульні і гуляючыя», «Бабы, або жонкі», «Збегі, прочкі, вонкі, ухадалы». Пытанні грамадскага побыту насельніцтва закранаў у працы «*Старонкі з нядаўняй мінуўшчыны горада Віцебска»* (1899 г.).

Ён аўтар першай спецыяльнай працы па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці сельскага насельніцтва «*Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку (Этнаграфічныя звесткі)»* (1895 г.). У 1-м раздзеле гэтай кнігі «Ежа, едзіва, паядуха, прорава, жратва, момна» даў грунтоўную характарыстыку харчавання і класіфікацыю страваў, іх прыгатаванне, гатункі хлеба; паказаў змены ў народнай кулінарыі пасля адмены прыгоннага права. У 2-м раздзеле разглядзеў адзенне і абутак, іх асобныя часткі, пакрой, матэрыял, спосабы нашэння ўпрыгожанняў і інш. Апісаў працоўныя працэсы ад апрацоўкі лёну да пашыву адзення. У 3-м раздзеле Нікіфароўскі грунтоўна апісаў сельскія паселішчы, сядзібы, жыллё і гаспадарчыя будынкі, іх будаўніцтва і прызначэнне, інтэр'еры жылых памяшканняў, жыццёвыя працэсы і побытавыя абставіны. У апошнім раздзеле даў характарыстыку земляробства, промыслаў і рамёстваў, прыладаў працы, прадметаў хатняга ўжытку і інш.

Сярод яго фальклорных збораў: «*Беларускія песні-частушкі»* (1911 г.), «*Простанародныя загадкі»* (1898 г.), «*Напаўпрыказкі і напаўпрымаўкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі»* (1910 – 1913 гг.), «*Напаўпрыказкі – напаўпрыслаўкі»* (1928 г.). Пра вераванні, забабоны, абрады, паданні напісана ў працах: «*Простанародныя прыкметы і павер'і, прымхлівыя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асобы і мясціны»* (1897 г.), «*Нячысцікі: Збор простанародных у Віцебскай Беларусі паданняў пра нячыстую сілу»* (1907 г.).

**Павел Васілевіч Шэйн (**1826 – 1900 гг.) нарадзіўся ў Магілёве. Вучыўся ў нямецкім вучылішчы пры лютэранскай царкве св.Міхаіла ў Маскве. З 1851 г. працаваў выкладчыкам у розных павятовых вучылішчах і гімназіях Тулы, Віцебска, Калугі і інш. З 1881 г. у Пецярбургу. Збіральніцкую дзейнасць пачаў у сярэдзіне 50-х гг. XIX ст.

Даследчык выдаў напісаную пад уплывам міфалагічнай школы «*Праграму для збірання помнікаў народнай творчасці»* (1867 г.) – адну з першых спецыяльных фальклорных праграмаў у Расіі – і разаслаў яе па Беларусі. Меў шырокую сетку карэспандэнтаў, сярод якіх былі А.Я.Багдановіч, Я.Ф.Карскі, Ю.Ф.Крачкоўскі, Я.Лучына, М.Я.Нікіфароўскі, З.Ф.Радчанка і інш. Зрабіў некалькі вандровак па Беларусі, самую вялікую ў 1877 г. Найбольш поўны беларускі матэрыял прадстаўлены ў кнізе «*Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю»* (1887 – 1902 гг.). У кнізе змешчаны апісанні хрэсьбінаў, калядных, масленічных, купальскіх, жніўных, вясельных, пахавальных абрадаў беларусаў з песнямі і фальклорнымі тэкстамі, міфалагічныя і бытавыя казкі пра жывёл, легенды, паданні, анекдоты, прыказкі, прымаўкі, загадкі, звесткі пра матэрыяльную культуру беларусаў (жыллё, адзенне, ежу, заняткі).

Шэйн з'яўляецца складальнікам зборнікаў «*Рускія народныя песні»* (1870 г.), «*Беларускія народныя песні...»* (1874 г.), «*Вялікарос у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і да т.п.»* (т.1, вып. 1-2, 1898 – 1902 гг.). Тэксты адметныя высокімі паэтычнымі якасцямі, многія вылучаюцца сацыяльнай вастрынёй.

Вядомым краязнаўцам Віцебшчыны быў **Аляксандр Максімавіч Семянтоўскі-Курыла** (1821 – 1893 гг.). Ен прыехаў на Падзвінне напярэдадні паўстання 1863 – 1864 гг. Лічыўся ў спісе давераных асобаў Віцебскай губерні як капітан рускай арміі. Семянтоўскі вельмі актыўна стаў вывучаць край з пункту гледжання археалогіі, гісторыі, этнаграфіі, геаграфіі, прыроды. Па просьбе Пецярбургскай Акадэміі навук ён выяўляў і вывучаў помнікі археа-

логіі, найперш зацікавіўся Барысаглебскім манастыром, яго архітэктурна-будаўнічымі асаблівасцямі. Сам даследчык раскопкамі не займаўся, але ён пільна сачыў за раскопкамі іншых археолагаў, фіксаваў помнікі для сваёй карты. Пры гэтым Семянтоўскі ўпершыню правёў класіфікацыю археалагічных аб'ектаў паводле іх колішняга прызначэння. Улік помнікаў вёў па кожным павеце Віцебскай губерні. Усяго даследчыкам апублікавана каля 150 навуковых працаў, прысвечаных Беларусі. Найбольш грунтоўным даследаваннем з'яўляецца кніга «*Беларусские древности*» (1890 г.) са змешчанымі ў ёй 106 малюнкамі розных прадметаў старажытнасцяў.

У 70 –80-х гады XIX ст. у галіне археалогіі і гістарычнага краязнаўства Беларусі пачынаюць з'яўляцца праблемныя і факталагічныя артыкулы новага пакалення вучоных, найперш Е.Р.Раманава, А.П.Сапунова, а таксама І.Ф.Завішы, Р.Г.Ігнацьева, М.М.Турбіна.

З 17 гадоў **Еўдакім Раманавіч Раманаў** (1855 – 1922 гг.) захапіўся краязнаўствам. Яго зацікавіла прырода помнікаў археалогіі. Даследчык шмат вандраваў па Беларусі, каб сабраць пра іх звесткі, пачынаў класіфікаваць помнікі старажытнасці паводле іх даўняй прыналежнасці.

Раманаў вывучаў курганы. Ён прапанаваў свой метад раскопак: здыманне пластоў зямлі да палавіны насыпу, а пасля з паўночнага і паўднёвага бакоў на адлегласці аднаго аршына (0,7112 м) пракопвалі траншэі да мацерыка. Стоячы ў гэтых траншэях, рабочыя слаямі здымалі зямлю з астатняй часткі кургана да поўнага выяўлення астанкаў. Гэты спосаб не зусім адпавядае сучаснаму, але гэта была «раманаўская» навінка ў методыцы археалагічных даследаванняў, больш прагрэсіўная за раней вядомыя.

Раманаў адным з першых у Беларусі ўзяўся за стварэнне археалагічнай карты Магілёўскай губерні. На жаль, яна не была выдадзена, і яе рукапіс аказаўся ў Львоўскім гістарычным архіве. Раманаў стварыў аналагічныя карты Гродзенскай і Віцебскай губерняў. За сваё жыццё даследчык сабраў звесткі больш як пра 1 тыс. помнікаў археалогіі на тэрыторыі Беларусі.

У 1902 г. па ініцыятыве гэтага вучонага ў Магілёве было створана Таварыства па вывучэнні Беларускага краю і пры гэтым жа таварыстве быў арганізаваны гісторыка-этнаграфічны музей. Раманаў марыў пра мясцовы універсітэт.

Энцыклапедычнасцю ведаў вызначаўся віцебскі краязнаўца і гісторык **Аляксей Парфёнавіч Сапуноў** (1851 – 1924 гг.). Ён прайшоў шлях ад радавога даследчыка да прафесара Маскоўскага археалагічнага інстытута. Поруч з педагагічнай працай Сапуноў вёў

шырокі пошук старажытных архіўных матэрыялаў па гісторыі Віцебшчыны. Сабраныя дакументы ўвайшлі ў «*Витебскую старину».* Гэтае выданне стала помнікам беларускай археаграфіі. Сабраны ім матэрыял дазволіў весці грунтоўныя краязнаўчыя даследаванні па гісторыі асобных населеных пунктаў, напрыклад, Віцебска, Полацка, Браслава, Лепеля, Чашнікаў і інш. Пры гэтым звярталася ўвага на помнікі археалогіі і архітэктуры. Многія з гэтых матэрыялаў увайшлі ў яго манаграфію «*Река Западная Двина»,* пазней у «*Исторический очерк Витебской Белоруссии», «Памятники времен древних и новейших в Витебской губернии».* Ва ўсіх гэтых працах ёсць краязнаўчы і археалагічны матэрыял. Сапуноў, акрамя Віцебшчыны, цікавіўся Магілёўшчынай. Ён жа складальнік і каментатар «*Материалов по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов...».* У гэтай кнізе таксама шмат ёсць звестак пра помнікі старажытнасці. Сапуноў быў ініцыятарам стварэння Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея, Віцебскай вучонай архіўнай камісіі.

Пры падрыхтоўцы да IX Археалагічнага з’езда ў Вільні штогод праводзіў экспедыцыі ў Мінскай і Магілёўскай губернях **Уладзімір Зянонавіч Завітневіч** (1853 – 1927 гг.). Ён даследаваў 647 курганоў, упершыню ўзяўся грунтоўна вывучаць пахавальны абрад дрыгавічоў, лічыў тыповым пахаваннем для іх пахаванне «на гарызонце». Археолаг праводзіў даследаванні ля Бабруйска, Мазыра, Рэчыцы. Цяжка было ў той час пісаць аб межах плямёнаў, найперш дрыгавічоў. Завітневіч зрабіў такі крок першым.

**Міхал Федароўскі** (1853 – 1923 гг.) у гісторыю беларускай навукі ўвайшоў не толькі як фалькларыст і этнограф, але і як археолаг. Ён вёў археалагічныя раскопкі, пераважна ў заходняй частцы Беларусі, капаў курганы, умацаваныя паселішчы, могільнікі і інш. Федароўскі адным з першых на Беларусі зацікавіўся старажытнымі паселішчамі эпохі бронзы і нават неалітычнымі, т.зв. «крэмневымі стаянкамі». Большасць археалагічных знаходак ён дасылаў на працягу 15 гадоў (1877 – 1892 гг.) З.Глогеру, які таксама цікавіўся беларускімі старажытнасцямі, у яго маёнтак Яжэва. Усяго Федароўскі пераслаў Глогеру каля 11 тыс. прадметаў археалогіі. Некаторыя археалагічныя экспедыцыі Федароўскага той жа Глогер асвятляў у друку. Археалагічныя раскопкі Федароўскі праводзіў да 1902 г. У 1904 г. ён пакінуў Беларусь. Даследчык шмат выступаў у друку як краязнаўца. Вядомы яго публікацыі пра Віцебск і яго ваколіцы, Пружаны, Слонім, Ваўкавыск, Навагрудчыну, Бераставіцу, Свіслач.

У 80 – 90-я гг. XIX ст. дзеля развіцця археалогіі і гістарычнага краязнаўства на Беларусі плённа працавалі В.А.Шукевіч, М.А.Янчук, А.П.Смародскі, І.Ф.Завіша, М.В.Доўнар-Запольскі, С.Ю.Чалоўскі, Ф.В.Пакроўскі, М.В.Фурсаў, Г.Х.Татур, І.І.Далгоў, А.К.Марэль і інш. Адны з іх вялі раскопкі помнікаў розных археалагічных эпохаў, іншыя займаліся сістэматызацыяй выяўленых помнікаў і складалі карты асобных паветаў і цэлых губерняў. Да канца XIX ст. уся Беларусь была ахоплена археалагічным вывучэннем.

**2. Роля беларускай літаратуры другой паловы XIX – пачатку XX ст. у станаўленні беларускай нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі**. Прынцыповае значэнне мела публікацыя ў першай палове 90-х гг. XIX ст. у Кракаве і Пазнані зборнікаў «*Дудка беларуская*» і «*Смык беларускі*» **Францішка Багушэвіча**. У прадмове да «Дудкі беларускай» паэт абвясціў пра існаванне самастойнай і паўнацэннай беларускай мовы – не мужыцкай, а «такой жа людскай і панскай, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая», адзначаў шматлікасць беларусаў («Нас не жменька, а шэсць мільёнаў») і слаўнае мінулае Беларусі, калі яна з’яўлялася цэнтрам ВКЛ, акрэсліў абшар, на якім ужывалася беларуская мова («ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, дзе Гродна, Мінск, Магілёў, Вільня»), папярэдзіў свой народ, што, страціўшы родную мову, ён як этнас загіне. «Дудка беларуская» абудзіла да творчай дзейнасці новае пакаленне нацыянальнай інтэлігенцыі, у тым ліку **А.Гурыновіча**, **Цётку**, **Янку Купалу** і іншых, заклала падмурак для развіцця сялянска-народніцкага кірунку ў беларускай літаратуры, які ў пачатку XX ст. стаў вызначальным.

Нацыянальна-дэмакратычнымі матывамі прасякнуты творы **Каруся Каганца** (Казіміра Кастравіцкага), напісаныя ў 90-я гг., але апублікаваныя значна пазней (*«Прамова»,* «*Наш сымболь»,* «*Згадка пра Галубка»* і інш.). Пісьменніка глыбока трывожыў лёс роднай мовы і нацыянальнай культуры, існаванню якіх рэальна пагражала ўзмацненне працэсаў асіміляцыі беларусаў. Каганец імкнуўся адрадзіць гістарычную памяць, а на яе падставе – нацыянальную годнасць і свядомасць беларусаў. Дзеля гэтага асвятляў слаўнае мінулае беларускай мовы, забытых легендарных герояў, што вызначыліся ў змаганні за свабоду радзімы, заклікаў да нацыянальна-вызваленчай барацьбы («за родную краіну, звычай і мову, за веру груддзю ставайце»).

Беларускі нацыянальны рух, перш чым палітычна аформіцца, прайшоў літаратурную стадыю свайго развіцця. Адпаведна, пер-

шымі даследчыкамі гэтага працэсу былі паэты і пісьменнікі. Сярод іншых можна адзначыць **М.Багдановіча**. У працы «*Белорусское возрождение»* ён заўважыў, што «до сих пор в белорусской литературе, как это постоянно встречается у начинающих возрождаться народов, главную роль еще продолжает играть поэзия». Сапраўды, нельга не заўважыць гэтую акалічнасць на прыкладзе творчасці Цішкі Гартнага, Янкі Купалы, Якуба Коласа. Вось чаму акцэнт у працы робіцца на развіцці беларускай літаратуры, асабліва паэзіі, дзейнасць БСГ разглядаецца праз прызму выдання ёю заротаў на беларускай мове, значэнне рэвалюцыі 1905 г. ацэньваецца з пункту гледжання легальнага ўжывання беларускай мовы. Паводле словаў аўтара, падчас рэвалюцыі з'явілася надзённая патрэба «...разобраться в окружающей жизни и ...лихорадочный спрос на идеологические ценности». Таму на першае месца М.Багдановіч ставіць ролю беларускіх выдавецтваў: «*Загляне сонца і ў наша аконца», «Наша хата», «Палачанін».* Для беларусаў, якія прызвычаіліся да таго, што іх мова была хамская, было важна, што гэтая мова загучала са старонак «Нашай Нівы». Гэты факт адыграў станоўчую ролю ў развіцці беларускага нацыянальнага руху.

Творчасць беларускіх літаратараў адыграла выключную ролю на завяршальным этапе станаўлення новай беларускай літаратурнай мовы, у самасцвярджэнні беларускай нацыі, прызнанні яе іншымі народамі. Маладая беларуская літаратура раскрыла пачуцці забытага і прыніжанага «мужыцкага народа», яго імкненне да волі і шчасця, роўнасці. Пры гэтым шырока выкарыстоўваліся гістарычныя тэмы. Гісторыя роднага краю асэнсоўвалася з нацыянальных пазіцыяў, іншы раз, асабліва ў паэзіі, ідэалізавалася.

**Янка Купала** ў сваёй творчасці зыходзіў з аб'ектыўнасці працэсу ўтварэння народаў, якія фармаваліся ў розных умовах на працягу многіх тысячагоддзяў – кожны са сваімі адвечнымі і адметнымі мовамі, звычаямі, парадкамі, нацыянальнымі праявамі. Народ ён параўноўваў з вялізнай сям'ёй-раднёй. Найбольш важнай адметнасцю народа лічыў мову, «якую вякі ўсвянцілі і ўкаранілі ў ім, на якой ён і яго продкі, з самага пачатку свайго паяўлення на зямлі, узраслі і ўзгадаваліся». Янка Купала не раз адзначаў, што ў гісторыі Беларусі быў перыяд, калі краіна жыла сваім незалежным жыццём, мела сваіх князёў, свае веча. Пазней, паводле Купалы, Беларусь папала пад уладарства Літвы, але беларуская мова ў той жа час стала мовай «літоўскіх законаў», «урадавым словам». Народ не страціў дзяржаўнасць. ВКЛ Янка Купала называў «Вялікім Літоўска-Беларускім княствам». Заняпад Беларусі ён адносіў да

часоў уніі ВКЛ з Польшчай, калі беларуская знаць, «каб заслужыцца на ласку ў польскім урадзе», здрадзіла свайму народу, прыняла польскую мову і культуру, «сталася чужацкай на сваёй беларускай зямлі». Панскі двор і сялянская вёска пачалі гаварыць на розных мовах. Класавыя супярэчнасці паміж панамі і сялянамі набылі нацыянальную афарбоўку. Паэт канстатаваў, што ў Расійскай імперыі на Беларусі да польска-панскага бізуна дабавілася «чыноўніцка-жандарская нагайка». Але народ, паводле слоў Янкі Купалы, «не зацёр сваёй асобнасці, свайго нацыянальнага духу..., хоць і валок на сабе ярмо колькі векавога чужога ўладарства», якое, праўда, надоўга затрымала яго нацыянальнае і культурнае развіццё. У артыкуле «*Вера і нацыянальнасць»* («Наша Ніва», 1914, №27) Купала адзначаў неспрыяльнае ўздзеянне на працэс станаўлення беларускай нацыі каталіцкага касцёла і праваслаўнай царквы, іх змагання за душу беларуса. У артыкуле падкрэслівалася, што ў беларусаў-каталікоў і беларусаў-праваслаўных «адна Бацькаўшчына – Беларусь, адна мова родная – беларуская, адны звычаі і абычаі, ад веку перадаваныя з пакалення ў пакаленне». Найцяжэйшыя часы гісторыі Беларусі паэт звязваў з чужацкім панаваннем і, зыходзячы з гэтага, рабіў выснову, што «толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу» («Беларусь», 1919, №33).

**3. Погляды К.Каліноўскага і беларускіх celнароднікаў на мінулае беларускага народа**. У 30 – 50-я гг. XIX ст. сярод прагрэсіўных вучоных, найперш расійскіх і ўкраінскіх, шырылася прызнанне факта існавання самастойнага беларускага этнасу. Сярод іх былі расійскія рэвалюцыянеры-дэмакраты **А.І.Герцэн**, **М.А.Бакунін**, **М.П.Агароў**, **М.А.Дабралюбаў**. У сваіх праграмах стварэння славянскай федэрацыі яны вызначалі для Беларусі статус, раўнапраўны з Расіяй, Украінай, Польшчай, Чэхіяй.

Справе абуджэння беларускага народа прысвяціў сваё жыццё **Кастусь Каліноўскі**. Погляды Каліноўскага па беларускім пытанні былі наступнымі: 1) адрозніваў сваю радзіму – Літву-Беларусь – ад Польшчы і Расіі і выступаў за ўтварэнне самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі; 2) прапагандаваў у «*Мужыцкай праўдзе»* рэвалюцыйна-дэмакратычныя шляхі вырашэння аграрнага і агульнапалітычнага пытанняў; 3) паказваў істотнае пагаршэнне становішча беларускага сялянства пасля далучэння да Расійскай імперыі; 4) даваў негатыўную ацэнку далучэнню уніятаў да праваслаўя. К.Каліноўскі ацэньваў унію як нацыянальную веру беларускага народа.

У канцы 70 – першай палове 80-х гг. XIX ст. істотную ролю ў беларускім нацыянальным руху, распрацоўцы нацыянальнай канцэпцыі гісторыі адыгралі **народнікі**. У нацыянальным пытанні народнікі зыходзілі з агульных для рэвалюцыйнага народніцтва высноў, закладзеных у 50 – 60-я гг. XIX ст. А.І.Герцэнам. У сувязі з абвастрэннем «польскага пытання» ён адстойваў ідэю самавызначэння украінскага і беларускага народаў.

Удзел ураджэнцаў беларускіх губерняў у агульнарасійскім народніцкім руху паклала пачатак афармленню беларускай нацыянальнай ідэалогіі. Адозва «*Да беларускай моладзі»* (1881 г.) заяўляла пра законныя правы беларускага народа на самастойнае і раўнапраўнае становішча ў «агульнай славянскай сям'і». У 1882 г. выйшла гектаграфаваная брашура «*Пісьмы пра Беларусь. Пісьмо першае»* **Данілы Баравіка**. Аўтар папракаў беларускую інтэлігенцыю ў няведанні ўласнага народа і заклікаў яе пайсці па прыкладзе украінскай, польскай і рускай інтэлігенцыі ў гэтай справе. Даніла Баравік адзначыў інэртнасць беларускай інтэлігенцыі, яе адставанне ад украінскай у справе нацыянальнага «абуджэння», цяжкае становішча беларускай нацыянальнай культуры і нацыянальнай самасвядомасці ў выніку польскага ўплыву. У брашуры раскрыта барацьба праваслаўных брацтваў супраць езуітаў, укараненне уніі сярод народа. Аўтар палічыў ліквідацыю уніяцкай царквы ў 1839 г. «абразай народнай душы», даў адмоўную ацэнку палітыцы русіфікацыі, праводзімай расійскім урадам. Выхад з гэтага становішча мог быць толькі ў абуджэнні ў народа нацыянальнай самасвядомасці.

Шэраг народніцкіх арганізацыяў (Гомель, Орша, семінарская народавольская група ў Мінску) лічылі нацыянальнае пытанне другасным перад задачай сялянскай рэвалюцыі. З іх асяродку выйшла «*Пасланне да землякоў-беларусаў»* **Шчырага Беларуса** (1884 г.), у якім вызначалася першачарговая задача народнікаў – вывучаць «народныя хваляванні і бунты, сацыяльную структуру і сацыяльныя адносіны».

Члены Беларускай сацыяльна-рэвалюцыйнай групы «**Гоман»** у 1884 г. выдалі два нумары гектаграфаванага часопіса «*Гоман»,* дзе ўпершыню абвяшчалася існаванне самастойнага беларускага этнасу як «асобнай галіны славянскага племені» і давалася тэарэтычнае абгрунтаванне гэтага тэзіса. Невядомыя аўтары адзначылі спецыфічныя кліматычныя, прыродна-геаграфічныя ўмовы і асаблівасці беларусаў, у тым ліку адметную мову, якія адрознівалі Беларусь ад Расіі, Польшчы і Украіны. Яны канстатавалі, што бела-

рускі народ адчувае сваё арганічнае адзінства і адрознівае свае інтарэсы ад інтарэсаў «польскіх і вялікарасійскіх», пратэставалі супраць русіфікацыі і паланізацыі беларусаў, выкрывалі рэакцыйнасць поглядаў на беларускі народ «як на нейкі матэрыял для ўсемагчымых эксперыментаў, а не як на жывую народнасць, здольную самастойна распараджацца сабою».

Прадстаўнікі Беларускай сацыяльна-рэвалюцыйнай групы адстойвалі права Беларусі на федэратыўную самастойнасць у сям'і іншых народаў Расіі на прынцыпе свабоднага пагаднення з імі. Становішча Беларусі ў Расійскай імперыі яны ацэньвалі як каланіяльнае, а палітыку царызму – як рэжым выключных законаў, які даваў волю для свавольства мясцовай адміністрацыі. Часопіс «Гоман» паказваў імкненне беларускіх сялян атрымаць зямлю і волю, пацвярджаў гэта паведамленнямі аб іх выступленнях супраць памешчыкаў і ўлады.

**4. Гістарычная публіцыстыка «Нашай Долі» і «Нашай Нівы».** Завяршальны этап барацьбы за прызнанне беларускай нацыі і яе права на самавызначэнне свайго лёсу звязаны з утварэннем і дзейнасцю першай нацыянальнай палітычнай партыі – **Беларускай сацыялістычнай грамады** (1903 – 1918 гг.). Пры гэтым важную ролю адыгралі навуковыя і навукова-папулярныя працы па гісторыі Беларусі, напісаныя з нацыянальных пазіцыяў. У 1905 – 1907 гг. пад кіраўніцтвам Грамады разгарнуўся шырокі нацыянальна-культурны адраджэнцкі рух, быў створаны нацыянальны перыядычны і кніжны друк.

У 1906 – 1915 гг. цэнтрам беларускага нацыянальна-адраджэнцкага руху з'яўляліся газеты «Наша Доля» і «Наша Ніва».

Першым легальным органам нелегальнай БСГ стала газета «**Наша Доля»,** якая выдавалася ў Вільні з верасня па снежань 1906 г. З шасці нумароў чатыры былі канфіскаваны паліцыяй. За першы, трэці і чацвёрты нумары газета была забаронена. Назва газеты сведчыла аб працяглай маргіналізацыі беларусаў і пасіўнасці свайму лёсу ніжэйшых слаёў грамадства і інтэлігенцыі.

У першым перадавым артыкуле «*Да чытачоў»* **Івана Тукеркеса** была абвешчана праграма «нацыянальнага абуджэння». Адсутнасць свабоды ў Расійскай імперыі прывяла да цемры і голаду беларускіх сялян. Паколькі свабода магла быць забяспечана толькі праз адукацыю і асвету, таму неабходна развіваць беларускае асветніцтва, «каб пазбавіцца нацыянальнай летаргіі».

Палітычны характар штотыднёвіка характарызуецца адзінствам палітычных і нацыянальных інтарэсаў яго выдаўцоў і рэдакцыйнай калегіі, што праявілася ў выкарыстанні тэрмінаў «беларускі народ», «беларуская нацыя». «Наша Доля» вызначалася ўжываннем простай мовы, празрыстай структурай сказаў і дыялогаў.

Важнай тэмай, якая стала прадметам абмеркавання на старонках «Нашай Долі», была дзейнасць І-й Дзяржаўнай думы. У артыкулах «Кандыдаты ад Вільні», «Якая будзе Дума?», «Што будзе?», «Авечы агітатар», «Пагром» раскрываліся думскія дэбаты і пазіцыя дэпутатаў ад беларускіх губерняў.

Агульны характар штотыднёвіка сведчыў аб сацыял-дэмакратычнай пазіцыі яе выдаўцоў і аўтараў. Яны выступалі за перадачу зямлі сялянам, арганізацыю рабочых саюзаў, лічылі неабходным стварыць супольнасці беднаты – «мужыцкія саюзы». Доля матэрыялаў, прысвечаных беларускай тэматыцы, складала невялікую частку ад агульнай колькасці публікацыяў. «Наша Доля» была адрасавана адукаванай частцы гарадскога насельніцтва, тым, хто мог пераказаць змест артыкулаў непісьменным сялянам.

Пасля закрыцця ўладамі «Нашай Долі» лідэры БСГ (браты І. і А.Луцкевічы, У.Уласаў, В.Іваноўскі, А.Пашкевіч і інш.) сталі выдаваць штотыднёвую газету «**Наша Ніва»,** якая друкавалася ў Вільні з лістапада 1906 г. да жніўня 1915 г. Выданне мела нацыянальна-асветніцкі характар, яе рэдактары імкнуліся «запаліць святло ў цемры» і «данесці навуку людзям». Змест штотыднёвіка складаўся з наступных рубрык: інфармацыя, спосабы правядзення вольнага часу, палітыка і культура, гісторыя і сучаснасць. Толькі за тры гады (1906 – 1909 гг.) у газеце было надрукавана 906 паведамленняў з 489 вёсак і мястэчак Беларусі. Але выданне нельга лічыць масавым – у 1911 г. наклад быў 3 тыс. паасобнікаў.

Нацыянальная гісторыя з’яўлялася галоўнай тэмай, якая дамінавала ва ўсіх нумарах штотыднёвіка. Ужо ў другім нумары на тытульнай старонцы на фоне руінаў Наваградскага замка рэдактары «Нашай Нівы» пісалі пра каранацыю Міндоўга ў 1252 г., пра пачаткі ВКЛ, пра першую сталіцу гэтай дзяржавы. Цікава, што аўтары ўпаміналі вялікага «песняра нашага краю» Адама Міцкевіча.

Таксама ў газеце друкаваліся матэрыялы па ўсеагульнай гісторыі, гісторыі літаратуры, этнаграфіі, мастацтву, гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху. Напрыклад, ананімны артыкул «*Сымон Канарскі»* (1907 г.), нарысы **А.Пагодзіна** «*Колькі слоў аб нацыянальным адраджэнні забытага народу»* (1908 г.), «*Владыслаў Сыракомля»* (1908 г.), артыкулы **Д.Дарашэнкі** «*Беларусы і іх на-*

*цыянальнае адраджэнне»* (1909 г.), **Зямкевіча** «*Адам Ганоры Кіркор»* (1911 г.), **В.Ластоўскага** «*З мінуўшчыны горада Быхава»* (1911 г.), «*Людвіг Кандратовіч»* (1912 г.), «*Хроніка ВКЛ»* (1914 г.).

Аўтары гістарычных публікацыяў лічылі, што родная мова – самы кароткі шлях да культурнасці беларусаў, а XIX ст. і расійская ўлада не прынеслі ім нічога карыснага. Рэдактар-выдавец У.Уласаў выказаў у 1908 г. думку, якая стала ў наступным гістарыяграфічнай традыцыяй: «беларуская нацыя – зона перакрыжавання станоўчых рысаў памежных нацыяў». Негатыўныя іх якасці не знайшлі ўкаранення сярод беларусаў. Канцэпцыя атрымала распрацоўку ў працах Ігната Абдзіраловіча (1921 г.) і Уладзіміра Конана (1992 г.).

На старонках «Нашай Нівы» публікавалася, а ў 1910 г. выйшла асобным выданнем «Кароткая гісторыя Беларусі» В.Ю.Ластоўскага – важная вяха ў станаўленні нацыянальнай гістарыяграфіі. Пры рэдакцыі «Нашай Нівы» намаганнямі І.Луцкевіча быў арганізаваны Беларускі музей. Дзякуючы штотыднёвіку раскрыліся літаратурныя таленты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Максіма Гарэцкага і іншых беларускіх пісьменнікаў, публіцыстаў і крытыкаў.

У цэлым у развіцці беларускай палітычна-гістарычнай публіцыстыкі пачатку XX ст. можна вызначыць чатыры тэндэнцыі: 1) аналіз гісторыі беларусаў з пазіцыяў самаабароны. Мінулае разглядалася не ў форме працэса гістарычнага развіцця, а як выпакутаная з'ява. Праблемы нацыянальнага руху разглядаліся праз развіццё асветы. Галоўную задачу газета «Наша Ніва» бачыла ў барацьбе за нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа. Шмат увагі яна надавала тэарэтычнаму і гістарычнаму абгрунтаванню права беларусаў на захаванне і развіццё сваёй мовы і нацыянальнай культуры. Газета паслядоўна выкрывала рэакцыйную палітыку царызму на Беларусі, пратэставала супраць падзелу яго па веравызнанні на «рускіх» і «палякаў». Яна настойліва патрабавала ўвядзення ў школу, царкву і касцёл на Беларусі беларускай мовы; 2) палітызацыя гісторыі Беларусі. Цікавасць да мінулага была выклікана не патрэбамі гістарычнай навукі, а палітычнай сітуацыяй; 3) адсутнасць у гістарычных даследаваннях агульнапрынятай тэрміналогіі, акрамя паняццяў «нацыя», «нацыяналізм», «патрыятызм»; 4) гістарычна-філасофскай асновай гістарычнага працэса аўтары публікацый лічылі хрысціянскую тэалогію. Працэс развіцця беларускага народа параўноўваўся з пакутніцкім шляхам Ісуса Хрыста.

**5. Станаўленне дэмакратычнай плыні беларускай гістарыяграфіі**. Пачынальнікам дэмакратычнай тэндэнцыі ў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі лічыцца Мітрафан Доўнар-Запольскі.

**Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі** (1867 – 1934 гг.) нарадзіўся ў сям'і дробнага шляхціца Віктара Марцінавіча Доўнар-Запольскага ў г.Рэчыца Мазырскага павета Мінскай губерні. Скончыў народнае вучылішча ў Баранавічах, вучыўся ў Мінскай гімназіі, Мазырскай прагімназіі, Кіеўскай 1-й гімназіі, якую скончыў экстэрнам. Затым прадоўжыў адукацыю на гісторыка-філалагічным факультэце Кіеўскага універсітэта, які скончыў у 1894 г.

У студэнцкія гады Доўнар-Запольскі пачаў актыўна займацца этнаграфічнай дзейнасцю і супрацоўнічаць з ліберальнай газетай «Минский листок». Па выніках экспедыцыяў на тэрыторыю Беларусі з'явіўся шэраг артыкулаў пад агульнай назвай «*Белорусское прошлое»* (1888 г.). Аўтар у іх вызначыў контуры канцэпцыі нацыянальнай гісторыі Беларусі: «беларускае племя» мае ўласную гісторыю, «беларускае племя» мае этнаграфічныя асаблівасці, «беларускае племя» – самы «чысты» тып славянства, беларуская гаворка паходзіць ад гаворкі крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў.

У 1891 г. выходзіць з друку праца Доўнар-Запольскага «*Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия»,* у якой даследчык раскрыў працэс утварэння дзяржаўнасці на тэрыторыі Беларусі на падставе каланізацыйнай тэорыі. Спецыфіку палітычнага развіцця крывіцка-дрыгавіцкіх земляў гісторык убачыў у іх ускраінным геаграфічным становішчы, што прывяло да фармавання асобнай ад Кіеўскай Русі дзяржаўнасці.

У студэнцкія гады Доўнар-Запольскі надрукаваў больш за 40 артыкулаў, нататак, рэцэнзіяў, у асноўным па этнаграфіі беларусаў. Ён рэцэнзаваў навуковыя працы такіх вядомых даследчыкаў, як М.Янчук, А.Семянтоўскі.

Ужо тады Доўнар-Запольскі робіць спробу стварэння «беларускага гуртка», выношвае ідэю выдання беларускага часопіса, арганізацыі навуковага таварыства, адкрыцця публічнай бібліятэкі ў Мінску і інш. У 1890 г. ён пазнаёміўся з Я.Ляцкім, у той час студэнтам Маскоўскага універсітэта, у будучым вядомым беларускім гісторыкам і этнографам, які пачаў весці агітацыю за стварэнне гуртка сярод студэнтаў-беларусаў у Маскве. Аднак справа практычна не зрушылася з месца. 26 студзеня 1894 г. Ляцкі пісаў М.В.Доўнар-Запольскаму з Масквы: «Да нашай мілай Беларусі тут

нікому і справы няма. Навуковыя таварыствы робяць сваю кар'еру, часопісы і газеты ўяўляюць сабой па большай частцы акцыянерныя таварыствы на паях... Для грамадства Беларусь нейкая яўрэйска-польская краіна...».

У 1894 г. Доўнар-Запольскі заканчвае Кіеўскі універсітэт. Старшыня экзаменацыйнай камісіі прафесар Ф.Зялінскі адзначыў, што выпускнік «валодае рэдкасным для яго ўзросту аб'ёмам ведаў, выключнай працаздольнасцю і выключнымі прыроднымі здольнасцямі».

Пасля заканчэння універсітэта яго навуковы кіраўнік загадчык кафедры рускай гісторыі прафесар У.Б.Антановіч садзейнічаў накіраванню юнака для далейшай навуковай падрыхтоўкі ў Маскву са стыпендыяй 600 рублёў. У 1895 г. Доўнар-Запольскі пачынае працаваць пазаштатным памочнікам архіварыўса Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі, а з 1898 г. – штатным памочнікам. Асноўную ўвагу ён канцэнтруе на вывучэнні дакументаў Літоўскай Метрыкі. Адначасова, каб здабыць сродкі для жыцця, ён працуе ў прыватнай жаночай гімназіі Ржэўскай, дае прыватныя ўрокі.

З гэтага часу пачынаецца дзейнасць Доўнар-Запольскага ў галіне археаграфіі і крыніцазнаўства. У 1897 г. выходзяць два тамы «*Документов Московского архива Министерства юстиции*», затым працы «*Литовские упоминки татарским ордам: Скарбовая книга Метрики Литовской 1502-1509 гг.*» (1898 г.), «*Акты Литовско-Русского государства (XIV – XVI ст.)*» (1899 г.). У 1898 г. ён упершыню надрукаваў поўны тэкст *Баркулабаўскай хронікі*.

У Маскве даследчык садзейнічаў арганізацыі Археаграфічнай камісіі пры Маскоўскім археалагічным таварыстве, якім кіраваў пяць гадоў. Ён таксама працуе прыват-дацэнтам кафедры рускай гісторыі Маскоўскага універсітэта, якую ўзначальваў знакаміты гісторык В.В.Ключэўскі: чытае спецкурсы пра рэформы Аляксандра І, лекцыі па гісторыі дзекабрыстаў, вядзе практычныя заняткі па гісторыі Расіі XVII ст.

Менавіта маскоўскі перыяд творчасці Доўнар-Запольскага прадвызначыў галоўны кірунак навуковых даследаванняў вучонага – эканамічную гісторыю. У 1901 г. ён абараніў у Кіеве магістарскую дысертацыю «*Государственное хозяйство ВКЛ при Ягеллонах*». Яна пазней была выдадзена асобнай кнігай і атрымала прэмію імя П.Бацюшкава. Прафесарамі Кіеўскага універсітэта Антановічам і Галубоўскім праца была ацэнена як «вельмі каштоўны ўклад у навуку». Даследаванне сведчыла пра схільнасць гісторыка да эканамічнага матэрыялізму і пазітывісцкай канцэпцыі Антановіча.

У 1901 г. Доўнар-Запольскі вяртаецца ў Кіеў, дзе пачаў працаваць прыват-дацэнтам, затым ардынарным прафесарам і загадчыкам кафедры рускай гісторыі Кіеўскага універсітэта.

Доўнар-Запольскі надаваў вялікую ўвагу вывучэнню гісторыі Беларусі. У 1905 г. у Санкт-Пецярбургу пад рэдакцыяй В.П.Сямёнава выходзіць дзевяты том працы «*Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Настольная и дорожная книга для русских людей*». Тут змешчаны два вялікія артыкулы Доўнар-Запольскага і Шэндрыка «*Исторические судьбы Верхнего Поднепровья и Белоруссии и культурные их успехи*» і «*Распределение населения Верхнего Поднепровья и Белоруссии по территории, его этнический состав, быт и культура*». У тым жа годзе ў Маскве выходзяць два тамы «*Русской истории в очерках и статьях*» пад рэдакцыяй Доўнар-Запольскага, а ў Кіеве зборнік артыкулаў «*Из истории общественных течений в России*», дзе змешчаны шэраг яго працаў.

У 1905 г. Доўнар-Запольскі абараніў доктарскую дысертацыю «*Очерки по истории западнорусского крестьянства в XVI в.*», у якой галоўную ўвагу прысвяціў аграрнай рэформе Жыгімонта ІІ Аўгуста. Яна выходзіць асобным выданнем. Прафесар М.К.Любаўскі ў сваёй рэцэнзіі даў працы Доўнар-Запольскага высокую ацэнку.

У 1908 г. даследчык арганізуе ў Кіеве Камерцыйны інстытут. У ім было два аддзяленні: камерцыйнае і эканамічнае, з чатырохгадовым тэрмінам навучання, і Музей таваразнаўства. Доўнар-Запольскі выкарыстаў вопыт работы камерцыйных навучальных устаноў Германіі, вышэйшых камерцыйных курсаў у Маскве.

У 1907 г. інстытут займаў невялікі будынак, а ў 1917 г. з’яўляўся ўласнікам некалькіх шматпавярховых будынкаў з вялікімі заламі і аўдыторыямі. Былі створаны багатая бібліятэка, кабінеты: фізічны, геалагічны і горназаводскай справы, статыстычны, чыгуначнай, страхавой справы, кабінет гігіены, працавалі лабараторыі сельскагаспадарчага таваразнаўства, хіміі.

Вялікая ўвага ў інстытуце надавалася фундаментальнай падрыхтоўцы. Вывучэнне асноўных тэндэнцыяў развіцця Расійскай імперыі вялося ў кантэксце даследавання гісторыі еўрапейскай і сусветных цывілізацыяў. Вывучаліся англійская, нямецкая, французская мовы, мовы народаў Расійскай імперыі, а таксама сербская, турэцкая, кітайская, японская. Студэнты разам з выкладчыкамі ажыццяўлялі экскурсіі ў прамысловыя цэнтры імперыі.

Наступныя работы Доўнар-Запольскага «*Очерк экономического строя Древней Руси»* (1909 г.), «*История русского народного хозяйства»* (1919 г.) заклалі аснову эканамічнай гісторыі ў рускай, беларускай і ўкраінскай гістарыяграфіі. Можна сцвярджаць, што даследчык з'яўляецца адным з пачынальнікаў выкладання эканамічнай гісторыі ў ВНУ Расійскай імперыі.

У 1910 г. выйшла першая сінтэтычная праца па айчыннай гісторыі, напісаная з пазіцыяў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, «*Кароткая гісторыя Беларусі»* Вацлава Ластоўскага.

**Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі** (1883 – 1938 гг.) нарадзіўся ў засценку Калеснікаў Дзісненскага павета Віленскай губерні. Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, філолаг, этнограф, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнаўца. Член-карэспандэнт Украінскай акадэміі грамадазнаўства ў Празе (1926 г.), акадэмік АН БССР (1928 г.). З 1902 г. член ППС на Літве, у 1906 – 1908 гг. член БСГ. Сакратар «Нашай Нівы» (1909 – 1914 гг.). Біяграфія В.Ластоўскага – тыповы шлях станаўлення беларускай інтэлігенцыі мяжы XIX – XX стст. Ён не меў сярэдняй і вышэйшай адукацыі, але шляхам самаадукацыі кампенсаваў гэты недахоп.

У прадмове да кнігі Ластоўскі растлумачыў, чаму ён узяўся за гэтую працу. На яго думку, «гісторыя – гэта фундамэнт, на каторым будуецца жыцьцё народу». Праца адметная тым, што ўпершыню наша гісторыя падаецца не як гісторыя «ўсходніх крэсаў» Рэчы Паспалітай або Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі, а як гісторыя адметнай і самадастатковай Беларусі.

Аўтарам былі выкарыстаны даследаванні этнаграфічнага, гістарычнага і статыстычнага характару расійскіх, польскіх і беларускіх навукоўцаў, у тым ліку М.В.Каяловіча, Я.Ф.Карскага і М.В.Доўнар-Запольскага, апублікаваныя зборнікі дакументаў. За ўзор даследчык узяў невялікія па аб'ёме нацыянальныя гісторыі Польшчы і Украіны. Ластоўскі стварыў нацыянальную кампіляцыю гісторыі, змест якой вынікаў з палітычных патрэбаў і грунтаваўся на даследаваных гістарычных фактах.

Праца падзелена на пяць перыядаў: 1) ад старажытных часоў да ўцёкаў полацкіх князёў у Літву (1129 г.); 2) ад вяртання полацкіх князёў да смерці Вітаўта (1132 – 1430 гг.); 3) ад смерці Вітаўта да Люблінскай уніі (1430 – 1569 гг.); 4) ад Люблінскай уніі да падзелаў Польшчы; 5) Беларусь пад расійскім панаваннем.

Даследчыкі лічаць «Кароткую гісторыю Беларусі» «рамантызаванай» гісторыяй. Ластоўскі зыходзіў з пазіцыі бяскласавасці гістарычнага працэсу і спрадвечнай дэмакратычнасці беларускага

грамадства. Гісторыя Беларусі ім ўспрымалася як гісторыя самаразвіцця грамадскай самасвядомасці, а гэта было звязана з рэлігійнасцю. Даследчык ідэалізаваў грамадскія структуры XV – XVI стст., перабольшваў ролю інтэлігенцыі ў фармаванні нацыі. Відавочна і пэўная мадэрнізацыя гістарычнага працэсу – пошук беларускай дзяржаўнасці ў старажытнарускі перыяд.

Для пачатковага перыяду беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі ў цэлым характэрны шэраг памылковых гістарычных палажэнняў. Нельга пагадзіцца з тэзісам Доўнар-Запольскага і Ластоўскага, што Полацкае княства ў IX – XII стст. было «зыходным пунктам беларускай дзяржаўнасці». Аўтары адмаўлялі прызванне нарманаў-варагаў на тэрыторыю Беларусі. Таксама Доўнар-Запольскі выказаў думку аб этнічнай «чысціні» крывічоў, якія не спазналі фінскага ўплыву.

Спрэчным з'яўляеццам тэзіс аб «дэмакратычным ладзе» Полацкага княства: быццам бы крывічы, дрыгавічы, радзімічы жылі ва ўзаемнай згодзе са сваімі князямі. У якасці доказу Ластоўскі прыводзіць прыклад шанавання Усяслава Брачыславіча мясцовым насельніцтвам, але не раскрывае летапіснае паведамленне аб «пралітай ім крыві».

Першыя нацыянальныя гісторыкі з сімпатыяй ставіліся да Міндоўга. Ластоўскі лічыў, што Рынгольт разам с сынам Міндоўгам былі выхадцамі з «Літоўска-Крывічанскага» княства са сталіцай у Навагародку. Гэта вызначалася этнічным складам мясцовых жыхароў – «ліцвінамі-крывічамі». ВКЛ успрымалася як «Руска-Літоўскае», дзе беларускі этнас меў спрыяльныя ўмовы для развіцця. Але беларуская самастойная гісторыя скончылася са смерцю Вітаўта. Асновай гістарычнай канцэпцыі Літвы стала тэорыя «залатога веку культуры»: 1517 – 1569 гг. (ад выдання ў Празе кніг Бібліі Ф.Скарынай да Люблінскай уніі).

Можна канстатаваць той факт, што беларуская нацыянальная гістарыяграфічная канцэпцыя зарадзілася як канцэпцыя заняпаду беларускага этнасу. Пачынаючы з XVII ст., мінулае Беларусі падавалася як нацыянальная дэзінтэграцыя, спыненне паступовага развіцця і ўмацаванне чужародных для беларусаў элементаў грамадскага развіцця. Быў створаны вобраз народа-пакутніка.

Войны на тэрыторыі Беларусі ў XVII – пачатку XVIII стст. разглядаліся з негатыўных пазіцыяў, бо пасягалі на самастойнасць беларускага этнаса. Паланізацыя і русіфікацыя прывялі да стварэння вобраза ворага (Польшча, Расія), а гэта сведчыла аб моцнай палітызацыі айчыннай гісторыі.

## Праверачны тэст

***I. Вызначце правільны адказ.***

1. Беларусазнаўства аформілася ў
   А) другой палове XVIII ст.
   Б) першай палове XIX ст.
   В) другой палове XIX ст.
   Г) пачатку XX ст.
2. Назва «Беларусь» у першай палове XIX ст. была замацавана за
   А) Магілеўскай і Мінскай губернямі
   Б) Віленскай і Віцебскай губернямі
   В) Віцебскай і Магілёўскай губернямі
   Г) Гродзенскай і Віленскай губернямі.
3. Ян Чачот называў беларускую мову
   А) славяна-крывіцкай
   Б) славяна-дрыгавіцкай
   В) славяна-радзіміцкай
   Г) славяна-польскай.
4. Пецярбургская АН адхіліла граматыку беларускай мовы, складзеную
   А) І.І.Грыгаровічам
   Б) З.Я.Даленгай-Хадакоўскім
   В) Я.П.Тышкевічам
   Г) П.М.Шпілеўскім.
5. Крытэрыям вызначэння этнасу П.В.Баброўскі лічыў
   А) мову
   Б) традыцыі
   В) менталітэт
   Г) этнічную тэрыторыю.
6. Аўтар брашуры «Пісьмы пра Беларусь. Пісьмо першае»
   А) К.Каліноўскі
   Б) А.І.Герцэн
   В) Даніла Баравік
   Г) Шчыры Беларус.
7. Народнікі вызначалі становішча Беларусі ў складзе Расійскай імперыі як
   А) роўнапраўнае
   Б) незалежнае
   В) каланіяльнае
   Г) аўтаномнае.
8. Беларуская сацыяльна-рэвалюцыйная група
   А) «Гоман»
   Б) Паўночна-Заходняя арганізацыя «Народнай волі»
   В) «Чорны перадзел»
   Г) «Зямля і воля».

9. Спрабаваў скласці паказальнік слоў і выразаў Навагрудчыны
А) Ю.Ф.Крачкоўскі
Б) І.І.Насовіч
В) М.Я.Нікіфароўскі
Г) М.А.Дзмітрыеў.

10. Старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі, укладальнік XVI і XX тамоў АВАК, аўтар першага грунтоўнага даследавання пра радзінны абрад беларусаў і выхаванне дзіцяці
А) І.І.Насовіч
Б) Ю.Ф.Крачкоўскі
В) П.В.Шэйн
Г) М.А.Дзмітрыеў.

11. І.І.Насовіч атрымаў залаты медаль Рускага геаграфічнага таварыства за
А) «Беларускія прыказкі і прымаўкі»
Б) «Беларускія прыказкі і загадкі»
В) «Зборнік беларускіх прыказак»
Г) «Беларускія песні».

12. 16 гадоў І.І.Насовіч працаваў над
А) «Успамінамі з майго жыцця»
Б) Слоўнікам беларускай мовы
В) «Аб плямёнах да часоў Рурыка»
Г) «Беларускімі песнямі».

13. Новы метад раскопак прапанаваў
А) А.М.Семянтоўскі-Курыла
Б) М.Ф.Кусцінскі
В) А.П.Сапуноў
Г) Е.Р.Раманаў.

14. Ініцыятар стварэння Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея, Віцебскай вучонай археалагічнай камісіі
А) М.Федароўскі
Б) А.П.Сапуноў
В) Е.Р.Раманаў
Г) М.Ф.Кусцінскі.

15. Сялянска-народніцкі кірунак у беларускай літаратуры вызначыў (ла)
А) Я.Купала
Б) Цётка
В) Ф.Багушэвіч
Г) А.Гурыновіч.

16. Аналіз беларускага нацыянальнага руху прадставіў (ла) у працы «Беларускае адраджэнне»
А) Ф.Багушэвіч
Б) Я.Купала
В) М.Багдановіч
Г) Цётка.

17. «Наша Доля» мела характар
А) нелегальны
Б) сацыял-дэмакратычны
В) грамадска-палітычны
Г) заходнерускі.

18. Канцэпцыю аб тым, што беларусы – «зона перакрыжавання станоўчых рысаў памежных нацыяў» прапанаваў
А) У.Уласаў
Б) І.Тукеркес
В) І.Абдзіраловіч
Г) У.Конан.

19. М.В.Доўнар-Запольскі скончыў
А) Пецярбургскі універсітэт
Б) Маскоўскі універсітэт
В) Дэрпцкі універсітэт
Г) Кіеўскі універсітэт.

20. У студэнцкія гады М.В.Доўнар-Запольскі супрацоўнічаў з газетай
А) «Наша Доля»
Б) «Наша Ніва»
В) «Мінскі лісток»
Г) «Северо-Западный край».

21. Доктарская дысертацыя М.В.Доўнар-Запольскага была прысвечана
А) рэформе А.Тызенгаўза
Б) рэформе Жыгімонта Аўгуста
В) рэформе П.Кісялёва
Г) рэформе П.Сталыпіна.

***II. Што аб'ядноўвае пералік?***

1. М.К.Бабро́ўскі, І.Ярашэвіч, І.Анацэвіч, І.Даніловіч.
2. «Нарысы Віцебскай Беларусі», «Старонкі з нядаўняй мінуўшчыны горада Віцебска», «Беларускія песні-частушкі».
3. А.Я.Багдановіч, Я.Ф.Карскі, Ю.Ф.Крачкоўскі, Я.Лучына, М.Я.Нікіфароўскі, З.Ф.Радчанка.

# Тэма 7. Гістарычная навука БССР у 1919 – 1941 гг.

## План

1. Фармаванне арганізацыйных асноваў гістарычнай навукі ў БССР.

2. Падрыхтоўка гістарычных кадраў у даваенны перыяд.

3. Укараненне марксісцка-ленінскай метадалогіі. Ідэйна-палітычная барацьба з яўрэйскімі гісторыкамі-марксістамі ў 20-я – пач. 30-х гг.

4. Ідэйна-палітычная барацьба з беларускімі нацыянальнымі гісторыкамі ў 20-я – пач. 30-х гг.

## Рэкамендаваная літаратура


1. Брыгадзін, П.І. Усевалад Ігнатоўскі: Палітычны дзеяч, вучоны / П.І.Брыгадзін, І.Д.Мацяс. – Мн.: Полымя, 1998. – 96 с.

2. Достижения исторической науки в БССР за 50 лет (1919 – 1969 гг.): краткий очерк / под ред. И.С.Кравченко и З.Ю.Копысского. – Мн.: Наука и техника, 1970. – С. 21 – 22.

3. Гануш, А.Г. Мітрафан Доўнар-Запольскі / А.Г.Гануш, П.С.Кручок; пад рэд. В.Ф.Кушнера. – Мн.: Агенцтва «Геронт – А», 1995. – 30 с.

4. Ігнаценка, І. Усевалад Ігнатоўскі і яго час / І.Ігнаценка, А.Кароль. – Мн., 1991.

5. Советская историография. – М.: Российск. гуманит. ун-т, 1996. – 592 с.

6. Інстытут беларускай культуры. – Мн., 1993.

7. Інстытут гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі: (Да 70-годдзя ўтварэння) / М.П.Касцюк [і інш.]. – Мн.: Экаперспектыва, 1999. – 107 с.

8. Лінднэр, Р. Гісторыкі і ўлада: Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст. / Р.Лінднэр. – СПб.: Неўскі прасцяг, 2003. – С. 147 – 236.

9. Михнюк, В.Н. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919 – 1941 гг.) / В.Н.Михнюк; под ред. П.Т.Петрикова. – Мн.: Наука и техника, 1985. – С. 3 – 201.


## Тэматыка рэфератаў

1. У.І.Пічэта – арганізатар гістарычнай навукі БССР.

2. Уплыў грамадска-палітычнай сітуацыі другой паловы 20-х – 30-х гг. XX ст. на развіццё гістарычнай навукі БССР.

3. Укараненне марксісцка-ленінскай метадалогіі ў гістарычную навуку БССР.

**1. Фармаванне арганізацыйных асноваў гістарычнай навукі ў БССР**. Утварэнне беларускай савецкай дзяржаўнасці ў 1919 г. прадвызначыла новы этап у развіцці гістарычнай навукі, што праявілася ў арганізацыі навуковых цэнтраў па вывучэнні айчыннай гісторыі.

Вядучай навуковай установай акадэмічнага профілю ў 20-я гг. XX ст. з'яўляўся *Інстытут беларускай культуры* (Інбелкульт), створаны 30 студзеня 1922 г. на базе навукова-тэрміналагічнай камісіі. Яго першым старшынёй быў выбраны С.М.Некрашэвіч, а затым У.М.Ігнатоўскі.

> **Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі** (1881 – 1931 гг.) нарадзіўся ў в.Такары Брэсцкага павета Гродзенскай губерні. Пасля заканчэння Тартускага універсітэта (1911 г.) працаваў у Віленскай прыватнай жаночай гімназіі, затым у Мінскім настаўніцкім інстытуце. Прымаў актыўны ўдзел у палітычных падзеях 1917 – 1919 гг. на тэрыторыі Беларусі. Займаў шэраг адказных пасадаў ва ўрадзе БССР (наркам земляробства, наркам асветы). З 1926 г. старшыня, а затым прэзідэнт Інбелкульта. Першы прэзідэнт АН БССР і першы дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР. У 20-я гг. напісаў больш за 20 навуковых працаў.

Спачатку ў Інбелкульце было дзве секцыі: гуманітарная і прыроды. Але асноўныя даследаванні з прычыны недахопу матэрыяльных сродкаў вяліся па гуманітарных навуках. Працавалі секцыі і камісіі па складанні слоўніка жывой беларускай мовы, дыялекталагічная, бібліяграфічная, літаратурна-мастацкая, культурна-гістарычная і інш.

У сакавіку 1924 г. былі арганізаваны новыя секцыі па этнаграфіі і геаграфіі, мастацтву, праву, педагогіцы, медыка-ветэрынарная, сацыяльна-эканамічная. Ужо ў пачатку 1926 г. у Інбелкульце секцыяў стала 8, у тым ліку сацыяльна-гістарычная пад кіраўніцтвам У.І.Пічэты.

На хвалі беларусізацыі ў Інбелкульце з 1924 г. пачалі дзейнічаць польскі і яўрэйскі нацыянальныя аддзелы, а пазней літоўская і латышская кафедры. Аддзелы складаліся з сектараў, сярод якіх абавязкова быў гістарычны.

Таксама ў Інбелкульце з кастрычніка 1925 г. як навуковае таварыства дзейнічала гісторыка-археалагічная камісія на чале з М.В.Доўнар-Запольскім. Яна займалася вывучэннем гістарычных крыніцаў. У прыватнасці, быў падрыхтаваны другі том «*Беларускага архіва*», выдаваліся «*Працы і матэрыялы па гісторыі і археалогіі Беларусі*», «*Запіскі аддзела гуманітарных навук*». Буйным

мерапрыемствам стала правядзенне ў Мінску ў студзені 1926 г. Першага з’езда даследчыкаў археалогіі і археаграфіі Беларусі.

Спецыяльная камісія інстытута (Я.Л.Дыла, З.Ф.Жылуновіч, М.А.Ляўкоў, В.Ф.Шаранговіч і інш.) вывучала праблемы гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы. Яна выдала зборнік «*Сацыялістычны рух на Беларусі ў пракламацыях 1905 года*» (1927 г.). Таксама яе члены прымалі ўдзел у стварэнні кінафільма «Кастусь Каліноўскі». А вось сацыяльна-гістарычная секцыя выпусціла ў 1925 г. зборнік артыкулаў «*Чатырохсотлецце беларускага друку*».

У 1928 г. секцыі Інбелкульта былі пераўтвораны ў кафедры. Да гістарычных адносіліся кафедры: гісторыі Беларусі, гісторыі беларускага права, археалогіі і этнаграфіі, усеагульнай гісторыі. Таксама дзейнічалі археаграфічная камісія, камісіі па гісторыі гарадоў, гісторыі народнай адукацыі, па вывучэнні Заходняй Беларусі і іншыя.

Тым самым Інбелкульт паклаў пачатак планаваму вывучэнню гісторыі Беларусі як самастойнага кірунку гістарычнай навукі.

15 кастрычніка 1929 г. Інстытут беларускай культуры быў рэарганізаваны ў *Акадэмію навук БССР* (БАН). Праўда, не ўсе даследчыкі згодны з ўжываннем тэрміна «рэарганізацыя». Па сутнасці, гэта была новая навуковая ўстанова, якая структурна адпавядала сістэме навуковых устаноў СССР. Акадэмік М.М.Пакроўскі вітаў утварэнне АН БССР. Ён лічыў, што гэтай падзеяй «можна прадэманстраваць пыхліваму польскаму ўраду, што яму не варта даручаць пісаць кнігі па гісторыі Беларусі польскім аўтарам і што тут маецца высокага ўзроўню навука».

Гістарычныя даследаванні праводзіліся ў *Інстытуце гістарычных навук* БАН, які складаўся з пяці камісіяў: гісторыі Беларусі, археаграфічнай, археалагічнай, гісторыі беларускага мастацтва і ўсеагульнай гісторыі. Штат супрацоўнікаў інстытута першапачаткова складаў 9 чалавек.

У сакавіку 1931 г. Інстытут гістарычных навук быў рэарганізаваны ў *Інстытут гісторыі АН БССР*. Спачатку ў ім дзейнічала чатыры секцыі: гісторыі Беларусі, гісторыі Захада, археалогіі, этнаграфіі, а вось у 1940 г. толькі тры: гісторыі Беларусі і народаў СССР, археалогіі, этнаграфіі і фальклору. У даваенны перыяд гэтую навукова-даследчую ўстанову ўзначальвалі **Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі** (1929 – 1931 гг.), **Павел Восіпавіч Горын** (1931 – 1936 гг.), **Васіль Карпавіч Шчарбакоў** (1936 – 1937 гг.), **Мікалай Міхайлавіч Нікольскі** (1937 – 1953 гг.).

Супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР у даваенны перыяд займаліся падрыхтоўкай абагульняльных працаў па гісторыі Беларусі. Напрыклад, акадэмік В.К.Шчарбакоў у 1934 г. выдаў першую частку «Нарысаў па гісторыі Беларусі», напісаных з пазіцыяў марксісцкай метадалогіі. Калектыў аўтараў пад кіраўніцтвам У.І.Пічэты падрыхтаваў і выдаў «*Нарысы па гісторыі Беларусі. Ч. 1*» (1941 г.). Рыхтаваліся падручнікі па гісторыі Беларусі для сярэдняй школы і ВНУ. Але да Вялікай Айчыннай вайны здолелі асвяціць айчынную гісторыю да 1900 года (для школаў) і да 30-х гг. XIX ст. (для ВНУ).

У Інстытуте гісторыі даследаваліся тэмы руска-амерыканскіх адносінаў у канцы XIX – пачатку XX ст., Мінскага Савета ў 1917 г., матываў класавай барацьбы ў фальклоры, рэвалюцыі 1905 г. у Польшчы, рэформы 1861 г. у Беларусі, прамысловага крызісу пачатку XX стагоддзя. У Беларускую Савецкую Энцыклапедыю супрацоўнікі Інстытута напісалі 486 артыкулаў.

У 30-я гг. актуальнай праблемай становіцца гісторыя пралетарыята Беларусі. Пастанова ЦК ВКП(б) патрабавала вывучэння гісторыі фабрык і заводаў. Таму пры Інстытуте гісторыі быў створаны сакратарыят гісторыі фабрык і заводаў БССР. Цэнтральнае бюро краязнаўства рыхтавала кнігу «*История фабрик и заводов*». А часопіс «Савецкая краіна» нават апублікаваў артыкул метадычнага характару аб зборы матэрыялаў па гісторыі фабрык і заводаў.

Шмат увагі надавалася публікацыі архіўных матэрыялаў. Разам з Цэнтральным архівам БССР быў распрацаваны план серыйнага выдання крыніцаў па гісторыі Беларусі. Супрацоўнікі інстытута падрыхтавалі і выпусцілі два тома дакументаў: «*Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах, т. 1*» (1936 г.), «*Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі, т. 2*» (1940 г.).

У даваенны перыяд Інстытут гісторыі пачаў праводзіць гістарычныя навуковыя канферэнцыі. У студзені 1935 г. больш за 200 выкладчыкаў і навуковых работнікаў рэспублікі прынялі ўдзел у навуковай канферэнцыі, падрыхтаванай Інстытутам гісторыі і Наркаматам асветы БССР. На ёй разглядалася рэалізацыя пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР», былі заслуханы справаздачы акадэміка В.К.Шчарбакова аб стане навукова-даследчай працы і гістарычнай адукацыі, акадэміка У.М.Перцава аб выкладанні гісторыі ў школах БССР.

У сакавіку 1939 г. адбылася навукова-тэарэтычная канферэнцыя, падрыхтаваная Інстытутам гісторыі АН БССР. Была абмеркавана справаздача акадэміка М.М.Нікольскага аб плане даследаван-

няў інстытута, заслуханы паведамленні аб падрыхтоўцы падручнікаў па гісторыі БССР для ВНУ і школаў, разгледжана пытанне аховы помнікаў гісторыі і рэвалюцыйнага руху і інш.

Наступная навуковая канферэнцыя прайшла ў студзені 1941 г. Яна насіла праблемны характар у сэнсе разглядаемых пытанняў. Яе ўдзельнікі абмеркавалі даклады аб паходжанні беларускага народа, аб паўстанні 1863 г., аб аднаўленні народнай гаспадаркі і культуры пасля грамадзянскай вайны, індустрыялізацыі ў БССР.

Нельга абмінуць негатыўны ўплыў каманднa-адміністрацыйнай сістэмы на дзейнасць Інстытута гісторыі. Хваля рэпрэсіяў закранула яго супрацоўнікаў. У лістападзе 1932 г. вучоны сакратар Інстытута гісторыі В.Карніенка на запыт ЦК КП(б)Б падрыхтаваў даклад у форме даносу аб навуковай і палітычнай дзейнасці Інстытута гісторыі. На яго думку, яшчэ ў Інбелкульце з 1925 г. пачалася прапаганда «нацыянал-дэмакратызму». Прычыну «небяспечнай сітуацыі на гістарычным фронце» В.Карніенка бачыў у дзейнасці кіраўніцтва Прэзідыўма АН БССР. Было ўказана, што толькі 27,3 % супрацоўнікаў Інстытута гісторыі з’яўляліся членамі ВКП(б).

Да найбольш «каштоўных» кадраў В.Карніенка аднёс П.В.Горына, В.К.Шчарбакова, М.М.Нікольскага, В.Д.Дружчыца. Іншыя супрацоўнікі атрымалі абмежавана станоўчую ацэнку (Рыўлін, Засценкер, Поташ). Беспартыйны гісторык У.Гесэн быў названы «сапраўдным ворагам», а яго кватэра – «штаб-кватэрай трацкісцка-бундаўскіх элементаў».

Ужо ў 1936 г. у Інстытуце гісторыі адбылася чыстка ад «шкодных трацкісцкіх і нацдэмаўскіх элементаў». А з наступнага года наркам НКУС БССР Наседкін пачаў рэгулярны пошук «злосных ворагаў Савецкай улады» у АН БССР. Колькасць аспірантаў скарацілася са 139 да 6. А ў самім Інстытуце гісторыі за перыяд з 1932 па 1937 гг. з 97 запланаваных да публікацыі працаў выйшла 10 (прычым 7 з іх канфіскавалі). Былі рэпрэсаваныя Е.І.Рыўлін, С.М.Некрашэвіч, З.Ф.Жылуновіч, І.З.Сурта, С.Ю.Матулайціс, Б.А.Тарашкевіч, В.А.Сербента і іншыя. Калі штат Інстытута ў 1930 г. складаў 20 чалавек, то ў 1941 г. – толькі 22.

У 20-я гг. вывучэннем гісторыі Беларусі займаліся *гістпарты* – камісіі па гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і Камуністычнай партыі, утвораныя згодна з пастановаю СНК РСФСР ад 21 верасня 1920 г.

Гістпарт меў тры філіялы на тэрыторыі БССР: у Гомелі (з 1920 г.), Мінску (з 1921 г.) і Віцебску (з 1921 г.). Працавала камісія праз упаўнаважаных ва ўездах і праз групы падтрымкі.

Якія функцыі выконвалі камісіі Гістпарта? Па-першае, збор гістарычнага дакументальнага матэрыяла аб падзеях Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны на мясцовай тэрыторыі. Па-другое, фармаванне мемуарнага фонда аб гістарычных падзеях. Па-трэцяе, выданне кніг па гісторыі бальшавіцкай партыі ў БССР. Па-чацвёртае, ідэалагічная функцыя, накіраваная на ўстанаўленне адзінай марксісцка-ленінскай метадалогіі ў гістарычных даследаваннях.

Асабліва актыўнай дзейнасцю вылучаўся Мінскі гістпарт, які лічыўся Гістпартам ЦБ КП(б)Б. Першым яго старшынёй быў прызначаны **Вільгельм Георгіевіч Кнорын**.

Менавіта ён у 1923 г. выдаў першую кнігу па гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі – «*5 лет. Краткий конспект истории КП(б)Б».* Праца камісіі актывізавалася пры яе новым старшыні З.Жылуновічу, прызначаным на гэтую пасаду ў лістападзе 1923 г. Пры ім вялікая ўвага надавалася фармаванню архіва КП(б)Б. Многія члены Гістпарта выязджалі ў архівы Масквы, Ленінграда і інш. гарадоў з мэтай збору дакументаў па гісторыі рэвалюцыйнага руху. Каб сабраць успаміны відавочцаў, праводзілася рэгістрацыя партызан і ўдзельнікаў рэвалюцыйнага руху на Беларусі, а таксама вечары-сустрэчы. Ужо ў 1929 г. пачаў дзейнічаць Адзіны партыйны архіў.

Камісія гітспарта садзейнічала адкрыццю ў Мінску Дома-музея І-га з’езда РСДРП (з 1923 г.) і Музея рэвалюцыі. Апошні меў каля 10 тыс. экспанатаў і раскрываў гістарычныя падзеі на Беларусі ад сялянскіх паўстанняў XVII ст. да перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Гістпарт пры ЦК КП(б)Б адыгрываў ролю цэнзуры. Паводле яго ініцыятывы быў затрыманы выхад зборніка «*Красные листки»,* які ўжо знаходзіўся ў друку. Гэты зборнік быў падрыхтаваны яўрэйскім аддзелам Інбелкульта. Таму падзеі рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. разглядаліся ў ім з пазіцыяў Бунда як вядучай сілы рэвалюцыйнага руху на Беларусі.

У 1929 г. Гістпарт, Музей рэвалюцыі, камісія па выданні твораў У.І.Леніна і гістпроф пры Цэнтральным савеце прафсаюзаў Беларусі былі аб’яднаны ў навукова-даследчы інстытут гісторыі КПБ – *Інстытут гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі пры ЦК КП(б)Б.*

Першапачаткова інстытут складаўся з трох кафедраў: гісторыі КП(б)Б, гісторыі рэвалюцыйнага руху, ленінізму, а таксама партыйнага архіва і бібліятэкі. Але ў 1934 г. была праведзена ўнут-

раная рэарганізацыя. Замест кафедраў былі створаны сектары: гісторыі КП(б)Б і Кастрычніцкай рэвалюцыі, гісторыі грамадзянскай вайны ў Беларусі, заходні сектар. Сектар ленінізму перавялі з 1937 г. у склад Партыйнага выдавецтва БССР, у якім, акрамя падручнікаў, сталі выдаваць творы К.Маркса, Ф.Энгельса, У.І.Леніна, І.В.Сталіна.

У адпаведнасці з тагачаснай палітычнай сітуацыяй ЦК КП(б)Б патрабаваў ад Інстытута гісторыі партыі падрыхтоўкі і выдання манаграфічных работ, зборнікаў дакументаў і матэрыялаў па гісторыі бальшавізму і Кампартыі Беларусі. Перад супрацоўнікамі Інстытута была пастаўлена задача раскрыць «антынародную дзейнасць дробнабуржуазных арганізацыяў» (Бунда і БСГ), антысавецкія выступленні. Падобная палітычная лінія была вызначана лістом **І.В.Сталіна** «*Аб некаторых пытаннях гісторыі бальшавізму»,* накіраваным у рэдакцыю часопіса «Пралетарская рэвалюцыя» (лістапад 1931 г.). У сваім лісце лідэр партыі і савецкай краіны патрабаваў пашырыць ужыванне марксісцка-ленінскай метадалогіі ў гістарычных даследаваннях, строга прытрымлівацца прынцыпу партыйнасці і класавага падыходу.

Ліст Сталіна быў абмеркаваны на пасяджэнні партактыва Мінска. З дакладам выступіў першы сакратар ЦК КП(б)Б К.В.Гей. Ён адзначыў, што кнігі па гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі маюць шэраг трацкісцкіх, вялікадзяржаўных і нацыянал-дэмакратычных установак. Крытыкаваліся найперш працы супрацоўнікаў Інстытута яўрэйскай культуры (С.Х.Агурскага, М.А.Поташа, М.Т.Агульніка, Я.А.Эйдэльмана і інш.), якіх абвінавачвалі ў «бундызме» і яўрэйскім нацыяналізме.

З пункту гледжання ЦК КП(б)Б Інстытут гісторыі партыі павінен быў разгарнуць крытыку яўрэйскага і беларускага нацыяналізму ў гістарычнай навуцы БССР. Адказам на партыйны заказ сталі кнігі **А.І.Зюзькова** «*Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі»* (1931 г.) і **І.П.Ашаровіча** «*Супраць бундаўскага скажэння гісторыі бальшавізму»* (1934 г.). Таксама ў 1934 г. выйшаў першы том «*КП(б)Б у рэзалюцыях (1919 – 1932)»*.

Актыўна дзейнічала ў БССР з 1927 г. *Таварыства гісторыкаў-марксістаў*, арганізаванае паводле ініцыятывы акадэміка М.М.Пакроўскага. Таварыства адказвала за арганізацыю даследчыцкай работы па гісторыі бальшавіцкай партыі, за папулярызацыю марксісцка-ленінскай метадалогіі, за барацьбу з т.зв. «буржуазнай ідэалогіяй».

Структура таварыства ішла «зверху ўніз»: да 1929 г. філіялы былі адкрыты ў 22 гарадах СССР. 6 кастрычніка 1929 г. адбыўся ўстаноўчы сход беларускага аддзялення, дырэктарам якога быў прызначаны В.Г.Кнорын. Першапачаткова ў склад Таварыства ўвайшлі 20 чалавек, у асноўным выкладчыкі ВНУ (Сербента, Югаў, Майзель, Зюзькоў, Гурвіч, Поташ, Сосін, Рыўлін, Эпштэйн, Матулайціс, Шчарбакоў, Дудкоў і інш.). Пасяджэнні Таварыства гісторыкаў-марксістаў праводзіліся штомесячна. На іх заслухоўваліся і абмяркоўваліся даклады, напрыклад, «Істмат і гісторыя», «К.Маркс і Ф.Энгельс аб рускай рэвалюцыі», «Аб рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. на Беларусі» і інш. Але з беларускай гісторыяй была звязана меншая палова ўсіх дакладаў.

З 1928 г. Таварыства гісторыкаў-марксістаў было реарганізавана ў Таварыства марксістаў БССР. Колькасць яго членаў дасягнула 35, а ў 1930 г. – 50 чалавек. Праўда, гэта былі ў асноўным маладыя кадры.

У 1930 г. разгарнулася дыскусія па дакладу В.А.Сербенты «*Аб становішчы на гістарычным фронце БССР і задачах Таварыства марксістаў»,* які ён зачытаў на Усесаюзнай канферэнцыі Таварыства марксістаў. Па выніках дыскусіі прынялі рашэнне звярнуць увагу на барацьбу з «трацкісцкімі, бундаўскімі і буржуазна-нацыяналістычнымі скажэннямі гісторыі Беларусі і Кампартыі рэспублікі». Справа дайшла да таго, што У.І.Пічэту разам з М.В.Доўнар-Запольскім назвалі «буржуазнымі гісторыкамі».

У 1933 г. Таварыства марксістаў БССР спыніла існаванне. Роспуск быў выкліканы разнародным сацыяльным складам арганізацыі, а таксама рознай палітычнай арыентацыяй членаў Таварыства. Да таго ж адчувалася перавага яўрэйскіх гісторыкаў-марксістаў, якіх таксама абвінавачвалі ў бундызме і сіянізме.

**2. Падрыхтоўка гістарычных кадраў у даваенны перыяд**. Пачатак падрыхтоўкі кадраў гісторыкаў у БССР звязаны з Беларускім дзяржаўным універсітэтам, які быў заснаваны ў 1921 г. Дарэчы, першая лекцыя, якую прачытаў ва універсітэце гісторык Дзмітрый Пятровіч Канчалоўскі, называлася «*Пра сусветную гісторыю»,* а першым рэктарам стаў У.І.Пічэта.

Першапачаткова падрыхтоўка гістарычных кадраў ажыццяўлялася на грамадска-педагагічным аддзяленні *факультэта грамадскіх навук* (першы дэкан У.М.Ігнатоўскі). Сама ідэя падобных факультэтаў была прапанавана старшынёй Камісіі ВНУ пры Наркамаце асветы РСФСР М.М.Пакроўскім. Выкладанне там вялося з пазіцыяў марксізму-ленінізму, а сярод педагагічных работнікаў і студэнтаў пераважалі камуністы.

У 1922 г. грамадска-педагагічнае аддзяленне было рэарганізавана ў сацыяльна-гістарычнае і ўвайшло ў склад *педагагічнага факультэта* універсітэта. На яго сацыяльна-гістарычным аддзяленні (1 – 2 курсы) у 1922/1923 навучальным годзе займаліся 357 студэнтаў ва ўзросце ад 18 да 65 гадоў. Кафедры ў той час існавалі ўмоўна. Часам яны складаліся з аднаго прафесара. Але тэрмін «гісторыя» гучаў у назвах кафедраў: гісторыі заходнееўрапейскай літаратуры, усеагульнай гісторыі, гісторыі рэлігіі і Старажытнага Ўсходу, гісторыі Беларусі, рускай гісторыі і інш. Пад уплывам беларусізацыі 65 % навучальных курсаў выкладалася на беларускай мове, 20 % – на рускай, 15 % – на яўрэйскай. Усе экзамены і залікі сдаваліся на беларускай мове.

Дзякуючы намаганням прафесара Пічэты ва універсітэцкай адукацыі пачэснае месца занялі такія дысцыпліны, як гісторыя Беларусі, гісторыя народнай гаспадаркі БССР, гісторыя рускага і беларускага права. У цэнтры гэтай працы стаялі М.В.Доўнар-Запольскі, У.М.Ігнатоўскі, Ф.Ф.Турук, Д.А.Дудкоў, К.І.Кернажыцкі, В.Д.Дружчыц, М.М.Шчакаціхін, пра якіх з удзячнасцю ўспаміналі першыя студэнты сацыяльна-гістарычнага аддзялення педагагічнага факультэта.

Для ўмацавання выкладчыцкіх кадраў у БДУ Наркамат асветы РСФСР накіраваў туды групу вучоных-гісторыкаў – У.М.Дз'якава, Д.А.Жарынава, М.М.Нікольскага, У.М.Перцава, А.А.Савіча. Таксама СНК РСФСР у 1921 г. прыняў спецыяльны дэкрэт аб адкліканні з установаў Расійскай федэрацыі ўраджэнцаў Беларусі.

7 ліпеня 1931 г. на базе педагагічнага факультэта БДУ была створана самастойная навучальная ўстанова – *Вышэйшы педагагічны інстытут*. Ён складаўся з трох факультэтаў, у тым ліку *сацыяльна-эканамічнага*. У ім на пачатак 1931/1932 навучальнага года вучыліся 160 студэнтаў. Факультэт складаўся з гістарычнага і эканамічнага аддзяленняў. У 1933 г. на сацыяльна-эканамічным факультэце была створана кафедра гісторыі СССР і БССР пад кіраўніцтвам акадэміка В.К.Шчарбакова.

16 мая 1934 г. выйшла пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР». На яе падставе сацыяльна-эканамічны факультэт быў падзелены на гістарычны і геаграфічны факультэты. Першы набор на гістарычны факультэт у 1934/1935 навучальным годзе складаў 175 чалавек, з іх на гістарычнае аддзяленне – 100 студэнтаў. Дэканам быў прызначаны акадэмік В.К.Шчарбакоў. На факультэце былі арганізаваны кафедры гісторыі ВКП(б), гісторыі старажытнага часу і сярэдніх вя-

коў, гісторыі СССР і БССР, новай і найноўшай гісторыі. Працавалі 18 выкладчыкаў.

Кафедра гісторыі СССР і БССР вылучылася з кафедры ўсеагульнай гісторыі ў 1936 г. На ёй працавалі А.П.П'янкоў, Д.А.Дудкоў, Ц.С.Гарбуноў. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, у 1940 г. была створана першая універсітэцкая праграма курсу «Гісторыя Беларусі», выкладчыкі прынялі ўдзел у падрыхтоўцы дапаможніка «*Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах*». У 1939 г. на гістфаку адбылася абарона першай кандыдацкай дысертацыі.

Часткова кадры для гістарычнай навукі рыхтавалі ў *камуністычных ВНУ*. У кастрычніку 1925 г. на базе Цэнтральнай савецкай партыйнай школы г.Мінска быў адчынены *Камуністычны універсітэт Беларусі імя У.І.Леніна* (існаваў да верасня 1932 г.). Гэта была вышэйшая партыйная навучальная ўстанова, якая рыхтавала кіруючыя кадры партыйных і савецкіх работнікаў. Працэс навучання ажыццяўляўся на наступных аддзяленнях: партыйным, савецкім, прапагандысцкім, газетным, народнай адукацыі. Тэрмін навучання складаў тры гады. За 1930 – 1932 гг. у гэтай ВНУ адукацыю атрымалі 2 352 чалавекі.

Таксама ў Маскве ў 1924 г. пры *Камуністычным універсітэце нацыянальных меншасцяў Захаду імя Ю.Ю.Мархлеўскага* быў створаны беларускі сектар, на які прынялі 48 студэнтаў. Ужо ў 1926/1927 навучальным годзе вучыліся 85 студэнтаў з БССР, а ў 1931/1932 навучальным годзе – 116.

Штогод партыйная арганізацыя рэспублікі накіроўвала найбольш падрыхтаваныя тэарэтычна кадры ў *інстытуты чырвонай прафесуры* (1923 г. – 25 чалавек, 1931 г. – 18, 1932 г. – 21, 1934 г. – 30. З іх, як правіла, тры-пяць слухачоў спецыялізаваліся па гісторыі і па гісторыі партыі.

Нягледзячы на тое, што ў БССР у другой палове 20-х гг. былі створаны ўмовы для падрыхтоўкі навукова-педагагічных работнікаў, спецыялістаў-гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі не хапала. У 1930 г. іх колькасць у БССР складала 25 чалавек, а вакансіяў у навуковых гістарычных установах і на кафедрах ВНУ рэспублікі налічвалася 15.

З другой паловы 20-х гг. асноўнай формай падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі становіцца *аспірантура*. 6 жніўня 1927 г. СНК БССР зацвердзіў «Палажэнне аб навуковых работніках вышэйшых навучальных установаў і навуковых установаў БССР». На падставе гэтага дакумента была адчынена аспірантура ў БДУ і Інбелкульте, а з 1930 г. – у Інстытуте гісторыі партыі

пры ЦК КП(б)Б. У ліку першых аспірантаў БДУ былі вучні У.І.Пічэты – А.Бурдзейка, Ф.Забела, К.Кернажыцкі.

У аспірантуру маглі паступаць асобы, якія мелі вышэйшую гістарычную адукацыю. У адпаведнасці з палажэннем аб арганізацыі аспірантуры не менш чым палову аспірантаў павінны былі складаць выхадцы з рабочых і сялян ва ўзросце да 37 гадоў. Першапачаткова паступаючыя прадстаўлялі рэферат па гісторыі і праходзілі субяседаванне па асноўных грамадскіх дысцыплінах (дыялектычнаму матэрыялізму, палітычнай эканоміі, ленінізму, гісторыі класавай барацьбы, гісторыі партыі). Пры гэтым суіскальнікі аспірантуры Інстытута гісторыі партыі павінны былі мець пяць гадоў партыйнага стажу і тры гады партыйнай работы. Пазней былі ўведзены ўступныя экзамены па грамадскіх навуках і гісторыі.

Тэрмін навучання для аспірантаў складаў тры гады. У першы год навучання вывучалі дыялектычны і гістарычны матэрыялізм, ленінізм і гісторыю ВКП(б). Другі год адводзіўся на вывучэнне гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Трэці год аспіранты самастойна распрацоўвалі навуковую гістарычную праблему і прымалі ўдзел у навукова-даследчай дзейнасці. Ужо з другога курсу ўсе аспіранты абавязкова павінны былі займацца выкладчыцкай дзейнасцю.

Паколькі ў БССР не хапала навуковых кадраў, ЦК КП(б)Б у снежні 1930 г. прыняў пастанову, у якой вызначыў меры па ўдасканаленні іх падрыхтоўкі. У Акадэміі навук БССР быў створаны *Інстытут аспірантуры*. Ён уабраў аспірантаў усіх навукова-даследчых установаў. Для аспірантаў-гісторыкаў працаваў метадалагічны семінар «Асноўныя праблемы гісторыі XIX і XX стст. у асвятленні У.І.Леніна». Яны заслухалі даклады: «Праблема прамысловага перавароту ў пастаноўцы У.І.Леніна», «У.І.Ленін аб Парыжскай камуне», «Праблемы перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў сацыялістычную паводле У.І.Леніна» і інш.

Такая форма навучання будучых навуковых і выкладчыцкіх работнікаў, калі адначасова займаліся 300 чалавек, сябе не апраўдала. Таму ў верасні 1932 г. Інстытут аспірантуры быў рэарганізаваны. Працэс падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі зноў быў перанесены ў навукова-даследчыцкія ўстановы і ВНУ.

Паляпшэнню падрыхтоўкі кадраў гісторыкаў садзейнічала пастановы СНК СССР (студзень 1934 г.) «*Аб падрыхтоўцы навуковых і навукова-педагагічных кадраў», «Аб вучоных ступенях і званнях*». Уводзіліся навуковыя ступені (кандыдат і доктар навук) і вучоныя званні (асістэнт, дацэнт, прафесар (у ВНУ), малодшы і ста-

рэйшы навуковы супрацоўнік і сапраўдны член (у навукова-даследчых установах)).

Для атрымання вучоных ступеняў кандыдата і доктара навук уводзілася публічная абарона дысертацыяў. Аднак ступень доктара навук магла прысуджацца і без абароны вучоным, вядомым сваім укладам у развіццё навукі. Таксама ступень доктара навук аўтаматычна прысвойвалася акадэмікам саюзных і рэспубліканскіх Акадэміяў навук. На гэтай падставе ступень доктара гістарычных навук без абароны дысертацыі была прысуджана М.М.Нікольскаму, У.М.Перцаву, С.Ю.Матулайцісу, П.В.Горыну, В.К.Шчарбакову, В.А.Сербенце.

З 1934 г. аспірантура замацоўвалася толькі ў ВНУ з моцнай навучальна-навуковай базай. У лік аспірантаў прымаліся асобы, якія мелі закончаную вышэйшую адукацыю і стаж працы па выбранай спецыяльнасці не менш за два гады. Аспірант займаўся па індывідуальным плане. Асноўным яго зместам з'яўлялася самастойная даследчыцкая праца, якая завяршалася абаронай кандыдацкай дысертацыі. У сакавіку 1939 г. СНК СССР зацвердзіў новае палажэнне аб аспірантуры. З гэтага часу яна стала адзінай формай падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў СССР.

У сакавіку 1937 г. у БДУ быў створаны Вучоны савет па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацыяў па гістарычных навуках. Яго праца садзейнічала росту нацыянальных навуковых кадраў. Ужо ў даваенныя гады ў БДУ абаранілі кандыдацкія дысертацыі Д.А.Дудкоў, А.І.Зюськоў, К.І.Кернажыцкі, Г.М.Ліўшыц, І.Ф.Лочмель, А.П.П'янкоў. Усяго ў БДУ навуковыя ступені кандыдата гістарычных навук былі прысуджаны 10 суіскальнікам.

У пачатку 1935 г. у БССР налічвалася 92 гісторыка вышэйшай кваліфікацыі, уключаючы археолагаў, этнографаў і аспірантаў. Гісторыяй партыі займаліся 27 чалавек, новай і найноўшай гісторыяй – 19, гісторыяй Беларусі – 15, гісторыяй народаў СССР – 14, гісторыяй старажытнага свету – 4. Акадэмікаў і прафесароў было 9, дацэнтаў – 19, малодшых навуковых супрацоўнікаў і асістэнтаў – 29. У аспірантуры займаліся 35 чалавек.

Але спецыялістаў не хапала, асабліва па сусветнай гісторыі. Некаторыя кафедры ўзначальвалі дацэнты і нават асістэнты. Так, у 1936 г. у БССР не было ніводнага прафесара па гісторыі СССР, хоць такія кафедры былі адкрытыя ў пяці ВНУ.

Улічваючы гэтыя абставіны, на Бюро ЦК КП(б)Б у чэрвені 1937 г. было разгледжана пытанне «Аб падрыхтоўцы аспірантаў па са-

цыяльна-эканамічным дысцыплінах, мове і літаратуры». Кіраўніцтву АН БССР, БДУ, Мінскага педінстытута прапанавалі пад асабістую адказнасць палепшыць падрыхтоўку аспірантаў. Назіраецца павялічэнне колькасці аспірантаў па грамадзянскай гісторыі. З другога боку, выхад «Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)» паставіў задачу ўзмацнення партыйнай прапаганды. Таму ў ВНУ рэспублікі былі створаны кафедры марксізму-ленінізму і адкрыта аспірантура па спецыяльнасці «гісторыі партыі» ў АН БССР.

Такім чынам, у даваенны перыяд у БССР склалася адзіная сістэма падрыхтоўкі кадраў гісторыкаў, якая праводзілася на падставе марксісцка-ленінскай метадалогіі.

**3. Укараненне марксісцка-ленінскай метадалогіі. Ідэйна-палітычная барацьба з яўрэйскімі гісторыкамі-марксістамі ў 20-я – пач. 30-х гг.** У 20-я гг. у гістарычнай навуцы СССР склалася гістарычная «школа М.М.Пакроўскага». Большасць сучасных даследчыкаў у гэты тэрмін укладвае грамадска-палітычны, а не навуковы змест. Для гэтай школы былі характэрны тыповыя рысы савецкай гістарыяграфіі: манапалізацыя ісціны, ідэйная манаполія, лінейнае разуменне грамадскага прагрэсу, манапалізм думкі і інш.

Памёр М.М.Пакроўскі ў 1932 г., а ўжо ў другой палове 30-х гг. разгарнулася хваля крытыкі яго поглядаў. У 1936 г. цэнтральныя газеты краіны апублікавалі заўвагі кіраўнікоў краіны (І.Сталіна, С.Жданава, С.Кірава) на канспекты падручнікаў па гісторыі СССР і новай гісторыі. На іх думку, памылкі аўтараў былі абумоўлены антымарксісцкімі, антыленінскімі, ліквідатарскімі і антынавуковымі поглядамі Пакроўскага. З жорсткай іх крытыкай выступілі К.Радэк і М.Бухарын. Радэк заявіў, што Пакроўскі не мог быць марксісцкім гісторыкам, бо сфармаваўся як спецыяліст, не будучы членам партыі бальшавікоў. М.І.Бухарын не згаджаўся з тэзісам пра неаб’ектыўнасць класавай барацьбы. Пралетарская гісторыя – праўдзівая ў сваёй аснове, бо заснавана на марксізме. Ужо ў 1939 г. выйшаў зборнік навуковых працаў вучняў гісторыка «*Против исторической концепции М.М.Покровского»,* а ў 1940 г. – «*Против антимарксистской концепции М.М.Покровского».*

Відавочна, што прычынаў для навуковай крытыкі Пакроўскага не існавала, а вось палітычныя былі – яго погляды на савецкую гісторыю не супадалі з поглядамі кіраўніцтва СССР:

| Погляды М.М.Пакроўскага | Пазіцыя І.В.Сталіна |
|---|---|
| Крытыка рускіх гісторыкаў дзяржаўна-прававой школы | Прызнанне вызначальнай ролі дзяржавы ў грамадскім жыцці |
| Высокія тэмпы эканамічнага росту Расіі ў пачатку XX ст. садзейнічалі паскоранаму развіццю капіталізму і абвастрэнню класавай барацьбы | Адсталасць Расійскай імперыі прадвызначыла нарастанне сацыяльнай рэвалюцыі |
| Падабенства рускага і заходнееўрапейскага шляхоў гістарычнага развіцця | Нацыянальнае паходжанне рускай рэвалюцыі |
| Адмаўленне ролі асобы ў гісторыі | Зварот да вялікіх асобаў з мэтай выхавання патрыятызму |

Зразумела, што погляды М.М.Пакроўскага перасталі адпавядаць палітычным і ідэалагічным патрабаванням часу.

Развіццё гістарычнай навукі БССР у гэты перыяд праходзіла ў складаных умовах. На гістарычныя даследаванні наклала адбітак каманднa-адміністрацыйныя сістэма. Вострая барацьба вакол пытанняў гісторыі Беларусі найчасцей завяршалася палітычнымі абвінавачваннямі, што мела негатыўныя наступствы для самой гістарычнай навукі.

Устанаўленне марксісцка-ленінскай метадалогіі ажыццяўлялася ў форме барацьбы з яўрэйскімі гісторыкамі-марксістамі і беларускімі гісторыкамі нацыянальнай арыентацыі. Да таго ж 40 % рэспубліканскага і 25 % акруговага партыйнага актыву рэспублікі былі выхадцамі з небальшавіцкіх партыяў.

Яўрэйскіх гісторыкаў сталі абвінавачваць у *бундызме* – г.зн. прыхільнасці да ідэалогіі Бунда («Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза ў Літве, Польшчы і Расіі»), а таксама ў *сіянізме*. Дарэчы старшыня ЦВК БССР А.Р.Чарвякоў у дакладзе «*Сучаснае становішча Савецкай Беларусі»* (1926 г.) адзначыў, што «асноўнымі контррэвалюцыйнымі сіламі ў Беларусі з’яўляюцца духавенства, а затым сіяністы».

Яўрэйская інтэлігенцыя ў 20-я гг. выказывала незадаволенасць палітыкай беларусізацыі і карэнізацыяй, бачыла ў гэтых працэсах прымусовае абеларусванне і ігнараванне культурных патрэбаў яўрэйскай нацыянальнай меншасці ў БССР. Яўрэйскія гісторыкі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. сталі прапагандаваць ідэю «культурна-нацыянальнай аўтаноміі» для савецкіх яўрэяў. Партыйнае кіраўніцтва лічыла падобныя погляды нацыяналістычнымі.

Дацэнт БДУ **І.Славін** у артыкуле «*Национал-демократизм и правая опасность»,* які быў апублікаваны ў часопісе «Революция

и культура» (1929, №2), сцвярджаў, што ў гарадах Беларусі яўрэйскія рабочыя не займаюць адказных пасадаў у органах дыктатуры пралетарыята. А паколькі ў БССР яўрэйскі пралетарыят мае большасць, то палітыка беларусізацыі вядзе да паслаблення дыктатуры пралетарыята і ўзмацнення ролі сялянства.

Яўрэйскія гісторыкі, як правіла, гэта былыя члены Бунда («самаліквідацыя» гэтай партыі адбылася ў сакавіку 1921 г.), у сваіх поглядах зыходзілі з наступных канцэптуальных палажэнняў: яўрэйскі нацыяналізм – гэта адказ на антысемітызм (бальшавікі лічылі вынікам класавай барацьбы); «канцэпцыя адзінай прыгнечанай і гнанай яўрэйскай нацыі»; кіруючая роля Бунда ў рэвалюцыйным руху на тэрыторыі Беларусі; «двухкарэннасць» утварэння КП(б)Б: з Бунда і бальшавіцкіх арганізацыяў. Практычнае ўвасабленне гэтыя палажэнні атрымалі ў працах Бухбіндэра, Вайнштэйна, Кіржніца, Крэмера, Літвакова, Рафеса і інш.

**Ю.Н.Майзель, М.І.Шапавалаў** у «*Кароткім нарысе гісторыі КП(б)Б»* (1929 г.) сцвярджалі, што ў Беларусі ў пачатку XX ст. дамінавала рамесная вытворчасць, таму не існавала пралетарскай глебы для распаўсюджання бальшавізму, але меліся сацыяльная і нацыянальная база для дзейнасці Бунда. Аўтары лічылі, што партыйныя арганізацыі бальшавікоў узніклі на Беларусі ў 1917 г. і не адыгралі кіруючай ролі ў Кастрычніцкай рэвалюцыі.

**Б.Олікер, Л.Розенблюм** у «*Нарысах гісторыі камсамола ў Беларусі»* (1927 г.) таксама не прызнавалі дзейнасць бальшавіцкіх арганізацыяў у Беларусі да лютага 1917 г. На іх думку, да гэтага часу кіруючай сілай у рэвалюцыйным руху былі Бунд і меншавікі.

Адзін з заснавальнікаў Бунда **Аляксандр Крэмер** у артыкуле «*Основание Бунда»,* надрукаваным у часопісе «Пролетарская революция» (1929, №11) даказваў, што І-ы з'езд РСДРП быў скліканы паводле ініцыятывы Бунда.

Аб кіруючай ролі Бунда ў рэвалюцыйных працэсах канца XIX – пачатку XX ст. у савецкай гістарыяграфіі 20-х гг. пісалі **М.Рафес** *(«Очерки по истории еврейского рабочего движения»* (1929 г.); «*Очерки по истории Бунда»* (1923 г.)), **Н.А.Бухбіндэр** (*«Материалы по истории еврейского рабочего движения в России»* (1923 г.); «*История еврейского рабочего движения в России: (По неизд. материалам)»* (1925 г.)), **А.Д.Кіржніц** (*«В годы империалистической войны: Очерки рабочего движения в России»* (1924 г.); «*Еврейский рабочий»* (1927 г.)).

Найбольш выразна погляды яўрэйскіх гісторыкаў-марксістаў прасочваюцца ў працах старшыні гістарычнай секцыі Інстытута

яўрэйскай культуры АН БССР **І.Я.Чарняўскага**, напісаных на ідыш (*«Кастрычніцкая рэвалюцыя і разлажэнне яўрэйскіх дробнабуржуазных партыяў»* (1932 г.), «*Яўрэйскі рабочы напачатку рабочага руху»* (1932 г.)). Аўтар сцвярджаў, што рускія рабочыя знаходзіліся ў лепшых сацыяльна-эканамічных умовах чым яўрэйскі пралетарыят. Гэта прадвызначыла ізаляцыю яўрэйскага пралетарыяту. Замкнёнасць яўрэйскага рабочага руху патрабавала самастойнай яўрэйскай партыі, якой стаў Бунд.

Чарняўскі даказваў, што яўрэйская буржуазія, з'яўляючыся буржуазіяй прыгнечанай нацыі, была прагрэсіўнай сілай і чакала рэвалюцыю ў Расіі. На яго думку, рэвалюцыйны выбух павінен быў даць ёй раўнапраўнае становішча на рынку. Прызнанне рэвалюцыйнасці яўрэйскай буржуазіі выклікала тэзіс аб рэвалюцыйным характары сіянісцкіх партыяў і арганізацыяў.

На аб'яднаным Пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б (люты 1933 г.), бюро ЦК КП(б)Б, XV з'ездзе КП(б)Б (студзень 1934 г.) погляды Чарняўскага былі кваліфікаваны як буржуазна-нацыяналістычныя, а яго выключылі з партыі.

Адным з першых, хто распачаў крытыку яўрэйскіх гісторыкаў-марксістаў, быў Самуіл Агурскі.

**Самуіл Хаімавіч Агурскі** (1884 – 1947 гг.) – член-карэспандэнт АН БССР, удзельнік рэвалюцыйнага руху, былы член Бунда. У 1906 – 1917 гг. знаходзіўся ў эміграцыі. У Савецкай Беларусі загадваў Гістпартам, а з 1934 г. – Інстытутам яўрэйскай пралетарскай культуры АН БССР. Быў арыштаваны ў 1938 г. і высланы ў Казахстан на пяць гадоў.

У сваёй першай буйнай працы, напісанай на ідыш, а затым на рускай мове, «*Еврейский рабочий в коммунистическом движении»* (1926 г.), Агурскі заявіў, што нельга поўнасцю атаясамляць Бунд з пазіцыяй усяго яўрэйскага пралетарыята. Тым самым аўтар узняў праблему сацыяльнай базы Бунда і выказаў сваю нязгоду з тэзісам, што менавіта Бунд прывёў яўрэйскі пралетарыят у ВКП(б).

У абагульняльнай манаграфіі «*Революционное движение в Белоруссии (1863 – 1917 гг.)»* (1928 г.) С.Х.Агурскі нанёс новы ўдар па пазіцыях яўрэйскіх гісторыкаў-марксістаў. Праўда, гэтая праца была падвергнута крытыцы з боку ЦК КП(б)Б за беднасць факталагічнай асновы, за спрошчаны схематычны аналіз падзеяў, за адсутнасць навукова абгрунтаванай перыядызацыі рэвалюцыйнага руху. Пры гэтым аўтар адмаўляў наяўнасць капіталістычнай прамысловасці ў Беларусі да пачатку XX ст., лічыў яўрэйскі пралетарыят вядучай сілай у рэвалюцыйным руху. Цікава, што ў дадатку

манаграфіі ўпершыню былі апублікаваны сем нумароў «Мужыцкай праўды».

Супраць бундызму актыўна выступаў Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б, які ў 1934 г. выдаў брашуру **І.П.Ашэровіча «***Супраць бундаўскага скажэння гісторыі бальшавізма»*.

Справа дайшла да скажэння гістарычнай праўды. Былы член Бунда **Майсей Абрамавіч Поташ** (1892 – 1955 гг.), які ў 1931 – 1936 гг. займаў пасаду намесніка дырэктара Інстытута гісторыі партыі, у манаграфіі «*Бальшавізм і дробнабуржуазныя партыі ў рэвалюцыі 1905 г. у Беларусі»* (1931 г.) аднёс Бунд да ліку дробнабуржуазных партыяў. Аўтар назваў Бунд «нацыяналістычнай арганізацыяй», якая не мела нічога агульнага з марксісцкай партыяй рэвалюцыйнага пралетарыяту.

З сярэдзіны 30-х гг. у гістарычнай навуцы было пастаўлена пытанне аб сувязі Бунда з сіяністкім рухам, што стала фактычна апошнім ударам па пазіцыях яўрэйскіх гісторыкаў-марксістаў.

Неабходна адзначыць і тое, што яўрэйскія гісторыкі негатыўна ставіліся да беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Яны надавалі яму рэакцыйны характар. С.Х.Агурскі пісаў аб нязначнай ролі беларускіх палітычных сілаў у падзеях Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. Ён нават адмаўляў існаванне Беларускай камуністычнай арганізацыі і яе кіраўніцтва партызанскім рухам супраць польскай акупацыі ў 1919 – 1920 гг. Францыска Скарыну яўрэйскія гісторыкі-марксісты лічылі «сярэднявечным манахам» з «феадальна-папоўскай ідэалогіяй». А святкаванне 400-годдзя беларускага кнігадрукавання назвалі «шумной националистической кампанией».

**5. Ідэйна-палітычная барацьба з беларускімі нацыянальнымі гісторыкамі ў 20-я – пач. 30-х гг.** Ужо ў першыя гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі выходзяць з друку брашуры, у якіх аналізуюцца гісторыя рэвалюцыйнага руху ў Беларусі і пытанне нацыянальнага самавызначэння. Вялікая ўвага надавалася абгрунтаванню легітымнасці БНР. Адным з першых аб гэтым пісаў **Аляксандр Цвікевіч**.

Яго праца «*Краткий очерк возникновения Белорусской Народной Республики»* (1918 г.) пабудавана такім чынам, каб паказаць пераемнасць традыцыяў беларускай дзяржаўнасці. У абвяшчэнні БНР ён вылучае два этапы: пачатковы – Першы Усебеларускі з’езд, другі – прыняцце Устаўных грамат. Даследчык сцвярджаў, што Беларусь была абвешчана рэспублікай яшчэ 17 снежня 1917 г. на Усе-

беларускім з’ездзе. З прычыны разгону з’езд не паспеў скончыць сваю працу. Завяршэнне неабходна было зрабіць у форме выпрацоўкі юрыдычных актаў. Цвікевіч тлумачыў неабходнасць аддзялення Беларусі ад Расіі асаблівасцямі міжнароднага заканадаўства: Беларусь, з’яўляючыся часткай Расіі, павінна была падпарадкоўвацца Брэсцкаму мірнаму дагавору. Рада БНР была пастаўлена перад выбарам: «или пренебречь заветом Всебелорусского Съезда, подвергнуться разделу, второй раз политически умереть,...или отмежевавшись отъ Великоросіи и ея безумнаго правительства, объявить себя самостоятельным государством и тем самым спасти будущее единаго белорусского народа». Вось чаму была прынята Трэцяя Устаўная Грамата, якая аб’явсціла незалежнасць Беларусі. А пераемнасць Устаўных Грамат з І-м Усебеларускім з’ездам, на думку аўтара, робіць абвяшчэнне БНР волевыяўленнем беларускага народа.

Цікавасць да дадзенай праблематыкі праявіў **Мітрафан Доўнар-Запольскі**, які актыўна ўключыўся ў дзейнасць БНР, садзейнічаў наладжванню кантактаў паміж кіраўніцтвам БНР і Радай беларускіх арганізацыяў ва Украіне. Ён цесна супрацоўнічаў з газетамі «Белорусское слово», «Белорусское эхо», «Вольная Беларусь». Шмат увагі надаў Доўнар-Запольскі стварэнню беларускага універсітэта, рашэнне аб адкрыцці якога было прынята Народным сакратарыятам БНР. 28 красавіка 1918 г. ён узначаліў спецыяльную камісію пры Народным сакратарыяце асветы, зрабіў канкрэтныя прапановы па структуры універсітэта. Аднак гэтая ідэя не была рэалізавана.

Падчас удзелу ў беларуска-ўкраінскіх перамовах у Кіеве М.В.Доўнар-Запольскі зразумеў, што Германію, Украіну і Савецкую Расію лёс беларускай дзяржаўнасці цікавіць толькі ў той ступені, у якой гэта адпавядае іх уласным інтарэсам, што неабходна ставіць беларускае пытанне на абмеркаванне Парыжскай мірнай канферэнцыі. Таму ў канцы 1918 г. ён працуе над тым, каб сфармуляваць погляды беларусаў на праблему іх дзяржаўнага самавызначэння. Ён скарыстоўвае ўласныя этнаграфічныя матэрыялы, публіцыстычныя артыкулы.

У брашуры «*Асновы дзяржаўнасці Беларусі»,* якая была выдадзена ў 1919 г. на беларускай, рускай, польскай, французскай, нямецкай мовах, а ў 1920 г. на англійскай, М.В.Доўнар-Запольскі з навуковых пазіцыяў абгрунтаваў гістарычныя заканамернасці дзяржаўнага самавызначэння беларускага народа. Ён адзначыў: «Цяпер прыходзіць пара паправіць гістарычныя абмылкі Мінуўшчы-

ны – тым больш што беларуская нацыя апіраецца на крэпкіх фундаментах дзяржаўнасці, на шырокіх дэмакратычных асновах і мае трывалыя асобеннасці адметнай гістарычнай культуры. Гэтыя асобеннасці чырвонай ніткай праходзяць цераз усю мінуўшчыну беларусаў і цераз іх сучасны быт».

Міністэрства замежных справаў БНР разаслала брашуру ўрадам еўрапейскіх краінаў са спадзяваннем, што гэта паспрыяе прызнанню БНР. Аднак беларускае пытанне на Парыжскай канферэнцыі не абмяркоўвалася.

У 1925 г., пасля самароспуску Рады БНР у Берліне, у выніку амністыі ўрада БССР дзеячы беларускага нацыянальнага руху пачалі вяртацца на радзіму і ўключацца ў працэс беларусізацыі.

Прадстаўнікі беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі ў сваіх працах зыходзілі з наступных канцэптуальных палажэнняў: тэорыя «адзінага патока» (беларускі народ уяўляе сацыяльна-аднароднае грамадства, якое пасля Люблінскай уніі апынулася пад прыгнётам польскіх, а з канца XVIII ст. – рускіх феадалаў); тэорыя недасканаласці класавых супярэчнасцяў у беларускай нацыі (адзіны, непадзелены на класы этнас з невялікай доляй кулацтва); тэорыя «двухкарэннасці» КП(б)Б (Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі сфармавалася з бальшавіцкіх арганізацыяў і БСГ); вядучая роля інтэлігенцыі ў рэвалюцыйных працэсах на тэрыторыі Беларусі; галоўны фактар гістарычнага працэсу – нацыянальная самасвядомасць народа; тэорыя «чатырох грамадскіх групаў» (беларускае грамадства складалася з чатырох грамадскіх групаў: беларусы – сяляне, палякі – памешчыкі, яўрэі – гандляры, рускія – чыноўнікі).

Яны знайшлі адлюстраванне ў артыкулах **Я.Лёсіка**, **А.Смоліча**, **А.Бурбіса** ў зборніку «*Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху»,* якi быў выдадзены ў 1924 г. ў Мінску. **Доўнар-Запольскі** ў манаграфіі «*Народная гаспадарка Беларусі. 1861 – 1914 гг.»* (1926 г.) упершыню закрануў праблему генезіса капіталізму ў Беларусі. Аўтар, зыходзячы з народніцкіх пазіцыяў, прыніжаў узровень развіцця буржуазных адносінаў у эканоміцы парэформеннага перыяду, пісаў пра ўстойлівасць сялянскай гаспадаркі і адсутнасць сацыяльнай дыферэнцыяцыі. Даследчык упершыню выкарыстаў новую методыку падлікаў – «сярэднія лічбы».

Раней выйшла кніга **Фёдара Фёдаравіча Турука** «*Белорусское движение: Очерк истории национального и революционного движения белорусов»* (1923 г.). Гэта даследаванне было першай

спробай навуковага аналізу беларускага нацыянальнага руху як суцэльнай з'явы грамадска-палітычнага жыцця Беларусі другой паловы XIX – першай чвэрці XX ст. Аўтар сцісла і лаканічна, але па сутнасці, ахарактарызаваў карані беларускага нацыянальнага руху, яго першыя этапы падчас рэвалюцыі 1905 – 1907 гг., Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыяў 1917 г., у перыяд нямецкай і польскай акупацыі. Турук раскрыў дзейнасць беларускіх нацыянальных палітычных партыяў, вызначыў передумовы абвяшчэння БССР, вылучыў асобным пытаннем камуністычны рух сярод беларусаў, паказаў беспадстаўнасць супрацоўніцтва з польскімі акупантамі.

У 1925 г. **Павел Віктаравіч Трамповіч** у артыкуле «*Шляхі беларускай інтэлігенцыі»* («Савецкая Беларусь», 21 кастр.) паставіў пытанне аб супрацоўніцтве беларускай інтэлігенцыі з Камуністычнай партыяй (бальшавікоў) Беларусі. На яго думку, старая беларуская інтэлігенцыя, якая сфармавалася ў перыяд «Нашай Нівы» і пачала беларускі адраджэнцкі рух, заклала асновы беларускай дзяржаўнасці і культуры, павінна кіраваць БССР.

Вядучую ролю ў даследаванні беларускіх нацыянальных гісторыкаў адыгрывала публіцыстыка. Напрыклад, часопіс «Полымя» (выдаваўся са снежня 1922 г.), «Вперед», з 1927 г. перайменаваны ў «Бальшавік Беларусі». Дзейнасць БСГ падчас першай рускай рэвалюцыі даследаваў **А.Шлюбскі**, акцэнтуючы ўвагу на супрацоўніцтве БСГ з газетай «Наша Ніва». **М.Мялешка** паглыбіў гэтую тэматыку праз вывучэнне зямельнай праграмы Грамады. 1905-му году прысвечаны ўспаміны **А.В.Бонч-Асмалоўскага**. Пытанні нацыянальнай палітыкі закраналі **А.І.Цвікевіч** і **У.І.Пічэта**. Апошні даследчык таксама займаўся вывучэннем польска-савецкіх адносінаў і Рыжскага мірнага дагавору.

Большасць артыкулаў **З.Жылуновіча** была прысвечана станаўленню беларускай дзяржаўнасці. На старонках часопіса «Полымя» ён змясціў шэраг артыкулаў, прысвечаных гэтай тэматыцы: «*Уступамі да Акцябра», «Арганізацыя сіл», «Гістарычны момант», «Беларускія сэкцыі РКП і стварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі».*

У канцы 20-х гг. у адносінах да нацыянальнай інтэлігенцыі сталі ўжывацца рэпрэсіўныя меры. Пачынаецца кампанія па барацьбе з «нацдэмаўшчынай». Адным з першых у яе ўключыўся **С.Х.Агурскі**. У лютым 1929 г. ён выступіў на XII з'ездзе КП(б)Б супраць ацэнкі У.М.Ігнатоўскім паўстання 1863 г., а К.Каліноўскага назваў міфічным героем. Агурскі спрабаваў даказаць, што паўстанне мела рэакцыйны памешчыцка-клерыкальны характар. Ар-

тыкул «*Нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі на гістарычным фронце Беларусі*» («Пралетарская рэвалюцыя», №8) быў накіраваны супраць поглядаў Ігнатоўскага і.Жылуновіча, якіх аўтар прадставіў нацыяналістычнымі. Доказам сталі цытаты з заключэння камісіі У.П.Затонскага і публічнае раскайванне Ігнатоўскага ў сваіх памылках.

Першарадная роля ў барацьбе з «нацыянал-дэмакратызмам» на гістарычным фронце належыла часопісу «Бальшавік Беларусі». У 1928 г. быў апублікаваны артыкул **А.Кіржніца** «*У няволі буржуазнага нацыяналізму*». У прадмове аўтар акрэсліў сваё стаўленне да беларускага нацыянальнага руху – «нацыяналістычны рух», «згодніцкая інтэлігенцыя». На яго думку, «...гэты рух, які маскіраваўся звычайна «агульнанацыянальнымі» інтарэсамі і ідэаламі, у сапраўднасці быў накіраваны галоўным сваім астрыём супроць савецкай улады». Беларускі нацыянальны рух ён разглядзеў на прыкладах Кастрычніцкай рэвалюцыі, падрыхтоўкі і правядзення І-га Усебеларускага з’езда. Заканчэнне з’езда, якое ў аўтара названа «роспускам», адбылося з прычыны яго нацыянальнай платформы. А гэта супярэчыла класаваму прынцыпу Кастрычніцкай рэвалюцыі, што ў сваю чаргу прывяло беларускі нацыянальны рух да «...яго ўзурпацыі дробна-буржуазнай згодніцкай інтэлігенцыяй, рэакцыйным чыноўніцтвам і палёно-фільскай шляхтай».

У гэтым жа часопісе за 1929 г. былі змешчаны два артыкулы: «*Аб вытоках беларускага нацыянал-дэмакратызму і нацыянал-фашызму*» **А.Сталевіча** і «*Беларускі нацыянал-фашызм і яго сабрат беларускі нацыянал-дэмократызм*» **А.Некрашэвіча**. У першым артыкуле аўтар адзначыў, што сацыяльная база, эканамічныя і палітычныя прычыны беларускага нацыянал-дэмакратызму даследаваны поўна, чаго не скажаш пра карані і вытокі. Гэтаму ён прысвяціў сваё даследаванне. Вытокамі сталі БСГ і газета «Наша Ніва».

А.Некрашэвіч больш смела і адкрыта паставіў на адну прыступку «...польскі фашызм і беларускі нацыянал-фашызм». Распрацоўшчыкам апошняга ён лічыў А.Луцкевіча, яго вытокамі – той факт, што беларускі нацыянальны рух узнік не на класавай, а на нацыянальнай глебе. Фактарам, які актывізаваў нацыянал-дэмакратызм у Савецкай Беларусі, была названа палітыка Наркамзема. Аўтар засяродзіў увагу над яго асноўнымі палажэннямі, сярод якіх яму асабліва не падабалася адмаўленне класавай барацьбы ў вёсцы і гаворка пра самабытнасць Беларусі. Але найбольш плённа гэтыя ўстаноўкі распрацаваны ў брашуры **А.Зюзькова** «*Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі*» (1931 г.).

На XII з’ездзе КП(б)Б, які адбыўся ў лютым 1929 г., было заяўлена, што беларуская нацыянальная інтэлігенцыя праводзіць нацыяналістычны курс і расце за лік кулацтва. Прадстаўнікі беларускага нацыянальнага руху вымушаны былі падвергнуць сябе самакрытыцы. З.Жылуновіч накіраваў у бюро ЦК КП(б)Б ліст «*Мае памылкі і іх карані»* (1929 г.), у якім назваў БСГ «неаформленай і палітычна нявызначанай паўсектанцкай групоўкай», а Першы Усебеларускі з’езд – «варожай дэманстрацыяй да рабоча-сялянскай улады». Гісторык абвінавацій сябе ў невыкарыстанні класавага прынцыпу.

Тое ж зрабіў У.М.Ігнатоўскі. Выступаючы на XI з’ездзе КП(б)Б, ён ахарактарызаваў свае погляды як памылковыя. Пры гэтым БСГ і Бунд назваў «згаджальніцкімі нацыяналістычнымі партыямі», указаў на неабходнасць класавага падыходу ў ацэнцы нацыянальна-культурнага будаўніцтва. А.Р.Чарвякоў вымушаны быў асудзіць свае погляды ў артыкуле «*Большевистской самокритикой вскроем свои ошибки и еще более закалим свои ряды для борьбы за социализм»* (Звязда, 27 снеж.).

## Праверачны тэст

***I. Вызначце правільны адказ.***

1. Першы старшыня Інбелкульта
   А) У.М.Ігнатоўскі
   Б) С.М.Некрашэвіч
   В) У.І.Пічэта
   Г) М.В.Доўнар-Запольскі.
2. Гісторыка-археалагічную камісію Інбелкульта ўзначальваў
   А) У.М.Ігнатоўскі
   Б) С.М.Некрашэвіч
   В) У.І.Пічэта
   Г) М.В.Доўнар-Запольскі.
3. Першы з’езд даследчыкаў археалогіі і археаграфіі Беларусі адбыўся ў
   А) 1924 г.
   Б) 1925 г.
   В) 1926 г.
   Г) 1927 г.
4. У 1936 – 37 гг. Інстытут гісторыі БАН узначальваў
   А) М.М.Нікольскі
   Б) П.В.Горын
   В) В.К.Шчарбакоў
   Г) У.М.Ігнатоўскі

5. Упершыню абмеркаванне праблемаў гісторыі Беларусі адбылося на навуковай канферэнцыі ў

А) 1927 г.
Б) 1935 г.
В) 1939 г.
Г) 1941 г.

6. У 1920 г. гістпарт быў арганізаваны ў

А) Гомелі
Б) Мінску
В) Віцебску
Г) Магілёве.

7. Першую кнігу па гісторыі КП(б)Б напісаў

А) В.А.Сербента
Б) З.Жылуновіч
В) В.Г.Кнорын
Г) С.Х.Агурскі.

8. У Мінску быў адкрыты Музей

А) грамадзянскай вайны
Б) Савецкай улады
В) пралетарыята
Г) рэвалюцыі.

9. Задача пашырэння марксісцка-ленінскай метадалогіі ў гістарычных даследаваннях была вызначана

А) пастановай ЦК ВКП(б)
Б) рашэннем Бюро ЦК ВКП(б)
В) лістом І.В.Сталіна
Г) рашэннем схода партактыва.

10. Аддзяленне Таварыства гісторыкаў-марксістаў БССР было арганізавана ў

А) 1926 г.
Б) 1927 г.
В) 1928 г.
Г) 1929 г.

11. У 20-я гг. кадры гісторыкаў рыхтавалі ў БДУ на

А) гістарычным факультэце
Б) сацыяльна-эканамічным факультэце
В) педагагічным факультэце
Г) эканамічным факультэце.

12. У 1931 – 1933 гг. кадры гісторыкаў рыхтавалі ў БДУ на

А) гістарычным факультэце
Б) сацыяльна-эканамічным факультэце
В) педагагічным факультэце
Г) эканамічным факультэце.

13. У 20-я гг. яўрэйскіх гісторыкаў-марксістаў абвінавачвалі ў
А) сіянізме
Б) бундызме
В) эканамізме
Г) меншавізме.

14. Аўтар брашуры «Асновы дзяржаўнасці Беларусі»
А) А.І.Цвікевіч
Б) А.Р.Чарвякоў
В) М.В.Доўнар-Запольскі
Г) Ф.Ф.Турук.

15. Першая спроба навуковага аналізу беларускага нацыянальнага руху належыць
А) П.Трамповічу
Б) А.Смолічу
В) Ф.Туруку
Г) А.Бурбісу.

***II. Складзіце пералік.***

1. Вучоныя ступені, уведезныя ў 1934 г.:...
2. Вучоныя званні, уведзеныя ў 1934 г.:...
3. Асноўныя палажэнні яўрэйскай марксісцкай гістарыяграфіі:...
4. Асноўныя палажэнні беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі:...

***III. Вызначце дату.***

1. Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР».
2. Арганізацыя аспірантуры ў БДУ.
3. Адкрыццё Савета па абароне дысертацыяў па гістарычных навуках у БДУ.

# Тэма 8. Даследаванне айчыннай гісторыі ў 1919 – 1941 гг.

## План

1. Станаўленне археалагічнай навукі ў БССР.

2. Абагульняльныя працы па гісторыі Беларусі.

3. Даследаванне гісторыі Беларусі феадальнага перыяду ў даваенны час.

4. Праблемы гісторыі Беларусі капіталістычнага перыяду ў беларускай гістарыяграфіі даваеннага часу.

5. Гісторыя Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў беларускай савецкай гістарыяграфіі 20 –30-х гг.

## Рэкамендаваная літаратура

1. Алексеев, Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI в. – 30-е годы XX в. / Л.В.Алексеев; под ред. Б.А.Рыбакова. – Мн.: Беларуская навука, 1996. – С. 174 – 191.

2. Брыгадзін, П.І. Усевалад Ігнатоўскі: Палітычны дзеяч, вучоны / П.І.Брыгадзін, І.Д.Мацяс. – Мн.: Полымя, 1998. – 96 с.

3. Вяргей, В.С. Археалагічная навука ў Беларускай ССР, 1919 – 1941 гг. / В.С.Вяргей. – Мн.: Навука і тэхніка, 1992. – 144 с.

4. Гануш, А.Г. Мітрафан Доўнар-Запольскі / А.Г.Гануш, П.С.Кручок; пад рэд. В.Ф.Кушнера. – Мн.: Агенцтва «Геронт – А», 1995. – 30 с.

5. Грыцкевіч, А. Погляды Усевалада Ігнатоўскага на гісторыю Беларусі феадальнага перыяду / А.Грыцкевіч // Беларусика = Albaruthenika: Кн. 3: Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне. – Мн.: Навука і тэхніка, 1994. – С. 64 – 70.

6. Достижения исторической науки в БССР за 50 лет (1919 – 1969 гг.): Краткий очерк / под ред. И.С.Кравченко и З.Ю.Копысского. – Мн.: Наука и техника, 1970. – С. 21 – 22.

7. Достижения исторической науки в БССР за 60 лет / Л.Д.Поболь [и др.]; под ред. З.Ю.Копысского, П.Т.Петрикова. – Мн.: Наука и техника, 1979. – С. 5 – 11.

8. Ігнаценка, І.М. У.М.Ігнатоўскі: грамадска-палітычная і навуковая дзейнасць / І.М.Ігнаценка, А.С.Кароль // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1991. – № 2. – С. 71 – 78.

9. Ігнаценка, І. Усевалад Ігнатоўскі і яго час / І.Ігнаценка, А.Кароль. – Мн., 1991.

10. Іофэ, Э. Даследчык эпохі феадалізму / Э.Іофэ // Беларуская мінуўшчына. – 1996. – № 6. – С. 40 – 42.

11. Иоффе, Э.Г. В.И.Пичета как историк социально-экономического развития Белоруссии в эпоху феодализма (XVI – первая половина XVII века). Автореф. дис. на соиск. уч. степ. канд. ист. наук: 07.00.09. – Мн., 1974. – 21 с.

12. Иоффе, Э.Г. Из истории белорусской деревни (Советская историография социально-экономического развития белорусской деревни XVII – первой половины XIX века) / Э.Г.Иоффе. – Мн.: Ураджай, 1990. – 248 с.

13. Копысский, З.Ю. Белоруссия феодального периода в советской историографии 20-х годов / З.Ю.Копысский // Советское славяноведение. – 1988. – № 4. – С. 60 – 65.

14. Копысский, З.Ю. Историография БССР (эпоха феодализма): учеб. пособие / З.Ю.Копысский, В.В.Чепко. – Мн.: Университетское, 1986. – С. 63 – 93.

15. Гісторыя Беларусі: з 1795 г. да вясны 1917 г.: вучэб. дапам. / І.І.Коўкель [і інш.]. – Мн.: Аверсэв, 2001. – С. 11 – 28.

16. Кузьменка, У. Акадэмік У.І.Пічэта: выпрабаванне лёсам / У.Кузьменка, В.Скалабан // Беларускі гістарычны часопіс. – 2003. – № 6. – С. 11 – 18.

17. Кушнер, В. Стваральнік канцэпцыі беларускай нацыянальнай гісторыі / В.Кушнер // Беларускі гістарычны часопіс. – 2004. – № 10. – С. 53 – 60.

18. Ліндbackнэр, Р. Гісторыкі і ўлада: Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст. / Р.Ліндбнэр. – СПб.: Неўскі прасцяг, 2003. – С. 147 – 236.

19. Михнюк, В.Н. Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919 – 1941 гг.) / В.Н.Михнюк; под ред. П.Т.Петрикова. – Мн.: Наука и техника, 1985. – 286 с.

20. Панютич, В.П. Историография аграрной истории Беларуси 1861 – 1917 гг.: монография / В.П.Панютич. – Мн.: ГНУ «Институт истории НАН Беларуси», 2005. – 262 с.

21. Панюціч, В. «На парэформеннай Беларусі развіццё аграрнага ладу мела капіталістычны характар» / В.Панюціч // Навіны Беларускай акадэміі навук. – 1992. – 27 лістап.

22. Спірыдонаў, М.Ф. Асноўныя праблемы гісторыі сялянства Беларусі XIV – XVI стст. у савецкай гістарыяграфіі / М.Ф.Спірыдонаў // Весці АН БССР. Серыя грамад. навук. – 1990. – № 1. – С. 107 – 114.

23. Токарев, Н. «Его работы сохраняют свою научную ценность» / Н.Токарев // Навіны Беларускай акадэміі навук. – 1992. – 25 верас.

24. Шумейко, М.Ф. Неопубликованная монография М.В.Довнар-Запольского «История Белоруссии» как историографический источник / М.Ф.Шумейко // Наш радавод. – Гродна, 1991. – Кн. 3. – Ч. 1. – С. 120 – 124.

25. Яноўскі, А. «Я аддаваў усе свае сілы будаўніцтву БДУ...» / А.Яноўскі // Беларускі гістарычны часопіс. – 2003. – № 6. – С. 3 – 10.

**Тэматыка рэфератаў**

1. Гістарычная канцэпцыя У.І.Пічэты.

2. Гістарычная канцэпцыя У.М.Ігнатоўскага.

3. Праблема паўстання 1863 г. у беларускай савецкай даваеннай гістарыяграфіі.

4. Вывучэнне Заходняй Беларусі ў беларускай савецкай даваеннай гістарыяграфіі.

**1. Станаўленне археалагічнай навукі ў БССР**. Інтэнсіўныя археалагічныя даследаванні ў БССР разгарнуліся з 1921 г., калі пры Наркамаце асветы была створана навукова-тэрміналагічная камісія, якая займалася выяўленнем і ўлікам археалагічных помнікаў. Іх планамернае вывучэнне з 1925 г. пачала гісторыка-археалагічная камісія Інбелкульта, на базе якой стала функцыянаваць кафедра археалогіі. У 1929 г. гэта кафедра пад назвай археалагічнай камісіі ўвайшла ў склад Інстытута гісторыі АН БССР.

Археалагічнымі даследаваннямі ў рэспубліцы кіравалі К.М.Палікарповіч, А.М.Ляўданскі, С.А.Дубінскі.

Вывучэнне археалогіі каменнага веку, у прыватнасці, палеаліту, звязана з імем К.М.Палікарповіча.

**Канстанцін Міхайлавіч Палікарповіч** (1889 – 1963 гг.), беларускі археолаг. Кандыдат гістарычных навук (1951 г.). Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю. Настаўнічаў у школах Чэрыкаўскага павета. Член гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульта. З 1929 г. у АН БССР.

У 1926 г. ён адкрыў першую палеалітычную стаянку на тэрыторыі Беларусі – ля в.Бердыж Чачэрскага раёна, а ў 1929 г. – стаянку ля в.Юравічы Калінкавіцкага раёна. Даследчык выказаў гіпотэзу аб пранікненні старажытнага насельніцтва на тэрыторыю нашай краіны яшчэ ў мусцьерскую эпоху (? 70 – 32 тыс. г. да н.э.). На стаянцы ля в.Елісеевічы (Бранская вобласць РФ) археолаг у 1935 г. знайшоў унікальны матэрыял: рэшткі жылля з касцей мамантаі «палеалітычную Венеру». Археолаг выказаў думку, што першабытны чалавек рабіў аснову жытлаў з чарапоў і інш. буйных касцей мамантаў, а рэбры выкарыстоўваў як землекапалкі.

Вялікая ўвага надавалася разведцы помнікаў мезаліту ў басейнах Дняпра, Сожа, Прыпяці, Заходняй Дзвіны. Падчас экспедыцыяў супрацоўнікаў Інбелкульта (К.М.Палікарповіча, А.М.Ляўданскага, А.Д.Кавалені) былі адкрыты пасяленні Грэнск, Стаўбун, Латкі, Печанеж, Журавель і інш. Першую спробу прааналізаваць і

сістэматызаваць археалагічны матэрыял па мезалітычных помніках зрабіў К.М.Палікарповіч у 1932 г. у тэзісах, падрыхтаваных ім да І-га Усесаюзнага з'езда археолагаў. Даследчык зыходзіў з пануючай у той час этнагенетычнай тэорыі Мікалая Якаўлевіча Мара аб паўсюдным аўтахтонным паходжанні народаў, якая адмаўляла міграцыі і перамяшчэнні старажытнага насельніцтва.

Беларускія археолагі (К.М.Палікарповіч, А.М.Ляўданскі, В.Р.Тарасенка, І.Х.Юшчанка, С.С.Шутаў) выявілі значную колькасць помнікаў эпохі неаліту і бронзавага веку. Але гэта была таксама разведка, бо не хапала матэрыяльных сродкаў і кваліфікаваных кадраў. Раскопкі амаль не праводзіліся. У цэлым да Вялікай Айчыннай вайны ў БССР было выяўлена каля 800 стаянак мезаліту, неаліту і бронзавага веку.

Вялікія дасягненні беларускай археалогіі жалезнага веку звязаны з імем А.М.Ляўданскага.

**Аляксандр Мікалаевіч Ляўданскі** (1893 – 1937 гг.), беларускі археолаг. Скончыў Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. Вучыўся ў Смаленскім універсітэце. Кандыдат гістарычных навук (1934 г.). Член гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульта, загадчык аддзела археалогіі Беларускага дзяржаўнага музея. З 1931 г. вучоны сакратар, загадчык секцыі археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. У 1937 г. арыштаваны і расстраляны ў Мінску.

Пад кіраўніцтвам А.М.Ляўданскага ў БССР было арганізавана планамернае і сістэматычнае вывучэнне тэрыторыі рэспублікі замест эпізадычных, не звязаных адзіным планам, раскопак.

Даследчык адным з першых пачаў даследаваць старажытныя гарадзішчы жалезнага веку. Ён зрабіў іх класіфікацыю, вызначыў іх культурна-археалагічную прыналежнасць, акрэсліў асноўныя рысы матэрыяльнай культуры, гаспадаркі і грамадскіх адносінаў. А.М.Ляўданскі першы выказаў думку, што гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі ў цэнтральнай частцы Беларусі належалі балцкім плямёнам. Таксама ён зрабіў першую і найбольш поўную гістарычную тапаграфію старажытнага Полацка.

Істотны ўклад у вывучэнне помнікаў жалезнага веку цэнтральнай Беларусі ўнёс С.А.Дубінскі.

**Сяргей Антонавіч Дубінскі** (1884 – 1937 гг.), беларускі археолаг. Скончыў Пецярбургскі універсітэт. Працаваў настаўнікам. Член гісторыка-археалагічнай камісіі, з 1928 г. навуковы супрацоўнік Інбелкульта. З 1931 г. працуе ў Інстытуце гісторыі АН БССР, а з 1933 г. Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры ў Ленінградзе. Рэпрэсаваны ў 1937 г.

С.А.Дубінскі даследаваў помнікі ранняга жалезнага веку і эпохі сярэднявечча. На тэрыторыі Беларусі археолаг правёў вывучэнне Банцараўскага гарадзішча – аднёс яго да даславянскага часу. У 1927 г. ён склаў археалагічную карту Магілёўскай вобласці, якая не захавалася. Таксама ім была выдадзена «*Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін*» (1933 г.), у якой прадстаўлены працы пра дакласавае грамадства, ранні феадалізм, нумізматыку, сфрагістыку, архітэктуру, абарончыя збудаванні.

У даваенны перыяд супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР **Аляксандр Дзмітрыевіч Каваленя** (1895 – 1937 гг.) упершыню знайшоў на тэрыторыі Беларусі тры жыллёвыя пабудовы паўземлянога тыпу на ўскраіне Петрыкава.

Таксама археолагі ахарактарызавалі гаспадарчае жыццё насельніцтва першабытнай эпохі. Было выказана меркаванне, што людзі жалезнага веку – гэта аселае насельніцтва, якое спалучала падсечнае земляробства з жывёлагадоўляй і перапрацоўкай металічных руд. Гэта супярэчыла дасавецкай гістарыяграфіі, у якой сцвярджалася аб «прывазным» характары жалеза на Беларусі. А.М.Ляўданскі здолеў раскрыць працэс атрымання жалеза з балотнай руды на прыкладзе гарадзішчаў Паўночнай Беларусі, але не здолеў вызначыць час пачатку выкарыстання жалеза.

Што датычыцца этнічнай гісторыі, то Ляўданскі лічыў, што гарадзішчы Паўночнай, Цэнтральнай Беларусі і Смаленшчыны былі астаўлены літоўскім (балцкім) насельніцтвам. Славяне прыйшлі на гэтую тэрыторыю даволі позна – у канцы I-га тыс. да н.э. А вось гарадзішчы паўднёвай часткі рэспублікі ў той перыяд не атрымалі этнічнага вызначэння з прычыны адсутнасці адпаведных крыніцаў.

Беларускія археолагі не закранулі праблему этнагенезу ўсходніх славян. Ляўданскі выступіў супраць погляду на Палессе як на прарадзіму славян. Гэта было звязана з крытыкай індаеўрапейскай этнагенетычнай канцэпцыі. Як ужо вядома, у 30-я гг. пануючай становіцца «новая моўная тэорыя» М.Я.Мара. Працэс фармавання славян разглядаўся як кансалідацыя некалькі этнічна розных, але гістарычна звязаных паміж сабой плямёнаў. Таму савецкія даследчыкі шукалі генетычныя сувязі ўсходніх славян са скіфамі, кімерыйцамі і нават трыпольцамі.

Як сведчыць С.В.Вяргей, у даваенны перыяд беларускія археолагі правялі дастаткова шырокія даследаванні. Але ўвядзенне ў навуковы зварот фактычнага матэрыялу адставала ад яго назапашвання. У большай ступені была даследавана цэнтральная частка Беларусі. Істотныя недахопы назіраліся ў методыцы палявых ра-

бот. Цяжкасці тлумачацца адсутнасцю фінансавых сродкаў на правядзенне раскопак, недастатковай колькасцю спецыялістаў, а таксама рэпрэсіямі 30-х гг. Вядома, што загінулі артыкулы А.М.Ляўданскага, А.Д.Кавалені, С.А.Дубінскага, знік рукапіс «Нарысаў па гісторыі дакласавага грамадства на тэрыторыі Беларусі».

**2. Абагульняльныя працы па гісторыі Беларусі**. Ужо на пачатковым этапе развіцця гістарычнай навукі БССР прадпрымаліся спробы напісання першых абагульняльных (сінтэтычных) працаў па гісторыі Беларусі У.М.Ігнатоўскім, М.В.Доўнар-Запольскім, В.К.Шчарбаковым, У.І.Пічэтай і інш.

Самай вядомай працай па гісторыі Беларусі, якая з'яўлялася падручнікам у навучальных установах рэспублікі, быў «*Кароткі нарыс гісторыі Беларусі*» **У.М.Ігнатоўскага**, выдадзены ў Мінску ў 1919 г. Кніга мела ў 20-я гг. чатыры выданні.

У.М.Ігнатоўскі прадставіў нацыянальную канцэпцыю айчыннай гісторыі, перыядызацыя якой грунтавалася на дзяржаўніцкім крытэрыі. Аўтар вызначыў пяць перыядаў: полацкі (IX – XII стст.), літоўска-беларускі (XIII – першая палова XVI ст.), польскі (другая палова XVI – канец XVIII ст.), расійскі (канец XVIII – пачатак XX ст.), Беларусь пасля звяржэння царызму. Відавочна, што большая частка тэксту адносіцца да эпохі феадалізму.

Ва «Уводзінах» аўтар падкрэсліў, што БССР не ўключае ўсёй тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі. Ён падзяляў думку Доўнар-Запольскага аб расавай чысціні беларусаў – лічыў, што рускія і ўкраінцы доўгі час жылі «пад турка-мангольскім прыгнётам» і не здолелі захаваць этнічнай чысціні, а беларусы «не спазналі ўплыву мангольскай расы».

У сваёй гістарычнай канцэпцыі У.М.Ігнатоўскі зыходзіў з самастойнасці і незалежнасці Полацкага княства, якое на роўных вяло барацьбу з Кіевам за «ўплыў на Ноўгарад і першынство ва ўсходнеславянскім свеце». Асобная ўвага надавалася дзейнасці Усяслава Брачыславіча і ўплыву хрысціянства (Прадслава, Кірыла Тураўскі, Аўраамій Смаленскі). Гісторык упершыню выкарыстаў тэрмін «літоўска-беларуская дзяржава». Ён лічыў, што Полацкае княства перадала ВКЛ свае парадкі, дзяржаўныя ўстановы, мову і культуру. Таму тэрмін «рускі» раўназначны слову «беларускі».

Пасля Люблінскай уніі 1569 г. Літва і Беларусь былі інкарпараваны Польшчай і страцілі сваю палітычную і культурную незалежнасць. Польскія мова, культура, сацыяльны і палітычны лад, каталіцкая царква занялі пануючае становішча. Ігнатоўскі памылкова лічыў Рэч Паспалітую адзінай і непадзельнай дзяржавай.

Гісторыку належыць права першай распрацоўкі новага сюжэту ў гісторыі Беларусі – ролі казацтва. Аўтар бачыў у казацкім руху XVII ст. шырокае антыфеадальнае паўстанне казакоў і мужыкоў. Гэтая пазіцыя была ў далейшым распрацавана В.К.Шчарбаковым, І.Ф.Лочмелем, Л.С.Абецэдарскім.

Тры падзелы Рэчы Паспалітай сталі вынікам унутранага разлажэння дзяржавы: сацыяльных антаганізмаў, палітычнай анархіі, нацыянальных і рэлігійных спрэчак. Затым адбылася інкарпарацыя Беларусі Расіяй.

Канспектыўна, на некалькіх старонках, даследчык раскрыў чацвёрты перыяд айчыннай гісторыі. На думку У.М.Ігнатоўскага, эканамічны і палітычны стан «гнілога вялікага арганізму» прадвызначыў русіфікацыю, асабліва пасля паўстання 1830 – 1831 гг. Беларускі нацыянальны рух за адраджэнне мовы, культуры, самасвядомасці і дзяржаўнасці, адпаведна, мае сацыяльныя карані і палітычна абгрунтаваны. Аўтар адзначыў, што Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г. вырашыла сацыяльнае пытанне і сутыкнулася з пытаннем нацыянальным. Таму партыя бальшавікоў вымушана была абвясціць БССР.

Да першых абагульных працаў па гісторыі Беларусі адносіцца курс лекцыяў **У.І.Пічэты** «*История белорусского народа»,* якія ўпершыню быў апублікаваны ў дапаможніку «*Курс белорусоведения. Лекции, читанные в Белорусском народном университете в Москве летом 1918 г.»* (1920 г.). Аўтар прасачыў лінію еўрапейскай традыцыі ў гісторыі Беларусі. Ён прытрымліваўся каланізацыйнай тэорыі – лічыў, што славяне каланізавалі тэрыторыю Беларусі.

З пазіцыяў дзяржаўнай школы Пічэта прааналізаваў працэс утварэння ВКЛ, яго палітычную пабудову, уніі з Польшчай, узаемаадносіны з Маскоўскай дзяржавай. Аўтар лічыў, што беларускія землі ўвайшлі ў склад новай краіны добраахвотна, хаця ў канцы 30-х гг. адмовіцца ад гэтай пазіцыі. Па прыкладзе М.К.Любаўскага ён назваў ВКЛ «Літоўска-Рускай дзяржавай» з федэратыўнай пабудовай і аўтаноміяй беларускіх зямель. Той жа характар мела Рэч Паспалітая, але Польшча ў ёй займала дамінуючае становішча.

Асобную ўвагу Пічэта прысвяціў рэлігійнаму пытанню на Беларусі, вызначыў становішча сялян, шляхты, раскрыў русіфікатарскую палітыку царызму, рэформу 1861 г., дзейнасць земстваў, стан гаспадарчага жыцця ў другой палове XIX – пачатку XX ст.

У 1924 г. выйшла «*Гісторыя Беларусі*» **У.І.Пічэты**. Кніга ахоплівае перыяд ад старажытнасці да Люблінскай уніі (1569 г.). Перы-

ядызацыя, якую прапанаваў аўтар, заснавана на прынцыпе дзяржаўнай прыналежнасці Беларусі. Ён вылучыў пяць перыядаў: 1) дагістарычнае мінулае; 2) гісторыя беларускага народа да другой паловы XI ст.; 3) беларускія землі ў XI – XIII стст.; 4) Беларусь у складзе ВКЛ; 5) шляхецкая феадальная дзяржава.

Першы і другі перыяды асвятляюцца ў першым раздзеле працы «Тэрыторыя і яе мінулае». У гэтым раздзеле аўтар разглядзеў рэльеф, рэкі Беларусі, глебы, клімат, раслінны і жывёльны свет, бо гэта, як лічыў У.І.Пічэта, мае самы непасярэдны «ўплыў на гістарычнае жыццё народа». Гісторык упершыню ўключыў у гісторыю Беларусі археалагічную перыядызацыю. Пры гэтым ён разглядзеў археалагічныя знаходкі ў Мінскай, Віцебскай і заходніх паветах Смаленскай губерняў, што супадала з этнічнай тэрыторыяй Беларусі.

Асаблівасцю працы з'яўляецца тое, што гісторыю Беларусі Пічэта прасачыў у кантэксце агульнай славянскай гісторыі. Ён пачаў з прарадзімы славян і з іх суседзей – готаў, іранскіх плямёнаў, скіфаў і сарматаў і інш. Аўтар неаднаразова падкрэсліваў, што ў выніку «Вялікага перасялення народаў» славяне пачалі засяляць новыя землі. Гэты працэс у аўтара атрымаў назву «ўсходнеславянскай каланізацыі», якая была выкарыстана пад уплывам М.К.Любаўскага.

Большая частка першага раздзела прысвечана гісторыі «беларускага племені» да першай паловы XI ст.: паслядоўна разглядаецца гісторыя племянных саюзаў, утварэнне дынастычнай дзяржавы, гандлёвыя сувязі, грамадства, дзяржаўны лад, хрысціянізацыя Беларусі і прававыя нормы.

Раннюю гісторыю Полацкай зямлі Пічэта разглядаў як барацьбу «поўначы» і «поўдня» – варажскіх княстваў і Ноўгарадскага і Кіеўскага княстваў за гандлёвыя шляхі. Паміж гэтымі княствамі апынуліся полацкія крывічы, дрыгавічы, драўляне і інш. Вынікам была перамога «поўначы». Утворанае дзяржаўнае аб'яднанне аўтар назваў Кіеўскай дзяржавай. Прычыны паходаў славян на Візантыю, Камскую Булгарыю, Хазарыю і г.д. Пічэта абгрунтаваў «неабходнасцю наладзіць гандлёвыя справы», «гандлёвымі інтарэсамі». Пры гэтым ён ужыў тэрміны-мадэрнізмы «прамысловая Візантыя», «прадметы індустрыі і ўсходняй прадукцыі», «супольны капітал».

Менш увагі аўтар надаў праблемам грамадскага і дзяржаўнага ладу, культуры перыяду IX – XI стст. Пры гэтым Пічэта асабліва падкрэсліў значную ролю веча пры «пэўнай слабасці княжай улады і пры нязначным аб'яднанні ў палітычных адносінах паасобных краін з Кіевам».

Утварэнню і гісторыі самастойных Полацкай, Тураўскай і Смаленскай «земляў-краінаў» прысвечаныя другі і трэці раздзелы кнігі. Даследчык меркаваў, што пачатак умацавання палітычнай самастойнасці Полацкага княства прыпадае на княжанне Брачыслава Ізяславіча, бо «Полацкая зямля не ўвайшла ў склад Кіеўскай дзяржавы». Прычыну феадальных усобіцаў гісторык бачыў у парушэнні спадчыннага права Яраславічамі. Аўтар выказаў меркаванне, што падзел Кіеўскай дзяржавы «бярэ пачатак у нормах агульнаславянскага сямейнага права». Аднак першаснымі ён лічыў эканамічныя адносіны: «Кіеўская дзяржава, зложаная з паасобных зямель-краін, звязаных з Кіевам толькі эканамічнымі адносінамі, была ўнутры вельмі слабай», і «шэраг з’яў эканамічнага характару ў выглядзе скарачэння дняпроўска-візантыйскага гандлю прыспяшылі працэс распаду».

Пічэта вызначыў акалічнасці і асаблівасці палітычнага развіцця Полацкай, Турава-Пінскай, Смаленскай земляў, прысвяціўшы апошняй вялікі раздзел кнігі. Адзначым, што гісторыя Смаленскага княства гэтага перыяду недастаткова вывучаецца ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі.

Як і яго сучаснікі (У.М.Ігнатоўскі, М.В.Доўнар-Запольскі), Пічэта зрабіў грунтоўны агляд культурнага развіцця беларускіх зямель у XI – XIII стст. Пры гэтым ён лічыў, што «галоўным асяродкам беларускай асветы быў Смаленск». Гэтая думка супярэчыць яго выказванням аб тым, што Полацкая дзяржава стала незалежнай ужо ў XI ст., а Смаленская – толькі ў XII ст. Яна адрозніваецца ад меркаванняў Ігнатоўскага, які лічыў калыскай беларускай культуры Полаччыну, і Доўнар-Запольскага, які вылучаў тры цэнтры: Тураў, Смаленск, Полацк. Цікава, што з’яўленне моўных адметнасцяў на беларускіх землях У.І.Пічэта аднёс да XIII ст. (1229 г.), называючы іх «смаленска-полацкай гутаркай».

Вельмі нязвыклым для тагачаснай гістарыяграфіі з’яўляецца раздзел, прысвечаны палітычнай думцы XI – XIII стст. Гэтага няма ні ў папярэднікаў Пічэты, ні ў далейшых навуковых распрацоўках.

Канцэпцыя У.І.Пічэты аб генезісе ВКЛ не вызначаецца арыгінальнасцю. Відавочна, што гісторык пайшоў следам за сваім настаўнікам М.К.Любаўскім. Пэўнае адрозненне ёсць толькі ў тым, што Пічэта акцэнтаваў увагу на тэрытарыяльна-этнічным характары гістарычнай Літвы. Аўтар падкрэсліваў літоўска-беларускі характар дзяржавы, у прыватнасці, звязваў працэс станаўлення дзяржавы з князямі Войшалкам і Віценем. На думку даследчыка, ВКЛ уяўляла сабой «федэрацыю краін, звязаных з цэнтрам вельмі не-

трывалымі вузламі». У.І.Пічэта прывёў дэталёвы агляд падзей другой палавіны XIV ст. Асабліва падрабязна ён раскрыў характар узаемаадносін з Масквой, пачынаючы ад часоў Казіміра Ягелончыка.

Вельмі важным з’яўляецца раздзел, у якім разглядаецца развіццё гаспадаркі ў XV – першай палове XVI ст. Аўтар прааналізаваў прычыны слабасці дзяржаўнага скарбу і малую эфектыўнасць гаспадарчай дзейнасці ўвогуле. Гэта вызначала малыя выдаткі на войска, залежнасць гаспадара ад магнатаў.

У пятым раздзеле кнігі разглядаецца ўтварэнне Рэчы Паспалітай. Унутрыпалітычныя адносіны і Лівонская вайна пададзены Пічэтам канспектыўна. Значна больш гаворыцца аб захадах, якія рабіў урад ВКЛ для павышэння абароназдольнасці краіны.

Уважліва падыйшоў Пічэта да асвятлення беларускага Адраджэння XVI ст. Тут ён зрабіў значны крок наперад у тагачаснай беларускай гістарыяграфіі. Пачатак беларускага Адраджэння даследчык звязаў з ростам гандлёвых адносін з Заходняй Еўропай, павелічэннем тавараабмену, са з’яўленнем багатага мяшчанства і багатых землеўладальнікаў (г.зн. з узнікненнем сацыяльных слаёў, падрыхтаваных да ўспрыняцця культуры новага ўзроўню), бо менавіта «гандлёвыя сувязі з Захадам пазнаёмілі літоўска-беларускіх землеўласнікаў з еўрапейскай культурай». Гуманізм на Беларусі Пічэта ўпершыню падзяліў на дзве плыні: гарадскую і шляхецкую. Пры гэтым аўтар сцвярджаў, што «гарадскі гуманістычны рух меў замкнёны характар і не выходзіў за межы горада».

Да асаблівасцяў кнігі можна аднесці ўжыванне аўтарам разнастайных тэрмінаў-мадэрнізмаў, напрыклад, «абрабляючая прамысловасць», «здабываючая прамысловасць», «банкроцтва», «партыя», «інтэлігенцыя». Характарызуючы эканамічныя і грамадскія стасункі XIII – XIV і XV – XVI стст., ён ужывае такія паняцці, як «еўрапейскі капітал», «рабочы клас», «каланіяльныя прадукты», «буржуазія».

Варта адзначыць, што Пічэта размяшчаў цэнтр беларускай цывілізацыі на Смаленшчыне. Беларусь ён бачыў на землях Полаччыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Міншчыны. Магчыма, гэта тлумачыцца настроямі ў тагачасным беларускім грамадстве. У гэты час адбываліся «ўзбуйненні» БССР, што патрабавала пэўнага ідэалагічнага абгрунтавання.

Самай аб’ёмнай сярод напісаных у 20-я гг. сінтэтычных працаў па гісторыі Беларусі лічыцца «*История Белоруссии*» **М.В.Доўнар-Запольскага**. Кніга не была надрукавана пры жыцці аўтара з палітычных прычынаў. Аўтар працаваў над рукапісам, які задум-

ваўся як вучэбны дапаможнік для тэхнікумаў і вышэйшай школы, з 1918 па 1926 г.

Доўнар-Запольскі прапанаваў сваю ўласную перыядызацыю гісторыі Беларусі. Першы перыяд – «старажытны» (VII – IX ст.), другі – «княжаскі (X – XIII ст.), трэці – «Вялікае княства Літоўскае» (XIII – першая палова XVI ст.), чацвёрты – «эпоха ўніі з Польшчай» (другая палова XVI – канец XVIII ст.), пяты – «перыяд падзелаў» (канец XVIII – першая трэць XIX ст.), шосты – «эпоха рускага панавання» (другая трэць XIX – канец XIX ст.), сёмы – «эпоха нацыянальнага адраджэння» (мяжа XIX – XX ст.), восьмы – «барацьба за дзяржаўнасць» (1915 – 1919 гг.). Перыядызацыя сведчыць, што галоўнай праблемай, якую даследаваў аўтар, была праблема дзяржаўнасці на тэрыторыі Беларусі.

Канцэпцыя айчыннай гісторыі Доўнар-Запольскага грунтуецца на палажэннях яго першых працаў канца XIX ст. і апублікаваных працаў дзеячоў беларускага нацыянальнага руху. Яна вызначаецца наступнымі тэзісамі: паходжанне беларусаў з крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў («пачатак развіцця беларускай нацыі»); «расавая чысціня» беларусаў і палякаў; «каланізацыйная тэорыя» (славянская каланізацыя тэрыторыі Беларусі); Ноўгарад – калонія Полацка; ідэя Літоўска-Рускай дзяржавы; прыярытэт сацыяльна-эканамічнай гісторыі; дамінаванне нацыянальнага руху над сацыяльным; непрызнанне Кастрычніцкай рэвалюцыі (нават не ўзгадваецца ў тэксце); вядучая роля БНР у фармаванні беларускай дзяржаўнасці.

Рукапіс кнігі Доўнар-Запольскага быў разгледжаны намеснікам загадчыка аддзела друку пры ЦК КП(б)Б В.А.Сербентам (1895 – 1980 гг.), які наклаў рэзалюцыю: «рукапіс нельга дазволіць друкаваць» за нераскрытую ролю рабочага класа, завышаную ацэнку БНР і БСГ. 28 студзеня 1926 г. адбылося закрытае пасяджэнне Бюро ЦК КП(б)Б па гэтым пытанні. У пастанове адзначалася: «1. Признать, что книгу Довнар-Запольского издавать нельзя как выражающую позицию белорусского национального демократизма и в корне искажающую историю Беларуси. 2. Рукопись взять в собственость БелГИЗа... для использования в порядке секретного материала... 3. Считать необходимым подвергнуть широкой критике книгу... в целях развёртывания идеологической борьбы против национального демократизма». На новым пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б, якое адбылося 4 лютага 1926 г., Сербента атрымаў даручэнне напісаць у газету «Савецкая Беларусь» шэраг артыкулаў з крытыкай Доўнар-Запольскага.

Не заладзіліся асабістыя адносіны Доўнар-Запольскага з рэктарам БДУ У.І.Пічэтам, які садзейнічаў ад'езду даследчыка з БССР. У верасні 1926 г. М.В.Доўнар-Запольскі пад прымусам ЦК КП(б)Б і органаў НКУС назаўсёды пакідае Беларусь. Сям'я пераязджае ў Маскву, дзе вучоны працуе прафесарам Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі, выкладчыкам у Інстытуце народнай гаспадаркі імя Г.В.Пляханава, правадзейным членам Інстытута гісторыі АН СССР.

Вельмі цяжкім быў для Доўнар-Запольскага перыяд з другой паловы 1920-х гадоў. У 1927 г. яму споўнілася 60 гадоў. У Беларусі ўсё шырэй разгортваецца барацьба супраць нацдэмаў. 14 чэрвеня 1929 г. Бюро ЦК КП(б)Б прыняло рашэнне «Паведаміць ЦК ВКП(б) аб тым, што ЦК КП(б)Б катэгарычна супраць кандыдатуры Доўнар-Запольскага ў Акадэмію Навук СССР». У 1930 – 1934 гг. практычна ўсе працы Доўнар-Запольскага жорстка крытыкуюцца. Сам ён абвінавачваецца ў нацыянал-дэмакратызме, неанародніцтве і нават фашызме. Асабліва стараецца яго былы вучань А.Аглоблін, які абвяшчае барацьбу супраць буржуазнай гістарычнай школы Доўнар-Запольскага адной з найважнейшых задачаў савецкай гістарычнай навукі. Не абыйшоў яго сваёй увагай і акадэмік Шчарбакоў. У сваёй працы «Класавая барацьба і гістарычная навука на Беларусі: Гістарыяграфічныя нарысы» (1934 г.) ён назваў Доўнар-Запольскага «ідэёлагам і правадыром нацдэмаў на Беларусі». 30 верасня 1934 г. Доўнар-Запольскі памёр.

Да абагульняльных працаў па гісторыі Беларусі адносіцца кніга **В.К.Шчарбакова** «*Нарыс гісторыі Беларусі»,* першая частка якой была выдадзена ў 1934 г. Даследчык на падставе прынцыпу партыйнасці прааналізаваў гістарычнае развіццё Беларусі са старажытных часоў па XVIII ст. Перыядызацыя аўтарам пабудавана на марксісцкім фармацыйным падыходзе: вызначаюцца «першабытна-камуністычнае грамадства і яго разлажэнне», «развіццё феадалізма і класавая барацьба да сярэдзіны XV ст.», «далейшае развіццё феадальна-прыгонніцкай гаспадаркі і рост эксплуатацыі сялянства», «сялянскі рух у XVI і XVII ст.», «феадальна-прыгонніцкія адносіны і барацьба сялянства ў другой палове XVII і ў XVIII ст».

У цэнтры ўвагі В.К.Шчарбакова – эканамічныя працэсы і класавая барацьба ў Беларусі. Пры гэтым адчуваецца мадэрнізацыя гістарычнага мінулага. Напрыклад, прычынамі ўтварэння ВКЛ аўтар лічыць аб'яднанне кіруючых колаў супраць абшчыннага сялянства з мэтай захопу яго земляў і пераўтварэння ў прыгнечаны клас, знешняя небяспека ад мангола-татараў і крыжакоў. Праўда, даследчык вызначыў ВКЛ як «Літоўска-Беларускую дзяржаву».

Падзеі палітычнага жыцця падаваліся з прыярытэту класавай барацьбы. Нават Люблінская унія, згодна з Шчарбаковым, была вынікам сялянскага руху. Аўтар адмаўляў магчымасць культурнага развіцця ў эпоху феадалізму, таму не раскрыў дзейнасць Ф.Скарыны, В.Цяпінскага, С.Буднага. Дарэчы, ён увёў паняцце «феадальная культура»: «У феадальным, а таксама і капіталістычным грамадстве ўласна культурай лічылася культура панавальных класаў». Царква абвінавачвалася ў тым, што яна падтрымлівала толькі вузкую грамадскую праслойку, а гісторыкі нацыянальна-дэмакратычнага кірунку не далі «выразна класавай ацэнкі ўсіх гэтых з’яў феадальнай культуры».

Пад кіраўніцтвам **У.І.Пічэты** ў чэрвені 1941 г. выйшлі «*Нарысы па гісторыі Беларусі*». У гэтай калектыўнай працы гістарычнае мінулае Беларусі разглядалася са старажытных часоў да падзелаў Рэчы Паспалітай. Але ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі амаль увесь тыраж кнігі загінуў і не дайшоў да чытача.

**3. Даследаванне гісторыі Беларусі феадальнага перыяду ў даваенны час**. У даваенны перыяд асноўная ўвага беларускіх гісторыкаў была сканцэнтравана на вывучэнні праблемаў гісторыі Беларусі эпохі феадалізму. З.Ю.Капыскі і В.У.Чапко прывялі факт, што за 1918 – 1941 гг. у БССР было апублікавана 140 працаў, прысвечаных гэтаму перыяду: 23 кнігі, 102 артыкула, 16 артыкулаў у газетах.

Асновы для вывучэння шматлікіх праблемаў гісторыі Беларусі IX – сярэдзіны XIX ст. заклаў **У.І.Пічэта**. У дакументальнай двухтомавай працы «*Аграрная рэформа Жыгімонта-Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве*» (1917 – 1918 гг.) ён разглядзеў прычыны правядзення і вынікі гаспадарчых пераўтварэнняў сярэдзіны XVI ст. Новым словам у айчыннай гістарыяграфіі стала кніга «*Гісторыя сельскай гаспадаркі і земляробства Беларусі (да канца XVI ст.)*», выдадзеная ў Мінску ў 1927 г. Аўтар раскрыў кіруючую ролю класа феадалаў у развіцці аграрных адносінаў, ахарактарызаваў феадальную вотчыну, закрануў праблему запрыгоньвання сялянства – лічыў прыгоннае права вынікам грамадскага развіцця. Гэты пастулат супярэчыў пазіцыі гісторыкаў дзяржаўна-юрыдычнай школы другой паловы XIX – пачатку XX ст.

Вучнем Пічэты **Андрэем Вікенцьевічам Бурдзейка** (1899 – 1941 гг.) разглядалася класавая сутнасць феадальнай улады і яе заканадаўчая роля ў зацвярджэнні і далейшым умацаванні феадальна-прыгонніцкай сістэмы. Ён на падставе аналіза Статута ВКЛ 1566 г.

даказваў існаванне прыгонніцтва ў ВКЛ. Ён жа напісаў нарыс гісторыі Навагрудка, дзе ўпершыню ў беларускай гістарыяграфіі адзначыў яго ролю як сталіцы ВКЛ.

Аб'ёмны артыкул Т.І.Забелы «*Панская гаспадарка на Беларусі і быт падданага сялянства ў другой палове XVIII сталецьця»* (1928 г.), у якім аўтар абапіраўся на інвентары феадальных уладанняў, вывучаў стан панскай і сялянскай гаспадарак на беларускіх землях у апошняе стагоддзе Рэчы Паспалітай. Аўтар падкрэсліваў, што ў XVIII ст. узмацнілася эксплуатацыя сялянства. Але ён памылкова сцвярджаў пра заняпад эканомікі Беларусі ў другой палове XVIII ст., адмаўляў яе сувязь з рынкам.

**Тодар Іванавіч Забела** (1896 – 1935(?) гг.) нарадзіўся ў в.Чабусы Бабруйскага павета. Скончыў БДУ. Працаваў настаўнікам. У 1925 – 1928 гг. вучыўся ў аспірантуры БДУ пад кіраўніцтвам У.І.Пічэты. З 1928 г. супрацоўнік Інбелкульта, затым Беларускай АН. З 1929 г. працаваў у Магілёўскім дзяржаўным архіве. Арыштаваны па справе СВБ. Быў высланы на пяць гадоў у Елабугу, дзе памёр.

Працы К.І.Кернажыцкага, у прыватнасці, «*Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII і першай палове XIX ст.: (Да праблемы разлажэння феадалізма ў Беларусі)»* (1935 г.) былі прысвечаны характарыстыцы феадальнай вотчыны на тэрыторыі Беларусі.

**Канстанцін Іванавіч Кернажыцкі** (1902 – 1942 гг.) нарадзіўся ў в.Выдранка Чэрыўскага павета. Кандыдат гістарычных навук (1934 г.). У 1930 – 1937 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР, адначасова выкладаў у БДУ. У 1937 г. арыштаваны, асуджаны на восем гадоў зняволення. Памёр у Сібіры.

Даследчык паказаў узмацненне феадальнага прыгнёту і вызначыў агульныя рысы мясцовай эканомікі (уздым гаспадаркі, пачатак маёмаснай дыферэнцыяцыі сялянства, пашырэнне вольнанаёмнай працы). Кернажыцкі прыйшоў да высновы аб разлажэнні феадальна-прыгонніцкіх і зараджэнні капіталістычных адносінаў, што сведчыла аб крызісе прыгонніцкай сістэмы.

Аўтар упершыню ў беларускай гістарычный навуцы ўвёў статыстычны метад апрацоўкі дакументальных крыніцаў па аграрнай гісторыі. Даследаванні К.І.Кернажыцкага ўтрымлівалі і першую спробу перыядызацыі гісторыі Беларусі эпохі феадалізму.

Гісторыю беларускага сярэднявечнага горада вывучаў В.Д.Дружчыц.

**Васіль Данілавіч Дружчыц** (1886 – 1937 гг.) нарадзіўся ў в.Блудзень Пружанскага павета Гродзенскай губерні. Скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, вучыўся ў Літоўскай духоўнай семінарыі, Дэрпцкім універсітэце. Працаваў настаўнікам гісторыі ў Вільні, Шаўлях, Рэчыцы, Бабруйску. З 1922 г. выкладчык, з 1927 г. прафесар БДУ. Член Інбелкульта, з 1927 г. старшыня камісіі па гісторыі гарадоў. З 1933 г. прафесар кафедры гісторыі народаў СССР Літаратурнага інстытута (Масква). Арыштаваны і расстраляны ў Мінску.

Асобную ўвагу гісторык звярнуў на магдэбургскае права (*«Войты і іх улада ў беларускіх местах з магдэбургскім правам»* (1928 г.), «*Магістрат у беларускіх местах з магдэбургскім правам»* (1929 г.)). Даследчык лічыў, што гарадское самакіраванне стала вынікам эканамічнага развіцця гарадоў і сацыяльнай барацьбы. Магдэбургскае права ў Беларусі не было копіяй нямецкага і польскага ўзору, а мела пэўныя асаблівасці (гарадская рада не была строга размежавана з лавай, адсутнічала пасада бургграфа, войт прызначаўся князем, пасада лаўніка не перадавалася па спадчыне, гараджане прымалі актыўны ўдзел у выбарах органаў самакіравання і інш.).

Дружчыц, працягваючы даследаванні свайго настаўніка Пічэты, разглядаў становішча ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай у пасляльюблінскі перыяд. Аналіз тэксту Статута ВКЛ 1588 г. і факты палітычнага жыцця апошняй трэці XVI ст. схілілі яго да высновы, што ў пабудове агульнай дзяржавы дакладна паўставалі ўсе элементы дуалізму на федэратыўнай аснове. У артыкуле «*Да пытання аб мове Літоўскага статута»* ён са спасылкамі на Я.Карскага і А.Шахматава даказваў, што Статуты былі складзены на беларускай мове і з’яўляюцца помнікамі старабеларускай мовы і юрыдычнай думкі феадальнай эпохі. Гэтае палажэнне цалкам увайшло ў беларускую савецкую гістарыяграфію.

Актуальны характар у беларускай савецкай даваеннай гістарыяграфіі набыло пытанне класавай барацьбы. У 1935 г. з’явілася манаграфія акадэміка **В.К.Шчарбакова** «*Сялянскі рух і казацтва на Беларусі ў эпоху феадалізма»*. Асноўную ўвагу аўтар прысвяціў аналізу «вызваленчай» барацьбы беларускага народа сярэдзіны XVII ст. і Крычаўскаму паўстанню 1740 – 1744 гг. Праўда, раскрыць буйную праблему сялянскага руху на Беларусі аўтар не здолеў. Ён перабольшваў сацыяльнае значэнне сялянскага пратэсту – у паўстаннях XVI – XVIII стст. прасочваў мэты буржуазных рэвалюцыяў.

Тэндэнцыйнасцю характарызуецца кніга І.Ф.Лочмеля «*Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов»* (1940 г.).

**Іосіф Фадзеевіч Лочмель** (1907 – 1942 гг.) скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. У 1935 – 1941 гг. навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. Загінуў на фронце ў Вялікую Айчынную вайну.

Гісторык прыйшоў да высновы, што нацыянальны і рэлігійны прыгнёт беларускага народа з боку польскіх паноў выклікаў яго імкненне да ўз'яднання з Расіяй, прычым нацыянальна-вызваленчая і антыфеадальная барацьба зліваліся ў адзіную плынь.

У міжваенны перыяд у непасрэднай сувязі з развіццём уласнай дзяржаўнасці значных вынікаў дасягнулі польскія і літоўскія даследчыкі па асобных накірунках гістарыяграфіі. Маюцца на ўвазе працы такіх польскіх гісторыкаў, як Л.Калянкоўскі, О.Галецкі, Г.Пашкевіч, К.Хадыніцкі, С.Кучыньскі, В.Пацеха, літоўскіх – К.Буга, К.Авіжоніс, Я.Івінскіс, І.Матусас, А.Шапока, С.Заянчкоўскі і інш.

Асобна стаяць грунтоўныя працы польска-літоўскага гісторыка **Генрыха Лаўмяньскага** (1898 – 1984 гг.), аднаго з найбольш выдатных даследчыкаў ранніх этапаў грамадска-палітычнай эвалюцыі ВКЛ. У манаграфіі «*Studia nad poczatkami spoleczenstwa i panstwa litewskiego*» (1931 – 1932 гг.) на шырокім параўнальным фоне, з выкарыстаннем незвычайна вялікага кола разнастайных крыніцаў па гісторыі балцкіх народаў аўтар грунтоўна даследаваў працэс асадніцтва, палітычна-тэрытарыяльную структуру этнаграфічнай Літвы, фармаванне літоўскай манархіі, зямельнай уласнасці, зараджэнне саслоўнага падзелу грамадства. У іншых сваіх працах, напрыклад, «*Studia nad dziejami Wielkiego Ksiestwa Litewskiwgo*» (1983 г.) ён прысвяціў шмат увагі раскрыццю сацыяльных і палітычных перадумоў Крэўскай уніі, гаспадарчай і сацыяльнай эвалюцыі ВКЛ да Люблінскай уніі 1569 г.

Адзін з істотных недахопаў значнай часткі польскай гістарыяграфіі XIX – першых дзесяцігоддзяў XX ст. быў у тым, што яна не прымала ВКЛ як самастойны суб'ект знешняй і ўнутранай палітыкі, разглядала ВКЛ як правінцыю Польшчы. Толькі ў 20 – 30-я гг. XX ст. ва ўмовах пэўнай стабілізацыі палітычных рэжымаў у Літве (слабей у Польшчы) сталі фармавацца новыя падыходы да палітычнай гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Менавіта ў гэты час плённай працай літоўскіх і польскіх гісторыкаў (нярэдка на рознай палітычнай і ідэалагічнай аснове) былі створаны значныя навуковыя працы па палітычнай гісторыі ВКЛ, пераважна яго першых этапаў. Некалькі грунтоўных працаў Г.Лаўмянскага высока ўзнялі планку навуковых гістарычных даследаванняў як у сферы метадалогіі, так і методыкі. Шэраг пазнейшых працаў, пачына-

ючы ад Г.Пашкевіча і відных літуаністаў Вільні, не маглі не ўлічваць гэтага прыкладу, новых крытэрыяў і прапорцыяў у навуцы. Але падобных сінтэтычных прац па пазнейшай гісторыі ВКЛ XV – XVI стст. створана не было.

**4. Праблемы гісторыі Беларусі капіталістычнага перыяду ў беларускай гістарыяграфіі даваеннага часу**. Важным аспектам даследаванняў беларускіх гісторыкаў 20 – 30-х гг. была распрацоўка праблемаў гісторыі Беларусі эпохі капіталізму. Яна вялася па такіх напрамках як праблема паўстання 1863 г. у Польшчы, Літве і Беларусі, сялянскі, рабочы і народніцкі рухі, рэвалюцыя 1905 – 1907 гг., сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. і інш.

У распрацоўку праблемаў паўстання 1863 г. у даваенны перыяд значны ўклад унеслі З.І.Ангерэціс, У.М.Ігнатоўскі, М.В.Мялешка, Д.М.Васілеўскі, І.А.Віткоўскі, С.Ю.Матулайціс, С.М.Драніцын, І.Ф.Лочмель і інш.

Гэтая праблема ўпершыню была грунтоўна даследавана **У.М.Ігнатоўскім**. Погляды гісторыка на паўстанне 1863 г. неаднаразова падвяргаліся карэктыроўцы. У «Кароткім нарысе гісторыі Беларусі» выдання 1924 г. ён вызначаў паўстанне як сінтэз сялянскага і палітыка-вызваленчага руху супраць царскай Расіі. Сяляне, на яго думку, ішлі за «чырвонымі». Але ў выданні 1926 г. адмаўляецца ад гэтага тэзіса і піша аб «пасіўнасці» сялян – толькі «найбольш свядомае сялянства» групавалася вакол лагера К.Каліноўскага. Падобнай пазіцыі прытрымліваўся Дружчыц.

У манаграфіі «*1863 год на Беларусі*» (1930 г.) У.М.Ігнатоўскі канчаткова адмовіўся ад вызначэння паўстання як выключна «сялянскага руху». Гісторык адзначыў, што, акрамя Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губерняў, няма дакументальнага пацвярджэння шырокага ўдзелу сялянства ў паўстанні.

Як і іншыя аўтары, Ігнатоўскі стаў зыходзіць са шляхецкага характару паўстання 1863 г., задача якога была дасягнуць «асаблівай аўтаноміі Беларусі ў складзе федэратыўнай Рэчы Паспалітай». Пад паняццем «шляхецкае паўстанне» ён разумеў не толькі збяднелую «пралетарызаваную» шляхту, але і частку гарадскога прадпрымальніцкага класу і дробнабуржуазную інтэлігенцыю.

Манаграфія У.М.Ігнатоўскага выклікала дыскусію ў ЦК КП(б)Б. У чэрвені 1929 г. адбылася канферэнцыя камуністычных вучоных. На ёй акадэмік С.Х.Агурскі выказаў незадаволенасць кнігай і заявіў, што ён сам у ленінградскім Музеі рэвалюцыі «вы-

явіў іншых аўтараў і выдаўцоў тых дакументаў, якія Ігнатоўскі прыпісвае Каліноўскаму». «Кастуся Каліноўскага, які засведчыў сябе як паплечнік Герцэна, трэба было б ахарактарызаваць перадусім як польскага шавініста, калі б ён сапраўды напісаў тое, што яму прыпісвае Ігнатоўскі».

Але ў хуткім часе і сам С.Х.Агурскі трапіў пад крытыку на старонках часопіса «Историк-марксист». Яго абвінавацілі ў прынцыповым скажэнні гісторыі паўстання 1863 г., у тым, што ён прыпісаў арганізацыю паўстання памешчыкам і духавенству, «дапусціў сцвярджэнні аб пасіўнасці і контррэвалюцыйнасці сялянства».

Ігнатоўскі ў адказ на крытыку старшыні камісіі парткантролю У.П.Затонскага напісаў адкрыты ліст, у якім абвінаваціў сябе ў адступленні ад марксісцкіх пазіцыяў і класавага падыходу, у недасканалым адлюстраванні пазіцыі сялянства ў паўстанні 1863 г. Ён запэўніў, што выправіць дапушчаныя «памылкі». Таму ў Беларускай савецкай энцыклапедыі і Малой савецкай энцыклапедыі паўстанне падавалася як сялянскі рух, накіраваны супраць памешчыкаў.

Новыя падыходы і высновы аб паўстанні 1863 г. у Беларусі і яго кіраўніку К.Каліноўскім даў у сваёй кнізе «*Очерк борьбы белорусского народа против польских панов*» **І.Ф.Лочмель** (1940 г.). Ён указаў на непасрэдную сувязь паўстання з рэформай 1861 г. К.Каліноўскі ацэньваўся ім як найбольш радыкальны кіраўнік паўстання, выразнік і абаронца прыгнечанага сялянства, паслядоўнік перадавых рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэяў А.І.Герцэна і М.Г.Чарнышэўскага.

У публікацыях 20-х гг. некаторае асвятленне атрымалі і пытанні народніцкага руху ў Беларусі. У перыядычным друку з успамінамі выступілі некаторыя актыўныя дзеячы народніцтва, якія з’яўляліся выхадцамі з беларускіх губерняў або пражывалі ў Мінску. Былі апублікаваны і біяграфічныя нарысы аб відных дзеячах народніцкага руху – ураджэнцах Беларусі. Тады ж з’явіліся і першыя артыкулы вучоных-гісторыкаў аб рэвалюцыйным руху ў 70 – 80-я гг. XIX ст. Найбольш грунтоўнымі з іх былі артыкулы **І.А.Віткоўскага** і **С.Я.Вальфсона**, заснаваныя на архіўных дакументах і ўспамінах актыўных удзельнікаў народніцкага руху. Але гэта былі толькі першыя спробы, і яны не маглі глыбока раскрыць праблему ў цэлым.

Вялікая ўвага надавалася праблеме рэвалюцыйнага руху канца XIX – пачатку XX ст. Яна знайшла сваё адлюстраванне ў працах У.І.Пічэты, А.В.Шастакова, І.М.Барашкі, М.В.Мялешкі, Е.А.Мара-

хаўца, А.І.Зюськова, Ф.А.Папова і інш. Яны разглядалі развіццё рэвалюцыйнага руху ў Беларусі як частку агульнарасійскага рэвалюцыйнага працэсу, якім кіравалі бальшавікі, характарызавалі дзейнасць партыяў меншавікоў, эсэраў, бундаўцаў і БСГ як дробнабуржуазных сілаў. Аўтары падкрэслівалі, што ў барацьбе з гэтымі партыямі фармаваліся кадры бальшавікоў у Беларусі. **У.І.Пічэта** ў артыкуле «*Класавыя супярэчнасці ў Беларусі напярэдадні рэвалюцыі»,* апублікаваным у зборніку «Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху» (1924 г.), на вялікім фактаалагічным матэрыяле паказаў саслоўна-сярэднявечны характар землеўладання, панаванне памешчыцкага землеўладання латыфундыяльнага тыпу, разлажэнне і дыферэнцыяцыю сялянства. Але аўтар перааацэньваў ступень развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы. На яго думку, ужо ў пачатку XX ст. сяляне раскалоліся на два антаганістычных класа, а памешчыцкія маёнткі ў сваёй большасці перайшлі да выкарыстання вольнанаёмнай працы.

Да 20 – 30-годдзя рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. былі выдадзены зборнікі дакументаў і створана хроніка яе найважнейшых падзеяў у Беларусі. Хроніка была складзена **Л.М.Майзелем** на падставе матэрыялаў перыядычнага друку і дакументальных зборнікаў, спецыяльнай літаратуры. У ёй утрымліваецца шмат фактаў аб сацыяльна-эканамічным становішчы Беларусі, дзейнасці партыі бальшавікоў напярэдадні і падчас рэвалюцыі, развіцці рабочага і сялянскага руху. Паколькі хроніка была складзена пераважна на матэрыялах газеты Бунда «Апошнія навіны», то на ёй ляжыць адбітак бундаўскага ўспрымання падзеяў. Гэта прымушае гісторыкаў крытычна ставіцца да дадзенай публікацыі.

У 20 – 30-я гг. беларускія гісторыкі актыўна даследавалі праблемы развіцця капіталізму ў Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. Іх распрацоўкай займаліся А.В.Шастакоў, М.В.Доўнар-Запольскі, Д.А.Дудкоў, К.І.Кернажыцкі, В.К.Шчарбакоў і інш.

У рабоце **А.В.Шастакова** «*Капіталізацыя сельскай гаспадаркі Расіі»* (1924 г.) давалася характарыстыка развіцця капіталістычных адносінаў у памешчыцкіх маёнтках Беларусі, указвалася на пранікненне капіталізму і ў сялянскую гаспадарку. Але ацэнка ўзроўню развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы ў ёй перабольшана, а наяўнасць перажыткаў феадалізму ў вёсцы аўтар не заўважыў. Некаторыя палажэнні сфармуляваны аўтарам апрыёрна, без пацвярджэння фактамі. А.В.Шастакоў лічыў, што ў сельскай гаспадарцы Беларусі пераважаў «амерыканскі шлях» развіцця капіталізму.

**М.В.Доўнар-Запольскі**, наадварот, прыніжаў узровень развіцця капіталізму ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. У апублікаванай у 1926 г. манаграфіі «*Народная гаспадарка Беларусі. 1861 – 1914 гг.*» ён сцвярджаў, што Беларусь у пачатку XX ст. з'яўлялася прыгонніцкай краінай, слаба закранутай капіталізмам. Феадалізм тут поўнасцю панаваў да 80 – 90-х гг. XIX ст. Гісторык зыходзіў з народніцкай высновы аб параўнальнай устойлівасці працоўнай гаспадаркі селяніна-серадняка.

З нагоды выхаду кнігі ў 1931 г. **Г.Бондар** друкуе артыкул «*Пакончыць з рэшткамі народніцтва*». У гэтым жа годзе пад рэдакцыяй акадэміка **С.Я.Вальфсона**, які ўжо добра набіў руку на «выкрывальніцтве нацдэмаў», выходзіць кніга «*Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі*» (Т.1, 1931 г.) У ёй змешчаны артыкул самога Вальфсона «*Ідэалёгія і метадалёгія нацдэмакратызму*» і артыкул **Р.Выдры** «*Беларускі нацдэмакратызм у краязнаўчым руху БССР*». У гэтых артыкулах творам М.В.Доўнар-Запольскага даецца толькі адмоўная ацэнка. Бічуюць Доўнар-Запольскага і акадэмік **М.М.Нікольскі** ў брашуры «*Устаноўкі і метады нацдэмаўскай этнаграфіі*» (1931 г.), і сёння нікому не вядомы **В.Карніенка** «*Класавая барацьба на гістарычным фронце*» (1932 г.).

Больш паглыбленую распрацоўку гэтая праблема атрымала ў пачатку 30-х гг. у працах **Д.А.Дудкова**, **К.І.Кернажыцкага** і **В.К.Шчарбакова**.

**Дзяніс Аляксандравіч Дудкоў** (1904 – 1948 гг.) нарадзіўся ў м.Круглае Магілёўскага павета. Кандыдат гістарычных навук (1935 г.). Скончыў БДУ. У 1931 – 1941 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі пры ЦК КП(б)Б, Інстытуце гісторыі АН БССР, БДУ і Мінскім педінстытуце. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1945 г. працаваў у БДУ, з 1946 г. – у Інстытуце гісторыі АН БССР.

Гісторык апублікаваў дзве манаграфіі: «*Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губерні*» (1931 г.) і «*Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў другой палове XIX і пачатку XX стагоддзя*» (1932 г.). У сваіх работах Дудкоў абапіраўся на тэарэтычную спадчыну Леніна, палажэнні і высновы, сфармуляваныя ў яго працы «Развіццё капіталізму ў Расіі». Выкарыстоўваючы ленінскую метадалогію, ён раскрыў працэс фармавання капіталістычных адносінаў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. Даследчык прадпрыняў спробу раскрыць месца і ролю гандлёвага земляробства ў памешчыцкай гаспадарцы, сувязь сельска-

гаспадарчай вытворчасці з рынкам. Але выкарыстаўшы параўнальна вузкае кола крыніцаў, ён прыйшоў да неабгрунтаванай высновы, што сельская гаспадарка Беларусі спецыялізавалася ў асноўным на вырошчванні бульбы і вінакурэнні.

Шмат увагі ў сваіх працах Д.А.Дудкоў удзяліў пытанню класавай дыферэнцыяцыі беларускага сялянства. Але няправільныя зыходныя палажэнні пры ацэнцы сялянскай гаспадаркі (двары, якія мелі больш за 15 дзесяцінаў зямлі, ён аднёс да кулацка-заможных) прывялі яго да памылковых высноваў. Гісторык лічыў, што ў Беларусі бедната складала 40 – 42 % ад агульнай колькасці двароў, сярэдняе сялянства – 42 – 45 %, кулакі – 15 – 16 %, што не адпавядала рэчаіснасці. Таксама даследчык беспадстаўна лічыў Беларусь калоніяй царскай Расіі.

Гэтыя памылкі былі характэрны і для работы **К.І.Кернажыцкага** *«Да гісторыі аграрнага руху на Беларусі перад імперыялістычнай вайной»* (1932 г.). Залічваючы ўсіх сялян з надзелам 15 і болей дзесяцінаў зямлі ў групу кулакоў, аўтар вызначыў, напрыклад, што ў Гродзенскай губерні яны складалі 53,7 % ад агульнай колькасці сялянскіх двароў. Не адпавядала сапраўднасці і яго выснова аб тым, што кулак з'яўляецца вядучай фігурай сельскагаспадарчай вытворчасці ў Беларусі і нават «біў памешчыка на рынку». Такія сцвярджэнні ні лагічна, ні фактычна не адпавядалі сацыяльнай структуры беларускай вёскі ў перыяд капіталізму.

Памылковым з'яўляецца і тэзіс аб каланіяльным становішчы Беларусі ў складзе Расійскай імперыі ў рабоце **В.К.Шчарбакова** *«Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі і белапольская акупацыя»* (1930 г.). Ён сцвярджаў, што капіталізм у Беларусі пачаў развівацца толькі ў пачатку XX ст. Гэтыя катэгарычныя высновы не мелі фактычнага пацвярджэння і супярэчылі рэчаіснасці. Толькі ў сярэдзіне 60-х гг. беларускія гісторыкі пераадолелі гэтыя памылковыя палажэнні.

У 30-я гг. беларускія гісторыкі пачалі распрацоўку праблемаў рэвалюцыйнага руху ў перыяд паміж першай і другой рэвалюцыямі ў Расіі. Першую спробу ў гэтым кірунку зрабіў **К.І.Кернажыцкі**. У сваіх працах ён абагульніў матэрыял аб рабочым і сялянскім руху напярэдадні і ў ходзе Першай сусветнай вайны. Аўтар зрабіў высновы, што «пасля разгрому рэвалюцыі 1905 г. быў знішчаны рабочы і сялянскі рух», «замерла работа РСДРП», а рэвалюцыйныя выступленні ў 1911 – 1913 гг. з'явіліся першымі праяўленнямі рэвалюцыйнага руху пасля паражэння рэвалюцыі 1905 – 1907 гг.

Нягледзячы на шэраг палажэнняў, якія не вытрымалі праверкі часам, манаграфічныя работы Д.А.Дудкова, К.І.Кернажыцкага, В.К.Шчарбакова ў цэлым з'явіліся значным укладам у навуковую распрацоўку асноўных праблемаў гісторыі Беларусі перыяду капіталізму.

Беларускія савецкія гісторыкі не прымалі ўдзелу ў дыскусіі, якая разгарнулася ў савецкай гістарыяграфіі на мяжы 20 – 30-х гг. XX ст. паміж «дэнацыяналізатарамі» і «нацыяналізатарамі». Прыхільнікі першай групы (Н.Н.Ванаг, С.Л.Ронін) лічылі, што ў эпоху імперыялізму ў Расійскай імперыі панаваў замежны капітал – міжнародны банкавы капітал падтрымліваў рускую прамысловасць праз камерцыйныя банкі.

«Нацыяналізатары» (А.Л.Сідараў, Е.Л.Граноўскі) зыходзілі з прыярытэту ўнутраных інвестыцыяў у эканоміцы Расіі напярэдадні Першай сусветнай вайны. У краіне склалася самастойная сістэма манапалістычнага капіталізму. Гэты падыход перамог, паколькі зацвердзілася ленінская тэорыя аб магчымасці перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі ў асобнай краіне.

**5. Гісторыя Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў беларускай савецкай гістарыяграфіі 20 – 30-х гг.** Цэнтральнае месца ў беларускай савецкай гістарыяграфіі займала гісторыя Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў Беларусі. Яе распрацоўка была распачата непасрэднымі ўдзельнікамі гэтых падзеяў, дзеячамі бальшавіцкай партыі і савецкай дзяржавы (В.Г.Кнорыным, К.І.Ландарам, А.Ф.Мясніковым) праз артыкулы ў перыядычным друку.

Адна з найбольш ранніх публікацыяў – брашура **Б.А.Брэслава** «*Характер и этапы русской революции: К 1-й годовщине русской революции, 27 февр. 1917 г. – 27 февр. 1918 г.*» (1918 г.), у якой аўтар вызначыў сацыялістычны характар рэвалюцыі ў Беларусі, паказаў пралетарыят і найбяднейшае сялянства яе рухальнымі сіламі. У брашуры прасочваецца ідэя безальтэрнатыўнасці Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Значны ўклад у замацаванне ленінскай тэорыі сацыялістычнай рэвалюцыі ў гістарычнай навуцы Беларусі ўнёс В.Г.Кнорын.

**Вільгельм Георгіевіч Кнорын** (Кнорыньш) (1890 – 1938 гг.) нарадзіўся ў Латвіі. Доктар гістарычных навук (1935 г.). Скончыў настаўніцкую семінарыю. З 1910 г. член Сацыял-дэмакратычнай партыі Латвіі, пазней – РКП(б). Прымаў актыўны ўдзел ва ўстанаўленні Савецкай улады на тэрыторыі Беларусі, гра-

мадска-палітычнай дзейнасці БССР. Сакратар Цэнтральнага бюро КП(б)Б (1920 – 1922 гг.), першы сакратар ЦК КП(б)Б (1927 – 1928 гг.). У 1928 – 1935 гг. працаваў у выканкаме Камінтэрна. З 1932 г. дырэктар Інстытута чырвонай прафесуры, галоўны рэдактар часопісаў «Коммунистический Интернационал», «Большевик». Расстраляны ў 1938 г.

У сваіх працах (*«Революция и контрреволюция в Белоруссии»* (1920 г.), «*Пять лет: Краткий конспект истории КП(б)Б»* (1922 г.), «*1917 год в Белоруссии и на Западном фронте»* (1925 г.), «*Заметки к истории диктатуры пролетариата в Белоруссии»* (1934 г.)) ён зыходзіў з ідэі класава-пралетарскай чысціні. Аўтар лічыў бальшавіцкую партыю адзінай вырашальнай палітычнай сілай і гарантам росквіту Савецкай Беларусі. Гісторык крытыкаваў палажэнне аб перамозе рэвалюцыі на Заходнім фронце «штыкамі салдат», выступіў супраць канцэпцыі «двухкарэннасці» КП(б)Б. Кнорын адмаўляў пазітыўную ролю беларускіх рэвалюцыйных, нацыянальна-дэмакратычных партыяў, адносіў іх да дробнабуржуазных, нацыяналістычных і контррэвалюцыйных сілаў, вёў барацьбу з нацыянал-дэмакратызмам.

Характэрнай рысай гістарыяграфіі 20-х гг. стала публікацыя мемуарных успамінаў у газетах, часопісах і зборніках, падрыхтаваных гістпартамі ў Віцебску і Гомелі (*«Революционная борьба в Гомельской губернии: Ист. материалы»* (1921 г.), «*Красная быль: Большевики в Витебске»* (1923 г.), «*Кастрычнік на Беларусі»* (1927 г.)). Мемуары насілі суб'ектыўны характар. У іх галоўная ўвага надавалася не столькі гісторыі партыі, колькі ўласнай ролі аўтараў у рэвалюцыйных падзеях. Але ўспаміны пашыралі факталагічную базу праблемы, прапагандавалі ідэю рэвалюцыі, адстойвалі бальшавіцкае бачанне кастрычніцкіх падзеяў 1917 г.

Да пачатку 30-х гг. скарачаецца публікацыя мемуараў у БССР, што было звязана з рашэннем 4-й Усесаюзнай нарады гістпартаў (студзень 1927 г.). Яе ўдзельнікі заклікалі гісторыкаў перайсці да грунтоўнай даследчыцкай працы. Першымі з прафесійных даследчыкаў да праблемы Кастрычніцкай рэвалюцыі звярнуліся **С.Х.Агурскі** (роля беларускіх «буржуазных» партыяў), **С.Л.Гельтман** (польскія рабочыя ў падзеях 1917 г.), **Л.Г.Калмансон** (ліквідацыя Стаўкі ў Магілёве).

У 1927 г. выйшаў зборнік артыкулаў і дакументаў «*Кастрычнік на Беларусі»*. Гэта была першая спроба публікацыі дакументаў, прысвечаных падзеям Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі. Яны раскрывалі характар рухальных сілаў і ролю нацыянальнага фактару.

Асобная ўвага надавалася крытыцы дзейнасці небальшавіцкіх палітычных партыяў у Беларусі, поглядаў А.Р.Чарвякова, З.Жылуновіча, У.М.Ігнатоўскага. Працы А.Гаруновіча, А.Сянкевіча, С.Вальфсона, А.Зюзькова, С.Агурскага насілі павярхоўны, ідэалагічны характар. У іх адсутнічаў аналіз дзейнасці палітычных партыяў, нават сацыялістычныя арганізацыі лічыліся буржуазнымі.

З манаграфічнай літаратуры 30-х гг. можна адзначыць даследаванні **А.І.Зюзькова** «*Бальшавікі – арганізатары Кастрычніка ў Беларусі»* (1934 г.) і **В.К.Шчарбакова** «*Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі і белапольская акупацыя»* (1930 г.). Але, улічваючы палітычную сітуацыю пачатку 30-х гг., становіцца відавочным той факт, што нават гэтыя работы ўтрымлівалі шэраг пазіцыяў або памылковых, або непрымальных з боку афіцыйнай гістарыяграфіі.

Шчарбакоў пісаў, што напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Беларусі было «не меней аднаго мільёна чалавек пралетарскіх і паўпралетарскіх масаў. Гэта... маса з'яўлялася рэзервам рэвалюцыі». Гісторык разглядаў на адным узроўні рабочы клас, рамеснікаў, серадняцкія слаі вёскі, сельскагаспадарчых пралетарыяў і адыходнікаў-сялян. На думку У.М.Міхнюка, гэтая пазіцыя няверна адлюстроўвала рухаючыя сілы рэвалюцыі. Таксама Шчарбакоў бачыў прагрэсіўную ролю беларускіх нацыянальных партыяў у падрыхтоўцы сацыялістычнай рэвалюцыі, а пачатак дзейнасці бальшавіцкіх арганізацыяў адносіў да 1917 г. Пасля крытыкі з боку ЦК КП(б)Б Шчарбакоў і сам крытыкаваў свае погляды.

У даваенны перыяд у беларускай савецкай гістарыяграфіі адсутнічала грунтоўнае вывучэнне праблемы Кастрычніцкай рэвалюцыі з прычыны недастаковай крыніцавай базы, дакладнай дыферэнцыяцыі праблемы, укаранення марксісцка-ленінскай метадалогіі.

У 1931 г. ЦК ВКП(б) паставіў задачу напісаць «*Гісторыю грамадзянскай вайны ў СССР»,* што прадугледжвала падрыхтоўку асобнага выдання ў БССР. Таму была створана асобная палітычная рэдакцыя ў складзе С.І.Будзінскага, П.В.Горына, К.В.Гея, В.Г.Кнорына, І.П.Ашэровіча, А.Р.Чарвякова і інш., мастацкая рэдакцыя і камісіі ў гаркамах і райкамах КП(б)Б. Да гэтай працы далучыліся супрацоўнікі Цэнтральнага бюро краязнаўства АН БССР, якія выдалі брашуру з пастановай ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, заклікам М.Горкага і інструкцыямі аб арганізацыі работы па вывучэнні гісторыі грамадзянскай вайны.

Пачаўся збор архіўнага матэрыялу, напісанне мемуарных працаў. Былі падрыхтаваны да выдання рукапісы **В.П.Даўбэ** «*Очерки

*по борьбе с бандитизмом в Белоруссии»,* **В.І.Яркіна** «*Борьба с контрреволюцией в Западной области и в Белоруссии (1918 – 1919 гг.)»,* супрацоўнікаў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б «*Очерки по истории контрреволюционных организаций в Белоруссии (1818 – 1920 гг.)»,* калектыўнай працы «История БССР. 1917 – 1920 гг.», **І.Н.Немеца** «*КП(б)Б в борьбе за укрепление Советской власти в обстановке гражданской войны».* У іх раскрывалася барацьба бальшавікоў з Бундам, утварэнне камбедаў, харчовая палітыка, утварэнне ЛітБела і КП(б)ЛіБ. Таксама аўтары прааналізавалі мяцеж Доўбар-Мусніцкага, мяцеж анархістаў у Віцебску, эсэра-сялянскія выступленні 1918 г., стракапытаўскі мяцеж, Горацкае паўстанне «зялёных», дзейнасць савінкаўскіх арганізацыяў, ліквідацыю бандытызму. Але рукапісы не былі надрукаваны і сёння знаходзяцца ў Нацыянальным архіве РБ.

На мяжы 30 – 40-х гг. да распрацоўкі асобных праблемаў гісторыі грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі звярнуліся **І.Ф.Лочмель** у манаграфіях «*Вызваленне Беларусі ад белапольскіх акупантаў (11 ліп. 1920 г.)»* (1939 г.), «*Барацьба беларускага народа супраць інтэрвентаў: (Да 20-й гадавіны вызвалення Беларусі ад белапалякаў)»* (1940 г.), «*Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов»* (1940 г.)) і **А.І.Шакун** у кнізе «*Отечественная война против немецких захватчиков в 1918 году в Белоруссии»* (1941 г.).

Распрацоўка пытанняў гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў БССР паклала пачатак фармаванню новага кірунку гістарычнай навукі – гісторыі савецкага грамадства.

## Праверачны тэст

***І. Вызначце правільны адказ.***

1. Першым палеалітычнае жытло рэканструяваў
   - А) А.М.Ляўданскі
   - Б) С.А.Дубінскі
   - В) К.М.Палікарповіч
   - Г) В.Р.Тарасенка.
2. Палеалітычныя стаянкі ля в.Бердыж і Юравічы першым даследаваў
   - А) А.Д.Каваленя
   - Б) К.М.Палікарповіч
   - В) І.Х.Юшчанка
   - Г) С.С.Шутаў.

3. Даследаваннем археалогііі жалезнага веку ў даваенны перыяд кіраваў
А) С.А.Дубінскі
Б) В.Р.Тарасенка
В) К.М.Палікарповіч
Г) А.М.Ляўданскі.
4. А.М.Ляўданскі першым выказаў думку, што гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі належалі
А) фіна-уграм
Б) балтам
В) славянам
Г) скіфам.
5. С.А.Дубінскі даследаваў стаянку ля вёскі
А) Малышкі
Б) Асавец
В) Банцараўшчына
Г) Грэнск.
6. Упершыню жыллёвыя пабудовы паўземлянога тыпу былі знойдзены беларускімі археолагамі на ўскраіне
А) Петрыкава
Б) Рагачова
В) Жлобіна
Г) Полацка.
7. Перыядызацыя гісторыі Беларусі У.М.Ігнатоўскага заснавана на
А) этнічным крытэрыі
Б) фармацыйным крытэрыі
В) дзяржаўніцкім крытэрыі
Г) культуралагічным крытэрыі.
8. Тэорыю «расавай чысціні» беларусаў М.В.Доўнар-Запольскага падзяляў
А) В.Ластоўскі
Б) У.Ігнатоўскі
В) У.Пічэта
Г) А.Цвікевіч.
9. Першым выкарыстаў тэрмін «літоўска-беларуская дзяржава»
А) В.Ластоўскі
Б) У.Ігнатоўскі
В) У.Пічэта
Г) А.Цвікевіч.
10. У.М.Ігнатоўскі распрацаваў новы сюжэт у гісторыі Беларусі
А) хрысціянізацыя тэрыторыі Беларусі
Б) русіфікацыя тэрыторыі Беларусі
В) роля казацтва ў гісторыі Беларусі
Г) паўстанне 1830 – 1831 гг. на тэрыторыі Беларусі.
11. «Гісторыя беларускага народа» У.І.Пічэты ахоплівае перыяд да
А) Крэўскай уніі
Б) Люблінскай уніі

В) рэформы 1861 г.
Г) Першай сусветнай вайны.
12. Упершыню археалагічную перыядызацыю гісторыі Беларусі прадставіў
А) В.Ластоўскі
Б) У.Ігнатоўскі
В) У.Пічэта
Г) В.Шчарбакоў.
13. Цэнтрам беларускіх земляў У.І.Пічэта лічыў
А) Полацкую зямлю
Б) Тураўскую зямлю
В) Смаленскую зямлю
Г) Навагародскую зямлю.
14. М.В.Доўнар-Запольскі падзяляў гісторыю Беларусі на
А) 5 перыядаў
Б) 6 перыядаў
В) 7 перыядаў
Г) 8 перыядаў.
15. М.В.Доўнар-Запольскі лічыў, што беларусы паходзяць ад
А) крывічоў і дрыгавічоў
Б) крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў
В) дрыгавічоў і радзімічаў
Г) крывічоў і радзімічаў.
16. Першым фармацыйную перыядызацыю гісторыі Беларусі прапанаваў
А) У.Ігнатоўскі
Б) В.Шчарбакоў
В) У.Пічэта
Г) А.Бурдзейка.
17. Паняцце «феадальная культура» было ўведзена ў навуковы зварот
А) В.Ластоўскім
Б) У.Пічэтай
В) У.Ігнатоўскім
Г) В.Шчарбаковым.
18. І.Ф.Лочмель надаваў паўстанню 1863 г. характар
А) сялянскі
Б) шляхецкі
В) пралетарскі
Г) буржуазны.
19. У 1924 г. У.М.Ігнатоўскі лічыў паўстанне 1863 г.
А) сялянскім
Б) шляхецкім
В) пралетарскім
Г) буржуазным.
20. «Польскім шавіністам» К.Каліноўскага назваў
А) У.Ігнатоўскі
Б) І.Лочмель

В) С.Агурскі
Г) В.Дружчыц.

21. Упершыню методыку «сярэдніх лічбаў» выкарыстаў
А) А.Шастакоў
Б) М.Доўнар-Запольскі
В) К.Кернажыцкі
Г) Д.Дудкоў.

22. Спецыялізацыю сельскай гаспадаркі Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. Д.А.Дудкоў вызначаў як
А) мяса-малочная жывёлагадоўля
Б) вінакурэнне
В) ільноводства
Г) каноплеводства.

23. Аб дамінаванні кулацтва на аграрным рынку Беларусі пачатку XX ст. пісаў
А) Д.Дудкоў
Б) А.Шастакоў
В) К.Кернажыцкі
Г) М.Доўнар-Запольскі.

24. Першую працу па гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі выдаў
А) К.І.Ландар
Б) В.Г.Кнорын
В) А.Ф.Мяснікоў
Г) Б.А.Брэслаў.

***II. Што аб'ядноўвае пералік?***

1. Грэнск, Стаўбун, Латкі, Печанеж, Журавель.
2. Т.І.Забела, А.В.Бурдзейка, К.І.Кернажыцкі, В.Д.Дружчыц.
3. І.А.Віткоўскі, С.Я.Вальфсон.
4. С.Х.Агурскі, Л.Г.Калмансон, С.Л.Гельтман.

***III. Вызначце дату.***

1. Першае выданне «Кароткага нарыса гісторыі Беларусі» У.М.Ігнатоўскага.
2. Выданне нарысаў гісторыі Беларусі аўтарскім калектывам пад кіраўніцтвам У.І.Пічэты.
3. Фармаванне камісіі па падрыхтоўцы гісторыі грамадзянскай вайны ў БССР.

# Тэма 9. Гістарычная навука Беларусі ў сярэдзіне 40-х – 80-я гады ХХ ст.

## План

1. Уплыў грамадска-палітычнай сітуацыі на развіццё гістарычнай навукі БССР у сяр. 40 – сяр. 50-х гг.

2. Асаблівасці развіцця беларускай савецкай гістарыяграфіі.

3. Цэнтры гістарычнай навукі БССР.

4. Падрыхтоўка гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі ў БССР у сяр. 40-х – 80-я гг.

## Рэкамедаваная літаратура


1. Достижения исторической науки в БССР за 50 лет (1919 – 1969 гг.): Краткий очерк / под ред. И.С.Кравченко и З.Ю.Копысского. – Мн.: Наука и техника, 1970. – 96 с.

2. Достижения исторической науки в БССР за 60 лет / Поболь [и др.]; под ред. З.Ю.Копысского, П.Т.Петрикова. – Мн.: Наука и техника, 1979. – 80 с.

3. Інстытут гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі: (Да 70-годдзя ўтварэння) / М.П.Касцюк [і інш.]. – Мн.: Экаперспектыва, 1999. – 107 с.

4. Историография истории СССР (эпоха социализма): учебник / под ред. И.И.Минца. – М.: Высш. школа, 1982. – 336 с.

5. Корзенко, Г.В. Научная интеллигенция Беларуси в 1944 – 1990 гг. (подготовка, рост, структура) / Г.В.Корзенко. – Мн., 1995. – 74 с.

6. Корзенко, Г.В. Подготовка научных кадров в Беларуси. Взгляд сквозь годы / Г.В.Корзенко. – Мн., 1988. – 168 с.

7. Леанавец, В.Ц. Удасканальванне арганізацыі гістарычнай навукі ў БССР (60-я гады) / В.Ц.Леанавец // Весці АН БССР. Серыя гуманітарных навук. – 1986. – № 1. – С. 73 – 79.

8. Лінднэр, Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст. / Р.Ліндмэр. – СПб.: Неўскі прасцяг, 2003. – С. 301 – 399.

9. Михнюк, В.Н. Историческая наука Белорусской ССР, 80-е годы / В.Н.Михнюк, П.Т.Петриков. – Мн.: Наука и техника, 1987. – 120 с.

10. Советская историография / под общ. ред. акад. Ю.Н.Афанасьева. – М.: Российск. гос. гуманит. ун-т, 1996. – 592 с.

11. Ходзін, С. Гістарычны факультэт БДУ / С.Ходзін // Беларускі гістарычны часопіс. – 2004. – № 4. – С. 44 – 48.

12. Храпко, Л.П. Падрыхтоўка навуковых і навукова-педагагічных кадраў гісторыкаў Беларусі (1944 – 1960 гг.) / Л.П.Храпко // Весці АН БССР. Серыя гуманітарных навук. – 1987. – № 6. – С. 59 – 66.

13. Храпко, Л.П. Стварэнне «Гісторыі БССР» як важнае дасягненне гістарычнай навукі / Л.П.Храпко // Весці АН БССР. Серыя гуманітарных навук. – 1986. – № 1. – С. 53 – 61.

14. Шаўчук, І.І. Арганізацыя гістарычнай навукі ў БССР (70-я гады) / І.І.Шаўчук // Весці АН БССР. Серыя гуманітарных навук. – 1988. – № 3. – С. 65 – 71.

15. Шаўчук, І.І. Архіўнае будаўніцтва ў БССР (60 – 80-я гады) / І.І.Шаўчук, В.Ц.Леанавец // Весці АН БССР. Серыя гуманітарных навук. – 1988. – № 2. – С. 94 – 100.

**Тэматыка рэфератаў**

1. Роля Інстытута гісторыі АН БССР у развіцці гістарычнай навукі БССР.

2. Стварэнне абагульняльных працаў па айчыннай гісторыі ў сяр. 40-х – 80-я гг.

3. Дзейнасць аспірантуры па гістарычных спецыяльнасцях у БССР.

4. Пашырэнне крыніцавай базы гістарычнай навукі БССР у пасляваенны перыяд.

**1. Уплыў грамадска-палітычнай сітуацыі на развіццё гістарычнай навукі БССР у сяр. 40-х – сяр. 50-х гг.** Развіццё гістарычнай навукі нельга разглядаць ізалявана ад грамадска-палітычнага жыцця. З 20 – 30-х гг. яна замацоўваецца ў каманднa-адміністрацыйнай сістэме і падпарадкоўваецца яе інтарэсам. Гэта прывяло да *палітызацыі* і *ідэалагізацыі* навукі праз розныя сродкі: фінансаванне, матэрыяльнае забеспячэнне, выданне працаў, доступ да крыніцаў, фармаванне праблематыкі даследаванняў, канцэптуальнае рашэнне праблемаў.

Значны ўплыў на гістарычную навуку аказалі палітычныя кампаніі, якія праводзіліся ў форме «дыскусіяў», а таксама пастановы ЦК ВКП(б) другой паловы 40-х гг. Пад лозунгамі барацьбы супраць «праяўленняў безыдэйнасці і апалітычнасці», за «чысціню марксісцка-ленінскага светапогляду», за няўхільнае кіраванне «ленінскімі прынцыпамі класавасці і партыйнасці» граміліся навуковыя галіны і школы, укараняўся дагматызм, падаўлялася іншадумства.

Выкананне гэтых пастановаў выклікала пошук «недахопаў» і «памылак» у ідэалагічнай рабоце ў БССР. ЦК КП(б)Б разглядзеў

пытанне аб дзейнасці грамадска-палітычных і літаратурных часопісаў «Беларусь», «Полымя», выявіў у іх шэраг «ідэалагічна шкодных» твораў. Часопісу «Бальшавік Беларусі» было ўказана, што яго матэрыялы заводзяць чытачоў у далёкае мінулае, не адлюстроўваюць пытанні савецкага перыяду. Пад крытыку папалі газеты «Советская Белоруссия», «Звязда» і інш. Пасля пастановы ЦК ВКП(б) «О работе ЦК КП(б)Б» (1947 г.) націск на грамадазнаўцаў і пісьменнікаў узмацніўся.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе перад гістарычнай навукай БССР стаяла задача падрыхтоўкі і выдання «*Гісторыі БССР»*. Вядома, што ў 1943 г. пад кіраўніцтвам **У.І.Пічэты** група мінскіх навукоўцаў пачала працу над аднатомавай «*Кароткай гісторыяй БССР»* са старажытных часоў да сярэдзіны XX ст. Пасля вайны праца была прадоўжана супрацоўнікамі Інстытута гісторыі АН БССР. У 1946 г. выйшаў першы выпуск задуманага выдання (апублікавалі першую з шасці напісаных частак). Дзеля яго абмеркавання адбыўся навуковы савет, на якім, акрамя навукоўцаў, прысутнічалі работнікі ЦК КП(б)Б, пісьменнікі, настаўнікі школаў. Першы сакратар ЦК КП(б)Б і старшыня ўрада БССР П.К.Панамарэнка абвінаваціў гісторыкаў у «сур’ёзных метадалагічных памылках», прычым асобна крытыкаваў У.І.Пічэту.

На пленуме ЦК КП(б)Б у 1947 г., які разглядзеў пытанне «Аб палітычнай і ідэалагічнай рабоце КП(б) Беларусі сярод інтэлігенцыі», была пастаўлена задача «разгортвання барацьбы супраць нізкапаклонства перад замежжам, перад рэакцыйнай буржуазнай культурай» праз рашучую барацьбу «супраць усякага роду скажэнняў і памылак нацыяналістычнага характару ў галіне гісторыі БССР».

Ужо ў студзені 1948 г. ЦК КП(б)Б стварыў камісію з вядомых гісторыкаў рэспублікі (**А.І.Воранава**, **Н.В.Каменская**, **Я.І.Карнейчык**, **С.Н.Малінін**, **М.М.Нікольскі**, **У.М.Перцаў**, **К.М.Палікарповіч**, **А.П.П'янкоў**, **П.В.Саевіч**, **К.І.Шабуня**, **Я.П.Шлосберг**), каб падрыхтаваць афіцыйны погляд на мінулае Беларусі ў форме «*Тэзісаў аб асноўных пытаннях гісторыі БССР»*. 20 сакавіка «Тэзісы» былі зацверджаны ЦК КП(б)Б, а летам іх надрукавалі ў часопісе «Бальшавік Беларусі».

12 тэзісаў ахоплівалі гісторыю Беларусі ад першабытнаабшчыннага ладу да ўтварэння БССР і з’яўляліся праграмным дакументам для гісторыкаў. У большасці выпадкаў былі замацаваны тыя ацэнкі праблемаў гісторыі Беларусі, якія вызначыліся ў працэсе «барацьбы з нацыяналізмам».

Палажэнні аб добраахвотным аб'яднанні Беларусі і Літвы ў адзіную дзяржаву, аўтаноміі беларускіх земляў у складзе ВКЛ, дзяржаўным статусе беларускай мовы, уздым эканомікі і культуры Беларусі ў XIV – XVI стст. разглядаліся нацыяналістычнымі, трактаваліся як адраджэнне тэорыі «залатога веку», ідэалізацыя патрыярхальнага і феадальнага мінулага Беларусі.

Распаўсюджваўся вульгарызаваны падыход да вывучэння культуры і грамадска-палітычнай думкі Беларусі. Адмоўныя ацэнкі даваліся дзейнасці прадстаўнікоў культуры і грамадска-палітычнай думкі, якія не з'яўляліся выхадцамі з народных масаў, напрыклад, Еўфрасінні Полацкай, Усяславу Брачыславічу, М.Сматрыцкаму, К.Астрожскаму, Я.Баршчэўскаму, Ядвігіну Ш (Лявіцкаму), А.Гаруну і інш.

Паказ уплыву польскай і літоўскай культураў на развіццё беларускага народа лічыўся прыніжэннем ролі Кастрычніцкай рэвалюцыі. Прагрэсіўным прызнаваўся ўплыў толькі рускай культуры. Асобна крытыкаваліся аўтары, якія раскрывалі прагрэсіўную ролю «Нашай Нівы» ў нацыянальным руху і развіцці беларускай мовы і літаратуры.

У гістарыяграфіі замацавалася негістарычнае адлюстраванне ўзаемаадносінаў Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ, Расіі і Рэчы Паспалітай. Войны паміж імі трактаваліся вызваленчымі для беларускага народа. Гэты падыход праяўляўся пры аналізе палітыкі рускага царызму пасля ўваходжання Беларусі ў склад Расіі. Лічылася, што асвятленне негатыўных момантаў палітыкі царызму наносіць шкоду адносінам рускага і беларускага народаў. Нацыянальна-вызваленчы рух падмяняўся класавым, рэвалюцыйным, аб'яўляўся нацыяналістычным і антынародным.

У вывучэнні савецкага перыяду гісторыі Беларусі замацаваліся сталінскія трактоўкі. Святкаванне ў 1948 г. дзесяцігадовага юбілею «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» садзейнічала яшчэ большай іх прапагандзе.

У маі 1948 г. Аддзяленне грамадскіх навук АН БССР правяло дыскусію па гісторыі грамадскай думкі Беларусі з удзелам работнікаў архіваў, дырэктараў музеяў, настаўнікаў мінскіх школаў. З дакладам выступіў У.М.Перцаў, які падкрэсліў важнасць тэзісаў для правільнага разумення гістарычнага працэсу і неабходнасць выяўлення памылак метадалагічнага характару. Асабліва крытыкавалася тэорыя «адзінага патоку». З другога боку, дыскусія прыцягнула ўвагу гісторыкаў да дзейнасці Ф.Скарыны, К.Каліноўскага, Ф.Багушэвіча.

Напрыканцы 1948 г. быў падрыхтаваны новы праект «Гісторыі Беларусі» ў трох тамах. Але яго таксама раскрытыкавалі ў сакавіку 1949 г. на юбілейным пасяджэнні, прысвечаным 20-годдзю АН БССР. Заўвагі тычыліся перыядызацыі гісторыі Беларусі, недастатковага тэарэтычнага абгрунтавання працэсу пабудовы сацыялізму ў БССР, адсутнасці савецкага патрыятызму пры аналізе народнага гераізму.

Толькі новы праект, падрыхтаваны ў 1951 г., атрымаў станоўчую рэцэнзію ў ЦК КП(б)Б, а таксама станоўчую ацэнку камісіі маскоўскіх гісторыкаў на чале з М.М.Дружыніным. Першы том «*Гісторыі Беларускай ССР»* быў выдадзены тыражом 30 тыс. экзэмпляраў у 1954 г., а другі том – у 1958 г.

Разам з падрыхтоўкай сінтэтычных працаў даследчыкі ў другой палове 40-х – сярэдзіне 50-х гг. распрацоўвалі шэраг кірункаў айчыннай гісторыі: 1) гісторыя Беларусі XVI – XVIII стст. (гаспадарчае жыццё Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай (А.П.П’янкоў), беларусы ў Маскоўскай дзяржаве ў 1654 – 1667 гг. (А.А.Савіч), узаемаадносіны беларускага і польскага народаў у канцы XVIII ст. (А.А.Савіч)); 2) гісторыя беларускага сялянства (паўстанне Дзяніса Мурашкі, рэформа 1861 г. (А.П.П’янкоў)); 3) гісторыя беларускіх гарадоў – Мінска – Н.В.Каменская, Віцебска – Л.Б.Камінская, Полацка – Хазарэвіч, Гомеля – Грабкоў); 4) аграрнае пытанне і сялянскі рух у эпоху капіталізму; 5) рабочы рух у Беларусі (А.І.Воранава); 6) нацыянальнае пытанне і нацыянальна-вызваленчы рух у Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. (М.А.Поташ); 7) гісторыя Савецкай Беларусі (А.А.Шакун, Н.В.Каменская, М.І.Гільберт). Але з дзесяці запланаваных манаграфіяў было выдадзена толькі пяць: М.М.Нікольскага «*Частное землевладение и землепользование в Древнем Двуречье»* (1948 г.), «*Этюды по истории финикийских общественных и земледельческих культов»* (1948 г.), Н.В.Каменскай «*Утварэнне БССР»* (1946 г.), «*Вялікая Кастрычніцкая Сацыялістычная рэвалюцыя і ўтварэнне БССР»* (1954 г.), А.П.П’янкова «*Паходжанне беларускага народа»* (1948 г.).

Актыўна разгортвалася «барацьба з касмапалітызмам». У АН БССР, БДУ адбыліся сходы з патрабаваннем разграміць «бязродных касмапалітаў». 6 мая 1949 г. прайшла сесія Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, прысвечаная «барацьбе з касмапалітызмам» у галіне філасофіі, літаратуразнаўства, гісторыі і фалькларыстыкі. У друку паведамлялася, што дакладчыкі Я.П.Галенчанка і А.П.П’янкоў «ухіліліся ад выкрыцця памылак касмапалітызму сярод філосафаў і гісторыкаў рэспублікі». Трэба аддаць належнае

навукоўцам, якія змаглі ў тых абставінах супрацьстаяць афіцыйнаму курсу.

Пытанні «барацьбы з нацыяналізмам» разглядаліся на XIX з'ездзе КП(б)Б (1949 г.). У справаздачы сакратара ЦК КП(б)Б Н.У.Гусарава крытыкаваліся «нацыяналістычныя тэорыі» у гісторыі і літаратуры. З'езд прапанаваў ЦК КП(б)Б далей распрацоўваць «марксісцкія» працы па гісторыі БССР, КП(б)Б, гісторыі беларускай культуры, літаратуры і мастацтва.Такім чынам, гістарычная навука была пастаўлена ў абмежаваныя рамкі, адыход ад якіх пагражаў пэўнымі высновамі.

Барацьба з нацыяналізмам і касмапалітызмам з пазіцыяў сённяшняга часу падаецца беспадстаўнай. Але ў тыя гады яна вызначала навуковы лёс гісторыкаў. Пад уплывам палітычных і ідэалагічных установак яны былі вымушаны адступаць ад аб'ектыўнасці. Усё гэта змяншала зацікаўленасць у вывучэнні гістарычнага мінулага, звужала праблематыку даследаванняў, прыводзіла да аднабаковых ацэнак, ігнаравала гістарычны падыход у асвятленні гісторыі Беларусі.

Адшукванне памылак «нацыяналістычнага характару» ў працах гісторыкаў з'яўлялася вынікам укаранення сталінскіх трактовак і ацэнак гістарычнага працэсу, росквіту вялікадзяржаўнай цэнтрысцкай гістарыяграфіі. Класавы падыход нанёс шкоду гістарычнай навуцы, бо ўсё, што не ўваходзіла ў сферу інтарэсаў рабочага класа і партыі бальшавікоў, а таксама ідэалагічна блізкіх да іх слаёў грамадства, абвяшчалася рэакцыйным і недапушчальным.

**2. Асаблівасці развіцця беларускай савецкай гістарыяграфіі ў сяр. 50 – 80-я гг.** Пасля XX з'езда КПСС назіраюцца спробы пераасэнсавання гісторыі грамадства і навукі. Крытыка сталінскіх канцэпцыяў у канцы 50-х – пачатку 60-х гг. дазволіла даследчыкам звярнуцца да аб'ектыўнага аналіза гістарычнага працэсу. У выніку палітычнай «адлігі» гісторыкі атрымалі магчымасць большага доступу да архіўных матэрыялаў, шырэйшага выбару тэматыкі. Але відавочна, што змены ў гістарыяграфіі былі мінімальнымі. З кніг і артыкулаў знікла імя Сталіна, яго цытаты, але ацэнкі «Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)» захаваліся. Як лічыць П.Ц.Петрыкаў, у гістарычнай навуцы пачаў фармавацца «культ КПСС».

У абагульняльных артыкулах аб выніках развіцця гістарычнай навукі паміж XIX і XXII з'ездамі КПСС падкрэслівалася, што «... гісторыя – гэта партыйная навука, што вучоныя павінны займацца гісторыяй для гісторыі. Гісторыя – гэта не палітыка, зверну-

тая ў мінулае, а навука аб мінулым, якая дапамагае выпрацаваць і ажыццявіць сучасную партыйную палітыку».

Галоўнай функцыяй гістарычнай навукі засталася ідэалагічная, што прадвызначыла два асноўныя кірункі гістарычных даследаванняў: гісторыя КПБ і гісторыя савецкага грамадства пасляваеннага перыяда.

Вядучай тэмай па-ранейшаму заставалася гісторыя рэвалюцыйнага руху, у якім асноўная ўвага надавалася ролі бальшавіцкіх арганізацыяў (манаграфічныя даследаванні **Я.І.Бугаёва**, **А.І.Воранавай**, **К.І.Шабуні**, **І.М.Ігнаценкі**, **Ц.Е.Саладкова**).

З сярэдзіны 50-х гг. з'яўляюцца спецыяльныя даследаванні аб дзейнасці бальшавікоў Беларусі ў барацьбе супраць царызму (**М.М.Мяшкоў**, **М.Я.Шкляр**, **В.В.Скарабагаты**, **Ц.Е.Саладкоў**, **А.І.Яфрэмава**).

Эвалюцыя структуры і дзейнасці сацыял-дэмакратычных арганізацыяў у Беларусі ад першых гурткоў да Кастрычніцкай рэвалюцыі паказана ў манаграфіі **А.А.Кузняцова** «*На пути к Октябрю. Из истории партийного строительства в Белоруссии. 1884 – 1917 гг.*» (1970 г.).

Новымі даследаваннямі, якія паглыблялі веды па гісторыі бальшавізму ў Беларусі, з'яўляюцца манаграфіі **А.С.Караля** «*Путь борьбы и побед: К 80-летию II съезда РСДРП*» (1983 г.), «*Большевики Белоруссии в революции 1905 – 1907 гг.*» (1986 г.), «*Соединяясь в партию: К 90-летию I съезда РСДРП*» (1988 г.). Значна глыбей, чым гэта было зроблена папярэднікамі, раскрыты характар і змест рэвалюцыйнай барацьбы, яе дынаміка і маштабы, спецыфіка, складаны працэс станаўлення і развіцця арганізацыяў РСДРП у Беларусі бальшавіцкага тыпу, формы і метады іх дзейнасці, рост уплыву ў масах, умацаванне кіруючай ролі ў рэвалюцыйнай барацьбе.

Але ў гэты час беларускія гісторыкі не выкарыстоўвалі ленінскую канцэпцыю трох палітычных лагераў у Расійскай імперыі на мяжы XIX – XX стст.: дэмакратычнага, ліберальнага, урадавага. Некаторыя даследчыкі прытрымліваліся пазіцыі «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» і вызначалі толькі два грамадскія лагеры на тэрыторыі Беларусі: рэвалюцыйны (бальшавікі) і контррэвалюцыйны (чарнасоценцы, кадэты, меншавікі, Бунд, ПСР, БСГ). Аб гэтым сведчыць манаграфія **У.І.Салашэнкі** «*Большевики в борьбе с мелкобуржуазными партиями в Белоруссии (1905 – март 1917 гг.)*» (1981 г.). Гісторыя непралетарскіх партый фактычна не вывучалася.

Праўда, у канцы 60-х – 70-я гг. былі зроблены спробы навуковай аб'ектыўнай ацэнкі беларускага нацыянальна-культурнага і палітычнага руху, дзейнасці БСГ, газет «Наша Доля» і «Наша Ніва». Аб гэтым сведчаць артыкулы ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (т.1 – 12, 1969 – 1975 гг.), у другім томе «Гісторыі Беларускай ССР» (1972 г.), «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т.1 – 2, 1968 – 1969 гг.), публікацыях **С.Х.Александровіча**, **Г.В.Кісялёва**, **У.М.Конана**, **С.М.Самбук**, **М.В.Біча** і інш.

Актывізавалася распрацоўка праблемы гісторыі рабочага класа. У гістарычнай навуцы Беларусі пашыраюцца даследаванні **М.Я.Завалеева**, **І.Я.Марчанкі** і інш.

Набыло актуальнасць пытанне знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы. Яго распрацоўка звязана з манаграфіямі **У.А.Палуяна** і **І.В.Палуяна** «*Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920 – 1939 гг.*» (1962 г.) і **А.М.Мацко** «*Революционная борьба трудящихся Польши и Западной Белоруссии против гнета буржуазии и помещиков, 1918 – 1939 гг.*» (1972 г.).

Больш увагі стала надавацца гісторыі стварэння новага грамадства на Беларусі ў 20 – 30-я гг. XX ст.: ажыццяўленню індустрыялізацыі, калектывізацыі (хаця яе прымусовы характар амаль не паказваўся), дзяржаўнаму і культурнаму будаўніцтву. Гэтыя праблемы знайшлі адлюстраванне ў манаграфіях **А.А.Філімонава**, **М.І.Злотніка**, калектыўнай працы «*Перамога калгаснага ладу ў Беларускай ССР*» (1981 г.), даследаваннях **К.К.Германа**, **Л.М.Лыча**, **У.І.Навіцкага**, **А.М.Сарокіна** і інш.

Распрацоўвалася тэматыка, звязаная з аднаўленнем і развіццём гаспадаркі, дзяржаўным і культурным будаўніцтвам у працах **А.П.Белязо**, **М.П.Касцюка**. Даследчыкі не пакідалі па-за ўвагай пытанні Кастрычніцкай рэвалюцыі, устанаўлення Савецкай улады ў Беларусі, грамадзянскай вайны (**У.Р.Івашын**, **С.З.Пачанін**, **П.А.Селіванаў**, **М.С.Сташкевіч** і інш.). Аднак агульны кірунак працаў быў вытрыманы ў духу афіцыяльных патрабаванняў.

Адносна свабоднай ад ідэалагічнага кантролю заставалася сацыяльна-эканамічная праблематыка. З’явіліся грунтоўныя даследаванні па гісторыі сельскай гаспадаркі і сялянства (**Х.Ю.Бейлькін**, **П.Р.Казлоўскі**, **Л.П.Ліпінскі**, **В.І.Мялешка**, **В.П.Панюціч**, **Д.Л.Пахілевіч**, **М.М.Улашчык**, **М.Б.Фрыдман**, **В.У.Чапко**), прамысловасці, гарадоў і рабочага класа (**З.Е.Абезгаўз**, **М.Ф.Болбас**, **М.Р.Матусевіч**, **А.М.Люты**).

Паколькі гуманітарныя навукі, у т.л. гісторыя, знаходзіліся пад пільным кантролем партыі, то ў кожнай рэспубліцы былі расстаў-

лены ўласныя акцэнты. Для беларускай гістарыяграфіі з канца 50-х гг. XX ст. вядучай тэмай даследаванняў стала гісторыя Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху. У справаздачы XXIV з'езду КПБ (1960 г.) першы сакратар К.Т.Мазураў крытыкаваў грамадскія навукі за іх «занадта малы ўклад у пабудову камунізму». Ён паставіў задачу актывізаваць вывучэнне гісторыі партызанскага руху ў Беларусі.

З гэтага часу гістарыяграфія знаходзіцца пад пільным партыйным кантролем. У 1960 г. адбыўся агульны сход гісторыкаў БССР. З асноўнымі дакладамі выступілі дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР **І.С.Краўчанка** «Пра задачы гісторыкаў Беларусі» і дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ **М.М.Мяшкоў** «Да пытання навуковай распрацоўкі гісторыі КПБ». Адзначаліся недастатковае асвятленне ролі народных масаў у гісторыі, недастатковае адлюстраванне кіруючай ролі партыі ў працэсе сацыялістычнага будаўніцтва, нездавальняльная распрацоўка заканамернасцяў развіцця сацыялістычнага грамадства, пытанняў паступовага перахода да камунізму.

Паўплывала на гістарычную навуку і барацьба супраць «нацыяналізму» у першай палове 70-х гг. Ахвярай стала інтэлігенцыя, найперш гісторыкі. Былі забаронены правядзенне канферэнцыі, прысвечанай этнагенезу беларусаў, і распаўсюджанне надрукаваных да яе тэзісаў дакладаў. Ініцыятыва правядзення канферэнцыі зыходзіла ад кафедры антрапалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора АН БССР, але без згоды ЦК КПБ. За дазвол на правядзенне канферэнцыі кіраўнікі Аддзялення грамадскіх навук АН БССР атрымалі вымову.

Першы сакратар ЦК КПБ П.М.Машэраў на пленуме ЦК КПБ (красавік 1974 г.) выказаў шмат папрокаў у адрас АН БССР: слабое кіраўніцтва даследаваннямі, палітычная няспеласць, недастатковая партыйная адказнасць вучонага, недакладнасць класава-палітычных пазіцыяў. «Аб гэтым прыходзіцца нагадваць, – адзначаў П.М.Машэраў, – у сувязі з тым, што ў некаторых публікацыях, у тым ліку аб народных паэмах «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе», у працах аб Еўфрасінні Полацкай, Сматрыцкім, Зізаніі выявіліся адгалоскі пазакласавага аб'ектывізму, ідэалізацыі асобных багасловаў як выдатных асветнікаў».

Ці можна лічыць партыйны ўплыў на гістарычную навуку «сацыяльным заказам»? І.І.Шаўчук лічыць, што за гады Савецкай улады гэтае паняцце стала суб'ектыўным. Яно азначае выкананне пэўных партыйных рашэнняў, а не адказ на аб'ектыўныя патрэбы гра-

мадства. Прыкладам з’яўляюцца пастановы ЦК КПБ «Аб дадатковых мерах па паляпшэнню навуковай распрацоўкі гісторыі ўсенароднай барацьбы ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» (1969 г.), «Аб рабоце Інстытута гісторыі АН БССР» (1970 г.). Зыходзячы з сутнасці паняцця, нельга адносіць да сацыяльнага заказу працы па праблемах пабудовы камунізму, развітога сацыялізму і г.д. Вядома, што партыйнымі рашэннямі была абумоўлена канцэнтрацыя намаганняў даследчыкаў на савецкім, а ў ім – на пасляваенным перыядзе гісторыі грамадства.

У 70 – 80-я гг. склалася становішча, калі партыя, зыходзячы з пэўных палітычных умоваў, патрабавала ад навукі каментарыя падзеяў. У гістарыяграфіі замацаваліся выбарачнае цытаванне класікаў марксізму-ленінізму, абсалютызацыя партыйных рашэнняў, адсутнасць іх крытычнага аналіза, тэндэнцыйны падбор фактаў. Дэфармуючае ўздзеянне на гістарычную навуку аказала палітычная канцэпцыя развіцця грамадства, якая прадугледжвала спрошчанае ўяўленне аб будаўніцтве камунізму, аб пераадоленні розніцы паміж горадам і вёскай, аб кіруючай ролі КПСС, аб развітым сацыялізме як найвышэйшай форме сацыяльнага прагрэсу. Насаджэнне канцэпцыяў, якія не адпавядалі аб’ектыўнаму гістарычнаму становішчу, садзейнічала таму, што гістарычны працэс, які адлюстроўваўся ў навуковых працах, не адпавядаў рэальнай рэчаіснасці.

Разуменне месца і ролі, якія былі загадзя вызначаны для гістарычнай навукі, змяншала цікавасць гісторыкаў да даследчай працы. У гэты час распрацоўваліся праблемы, у асноўным па савецкім перыядзе, якія былі бяспечнымі для даследавання.

У большасці дысертацыяў і апублікаваных працаў разглядаліся вузкія пяцігадовыя перыяды, асобныя галіны народнай гаспадаркі, камуністычнае выхаванне. Па-за полем зроку засталіся палітычная гісторыя, нацыянальна-вызваленчы рух і многія іншыя праблемы. Калі ж яны закраналіся, то мелі месца замоўчванні, выбарачны падыход да падбору фактаў, якія б пацвярджалі канцэпцыю аўтара. Назіралася прырашчэнне фактычнага матэрыялу да сфармуляваных раней канцэпцыяў.

Шырокае распаўсюджанне атрымаў ілюстрацыйна-цытатніцкі метад, калі палажэнні падмацоўваліся асобнымі прыкладамі і цытатамі без вывучэння ўсёй сукупнасці крыніцаў. Гісторык у сваіх даследаваннях зыходзіў не з фактаў, а ад пэўнай канцэпцыі. Манапольнае права на ісціну патрабавала выкарыстання марксісцка-ленінскай тэорыі. Плюралізм навуковай думкі прыпісваўся толькі

буржуазнай навуцы. Працы па гісторыі Беларусі даследчыкаў дасавецкай школы (А.С.Грушэўскага, М.В.Доўнар-Запольскага, М.К.Любаўскага і інш.) нельга было выкарыстоўваць. Іх канцэпцыі аб’явілі антынавуковымі. Даследаванні рэпрэсаваных гісторыкаў 20–30-х гг. не выкарыстоўваліся. Працы З.Жылуновіча, У.Ігнатоўскага, В.Ластоўскага, А.Цвікевіча былі змешчаны ў спецзахавальнікі.

«Закрытымі» былі даследаванні, якія публікаваліся за межамі сацыялістычнага лагера. Яны ацэньваліся як «буржуазныя фальсіфікацыі» і цалкам адвяргаліся. Традыцыю гістарычнай «контрпрапаганды» распачаў Л.С.Абецэдарскі ў брашуры «*У святле неабвержаных фактаў»* (1969 г.). Падобная ідэйная ізаляванасць навукі негатыўна адбілася на вывучэнні гісторыі Беларусі.

Інфармацыйнае забеспячэнне навукоўцаў залежала ад магчымасці выкарыстання архіўных матэрыялаў. Калі ў другой палове 50-х гг. ХХ ст. адбывалася дэмакратызацыя архіўнай службы, то ў 60-я гг. доступ да крыніцаў быў абмежаваны. З аднаго боку, гэта тлумачыцца «непатрэбнасцю» архіўных крыніцаў, таму што апрыорныя тэорыі не патрабавалі дакументальнага абгрунтавання, з другога боку, каб не было супярэчнасці паміж навуковым дакументальным аналізам і прапанаванымі канцэпцыямі.

Паступова ў 70-я гг. зменшылася ў параўнанні з 60-мі колькасць наведвальнікаў архіваў з прычыны немагчымасці атрымаць неабходныя даследчыкам матэрыялы, непадрыхтаванасці навукоўцаў да прафесійнай крытыкі крыніцаў, слабога валодання замежнымі мовамі, канцэнтрацыі намаганняў вучоных на праблемах сучаснасці. У дзяржаўных архівах БССР у сярэдзіне 80-х гг. захоўвалася звыш 7 млн. 340 тыс. справаў, з якіх 5 млн. 340 тыс. складалі матэрыялы па гісторыі савецкага перыяду. Шэраг вучоных сцвярджае, што доступ да 50 % інфармацыі па гісторыі савецкага грамадства быў забаронены рознымі інструкцыямі.

Такім чынам, на развіццё гістарычнай навукі ўплывала традыцыя, якая склалася яшчэ ў 20 – 30-я гг., калі гісторыя атаясамлівалася з ідэалогіяй, якая ў сваю чаргу была падпарадкавана партыйна-дзяржаўнаму апарату. Гісторыя з’ўлялася адным з рычагоў пабудовы сацыялістычнага грамадства.

**3. Цэнтры гістарычнай навукі БССР.** Вядучай навукова-даследчай установай гістарычнага профілю ў рэспубліцы з’яўляўся **Інстытут гісторыі АН БССР**. Аднаўленне ў ім даследчыцкай дзейнасці пачалося з красавіка 1945 г. Працаваць прыходзілася ў скла-

даных умовах: калектыў інстытута (19 чалавек) размяшчаўся ў пакоі памерам 20 $м^2$. У другой палове 40-х гг. у інстытуце дзейнічала тры сектары: гісторыі СССР і БССР, археалогіі, этнаграфіі і фальклору. А сектар усеагульнай гісторыі быў закрыты з прычыны неадпаведнасці спецыялізацыі ўстановы. У 1946 г. тут працавалі 2 дактары і 6 кандыдатаў гістарычных навук, 7 старэйшых і 4 малодшых навуковых супрацоўніка.

Да пачатку 60-х гг. інстытут складаўся з 5 сектараў: археалогіі Беларусі, гісторыі Беларусі эпохі феадалізму, гісторыі Беларусі эпохі капіталізму, гісторыі Беларусі савецкага перыяду, гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху ў Беларусі, у складзе якіх працавалі 62 навуковыя супрацоўнікі, у тым ліку 3 дактары і 29 кандыдатаў гістарычных навук.

Цікавасць даследчыкаў да найноўшага перыяду гісторыі БССР абумовіла рэарганізацыю сектара гісторыі Беларусі савецкага перыяду. На яго аснове ў красавіку 1962 г. былі створаны сектар гісторыі сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва ў Беларусі ў пасляваенны перыяд і сектар гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі. Яны разам з утвораным раней сектарам гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху сканцэнтравалі амаль 60 % навуковых супрацоўнікаў.

У чэрвені 1963 г. было праведзена ўзбуйненне сектараў – замест шасці створаны чатыры. З сектарам гісторыі Савецкай Беларусі з 1917 па 1945 гг. аб’ядналі сектар гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва і сектар гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху. На аснове аб’яднання сектараў гісторыі Беларусі эпохі феадалізму і гісторыі Беларусі эпохі капіталізму быў створаны сектар гісторыі Беларусі дасавецкага грамадства. Але рэарганізацыя сябе не апраўдала, таму ў 1965 г. было прызнана мэтазгодным аднавіць сектар гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва і сектар гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху як самастойныя навуковыя падраздзяленні.

Ва ўмовах абвастрэння ідэалагічнай барацьбы на міжнароднай арэне ў ліпені 1968 г. быў створаны сектар замежнай гістарыяграфіі, а ў 1969 г. – сектар гісторыі еўрапейскіх сацыялістычных краін. Паколькі перад савецкім грамадствам была пастаўлена задача пабудовы камунізму, то з 1969 г. пачаў дзейнасць сектар гісторыі камуністычнага будаўніцтва.

У адпаведнасці з пастановай ЦК КПБ «Аб дадатковых мерах па паляпшэнню навуковай распрацоўкі гісторыі ўсенароднай ба-

рацьбы ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны», якая ўсклала на Інстытут гісторыі АН БССР задачу каардынацыі работы па зборы ўспамінаў удзельнікаў барацьбы савецкага народа супраць фашызму, у сакавіку 1970 г. пры сектары гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху ў Беларусі была створана група па зборы і публікацыі мемуараў ветэранаў вайны. Такім чынам, на пачатак 70-х гг. структуру інстытута складалі сем сектараў: археалогіі Беларусі, гісторыі Беларусі дасавецкага грамадства, гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і партызанскага руху, гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва, гісторыі камуністычнага будаўніцтва, замежнай гістарыяграфіі Беларусі, гісторыі еўрапейскіх сацыялістычных краін, у складзе якіх працавалі 82 навуковыя супрацоўнікі, у тым ліку 10 дактароў і 29 кандыдатаў гістарычных навук.

У 1971 г. замест сектара замежнай гістарыяграфіі Беларусі быў створаны сектар збору і публікацыі дакументаў і гістарычных матэрыялаў. Новая рэарганізацыя адбылася ў 1980 г. Структуру інстытута гісторыі складалі 11 аддзелаў: першабытнай археалогіі, сярэднявечнай археалогіі, археалогіі зонаў новабудоўлі, гісторыі Беларусі перыяду феадалізму, гісторыі Беларусі перыяду капіталізму, гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, гісторыі сацыялістычнага будаўніцтва, гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, гісторыі навукі і інш. Усяго ў 1980 г. там працавалі 120 навуковых супрацоўнікаў, у тым ліку 13 дактароў і 46 кандыдатаў гістарычных навук.

Супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР падрыхтавалі першую сінтэтычную «*Историю Белорусской ССР»* (1954 г. – 1-ы том, 1958 г. – 2-і том). У 1972 – 1975 гг. была выдадзена «*Гісторыя Беларускай ССР»* у 5-ці тамах. У гэтай абагульняльнай калектыўнай працы на аснове фармацыйнага падыходу даследавана гісторыя Беларусі першабытнаабшчыннага, феадальнага, капіталістычнага і сацыялістычнага перыядаў. На падставе пяцітамовіка ў 1977 г. была выдадзена аднатомавая «*История Белорусской ССР».*

У абмеркаванні плана-праспекта «Гісторыі Беларускай ССР» у пяці тамах у 1962 г. прынялі ўдзел вучоныя БССР разам з супрацоўнікамі Інстытута гісторыі СССР на чале з акадэмікам Б.А.Рыбаковым. Да яго падрыхтоўкі былі далучаны не толькі гісторыкі, але і археолагі, літаратары, мастацтвазнаўцы, якія працавалі ў АН Беларусі, БДУ, Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Навуковую дапамогу ў падрыхтоўцы першага тома аказалі гісторыкі Масквы – Е.В.Індава, М.М.Улашчык, другога тома – А.М.Анфімаў, трэцяга

тома – Ю.А.Палякоў, чацвёртага – І.В.Пароцькін, пятага – В.Е.Палятаеў.

Найбольшы ўклад у выданне першага тома, прысвечанага першабытнаабшчыннаму ладу і феадалізму, унеслі З.Ю.Капыскі, А.М.Карпачоў, В.Д.Будзько, А.Р.Мітрафанаў, Л.Д.Побаль, В.В.Сядоў, А.П.П'янкоў, В.Р.Тарасенка, С.А.Шчарбакоў, А.П.Грыцкевіч, В.І.Мялешка, Л.С.Абецэдарскі, П.Р.Казлоўскі, В.У.Чапко, Е.І.Карнейчык; другога тома, у якім выкладзена гісторыя капіталізму, – К.І.Шабуня, Ц.Е.Саладкоў, М.Б.Фрыдман, С.М.Самбук, Л.П.Ліпінскі, З.Е.Абезгаўз, Е.І.Карнейчык, В.П.Панюціч, М.В.Біч; трэцяга тома, прысвечанага гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і будаўніцтву асноваў сацыялізму ў 1917 – 1937 гг., – Н.В.Каменская, І.Я.Марчанка, І.М.Ігнаценка, В.Р.Гняўко, П.А.Селіванаў, Р.Т.Шлопак, В.А.Мілаванаў, У.А.Полуян, У.І.Вышынскі; чацвёртага тома, прысвечанага перадваеннаму часу і Вялікай Айчыннай вайне, – І.С.Краўчанка, А.І.Залескі, У.А.Палуян, А.А.Філімонаў, Э.Ф.Языковіч, В.П.Раманоўскі, Р.Р.Кручок, Н.В.Філімоненкаў, У.І.Лемяшонак, Г.П.Купрэева; пятага тома (1945 – 1974 гг.) – А.А.Філімонаў, І.Я.Марчанка, П.Ц.Петрыкаў, Л.М.Лыч, С.Д.Вайтовіч, А.П.Белязо.

Буйным укладам у гістарыяграфію Беларусі стала «*История рабочего класса БССР»* у 4-х тамах (1984 – 1987 гг.) пад агульнай рэдакцыяй П.Ц.Петрыкава, якую падрыхтавалі супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР. Навукова-метадычную дапамогу ім аказалі вучоныя Інстытута гісторыі АН СССР: А.Р.Мітрафанава, Ю.І.Кір'янаў, Ю.А.Палякоў і інш. Першы том «Рабочий класс Белоруссии в период капитализма» быў падрыхтаваны К.І.Шабуняй, М.В.Бічом, З.Е.Абезгаўзам, В.П.Панюцічам, Э.М.Савіцкім, другі том «Рабочий класс БССР в годы Великой Октябрьской социалистической революции и построения социализма (1917 – 1937 гг.)» – І.М.Ігнаценка, М.П.Касцюком, У.А.Палуянам, П.А.Селіванавым, У.І.Вышынскім, трэці том, прысвечаны 1938 – 1960 гг., – І.Я.Марчанка, Э.Ф.Языковічам, П.Ц.Петрыкавым, А.Е.Казлоўскай, А.М.Мацко, Р.Р.Кручком, чацвёрты том «Рабочий класс БССР на этапе совершенствования социализма (1961 – 1986 гг.)» – І.Я.Марчанка, П.Ц.Петрыкавым, Л.М.Лычом.

Асабліва плённым быў перыяд з 1976 г. па 1988 г., калі дырэктарам Інстытута гісторыі АН БССР з'яўляўся П.Ц.Петрыкаў. Тады колькасць супрацоўнікаў дасягнула 178 чалавек (16 дактароў і 61 кандыдат гістарычных навук), было выдадзена 150 манаграфіяў.

*Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ* аднавіў сваю дзейнасць у лютым 1945 г. як філіял Інстытута Маркса – Энгельса – Леніна (Масква). У наступным годзе былі зацверджаныя яго структура і штаты, яму передалі партыйны архіў, матэрыялы камісіі па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, бібліятэку.

У структуру Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ уваходзілі сектар гісторыі партыі, сектар перакладаў, партыйны архіў, Дом-музей I з’езда РСДРП. Згодна з пастановай ЦК КПСС «Аб мерах па паляпшэнні работы Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС» (1960 г.) у 1966 г. быў створаны сектар навуковай распрацоўкі і афармлення дакументаў па гісторыі партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, а таксама аўтарскі калектыў па падрыхтоўцы фундаментальнай трохтомавай працы па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Са студзеня 1969 г. пачаў дзейнічаць сектар партыйнага будаўніцтва, навуковыя інтарэсы супрацоўнікаў якога былі сканцэнтраваны на абагульненні вопыту КПСС па ўдасканаленні формаў і метадаў унутрыпартыйнай работы. Пашырэнне даследаванняў забяспечвалася ростам колькасці навуковых супрацоўнікаў, якая павялічылася з 23 у 1963 г. да 60 у 1970 г. (у тым ліку 3 доктары і 15 кандыдатаў гістарычных навук). Ужо ў 1981 г. працавалі 72 супрацоўнікі (у тым ліку 7 дактароў і 26 кандыдатаў гістарычных навук).

Сярод выданняў, падрыхтаваных калектывам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, вылучаюцца «*Революционный путь Компартии Западной Белоруссии»* (1966 г.), «*Очерки истории КПБ»* (у 2-х ч., 1967 – 1968 гг. (2-е выд.)), «*Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны»* (у 3-х т., 1967 – 1982 гг.), «*Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны»* (1983 г.), «*КПБ в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК»* (у 6-ці т., 1983 – 1987 гг.).

Істотным укладам у гістарычную навуку стала абагульняльная калектыўная праца «*Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны»* (у 3-х т., 1983 – 1985 гг.), падрыхтаваная з удзелам супрацоўнікаў Інстытута гісторыі АН Беларусі. Аўтары – І.М.Ігнаценка, П.П.Ліпіла, А.В.Сямёнава, А.А.Філімонаў, А.М.Мацко, Я.С.Паўлаў, К.І.Дамарад, У.І.Лемяшонак, В.П.Раманоўскі, Н.В.Філімоненкаў, Р.М.Шавяла, Р.Р.Крючок, Э.Ф.Языковіч і інш.

У 1957 г. сектар этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі АН БССР быў рэарганізаваны ў *Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы*. У 1978 г. колькасць супрацоў-

нікаў гэтай навукова-даследчай установы складала 130 чалавек, у тым ліку 2 члены-карэспандэнты АН БССР, 7 дактароў і 41 кандыдат гістарычных навук.

Структура інстытута скaладалася з сектара тэатральнага мастацтва, кінамастацтва і тэлебачання, выяўленчага мастацтва, этнаграфіі і фальклору, славістыкі, антрапалогіі і інш. Яго супрацоўнікі падрыхтавалі да выдання «*Гісторыю беларускага тэатра»* (у 3-х т., 1981 – 1987 гг.), «*Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі»* (у 7-мі т., 1984 – 1988 гг.), «*Гісторыю беларускага мастацтва»* (у 6-ці т., 1987 – 1994 гг.).

Арганізацыйныя перамены адбыліся ў ВНУ. З кафедраў асноваў марксізму-ленінізму былі вылучаны ў самастойную адзінку кафедры гісторыі КПСС. У 1969 г. у 27 ВНУ БССР налічвалася 12 кафедр гісторыі КПСС, 2 кафедры гісторыі КПСС і палітэканоміі, 10 кафедраў гісторыі КПСС і навуковага камунізму, 1 кафедра гісторыі КПСС, палітэканоміі і навуковага камунізма і 3 кафедры асноваў марксізму-ленінізму. На пачатак 70-х гг. у іх працавалі 258 выкладчыкаў, у тым ліку 9 дактароў і 129 кандыдатаў навук, пераважная большасць якіх былі гісторыкамі.

Да канца 70-х гг. у 32 ВНУ рэспублікі дзейнічала 15 кафедраў гісторыі КПСС, 9 кафедраў гісторыі КПСС і навуковага камунізму, 6 кафедраў гісторыі КПСС і палітэканоміі, 2 кафедры асноваў марксізму-ленінізму і адна грамадскіх навук. На іх працавалі 358 выкладчыкаў, у тым ліку 16 дактароў і 190 кандыдатаў гістарычных навук.

Актывізацыі навукова-даследчай работы ў педагагічных інстытутах садзейнічаў падзел кафедраў гісторыі на кафедры айчыннай і ўсеагульнай гісторыі. На пачатак 70-х гг. яны функцыянавалі ўжо ў БДУ, Мінскім, Гродзенскім і Магілёўскім пэдінстытутах. На гэтых кафедрах працавалі 77 выкладчыкаў, у тым ліку 9 дактароў і 38 кандыдатаў навук. У канцы 70-х гг. колькасць выкладчыкаў павялічылася да 153 чалавек, у тым ліку 10 дактароў і 60 кандыдатаў гістарычных навук.

**4. Падрыхтоўка кадраў гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі ў БССР у сярэдзіне 40-х – 80-я гг.** Перыяд Вялікай Айчыннай вайны аказаў негатыўны ўплыў на гістарычную навуку Беларусі. У 1945 г. у рэспубліцы былі толькі два дактары гістарычных навук – М.М.Нікольскі і У.М.Перцаў, якія з’яўляліся найбуйнейшымі спецыялістамі ў галіне ўсеагульнай гісторыі. Толькі 11 чалавек мелі ступень кандыдата навук. У ліку гісторыкаў не было ні аднаго

доктара навук па спецыяльнасці «гісторыя СССР і БССР», не было спецыялістаў па гісторыі КП(б)Б. Паўстала праблема недахопу кваліфікаваных кадраў вышэйшай кваліфікацыі.

Кадры гісторыкаў былі сканцэнтраваны ў асноўным у БДУ, які аднавіў работу ў Мінску з 1944 г., Інстытуце гісторыі АН БССР, рээвакуяваным у 1945 г., Мінскім педінстытуце імя Горкага, адноўленым у 1944 г. Недахоп спецыялістаў востра стаў адчувацца пасля аднаўлення гістарычных факультэтаў у педінстытутах, а таксама кафедраў асноваў марксізму-ленінізму (з 1956 г. – гісторыі КПСС), якія былі ва ўсіх ВНУ. У 1945 г. у БССР функцыянавалі 22 ВНУ, з іх 5 педагагічных і 8 настаўніцкіх інстытутаў. Аднак яшчэ і ў 1950 г. у камплектаванні кафедраў асноваў марксізму-ленінізму назіраліся вялікія цяжкасці. Для гэтага патрабавалася 73 выкладчыкі з вучонымі ступенямі або званнямі.

Недахоп кваліфікаваных кадраў кампенсаваўся за кошт сумяшчальніцтва. Навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР прыцягваліся да педагагічнай працы ў ВНУ, а прафесарска-выкладчыцкі састаў вышэйшай школы прымаў удзел у распрацоўцы найважнейшых праблемаў гісторыі Беларусі, якімі займаліся супрацоўнікі акадэмічнага інстытута. Такая практыка станоўча адбівалася на якасці навучальнага працэсу, аднак павялічвала тэрміны выканання навуковых і дысертацыйных даследаванняў. Для чытання лекцыяў у БДУ і педінстытутах, удзелу ў працы вучоных саветаў і падрыхтоўцы абагульняльнай працы па гісторыі Беларусі былі запрошаны вядомыя савецкія гісторыкі акадэмік А.М.Панкратава, прафесары В.Н.Кун, А.А.Савіч і інш.

ЦК КП(б)Б у 1947 г. прыняў пастанову «Аб становішчы з навукова-педагагічнымі кадрамі ў ВНУ Беларускай ССР», а ў 1948 г. разглядзеў пытанне аб умацаванні кваліфікаванымі выкладчыкамі педагагічных інстытутаў рэспублікі. Было рэкамендавана звярнуць увагу на павышэнне эфектыўнасці *аспірантуры*.

Аспірантура, якая дзейнічала ў Беларусі з 1927 г., з’яўлялася асноўнай формай падрыхтоўкі навуковых і навукова-педагагічных кадраў. У 1944 г. была адноўлена яе дзейнасць у БДУ (марксізм-ленінізм, гісторыя СССР і БССР, усеагульная гісторыя), у 1946 г. – у Інстытуце гісторыі АН БССР (гісторыі БССР, усеагульная гісторыя, археалогія), у 1947 г. – у Мінскім педагагічным інстытуце (гісторыі СССР і БССР). Новай з’явай стала завочная аспірантура.

Дзейнасць аспірантуры сутыкнулася з шэрагам праблемаў: цяжкасці ў фінансаванні; адсутнасць неабходнай літаратуры і архіўных фондаў; неабходнасць доўгіх камандзіровак для пошуку

крыніцаў у архівах і бібліятэках Масквы, Ленінграда і іншых гарадоў; праблема навуковага кіраўніцтва (аспірантамі ў асноўным кіравалі кандыдаты навук, якія самі не так даўно абаранілі дысертацыі).

Камплектавалася аспірантура ў асноўным выпускнікамі гістарычных факультэтаў БДУ, Мінскага, Магілёўскага, Віцебскага, Гомельскага і з 1954 г. Гродзенскага педінстытутаў. На другі і трэці курсы прымаліся тыя, хто займаўся ў аспірантуры яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны. Значны перапынак у вучобе, адсутнасць конкурсу пры наборы ў аспірантуру, недастатковая падрыхтоўка паступаўшых прыводзілі да таго, што пераважная большасць заканчвала аспірантуру без абароны дысертацыяў. За першыя пяць гадоў пасля Вялікай Айчыннай вайны ў тэрмін была абаронена толькі адна кандыдацкая дысертацыя.

У 1951 г. ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «Аб стане і мерах паляпшэння падрыхтоўкі навукова-педагагічных кадраў праз аспірантуру ў Беларускай ССР». Было ўказана на няправільную практыку камплектавання аспірантуры, адсутнасць конкурсу, слабую арганізацыю вучэбнай і навуковай працы аспірантаў, фармалізм у складанні і зацвярджэнні індывідуальных планаў, недастатковую ўвагу да падбору і зацвярджэння дысертацыйных тэмаў і навуковых кіраўнікоў. Адзначалася нездавальнае становішча завочнай аспірантуры.

Ажыццяўленне шэрагу мерапрыемстваў станоўча адбілася на працы аспірантуры. Так, па спецыяльнасці гісторыя СССР і БССР закончылі аспірантуру Інстытута гісторыі АН БССР з абаронай дысертацыі ў 1952 г. двое аспірантаў з шасці, у 1954 г. – двое з трох, у 1955 г. – трое з шасці закончыўшых. Чатыры чалавекі з сямі пры кафедрах гісторыі СССР і марксізму-ленінізму БДУ закончылі аспірантуру з абаронай дысертацыі ў 1953 г., у наступным годзе чацвёра з шасці закончыўшых аспірантуру абаранілі дысертацыі ў тэрмін. Дзейнасць аспірантуры Мінскага педінстытута практычна не атрымала прыкметнага паляпшэння. Была абаронена ў тэрмін толькі адна дысертацыя ў 1955 г.

У другой палове 50-х гг. колькасць аспірантаў, якія абаранілі дысертацыі ў тэрмін, прыкметна зменшылася. Гэта тлумачыцца ўвядзеннем новых правілаў абароны дысертацыяў, якія прадугледжвалі абавязковую публікацыю вынікаў даследавання перад абаронай. Але асноўнай прычынай нізкай эфектыўнасці аспірантуры з'яўляліся недахопы ў працэсе яе камплектавання, арганізацыі навучальнай і навуковай работы аспірантаў. Нярэдка са спазненнем зацвярджаліся тэмы, навуковыя кіраўнікі і індывідуальныя планы. Мелі месца замена тэмаў дысертацыяў і навуковых кіраўнікоў, ад-

сутнасць кантролю з боку адміністрацыі, кафедраў, сектараў і навуковых кіраўнікоў. Аспіранты рэдка ўдзельнічалі ў абмеркаванні навуковых працаў і дакладаў. Так, з 42 аспірантаў, якія закончылі аспірантуру Інстытута гісторыі АН БССР у 1946 – 1960 гг., абаранілі дысертацыі ў тэрмін толькі 9 чалавек (21 %), у іх ліку Л.П.Ліпінскі, І.Я.Марчанка, У.Ф.Раманоўскі, А.Ф.Хацкевіч і інш. Аспірантуру БДУ ў 1946 – 1960 гг. закончылі 79 чалавек, з іх толькі 10 з абаронай дысертацый (13 %): Р.В.Булацкі, І.М.Ігнаценка, В.У.Чапко і інш.

Аспірантура адыграла значную ролю ў забеспячэнні кадрамі гістарычных установаў рэспублікі ў 1944 – 1960 гг. Праз яе была падрыхтавана асноўная частка навуковых і навукова-педагагічных работнікаў. Абаранілі дысертацыі да 1960 г. уключна 75 гісторыкаў (55 %), у тым ліку 19 – па гісторыі КПСС і КПБ, 50 – па гісторыі СССР і БССР, 5 – па ўсеагульнай гісторыі, 1 – па археалогіі.

Шырокае распаўсюджанне атрымала *гадавая аспірантура* пры Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б). Праз яе ў перыяд з 1948 па 1960 гг. прайшлі каля 60 выкладчыкаў ВНУ Беларусі. У аспірантуры над дысертацыйнымі даследаваннямі працавалі не толькі гісторыкі, але і эканамісты, філолагі, філосафы, юрысты. У Акадэміі грамадскіх навук абаранілі кандыдацкія дысертацыі 30 гісторыкаў з Беларусі (12 – па гісторыі КПСС і КПБ, 12 – гісторыі СССР і БССР, 6 – па ўсеагульнай гісторыі). Многія з іх па вяртанні працавалі ў партыйных і савецкіх органах, на кафедрах ВНУ, напрыклад, Е.І.Бугаёў, І.С.Гарбуноў, Р.Я.Кісялёў, І.С.Краўчанка, М.М.Мяшкоў і інш.

Важнай задачай з’яўлялася падрыхтоўка дактароў навук. Пастановай урада СССР «Аб падрыхтоўцы навуковых кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў АН СССР» (1947 г.) тых, хто працаваў над доктарскімі дысертацыямі, прыкамандзіроўвалі ў дактарантуру АН СССР тэрмінам да двух гадоў. У далейшым вопыт паказаў, што гэтая форма падрыхтоўкі дактароў навук сябе не апраўдала. Большасць асобаў, накіраваных у дактарантуру, не здолелі падрыхтаваць дысертацыі за такі тэрмін. Пастановай ЦК КПСС (1956 г.) падрыхтоўку кадраў вышэйшай кваліфікацыі праз дактарантуру адмянілі. Доктарскія дысертацыі павінны былі стаць вынікам навукова-даследчай работы.

У дактарантуру АН СССР у 1950 – 1956 гг. былі прыкамандзіраваныя 9 кандыдатаў навук з БССР. У 1948 г. у ЛДУ доктарскую дысертацыю абараніў А.П.П’янкоў (паводле манаграфіі), у 1957 г. у Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС – І.І.Саладкоў, у БДУ –

Г.М.Ліўшыц. У 1958 г. доктарскія дысертацыі абаранілі Н.В.Каменская (у Інстытуце гісторыі АН СССР) і І.С.Краўчанка (у Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС). Але рост дактароў навук быў нязначным, што не адпавядала патрэбнасцям навукі.

За 1944 – 1960 гг. у БССР было абаронена 5 доктарскіх і 204 кандыдацкія дысертацыі па гістарычнай тэматыцы (у тым ліку 83 – па гісторыі КПСС і КПБ, 95 – па гісторыі СССР і БССР, 20 – па ўсеагульнай гісторыі, 3 – па археалогіі, 3 – па этнаграфіі). Такім чынам, была створана аснова для развіцця гістарычнай навукі ў рэспубліцы. У 1960 г. у БССР налічвалася 6 дактароў і 165 кандыдатаў гістарычных навук.

У 60-я гг. павялічылася колькасць цэнтраў па падрыхтоўцы аспірантаў у галіне гісторыі. Аспірантуру арганізавалі ў Беларускім політэхнічным інстытуце (1962 г.), Беларускім інстытуце народнай гаспадаркі (1966 г.), Гродзенскім педагагічным інстытуце (1969 г.) і інш. Гэты працэс суправаджаўся ўзрастаннем ролі ВНУ ў падрыхтоўцы кадраў вышэйшай кваліфікацыі. Агульны выпуск аспірантуры па спецыяльнасці «гісторыя» склаў за перыяд 1960 – 1970 гг. 165 чалавек.

Значнае месца ў падрыхтоўцы гістарычных кадраў вышэйшай кваліфікацыі займала *суіскальніцтва*. Толькі ў адным БДУ за перыяд 1962 – 1970 гг. суіскальнікамі было абаронена 15 дысертацыяў, у той час як аспірантамі – 30. Паспяховай працы суіскальнікаў садзейнічала «Палажэнне аб суіскальніках вучоных ступеней, якія працуюць над дысертацыямі па-за аспірантурай» (1968 г.). Яно афіцыйна зацвердзіла суіскальніцтва як адну з крыніцаў падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі.

Новую форму падрыхтоўкі спецыялістаў-гісторыкаў прапанавала пастанова ЦК КПСС і СМ СССР «Аб мерах па паляпшэнні падрыхтоўкі навуковых і навукова-педагагічных кадраў» (1961 г.), якая прадугледжвала планавую падрыхтоўку дактароў навук шляхам пераводу кандыдатаў навук на пасады старшых навуковых супрацоўнікаў. Усяго за 60-я гг. перавялі больш за 10 чалавек. Аднак мера аказалася неэфектыўнай з прычыны адсутнасці апублікаваных вынікаў даследаванняў.

Пастанова ЦК КПСС і СМ СССР «Аб мерах паляпшэння якасці дысертацыйных работ і парадку прысуджэння вучоных ступеняў і званняў» (1960 г.) дала Вышэйшай атэстацыйнай камісіі (ВАК) СССР права дазваляць вучоным саветам прымаць да абароны разам з дысертацыямі апублікаваныя работы, якія «ўзбагацілі навуку і тэхніку новымі рашэннямі, адкрыццямі». Беларускія гісторыкі

М.Я.Шкляр, К.І.Шабуня, В.А.Пыжкоў, А.Ф.Хацкевіч і Б.М.Фіх паспяхова абаранілі па выдадзеных манаграфіях дысертацыі на суісканне вучонай ступені доктара, а Я.М.Шкляр і Г.В.Кісялёў – кандыдата гістарычных навук.

Падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў гісторыкаў садзейнічала пашырэнне колькасці спецыялізаваных вучоных саветаў па абароне дысертацыяў. Акрамя БДУ і Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, права прыёму да абароны кандыдацкіх і доктарскіх дысертацыяў па гістарычных навуках атрымаў у 1965 г. Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ.

За 1961 – 1970 гг. у гістарычнай навуцы БССР было абаронена 209 дысертацыяў: 95 – па гісторыі КПСС, 68 – па гісторыі СССР і БССР, 13 – па ўсеагульнай гісторыі. Асабліва хуткімі тэмпамі вызначалася падрыхтоўка дактароў навук. Калі за папярэдні пасляваенны перыяд 4 беларускія гісторыкі паспяхова абаранілі дысертацыі на суісканне вучонай ступені доктара навук, то за 60-я гг. – 30, у тым ліку Л.С.Абецэдарскі, М.В.Уласенка, А.І.Воранава, А.М.Карпачоў, З.Ю.Капыскі, А.М.Мацко, І.Я.Марчанка, А.А.Філімонаў і інш.

У 70-я гг. аспірантура па спецыяльнасці «гісторыя СССР» дзейнічала ў Інстытуце гісторыі АН БССР, БДУ, Гомельскім універсітэце, Мінскім, Гродзенскім педінстытутах, па спецыяльнасці «гісторыя КПСС» – у БДУ, Мінскім педагагічным, Беларускім політэхнічным інстытутах, Беларускім інстытуце народнай гаспадаркі і Беларускім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту (г.Гомель). Нізкая эфектыўнасць дзейнасці аспірантуры па гісторыі партыі ў шэрагу ВНУ рэспублікі заставіла Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР (МВССА БССР) прыняць у 1974 г. пастанову аб цэнтралізацыі падрыхтоўкі спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі па грамадскіх навуках. У выніку к канцу 70-х гг. аспірантура па спецыяльнасці «гісторыя КПСС» функцыянавала пры БДУ і Мінскім педінстытуце, а па спецыяльнасці «гісторыя СССР» – пры гэтых навучальных установах і Інстытуце гісторыі АН БССР. Колькасць аспірантаў павялічылася з 90 чалавек у 1970 г. да 113 у 1980 г. (на 21 %).

Новай формай падрыхтоўкі кадраў стала ўвядзенне пасады *выкладчыка-стажора* згодна з пастановай ЦК КПСС і СМ СССР «Аб мерах па далейшым удасканаленні вышэйшай адукацыі» (1972 г.). Гэта давала магчымасць ВНУ забяспечыць сябе кваліфікаванымі кадрамі і стымуляваць працэс навуковага пошуку іх супрацоўнікаў.

Таксама ў 1975 г. фармуецца сістэма атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў праз ВАК пры Савеце Міністраў СССР. ВАК павінен быў палепшыць якасць навуковых даследаванняў, актывізаваць творчы навуковы пошук. Гэта праявілася ў росце патрабаванняў да абараняемых дысертацыяў і выклікала іх колькаснае памяншэнне ў другой палове 70-х гг.

За перыяд з 1971 па 1980 гг. у БССР было абаронена 346 дысертацыяў, у тым ліку 39 на суісканне вучонай ступені доктара гістарычных навук. З іх 162 (46,8 %) па гісторыі КПСС-КПБ, 104 (30,1 %) па гісторыі СССР і БССР, 34 (9,8 %) па ўсеагульнай гісторыі, 24 (6,9 %) па археалогіі і этнаграфіі, 22 (6,4 %) па гісторыі журналістыкі.

Многія вучоныя, якія абаранілі ў 70-я гг. доктарскія дысертацыі, былі абраны на кіруючыя пасады. С.В.Марцалеў з 1976 г. узначаліў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, П.Ц.Петрыкаў з 1975 г. – Інстытут гісторыі АН БССР, Л.Д.Побаль стаў загадчыкам сектара археалогіі, В.І.Мялешка – сектара феадалізму, П.А.Селіванаў – сектара Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва ў гэтым інстытуце. Гістарычнымі кафедрамі ВНУ загадвалі Я.Н.Мараш, В.М.Фамін, гісторыка-партыйнымі – У.П.Верхась, А.М.Малашка, Т.І.Прытыцкая.

За ўклад у вывучэнне гісторыі Беларусі, плённую дзейнасць па арганізацыі даследчай работы і падрыхтоўку навуковых кадраў І.М.Ігнаценка быў абраны акадэмікам АН БССР (1974 г.), В.М.Сікорскі (1972 г.), П.Ц.Петрыкаў (1977 г.) – членамі-карэспандэнтамі АН БССР.

Асабліва хуткі колькасны рост кадраў вышэйшай кваліфікацыі адбываўся ў 1983 – 1988 гг. Па дадзеных У.М.Міхнюка, у гэты час было абаронена 159 кандыдацкіх дысертацыяў: 13 па гісторыі феадальнага перыяду, 4 капіталістычнага, 7 перыяду Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, 13 па гісторыі савецкага грамадства да 1939 г., 5 па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, 7 па гісторыі савецкага грамадства 1945 – 1960 гг., 72 па гісторыі савецкага грамадства 1960 – 1980-х гг.

Вырасла колькасць дактароў гістарычных навук. У 1981 – 1985 гг. абаранілі дысертацыі 20 суіскальнікаў. Тым самым суадносіны паміж колькасцю дактароў і кандыдатаў гістарычных навук у БССР змяніліся з 1:10 на 1:7.

Абарона дысертацыяў ажыццяўлялася ў чатырох спецыялізаваных вучоных саветах: пры Інстытуце гісторыі АН БССР, пры

Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ, пры БДУ, пры Мінскім педагагічным інстытуце.

Лічбы сведчаць, што ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе адбываўся хвалепадобны рост колькасці гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі – у 10 разоў. Да 70-х гг. гэта лічба падвоілася. Затым тэмпы прыросту кадраў запаволіліся, што было звязана са зменай пакаленняў, аддаленымі наступствамі вайны і сталінскай эпохі. У другой палове 80-х гг. ужо прасочваецца дэфіцыт кваліфікаваных кадраў гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі, асабліва дактароў навук.

У цэлым БССР у разліку на 100 навуковых работнікаў адставала ад іншых рэспублік СССР. У 1981 г. па колькасці кандыдатаў навук БССР займала 14 месца сярод саюзных рэспублік і 13 – па колькасці дактароў навук. У 1986 г. гэтыя паказчыкі склалі адпаведна 9 і 8. Праблемай стаў працэс старэння кадраў вышэйшай кваліфікацыі – з 62-х дактароў гістарычных навук толькі 10 чалавек былі ва ўзросце да пяцідзесяці гадоў (1988 г.).

Аб агульнай колькасці навуковых і навукова-педагагічных кадраў у галіне гісторыі, уключаючы наступны перыяд, сведчыць табліца:

*Колькасны склад кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў БССР(1936 – 1988 гг.)*

| Гісторыкі, ступені | 1936 | 1960 | 1970 | 1980 | 1988 |
|---|---|---|---|---|---|
| Усяго | 36 | 476 | 989 | 1082 | 1056 |
| Дактароў навук | ? | 6 | 32 | 50 | 62 |
| Кандыдатаў навук | ? | 165 | 268 | 457 | 602 |

*Табліца складзена па матэрыялах: Лінднэр, Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст. / Р.Лінднэр. – Мн.: Неўскі прасцяг, 2003. – С. 379.

У падрыхтоўцы кадраў вышэйшай кваліфікацыі недастаткова ўвагі надавалася такім спецыяльнасцям, як «метадалогія гісторыі», «гістарыяграфія», «крыніцазнаўства», «гісторыя культуры», «гісторыя рэлігіі і царквы», «дапаможныя гістарычныя дысцыпліны». Ужо ў 80-я гг. паўстала неабходнасць увесці спецыялізацыю па музеезнаўстве і архівазнаўстве.

## Праверачны тэст

***I. Вызначце правільны адказ.***

1. Асноўнай формай падрыхтоўкі спецыялістаў гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі ў пасляваенны перыяд з'яўлялася

   А) сумяшчальніцтва
   Б) суіскальніцтва
   В) аспірантура
   Г) магістратура.

2. У Мінскім педагагічным інстытуце ў 1947 г. была адкрыта аспірантура па спецыяльнасці

   А) гісторыя СССР і БССР
   Б) усеагульная гісторыя
   В) археалогія
   Г) марксізм-ленінізм.

3. Завочная аспірантура з'явілася ў БССР у

   А) 40-я гг.
   Б) 50-я гг.
   В) 60-я гг.
   Г) 70-я гг.

4. Абавязковая публікацыя вынікаў дысертацыйнага даследавання была ўведзена ў

   А) 40-я гг.
   Б) 50-я гг.
   В) 60-я гг.
   Г) 70-я гг.

5. Гадавая аспірантура дзейнічала пры

   А) БДУ
   Б) АН БССР
   В) Мінскім педагагічным інстытуце
   Г) Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б).

6. Аспірантура па гістарычных спецыяльнасцях пры Гродзенскім педагагічным інстытуце была адкрыта ў

   А) 1962 г.
   Б) 1965 г.
   В) 1969 г.
   Г) 1972 г.

7. У 60-я гг. спецыялізаваны вучоны савет па абароне дысертацыяў па гістарычных навуках дзейнічаў у

   А) Магілёўскім педагагічным інстытуце
   Б) Мінскім педагагічным інстытуце
   В) Гродзенскім педагагічным інстытуце
   Г) Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ.

8. Сістэма атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў праз Вышэйшую атэстацыйную камісію пры Савеце Міністраў СССР была ўведзена ў

А) 1972 г.
Б) 1973 г.
В) 1974 г.
Г) 1975 г.

9. У другой палове 80-х гг. назіраўся(лася)

А) недахоп кадраў гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі
Б) недахоп дактароў гістарычных навук
В) перавышэнне колькасці спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі
Г) рост цікавасці да гістарычнай навукі.

10. У 1957 г. быў арганізаваны

А) Інстытут эканомікі АН БССР
Б) Інстытут літаратуры АН БССР
В) Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР
Г) Інстытут гісторыі АН БССР.

11. «Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР» выйшлі ў

А) 1946 г.
Б) 1947 г.
В) 1948 г.
Г) 1949 г.

12. Галоўная функцыя гістарычнай навукі ў сярэдзіне 40-х – 80-я гг.

А) пазнавальная
Б) патрыятычная
В) выхаваўчая
Г) ідэалагічная.

13. Для беларускай савецкай гістарычнай навукі быў характэрны

А) плюралізм
Б) глыбокая крыніцавая аснова
В) шырокая сувязь з замежнай гістарыяграфіяй
Г) ілюстрацыйна-цытатніцкі метад.

14. Дэмакратызацыя архіўнай справы назіралася ў

А) 30-я гг.
Б) 40-я гг.
В) 50-я гг.
Г) 60-я гг.

***II. Што аб'ядноўвае пералік?***

1. М.Я.Шкляр, К.І.Шабуня, В.А.Пыжкоў, А.Ф.Хацкевіч, Б.М.Фіх.

2. «Революционный путь Компартии Западной Белоруссии», «Очерки истории КПБ», «Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны», «Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны».

3. Л.С.Абецэдарскі, А.І.Воранава, Н.В.Каменская, Я.І.Карнейчык, С.Н.Малінін, М.М.Нікольскі, У.М.Перцаў, К.М.Палікарповіч, А.П.П'янкоў, П.В.Саевіч, К.І.Шабуня, Я.П.Шлосберг.

4. Я.І.Бугаёў, А.І.Воранава, К.І.Шабуня, І.М.Ігнаценка, Ц.Е.Саладкоў.

5. У.А.Палуян, І.В.Палуян, А.М.Мацко.

***III. Вызначце дату.***

1. Пастанова ЦК ВКП(б) «Аб становішчы з навукова-педагагічнымі кадрамі ў ВНУ Беларускай ССР».

2. Пастанова ЦК ВКП(б) «Аб стане і мерах паляпшэння падрыхтоўкі навукова-педагагічных кадраў праз аспірантуру ў Беларускай ССР».

3. Адкрыццё аспірантуры па гістарычных спецыяльнасцях у Беларускім політэхнічным інстытуце.

4. Адкрыццё аспірантуры па гістарычных спецыяльнасцях у Беларускім інстытуце народнай гаспадаркі.

5. Прыняцце «Палажэння аб суіскальніках вучоных ступеняў, якія працуюць над дысертацыямі па-за аспірантурай».

6. Пастанова ЦК КПСС і СМ СССР «Аб мерах па далейшым удасканаленні вышэйшай адукацыі».

***IV. Складзіце пералік.***

1. Сектары Інстытута гісторыі ў другой палове 40-х гг.:...

2. Сектары Інстытута гісторыі ў пачатку 70-х гг.:...

3. Сектары Інстытута гісторыі ў пачатку 80-х гг.:...

4. «Сінтэтычныя» працы па гісторыі Беларусі, падрыхтаваныя Інстытутам гісторыі АН БССР:...

# Тэма 10. Гістарычныя даследаванні ў БССР у сярэдзіне 50-х – 80-я гг. XX ст.

**План**

1. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі першабытнага перыяду.
2. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі ранняга сярэднявечча.
3. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі феадальнага перыяду.
4. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі перыяду капіталізму.
5. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі 1917 – 1939 гг.
6. Этапы гістарыяграфіі Вялікай Айчыннай вайны.
7. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі пасляваеннага савецкага перыяду.

**Рэкамендаваная літаратура**


1. Абецэдарскі, Л.С. У святле неабвержаных фактаў / Л.С.Абецэдарскі. – Мн.: Др-ня выд-ва «Звязда», 1969. – 112 с.

2. Беларусы: У 8 т. Т. 3: Гісторыя этналагічнага вывучэння. – Мн.: Беларуская навука, 1999. – С. 293 – 311.

3. Белорусская археология: достижения археологов за годы Советской власти / В.Ф.Исаенко [и др.]. – Мн.: Наука и техника, 1987. – 127 с.

4. Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны: Праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства: зб. артыкулаў. – Мн.: Беларуская навука, 1999. – 253 с.

5. Батвінік, М. Якаў Навумавіч Мараш (1917 – 1990) / М.Батвінік // Беларускі гістарычны часопіс. – 1997. – № 1. – С. 185 – 190.

6. Вахтомаў, Г.В. Станаўленне гістарыяграфіі рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі / Г.В.Вахтомаў, У.М.Міхнюк // Весці АН БССР. Серыя гуманітарных навук. – 1988. – № 5. – С. 118 – 125.

7. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. – Мн.: БелЭн, 2005. – 688 с.

8. Гісторыя Беларусі: з 1795 г. да вясны 1917 г.: вучэб. дапам / І.І.Коўкель [і інш.]. – Мн.: Аверсэв, 2001. – С. 28 – 52.

9. Гісторыя Беларусі: У 2 ч. Ч. 2. XIX – XX ст.: курс лекцый. – Мн.: РІВШ БДУ, 2002. – 656 с.

10. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 1. – Мн.: Экаперспектыва, 2000. – С. 12 – 17.

11. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 3. – Мн.: Экаперспектыва, 2004. – С. 7 – 20.

12. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4. – Мн.: Экаперспектыва, 2005. – С. 6 – 29.

13. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5. – Мн.: Экаперспектыва, 2006. – С. 8 – 19.

14. Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Т. 2. – Мн.: Беларуская навука, 2002. – С. 11 – 26.

15. Достижения исторической науки в БССР за 50 лет (1919 – 1969 гг.): краткий очерк / под ред. И.С.Кравченко и З.Ю.Копысского. – Мн.: Наука и техника, 1970. – 96 с.

16. Достижения исторической науки в БССР за 60 лет / Поболь Л.Д. [и др.]; / под ред. З.Ю.Копысского, П.Т.Петрикова. – Мн.: Наука и техника, 1979. – 80 с.

17. Игнатенко, А.П. Введение в историю БССР / А.П.Игнатенко. – Мн.: Выш. школа, 1965. – 48 с.

18. Иоффе, Э.Г. Из истории белорусской деревни (Советская историография социально-экономического развития белорусской деревни XVII – первой половины XIX века) / Э.Г.Иоффе. – Мн.: Ураджай, 1990. – 248 с.

19. Историография истории СССР (эпоха социализма): учебник / под ред И.И.Минца. – М.: Высш. школа, 1982. – 336 с.

20. История России. Послевоенное поколение / Ассоциация исследователей Российского общества XX в. – М.: АИРО – XX, 2000. – С. 178 – 183.

21. Касовіч, В.Ф. Гістарыяграфія і крыніцы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў другой палове XVIII – першай палове XIX ст. / В.Ф.Касовіч, А.М.Люты. – Мн.: БДПУ, 1996. – 94 с.

22. Копысский, З.Ю. Историография БССР (эпоха феодализма): учеб. пособие / З.Ю.Копысский, В.В.Чепко. – Мн.: Университетское, 1986. – С. 94 – 173.

23. Леанавец В.Ц. Гістарыяграфія рэвалюцыйнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі / В.Ц.Леанавец // Весці АН БССР. Серыя гуманітарных навук. – 1986. – № 4. – С. 65 – 72.

24. Ліндphysical, Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст. / Р.Ліндphysical. – Спб.: Неўскі прасцяг, 2003. – С. 301 – 399.

25. Михнюк, В.Н. Историческая наука Белорусской ССР, 80-е годы / В.Н.Михнюк, П.Т.Петриков. – Мн.: Наука и техника, 1987. – 120 с.

26. Панютич, В.П. Историография аграрной истории Беларуси 1861 – 1917 гг.: монография / В.П.Панютич. – Мн.: ГНУ «Институт истории НАН Беларуси», 2005. – 262 с.

27. Петриков, П.Т. Историческая наука / П.Т.Петриков // Наука Беларуси в XX столетии. – Мн.: Белорусская наука, 2001. – С. 69 – 91.

28. Побаль, Л.Д. Археалогія / Л.Д.Побаль // Наука Беларуси в XX столетии. – Мн.: Белорусская наука, 2001. – С. 49 – 68.

29. Романовский, В.Ф. Против фальсификации истории Белоруссии периода Великой Отечественной войны / В.Ф.Романовский. – Мн.: Наука и техника, 1975. – 128 с.

30. Смалянчук, А. Феномен беларускай савецкай гістарыяграфіі / А.Смаленчук // Гістарычны альманах. – 2004. – Т. 10. – С. 11 – 22.

31. Советская историография / под ред. Ю.Н.Афанасьева. – М.: Российск. гос. гуманит. ун-т, 1996. – 592 с.

32. Сяргеева, Г.Г. Гісторыя славянскіх народаў у працах беларускіх савецкіх даследчыкаў / Г.Г.Сяргеева, П.Ц.Петрыкаў, У.М.Міхнюк. – Мн.: Навука і тэхніка, 1988. – 34 с.

**Тэматыка рэфератаў**

1. Вывучэнне археолагамі старажытнабеларускіх гарадоў у 50 – 80-я гг.

2. Праблема генезіса феадалізму ў беларускай савецкай гістарыяграфіі 50 – 80-х гг.

3. Праблема генезіса капіталізму ў беларускай савецкай гістарыяграфіі 50 – 80-х гг.

4. Абагульняльныя працы па гісторыі Беларусі ў беларускай савецкай гістарыяграфіі 50 – 80-х гг.

У пасляваенны перыяд развіцця беларускай савецкай гістарыяграфіі вывучэнне айчыннай гісторыі адбывалася на падставе фармацыйнага падыходу, які вызначаў марксісцка-ленінскую гістарычную перыядызацыю. Гісторыя Беларусі падзялялася на чатыры перыяды: 1) першабытнаабшчынны лад (100 тыс. г. да н.э. – VIII ст. н.э.); 2) феадальны лад (IX ст. – 1861 г.); 3) капіталістычны лад (1861 – 1917 гг.); 4) эпоха сацыялізму (з 1917 г.).

**1. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі першабытнага перыяду**. Археалагічныя даследаванні ў БССР пасля Вялікай Айчыннай вайны ў асноўным ажыццяўляліся супрацоўнікамі Інстытута гісторыі АН БССР і БДУ па археалагічных перыядах, згодна з класіфікацыяй ЮНЕСКО: 1) палеаліт, мезаліт; 2) неаліт, бронзавы век; 3) жалезны век; 4) сярэднявечча; 5) XVII – XVIII стст.; 6) XIX ст.; 7) XX ст. Вынікам сталі 30 навуковых працаў: 8 абагульняльнага характару і 22 манаграфіі, а таксама больш за 11 тыс. публікацыяў. Сярод калектыўных працаў вылучаюцца «*Очерки по археологии Белоруссии*» (1970 – 1972 гг.), «*Белорусская археология: достижения археологов за годы Советской власти*» (1987 г.) і інш.

Манаграфічныя даследаванні археолагаў маюць сваю спецыфіку: яны прысвечаны аналізу пераважна матэрыяльнай культуры. Даследаванне палеаліту працягваў **К.М.Палікарповіч**. У 1968 г. ён апублікаваў манаграфію «*Палеолит Верхнего Поднепровья»,* у якой падвёў вынікі вывучэння палеаліту на тэрыторыі Беларусі з 1925 па 1954 гг. Аўтар прааналізаваў помнікі гэтага перыяду, вызначыў асноўныя заняткі насельніцтва, рэканструяваў характар жытла, паказаў зараджэнне мастацтва. Ён выказаў гіпотэзу аб пачатку засялення Беларусі ў мусцьерскую эпоху. Комлекснае ўяўленне аб пачатковым этапе гісторыі Беларусі прадставіла **А.Г.Калечыц** у кнізе «*Первоначальное заселение территории Белоруссии»* (1987 г.).

Было даследавана не менш за сотню стаянак мезаліту, якія лакалізуюцца на тэрасах рэк. Выдзелены шэсць археалагічных культураў. Вынікі даследаванняў у межах Беларусі абагульнены ў працах **К.М.Палікарповіча**, **У.Ф.Ісаенкі**. Апошні вылучыў тры лакальныя вобласці гэтай эпохі на тэрыторыі Беларусі: верхнедняпроўскую, нёманскую і ніжнедняпроўскую. Таксама даследчык пачаў выдаваць «*Археологические карты Белоруссии».* Першы выпуск, прысвечаны помнікам каменнага веку, з'явіўся ў 1968 годзе.

Археолагамі вылучаны помнікі сем археалагічных культураў эпохі неаліту: *днепра-данецкая культура* (першыя помнікі ў Беларусі адкрыў К.М.Палікарповіч, вядома 19 стаянак, даследаваных Ю.У.Кухарэнкам, У.Ф.Ісаенкам і інш.), *нёманская культура* (выяўлены 113 археалагічных помнікаў, вывучаных польскім археолагам У.Галубовічам, Л.Д.Побалем, М.М.Чарняўскім і інш.), *верхнедняпроўская культура* (выяўлена і археалагічна даследавана 176 помнікаў К.М.Палікарповічам, І.І.Арцёменкам і інш.), *нарвенская культура* (даследавана ў Беларусі 15 стаянак М.М.Чарняўскім, Э.М.Зайкоўскім і інш), *культура грабенчата-ямкавай керамікі* (М.М.Чарняўскі), *культура шарападобных амфар* (прадстаўлена крэмнездабываючымі шахтамі ля г.п. Краснасельскі Ваўкавыскага раёна, даследавана Н.М.Гурынай, М.М.Чарняўскім і інш.), *помнікі тыпу Бабінавічаў* (у Беларусі вядома шэсць помнікаў, якія былі даследаваны Н.М.Гурынай, М.М.Чарняўскім, Э.М.Зайкоўскім і інш.).

**Міхаіл Міхайлавіч Чарняўскі** нарадзіўся ў 1938 г. у в.Круці Мядзельскага раёна, беларускі археолаг. Кандыдат гістарычных навук (1971 г.). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. З 1966 г. навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, з 1990 г. загадчык аддзела археалогіі першабытнага грамадства.

М.М.Чарняўскі праводзіў раскопкі помнікаў фінальнага палеаліту, мезаліту і неаліту ў басейнах Нёмана і Віліі, першабытных стаянак на Віцебшчыне, даследаваў нёманскую мезалітычную і нарвенскую неалітычную культуры. У 1979 г. ім была выдадзена манаграфія «*Неаліт Беларускага Панямоння»,* а ў 1981 г. – «*Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі».*

З археалагічных культур бронзавага веку (III – II тыс. па VII – VI ст. да н.э.) тэрытарыяльна-храналагічна выдзелены *сярэднедняпроўская культура* (І.І.Арцёменка, У.Ф.Ісаенка, М.М.Крывальцэвіч, Л.Д.Побаль, А.Г.Калечыц і інш.), *культура палескай шнуравой керамікі* (Ю.У.Кухарэнка, У.Ф.Ісаенка, В.С.Вяргей, А.В.Іоў, А.Г.Калечыц, М.М.Крывальцэвіч і інш.), *шнуравой керамікі Панямоння* (У.Ф.Ісаенка, М.М.Чарняўскі), *паўночна-беларуская культура* (Э.М.Зайкоўскі, М.М.Чарняўскі) і інш.

У пасляваенны час разгортваюцца шырокія даследаванні помнікаў жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі. Археолагі пачалі вывучэнне культураў гэтага перыяду: *мілаградскай* і *зарубінецкай* (П.М.Траццякоў, Ю.У.Кухарэнка, В.М.Мельнікоўская, Л.Д.Побаль), *штрыхаванай керамікі* (А.Р.Мітрафанаў, Ф.Д.Гурэвіч), *днепрадзвінскай* (А.Р.Мітрафанаў, Л.В.Аляксееў, Г.В.Штыхаў, В.І.Шадыра).

**Леанід Давыдавіч Побаль** нарадзіўся ў 1924 г. у в.Мікалаева Іўеўскага раёна, беларускі археолаг. Доктар гістарычных навук (1978 г.), прафесар (1990 г.). Член Міжнароднай уніі славянскай археалогіі, Польскага археалагічнага таварыства, Беларускага таварыства аховы помнікаў. Скончыў БДУ. З 1958 г. супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, з 1970 г. загадчык сектара, з 1980 г. загадчык аддзела археалогіі, у 1986 – 1991 гг. археалогіі першабытнага грамадства.

Л.Д.Побаль даследаваў гісторыю старажытных славян у Еўропе, у прыватнасці помнікі зарубінецкай культуры. У трох манаграфіях «*Славянские древности Белоруссии*» (1971, 1973, 1974 гг.) ён даказаў пераемнасць зарубінецкіх плямёнаў ад мілаградскіх, іх раннеславянскі характар, ахарактарызаваў працэс пераходу насельніцтва ў селішчы, здабычу жалеза, сувязі насельніцтва з рымскім светам.

У даследаваннях беларускіх археолагаў закранаюцца пытанні першабытнай гісторыі: гаспадарчага жыцця, светапогляду, этнагенезу. Э.М.Загарульскі ў манаграфіі «*Древняя история Белоруссии: Очерки этнической истории и материальной культуры (до IX в.)»* (1977 г.) раскрыў раннюю этнічную гісторыю Беларусі, станаўленне і развіццё гаспадаркі і першабытнай тэхнікі, эвалюцыю жытла і паселішчаў.

**Эдуард Міхайлавіч Загарульскі** нарадзіўся ў 1928 г. у г.Тула, беларускі археолаг. Доктар гістарычных навук (1984 г.). Скончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт. З 1953 г. у Інстытуце гісторыі АН БССР, з 1962 г. у БДУ. Дэкан гістарычнага факультэта (1986 г.).

Таксама было апублікавана некалькі брашур папулярнага характару з выкарыстаннем этнаграфічнага матэрыялу, якія разлічваліся на шырокае кола чытачоў (Э.М.Загарульскі, У.Ф.Ісаенка, А.Г.Калечыц, М.М.Чарняўскі, Г.В.Штыхаў).

У першым томе «*Гісторыі Беларускай ССР»* (1972 г.) размешчаны два раздзелы, прысвечаныя дапісьмоваму часу. Іх напісалі **У.Д.Будзько**, **У.Ф.Ісаенка**, **І.І.Арцёменка**, **А.Р.Мітрафанаў**, **Л.Д.Побаль**. Аўтары выкарысталі набыткі амаль 15-гадовага пасляваеннага развіцця беларускай археалогіі, прасачылі першапачатковае засяленне Беларусі першабытным чалавекам, яго існаванне ў познепалеалітычны час, заняткі і побыт плямёнаў новакаменнага, бронзавага і жалезнага вякоў. Гістарычны працэс пададзены на фоне развіцця прыроды, з якой першабытны чалавек быў звязаны непасрэдным чынам. Але аўтары яшчэ амаль не вылучаюць мезалітычную эпоху як важны прамежак паміж паляўнічымі ледавіковай эпохі і пазнейшымі земляробамі. Найбольш грунтоўна асветлены жалезны век, што тлумачыцца высокай ступенню даследаванасці яго розных тэрытарыяльных і храналагічных перыядаў.

Археолагі даказалі, што ў каменным і бронзавым вяках на тэрыторыі Беларусі сфармавалася даіндаеўрапейскае насельніцтва, а ў XXIII ст. да н.э. прыйшла магутная хваля індаеўрапейцаў. Тым самым даследчыкі адмовіліся ад канцэпцыі М.Я.Мара, дамінаваўшай у даваеннай гістарыяграфіі.

Археалагічныя даследаванні паставілі пытанне аб этнагенезе беларусаў. Пасля Другой сусветнай вайны ў савецкай гістарыяграфіі замацавалася канцэпцыя «панславізма», актыўным прапагандыстам якой выступаў **У.І.Пічэта**. Па яго ініцыятыве ў Маскве летам 1947 г. быў арганізаваны *Інстытут славяназнаўства і балканістыкі АН СССР*. Пічэта падкрэсліваў славянскую місію ў Еўропе, а таксама гістарычную еднасць трох народаў: рускага, украінскага і беларускага. Яшчэ ў курсе лекцыяў «*История белорусского народа»* (1918 г.) гісторык лічыў славян аўтахтонным насельніцтвам Еўропы, а іх прарадзіму лакалізаваў ва Усходняй Еўропе. На яго думку, пад націскам готаў і гунаў славяне пачалі рухацца на поўнач, да Верхняга Падняпроўя і Падзвіння. Тэрыторыя Беларусі была занята крывічамі, дрыгавічамі, радзімічамі і нават драўля-

намі. Апошніх ён размяшчаў у басейне Беразіны. Аснову «беларускага племені» У.І.Пічэта звязваў з крывічамі і дрыгавічамі, лічыў, што беларуская народнасць сфармавалася ўжо ў XIII ст.

**А.П.П'янкоў** у манаграфіі «*Паходжанне беларускага народа*» (1948 г.) на падставе разнастайных крыніцаў стварыў этналагічную ўсходнеславянскую тапаграфію, паказаў рассяленне ўсходніх славян, моўную і культурную еднасць Старажытнарускай дзяржавы, раскрыў працэс фармавання старажытнарускай народнасці.

У 60-я гг. з'яўляецца праца **М.Я.Грынблата** «*Белорусы. Очерк происхождения и этнической истории*» (1968 г.). Аўтар упершыню ў беларускай гістарыяграфіі аб'яднаў археалагічныя, антрапалагічныя, гістарычныя і філалагічныя даследаванні, прапанаваў канцэпцыю этнагенезу беларусаў, якая была дамінуючай у пасляваенны перыяд. VI – VIII стст. – гэта рассяленне ўсходніх славян на тэрыторыі Беларусі, IX – XIII стст. – перыяд старажытнарускай народнасці, XIV – XVI стст. – фарміраванне беларускай народнасці, XVII – канец XVIII ст. – перыяд далейшага развіцця беларускай народнасці, канец XVIII ст. – да 1861 г. – складванне перадумоў беларускай нацыі.

Пазіцыя М.Я.Грынблата некалькі адрознівалася ад аўтара канцэпцыі старажытнарускай народнасці С.А.Токарава. Беларускі даследчык адмаўляў пераемнасць усходнеславянскіх плямёнаў з сучаснымі народамі. Таксама ён не прызнаваў уплыву «балцкага субстрата», канцэпцыю якога ў 1967 г. прапанаваў археолаг **В.В.Сядоў**.

Тэорыя субстратнага паходжання беларусаў ім прадстаўлена ў манаграфіях «*Происхождение и ранняя история славян*» (1979 г.), «*Восточные славяне в VI – XIII вв.*» (1982 г.). Ён лічыў, што ў выніку славянізацыі балцкага насельніцтва і змяшання з ім славян адбылося аддзяленне часткі ўсходнеславянскай народнасці. Гэта прывяло да станаўлення беларускай лінгваэтнічнай супольнасці, якая аформілася ў VIII – XII стст. і папярэднічала беларускай народнасці.

Наступным крокам у вывучэнні праблемы этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў стала даследаванне «*Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя*» (1985 г.), падрыхтаванае калектывам аўтараў (**В.К.Бандарчык**, **І.У.Чаквін**, **П.У.Церашковіч**, **Г.І.Каспяровіч**). У манаграфіі прадстаўлены гістарыяграфічны агляд, раскрыты працэс фармавання беларускай народнасці і беларускай нацыі.

У 1991 г. дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР **М.Ф.Пілiпенка** апублікаваў даследаванне «*Возникновение Белоруссии: новая концепция»,* у якім прапанаваў уласны погляд на этнагенез беларусаў. Аўтар лічыў, што крывічы, дрыгавічы і радзімічы прынялі ўдзел у фармаванні «этнічнага ўтварэння – агульнаўсходнеславянскай народнасці» або «Русі». Ён не прыняў тэорыю «балцкага субстрата» Сядова і «крывічскую» тэорыю Ластоўскага, падзверг крытыцы М.І.Ермаловіча, які лічыў палачан асобным этнічным фармаваннем у выніку змешвання крывічоў, дрыгавічоў і балтаў – «першай па часе мадэллю беларусаў».

**2. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі ранняга сярэднявечча**. У вывучэнні айчыннай гісторыі IX – XIII стст. даследчыкі абапіраліся на вынікі археалагічных даследаванняў, праведзеных у старажытных гарадах Беларусі.

**Георгій Васілевіч Штыхаў** нарадзіўся ў 1927 г. у в.Старая Беліца Гомельскага раёна, беларускі археолаг. Доктар гістарычных навук (1983 г.), прафесар (1989 г.). Скончыў БДУ. З 1962 г. навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, загадчык аддзела археалогіі і гісторыі Полацкай зямлі. Вывучае старажытныя гарады Полацкай зямлі і курганныя могільнікі ранняга сярэднявечча паўночнай і цэнтральнай Беларусі. З 1982 г. узначальвае пастаянную камісію па археалагічным даследаванні старажытнага Мінска. Кіраваў экспедыцыямі па вывучэнні Полацка, Заслаўя, Віцебска, Барысава, Лукомля, Лагойска, Копысі.

У манаграфіях «*Древний Полоцк, IX – XIII вв.»* (1975 г.), «*Города Полоцкой земли IX – XIII вв.»* (1978 г.), «*Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі»* (1992 г.) ён зрабіў выснову, што фармаванне полацкіх (заходніх) крывічоў праходзіла на працягу другой паловы І-га тыс. н.э., што гістарычным ядром Полацкага княства з'яўлялася Падзвінне.

**Леанід Васілевіч Аляксееў** нарадзіўся ў 1921 г. у г.Растоў-на-Доне, расійскі археолаг. Доктар гістарычных навук (1967 г.). Скончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт. У 1948 – 1950 гг. працаваў у Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, а з 1953 г. у Інстытуце археалогіі АН СССР. Даследаваў археалогію Полацкай і Смаленскай земляў IX – XIII стст., гісторыю навукі. Праводзіў раскопкі старажытных гарадоў Беларусі (Браслаў, Друцк, Мсціслаў).

У манаграфіі «*Полоцкая земля в IX – XIII вв. (Очерки истории Северной Белоруссии)»* (1966 г.) Л.В.Аляксееў даказаў, што Полац-

кае княства з’яўлялася самастойнай палітычнай адзінкай Русі з арыгінальнай і самабытнай культурай.

**Пётр Фёдаравич Лысенка** нарадзіўся ў 1931 г. у в.Зарачаны Полацкага раёна, беларускі археолаг. Доктар гістарычных навук (1988 г.). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. З 1964 г. супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, загадчык аддзела археалогіі сярэднявечча.

П.Ф.Лысенка у працах «*Города Туровской земли»* (1974 г.), «*Берестье»* (1985 г.), «*Дреговичи»* (1991 г.) даказаў заснаванне Брэста дрыгавічамі, правамернасць ужывання тэрміна «Тураўская зямля». Пазіцыя даследчыка не супадае з падыходам украінскіх гісторыкаў, якія самастойнасць Тураўскай зямлі выводзяць толькі з 60-х гг. XII ст.

Археалагічна комплекс помнікаў старажытнага Мінска вывучалі многія вучоныя, сярод іх А.М.Ляўданскі, А.Д.Каваленя, Э.М.Загарульскі, Г.В.Штыхаў і інш. Замчышча ў 1957 – 1961 гг. вывучаў В.Р.Тарасенка, даследаванне горада ў 70-х гг. абагульнена ў манаграфіі **Э.М.Загарульскага** «*Возникновение Минска»* (1982 г.). У 1984 – 1986 гг. у сувязі з пабудовай станцыі метро «Няміга» былі праведзены раскопкі ў старажытнай частцы горада XII – XVIII стст. Падрыхтаваны участак, які закансерваваны для стварэння Музея старажытнага Мінска. Вынікі вывучэння наваколляў старажытнага Мінска, валасцей-удзелаў, цэнтраў малых княстваў: Барысава, Лагойска, Заслаўля, увёў у навуковы зварот **Ю.А.Заяц** у працы «*Сельское население Минской волости-удела X – XIII вв.»* (1988 г.).

У пасляваенныя гады адносна шырока даследаваліся раннефеадальныя гарады ўсходняй часткі Беларусі. Сярод іх Мсціслаўль, Крычаў, Гомель, Брагін, Чачэрск, Рэчыца, Магілёў. Аб іх даследаванні напісаны манаграфіі **Т.Н.Каробушкінай** «*Средневековые памятники южной и восточной Белоруссии»* (1987 г.), **А.А.Мяцельскага** «*Города Белорусского Посожья в X – XIII вв.»* (1992).

Важную гаспадарча-эканамічную і гандлёвую функцыі ў феадальную эпоху выконвала Нёманска-Дняпроўская водная магістраль. На берагах Нёмана і яго прытоках сфармаваліся адносна вялікія гарады, сярод іх Гродна. Старажытнасці горада і яго наваколля даследаваліся не адным пакаленнем археолагаў. Надрукаваны манаграфіі **Н.Н.Вароніна** «*Древнее Гродно»* (1954 г.), **М.А.Ткачова** «*Замкі Беларусі»* (1977 г.), **І.М.Чарняўскага** «*Архитектурно-археологические исследования в Гродно и Могилеве»* (1981 г.), **Т.С.Скрыпчанка** «*Обмен и местное производство на территории Белоруссии в XI – XIV вв.»* (1982 г.).

У X – XI стст. існавалі ў Панямонні і іншыя гарады. Аднак у летапісу яны адзначаны пазней: Навагрудак, Ваўкавыск, Слонім, Турыйск. Звесткі аб іх абагульнены ў манаграфіях **Я.Г.Звяругі** «*Верхнее Понеманье в IX – XIII вв.*» (1989 г.), **П.А.Рапапорта** «*Военное зодчество западнорусских земель X – XIV вв.*» (1967 г.). **Ф.Д.Гурэвіч** «*Древний Новогрудок*» (1981 г.), у аўтарэфераце **С.А.Піваварчыка** «*Городища X – XIII вв. Белорусского Понеманья*» (1994 г.).

Пачынальнікам «гістарычнай археалогіі» – новага кірунку ў гістарыяграфіі Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны – з'яўляецца М.А.Ткачоў.

> **Міхаіл Аляксандравіч Ткачоў** (1942 – 1992 гг.), беларускі археолаг, гісторык. Доктар гістарычных навук (1987 г.), прафесар (1989 г.). Скончыў БДУ. Працаваў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя». Ініцыятар стварэння энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі», «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Напісаў каля 200 навуковых працаў.

У манаграфіях «*Замкі Беларусі*» (1977 г.), «*Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII – XVIII стст.*» (1978 г.), *«Замкі і людзі»* (1991 г.) першым у беларускай гістарыяграфіі прасачыў генезіс, эвалюцыю і этапы развіцця замкаў і абарончых сістэмаў населеных пунктаў, а таксама арганізацыю абароны беларускіх гарадоў.

У пасляваеннай савецкай гістарыяграфіі замацавалася феадальная канцэпцыя грамадскага развіцця ўсходніх славян у IX – XIII стст., якую распрацаваў Б.Д.Грэкаў.

> **Барыс Дзмітрыевіч Грэкаў** (1882 – 1953 гг.) расійскі гісторык. Акадэмік АН СССР, ганаровы акадэмік АН БССР. Доктар гістарычных навук (1934 г.). Скончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт. Выкладаў у ВНУ Пецярбурга, Пярмі, Сімферопаля, Масквы. Дырэктар Інстытута гісторыі (з 1937 г.), Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры (1944 – 1946 гг.), Інстытута славяназнаўства АН СССР. Стваральнік канцэпцыі гісторыі Кіеўскай Русі – агульнай радзімы рускіх, украінцаў, беларусаў і інш. народаў.

Б.Д.Грэкаў у сваіх працах даказываў, што ва ўсходніх славян, як і ў германцаў, разлажэнне першабытнаабшчыннага ладу прывяло да развіцця феадальных адносінаў. Таму ў VI – VIII стст. панаваў дафеадальны ўклад, а ў IX – пачатку XII ст. – феадальны. Гісто-

рык сцвярджаў пра далучэнне Полацка да Кіева князем Уладзімірам у 980 г., пра аўтаномію Полацкай зямлі і пачатак барацьбы з Кіевам пры князе Брачыславе.

Супраць феадальнай канцэпцыі выступіў у 1974 г. пецярбургскі даследчык І.Я.Фраянаў.

> **Ігар Якаўлевіч Фраянаў** нарадзіўся ў 1936 г. у г.Армавір, расійскі гісторык. Доктар гістарычных навук (1976 г.), прафесар (1979 г.). Скончыў Стаўрапольскі педагагічны інстытут. З 1966 г. працуе ў Пецярбургскім універсітэце, дэкан гістарычнага факультэта, загадчык кафедры гісторыі Расіі. Старшыня Галоўнага савета па гісторыі ў Дзяржкамітэце вышэйшых навучальных установаў Расійскай Федэрацыі.

У працах «*Киевская Русь: Очерки социально-экономической истории*» (1974 г.), «*Киевскай Русь: Очерки социально-политической истории*» (1980 г.), «*Киевская Русь: Очерки отечественной историографии*» (1990 г.) гісторык даказываў, што ва ўсходніх славян у IX – XI стст. панавалі абшчынныя адносіны пры слабым развіцці феадальнага ўкладу.

З беларускіх гісторыкаў да гэтай праблемы звярнулася **В.І.Гарамыкіна**. На падставе вялікага факталагічнага матэрыялу у манаграфіях «*К проблеме истории докапиталистических обществ (на материале Древней Руси)*» (1970 г.), «*Возникновение и развитие первой антагонистической формации в средневековой Европе*» (1982 г.) аўтар спрабавала даказаць рабаўладальніцкі характар Кіеўскай Русі і вылучала адпаведна рабаўладальніцкі перыяд у IX – XI стст. і феадальны ў XII – XIII стст.

Блізкую пазіцыю займаў **А.П.П'янкоў**. У працы «*Происхождение общественного и государственного строя Древней Руси*» (1980 г.) даследчык прасачыў пераход ад родавых саюзаў да сельскай абшчыны ў першыя стагоддзі нашай эры. Ён лічыў, што ў VI – VIII стст. панаваў рабаўладальніцкі лад, а ў IX – XII стст. – феадальны.

У абагульняльных працах, прысвечаных усходнім славянам і выдадзеных па-за межамі Беларусі, не звярталася належная ўвага гісторыі беларускага рэгіёна. Выключэннем з'яўляецца кніга акадэміка **М.М.Ціхамірава** (1893 – 1965 гг.) «*Древняя Русь*» (1975 г.). Аўтар адзначаў ідэнтычнасць палітычнага ладу Полацкай зямлі XII ст. палітычнай структуры Вялікага Ноўгарада. Гэтую думку падтрымаў І.Я.Фраянаў.

**3. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі феадальнага перыяду**. У савецкай гістарыяграфіі ўстанавіліся шаблонныя схемы гістарычнага працэсу ў Беларусі, якія ў значнай ступені былі заснаваны на пазіцыях расійскай дваранска-клерыкальнай гістарыяграфіі XIX ст. Навуковыя распрацоўкі гісторыі Беларусі феадальнай эпохі змясціліся галоўным чынам ў сферы сацыяльна-эканамічнай, часткова этнагістарычнай, знешнепалітычнай, культуралагічнай тэматыцы.

Канцэптуальныя погляды афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі 60 – 80-х гг. без асаблівых зменаў падаваліся ў абагульняльных акадэмічных выданнях. Адносна аб'ектыўным з далучэннем новых матэрыялаў быў першы том шасцітомавай «*Гісторыі Беларускай ССР*» (1972 г.). Праўда, гісторыі Беларусі са старажытных часоў да адмены прыгоннага права ў 1861 г. было адведзена менш чвэрці агульнага аб'ёму выдання, а часоў ВКЛ да канца XVI ст. – менш 5 %.

Грунтоўнай для свайго часу працай была манаграфія **У.Ц.Пашуты** «*Возникновение Литовского государства*» (1959 г.). Аўтар выкарыстаў шматлікія гістарычныя крыніцы і правёў грунтоўны гістарыяграфічны аналіз праблемы. На думку А.К.Краўцэвіча, канцэпцыя генезіса ВКЛ, прапанаваная У.Ц.Пашутам, супадала з пазіцыяй польскіх даследчыкаў. Вялікае княства Літоўскае лічылася літоўскай па характары дзяржавай, а сярэдневяковая Літва атаясамлялася з сучаснай Літвой, г.зн. «ВКЛ – прадукт унутранай эвалюцыі Літвы». Пашута вылучыў тры фазы ўтварэння ВКЛ: канфедэрацыя земляў, саюз літоўскіх земляў на чале з князямі Аўкштайтыі, раннефеадальная манархія. На гэтым фоне адбыўся захоп беларускіх земляў літоўскімі феадаламі. Канцэпцыя У.Ц.Пашуты вызначала пазіцыю айчынных гісторыкаў да канца 80-х гг. XX ст.

У вывучэнні эпохі феадалізму дамінавала сацыяльна-эканамічная праблематыка. Галоўная ўвага гісторыкаў была накіравана на вывучэнне аграрных адносінаў, феадальнага горада, класавай барацьбы, разлажэння феадальна-прыгонніцкай сістэмы і зараджэння капіталістычных адносінаў.

Аграрная праблематыка знайшла сваё адлюстраванне ў працах Д.Л.Пахілевіча, П.Р.Казлоўскага, В.І.Мялешкі.

**Дзмітрый Леанідавіч Пахілевіч** (1897 – 1974 гг.), украінскі гісторык. Доктар гістарычных навук (1951 г.), прафесар (1953 г.). Скончыў Кіеўскі інстытут народнай асветы. У 1921 – 1945 гг. працаваў у ВНУ УССР і РСФСР. З 1946 г. у Львоўскім універсітэце.

На падставе інвентароў каралеўскіх эканоміяў Д.Л.Пахілевіч раскрыў эвалюцыю памеснай і сялянскай гаспадаркі ў XVI – XVIII стст., паказаў замену адпрацовачнай рэнты грашовай пасля войнаў сярэдзіны XVII ст. як сродка аднаўлення гаспадарчага жыцця, вяртанне да фальваркова-паншчыннай сістэмы ў 40-я гг. XVIII ст. У сваіх працах «*Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI – XVIII вв.»* (1957 г.), «*Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в.»* (1966 г.) гісторык прааналізаваў рэформы Жыгімонта ІІ Аўгуста (1557 г.) і Антонія Тызенгаўза (1765 г.), раскрыў катэгорыі сялянства, выступіў супраць канцэпцыі аб прагрэсіруючым заняпадзе Беларусі ў другой палове XVIII ст.

**Павел Рыгоравіч Казлоўскі** (1911 – 1996 гг.), беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1974 г.). Скончыў БДУ. З 1957 па 1986 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР. Аўтар прац па гісторыі сялянства, крыніцазнаўству і дэмаграфіі беларускай вёскі.

Манаграфія П.Р.Казлоўскага «*Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII – XVIII в.»* (1969 г.) стала першым у беларускай гістарыяграфіі даследаваннем сялянства вотчынных магнацкіх уладанняў. Аўтар прасачыў развіццё вытворчых сіл вёскі (колькасць насельніцтва, развіццё земляробства, жывёлагадоўлі і інш.), з дапамогай статыстычнай апрацоўкі архіўных дадзеных пацвердзіў выснову Д.Л.Пахілевіча аб заняпадзе эканамічнага жыцця ў другой палове XVII – пачатку XVIII ст. і эканамічным уздыме ў другой палове XVIII ст.

Асобная ўвага была звернута на развіццё таварна-грашовых адносінаў у другой палове XVIII ст., на працэс класавай дыферэнцыяцыі сялянства, генезіс капіталізму ў беларускай вёсцы. П.Р.Казлоўскі ўпершыню ў беларускай гістарыяграфіі звязаў эвалюцыю феадальнай рэнты са зменай структуры сялянскага надзела, вызначыў долю грашовых плацяжоў сялян заходняй часткі Беларусі ў другой палове XVIII ст., якая традыцыйна лічылася рэгіёнам поўнага панавання паншчыны.

У працах «*Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в.»* (1974 г.), «*Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII – первой половине XIX в.»* (1982 г.) гісторык на падставе інвентароў, справаздачаў эканомаў і ўпраўляючых, рэестраў збору збожжа, касавых кніг і іншых крыніц даследаваў гаспадарку буйных землеўладальнікаў, якія займалі 46 % прыватнаўласніцкіх земляў на захадзе і ў цэнтры Беларусі. Ён паказаў развіццё ўнутранага рынку пад уплывам росту попыту на

сельгаспрадукцыю ў Заходняй Еўропе, вызначыў спецыялізацыю магнацкіх латыфундыяў.

Казлоўскі абвергнуў канцэпцыю прагрэсіруючага пагаршэння становішча сялян у перыяд феадалізму і тэзіс аб тым, што селянін з'яўляўся толькі карыстальнікам зямлі.

**Васіль Іванавіч Мялешка** нарадзіўся ў г.Томску ў 1921 г., беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1972 г.), прафесар (1990 г.). Скончыў БДУ. У 1956 – 1991 гг. у Інстытуце гісторыі АН БССР, загадчык аддзела гісторыі Беларусі эпохі феадалізму. У 1987 г. старшыня камісіі Акадэміі навук па гісторыі сельскай гаспадаркі і сялянства Беларусі.

У працы «*Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII – XVIII вв.)*» (1975 г.) Мялешка вызначыў асаблівасці аграрнай гісторыі ўсходняй часткі Беларусі. Ён паказаў аднатыпнасць структуры феадальнай уласнасці (дамінаванне шляхецкай уласнасці), гандлёвыя сувязі феадальнага маёнтка і сялянскай гаспадаркі з рынкам, глыбокае пранікненне таварна-грашовых адносінаў у сельскую гаспадарку, ролю промыслаў у развіцці аграрнай вытворчасці. Даследчык лічыў, што некаторыя промыслы ў першай палове XVIII ст. мелі рысы капіталістычных мануфактураў.

Таксама В.І.Мялешка вывучаў праблему класавай барацьбы ў беларускай вёсцы. У манаграфіі «*Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII – XVIII вв.*» (1982 г.) ён прааналізаваў тры формы сялянскіх выступленняў: пасіўны супраціў (скаргі, адмова ад выканання павіннасцяў, уцёкі), узброеныя акцыі (напады на маёнткі, сутычкі з узброенымі атрадамі і інш.), паўстанні (на Каменшчыне (1736 – 1754 гг.) і Крычаўскім старостве (1740 – 1744 гг.)).

Але ў пасляваенны перыяд развіцця беларускай савецкай гістарыяграфіі было слаба вывучана развіццё сялянскай гаспадаркі ва ўмовах генезісу капіталізму, яе рыначныя сувязі. Недастаткова прааналізавана эвалюцыя наёмнай працы, працэс запрыгоньвання сялянства. Прычым аграрная гісторыя XIV – XV стст. у цэлым заставалася слаба распрацаванай.

Праблема феадальнага горада знайшла адлюстраванне ў даследаваннях А.П.Ігнаценкі, З.Ю.Капыскага, А.П.Грыцкевіча.

Манаграфія **А.П.Ігнаценкі** «*Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII – XVIII в.*» (1963 г.) утрымлівае грунтоўную характарыстыку гарадскога рамяства. Аднак спроба аўтара

суаднесці феадальныя майстэрні з генезісам капіталізму выглядае беспадстаўнай.

**Зіновій Юльевіч Капыскі** (1916 – 1996 гг.), беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1968 г.). Скончыў Мінскі інстытут народнай гаспадаркі. Працаваў у Мінскім аблпланаддзеле, у Інстытуце эканомікі АН БССР. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1950 – 1990 гг. навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. Даследаваў гісторыю беларускага феадальнага горада, крыніцазнаўства, гістарыяграфію гісторыі Беларусі.

У манаграфіях «*Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII вв.*» (1966 г.), «*Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII вв.*» (1975 г.) Капыскі прааналізаваў становішча 37 дзяржаўных гарадоў і больш за 300 мястэчак. Пры гэтым аўтар памылкова бачыў наяўнасць капіталістычных з’яваў у гарадскім рамястве яшчэ ў XVII ст., што сведчыла аб пэўнай мадэрнізацыі гістарычнага працэсу. Ён лічыў з’яўленне скупшчыкаў рамесных вырабаў, ліхвярства і крэдыту пацвярджэннем генезісу буржуазных адносін.

**Анатоль Пятровіч Грыцкевіч** нарадзіўся ў 1929 г. у Мінску, беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1986 г.), прафесар (1987 г.). Акадэмік Міжнароднай АН Еўразіі (1999 г.). Скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моваў, БДУ. Працаваў урачом. З 1959 г. у Інстытуце гісторыі АН БССР. З 1975 г. загадчык кафедры Мінскага інстытута культуры (з 1993 г. Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры). Адначасова ў 1996 – 2000 гг. дырэктар НДІ Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (у Мінску). Даследуе гісторыю Беларусі перыяду феадалізму.

А.П.Грыцкевіч у манаграфіях «*Частновладельческие города Белоруссии в XVI – XVIII вв.*» (1975 г.), «*Социальная борьба горожан Белоруссии в XVI – XVIII вв.*» (1979 г.) вызначыў колькасць прыватнаўласніцкіх гарадоў, іх тыпы, узровень эканамічнага развіцця, сістэму кіравання, іх ролю як вайсковай апоры, грунтоўна прааналізваў магдэбургскае права.

Шмат увагі надавалася вывучэнню праблемы разлажэння феадальна-прыгонніцкай сістэмы і зараджэння капіталістычных адносінаў у працах А.М.Карпачова, М.М.Улашчыка, В.У.Чапко і інш.

Грунтоўным даследаваннем сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі першай паловы XIX ст. стала манаграфія **М.М.Улашчыка** «*Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии*» (1965 г.).

**Мікалай Мікалаевіч Улашчык** (1906 – 1986 гг.), беларускі гісторык, археограф, археолаг, этнограф, краязнаўца, літаратар. Доктар гістарычных навук (1964 г.). Скончыў БДУ. У 1924 – 1930 гг. працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы і сакратаром Кніжнай палаты БССР. Удзельнічаў у беларускім нацыянальна-культурным руху. Арыштаваны па справе СВБ (1930 г.), высланы ў г.Налінск Вяцкай вобласці. У 1933 г. асуджаны паўторна, этапіраваны ў Марыінскі лагер Навасібірскай вобласці, пасля ў пас. Суслава Кемераўскай вобласці. Вызвалены вясной 1935 г. без дазволу вяртання ў БССР, працаваў выкладчыкам гісторыі і геаграфіі ў розных школах і тэхнікумах. З 1939 г. у Ленінградзе, настаўнічаў. У 1941 г. арыштаваны і высланы ў г.Златавуст Чэлябінскай вобласці. Пры садзейнічанні акадэміка АН СССР Л.А.Арбелі вызвалены (1942 г.), займаўся вывучэннем аграрнай гісторыі Беларусі і Літвы XIX ст. У 1948 г. выкладаў у Маскоўскім дзяржаўным універсітэце. У 1949 г. звольнены з працы, рэпрэсаваны і ў 1951 г. этапіраваны ў пас. Суслава. Пасля вызвалення (1955 г.) вярнуўся ў Маскву, дзе да 1986 г. працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН СССР.

Работа ўключае матэрыялы толькі па трох губернях (Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай), але высновы аўтара мелі важнае значэнне для ўсёй тэрыторыі Беларусі, склаўшы зыходную пазіцыю для наступных даследаванняў па першай палове XIX ст. Шмат месца М.М.Улашчык адвёў аналізу сялянскай праблематыкі. Ён даследаваў дэмаграфічныя працэсы, структуру сялянскага насельніцтва, сялянскую гаспадарку і яе сувязі з рынкам, павіннасці сялян, умовы іх жыцця, антыпрыгонніцкі рух. Пры гэтым аўтар выкарыстаў шырокую базу архіўных матэрыялаў.

У манаграфіі **В.У.Чапко** «*Сельское хозяйство Белоруссии в первой половине XIX в.*» (1966 г.) праблема крызісу феадальных адносінаў была даследавана на дадзеных 800 памесцяў Беларусі.

**Валянціна Уладзіміраўна Чапко** нарадзілася ў 1925 г. у Мінску, беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1969 г.), прафесар (1976 г.). Скончыла БДУ. У 1953 – 1972 г. у Інстытуце гісторыі АН БССР. З 1972 г. загадчык кафедры ўсеагульнай гісторыі ў Мінскім педагагічным інстытуце. З 1978 г. у БДУ – загадчык кафедры гісторыі БССР, з 1984 г. прафесар кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў. Даследавала сацыяльна-эканамічныя працэсы ў Беларусі ў першай палове XIX ст.

У кнізе разглядаюцца не толькі памешчыцкая, але і сялянская гаспадарка. Такі падыход дазволіў раскрыць дзве галоўныя тэн-

дэнцыі ў развіцці сельскай гаспадаркі ў першай палове XIX ст.: крызіс прыгонніцкай сістэмы і пашырэнне капіталістычных формаў арганізацыі вытворчасці ў феадальных маёнтках і гаспадарцы дзяржаўных сялян.

Сведчаннем крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы ў першай палове XIX ст. было ўзмацненне сялянскага руху. Даследаванню гэтай праблемы прысвечана манаграфія **В.У.Чапко «***Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в.»* (1972 г.), у якой упершыню ў беларускай гістарычнай літаратуры прасочана дынаміка сялянскага руху, вызначаны яго асноўныя этапы і даецца іх характарыстыка. Аўтар прыйшла да высновы, што сялянскі рух уяўляў сабой класавую барацьбу, накіраваную супраць феадальна-прыгонніцкай эксплуатацыі.

Сацыяльна-эканамічнае развіццё гарадоў Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. разгледжана ў манаграфіях **В.У.Чапко** «*Города Белоруссии в первой половине XIX века: Экономическое развитие»* (1981 г.) і **А.М.Лютага** «*Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX в.»* (1987 г.).

**Анатоль Міхайлавіч Люты** нарадзіўся ў 1951 г. у г.п.Смілавічы Чэрвеньскага раёна. Доктар гістарычных навук (1990 г.), прафесар (1991 г.). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. З 1982 г. старшы выкладчык, з 1985 г. загадчык кафедры Мінскага педагагічнага інстытута (з 1993 г. педуніверсітэт). Даследуе сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё Беларусі ў XVIII – XIX стст., генезіс капіталізму на Беларусі.

Акрамя агульнай характарыстыкі гарадоў і мястэчак, даследаванні ўтрымліваюць матэрыял аб развіцці раменснай вытворчасці, мануфактураў, гандлю, раскрываюць сельскагаспадарчыя заняткі гарадскіх жыхароў, прасочваюць дынаміку гарадскога насельніцтва, змены, якія адбыліся ў яго сацыяльным, нацыянальным і канфесійным складзе.

У манаграфіях падкрэсліваецца, што зараджэнне і развіццё капіталістычных адносінаў у гарадах Беларусі перадвызначыла фарміраванне класаў буржуазнага грамадства – буржуазіі і наёмных рабочых, змену знешняга вобліку гарадоў. Але гарады Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. яшчэ не сталі цэнтрамі развіцця капіталістычнай прамысловасці. Яны захоўвалі рысы феадальнага горада, хаця пераходныя працэсы ўжо ішлі даволі інтэнсіўна.

Развіццё прамысловасці ў Беларусі ў другой палове XVIII – першай палове XIX ст. даследавана ў манаграфіях **М.Т.Раманоўскага** «*Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссиии (другая палова XVIII – першая палова XIX в.»* (1966 г.) і **М.Ф.Болбаса «***Развіццё прамысловасці Беларусі (1795 – 1861)»* (1966 г.). У кнізе М.Т.Раманоўскага раскрыта роля мануфактурнай вытворчасці (у тым ліку вотчыннай) як цэлага этапу, які аказаў уплыў на фармаванне капіталістычнага ўкладу ў эканоміцы дарэформеннай Беларусі. М.Ф.Болбас прасачыў дынаміку і асноўныя этапы развіцця прамысловасці Беларусі, прааналізаваў рамесную вытворчасць, мануфактуры і капіталістычныя фабрыкі, разглядзеў іх галіновую структуру, паходжанне і склад рабочых, іх становішча. Але доследчык спрошчана разумеў працэс разлажэння і крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы, зрабіў шэраг памылковых сцвярджэнняў.

У пасляваенны перыяд беларускія гісторыкі актыўна вывучалі «вызваленчую барацьбу беларускага народа супраць польскіх эксплуататараў за ўз’яднанне з Расіяй», грамадска-палітычную думку XIV – XVIII стст., «экспансіянізм каталіцкай царквы» ў Беларусі, грамадска-палітычны рух у першай палове XIX ст.

> **Лаўрэнцій Сямёнавіч Абецэдарскі** (1916 – 1975 гг.), беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук, прафесар (1966 г.). Член-карэспандэнт АПН СССР (1968 г.). Скончыў БДУ. Выкладчык, загадчык кафедры гісторыі СССР (1950 – 1958 гг.), гісторыі БССР (з 1958 г.) БДУ. Дэкан гістарычнага факультэта. Вывучаў расійска-беларускія адносіны ў другой палове XVI – XVII стст., нацыянальна-вызваленчую і антыфеадальную барацьбу ў Беларусі ў XVII ст.

Абецэдарскі сабраў вялікі матэрыял аб перасяленні беларусаў у Маскву і Замаскварэцкі край у другой палове XVII ст., якое не заўсёды лічыў добраахвотным. У манаграфіях «*Белорусы в Москве в XVII в.: Из истории русско-белорусских связей»* (1957 г.), «*Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI – XVII вв.»* (1978 г.) даследчык раскрыў ролю беларускіх рамеснікаў, якія былі пераселены ў Маскву, у развіцці рамеснай вытворчасці, стварэнні шэдэўраў культуры расійскай сталіцы. Абецэдарскі з’яўляўся прыхільнікам унітарнай канцэпцыі аб’яднання ўсходнеславянскіх земляў вакол Масквы і Маскоўскай дзяржавы.

Канцэпцыю Л.С.Абецэдарскага развіў **А.П.Ігнаценка** ў даследаванні «*Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая половина XVII – XVIII вв.)»* (1974 г.). Восем стагоддзяў, якія ахоплівалі перыяд ад распаду Кіеўскай Русі да падзелаў Рэчы

Паспалітай, трактаваліся аўтарам як перыяд прыгнечанага становішча, час імкнення да ўз'яднання з Расіяй.

Гісторыю грамадска-палітычнай думкі ў Беларусі ў XV – XVIII стст. у сярэдзіне 50-х – 80-я гг. плённа вывучалі супрацоўнікі Інстытута філасофіі і права АН БССР. У 1962 г. пад кіраўніцтвам акадэміка АН БССР В.А.Сербенты выйшаў калектыўны зборнік «*Из истории философской и общественно-политической мысли Белорусиии».*

У 1967 г. быў апублікаваны зборнік «*450 год беларускага кнігадрукавання»,* які можна разглядаць як арганічны працяг зборніка «400-лецце беларускага друку» (1926 г.). Яны маюць ідэнтычную структуру. У апошнім выданні нават размясцілі шэраг артыкулаў, перадрукаваных з папярэдняга зборніка. Відавочна, што адбылася змена ацэнкі ролі Ф.Скарыны. Ён адзначаны як выдатны беларускі асветнік і вучоны, прадстаўнік прагрэсіўнай беларускай культуры XVI ст. Эпоха канца XV – першай паловы XVI ст. названа «эпохай Ф.Скарыны», часам гуманізму.

Філосаф, гісторык-медыявіст **С.А.Падокшын** у манаграфіях «*Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI – начало XVIII вв.)»* (1970 г.), «*Скорина и Будный: Очерк философских взглядов»* (1974 г.), «*Франциск Скорина»* (1981 г.), «*Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага»* (1990 г.) прааналізаваў рэфармацыйна-гуманістычны рух і царкоўна-рэлігійнае жыццё ў Беларусі ў XVI – XVII стст., вызначыў спецыфічныя рысы беларускага Адраджэння і гуманізму. У 1984 г. даследчык атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР за цыкл працаў па гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі.

Дацэнт БДУ, кандыдат філасофскіх навук **А.А.Бірала** (1932 – 1974 гг.) у манаграфіях «*Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII – середине XVII вв.»* (1971 г.), «*Философские проблемы в науке эпохи Просвещения в Белоруссии и Литве»* (1979 г.) вывучаў гісторыю грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў XVII – XVIII стст. Ён абгрунтаваў тэрытарыяльны прынцып даследавання – разглядаў духоўную спадчыну, застаўленую на тэрыторыі Беларусі небеларусамі. Бірала адным з першых звярнуўся да вывучэння грамадскай псіхалогіі на аснове мемуарнай літаратуры.

У кнізе «*Правовое положение населения Белоруссии в XVI в.»* (1978 г.) **І.А.Юхо** (1921 – 2005 гг.) прадставіў першае комплекснае даследаванне прававой сістэмы ВКЛ, лічыў яе сінтэзам прававых нормаў старажытнарускага права, Літвы і Украіны. Даследчык пра-

вёў аналіз трох Статутаў ВКЛ і на іх аснове вызначыў сацыяльнае становішча шляхты, сялян і мяшчан. Ім была выказана думка, што Статуты ВКЛ – першыя ў Еўропе дасканалыя зборнікі законаў, што, магчыма, Ф.Скарына ўдзельнічаў у складанні І-га Статута ВКЛ, што Рэч Паспалітая мела канфедэратыўную пабудову.

Гісторыю каталіцкай царквы ў Беларусі распрацоўваў Я.Н.Мараш.

**Якаў Навумавіч Мараш** (1916 – 1990 гг.), беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1973 г.), прафесар (1974 г.). У 1936 – 1939 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце, скончыў Львоўскі універсітэт. Працаваў настаўнікам. З 1946 г. у Гродзенскім педагагічным інстытуце, выкладчык, дацэнт, дэкан гістарычнага факультэта, загадчык кафедры гісторыі СССР і БССР.

Сфера яго навуковых пошукаў была звязана з вывучэннем экспансіі каталіцкай царквы ў Беларусі і Літве. Я.Н.Мараш лічыў, што рэфармацыя мела шляхецка-магнацкі характар. Ён адстойваў праваслаўе і імкненне беларусаў да ўз’яднання з рускім народам. Аўтар сцвярджаў, што Ватыкан пад уплывам езуітаў імкнуўся зацвердзіцца ў Беларусі, каб далей распаўсюджваць свой уплыў на Маскоўскую Русь. Асобную ўвагу даследчык звярнуў на імкненне каталіцкай царквы праз адукацыйныя ўстановы езуітаў далучыць на свой бок моладзь і шляхту.

У працы «*Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви*» (1969 г.) даследчык раскрыў працэс эканамічнага замацавання на тэрыторыі Беларусі каталіцкіх ордэнаў і прыходаў. Ён прыйшоў да высновы, што гаспадарка каталіцкага духавенства засноўвалася на прыгонніцкай сістэме, а ступень эксплуатацыі сялянства была большай, чым у свецкіх феадалаў.

У 1971 г. выйшла манаграфія Я.Н.Мараша «*Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569 – 1795 гг.)*», у якой даследчык фундаментальна раскрыў пытанні фармавання феадальнага землеўладання каталіцкай царквы ў Беларусі, становішча залежных катэгорыяў сялянства ва ўладаннях каталіцкіх манастыроў. Наступная манаграфія «*Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в.*» (1974 г.) асвятляла два вялікія пытанні: эканамічнае пранікненне каталіцкай царквы на Беларусь у XVIII ст., формы і метады ідэалагічнага ўплыву.

У працах гісторыкаў шмат увагі надавалася даследаванню пытанняў грамадска-палітычнага руху ў Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. Да іх адносяцца манаграфіі В.У.Чапко, П.Н.Альшанскага, А.П.Смірнова, Е.І.Карнейчыка, Н.М.Махнач і інш.

У манаграфіі «*Общественно-политическое движение в Белоруссии в 40-е годы XIX в.»* (1958 г.) **В.У.Чапко** ўпершыню даследавала палітычную сітуацыю ў беларускіх губернях у 40-я гг. XIX ст., асабліва ў гады рэвалюцыйных падзеяў у краінах Заходняй Еўропы (1848 – 1849 гг.). Аўтар вызначыла змены ў расстаноўцы сацыяльных сілаў, у прыватнасці, адыход буйных памешчыкаў ад барацьбы пасля паражэння паўстання 1830–1831 гг. У працы адзначаецца характэрная рыса грамадска-палітычнага руху 40-х гг. – пераход вядучай ролі да прадстаўнікоў рэвалюцыйна-дэмакратычных колаў (разначынцаў). Чапко падкрэсліла дамінуючы ўплыў на грамадска-палітычны рух расійскай рэвалюцыйна-дэмакратычнай думкі, а не польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

У працы **П.Н.Альшанскага** «*Декабристы и польское национально-освободительное движение»* (1959 г.) асноўная ўвага надавалася спробам расійскіх дваранскіх рэвалюцыянераў устанавіць кантакты з польскімі тайнымі арганізацыямі. Адзначана абмежаванасць польскага нацыянальнага руху, мэтай якога было адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., і зацікаўленасць дзекабрыстаў у тым, каб незалежная Польшча стала рэспублікай.

**Анатоль Піліпавіч Смірноў** нарадзіўся ў 1925 г. у с.Родзіна Алтайскага краю, беларускі і расійскі гісторык. Доктар гістарычных навук (1963 г.), прафесар (1969 г.). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Працаваў у Інстытуце філасофіі і права АН БССР (1950 – 1956 гг.), у Інстытуце гісторыі АН СССР (1957 – 1970 гг.), прафесарам Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС (1971 – 1980 гг.), кіраўнік праблемнай групы ў Інстытуце славяназнаўства і балканістыкі Расійскай АН (1981 – 1988 гг.).

Смірноў у манаграфіі «*Революционные связи народов России и Польши в 30 – 50-е годы XIX в.»* (1962 г.) даследаваў узаемаадносіны расійскіх, украінскіх, беларускіх, літоўскіх і польскіх рэвалюцыянераў на ревалюцыйна-дэмакратычным этапе вызваленчага руху ў Расіі, раскрыў дзейнасць рэвалюцыйных гурткоў у Беларусі, Польшчы і Літве ў 30 – 40-я гг. XIX ст. («Дэмакратычнага таварыства», «Садружнасці польскага народа», «Саюза літоўскай моладзі»). Таварыствы характарызуюцца ім як тэрытарыяльныя групы рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху праз ідэйныя сувязі, агульнасць мэтаў і метадаў дзейнасці. Для беларускага чытача цікавасць уяўляе дзейнасць «Дэмакратычнага таварыства», заснаванага Ф.Савічам. Аналізуючы матэрыялы следчай справы, «Споведзь», напісаную Савічам у турме, а таксама статут арганізацыі, аўтар прыйшоў да высновы, што Ф.Савіч быў першым прадстаўніком

рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку ў грамадска-палітычным руху Беларусі.

У працы **Н.М.Махнач** «*Идейная борьба в Белоруссии в 30 – 40-я годы XIX в.*» (1971 г.) аналізуюцца погляды заснавальнікаў «Дэмакратычнага таварыства»: Ф.Савіча, Я.Загорскага і інш. Аўтар зыходзіла з тэзіса аб пераемнасці поглядаў «філаматаў», «філарэтаў», «прамяністых», членаў «Дэмакратычнага таварыства» і новага пакалення дзеячаў вызваленчай барацьбы, прадстаўленга К.Каліноўскім, В.Урублеўскім і інш. Грамадскі рух 30 – 40-х гг. Махнач адносіць да пераходнага этапу ад шляхецкай рэвалюцыйнасці да рэвалюцыйнай дэмакратычнасці. Грамадскія ідэі, на думку аўтара, адлюстроўвалі канкрэтныя жыццёвыя праблемы. Упершыню ў беларускай гістарычнай навуцы даследуюцца погляды Міхаіла Валовіча, ураджэнца Беларусі, звязанага з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам першай паловы 30-х гг. (так званая экспедыцыя Заліўскага), які ставіў задачу арганізаваць шырокае паўстанне ў Польшчы, Літве, ва Украіне і Беларусі. Як падкрэсліваецца, М.Валовіч звязваў нацыянальна-вызваленчы рух з барацьбой за ліквідацыю прыгонніцкай сістэмы і надзяленнем сялян зямлёй. Дамагчыся гэтага ён лічыў шляхам сялянскага паўстання, адмоўна ацэньваў мэты паўстання 1830–1831 гг. Валовіч з’яўляўся ідэйным папярэднікам Ф.Савіча.

У працы **Е.І.Карнейчыка** «*Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г.*» (1962 г.) раскрыты падзеі франка-рускай вайны 1812 г. на тэрыторыі Беларусі. Аўтар прасачыў ход ваенных дзеянняў у чэрвені-ліпені 1812 г., апісаў найбольш значныя вайсковыя аперацыі расійскіх войск супраць французаў, гераізм расійскіх воінаў, падкрэсліў айчынны характар вайны. Важнай асаблівасцю, на думку аўтара, у жыцці беларускага народа ва ўмовах вайны была актывізацыя барацьбы супраць шляхты, якая перайшла на бок Напалеона. У кнізе шырока адлюстравана дапамога беларускіх сялян расійскім войскам, а таксама дзеянні беларускіх сялян-партызан, паражэнні французскай арміі на тэрыторыі Беларусі пры адступленні.

У 50 – 80-я гг. сур’ёзныя навуковыя даследаванні былі напісаны літоўскімі гісторыкамі – Р.Батурай, Б.Дундулісам, І.Юргінісам, М.Ючасам, К.Яблонскісам, І.Стакаўскасам, І.Лукшайтэ і інш. Аднак абагульняльныя літоўскія працы, напрыклад, «*История Литовской ССР (с древнейших времен до наших дней)*» (1978 г.) захоўвалі ўплыў савецкай гістарыяграфіі.

**4. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі перыяду капіталізму**. У пасляваенны перыяд актывізуецца даследаванне праблемаў гісторыі Беларусі эпохі капіталізму. Асноўная ўвага беларускіх гісторыкаў была засяроджана на вывучэнні рэформы 1861 г., паўстання 1863 г., працэсу станаўлення буржуазнага грамадства, рэвалюцыйнага і грамадска-палітычнага руху, узнікнення і дзейнасці партыі бальшавікоў, падзеяў першай і другой расійскіх рэвалюцыяў на тэрыторыі Беларусі.

Даследаваннем пытанняў падрыхтоўкі і рэалізацыі рэформы 1861 г. у Беларусі займаліся А.В.Палонскі, А.Т.Караткевіч, М.Ф.Шпакаў і інш. Найбольш поўна яны прадстаўлены ў манаграфіях П.А.Заянчкоўскага і М.Б.Фрыдман. У манаграфіі **П.А.Заянчкоўскага** «*Проведение в жизнь крестьянской реформы 1861 г.*» (1958 г.), прысвечанай рэалізацыі рэформы 1861 г. у Расійскай імперыі, выдзелена спецыяльная глава аб яе ажыццяўленні ў Беларусі, Літве і на Правабярэжнай Украіне.

У працы **М.Б.Фрыдман** «*Отмена крепостного права в Белоруссии*» (1958 г.) разгледжаны перадумовы адмены прыгоннага права, падрыхтоўка рэформы, прааналізаваны дакументы, на падставе якіх ажыццяўлялася рэформа. Апошняя глава манаграфіі прысвечана рэалізацыі «Палажэнняў ад 19 лютага 1861 г.». У ёй раскрыты працэс падпісання устаўных граматаў, стварэнне органаў сялянскага самакіравання і органаў кантролю за ажыццяўленнем рэформы на месцах, сялянскі рух у 1861 – 1863 гг., змены ў заканадаўстве, якія былі прыняты ўрадам у беларускіх губернях у сувязі з паўстаннем 1863 г.

Аграрныя адносіны ў Беларусі ў парэформенны перыяд даследавалі К.І.Шабуня, А.І.Кажушкоў, Л.П.Ліпінскі, У.П.Панюціч, П.Д.Верашчагін, Х.Ю.Бейлькін і інш. Вялікі ўклад у распрацоўку гісторыі аграрных адносінаў у Беларусі на мяжы XIX – XX стст. унёс **К.І.Шабуня** ў манаграфіі «*Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905 – 1907 гг.*» (1962 г.).

**Канстанцін Іванавіч Шабуня** (1912 – 1984 гг.), беларускі гісторык. Член-карэспандэнт АН БССР (1969 г.), доктар гістарычных навук (1964 г.), прафесар (1966 г.). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. У 1940 – 1941 гг. выкладчык БДУ. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1946 – 1947 гг. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, у 1948 – 1956 гг. кансультант, загадчык сектара, намеснік загадчыка аддзела ЦК КПБ. З 1956 г. загадчык сектара публікацыяў, гісторыі Беларусі дасавецкага грамадства Інстытута гісторыі АН БССР. Адначасова ў 1946 – 1972 гг. выкладаў у ВНУ Мінска.

Гэтая работа стала асновай для наступных даследаванняў аграрнай і сялянскай гісторыі канца XIX – пачатку XX ст. Аўтар прааналізаваў развіццё землеўладання на беларускіх землях, стан памешчыцкай і сялянскай гаспадаркі, маёмасную дыферэнцыяцыю сялянства і сялянскі рух у часы першай рускай рэвалюцыі.

У працы **А.І.Кажушкова** «*Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии во второй половине XIX в.»* (1963 г.) прасочваецца развіццё капіталістычных адносінаў у памешчыцкай і сялянскай гаспадарках Беларусі ў парэформенны перыяд: спецыялізацыя памешчыцкіх гаспадарак, іх рыначныя сувязі, формы найму працоўнай сілы, кааперацыя сялянства і інш. З прычыны невялікага аб'ёму манаграфіі і недастатковасці фактычнага матэрыялу гэтыя пытанні раскрыты няпоўна.

Эвалюцыя капіталістычных адносінаў у парэформеннай вёсцы даследавана ў манаграфіі **Л.П.Ліпінскага** «*Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии (II половина XIX в.)»* (1971 г.).

**Леанід Паўлавіч Ліпінскі** (1921 – 1982 гг.), беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1975 г.), прафесар (1974 г.). Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. У 1948 – 1949 гг. намеснік дырэктара Цэнтральнага дзяржаўнага архіва ў Мінску. З 1952 г. супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, з 1966 г. у Беларускім політэхнічным інстытуце.

Развіццё аграрных адносінаў разглядаецца ім у трох аспектах: эвалюцыя землеўладання і землекарыстання, памешчыцкая гаспадарка, сялянская гаспадарка. Прааналізавана эканамічная арганізацыя памешчыцкіх гаспадарак, выкарыстанне ў іх машынаў, развіццё гандлёвага земляробства, прамысловага прадпрымальніцтва, ляснога гандлю, разлажэнне сялянства, развіццё гандлёвага земляробства ў сялянскай гаспадарцы, прыгонніцкія перажыткі ў вёсцы і становішча ўсіх саслоўных катэгорыяў сельскага насельніцтва. Аўтар параўноўваў статыстыку прыватнаўласніцкага землеўладання па перапісах 1877 і 1905 гг. Але іх паказчыкі несупастаўляльныя, таму высновы не заўсёды дакладна адлюстроўвалі стан беларускай вёскі.

Пытанні аграрнага перанасялення і адыходніцтва ў беларускай вёсцы даследаваліся ў манаграфіі **В.П.Панюціча** «*Из истории формирования пролетариата Белоруссии, 1861 – 1914 гг.»* (1969 г.).

**Вячаслаў Паўлавіч Панюціч** нарадзіўся ў 1932 г. у в.Осаўцы Бярозаўскага раёна, беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1991 г.). Скончыў БДУ. З 1962 г. у Інстытуце гісторыі АН БССР. Даследуе аграрную гісторыю Беларусі другой паловы XIX – пачатку XX ст.

Аўтар раскрыў класавую дыферэнцыяцыю беларускага сялянства і збядненне яго асноўнай масы як перадумовы ўзнікнення арміі «лішняй» рабочай сілы ў вёсцы. Вызначаны прычыны аграрнай перанаселенасці вёскі, яе ўзровень і спецыфіка ў розных раёнах Беларусі, паказаны памеры, характар і кірункі адыходніцтва, яго роля ў фармаванні прамысловага і сельскагаспадарчага пралетарыяту.

Міграцыя сялян, яе прычыны і дынаміка атрымалі асвятленне ў манаграфіі **В.Д.Верашчагіна** «*Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.)»* (1978 г.). Аўтар прасачыў сувязь сялянскіх перасяленняў з развіццём капіталізму, паказаў працэс пашырэння капіталізму ўглыб у раёнах выхаду перасяленцаў, разглядзеў перасяленцкую палітыку царызму. Аднак недастаткова раскрыта сувязь перасяленняў сялян з парэформеннымі аграрнымі адносінамі.

**Л.П.Ліпінскі** ў манаграфіі «*Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии»* (1978 г.) раскрыў перадумовы рэформы і яе ажыццяўленне ў Беларусі, прасачыў працэс хутарызацыі, разбурэння сялянскай абшчыны і разарэння асноўнай масы сялянства з мэтай стварэння шырокай сацыяльнай апоры царызму ў асобе заможнага сялянства пры захаванні памешчыцкага землеўладання. Аўтар паказаў уплыў рэформы на далейшае развіццё капіталізму ў сельскай гаспадарцы, адзначыў у адпаведнасці з традыцыяй савецкай гістарыяграфіі крах аграрнай палітыкі царызму ў пачатку XX ст.

У манаграфіі **В.П.Панюціча** «*Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861 – 1900 гг.»* (1990 г.) на падставе вялікай колькасці крыніцаў праведзены глыбокі аналіз агульнага і саслоўнага складу сялянства да і пасля рэформы, прасочана яго дынаміка па губернях з 1858 па 1897 гг., прааналізаваны прычыны і ўмовы, якія аказалі ўплыў на павелічэнне яго колькасці, даследаваны структура і склад сялянскіх сем'яў, міграцыйныя працэсы, звязаныя з адыходніцтвам, перасяленнем у Сібір, уздзеянне на гэтыя працэсы палітыкі царызму, стан пісьменнасці і нацыянальны склад сялянскага насельніцтва. Шмат увагі аўтар надаў аналізу функцыяў сялянскай абшчыны.

Манаграфія **Х.Ю.Бейлькіна «***Сельскохозяйственный рынок Белоруссии. 1861 – 1914 гг.»* (1989 г.) прысвечана перадумовам фармавання збожжавага рынку і рынкаў нязбожжавых культураў, гандлю таварамі жывёлагадоўлі, развіццю арганізацыйных формаў гандлю. Усе гэтыя пытанні разглядаюцца па перыядах: 60 – 70-я, 80 – 90-я гг., канец XIX – пачатак XX ст. (да пачатку Першай су-

светнай вайны). Глыбокае даследаванне гэтых праблем, іх параўнальны аналіз дазволілі аўтару зрабіць выснову, што галоўнымі передумовамі развіцця сельскагаспадарчага рынку ў парэформеннай Беларусі былі рост прамысловасці, гарадскога насельніцтва, чыгуначнае будаўніцтва, класавае расслаенне вёскі, фармаванне арміі наёмных сельскагаспадарчых рабочых. Пазітыўнае ўздзеянне на развіццё сельскагаспадарчага рынку аказала тэрытарыяльная блізкасць яго ад найважнейшых прамысловых і гандлёвых цэнтраў Расіі (Рыга, Лібава, Масква, Пецярбург, Варшава). Беларусь з'яўлялася складальнай часткай сусветнага аграрнага рынку.

Значныя поспехі былі дасягнуты ў даследаванні праблемаў развіцця капіталізму ў эканоміцы Беларусі пачатку XX ст. У калектыўнай працы «*Экономика Белоруссии в эпоху империализма (1900 – 1917 гг.)*» (1963 г.) паказана не толькі панаванне капіталістычных адносінаў у прамысловасці, гандлі, банкаўскай справе, але і складванне ў пачатку XX ст. манапалістычнага капіталізму. Праўда, да сярэдзіны 60-х гг. у савецкай гістарыяграфіі дамінавала думка аб каланіяльным становішчы Беларусі ў складзе Расійскай імперыі.

**З.Е.Абезгаўз** у працах «*Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX в.*» (1971 г.) і «*Рабочий класс Белоруссии в начале XX в. (1900 – 1913 гг.)*» (1977 г.) прааналізаваў тры стадыі развіцця капіталізму ў прамысловасці Беларусі (дробнатаварная вытворчасць, мануфактура, фабрыка), паказаў суадносіны паміж імі ў найважнейшых сферах вытворчасці, галіновую структуру і тэрытарыяльнае размяшчэнне прамысловасці, крыніцы фармавання рабочага класа, яго колькасць, прафесійны, нацыянальны і ўзроставы склад, эканамічнае і палітычнае становішча, пачатковы этап фармавання сацыялістычнай ідэалогіі.

У канцы 50 – пачатку 60-х гг. актывізавалася вывучэнне паўстання 1863 г. у Польшчы, Літве і Беларусі. Выйшлі кнігі **А.П.Смірнова** «*Кастусь Калиновский в восстании 1863 г.*» (1959 г.), «*Сигизмунд Сераковский*» (1959 г.), «*Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии*» (1963 г.), **Г.В.Кісялёва** «*Сейбіты вечнага*» (1963 г.), «*З думай пра Беларусь*» (1966 г.), некалькі зборнікаў артыкулаў і іншыя публікацыі. У сувязі са стагоддзем паўстання быў выдадзены двухтомавы зборнік дакументаў і матэрыялаў, у падрыхтоўцы якога прымалі актыўны ўдзел гісторыкі Беларусі. Найважнейшым пытаннем у ацэнцы гэтай праблемы было вызначэнне класавага характару паўстання, рухальных сілаў, стаўлення да яго сялянства. У папярэдняй літаратуры выказвалася думка аб сялянскім харак-

тары паўстання, але **С.М.Байкова (Самбук)**, **В.А.Дз'якаў**, **І.І.Касцюшка**, **І.С.Міллер** даказалі, што галоўнай рухальнай сілай паўстання з'яўлялася беззямельная і малазямельная шляхта, блізкая па сваім сацыяльнам становішчы да разначынцаў, змяніўшых дваранскіх рэвалюцыянераў. Характар паўстання стаў падавацца буржуазна-дэмакратычным.

А.П.Смірноў прызнаў і станоўча ацаніў пастаноўку К.Каліноўскім пытання аб стварэнні самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі. Але ў 60-я гг. шэраг даследчыкаў выказалі сумнеў у наяўнасці ў паўстанні рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні. Нават у другім томе «Гісторыі Беларускай ССР» (1972 г.) пазіцыя рэвалюцыянераў-дэмакратаў па нацыянальным пытанні не ўзгадвалася.

Рух народнікаў у 70 – пачатку 80-х гг. атрымаў асвятленне ў манаграфіях **С.М.Самбук** «*Революционные народники Белоруссии (70-е – начало 80-х гг. XIX в.)»* (1972 г.) і **М.Б.Ласінскага** «*Революционно-демократическое движение в Белоруссии. 1870 – 1884»* (1983 г.). Самбук раскрыла сялянскую, рэвалюцыйна-дэмакратычную сутнасць народніцкай ідэалогіі, паказала мясцовыя народніцкія гурткі і арганізацыі, іх сацыяльны склад, сувязі з расійскімі і польскімі рэвалюцыянерамі. Ласінскі на падставе архіўных і апублікаваных матэрыялаў прасачыў асноўныя этапы развіцця народніцкага руху ў Беларусі. Аўтар паказаў заканамернасць упадку народніцкай і зараджэння сацыял-дэмакратычнай ідэалогіі, прыйшоў да высновы, што рэвалюцыйнае народніцтва ў Беларусі з'яўлялася складальнай часткай агульнарасійскага рэвалюцыйнага руху.

Распаўсюджанне марксізму ў Беларусі знайшло адлюстраванне ў манаграфіях **У.І.Салашэнкі** «*Из истории распространения марксизма в Белоруссии (1883 – 1904 гг.)»* (1963 г.), «*От народничества к марксизму: Распространение марксизма и образование социал-демократических организаций в Белоруссии»* (1971 г.) і **М.В.Біча** «*Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883 – 1903 гг.»* (1973 г.). У іх раскрыты прычыны крызісу народніцкай ідэалогіі, прасочваюцца шляхі пранікнення і распаўсюджання ідэяў марксізму, узнікненне і дзейнасць першых сацыял-дэмакратычных і сацыялістычных партыяў, крызіс у мясцовым сацыял-дэмакратычным руху, раскол яго на меншавікоў і бальшавікоў.

Вялікае значэнне для разумення грамадска-палітычнага руху ў Беларусі ў другой палове XIX ст. адыграла манаграфія **С.М.Самбук** «*Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине XIX в. (по материалам периодической печати)»* (1976 г.). У ёй раскрыты пазіцыі дваранска-манархічнага, ліберальна-

буржуазнага і рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірункаў у грамадска-палітычнай думцы Беларусі ў другой палове XIX ст. па найважнейшых праблемах таго часу – стаўленні да самадзяржаўя і рэвалюцыі, аграрным, рабочым і нацыянальным пытаннях. Аўтар лічыла лібералізм разнавіднасцю буржуазнай ідэалогіі, якая не пакінула значнага следу ў айчыннай гісторыі. Кансерватызм разглядаўся ў рамках палітыкі царызму на тэрыторыі Беларусі.

Барацьба беларускага сялянства за зямлю атрымала асвятленне ў манаграфіях **Л.П.Ліпінскага і Е.П.Лук'янава** «*Крестьянское движение в Белорусии в период между двумя революциями (июнь 1907 – февраль 1917 г.»* (1964 г.) і **Л.П.Ліпінскага** «*Крестьянское движение в Белоруссии в 1914 – 1917 гг.»* (1975 г.). У іх асвятляецца роля аграрнага пытання ў сацыяльных супярэчнасцях міжрэвалюцыйнага перыяду, паказана развіццё і суадносіны двух сацыяльных войнаў у беларускай вёсцы, формы барацьбы сялян з памешчыкамі і сельскай буржуазіяй, дзейнасць партыі бальшавікоў у вёсцы.

Першым манаграфічным даследаваннем рабочага руху ў Беларусі ў эпоху капіталізму была кніга **А.І.Воранавай** «*Рабочы рух у Беларусі напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905 – 1907 гг.»* (1960 г.). Аўтар упершыню прадпрыняла спробу скласці статыстыку стачак рабочых Беларусі ў 1870 – 1907 гг. Але з гэтай задачай аўтар не справілася. Яна не ўлічыла нават тыя стачкі, звесткі аб якіх былі апублікаваны ў зборніках дакументаў.

Гэты недахоп выправіў **М.В.Біч** у манаграфіі «*Рабочее движение в Белоруссии в 1861 – 1904 гг.»* (1983 г.). Ён раскрыў перадумовы рабочага руху, колькасць, склад і сацыяльна-эканамічнае становішча прамысловых рабочых, асноўныя кірункі, формы і характар іх барацьбы, прывёў статыстыку стачак, дэманстрацыяў, мітынгаў і маніфестацыяў рабочых.

Да працаў, прысвечаных гісторыі рэвалюцыйнага і грамадска-палітычнага руху ў Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст., прымыкае манаграфія акадэміка **І.М.Ігнаценкі** «*Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя на Беларусі»* (1986 г.), выдадзеная напярэдадні 70-годдзя рэвалюцыі.

**Іларыён Мяфодзьевіч Ігнаценка** (1919 – 2003 гг.), беларускі гісторык, акадэмік АН Беларусі (1974 г.), доктар гістарычных навук (1965 г.), прафесар (1966 г.). Скончыў пракурорскія курсы ў Ленінградзе, Гомельскі педагагічны інстытут. У 1939 – 1947 гг. служыў у ВМФ. У 1948 – 1950 гг. пракурор г.Гомеля, у 1953 – 1955 гг., 1956 – 1966 гг. у БДУ, у 1958 – 1960 гг. сакра-

тар Мінскага гаркама КПБ. У 1966 – 1969 гг., 1975 – 1980 гг. дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. У 1969 – 1975 гг. дырэктар, з 1980 г. загадчык аддзела, а з 1991 г. галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі.

І.М.Ігнаценка даследаваў рост рабочага і сялянскага руху напярэдадні рэвалюцыі, паказаў пачатак, развіццё і перамогу рэвалюцыі ў Петраградзе, у гарадах і вёсках Беларусі і на Заходнім фронце, яе ўплыў на беларускі нацыянальны рух, спецыфічныя ўмовы і асаблівасці яе ажыццяўлення.

На думку аўтара, сама па сабе ўзятая лакальна сітуацыя на Беларусі не з'яўлялася рэвалюцыйнай. Аднак у агульнарасійскім кантэксце, пры рэзкім пагаршэнні ўмоваў жыцця і пад знешнім уздзеяннем, яна магла перарасці ў рэвалюцыйную, што адбылося ў мяккіх формах – у лютым, у вострых – у кастрычніку 1917 г. Пры гэтым вырашальным фактарам з'явіўся Заходні фронт, пераўтварэнню якога ў трэці рэвалюцыйны цэнтр у Расійскай імперыі даследчык аддае асаблівую ўвагу.

Па сутнасці, праца І.М.Ігнаценкі з'яўляецца першай абагульняльнай працай у беларускай гістарыяграфіі, у якой комплексна разгледжана гісторыя Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1917 г. у Беларусі.

**5. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі перыяду 1917 – 1945 гг.** Вядучымі кірункамі даследаванняў у сярэдзіне 50 – 80-я гг. з'яўляліся гісторыя Кастрычніцкай рэвалюцыі, ўстанаўленне Савецкай улады на тэрыторыі Беларусі, утварэнне беларускай савецкай дзяржаўнасці, працэс «сацыялістычнага будаўніцтва».

Вывучэнне гісторыі сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі звязана з імем **І.М.Ігнаценкі**. У манаграфіі «*Беднейшее крестьянство – союзник пролетариата в борьбе за победу Октябрьской революции в Белоруссии (1917 – 1918 гг.)»* (1962 г.) ён ахарактарызаваў палітычнае становішча на неакупаванай тэррыторыі Беларусі напярэдадані і падчас Кастрычніцкай рэвалюцыі, упершыню пасля 20 – 30-х гг. паказаў уплыў на сялянства беларускіх нацыянальных партыяў, увёў новую гістарыяграфічную тэму – аналіз складу і рашэнняў Усебеларускага з'езда.

Барацьбу з «карнілаўскім мяцежом», падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мінску, падпісанне Брэсцкага міру разглядаў у сваіх працах **У.Р.Івашын**, дзейнасць партыі бальшавікоў, ваеннае будаўніцтва, дзейнасць Саветаў і рэўкамаў, удзел Беларусі ў ваенна-палітычным саюзе савецкіх рэспублік – **П.А.Селіванаў**, унутраную і

знешнюю барацьбу на тэрыторыі Беларусі ў перыяд грамадзянскай вайны – **С.З.Пачанін**, становішча рабочага класа і дзейнасць прафсаюзаў у 1917 – 1918 гг. – **В.Р.Гнеўка**, дзейнасць атрадаў Чырвонай гвардыі, атрадаў Частак асобага прызначэння – **А.Г.Хахлоў**, арганізацыю Саветаў – **П.К.Блашко**.

Значная ўвага даследчыкаў у 50 – 60-я гг. была накіравана на вывучэнне аграрных пераўтварэнняў Савецкай улады. У працах **В.А.Мілаванава**, **І.Я.Марчанкі**, **Б.М.Фіха** і іншых даследчыкаў абгрунтоўвалася аграрная палітыка партыі бальшавікоў, яе сацыялістычны характар. Галоўным аспектам вывучаемай праблемы з'яўляўся працэс арганізацыі калектыўнага сектара ў беларускай вёсцы.

У пасляваенных выданнях утрымліваецца значны фактaлагічны матэрыял, прысвечаны стану беларускага грамадства ў 20 – 30-я гг. Шырока пададзены станоўчы вопыт, але не асвятляецца шэраг тагачасных праблемаў: нізкі ўзровень жыцця насельніцтва, супярэчлівы характар дэмакратызацыі ў перыяд НЭПа, цяжкасці ў ажыццяўленні палітыкі «беларусізацыі», пачатак фармавання каманднa-адміністрацыйнай сістэмы і інш.

Асобнай тэмай даследавання ў сярэдзіне 50 – 80-я гг. стала гісторыя нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў БССР. **Н.В.Каменская** ў манаграфіях «*Утварэнне БССР»* (1946 г.), «*Вялікая Кастрычніцкая Сацыялістычная рэвалюцыя і ўтварэнне БССР»* (1954 г.), «*Первые социалистические преобразования в Белоруссии»* (1957 г.) упершыню паказала ўплыў Кастрычніцкай рэвалюцыі на «сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных» Беларусі, але зусім не разгледжаны беларускі нацыянальны рух.

**Ніна Васілеўна Каменская** (1913 – 1986 гг.), беларускі гісторык. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1959 г.). Доктар гістарычных навук (1959 г.), прафесар (1961 г.). Скончыла Магілёўскі педагагічны інстытут. У 1944 – 1962 гг. старшы навуковы супрацоўнік, загадчык сектара, намеснік дырэктара, у 1965 – 1969 гг. дырэктар Інстытута гісторыі АН Беларусі, у 1962 – 1964 гг. дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, у 1969 – 1974 гг. загадчык кафедры гісторыі БССР Мінскага педагагічнага інстытута.

Найбольш грунтоўны аналіз праблемы ўтрымліваецца ў двухтомавай працы **В.А.Круталевіча** «*Рождение Белорусской Советской Республики»* (1976 г., 1979 г.).

**Вадзім Андрэевіч Круталевіч** нарадзіўся ў 1922 г. у в Малы Хонаў Магілёўскага раёна, беларускі юрыст, гісторык, сацыёлаг. Доктар юрыдычных навук (1974 г.), прафесар (1987 г.).

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт. З 1954 г. старшы навуковы супрацоўнік, з 1979 г. загадчык сектара, з 1989 г. вядучы, з 1992 г. галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН Беларусі.

У манаграфіі **Я.Н.Шкляр** «*Борьба трудящихся Литовско-Белорусской ССР с иностранными интервентами и внутренней контрреволюцией (1919 – 1920 гг.)*» (1963 г.) раскрыта гісторыя ўтварэння і роль ЛітБелССР.

Па-ранейшым актуальным для беларускай савецкай гістарычнай навукі заставалася пытанне барацьбы з «дробнабуржуазнымі і нацыяналістычнымі партыямі». Гэты аспект знайшоў адлюстраванне ў працах **М.С.Сташкевіча** «*Непазбежнае банкруцтва*» (1974 г.), «*На защите идей Октября: Из истории идейно-политической борьбы в Белоруссии в годы гражданской войны (1919 – 1920 гг.)*» (1978 г.), «*На пути к истине: Из истории национально-освободительного движения в Белоруссии, 1917 г.*» (1983 г.), «*Приговор революции: Крах антисоветского движения в Белоруссии, 1917 – 1925.*» (1985 г.).

**Мікалай Сцяфанавіч Сташкевіч** нарадзіўся ў 1938 г. у в.Мокрае Быхаўскага раёна, беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1990 г.), прафесар (1994 г.). Скончыў БДУ. З 1967 г. у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ: з 1976 г. загадчык сектараў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, гісторыі партыі, з 1991 г. гісторыі палітычных партыяў сацыялістычнай арыентацыі. У 1992 – 1999 гг. вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументацыі і рэтраінфармацыі, загадчык кафедры гісторыі і беларусазнаўства Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы БДУ. У 1999 – 2005 гг. в.а. дырэктара Інстытута гісторыі НАНБ.

Але ў 80-я гг. рэзка скарацілася цікавасць даследчыкаў да праблемаў Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, хаця шэраг пытанняў засталіся амаль нявывучанымі: ажыццяўленне нацыянальнай і сацыяльнай палітыкі партыяй бальшавікоў, узаемаадносіны рабочага класа з нацыянальным рухам, псіхалогія і настрой працоўных, адсутнічала абагульняльная праца па гісторыі грамадзянскай вайны.

У Праграме КПСС, прынятай на XXII з’ездзе партыі ў 1961 г., сцвярджалася, што «індустрыялізацыя краіны, кааперыраванне сельскай гаспадаркі, культурная рэвалюцыя –... асноўныя палажэнні ленінскага плана пабудовы сацыялізму» у СССР. Гэты пастулат стаў асноўнай схемай у вывучэнні гісторыі савецкага грамад-

ства 20 – 30-х гг. Было выдадзена больш за 40 манаграфіяў, прысвечаных аднаўленчаму перыяду (1921 – 1925 гг.), індустрыяльнаму развіццю БССР, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, гісторыі рабочага класа і гісторыі КП(б)Б.

У 50-я гг. узрасла цікавасць даследчыкаў да палітыкі індустрыялізацыі, паколькі лічылася, што перамога ў Вялікай Айчыннай вайне стала вынікам праведзенай у СССР індустрыялізацыі. Сфармавалася пазіцыя беларускіх гісторыкаў па гэтай праблеме – лічылася, што індустрыялізацыя ў БССР пачалася з XIV з’езда ВКП(б) (1925 г.) і працягвалася да пачатку вайны. Аўтары зводзілі працэс індустрыялізацыі да тэхніка-эканамічных аспектаў. Галоўную асаблівасць сацыялістычнай індустрыялізацыі ў адрозненне ад капіталістычнай яны бачылі ў прыярытэтным развіцці цяжкай прамысловасці.

Першыя вынікі НЭПа ў рэспубліцы прааналізаваў **М.Я.Шкляр** у манаграфіі «*Борьба Компартии Белоруссии за укрепление союза рабочего класса и трудового крестьянства в восстановительный период (1921 – 1925 гг.)*» (1960 г.). Таксама гэтай праблематыкай займаўся **М.Я.Завалееў**. У манаграфіі «*Рабочий класс Белоруссии в борьбе за социализм. 1917 – 1932 гг.*» (1967 г.) ён разглядзеў змены ў колькасным, культурна-тэхнічным стане пралетарыята Беларусі, раскрыў шэфскую дапамогу вёсцы, дзейнасць прафсаюзаў. **А.І.Жаўнерчык** і **І.В.Міронаў** раскрылі ажыццяўленне ІІ-й пяцігодкі ў БССР, а **І.С.Росман** – пачатковы перыяд ІІІ-й пяцігодкі.

У 1979 г. выйшла манаграфія **А.Т.Нятылькіна** «*Осуществление ленинской политики индустриализации в Белоруссии (1926 – 1941 гг.)*», якая абагульняла гісторыю першых пяцігодак. Але аўтар не раскрыў поўна крыніцы індустрыялізацыі, не паказаў фарсіраванне гэтай палітыкі з боку партыйнага кіраўніцтва краінай, абыйшоў сваёй увагай невыкананне першых пяцігадовых планаў.

Адным з першых да праблемы масавай калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў БССР звярнуўся **А.А.Філімонаў** у манаграфіі «*Укрепление союза рабочего класса и трудового крестьянства в период развернутого строительства социализма, 1929 – 1936 гг. На материалах Белоруссии*» (1968 г.).

**Аляксандр Андрэевіч Філімонаў** нарадзіўся ў 1918 г. у в.Кучын Кармянскага раёна, беларускі гісторык, Герой Савецкага Саюза (1945 г.). Доктар гістарычных навук (1969 г.), прафесар (1970 г.). Скончыў Арлоўскае танкавае вучылішча, БДУ. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1947 г. на выкладчыцкай рабоце. З 1969 г. у Інстытуце гісторыі АН Беларусі (загадчык сектара), у 1975 – 1991 гг. у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ.

Дзейнасць саўгасаў рэспублікі прадстаўлена ў даследаваннях **А.М.Сарокіна** «*Совхозы БССР в период построения фундамента социализма (1926 – 1932 гг.)*» (1971 г.), «*Совхозы Белорусской ССР (1917 – 1941 гг.)*» (1979 г.).

**Анатоль Мікалаевіч Сарокін** нарадзіўся ў 1940 г. у Мінску, беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1980 г.). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. У 1965 – 1997 гг. у Інстытуце гісторыі НАНБ: малодшы, старшы, вядучы навуковы супрацоўнік, в.а. загадчыка аддзела. У 1997 – 2000 гг. начальнік атэстацыйнага аддзела гуманітарных навук Вышэйшага атэстацыйнага камітэта РБ.

Пытанні ажыццяўлення культурных пераўтварэнняў у БССР прадставіў у кнізе «*Деятельность КПБ по осуществлению культурной революции в республике (1919 – 1937 гг.)*» **П.П.Сіліванчык**, гісторыю беларускага савецкага друку – **С.В.Марцалеў**, станаўленне вышэйшай школы – **Н.І.Красоўскі**. Але высокая палітызацыя, заідэалагізаванасць культурнай работы ў БССР не раскрывалася.

У 80-я гг. значная ўвага стала надавацца праблемам фармавання інтэлігенцыі ў БССР, ваенна-патрыятычнаму выхаванню працоўных, ідэалагічнай рабоце з насельніцтвам у працах **Ю.С.Кузняцова**, **А.Ф.Васілеўскай**, **Е.В.Маскоўкінай**, **П.Г.Чыгрынава**, **М.П.Касцюка**. Фармаванне кадраў для сістэмы народнай адукацыі рэспублікі плённа вывучаў Я.К.Новік.

**Яўген Канстанцінавіч Новік** нарадзіўся ў 1939 г. у в.Рахавец Навагрудскага раёна, беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1989 г.), прафесар (1991 г.). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. З 1962 г. працаваў настаўнікам, выкладчыкам Навагрудскага гандлёва-эканамічнага тэхнікума. З 1970 г. у Мінскім педагагічным інстытуце, Мінскім інстытуце культуры, Рэспубліканскім міжгаліновым інстытуце павышэння кваліфікацыі кіруючых кадраў і спецыялістаў галінаў народнай гаспадаркі. З 1990 г. загадчык кафедры гуманітарных дысцыплінаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. З 2000 г. начальнік атэстацыйнага аддзела гуманітарных навук ВАКа РБ.

**6. Этапы гістарыяграфіі Вялікай Айчыннай вайны.** У пасляваенны перыяд у айчыннай і сусветнай гістарыяграфіі з'явілася больш за 10 тыс. прац, прысвечаных гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Пераважна яны датычацца баявых дзеянняў Чырвонай Арміі падчас абарончых баёў 1941 г. і наступальных аперацыяў 1943-1944 гг., стварэння і дзейнасці партызанскіх

фарміраванняў, зараджэння і развіцця падполля ў населеных пунктах, кіруючай і арганізуючай ролі падпольных партыйных і камсамольскіх органаў, масава-палітычнай і прапагандысцкай працы ў тыле ворага, пытанням акупацыйнага рэжыму, палітыцы генацыду супраць насельніцтва Беларусі. У навуковы абарот уведзена шмат архіўных крыніцаў, выдадзены тэматычныя зборнікі дакументаў і матэрыялаў, сотні мемуараў удзельнікаў вайны, абаронены больш за сто доктарскіх і кандыдацкіх дысертацыяў, выдадзены фундаментальныя абагульняльныя працы. У 2005 г. завяршылася выданне кніг серыі гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». Склаўся самастойны кірунак – гістарыяграфія гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

А.М.Літвін вылучае два асноўныя перыяды вывучэння гісторыі Беларусі перыяду Другой сусветнай вайны: савецкі і сучасны. Першы перыяд ён вызначае з чэрвеня 1941 г. па канец 1991 г. і падзяляе яго на тры этапы.

Першы (ваенны; чэрвень 1941 г. – канец вайны) – зараджэнне літаратуры, першыя крокі ў арганізацыі навуковых даследаванняў, пачатак збору дакументальных крыніцаў, фармаванне архіўных фондаў. У гады вайны гісторыкі, журналісты, партыйныя і савецкія работнікі Беларусі ў сваіх артыкулах, брашурах апавядалі пра падзеі на франтах, у савецкім тыле і на акупаванай ворагам тэрыторыі (публікацыі **П.К.Панамарэнкі** «*Партызанскі рух у Вялікую Айчынную вайну*» (1943 г.), **Ц.С.Гарбунова** «*Беларусь жыве, Беларусь змагаецца!*» (1943 г.), **М.В.Зімяніна** «*Моладзь Беларусі змагаецца*» (1942 г.), выступленні кіраўнікоў партызанскага руху Ц.П.Бумажкова, П.З.Калініна, В.І.Казлова і інш. Летам 1942 г. была створана Камісія па гісторыі Айчыннай вайны пры ЦК КП(б)Б і Надзвычайная Дзяржаўная Камісія па расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Другі этап (пасляваенны; другая палова 40 – канец 50-х гг.) – этап далейшага назапашвання дакументальнага матэрыялу, першых спробаў навуковага асэнсавання асобных пытанняў барацьбы насельніцтва Беларусі. Выйшлі працы **Л.Ф.Цанавы** «*Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў*» (ч..1, 1949 г.; ч..2, 1951 г.), **І.С.Краўчанкі** «*Падпольны бальшавіцкі друк у Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны*» (1950 г.) і «*Работа Кампартыі ў тыле ворага (1941 – 1944 гг.)*» (1959 г.), **П.П.Ліпілы** «*КПБ – арганізатар і кіраўнік партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны*» (1959 г.), шэраг зборні-

каў дакументаў і матэрыялаў, успамінаў удзельнікаў барацьбы, якія паклалі пачатак паглыбленаму вывучэнню партыйнага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі. На гэтым этапе значна пашырыліся магчымасці для працы з дакументамі ваенных гадоў, былі створаны першыя навуковыя падраздзяленні ў вывучэнні гісторыі вайны ў Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

Літаратура і навуковыя дысертацыі першага пасляваеннага дзесяцігоддзя ў большасці не мелі абагульняльнага характару, бо кіраўніцтва рэспублікі лічыла, што гісторыю вайны павінны найперш напісаць яе кіраўнікі. Згодна з прынятай 3 ліпеня 1946 г. пастановай ЦК КП(б)Б «Аб збіранні, распрацоўцы і выданні дакументаў і матэрыялаў аб рабоце партыйных арганізацый КП(б)Б і партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну 1941 – 1945 гг.» быў зацверджаны спіс з 38 асобаў, якія павінны былі падрыхтаваць да выдання свае кнігі. Для працаў абодвух этапаў характэрны неабгрунтаванае засакрэчванне архіўных крыніцаў, абмежаваны доступ да іх выкарыстання, жорсткі ідэалагічны кантроль.

Трэці этап (канец 50-х гг. – 1991 г.) – найбольш прадуктыўны ў вывучэнні гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Многія яе аспекты атрымалі грунтоўнае асвятленне (кіруючая роля КПСС і асобныя пытанні акупацыйнага рэжыму, падпольная і партызанская барацьба, дапамога савецкага тылу партызанам, ідэйная і масава-палітычная праца савецкага падполля, жыццё і дзейнасць насельніцтва ў партызанскіх зонах і інш.). Гэта працы Р.Ц.Аблавай, Г.І.Аляхновіч, Л.В.Аржаевай, К.М.Гоцман, С.К.Грабоўскага, У.І.Гуленкі, В.С.Давыдавай, Б.Дз.Далгатовіча, К.І.Дамарада, І.М.Ігнаценкі, А.І.Залескага, А.Л.Манаенкава, А.М.Мацко, В.К.Кісялёва, Г.Дз.Кнацько, П.М.Кобрынца, А.А.Кузняева, Г.П.Купрэевай, У.І.Кузьменкі, Р.Р.Кручка, В.С.Лазебнікава, У.І.Лемяшонка, А.М.Літвіна, С.В.Марцэлева, А.Д.Цітова, А.А.Тозіка, У.С.Пасэ, В.П.Паўлава, Я.С.Паўлава, П.С.Паўлаўца, В.П.Раманоўскага, С.У.Сілавай, А.В.Сямёнавай, Г.М.Шавялы, А.Ф.Хацкевіча, А.А.Фактаровіча, А.А.Філімонава, Э.Ф.Языковіч, М.А.Якубоўскага і інш. Але шэраг пытанняў заставаўся па-за полем зроку даследчыкаў (асобныя пытанні акупацыйнага рэжыму, праблема калабарацыянізму, супрацоўніцтва і здрадніцтва, узаемаадносіны партызан і мясцовага насельніцтва, роля царквы і канфесіяў у жыцці народа ў ваенныя гады, трагедыя яўрэйскага насельніцтва, дзейнасць Арміі Краёвай, палітычныя рэпрэсіі, ваеннапалонныя і г.д.).

**7. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі пасляваеннага савецкага перыяду**. У вывучэнні сучаснага гістарычнага перыяду прыярытэт належаў супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Даследчыкі спачатку зыходзілі з задачы пабудовы камуністычнага грамадства, вызначанай на XXII з’ездзе КПСС у 1961 г., а затым – задачы пабудовы «развітога сацыялізму» (канцэпцыі, замацаванай у Канстытуцыі СССР 1977 г. і Канстытуцыі БССР 1978 г.).

Асноўная ўвага звярталася на аналіз кіруючай ролі Камуністычнай партыі Беларусі ў палітычным, сацыяльна-эканамічным, ідэалагічным жыцці грамадства. У 1974 г. выйшла калектыўная праца пад кіраўніцтвам А.Н.Аксёнава «*Возрастание руководящей роли партии в коммунистическом строительстве (на материалах Компартии Белоруссии. 1959 – 1973 гг.)»*. Раней былі апублікаваны зборнікі артыкулаў: «*КПБ в борьбе за дальнейшее развитие народного хозяйства республики в послевоенные годы»* (1961 г.), «*Деятельность Компартии Белоруссии в период социализма и коммунистического строительства»* (1969 г.).

Адной з першых спробаў абагульнення дзейнасці КПБ у галіне эканамічнай палітыкі стала манаграфія **Г.Д.Мацюшэнкі** «*Коммунистическая партия Белоруссии в борьбе за восстановление и развитие промышленности в послевоенные годы (1946 – 1950 гг.)»* (1962 г.). Шэраг даследаванняў былі прысвечаны арганізацыйна-кадравай дзейнасці партыйных органаў. Таксама аналізавалася роля партыі ў эканамічнай адукацыі кадраў, у павышэнні ролі насценнага друку, у кіраванні народнымі дружынамі і г.д.

Актуальным кірункам гістарычных даследаванняў з’яўлялася гісторыя Саветаў, прафсаюзаў, камсамола і грамадскіх арганізацыяў. Сярод іх кніга **П.Ц.Петрыкава** «*Советы депутатов трудящихся БССР и их роль в создании материально-технической базы коммунизма (1959 – 1965 гг.)»* (1972 г.), **В.М.Фаміна** «*Профсоюзы Белоруссии в борьбе за технический прогресс в промышленности (1946 – 1971 гг.)»* (1971 г.).

**Віталій Міхайлавіч Фамін** нарадзіўся ў 1927 г. у в.Чорнае Рэчыцкага раёна, беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1973 г.), прафесар (1974 г.). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. З 1960 г. працуе ў ім: старшы выкладчык, дацэнт, у 1972 – 1997 гг. загадчык кафедры. У 1976 – 1985 гг. рэдактар навуковага зборніка «Вопросы истории».

Глыбокую распрацоўку атрымала праблема прамысловага развіцця БССР і стану рабочага класа ў працах **І.Я.Марчанкі** «*Рабочий класс БССР в пслевоенные годы (1945 – 1950 гг.)»* (1962 г.),

«*Трудовой подвиг рабочего класса Белорусской ССР (1943 – 1950 гг.)*» (1977 г.), «*Ведущая сила: Рабочий класс Белоруссии на этапе развитого социализма*» (1980 г.) (разам з Л.М.Лычом), **Л.М.Лыча** «*Восстановление и развитие железнодорожного транспорта Белорусской ССР (сентябрь 1943 – 1970 гг.)*» (1976 г.), **І.П.Крэня** і інш., развіцця сельскай гаспадаркі – у працах **А.П.Белязо** «*Беларуская вёска ў пасляваенныя гады (1945 – 1950)*» (1974 г.), «*Современная белорусская деревня*» (1976 г.), «*Крестьянство Белоруссии на пути к развитому социализму (1951 – 1960 гг.)*» (1982 г.), **І.В.Палуяна** «*Технические кадры белорусской деревни и развитие сельского хозяйства республики*» (1978 г.), **Н.В.Кузняцова** «*Курсом специализации и концентрации сельского хозяйства: На материалах Компартии Белоруссии (1965 – 1983 гг.)*» (1984 г.), **М.П.Касцюка** «*Трудовой вклад крестьянства в победу и укрепление социализма: на материалах БССР*» (1986 г.) і інш., гісторыі культурных пераўтварэнняў – у працах **С.А.Умрэйкі**, **І.В.Царук**, **М.Г.Мінкевіча**, **С.В.Марцалева** і інш.

**Іван Ягоравіч Марчанка** (1923 – 1997 гг.), беларускі гісторык. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1980 г.). Доктар гістарычных навук (1969 г.), прафесар (1980 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. У 1945 – 1951 гг. на партыйнай рабоце. З 1954 г. у Інстытуце гісторыі АН Беларусі: навуковы супрацоўнік, вучоны сакратар, у 1962 – 1968 гг. і 1976 – 1981 гг. намеснік дырэктара па навуковай рабоце, адначасова загадчык сектара і аддзела.

**Міхаіл Паўлавіч Касцюк** нарадзіўся ў 1940 г. у в.Масцішча Навагрудскага раёна, беларускі гісторык. Акадэмік НАНБ (1996 г.). Доктар гістарычных навук (1980 г.), прафесар (1987 г.). Скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут. З 1969 г. у Інстытуце гісторыі АН Беларусі, з 1970 г. вучоны сакратар. У 1975 – 1981 гг. вучоны сакратар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. З 1981 г. намеснік дырэктара, з 1989 па 1999 гг. дырэктар Інстытута гісторыі НАНБ.

У 70-я гг. савецкія гісторыкі пачалі актыўную распрацоўку праблемы «развітога сацыялізму» на прыкладах адносна блізкага мінулага – фактычна сучаснага этапа развіцця краіны. Прадметам даследавання сталі кіраўніцтва КПСС эканомікай і сацыяльнымі адносінамі, грамадска-палітычным і культурным жыццём, нацыянальнай палітыкай. У «авангардзе» ішлі маскоўскія гісторыкі (В.Касьяненка, П.Ігнатоўскі, В.Старавераў, І.Берхін і інш.). Ужо ў пачатку 80-х гг. была зроблена выснова аб канцэпцыі «развітога сацыя-

лізму» як найбольш буйнога ўкладу ў развіццё марксісцка-ленінскай тэорыі пасля XX з'езда КПСС. На сучасным этапе гістарычнай навукі працы па гэтай праблематыцы ацэньваюцца як «міфатворчасць».

## Праверачны тэст

***I. Вызначце правільны адказ.***

1. Згодна з класіфікацыяй ЮНЕСКА археалагічныя даследаванні праводзяцца на падставе
   А) 4 перыядаў
   Б) 5 перыядаў
   В) 6 перыядаў
   Г) 7 перыядаў.
2. Комплекснае даследаванне пачатковага этапу гісторыі Беларусі прадстаўлена ў манаграфіі
   А) К.М.Палікарповіча
   Б) А.Г.Калечыц
   В) У.Ф.Ісаенкі
   Г) М.М.Чарняўскага
3. Выданне «Археалагічных карт» Беларусі распачаў
   А) Л.Д.Побаль
   Б) Э.М.Зайкоўскі
   В) І.І.Арцёменка
   Г) У.Ф.Ісаенка.
4. Культуру шарападобных амфараў даследаваў
   А) М.М.Чарняўскі
   Б) Н.М.Гурына
   В) Ю.У.Кухарэнка
   Г) Л.Д.Побаль.
5. Абагульняльнуюі працу «Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі» выдаў
   А) А.В.Іоў
   Б) М.М.Чарняўскі
   В) Э.М.Зайкоўскі
   Г) І.І.Арцёменка.
6. Л.Д.Побаль даследаваў
   А) нарвенскую культуру
   Б) культуру шнуравой керамікі Палесся
   В) гісторыю старажытных славян
   Г) археалогію Мінска.
7. У акадэмічным выданні «Гісторыя Беларускай ССР» (1972 – 1975 гг.) слаба асветлена эпоха
   А) палеаліта
   Б) мезаліта

В) неаліта
Г) бронзавага веку.

8. Аснову «беларускага племені» У.І.Пічэта звязываў з
А) крывічамі і дрыгавічамі
Б) крывічамі і радзімічамі
В) крывічамі і драўлянамі
Г) радзімічамі і драўлянамі.

9. Прарадзіму славян У.І.Пічэта лакалізаваў
А) на Каўказе
Б) на Балканах
В) ва Усходняй Еўропе
Г) у Падзвінні.

10. А.П.П'янкоў прытрымліваўся тэорыі
А) крывічскага паходжання беларусаў
Б) старажытнарускай народнасці
В) вялікарускай
Г) «балцкага субстрату».

11. У 60 – 80-я гг. у гістарычнай навуцы Беларусі панавала этнагенетычная канцэпцыя
А) М.Я.Грынблата
Б) А.П.П'янкова
В) У.І.Пічэты
Г) С.А.Токарава.

12. Тэрмін «усходнеславянская народнасць» прапанаваў
А) П.У.Церашковіч
Б) Г.І.Каспяровіч
В) М.Ф.Піліпенка
Г) В.К.Бандарчык.

13. Г.В.Штыхаў даследуе археалогію
А) Тураўскай зямлі
Б) Полацкай зямлі
В) Пасожжа
Г) Панямоння.

14. Старажытнае Бярэсце вывучае
А) Э.М.Загарульскі
Б) Ю.А.Заяц
В) А.А.Мяцельскі
Г) П.Ф.Лысенка.

15. Пачынальнікам «гістарычнай археалогіі» з'яўляецца
А) Ф.Д.Гурэвіч
Б) Я.Г.Звяруга
В) М.А.Ткачоў
Г) С.А.Піваварчык.

16. Б.Д.Грэкаў лічыў, што ў IX – XIII стст. ва ўсходніх славян панавалі
А) першабытнаабшчынныя адносіны
Б) рабаўладальніцкія адносіны
В) феадальныя адносіны
Г) капіталістычныя адносіны.

17. В.І.Гарамыкіна даказвала дамінаванне рабаўладальніцкіх адносінаў ва ўсходніх славян у
А) VI – VIII стст.
Б) IX – XI стст.
В) XII – XIII стст.
Г) XIV – XVI стст.

18. А.П.П'янкоў даказваў дамінаванне рабаўладальніцкіх адносінаў ва ўсходніх славян у
А) VI – VIII стст.
Б) IX – XI стст.
В) XII – XIII стст.
Г) XIV – XVI стст.

19. Па праблеме ўтварэння ВКЛ у беларускай савецкай гістарыяграфіі панавала канцэпцыя
А) А.К.Краўцэвіча
Б.А.П.Грыцкевіча
В) М.І.Ермаловіча
Г) У.Ц.Пашуты.

20. У вывучэнні эпохі феадалізму дамінавала
А) сацыяльна-эканамічная праблематыка
Б) праблема ўтварэння ВКЛ
В) праблема фарміравання беларускай народнасці
Г) праблема экспансіі каталіцкай царквы.

21. Канцэпцыю прагрэсіруючага пагаршэння становішча сялян у перыяд феадалізма першым абвергнуў
А) В.І.Мялешка
Б) П.Р.Казлоўскі
В) Д.Л.Пахілевіч
Г) У.Ц.Пашута.

22. З.Ю.Капыскі элементы капіталістычных адносін у эканоміцы Беларусі вызначаў з
А) XVI ст.
Б) XVII ст.
В) XVIII ст.
Г) XIX ст.

23. Першым грунтоўна распрацаваў праблему «вызваленчай барацьбы беларускага народа за ўз'яднанне з Расіяй»
А) А.П.Ігнаценка
Б) С.А.Падокшын

В) А.А.Бірала
Г) Л.С.Абецэдарскі.

24. Узаемасувязь дзекабрыстаў з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам даследаваў
А) А.П.Смірноў
Б) Е.І.Карнейчык
В) П.Н.Альшанскі
Г) Н.М.Махнач.

25. Агароднікаў і бабылёў лічыў самастойнымі катэгорыямі насельніцтва
А) Л.П.Ліпінскі
Б) В.П.Панюціч
В) А.І.Кажушкоў
Г) В.Д.Верашчагін.

26. Працэс фармавання сельскага пралетарыяту Беларусі раскрыў
А) Л.П.Ліпінскі
Б) В.П.Панюціч
В) А.І.Кажушкоў
Г) В.Д.Верашчагін.

27. З канца 50 – 60-х гг. у гістарыяграфіі замацоўваецца ацэнка паўстання 1863 г. як
А) сялянскага
Б) буржуазнага
В) буржуазна-дэмакратычнага
Г) пралетарскага.

28. Рабочы рух у Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. упершыню быў раскрыты ў працах
А) Е.П.Лук'янава
Б) А.І.Воранавай
В) Л.П.Ліпінскага
Г) М.В.Біча.

29. Упершыню гісторыя Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. была комплексна разгледжана
А) Л.П.Ліпінскім
Б) В.П.Панюцічам
В) К.І.Шабуняй
Г) І.М.Ігнаценкам.

30. Упершыню пасля 20-х гг. паказаў уплыў на сялянства беларускіх нацыянальных партыяў
А) І.М.Ігнаценка
Б) У.Р.Івашын
В) П.К.Блашко
Г0 П.А.Селіванаў.

31. Н.В.Каменская вырашальным фактарам пры ўтварэнні БССР лічыла
А) БНР
Б) Лютаўскую рэвалюцыю 1917 г.

В) Кастрычніцкую рэвалюцыю 1917 г.
Г) падзеі Першай сусветнай вайны.

32. У 60 – 80-я гг. гісторыя «сацыялістычнага будаўніцтва» вывучалася на падставе
А) «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)»
Б) Праграмы КПСС
В) канцэпцыі «развітога сацыялізму»
Г) канцэпцыі «камуністычнага будаўніцтва».

33. Першую абагульняльную працу па гісторыі партызанскага руху ў Беларусі выдаў
А) П.П.Ліпіла
Б) Л.Ф.Цанава
В) І.С.Краўчанка
Г) М.В.Зімянін.

***II. Што аб'ядноўвае пералік?***

1. «Кастусь Калиновский в восстании 1863 г.», «Сигизмунд Сераковский», «Восстание 1863 г. в Литве и Белоруссии».

2. «Из истории распространения марксизма в Белоруссии (1883 – 1904 гг.)», «От народничества к марксизму: Распространение марксизма и образование социал-демократических организаций в Белоруссии».

3. «Рабочий класс БССР в послевоенные годы (1945 – 1950 гг.)», «Трудовой подвиг рабочего класса Белорусской ССР (1943 – 1950 гг.)».

# Тэма 11. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі у 90-я гг. ХХ ст. – пачатку ХХІ ст.

## План

1. Гістарычная навука Беларусі на мяжы ХХ – ХХІ стст.

2. Падрыхтоўка гістарычных кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

3. Асноўныя кірункі гістарыяграфіі гісторыі Беларусі.

## Рэкамендаваная літаратура

1. Белазаровіч, В.А. Арганізацыя гістарычнай навукі Беларусі (90-я гг. ХХ – пачатак ХХІ стст.) / В.А.Белазаровіч // Новейшая история (1991 – 2006 гг.): государство, общество, личность: материалы науч. – теорет. конф. (Минск, 29 сент. 2006 г.) / Нац. акад. наук Беларуси. – Мн: Белорус. наука, 2006. – С. 529 – 534.

2. Беларусы: У 8 т. Т. 3: Гісторыя этналагічнага вывучэння. – Мн.: Беларуская навука, 1999. – С. 293 – 311.

3. Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны: Праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства: зб. артыкулаў. – Мн.: Беларуская навука, 1999. – 253 с.

4. Біч, М.В. Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў РБ / М.В.Біч // Беларускі гістарычны часопіс. – 1993. – № 1. – С. 15 – 24.

5. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. – Мн.: БелЭн, 2005. – 688 с.

6. Гісторыя Беларусі: з 1795 г. да вясны 1917 г.: вучэб. дапам. / І.І.Коўкель [і інш.]. – Мн.: Аверсэв, 2001. – С. 28 – 52.

7. Гісторыя Беларусі: У 2 ч. Ч. 2. XIX – XX ст.: курс лекцый. – Мн.: РІВШ БДУ, 2002. – 656 с.

8. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 1. – Мн.: Экаперспектыва, 2000. – С. 12 – 17.

9. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 3. – Мн.: Экаперспектыва, 2004. – С. 7 – 20.

10. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4. – Мн.: Экаперспектыва, 2005. – С. 6 – 29.

11. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т.5. – Мн.: Экаперспектыва, 2006. – С. 19 – 27.

12. Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Т. 2. – Мн.: Бел. навука, 2002. – С. 11 – 26.

13. Каваленя, А.А. Метадалагічныя падыходы асвятлення навейшай гісторыі Рэспублікі Беларусь / А.А.Каваленя // Новейшая история (1991 – 2006 гг.): государство, общество, личность: материалы науч.-теорет. конф. (Минск, 29 сент. 2006 г.) / Нац. акад. наук Беларуси. – Мн: Белорус. наука, 2006. – С. 78 – 84.

14. Калечиц, Е.Г. Достижения белорусской археологии в период новейшей истории Беларуси / Е.Г.Калечиц // Новейшая история (1991 – 2006 гг.): государство, общество, личность: материалы науч.-теорет. конф. (Минск, 29 сент. 2006 г.) / Нац. акад. наук Беларуси. – Мн: Белорус. наука, 2006. – С. 572 – 579.

15. Касцюк, М.П. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі на мяжы стагоддзяў / М.П.Касцюк // Гістарыяграфія гісторыі Беларусі: стан і перспектывы развіцця: матэрыялы навук. канф., прысвеч. 70-годдзю Ін-та гісторыі НАН Беларусі (Мінск, 6 – 7 кастрычніка 1999 г.) / М.П.Касцюк [і інш.]. – Мн.: Дэполіс, 2000. – С. 8 – 14.

16. Касцюк, М.П. Развіццё гістарычнай навукі ў Беларусі з канца 80-х г. XX ст. / М.П.Касцюк // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: матэрыялы рэспуб. навук. канф.: У 4 ч. Ч. 1. / пад рэд. І.П.Крэня, У.І.Навіцкага, І.А.Змітровіча. – Гродна: ГрДУ, 2003. – С. 49 – 58.

17. Киселев, Д.Н. Историография, источниковедение и методы исторических исследований: подготовка кадров историков в Беларуси / Д.Н.Киселев // Подготовка педагогических и научных кадров историков и развитие исторической науки в Беларуси: материалы респ. науч.-практ. конф., 30 сент. 2004 г., Гродно / под ред. Е.А.Ровбы, А.Н.Нечухрина, И.П.Креня. – Гродно: ГрГУ, 2005. – С. 46 – 49.

18. Кіштымаў, А. «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» как зеркало белорусской историографии / А.Кіштымаў // Гістарычны альманах. – 2004. – Т. 10. – С. 29 – 34.

19. Корзенко, Г.В. Научная интеллигенция Беларуси в 1944 – 1990 гг. (подготовка, рост, структура) / Г.В.Корзенко. – Мн., 1995. – 74 с.

20. Корзенко, Г.В. Подготовка научных кадров в Беларуси. Взгляд сквозь годы / Г.В.Корзенко. – Мн., 1988. – 168 с.

21. Корзенко, Г.В. Современная историография науки Беларуси / Г.В.Корзенко // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: матэрыялы рэспуб. навук. канф.: У 4 ч. Ч. 4. / пад рэд. І.П.Крэня, У.І.Навіцкага, І.А.Змітровіча. – Гродна: ГрДУ, 2003. – С. 3 – 8.

22. Корзенко, Г.В. Кадры историков Беларуси: размышляя над статистикой / Г.В.Корзенко, О.В.Сафонова // Подготовка педагогических и научных кадров историков и развитие исторической науки в Беларуси: материа-

лы респ. науч.-практ. конф., 30 сент. 2004 г., Гродно / под ред. Е.А.Ровбы, А.Н.Нечухрина, И.П.Креня. – Гродно: ГрГУ, 2005. – С. 38 – 43.

23. Ліндproperties Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст. / Р.Лінднэр. – СПб.: Неўскі прасцяг, 2003. – С. 301 – 399.

24. Міхнюк А. «Dissertatio» – вучонае сачыненне / А.Міхнюк, У.Міхнюк // Беларуская мінуўшчына. – 1996. – № 5 – 6; 1997. – № 1.

25. Міхнюк, У.М. Доктарскія і кандыдацкія дысертацыі па гістарычных навуках у Рэспубліцы Беларусь (1991 – 2003 гг.): бібліягр. паказ. / У.М.Міхнюк; прад.: А.М.Міхнюк. – Мн.: НАРБ, 2006. – 68 с.

26. Міхнюк, У.М. З кандыдацкай дысертацыяй у навуку ўваходзяць, а з доктарскай – выходзяць / У.М.Міхнюк // Беларуская думка. – 2000. – № 3. – С. 101 – 107.

27. Михнюк, В.Н. От древних фараонов до современных мормонов / В.Н.Михнюк // Беларуская думка. – 2002. – № 6. – С. 100 – 108.

28. Нечухрин, А.Н. Развитие методологической базы исторических исследований в Республике Беларусь / А.Н.Нечухрин // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: матэрыялы рэспуб. навук. канф.: У 4 ч. Ч. 1. / пад рэд. І.П.Крэня, У.І.Навіцкага, І.А.Змітровіча. – Гродна: ГрДУ, 2003. – С. 36 – 48.

29. Панютич, В.П. Историография аграрной истории Беларуси 1861 – 1917 гг.: монография / В.П.Панютич. – Мн.: ГНУ «Институт истории НАН Беларуси», 2005. – 262 с.

30. Петриков, П.Т. Историческая наука / П.Т.Петриков // Наука Беларуси в XX столетии. – Мн.: Бел. наука, 2001. – С. 69 – 91.

31. Побаль, Л.Д. Археалогія / Л.Д.Побаль // Наука Беларуси в XX столетии. – Мн.: Бел. наука, 2001. – С. 49 – 68.

32. Сташкевіч, М.С. Сучасныя даследаванні гісторыі Беларусі: стан, дасягненні, праблемы і перспектывы / М.С.Сташкевіч // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: матэрыялы рэспуб. навук. канф.: У 4 ч. Ч. 1. / пад рэд. І.П.Крэня, У.І.Навіцкага, І.А.Змітровіча. – Гродна: ГрДУ, 2003. – С. 9 – 35.

## Тэматыка рэфератаў

1. Распрацоўка нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі ў першай палове 90-х гг. XX ст.

2. Дасягненні беларускай археалогіі на мяжы XX – XXI стст.

3. Падрыхтоўка абагульняльных працаў па гісторыі Беларусі ў 90-я гг. XX – пачатку XXI ст.

**1. Арганізацыя гістарычнай навукі Беларусі на мяжы XX – XXI стст.** Паварот у развіцці гістарычнай навукі Беларусі адбываецца ў другой палове 80-х гг. пад уплывам «перабудовы». Можна нагадаць петыцыю 28 беларускіх навукоўцаў да М.С.Гарбачова аб прыніжэнні статуса беларускай мовы (15 снежня 1985 г.), ліст-пратэст А.Адамовіча да М.С.Гарбачова аб няпоўным асвятленні наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС у СМІ (1 чэрвеня 1986 г.), утварэнне аб'яднання «Мартыралог Беларусі» (1988 г.) і іншыя падзеі. Палітыка «галоснасці», дэмакратызацыя грамадства карэнным чынам паўплывалі на масавую самасвядомасць, выклікалі зацікаўленасць да т.зв. «белых плямаў» гісторыі, найперш савецкага перыяду. На думку У.М.Міхнюка, адбыўся «крызіс даверу да гістарычнай навукі». У другой палове 80-х гг. новыя падыходы да падзеяў савецкай гісторыі былі вызначаны расійскімі даследчыкамі (Валабуевым, Данілавым, Палікарпавым, Афанасьевым і інш.), што знайшло адлюстраванне ў калектыўных зборніках, напрыклад, «Страницы истории советского общества» (1989 г.). Аўтары пісалі аб дэфармуючым уплыве «сталінізму» і «таталітарызму» на ўсе сферы палітычнага, эканамічнага, культурнага і духоўнага жыцця савецкага грамадства пры захаванні сацыялістычнага ідэалу.

У гістарычнай навуцы БССР пачала нанава фармавацца нацыянальная гістарыяграфічная канцэпцыя, падмацаваная дзейнасцю палітычнай апазіцыі (БНФ) і літаратараў. Выступленні і публікацыі супраць дэнацыяналізацыі і саветызацыі ў БССР выклікалі дыскусію не толькі сярод адукаваных слаёў насельніцтва, але і ў навуковых колах рэспублікі.

М.С.Сташкевіч лічыць, што ў гістарычнай навуцы Беларусі ў канцы 80 – пачатку 90-х гг. склаліся тры падыходы даследчыкаў да праблемы абнаўлення гістарычнай навукі і гістарычнай свядомасці беларусаў. Першы – кансерватыўна-дагматычны – прадугледжваў нежаданне адмовіцца ад ранейшых ідэалагічных прынцыпаў, схільнасць да захавання класавага падыходу. За яго выступалі члены грамадскага аб'яднання «Гістарычныя веды», якое ўзнікла ў 1996 годзе. Другі падыход – нацыянал-патрыятычны – прадугледжваў поўны перагляд гістарыяграфічных канцэпцыяў з пазіцыяў этнацэнтрызму і «нацыяналізацыі гісторыі». Яго прыхільнікамі былі гісторыкі, якія тоесна супрацоўнічалі з палітычнай апазіцыяй. Трэці падыход – крытычны – вызначаўся грунтоўным аналізам папярэдняй савецкай гістарыяграфіі, выкарыстаннем новых метадалагічных падыходаў. Ён быў характэрны для большасці супрацоўнікаў Інстытута гісторыі НАНБ і выкладчыкаў ВНУ.

У першай палове 90-х гг. супрацоўнікі Інстытута гісторыі НАНБ распрацавалі нацыянальную канцэпцыю гісторыі Беларусі. Яе прадставіў у 1993 г. доктар гістарычных навук **М.В.Біч** у праекце «*Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі*». Канцэпцыя прадугледжвала дэпартызацыю і дэідэалагізацыю гістарыяграфіі, выкарыстанне плюралістычнай метадалогіі, прыярытэт прынцыпу аб'ектыўнасці і гуманістычных каштоўнасцяў.

На падставе праекту была распрацавана новая праграма гістарычнай адукацыі ў РБ. З 1993/1994 навучальнага года ў пачатковую школу ўведзены курс «Мая Радзіма – Беларусь», у базавую школу – курс «Гісторыя Беларусі» са старажытных часоў да сучаснасці, аналагічна і ў старэйшыя класы сярэдняй школы, але на праблемным узроўні. У вышэйшай школе замест курса «Гісторыя КПСС» для студэнтаў усіх ВНУ быў уведзены курс «Гісторыя Беларусі».

Для асвятлення ўсеагульнай гісторыі спачатку ўжываліся расійскія падручнікі. А для асвятлення савецкага перыяду айчыннай гісторыі быў падрыхтаваны дапаможнік для настаўнікаў і вучняў старэйшых класаў «*Актуальныя пытанні гісторыі БССР. Савецкі перыяд*» (1991 г.). З мэтай поўнага забеспячэння вучэбнага працэсу беларускія навукоўцы (Г.В.Штыхаў, У.К.Пляшэвіч, П.А.Лойка, М.В.Біч, В.М.Фамін, У.Н.Сідарцоў і інш.) падрыхтавалі вучэбныя дапаможнікі па гісторыі Беларусі для 5–6-га, 7-га, 8-га, 9-га, 10 і 11-га класаў школы. Выданні характарызуюцца высокім навуковым узроўнем, аўтарскім падыходам да праблемаў мінулага Беларусі, пэўнай палітызацыяй гісторыі, недастаткова распрацаваным метадычным апаратам.

Для настаўнікаў, студэнтаў і аматараў гісторыі выйшлі навукова-папулярныя выданні: «*100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі*» (укладальнікі **І.Саверчанка** і **З.Санько**), «*История Беларуси: вопросы и ответы*» (укладальнікі **Г.Галенчанка** і **У.Асмалоўскі**), «*Крыжовы шлях*» (укладальнікі **Л.Лойка** і **Т.Лойка**). Аўтары ў даступнай форме імкнуліся задаволіць патрэбу ў папулярнай літаратуры па асноўных аспектах гісторыі Беларусі. Выданні маюць слабы метадычны аппарат і аўтарскую інтэрпрэтацыю.

Упершыню айчынная гісторыя з нацыянальна-дзяржаўных пазіцыяў была прадстаўлена ў «*Нарысах гісторыі Беларусі*» (1994 – 1995 гг.), падрыхтаваных аўтарскім калектывам Інстытута гісторыі НАНБ пад кіраўніцтвам акадэміка **М.П.Касцюка**.

Распараджэннем Прэзідэнта РБ ад 16 жніўня 1995 г. была створана Дзяржаўная камісія па падрыхтоўцы і выданні падручнікаў і

вучэбных дапаможнікаў па сацыяльна-гуманітарным цыкле. У яе склад увайшлі вядомыя даследчыкі – Я.М.Бабосаў, І.Я.Навуменка, Э.М.Загарульскі, І.В.Аржахоўскі, У.С.Кошалеў, А.І.Падлужны, Г.Я.Галенчанка, П.Ц.Петрыкаў, П.Ф.Дзмітрачкоў. Пад кіраўніцтвам камісіі было падрыхтавана другое пакаленне дапаможнікаў па гісторыі Беларусі (5 – 11 класы), выдадзеных у 1997 – 1998 гг. Сярод аўтараў – Г.В.Штыхаў, Э.М.Загарульскі, В.У.Ракуць, П.А.Лойка, М.В.Біч, У.Н.Сідарцоў, В.М.Фамін, С.В.Паноў, П.Ц.Петрыкаў, В.А.Мілаванаў, Г.Я.Галенчанка, І.А.Аўдзееў і інш.

Для студэнтаў ВНУ, найперш гістарычных факультэтаў, калектыў аўтараў пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук **Я.К.Новіка** (Г.С.Марцуль, Э.А.Забродскі, У.К.Коршук, М.С.Сташкевіч, М.К.Сакалоў і інш.) выдаў у 1998 г. вучэбны дапаможнік па «*Гісторыі Беларусі*». У выніку супрацоўніцтва кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта і Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы пры БДУ ў 2000 – 2002 гг. быў апублікаваны курс лекцыяў (у 2-х частках) па айчыннай гісторыі. З аўтарскіх працаў заслугоўваюць увагі выданні **Г.М.Сагановіча** «*Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст.*» (2001 г.), **З.В.Шыбекі** «*Нарыс гісторыі Беларусі (1795 – 2002)*» (2003 г.), **П.Г.Чыгрынава** «*Очерки истории Беларуси*» (2000 г.).

Вядучым навуковым цэнтрам, які ажыццяўляе і каардынуе гістарычныя даследаванні ў Рэспубліцы Беларусь, з’яўляецца **Інстытут гісторыі НАНБ** (дырэктар – доктар гістарычных навук А.А.Каваленя).

**Аляксандр Аляксандравіч Каваленя** нарадзіўся ў 1946 г. у г.п.Капыль, беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (2000 г.), прафесар. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут, дзе і працаваў. З 1996 г. загадчык кафедры айчыннай і сусветнай гісторыі. З 2005 г. дырэктар Інстытута гісторыі НАНБ. Даследуе пытанні барацьбы беларускага народа на акупаванай тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, маладзёжнага руху ў XX ст.

Структурна Інстытут гісторыі складаецца з дванадцаці аддзелаў, якія вызначаюць прыярытэтныя кірункі ў вывучэнні айчыннай гісторыі.

Супрацоўнікі інстытута праводзяць фундаментальныя даследаванні па пяцігадовых тэмах, якія зацвярджаюцца і фінансуюцца ўрадам краіны. У 1990 – 1995 гг. распрацоўвалася тэма «*Гісторыя станаўлення і развіцця беларускай народнасці і нацыі. Нацыянальныя працэсы і міжнацыянальныя адносіны на сучасным этапе»,* у 1996 – 2000 гг. – «*Нацыянальная гісторыя Беларусі»,* у 2001 – 2005 гг. –

*«Беларусь у сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных працэсах XX стагоддзя».* На 2006 – 2010 гг. запланавана тэма *«Гісторыя беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры».*

З абагульняльных акадэмічных працаў неабходна адзначыць выданне шасцітомавай *«Гісторыі Беларусі»* (у 2000 – 2006 гг. выйшлі чатыры тамы (1-ы, 3-і, 4-ы, 5-ы)), трохтомавай *«Гісторыі сялянства Беларусі»* (у 1997 – 2002 гг. выйшлі два тамы), *«Канфесіі на Беларусі»* (1998 г.) і інш.

Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі» ажыццявіла выданне *«Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»* (у 6-і тамах, 1993 – 2003 гг.), якому няма аналагаў на постсавецкай прасторы. У 1995 г. пад кіраўніцтвам Б.І.Сачанкі выйшлі аднатомныя энцыклапедычныя даведнікі *«Мысліцелі і асветнікі Беларусі. XI – XIX стагоддзі»* і *«Беларусь».* Апошняе выданне стала асновай для *«Беларускай Энцыклапедыі»* у 18 тамах, якія былі надрукаваны ў 1996 – 2004 гадах. У 2005 – 2006 гг. выйшлі двухтомавыя энцыклапедыі *«Вялікае княства Літоўскае»* і *«Беларускі фальклор».*

11 снежня 1991 г. на базе Інстытута гісторыка-палітычных даследаванняў быў арганізаваны **Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы**. Яго супрацоўнікі даследуюць пытанні дакументазнаўства, архівазнаўства, археаграфіі, крыніцазнаўства. У структуры інстытута 5 аддзелаў: дакументазнаўства, архівазнаўства, археаграфіі, аўтаматызацыі архіўных тэхналогіяў, редактарска-выдавецкі. У 1993 г. была праведзена навуковая канферэнцыя «Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфія Беларусі: стан і перспектывы» (г.Мінск), у 1994 г. – «Армія Краёва на тэрыторыі заходняй Беларусі» (г.Гродна), у 1996 г. – «М.М.Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі» (г.Мінск). Таксама супрацоўнікі інстытута падрыхтавалі і выдалі зборнік дакументаў *«Архіўная справа на Беларусі ў дакументах і матэрыялах (1921 – 1995 гг.)»,* шэраг манаграфіяў.

Плённа працуе калектыў **Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора імя К.Крапівы**. Супрацоўнікі гэтай навуковай установы, якая структурна складаецца з 10 аддзелаў (тэатральнага мастацтва, выяўленчага мастацтва, гісторыі культуры, антрапалогіі, славістыкі і інш.), падрыхтавалі *«Гісторыю кінамастацтва Беларусі»* ў 4-х тамах, фундаментальнае выданне *«Беларусы»* ў 8 тамах.

Для арганізацыі святкавання 500-годдзя з дня нараджэння Ф.Скарыны 15 жніўня 1990 г. па распараджэнні ўрада БССР быў

створаны часовы творчы калектыў у складзе АН БССР. Праз год ён атрымаў статус **Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны** (першы дырэктар цэнтра – А.В.Мальдзіс).

**Адам Восіпавіч Мальдзіс** нарадзіўся ў 1932 г. у в.Расолы Астравецкага раёна, беларускі літаратуразнаўца, пісьменнік-публіцыст, грамадскі дзеяч. Доктар філалагічных навук (1987 г.), прафесар (1990 г.). Скончыў БДУ. У 1963 – 1991 гг. працаваў у Інстытуце літаратуры імя Я.Купалы АН Беларусі. З 1991 г. дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны. Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, старшыня камісіі «Вяртанне» Беларускага фонду культуры.

Супрацоўнікі цэнтра даследуюць гісторыю і тэорыю беларускай культуры, працэс фармавання сучаснай беларускай нацыі, ажыццяўляюць збор бібліяграфічнай інфармацыі, распрацоўваюць беларускую навуковую тэрміналогію, займаюцца праблемай рэстытуцыі культурных каштоўнасцяў, вывучаюць беларускую дыяспару. За 1991 – 1997 гг. імі было праведзена 20 навуковых канферэнцыяў, у тым ліку два кангрэсы беларусістаў. Цэнтр падтрымлівае сувязі з 200 замежнымі беларусістамі ў 23 краінах свету.

З гістарычных грамадскіх арганізацыяў у постсавецкі час працягвае сваю дзейнасць *Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры* (заснавана ў 1968 г.), якое мае свае аддзяленні ва ўсіх абласцях рэспублікі. Часопіс, які выдае таварыства, «*Памятники истории и культуры Белоруссии»,* з 1989 г. стаў называцца «*Спадчына».* Артыкулы ў асноўным былі прысвечаны праблеме беларускай гістарычнай і культурнай спадчыны ў еўрапейскім кантэксце, а таксама гісторыі Беларусі, гісторыі філасофскай думкі, гісторыі мастацтва і рэлігіі, гісторыі нацыянальных меншасцяў, беалрускай дыяспары. Друкаваліся гістарычныя крыніцы.

5 лютага 1993 г. на Усебеларускім кангрэсе гісторыкаў у Мінску была створана грамадская навуковая арганізацыя «*Беларуская асацыяцыя гісторыкаў»* (ініцыятары – **М.П.Касцюк**, **У.М.Міхнюк**, **П.А.Шупляк**). Яе першым старшынёй выбралі тагачаснага дэкана гістфака БДУ П.А.Шупляка, якога ў 1997 г. змяніў акадэмік М.П.Касцюк. Пазней на аснове асацыяцыі быў арганізаваны *Нацыянальны камітэт гісторыкаў Рэспублікі Беларусь*. Ён у 1995 г. упершыню прадстаўляў рэспубліку на XVIII Міжнародным кангрэсе гістарычных навук у Манрэалі, а праз два гады – у італьянскім Спалета афіцыйна прыняты ў склад гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі гісторыкаў.

Вясной 1996 г. пры Мінскім доме ветэранаў было арганізавана Беларускае рэспубліканскае аб'яднанне «*Гістарычныя веды»* (ініцыятар – прафесар **А.І.Залескі**) з гісторыкаў, якія стаялі на пазіцыях класавага падыходу і савецкай дзяржаўнасці. Яны заяўлялі, што будуць весці барацьбу супраць «фальсіфікацыі» падзеяў мінулага, «выкарыстоўваючы вопыт сусветнай рэвалюцыі і контррэвалюцыі». Члены гэтага аб'яднання востра крытыкавалі супрацоўнікаў Інстытута гісторыі, рэдакцыю «Беларускай Энцыклапедыі», шэраг пісьменнікаў у «маральна-палітычным заняпадзе», «нацыянал-экстрэмізме» і «прыслужніцтве капіталізму».

З 1996 г. пачала дзейнасць Беларуская асацыяцыя «*Гісторыя і камп'ютар»* пад кіраўніцтвам прафесара БДУ **У.Н.Сідарцова**. Яе мэта – прапаганда і распрацоўка найноўшых метадаў гістарычнага пазнання.

У Рэспубліцы Беларусь пашырылася кола навуковай гістарычнай перыёдыкі. Акрамя часопіса «*Весці НАНБ»* і «*Веснікаў»* універсітэтаў, з 1993 г. пачалося выданне «*Беларускага гістарычнага часопіса»* (гал. рэдактар – **В.Ф.Кушнер**). У часопісе абмяркоўваюцца праблемы айчыннай і сусветнай гісторыі, публікуюцца матэрыялы па методыцы выкладання гісторыі, праграмы, рэцэнзіі. З 1994 г. выходзіць «*Беларускі гістарычны агляд»,* у якім друкуюцца арыгіналы і пераклады дакументаў, рэцэнзіі, артыкулы па пытаннях этнічнай гісторыі, метадалогіі гісторыі. Папулярнасць сярод настаўнікаў школаў і сярэдніх спецыяльных установаў рэспублікі набыў часопіс «*Гісторыя: праблемы выкладання»* (з 1997 г.).

**2. Падрыхтоўка гістарычных кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў Рэспубліцы Беларусь**. Па дадзеных Г.У.Карзенкі, за перыяд з 1991 па 2000 гг. колькасць спецыялістаў-гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі скарацілася ў Беларусі ў 2 разы. Напрыклад, у Інстытуце гісторыі НАНБ агульная колькасць супрацоўнікаў зменшылася са 189 да 125 чалавек, а ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору колькасць кандыдатаў навук – з 24 да 10 чалавек. На думку У.М.Міхнюка, гэты працэс быў абумоўлены спыненнем падрыхтоўкі гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі па спецыяльнасці «Гісторыя КПСС», адсутнасцю гістарычных кафедраў у камерцыйных ВНУ, зніжэннем маральнай і матэрыяльнай матывацыі ў атрыманні вучонай ступені, крызісам гістарычнай навукі, карпаратыўнасцю і іншымі фактарамі.

Як вынік, адбываецца пераход вучоных з Нацыянальнай Акадэміі навук у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Набыла актуаль-

насць праблема старэння кадраў. У 2000 г. сярэдні ўзрост дактароў гістарычных навук складаў 64,3 года, кандыдатаў навук – 48,2 года. Ужо ў 2003 г. больш за 1/3 даследчыкаў мелі ўзрост больш за 50 гадоў, уключаючы 80 % дактароў і 25 % кандыдатаў навук. Гэтая акалічнасць выклікала праблему функцыянавання саветаў па абароне дысертацыяў, якіх у рэспубліцы налічваецца 6: пры Інстытуце гісторыі НАНБ, пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М.Танка, пры Беларускім навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы, пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора НАНБ, пры Беларускім дзяржаўным універсітэце (два).

Асноўнымі формамі падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі з'яўляюцца аспірантура, дактарантура і суіскальніцтва. У 2002 г. колькасць аспірантаў па гістарычным профілі (спецыяльнасці 07.00.02 «айчынная гісторыя», 07.00.03 «усеагульная гісторыя», 07.00.05 «гісторыя міжнародных адносінаў і знешняй палітыкі», 07.00.06 «археалогія», 07.00.07 «этнаграфія», 07.00.09 «гістарыяграфія, крыніцазнаўства і метады гістарычнага даследавання» і інш.) складала 253 чалавекі (4,2 % ад агульнай колькасці). Падрыхтоўка спецыялістаў гістарычнага профілю апярэджвае падрыхтоўку спецыялістаў па сельскагаспадарчых навуках, навуках аб Зямлі, мастацтвазнаўстве, псіхалогіі, сацыялогіі, культуралогіі, але адстае ад эканамічных, біялагічных, філалагічных, юрыдычных, педагагічных і медыцынскіх навук.

У 2002 г. аспірантуру скончылі 53 чалавека, з іх 94 % без абароны дысертацыі. Гэта сведчыць аб нізкай эфектыўнасці аспірантуры. Тое ж характэрна і для дактарантуры.

Што датычыцца дынамікі абароны дысертацыяў, то за 1991 – 2003 гг. было абаронена 323 дысертацыі: 63 доктарскіх і 260 кандыдацкіх. Іх доля ў агульнай колькасці абароненых дысертацыяў у РБ складае 4 %. Найбольш эфектыўным У.М.Міхнюк лічыў перыяд з 1986 па 1995 гг., калі ў рэспубліцы было абаронена 57 доктарскіх і 240 кандыдацкіх працаў.

Палова доктарскіх працаў і 60 % кандыдацкіх прысвечана праблемам айчыннай гісторыі, кожная шостая праца – сусветнай гісторыі. Напрыклад, з 34 доктарскіх дысертацыяў, абароненых у 1991 – 1996 гг., 16 – па гісторыі Беларусі, 7 – па ўсеагульнай гісторыі, 4 – па этнаграфіі, этналогіі і антрапалогіі, 4 – па гістарыяграфіі, крыніцазнаўстве і метадах гістарычнага даследавання, 3 – па археалогіі. З 136 кандыдацкіх дысертацыяў, абароненых у 90-я гг., 88 – па гісторыі Беларусі, 15 – па археалогіі, 14 – па ўсеагульнай гісто-

рыі, 9 – па гістарыяграфіі, крыніцазнаўстве і метадах гістарычнага даследавання, 8 – па этнаграфіі, этналогіі, антрапалогіі, 2 – па гісторыі міжнародных адносінаў і знешняй палітыкі.

**3. Асноўныя кірункі гістарыяграфіі гісторыі Беларусі**. Мяжа XX – XXI стст. трактуецца метадолагамі гісторыі (АМ.Нечухрын) як перыяд крызісу гістарычнай навукі. Пад ім разумеецца не дэградацыя навуковых ведаў, а працэс пераасэнсавання тэарэтычных і метадалагічных асноў навукі. Праблемай для беларускай гістарыяграфіі стала абмежаванасць метадалагічнай падрыхтоўкі гісторыкаў, недастатковае валоданне імі сучаснымі метадамі гістарычных даследаванняў, слабая матэрыяльная база навукі. Назіраецца дыспрапорцыя ў падрыхтоўцы спецыялістаў па асобных галінах навукі і ў праблематыцы навуковых працаў.

Вывучэнне першабытнага грамадства на Беларусі ў канцы XX – пачатку XXI ст. значна ўзбагацілася новымі археалагічнымі даследаваннямі перыядаў каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў. Грунтоўнае даследаванне атрымалі культуры фінальнага палеаліту і мезаліту: лінгбійская культура (**М.М.Чарняўскі**), свідэрская культура (**У.П.Ксяндзоў**), грэнская культура (**В.Ф.Капыцін**), кундская культура (**У.П.Ксяндзоў**), сожская культура (**В.Ф.Капыцін**, **А.Г.Калечыц**), яніславіцкая культура (**М.М.Чарняўскі**), кудлаеўская культура (**Н.Н.Крывальцэвіч**, **В.Я.Кудрашоў**), помнікі нарачанскага тыпу (**У.П.Ксяндзоў**, **М.М.Чарняўскі**).

З наступных археалагічных эпох абагульняльныя працы прадстаўлены па днепра-данецкай культуры (**У.Ф.Ісаенка**), нёманскай культуры (**М.М.Чарняўскі**, **В.Л.Лакіза, У.Ф.Ісаенка**), верхнедняпроўскай культуры (**А.Г.Калечыц**), нарвенскай культуры (**М.М.Чарняўскі**), культуры шарападобных амфараў (**М.М.Чарняўскі**, **В.Я.Кудрашоў**, **В.Л.Ліпніцкая**), помнікам тыпу Бабінавічаў (**Э.М.Зайкоўскі**) перыяду неаліту.

Эпоха бронзавага веку атрымала вывучэнне праз сярэднедняпроўскую культуру (**А.Г.Калечыц**, **М.М.Крывальцэвіч**), палескую шнуравой керамікі культуру (**М.М.Крывальцэвіч**), помнікі са шнуравой керамікай Панямоння (**М.М.Чарняўскі**), паўночна-беларускую культуру (**М.М.Чарняўскі**), культуру тшцінецкую (**В.Л.Лакіза**, **М.М.Крывальцэвіч**), помнікі сосніцкага тыпу (**А.Г.Калечыц**), сярэдняй і позняй бронзы культуру Паазер'я (**Э.М.Зайкоўскі**).

Вывучэнне археалагічных помнікаў жалезнага веку прадстаўлена ў працах **А.А.Егарэйчанка**, **Л.М.Лашанкова**, **С.Я.Расадзіна**, **В.С.Вяргей**, **В.І.Шадыра**, **Г.В.Штыхава**, **А.А.Макушнікава**.

У апошніх навуковых выданнях, асабліва ў чатырохтамовіку «*Археалогія Беларусі*» (выданне завершана ў 2001 г.), праводзіцца думка, што беларусы з'яўляюцца часткай славянскага свету. Супрацоўнікі Інстытута гісторыі НАНБ прытрымліваюцца індаеўрапейскай этнагенетычнай тэорыі (аўтахтоннае насельніцтва > старажытныя індаеўрапейцы > балты > усходнія славяне > беларусы). Праблемай застаецца пачатак фармавання беларускага этнасу, у прыватнасці, фармаванне «старажытнарускай народнасці», або «усходнеславянскай», як гэта прапануе беларускі даследчык **М.Ф.Піліпенка**. Новую дыскусійную манаграфію «*Древнерусская народность*» (1999 г.) выдаў адзін з заснавальнікаў тэорыі балцкага субстрату **В.В.Сядоў**.

Не страчвае актуальнасці тэма Кіеўскай Русі. Існуюць розныя пункты гледжання на храналагічныя рамкі існавання старажытнарускай дзяржавы. Так, Г.В.Штыхаў лічыць, што ўжо ў гады княжання Яраслава Мудрага Кіеўская Русь як адзіная дзяржава фактычна перастала існаваць. У другой палове XI ст., паводле яго сцвярджэння, Кіеўская Русь распалася на часткі, а пазней, у XII ст., на яе месцы ўтварылася пяць зямельных аб'яднанняў, у якіх адбывалася паступовае складванне элементаў рэгіянальнага дзяржаўнага ладу. На Любецкім з'ездзе князёў у 1107 г. юрыдычна была замацавана раздробленасць Русі. Гэты ж факт адзначае і расійскі гісторык А.М.Сахараў (дырэктар Інстытута расійскай гісторыі РАН).

У сувязі з гэтай праблемай узнікае пытанне, што ўяўляла старажытнаруская народнасць? Пазіцыі даследчыкаў зводзяцца да двух палажэнняў: 1) старажытнаруская народнасць была ўстойлівай этнічнай супольнасцю, якая перажыла Кіеўскую Русь і на яе аснове сфармаваліся тры народнасці – беларуская, руская, украінская; 2) старажытнаруская народнасць канчаткова не склалася, яе распад быў вызначаны распадам Кіеўскай Русі ў XII – XIII стст.

Грунтоўную распрацоўку атрымала гісторыя Беларусі ў вучэбным дапаможніку **Э.М.Загарульскага** «*Заходняя Русь. IX – XIII стст.*» (1998 г.). Аўтар прааналізаваў рассяленне ўсходніх славян, працэс узнікнення Старажытнарускай дзяржавы. У выданні грунтоўна падаецца палітычнае, эканамічнае, культурнае развіццё ўсходніх славян, раскрываецца фармаванне старажытнарускай народнасці.

У першай палове 90-х гг. у гістарычнай літаратуры замацавалася пазіцыя, сфармуляваная ў працах В.Ластоўскага, аб беларускім характары Полацкай зямлі ў IX – XIII стст. Першым гэты тэзіс падаў **М.І.Ермаловіч** у кнізе «*Старажытная Беларусь: Полацкі і Навагародскі перыяды»* (1990 г.). Затым канцэпцыя разам з постацямі Рагвалода, Рагнеды, Усяслава Брачыславіча, Еўфрасінні Полацкай увайшла ў навучальныя дапаможнікі. Але ў сярэдзіне 90-х гг. ацэнка мяняецца да вызначэнняў: «адно з феадальных княстваў на тэрыторыі Беларусі» (**А.П.Ігнаценка**), «самастойная дзяржава», «зыходны пункт беларускай дзяржаўнасці» (**Г.В.Штыхаў**).

Галоўным пытаннем беларускай гістарыяграфіі 90-х гг. становіцца гісторыя Беларусі ў кантэксце гісторыі ВКЛ. Аб гэтым сведчыць рост колькасці публікацыяў: у 1990 г. – 47, у 1991 г. – 100, у 1992 г. – 183. Адной з цэнтральных тэмаў навуковай дыскусіі стала праблема ўзнікнення ВКЛ.

Першым, хто ў 80-х – 90-х гг. прапанаваў уласную канцэпцыю ўзнікнення і развіцця ВКЛ як беларускай дзяржавы XIII – XV стст., быў беларускі даследчык **М.І.Ермаловіч**. Пастаноўка пытання была слушнай, і шэраг аспектаў яго працаў заслугоўваюць увагі. Аўтар падмацоўвае сваю пазіцыю вядучай роллю Навагародка, беларускім характарам Вільні і герба «Пагоні», дзяржаўным статусам беларускай мовы. Але канцэпцыя носіць гіпатэтычны характар. Даследчык не выкарыстаў набыткі літоўскай і польскай гістарыяграфіяў. А.Кыштымаў назваў Ермаловіча «нашым апошнім летапісцам», «першым інтуітывістам беларускай гістарыяграфіі».

Да праблемы фармавання ВКЛ звярнуліся беларускія прафесійныя гісторыкі **В.Л.Насевіч** *(«Пачаткі Вялікага княства Літоўскага. Падзеі і асобы»)* (1993 г.), **А.К.Краўцевіч** *(«Стварэнне Вялікага княства Літоўскага»)* (1998 г.). Паводле Краўцэвіча, ВКЛ складалася на аснове літоўска-славянскай супольнасці пры пераважнай палітычнай ролі Беларусі, бо Літва не мела яшчэ сваёй дзяржаўнасці. У святле пазнейшай гісторыі Беларусі і Літвы, у тым ліку Гарадзельскай уніі 1413 г., гэта канцэпцыя патрабуе дадатковага абгрунтавання. Больш рэалістычная выснова выкладзена ў працы Насевіча: на ранніх стадыях фармавання ВКЛ пэўнае палітычнае дамінаванне мела літоўская знаць, у той час як беларускія і украінскія землі адыгрывалі прыярытэтную ролю ў культурным і сацыяльным развіцці дзяржавы.

Па пытаннях фарміравання ВКЛ і яго гісторыі да Люблінскай уніі сярод сучасных літоўскіх і іншых замежных гісторыкаў пануе пункт гледжання, што гэта была літоўская дзяржава, якая паступо-

ва падначаліла землі Беларусі, Украіны і некаторыя княствы Паўночна-Усходняй Русі.

Супярэчліва асвятляецца дзяржаўны лад ВКЛ. У большасці працаў прынята, што да смерці Вітаўта панавала абсалютная манархія. Пасля прывілея 1492 г. стала зацвярджацца саслоўна-прадстаўнічая манархія. Пры гэтым не ўлічваецца дэцэнтралізацыя ВКЛ, што знайшло адлюстраванне ў тэрытарыяльна-адміністрацыйным падзеле, дэмаграфічных і тэрытарыяльных дыспрапорцыях паміж этнічна-літоўскім землямі і «рускім» арэалам ВКЛ. У сучасных даследаваннях звернута ўвага на гэтую акалічнасць, якая рабіла немагчымай рэалізацыю абсалютызму ў яго тыповым еўрапейскім варыянце. Паказальныя ў гэтым плане работы па гісторыі дзяржавы і права Беларусі: **С.А.Падокшына** і **С.Ф.Сокала** «*Дзяржаўнасць і права Беларусі са старажытных часоў да канца XVI стагоддзя»* (2000 г.), **Г.В.Штыхава** «*Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі»* (1992 г.) і **С.В.Тарасава** «*Полацк IX – XVII ст.: Гісторыя і тапаграфія»* (1998 г.) па гісторыі Полацкага княства, **Л.Вайтовіча** «*Удільні князівства Рюриковичів і Гедиміновичів у XII – XVI ст.»* (1996 г.).

Недахопам айчыннай і замежнай гістарыяграфіі можна лічыць недастатковую распрацаванасць «рускай» праграмы вялікіх князёў літоўскіх, асабліва праблему ўдзелу беларускіх земляў ва ўмацаванні і абароне ВКЛ. Слаба даследуюцца змены ва ўнутрыпалітычнай сітуацыі ВКЛ у канцы XV – сярэдзіне XVI ст., узрастанне ўплыву беларуска-ўкраінскай знаці і кансалідацыя шляхты.

Навукова-папулярны і абагульняльны характар па гісторыі дзяржаўнасці Беларусі ад старажытнасці да нашых часоў мае калектыўная праца, падрыхтаваная беларускім згуртаваннем «Бацькаўшчына», «*Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы»* (2001 г.) і манаграфія гродзенскіх даследчыкаў **М.У.Сільчанкі** і **І.А.Басюка** «*Беларуская дзяржаўнасць»* (1997 г.).

Гістарыяграфія знешняй палітыкі ВКЛ – самая нявывучаная частка беларускай гістарычнай навукі. Яе адставанне абумоўлена метадалагічнымі цяжкасцямі, бо Беларусь (у сучасным сэнсе гэтага тэрміна) не праводзіла асобнай знешняй палітыкі, калі не лічыць ВКЛ монаэтнічнай беларускай дзяржавай. У савецкай гістарыяграфіі 30 – 80-х гг. у якасці адзінага цэнтра «збірання» земляў старажытнай Русі звычайна разглядалася толькі Вялікае княства Маскоўскае. З беларускіх гісторыкаў часткова закранулі гэтую тэму **А.Янушкевіч**, **Г.М.Сагановіч**. Інфлянцкай вайне прысвечаны манаграфіі **С.В.Бахрушына**, **В.Д.Каралюка**, **В.Навадворскага** і іншых даследчыкаў.

Істотна разышліся гісторыкі ў ацэнцы дзяржаўных уніяў ВКЛ з Польшчай. У працах польскіх гісторыкаў XIX – першай паловы XX ст. ідэалізавалася палітычная роля Кароны, не даследавалася сацыяльна-эканамічная аснова экспансіі. На думку большасці літоўскіх гісторыкаў, Крэўская ўнія не была актам рэальнага аб'яднання дзвюх дзяржаваў, пытанне аб ролі ўдзельных князёў і баярства ў яе заключэнні застаецца нявысветленым. Польскія гісторыкі, наадварот, падкрэслівалі раўнапраўны саюз дзвюх дзяржаваў і яго пазітыўныя вынікі. У беларускай гістарыяграфіі негатыўны кантэкст уніяў звязваецца з польскай феадальнай і каталіцкай экспансіяй і з унутранай палітыкай правячых колаў ВКЛ.

Недастаткова вывучаны адносіны з Крымскім ханствам. Даследчыкі адзначаюць слабую каардынацыю сумесных дзеянняў Польшчы і ВКЛ супраць паўднёвых суседзяў. Невывучанымі засталіся палітычныя сувязі Вялікага княства Літоўскага з Ноўгарадам і Псковам.

Вывучэнне эвалюцыі сялянства, яго гаспадарчай дзейнасці і працэсу яго запрыгоньвання зроблена **М.Ф.Спірыдонавым** у працы «*Закрепощение крестьянства Беларуси (XV – XVI вв.)*» (1993 г.). Аўтар абапіраўся на актавыя матэрыялы Метрыкі ВКЛ і мясцовых судоў, што дазволіла яму параўнаць юрыдычныя нормы і рэальную сацыяльную практыку, паказаць паступовае зліццё сялянства ў адзінае залежнае саслоў'е. Асобным катэгорыям сялян прысвечаны працы **П.А.Лойкі** і **В.Ф.Голубева**.

Асобная ўвага надаецца гісторыі шляхты, пытанням генеалогіі і геральдыкі беларуска-літоўскіх шляхецкіх родаў у даследаваннях **Н.У.Казлоўскай**, **Н.Сліж**, **А.І.Шаланды**, **Н.Гардзіенка** і інш.

Глыбокае вывучэнне атрымала гісторыя праваслаўнай і ўніяцкай цэркваў. Руская патрыярхія пачала выдаваць шматтомавую «*Праваслаўную энцыклапедыю*». Маскоўскі даследчык **Я.Шчапаў** напісаў курс лекцыяў па ранняй гісторыі праваслаўнай царквы і дзяржавы X – XIII стст. Рэктар Духоўнай акадэміі ў Львове **Б.Гудзак** выпусціў сінтэтычную працу па старажытнай гісторыі ўкраінскай царквы (з уключэннем значных матэрыялаў па гісторыі Беларусі) «*Криза і реформа*» (1999 г.). Гісторыяй праваслаў'я ў Падляшшы займаецца беластоцкі даследчык **А.Мірановіч**.

Павярхоўна вывучана гісторыя ордэнаў у Беларусі. Выключэнне складаюць езуіты, гісторыі якіх прысвечаны даследаванні **Т.Б.Бліновай**.

Эвалюцыю хрысціянскіх цэркваў на адпаведным кантынентальным узроўні вывучаюць супрацоўнікі Інстытута Цэнтральна-

Усходняй Еўропы ў Любліне пад кіраўніцтвам праф. **Е.Клачоўскага**, гістарыяграфічныя аспекты царкоўнай праблематыкі – заходнебеларускага Цэнтра гістарычных даследаванняў, які ўзначальвае прафесар **Д.У.Караў**.

Рэфармацыйная царква, якая заснавалася ў Беларусі у сярэдзіне XVI ст., даследавалася галоўным чынам у XX ст. Розныя аспекты рэфармацыйнага руху асвятляюцца ў публікацыях **І.Саверчанкі**, **Л.Івановай**, **Я.Н.Парэцкага**, **М.Б.Дзмітрыева** і іншых даследчыкаў. Фундаментальнае даследаванне па гісторыі Рэфармацыі ў Літве падрыхтавала літоўскі гісторык **І.Лукшайтэ**. Спрэчнымі застаюцца пытанні аб перадумовах Рэфармацыі ў Беларусі, яе сацыяльным уплыве на сялянства, мяшчан, секулярызацыі царкоўных уладанняў, гісторыі асобных кальвініскіх збораў.

Цікавасць да гісторыі уніяцтва ўзрасла ў 90-я гг. XX ст. у сувязі з 400-гадовым юбілеем II-га Берасцейскага сабора. Новыя працы па гісторыі уніяцкай царквы ў Беларусі прадставілі **С.В.Марозава** «*Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596 – 1839 гады)»* (2001 г.), **С.А.Падокшын** «*Унія, дзяржаўнасць, культура (Філасофска-гістарычны аналіз)»* (1998 г.). Важнымі праблемамі застаюцца перадумовы Берасцейскай уніі, уплыў палітычных і царкоўных тэндэнцыяў на дзейнасць уніяцкай царквы, стаўленне каталіцкай іерархіі, правячых колаў Рэчы Паспалітай, розных пластоў беларускага насельніцтва да уніятаў.

У апошнія дзесяцігоддзі пашырыліся даследаванні па гісторыі нехрысціянскіх канфесіяў ў Беларусі, з'явіліся публікацыі па гісторыі татарскай абшчыны і мусульманства (**І.Собчака**, **П.Бараўскага**, **С.Думіна**).

Відавочныя дасягненні беларускіх даследчыкаў у вывучэнні матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі XIV – XV стст. і XVI стагоддзя. Першы этап не паддаецца больш шырокаму аналізу з прычыны недахопу пісьмовых і наратыўных крыніцаў. У сінтэтычнай працы **Л.М.Лыча** і **У.І.Навіцкага** «*Гісторыя культуры Беларусі»* (1996 г.) гісторыя культуры Беларусі XIII – XVI стст. асвятляецца ў яе сувязях з развіццём культурна-гістарычных працэсаў у ВКЛ, асаблівасцямі фармаванныя беларускай народнасці і дзяржаўным статусам старабеларускай мовы.

Відавочны дыспрапорцыі ў развіцці айчыннай і замежнай гістарыяграфіі. Гісторыкі Беларусі распрацоўваюць асобныя праблемы культурнага, моўнага, этнічнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця ВКЛ. Дзяржаўна-прававыя інстытуты ВКЛ, сацыяльна-палітычныя рухі, знешнепалітычныя і царкоўна-канфесійныя ад-

носіны Беларусі з Расіяй – тэмы рускай гістарыяграфіі канца XIX – XX стст. Але найбольшымі дасягненнямі адзначана польская гістарыяграфія. Асноўным недахопам замежнай гістарыяграфіі можна лічыць яе замкнёнасць у сваёй нацыянальнай гісторыі. На думку Г.Я.Галенчанкі, развіццю беларускай сярэдневяковай гістарыяграфіі перашкаджае адсутнасць моцных гістарыяграфічных традыцыяў, нераспрацаванасць шэрагу напрамкаў айчыннай гісторыі, распаўсюджанасць гістарычных стэрэатыпаў у навукова-папулярнай літаратуры і вучэбных дапаможніках.

У 90-я гады пачаўся паступовы адыход ад палітызаваных ацэнак праблемаў гісторыі грамадска-палітычнага жыцця Беларусі ў XIX ст. Менавіта гэтым вызначаецца манаграфія **В.В.Шведа** «*Паміж Польшчай і Расіяй: грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772 – 1863 г.)*». У ёй на падставе новых крыніцаў асвятляецца механізм далучэння земляў Беларусі да Расійскай імперыі, раскрыта палітыка адносна іх расійскага ўрада, паказаны роля і значэнне розных палітычных і рэвалюцыйных арганізацыяў, у тым ліку і масонскіх ложаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, у польскім і рускім апазіцыйных рухах. У гэтым кантэксце разглядаюцца польская і руская плыні грамадска-палітычнага жыцця на землях Беларусі, а таксама зараджэнне беларускага нацыянальнага руху.

Паралельна актывізуецца вывучэнне праблемы дваранства ў Беларусі. Па гісторыі гэтага саслоўя першай паловы XIX ст. былі абаронены кандыдацкія дысертацыі **Г.Н.Туміловіч**, **С.Л.Лугаўцовай**, **С.У.Амелькай**. Гістарычную ролю і месца дваранства ў сацыяльна-эканамічным жыцці Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст. прасачыў **А.П.Жытко** ў манаграфіі «*Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861 – 1914 гг.*» (2003 г.).

Вывучэнне праблемаў грамадска-палітычнага жыцця ў XIX – пачатку XX ст. стымулявала разгортванне даследаванняў па гісторыі палітычных партыяў, якія праявілі актыўнасць у Беларусі ў ходзе трох расійскіх рэвалюцыяў. Гэтыя праблемы занялі важнае месца ў беларускай гістарыяграфіі. У выдадзеных навуковых працах яскрава пераважалі мясцовыя сюжэты. **П.І.Брыгадзін**, напрыклад, даследаваў дзейнасць эсэраўскіх арганізацыяў на тэрыторыі Беларусі з канца XIX ст. да лютага 1917 г. у манаграфіі «*Эсэры ў Беларусі (канец XIX – люты 1917 г.)*» (1994 г.). У ёй даследуецца гісторыя ўзнікнення і дзейнасць мясцовых арганізацый партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў у беларускіх губернях ад яе зараджэння да лютага 1917 г.

Адным з цэнтраў, дзе ствaралася ПСР, была Беларусь. Эсэраўскія арганізацыі мелі моцныя пазіцыі ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, Мінску, Бабруйску, Пінску і іншых гарадах і мястэчках. Камітэты і групы ПСР ствараліся ў асноўным у гарадах і складаліся са служачых, рамеснікаў, моладзі. Па нацыянальным складзе ў пераважнай большасці гэта была яўрэйская моладзь.

Дзейнасць эсэраўскіх арганізацыяў у Беларусі П.І.Брыгадзін падзяляе на некалькі этапаў. Першым быў перыяд станаўлення, які завяршыўся стварэннем у 1904 г. Паўночна-Заходняга абласнога камітэта. Партыя эсэраў, зацвердзіўшы на І-м з’ездзе сваю праграму, прыняла актыўны ўдзел у рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. У Беларусі эсэраўскія арганізацыі значна павялічылі сваю колькасць, сфармавалі 12 мясцовых камітэтаў. З другой паловы 1907 г. пачаўся спад у дзейнасці ПСР. Адыход інтэлігенцыі ад партыйнай работы, масавыя арышты кіраўнікоў, разгром падпольных друкарняў, сенсацыйнае раскрыццё Е.Азэфа аслабілі ўплыў эсэраў у беларускіх губернях. Аднак іх арганізацыі існавалі да Першай сусветнай вайны.

Гэтай праблематыцы прысвечаны і працы **А.А.Вараб'ёва**. Ён даследаваў дзейнасць эсэраўскіх арганізацыяў у Беларусі ў перыяд рэвалюцыі 1917 г. і грамадзянскай вайны. У яго публікацыях на грунтоўнай дакументальнай аснове раскрыты палітычная стратэгія і тактыка партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў у Беларусі ў 1917 – 1920 гг., асэнсоўваецца яе палітыка ў аграрным і нацыянальным пытаннях. У арыгінальных працах **М.М.Забаўскага**, **У.С.Пуціка** раскрыты важныя аспекты тактыкі мясцовых арганізацый (кадэтаў), рэвалюцыйна-дэмакратычных партыяў (сацыял-дэмакратаў, эсэраў, БСГ) пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў у Дзяржаўную думу. Актуальныя аспекты гэтай тэмы атрымалі асвятленне ў публікацыях **М.С.Сташкевіча**. У іх дадзена новая інтэрпрэтацыя стратэгіі і тактыкі палітычных партыяў у рэвалюцыі 1905 – 1907 гг., раскрыта іх палітычная эвалюцыя ў пасляваенны перыяд.

Праблемы палітычнай стратэгіі і тактыкі кадэтаў і партыяў урадавага блока (Рускай манархічнай партыі, Усерасійскага саюза зямельных уласнікаў, Саюза рускага народа) у Беларусі на этапе дэмакратычнай рэвалюцыі атрымалі асвятленне ў працах **К.М.Бандарэнкі** і **Д.С.Лаўрыновіча**. У публікацыях **У.У.Шардыкі** прааналізавана ў шырокім кантэксце рэвалюцыйных падзеяў тактыка кадэтаў, беларускіх палітычных, ліберальных і рэвалюцыйна-дэмакратычных партый (меншавікоў, эсэраў, БСГ) у вырашэнні аграрнага пытання ў Беларусі ў 1905 – 1918 гг.

У першай палове 90-х гг. беларускія гісторыкі падрыхтавалі абагульняльныя працы па гісторыі палітычных партыяў Беларусі: «*Политические партии и политическая оппозиция*», «*Октябрь 1917 г. и судьбы политической оппозиции*» (у 3 ч.), «*Становление и крушение однопартийной системы в СССР. 1917 – 1991*», «*Палітычныя партыі Беларусі*». У іх раскрыты працэс нараджэння і развіцця палітычных партыяў беларускай нацыянальнай арыентацыі, прааналізаваны ў шырокім гістарычным кантэксце палітычная стратэгія і тактыка як агульнарасійскіх, так і нацыянальных партыяў у Беларусі ў перыяд трох расійскіх рэвалюцыяў і гады грамадзянскай вайны, паказаны станаўленне і крушэнне аднапартыйнай сістэмы ў БССР.

Традыцыю вывучэння рабочага руху ў Беларусі ў перыяд паміж дзвюма рэвалюцыямі (1907 – 1917 гг.) працягваў **Э.М.Савіцкі** ў манаграфіі «*Рабочы рух у Беларусі (чэрвень 1907 – люты 1917 г.)*» (1995 г.). У ёй асвятляюцца змены ў эканоміцы Беларусі, прасочваецца ўплыў Першай сусветнай вайны на стан прамысловасці, сельскай гаспадаркі, гандлю і фінансаў, аналізуецца прафесійны, сацыяльны і нацыянальны склад, колькасць, канцэнтрацыя рабочых на буйных прадпрыемствах, умовы іх працы і быту, палітыка-прававы статус і ўзровень заработнай платы. У манаграфіі ўпершыню ў беларускай гістарыяграфіі даецца поўная статыстыка стачачнага руху, складзеная на аснове архіўных і іншых матэрыялаў, у большасці сваёй раней невядомых, вызначана колькасць удзельнікаў стачак, паказаны іх характар, выніковасць, геаграфія, формы, маштаб, выяўлены месца і роля палітычных партыяў, прафсаюзаў і іншых арганізацыяў у рабочым руху.

Важны ўклад у распрацоўку праблемы развіцця культуры Беларусі ўнесла **С.Я.Куль-Сяльверстава**. Гэтай праблематыцы яна прысвяціла манаграфію «*Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур. Фарміраванне культуры новага часу на беларускіх землях (другая палова XVII – 1820 гады)*» (2000 г.).

Відавочна пэўнае аслабленне цікавасці даследчыкаў да сацыяльна-эканамічнай гісторыі XIX – пачатку XX ст. З апошніх працаў вылучаецца манаграфія **У.А.Сосны** «*Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.*» (2000 г.). Аўтар раскрыў палітыку царскіх уладаў па фармаванні саслоўна-групавога складу земляробчага насельніцтва Беларусі, прааналізаваў сацыяльна-прававы статус асноўных і спецыяльных катэгорыяў сялянства. Таксама выданне ўтрымлівае каштоўны матэрыял аб канфіскацыі і падараваннях маёнткаў, секулярызацыі царкоўных уладанняў у канцы XVIII – першай палове XIX ст.

У 1996 г. была апублікавана манаграфія **В.П.Панюціча** «*Наёмная праца ў сельскай гаспадарцы Беларусі. 1861–1914 гг.»*. Аўтар упершыню ў гістарычна-эканамічнай літаратуры ўсебакова разглядзеў перадумовы і крыніцы фармавання сельскагаспадарчых наёмных рабочых у Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст., іх колькасць, асноўныя катэгорыі, умовы найму, працы і побыту. Як падкрэсліваецца ў манаграфіі, асноўнымі сацыяльна-эканамічнымі перадумовамі фармавання сельскагаспадарчага пралетарыята з'явіліся рост гандлёвага капіталістычнага земляробства, разлажэнне сялянства як класа – саслоўя феадальнага грамадства, шырокае выкарыстанне наёмнай працы памешчыкамі і заможнай вярхушкай сялянства. Асноўнымі крыніцамі фармавання наёмных сельскагаспадарчых рабочых у Беларусі, як і ў Расіі ў цэлым, пасля адмены прыгоннага права былі дарэформенныя батракі, іх сем'і, былыя дваровыя людзі, збяднеўшыя сяляне, беззямельная і малазямельная шляхта, прышлыя сельскагаспадарчыя рабочыя, каланісты. Яны складалі ядро пастаянных наёмных сельскагаспадарчых рабочых. Іх фарміраванне ішло на працягу ўсёй эпохі капіталізму. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Беларусі ўжо налічвалася больш за 200 тыс. пастаянных наёмных сельскагаспадарчых рабочых. Для выканання работ, якія патрабавалі вялікай колькасці рабочых рук (касьба, пасадка і ўборка бульбы, малацьба і г.д.), памешчыкі і заможныя сяляне наймалі «срокавых» (сезонных) і асабліва падзённых рабочых, колькасць якіх намнога перавышала колькасць пастаянных наёмных рабочых – батракоў. Наём іх насіў больш прагрэсіўны, капіталістычны характар.

Складаным пытанням структурнай перабудовы сельскай гаспадаркі Беларусі пад уплывам аграрнага крызісу канца XIX ст. прысвечана манаграфія **Х.Ю.Бейлькіна** «*Аграрный кризис и структурная реконструкция сельского хозяйства Беларуси»* (2001 г.).

У манаграфіі **З.В.Шыбекі**, выдадзенай у 1997 г., прасочваецца дынаміка колькасці насельніцтва гарадоў і мястэчак Беларусі ў 60-я гг. XIX – пачатку XX ст., паказана роля ў гэтым працэсе натуральнага і механічнага прыросту. Аўтар прааналізаваў нацыянальны склад гараджан, вызначыў месца і ролю сялянства ў структуры горада.

Новы для беларускай гістарыяграфіі погляд на падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі раскрыў **І.М.Ігнаценка** ў даследаванні «*Октябрьская революция и самоопределение Беларуси»* (1992 г.). Гісторык лічыў Кастрычніцкую рэвалюцыю другім этапам буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, распачатай у лютым 1917 г. На яго думку,

а яна супадае з пазіцыяй У.І.Леніна, падзеі Кастрычніка 1917 г. насілі рабоча-сялянскі характар, а не сацыялістычны. Аўтар на падставе вынікаў выбараў ва Устаноўчы сход пераглядзеў астаўленне мясцовага «тутэйшага насельніцтва» да партыі бальшавікоў.

З падыходам І.М.Ігнаценкі пагадзілася большая частка даследчыкаў (**М.Я.Сямёнчык**, **У.Н.Сідарцоў**, **У.У.Мяньқоўскі** і інш.). Яны прызналі, што вынікам Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. было афармленне новага грамадскага і эканамічнага ладу. Гэта была сацыяльная рэвалюцыя, якая аказала ўплыў на ўсё XX ст.

Найбольш актуальнай на мяжы стагоддзяў стала праблема беларускай дзяржаўнасці ў XX ст. Ёй прысвечаны праца **В.А.Круталевіча** «*На путях национального самоопределения: БНР – БССР – РБ*» (1995 г.). Станаўленне беларускай дзяржаўнасці і фармаванне тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі разглядзелі **П.І.Брыгадзін** і **У.Ф.Ладысеў** у кнізе «*Паміж Усходам і Захадам. Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917 – 1939 гг.)*» (2003 г.). Паглыблена, з аналізам практыкі заходнерусізму ва ўмовах рэвалюцыі 1917 г. распрацавана праблема самавызначэння Беларусі **С.С.Рудовічам** у манаграфіі «*Час выбару. Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе*» (2001 г.). Грамадска-палітычнае жыццё Беларусі ў перыяд Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыяў праз дзейнасць партыяў, рухаў, арганізацый даследаваў **М.Я.Сямёнчык**. **У.Я.Казлякоў** у манаграфіі «*Национальный вопрос и неонароднические партии. Начало XX в. – конец 20-х гг. (На материалах России, Беларуси, Украины)*» (2001 г.) прааналізаваў праграмы і тактыку неанародніцкіх партыяў. У кнізе **А.В.Ціхамірава** «*Беларусь у сістэме міжнародных адносін перыяду пасляваеннага ўладкавання Еўропы і савецка-польскай вайны (1918 – 1921 гг.)*» (1999 г.) раскрываецца ўплыў міжнароднага фактара на фармаванне беларускай дзяржаўнасці.

Шырокая панарама гісторыі Беларусі 20 – 30-х гг. прадстаўлена ў працах **Р.П.Платонава** «*Палітыкі, ідэі і лёсы. Грамадзянскія пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэолага-палітычнага дыктату ў Беларусі 20-х – 30-х гадоў*» (1996 г.), «*Лёсы. Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця Беларусі 20-х – 30-х гадоў*» (1998 г.), «*Беларусь у міжваенны перыяд. Старонкі палітычнай гісторыі ў святле архіўных крыніц*» (2001 г.). У своеасаблівай манеры, спалучаючы навуковае даследаванне з публікацыяй невядомых архіўных крыніцаў, аўтар прадставіў карціну палітычнага жыцця рэспублікі ў 20 – 30-я гг. XX ст.

Няма адзінага падыходу да пытання грамадскага ладу 30 – пачатку 50-х гг. XX ст. У гістарычнай літаратуры замацаваўся тэрмін «дзяржаўны сацыялізм» (**Я.М.Бабосаў**, **Р.П.Платонаў**, **А.М.Сідарэвіч**, **М.С.Сташкевіч**). Абагульняльны характар мае манаграфія акадэміка **М.П.Касцюка** «*Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі*» (2000 г.). У ей аўтар вызначыў характар палітычнай сістэмы ў БССР як бальшавіцкі і таталітарны, падмацаваўшы свае высновы архіўным і дакументальным матэрыялам. Фармаванню таталітарызма ў Беларусі прысвяціла сваю кнігу **Т.С.Процька** «*Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917 – 1941 гг.)*» (2002 г.).

Неабаснаваным рэпрэсіям на Беларусі прысвяцілі свае працы **У.І.Адамушка** «*Палітычныя рэпрэсіі 20 – 50-х гадоў на Беларусі*» (1994 г.), **А.П.Урублеўскі**, **Т.С.Процька** «*Из истории репрессий против белорусского крестьянства. 1929 – 1934*».

З канца XX ст. адбываюцца пэўныя зрухі ў гістарыяграфіі гісторыі Заходняй Беларусі. Яны звязаны з увядзеннем у навуковы зварот новых архіўных крыніцаў і новых метадалагічных падыходаў. Гісторыя камуністычнага руху Заходняй Беларусі знайшла адлюстраванне ў даследаваннях **У.Ф.Ладысева**, беларускай асветы – **А.Вабішчэвіча**, клуба «Змаганне» – **В.Даніловіча**, рабочага руху – **М.Б.Сямёнчыка**, уніяцкай царквы – **А.Свірыда** і інш. Узрасла ўвага да гісторыі заходніх абласцей БССР у 1939 – 1941 гг., што знайшло адлюстраванне ў працах **А.Вялікага**, **В.А.Белазаровіча**, **Э.С.Ярмусіка** і іншых даследчыкаў.

У 1990-я г. у беларускай гістарыяграфіі актуальнай заставалася тэма Другой сусветнай вайны. Галоўная ўвага надавалася праблемам, якія не атрымалі дастатковага асвятлення ў гістарычнай навуцы. Гэта тычылася асобных пытанняў функцыянавання акупацыйнага рэжыму, эканамічнай палітыкі нацысцкай Германіі ў Беларусі, праблемаў калабарацыянізму, укладу беларускай інтэлігенцыі ў супрацьстаянне фашызму, ролі праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёла ў народным жыцці ў гады вайны, трагедыя мірнага насельніцтва, у тым ліку і яўрэйскага, дзейнасці на тэрыторыі Беларусі польскай Арміі Краёвай.

Зусім неапраўдана была спынена праца па далейшым вывучэнні розных формаў супраціву мірнага насельніцтва нямецка-фашысцкім акупантам, асабліва антыфашысцкіх арганізацыяў у заходніх рэгіёнах Беларусі, баявой дзейнасці партызанскіх фармаванняў, асаблівасцяў партызанскай стратэгіі і тактыкі, пытанняў стратаў Беларусі ў вайне.

У апошнія гады актывізавалася вывучэнне сацыяльна-эканамічных і палітычных працэсаў, якія адбываліся ў Рэспубліцы Беларусь пасля распаду СССР. Аднак у апублікаваных даследаваннях, найперш у вучэбнай літаратуры, аўтары толькі рэгіструюць асноўныя падзеі палітычнага ладу Рэспублікі Беларусь 90-х гг., не выяўляючы ключавыя тэндэнцыі яе эканамічнага, палітычнага і сацыяльнага развіцця.

## Праверачны тэст

***I. Вызначце правільны адказ.***

1. У другой палове 80-х гг. узрасла цікавасць даследчыкаў да
   А) перыяду Полацкага і Тураўскага княстваў
   Б) перыяду ВКЛ
   В) перыяду Расійскай імперыі
   Г) савецкага перыяду.
2. Прынцып этнацэнтрызму быў характэрны для гісторыкаў
   А) кансерватыўна-дагматычнага кірунку
   Б) нацыянал-патрыятычнага кірунку
   В) крытычнага кірунку.
3. Палітыка «галоснасці» выклікала, па словах У.М.Міхнюка
   А) «крызіс даверу да гістарычнай навукі»
   Б) «нацыяналізацыю гісторыі»
   В) дэпартызацыю гісторыі».
4. Дзяржаўная камісія па падрыхтоўцы і выданні падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па сацыяльна-гуманітарным цыкле ў РБ пачала дзейнічаць з
   А) 1993 г.
   Б) 1994 г.
   В) 1995 г.
   Г) 1996 г.
5. Структурна Інстытут гісторыі НАНБ складаецца з
   А) камісіяў
   Б) аддзелаў
   В) сектараў
   Г) кафедраў.
6. У 2001 – 2005 гг. Інстытут гісторыі НАНБ распрацоўваў тэму
   А) «Гісторыя станаўлення і развіцця беларускай народнасці і нацыі»
   Б) «Нацыянальная гісторыя Беларусі»
   В) «Беларусь у сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных працэсах ХХ стагоддзя»
   Г) «Гісторыя беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры».

7. «Гісторыю кінамастацтва Беларусі» у 4-х тамах падрыхтавалі супрацоўнікі

А) Інстытута гісторыі НАНБ

Б) Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ

В) Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы

Г) Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны.

8. Праблемай рэстытуцыі культурных каштоўнасцяў займаюцца супрацоўнікі

А) Інстытута гісторыі НАНБ

Б) Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора НАНБ

В) Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы

Г) Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны.

9. Беларуская асацыяцыя «Гісторыя і камп'ютар» была арганізавана ў

А) 1993 г.

Б) 1994 г.

В) 1995 г.

Г) 1996 г.

10. Асноўнымі формамі падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў РБ з'яўляюцца

А) аспірантура

Б) дактарантура

В) магістратура

Г) суіскальніцтва.

11. Даследаваннем археалагічных культураў фінальнага палеаліту і мезаліту займаюцца

А) У.П.Ксяндзоў

Б) А.А.Егарэйчанка

В) В.І.Шадыра

Г) М.М.Чарняўскі.

12. Аўтар вучбнага дапаможніка «Заходняя Русь. IX – XIII стст.»

А) В.В.Сядоў

Б) Г.В.Штыхаў

В) Э.М.Загарульскі

Г) М.Ф.Пілiпенка.

13. На думку В.Л.Насевіча, беларускія і ўкраінскія землі адыгрывалі прыярытэтную ролю ў

А) эканамічным развіцці ВКЛ

Б) культурным развіцці ВКЛ

В) палітычным развіцці ВКЛ

Г) сацыяльным развіцці ВКЛ.

14. Праблему запрыгоньвання сялян Беларусі даследаваў

А) П.А.Лойка

Б) М.Ф.Спірыдонаў

В) В.Ф.Голубеў
Г) І.Ф.Кітурка.

15. Гісторыю праваслаўя ў Падляшшы даследуе
    А) Т.Б.Блінова
    Б) Б.Гудзак
    В) С.А.Падокшын
    Г) А.Міpановіч.
16. Дзейнасць масонскіх ложаў у Беларусі даследуе
    А) В.В.Швед
    Б) С.П.Лугаўцова
    В) Г.Н.Туміловіч
    Г) А.Анішчанка.
17. Дзейнасць партыі кадэтаў у Беларусі раскрыта ў працах
    А) П.І.Брыгадзіна
    Б) М.М.Забаўскага
    В) М.С.Сташкевіча
    Г) У.С.Пуціка.
18. Працэс урбанізацыі ў Беларусі даследуе
    А) Х.Ю.Бейлькін
    Б) М.Я.Сямёнчык
    В) З.В.Шыбека
    Г) В.П.Панюціч.

***II. Вызначце дату.***

1. Арганізацыя «Беларускай асацыяцыі гісторыкаў».
2. Арганізацыя Беларускага рэспубліканскага аб’яднання «Гістарычныя веды».
3. Пачатак выдання «Беларускага гістарычнага часопіса».
4. Пачатак выдання часопіса «Гісторыя: праблемы выкладання».

# Тэма 12. Гістарыяграфія беларускай эміграцыі

**План**

1. Гістарыяграфія беларускай эміграцыі ў даваенны перыяд.

2. Гістарыяграфія беларускай эміграцыі ў пасляваенны перыяд.

**Рэкамендаваная літаратура**


1. Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны: Праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства: Зб. артыкулаў. – Мн.: Беларуская навука, 1999. – 253 с.

2. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. – Мн.: БелЭн, 2005. – 688 с.

3. Запруднік, Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях / Я.Запруднік; навук рэд. У.Арлоў. – Мн.: Бел.Фонд Сораса: ВЦ «Бацькаўшчына», 1996. – 326 с.

4. Калубовіч, А. Крокі гісторыі: Дасьледаванні, артыкулы, успаміны / А.Калубовіч. – Мн.: Маст. літ., 1993. – 288 с.

5. Калубовіч, А. На крыжовай дарозе: Успаміны / А.Калубовіч. – Кліўленд, 1986. – 252 с.

6. Кіпель, В. Беларусы ў ЗША / В.Кіпель. – Мн.: Беларусь, 1993. – 352 с.

7. Ліндпэр, Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX – XX ст. / Р.Ліндпэр. – СПб.: Неўскі прасцяг, 2003. – С. 301 – 399.

8. Міpановіч, Я. Найноўшая гісторыя Беларусі / Я.Міpановіч; навук. рэд. А.Краўцэвіч. – Спб.: Неўскі прасцяг, 2003. – 243 с.

9. Найдзюк, Я. Беларусь учора і сяньня: Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі / Я.Найдзюк, І.Касяк; пасьл. А.Грыцкевіча. – Мн.: Навука і тэхніка, 1993. – 414 с.

10. Станкевіч, Я. Савецкае хвальшаванне гісторыі Беларусі / Я.Станкевіч. – Мюнхен, 1956. – 185 с.

11. Сяргеева, Г. Гісторыя Беларусі ў даследаваннях беларускай эміграцыі / Г.Сяргеева // ЭГБ: У 6 т. – Мн.: БелЭн, 1996. – Т. 3. – С. 28 – 31.

12. Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй / Ю.Туронак. – Мн.: Беларусь, 1993. – 236 с.

13. Урбан, П. У святле гістарычных фактаў (У сувязі з брашурай Л.С.Абэцэдарскага) / П.Урбан. – Мюнхен, Нью-Ёрк, 1972. – 132 с.

**Тэматыка рэфератаў**

1. Гістарычныя навукова-папулярныя выданні беларускай эміграцыі 20 – 30-х гг. XX ст.

2. Праблема этнагенезу беларусаў у беларускай замежнай гістарыяграфіі.

3. Праблема беларускай дзяржаўнасці ў беларускай замежнай гістарыяграфіі.

4. Абагульняльныя працы па гісторыі Беларусі ў беларускай замежнай гістарыяграфіі.

**1. Гістарыяграфія беларускай эміграцыі ў даваенны перыяд**. Зараджэнне нацыянальнай гістарыяграфічнай канцэпцыі на эміграцыі звязана з узнікненнем палітычнай плыні пасля паўстанняў 1794 г., 1830 – 1831 гг., 1863 – 1864 гг., а станаўленне – з арганізаваным беларускім замежным рухам пасля ўстанаўлення ў Беларусі Савецкай улады і пасля Другой сусветнай вайны.

Дзеячы беларускага нацыянальнага руху пачатку XX ст., стваральнікі БНР П.Крэчэўскі, В.Ластоўскі, А.Луцкевіч, А.Цвікевіч, К.Езавітаў і інш. сталі першымі ў замежжы даследчыкамі і папулярызатарамі айчыннай гісторыі. У 1918 – 1919 гг.выйшлі невялікія па аб'ёму нарысы: у Вільні – **В.Ластоўскага** «*Калісь і цяпер: гісторыка-грамадзянскія нарысы»,* у Парыжы – **А.Луцкевіча** (А.Навіны), у Берліне – **А.Цвікевіча** «*Беларусь: Палітычны нарыс»,* у Коўне – **Я.Варонкі** «*Белорусский вопрос к моменту Версальской мирной конференции: Историко-политический очерк».*

У гэтых нарысах вытокі беларускай дзяржаўнасці пачыналіся з Полацкага і Турава-Пінскага княстваў, з ВКЛ, якое пасля Люблінскай уніі 1569 г. трактавалася аўтаномнай часткай Рэчы Паспалітай. Страту дзяржаўнасці аўтары звязвалі з інкарпарацыяй беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст. У гэтых публікацыях прасочваецца станаўленне беларускай нацыянальнай ідэі ў найноўшы час «як праграмы сённяшняга дня», заяўляецца пра імкненне беларусаў да пабудовы сваёй дзяржаўнасці. Нарысы пазнаёмілі еўрапейскія палітычныя колы з гісторыяй і тагачасным становішчам беларускага народа. Гэта была спроба пастаноўкі беларускага нацыянальнага пытання перад краінамі Антанты ў сувязі з правядзеннем Парыжскай мірнай канферэнцыі.

Шмат увагі надавалася ўзаемадачыненням з Польшчай, якая заняла ў 1919 г. значную частку тэрыторыі Беларусі. **К.Езавітаў** у працы «*Белорусы и поляки: Документы и факты из истории окку-*

*пации Белоруссии поляками в 1918 и 1919 гг.»* (Коўна, 1919 г.), **Я.Варонка** ў працы «*Беларускі рух ад 1917 да 1920 году»* (Коўна, 1920 г.), **А.Цвікевіч** у працы «*Адраджэнне Беларусі і Польшча»* (Берлін, 1921 г.) рэзка крытыкавалі «каланіяльную» палітыку польскага ўрада.

Заснаванне ў 20-я гг. XX ст. замежных арганізацыяў у Чэхаславакіі, Літве, Латвіі, ЗША, беларускага перыядычнага друку і кнігавыдання (Беларускае выдавецкае таварыства ў Латвіі, Беларускі выдавецкі цэнтр у Літве, выдавецтва імя Ф.Скарыны ў Празе), дзейнасць Беларускага навукова-краязнаўчага таварыства ў Латвіі, Беларускае навуковае таварыства ў Рызе садзейнічалі з'яўленню новых навуковых і публіцыстычных працаў па асобных аспектах гісторыі Беларусі. Шматлікія артыкулы пра гістарычныя падзеі на беларускіх землях змяшчаліся на старонках беларускіх грамадска-палітычных і навукова-гістарычных выданняў «*На чужыне», «Голас беларуса»* (Рыга), «*Крывіч», «Часопісь», «Пагоня», «Беларускі сцяг»* (Коўна) і інш.

У 1922 г. часопіс «Беларускі сцяг» надрукаваў манаграфічную працу **А.І.Цвікевіча** «*Погляд П.Бяссонава на беларускую справу»,* прысвечаную развіццю беларускай грамадскай думкі. Яе ідэі знайшлі адлюстраванне ў кнізе «*Западнорусізм»,* напісанай А.І.Цвікевічам пасля вяртання ў БССР і канфіскаванай уладамі ў 1929 г., адразу пасля выхаду з друку.

У другой палове 20-х гг. традыцыйны для нацыянальных дзеячаў на эміграцыі погляд на гісторыю Беларусі прадоўжылі публікацыі **К.Езавітава** і **П.Крэчэўскага**. Апошні з'яўляецца аўтарам нарыса «геаграфічнага, гістарычнага і эканамічнага доследу» Беларусі «ў мінулым і сучасным», надрукаванага ў зборніку «*Замежная Беларусь»* (Прага, 1926 г.). У гэтым зборніку змешчана першая публікацыя дакументаў і матэрыялаў па гісторыі беларускай эміграцыі, якая, на думку Крэчэўскага, «заўжды была рэхам народа і правадніком яго думак і імкненняў у шырокі свет агульначалавечага яднання». З артыкулаў зборніка можна адзначыць наступныя: «*Скарына і незалежнасць»,* «*Узаемаадносіны беларуска-літоўскага княства з Чэхіяй 500 гадоў назад»,* «*Гісторыя беларускай кнігі», «Беларусь у мінулым і сучасным».*

**К.Езавітаву** належаць першыя даследаванні па гісторыі беларусаў у Латвіі і Літве, у якіх вызначана іх колькасць, асвятляюцца сацыяльнае становішча, цяжкасці нацыянальна-культурнага і грамадскага развіцця. У 1932 г. выйшлі кнігі «*Беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына» у Латвіі»* і «*Беларусы ў Літве».*

Агульнай характарыстыцы беларускага нацыянальнага руху прысвечана праца **Я.Варонкі** «*Беларускі рух ад 1917 да 1920 г.»,* выдадзеная ў Каўнасе ў 1920 г. Аўтар даволі стрымана ставіцца да падзеяў 1917 года. Ні Лютаўская рэвалюцыя, якую аўтар называе «петраграцкім пераваротам», ні Кастрычніцкая рэвалюцыя нічога ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі не змянілі: «Новая расейская дэмакрацыя, апрануўшыся ў чырвоную плахту, так званага, пролетарыяту, хварэла на тую ж імпэрыялістычную хваробу, на якую хварэлі і сам Раманаў і яго насьледнік Керэнскі». Нягледзячы на той факт, што, «народ лявеў ва ўсіх пытаньнях», у той жа час «для беларусоў – бальшэвізм быў незразумелым зьявішчэм». Даследчык не можа даравацъ бальшавікам ні зачынення беларускіх вайсковых арганізацыяў, ні разгону Усерасійскага і Беларускага (Першы Усебеларускі з'езд) Устаноўчых сходаў, ні Брэсцкага мірнага дагавору. На канкрэтных прыкладах аўтар даказвае, што беларускі нацыянальны рух быў самастойным і не меў знешняй падтрымкі: «...і з аднаго, і з другога боку беларускую справу залічылі то да польскай, то да маскоўскай інтрыгі, але фактычна ні адна з гэтых старон справе не дапамагала». Разам з тым для яго працы характэрна ідэалізацыя перыяду нямецкай акупацыі. Ён станоўча гаворыць аб падтрымцы беларускай справы з боку немцаў, асабліва ў 1916 г. Але не задаецца пытаннем – «чаму?». Не бачыць ён жадання немцаў выкарыстаць беларускі нацыянальны рух супраць польскага адраджэння, замоўчвае стаўленне акупацыйных уладаў да беларускага насельніцтва, не ўспамінае факт ганебнай удзячнай тэлеграмы да кайзера Вільгельма II.

Літва з'яўлялася найбуйнейшым цэнтрам беларускай палітычнай эміграцыі. Старшыня Беларускага выдавецкага цэнтра ў Каўнасе В.Ластоўскі на працягу 1923 – 1926 гг. выдаваў там часопіс «*Крывіч».* На яго старонках, а таксама ў прадмове да «*Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка»* (Коўна, 1924 г.) ён выклаў сваю тэорыю паходжання беларусаў, т.зв. «крывічску»: «на зарані гістарычных часоў наш народ выступае, як з'арганізаванае цэлае нацыянальнае і палітычнае пад найменнем крывічы». Не страціла навуковай каштоўнасці яго фундаментальная бібліяграфічная праца «*Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі»* (Коўна, 1926 г.). Аўтар зрабіў агляд больш за 1000 рукапісных кніг, граматаў, стадрукаў за перыяд з X па XVIII стст.

У 1921 г. на старонках газеты «*Беларускі звон»,* якая выдавалася ў Вільні, друкаваліся артыкулы **М.Краўцова** – члена Беларуская Вайсковай Камісіі, аўтара вершаў да гімна БНР. У адным з іх – «*Усебеларускі з'езд 1917 г.»* аўтар апісаў падзеі, якія адбывалі-

ся напярэдадні правядзення Першага Усебеларускага з'езда. Ён адмоўна ставіцца да яго разгону, але не ў прыклад іншым даследчыкам не перакладвае адказнасць толькі на бальшавікоў. Аўтар адзначае, што на адкрыцці з'езда сяляне разам з іншымі дэлегатамі ўзнёсла пелі «беларускую марсельезу» і віталі кожнае новае прынятае рашэнне. Калі ўварваліся бальшавікі і пачалі арыштоўваць удзельнікаў з'езда, то дэлегаты з халопскай пакорнасцю малілі і прасілі, каб іх выпусцілі, «бо яны, быццам ня ведаюць, што тут робіцца...». Тым самым аўтар паставіў немалаважнае пытанне аб нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Наступны артыкул «*Рада Беларускае Народнае Рэспублікі»,* надрукаваны ў тым жа годзе і ў той жа газеце, з'яўляецца тэматычным працягам першага. Тут аўтар аналізуе перыяд паміж Брэсцкімі і Рыжскімі перамовамі. Між іншым ён даследуе такія пытанні, як абвяшчэнне БНР, дзейнасць Беларускай Вайсковай Камісіі, белапольская акупацыя. Ён працягвае думку Цвікевіча аб пераемнасці паміж Першым Усебеларускім з'ездам і абвяшчэннем БНР.

Рыжскаму міру прысвечаны артыкул **К.Дуж-Душэўскага** «*Беларусь і Рыжскі мір».* Паводле аўтара, гэты падзел адмоўна адбіўся на працэсах нацыянальнай кансалідацыі Беларусі. Ён засяроджвае ўвагу на пытаннях узаемаадносін Беларусі і Польшчы, з аднаго боку, і Беларусі і Расіі, з другога. Аўтар прыходзіць да высновы, што Рыжскім мірам не задаволены ні Польшча, ні Расія. З гэтай прычыны ён выказвае спадзяванне, што ў хуткім часе вынікі міру будуць перагледжаны.

У гістарычным нарысе маёра **А.Ружанцава** «*Беларускія войскі ў Літве 1918 – 1920 гг.»,* выдадзеным у Коўне ў 1921 г., фармаванне беларускага войска разглядаецца ў кантэксце барацьбы за аднаўленне Канфедэрацыі ВКЛ, у якую, акрамя літоўскіх, павінны былі ўвайсці і беларускія землі (Віленшчына, Гродзеншчына і Беласточчына).

**2. Гістарыяграфія беларускай эміграцыі ў пасляваенны перыяд**. Традыцыі нацыянальнай гістарыяграфіі пасля Другой сусветнай вайны працягвалі навукоўцы, адны з якіх апынуліся на эміграцыі ў якасці сталых даследчыкаў (**А.Адамовіч**, **Я.Станкевіч**, **І.Любачка**, **А.Калубовіч**, **В.Жук-Грышкевіч**), другія атрымалі гістарычна-філасофкую ці іншую адукацыю на Захадзе і потым звярнуліся да вывучэння гісторыі і культуры Беларусі (**Я.Запруднік**, **В.Кіпель**, **Я.Садоўскі** і інш.). Ужо ў першыя пасляваенныя гады прысутнасць за мяжой творчай інтэлігенцыі абумовіла з'яўленне публіцыстычных матэрыялаў у беларускамоўных выданнях –

«*Шляхам жыцця», «Бацькаўшчына»* (Мюнхен), «*Зьніч»* (Рым), «*Беларус на чужыне»* (Лондан), «*Пагоня»* (Зальцбург) і інш.

У 1947, 1950 і 1953 гг. у Парыжы выйшлі гісторыка-эканамічныя даведнікі, падрыхтаваныя **Л.Гарошкам** (П.Кавалём), са звесткамі па гісторыі Беларусі і дыяспары, сабраныя як з замежных, так і з савецкіх выданняў.

Першым зародкам арганізацыйнага афармлення эмігранцкай беларускай гістарыяграфіі стала *Крывіцкае навуковае таварыства Ф.Скарыны*, створанае ў 1947 г. у Рэгенсбургу (Германія) у лагеры для перамешчаных асобаў. Яно наладзіла выпуск навукова-літаратурнага часопіса «*Веда».*

У 50-я гг. XX ст. сфармаваліся нацыянальныя навукова-культурныя цэнтры ў ЗША, Вялікабрытаніі і іншых краінах. У 1951 г. у Нью-Йорку быў заснаваны *Беларускі інстытут навукі і мастацтва* (БІНІМ), які выдае гадавік «*Запісы».* Таксама была створана *Фундацыя імя П.Крэчэўскага* для паглыблення вывучэння беларускай спадчыны. Важным цэнтрам аб’яднання навуковых сілаў у Заходняй Еўропе ў 50-я гг. стаў г.Мюнхен, дзе працавалі беларускае выдавецтва «*Бацькаўшчына»* і самастойны аддзел БІНІМа (1955 – 1966 гг.).

З сярэдзіны 50-х гг. беларускія даследчыкі ўдзельнічалі ў рабоце *Інстытута па вывучэнні СССР*, створанага ў 1950 г. у Мюнхене савецкімі эмігрантамі. **С.Станкевіч**, **В.Жук-Грышкевіч**, **А.Адамовіч**, **Ч.Сіповіч** прымалі ўдзел у вызначэнні кірункаў яго працы, забеспячэнні выданняў беларускай праблематыкай. На беларускай, англійскай, нямецкай мовах былі апублікаваны «*Беларускія зборнікі».*

Арганізаванае ў 1954 г. у Лондане *Англа-Беларускае таварыства* садзейнічала з’яўленню новых даследчыкаў-беларусазнаўцаў у Вялікабрытаніі. У 1965 – 1988 гг. таварыства выдавала часопіс «*Jornal of Byelorussian Studies»,* дзе друкаваліся артыкулы па гісторыі, палітыцы, іншых праблемах развіцця беларускага народа.

Даследчыкі за мяжой абгрунтоўвалі канцэпцыю гістарычнага развіцця Беларусі, якая карэнным чынам адрознівалася ад той, што існавала ў беларускай савецкай гістарыяграфіі. Яны звярталіся да тых пытанняў, якія ў БССР, на іх думку, «скажаліся»: вытокі дзяржаўнасці беларускага народа, нацыянальны характар ВКЛ, нацыянальны рух і нацыянальнае адраджэнне ў XX ст., прычыны антысавецкіх узброеных выступленняў на Беларусі, масавыя рэпрэсіі ў 30-я гг. і іх вынікі, працэсы дэнацыяналізацыі пасля Другой сусветнай вайны і інш.

Даследаванні **А.Адамовіча** (Н.Недасека) (Мюнхен, 1954 г., 1956 г.) і **С.Крушынскага** (Нью-Йорк, 1953 г.) раскрывалі ролю партыі бальшавікоў у рэвалюцыйных падзеях у Беларусі, іх негатыўнае стаўленне да нацыянальнага руху і шляхі ўстанаўлення «кантролю над Беларуссю». У працах **С.Станкевіча** (1955 г.), **Г.Паланевіча** (1960 г.), **П.Урбана** (1957 г.) на прыкладзе БССР крытыкавалася савецкая нацыянальная палітыка, **С.Кабыша** (1958 г.) (усе выдадзены ў Мюнхене) – палітыка рэпрэсіяў, «генацыду ў БССР». Мюнхенскія публікацыі **А.Адамовіча** і **П.Урбана** асвятлялі праявы «нацыянальнага супрацыву» ў Савецкай Беларусі, апазіцыі таталітарнай сістэме. **Я.Станкевіч** (Нью-Йорк, 1953 г.), **В.Тумаш** (Р.Максімовіч) (Нью-Йорк, 1954 г.), **В.Пануцэвіч** (М.Волаціч) (Мюнхен, 1953 г.) звярнуліся да праблемы, якую абыходзіла беларуская савецкая гістарыяграфія, да гістарычна-этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі, падзелу яе на часткі і ўключэнне ў склад суседніх краінаў.

У эміграцкіх выданнях 50-х гг. дадзены грунтоўны аналіз савецкай палітыкі ў БССР у галіне навукі, школьнай адукацыі (**Г.Паланевіч** пад псеўд. Г.Няміга), беларускай мовы (**Я.Станкевіч**), літаратуры (**А.Адамовіч**), мастацтва (**М.Куліковіч-Шчаглоў**, **У.Сядура**).

Агульныя тэндэнцыі развіцця нацыянальнай культуры разгледжаны ў працы **У.Сядуры** (У.Глыбінны) «*Доля беларускай культуры пад Саветамі*» (Мюнхен, 1958 г.). Даследчыкі характарызавалі 20-я гг. як перыяд уздыму нацыянальнай асветы, навукі, іншых галінаў культуры, а 30-я гг. – часам іх заняпаду, «савета-камунізацыі з русіфікацыяй», крытыкавалі палітыку русіфікацыі, заахвочвання нацыянальнага нігілізму ў пасляваенны час.

10-я кніга «*Беларускага зборніка*» (Мюнхен, 1959 г.), прысвечаная 40-годдзю ўтварэння БССР, ахоплівае ўсе асноўныя падзеі на Беларусі за гэты перыяд. На падставе шырокага крытычнага выкарыстання савецкіх выданняў (зборнікаў дакументаў і навуковых працаў) у ёй разглядаюцца праблемы, звязаныя з утварэннем БССР (**П.Урбан**), палітыкай КПБ (**Я.Запруднік**), аналізуюцца працэсы ў галіне культуры (**С.Станкевіч**, **Г.Няміга**), прамысловасці (**Г.Ведэнскі**), сельскай гаспадаркі (**С.Кабыш**).

Аўтары насуперак савецкай гістарыяграфіі не пагаджаліся з тэзісам аб тым, што беларускі народ упершыню стварыў сваю дзяржаўнасць пры Савецкай уладзе, зрабілі выснову аб «чужым» паходжанні бальшавізму на Беларусі, завяршэнні канфлікту 20-х гг. «паміж беларускімі нацыянал-камуністамі і расейскімі бальшавікамі» масавымі рэпрэсіямі ў 30-я гг., ператварэнні КПБ у правін-

цыяльную арганізацыю КПСС. Яны адзначалі стан «нацыянальнага прыгнечання і дыскрымінацыі ў СССР», поўнага ігнаравання беларускіх нацыянальных інтарэсаў, фармальнасць суверэнітэту БССР ва ўсіх сферах (сацыяльна-эканамічнай, культурнай, грамадска-палітычнай, міжнароднай).

У 50 – 80-я гг. альтэрнатыўны пункт погляду (тагачаснаму ў БССР) на старажытную гісторыю Беларусі, ВКЛ даецца ў працах **Я.Станкевіча**: «*З гісторыі Беларусі*» (Мюнхен, 1958 г.), «*Аканне – балцкая рыса ў мове вялікалітоўскай*» (Мюнхен, 1971 г.), «*Нарысы з гісторыі ВялікаЛітвы-Беларусі*» (Нью-Джэрсі, 1978 г.); **В.Пануцэвіча** «*З гісторыі Беларусі або Крывіччыны-Літвы*» (Чыкага, 1965 г.) і інш.

Абапіраючыся на даследаванні беларускіх гісторыкаў, асабліва 20-х гг., аналізуючы тапаніміку, мову, археалагічныя матэрыялы, яны не пагаджаліся з тэзісам аб чыста славянскім паходжанні беларусаў, падкрэслівалі наяўнасць балцкага элемента ў гэтым працэсе, адмаўлялі існаванне адзінай старажытнарускай народнасці. Аўтары не прымалі сцвярджэнне савецкіх гісторыкаў аб адсутнасці беларускай дзяржаўнасці ў сярэднявеччы, уніяцкую царкву вызначалі як народную, лічылі, што ў выніку далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі яны ператварыліся ў гаспадарчую калонію, пагоршылася сацыяльна-эканамічнае становішча насельніцтва, узмацнілася яго русіфікацыя.

У эміграцыі з'явіліся публікацыі пра Еўфрасінню Полацкую (**Л.Гарошка**), Кірылу Тураўскага (**П.Татарыновіч**, **А.Надсон**), Лявонція Зізанія (**А.Надсон**), Льва Сапегу (**В.Тумаш**), Рыгора Хадкевіча (**Л.Гарошка**), Кастуся Каліноўскага (**П.Урбан**, **Я.Запруднік**).

Гісторыі праваслаўнай царквы на Беларусі прысвечаны даследаванні **І.Касяка** (Нью-Йорк, 1956 г.), **А.Караля** (Нью-Брансуік, 1956 г.), **А.Мартаса** (Буэнас-Айрэс, 1966 г.), **М.Лапіцкага** (Саўт-Рывер, 1978 г.). Замежныя скарыназнаўцы **В.Тумаш** (С.Брага), **Я.Садоўскі**, **А.Надсон** значна ўзбагацілі навуковую літаратуру новымі фактамі і дакументамі пра жыццё і дзейнасць усходнеславянскага першадрукара, асветніка, вучонага. Прысвечаныя яму працы, а таксама апрацаваны **В.Тумашам** бібліяграфічны даведнік «*Пяць стагоддзяў Скарыніяны*» (Нью-Йорк, 1989 г.) сталі сур'ёзнымі крыніцамі для даследчыкаў, стымулявалі вывучэнне спадчыны Ф.Скарыны ў БССР.

Значны ўклад у гістарыяграфію палітычнай барацьбы вакол беларускага пытання ў Дзяржаўнай думе зрабіў **Я.Запруднік**, які ў

1969 г. у Нью-Йоркскім універсітэце абараніў па гэтай праблеме доктарскую дысертацыю. Вытокі беларускіх пячатак даследаваў **М.Белямук** (Кліўленд, 1986 г.). Па праблемах картаграфіі Беларусі і яе гістарычнай назвы былі апублікаваны ў 60 – 70-я гг. ў Лондане на англійскай мове працы **В.Астроўскага**.

Першы сістэматызаваны агляд гісторыі Беларусі савецкага перыяду зроблены ў кнізе **І.Любачкі** «*Беларусь пад савецкім праўленнем. 1917 –1957*» (1972 г., на англійскай мове). У навукова-папулярны зборнік «*Беларусь. Гістарычны нарыс*» (Лондан, 1989 г.) увайшлі перакладзеная на англійскую мову праца **Я.Найдзюка** «*Беларусь учора і сёння*» (Мн., 1943 г.) і раздзелы **І.Касяка**, што ахопліваюць падзеі ў Беларусі да сярэдзіны 70-х гг.

**Я.Станкевіч**, **В.Пануцэвіч**, **А.Адамовіч**, **А.Жук-Грышкевіч**, **Я.Запруднік** і іншыя асвятлялі гісторыю беларускага нацыянальнага адраджэння ў XX ст., разглядалі абвяшчэнне БНР як акт аднаўлення беларускай дзяржаўнасці, падкрэслівалі ўплыў нацыянальнага руху на ўтварэнне БССР, якая ўзнікла ў процівагу БНР. Гэтая праблематыка знайшла адлюстраванне ў кнізе «*Беларуская дзяржаўнасць. Хрэстаматыя і бібліяграфія*», якая выйшла ў 1988 г. на англійскай мове ў Нью-Йорку пад рэдакцыяй **В. і З.Кіпеляў**.

Гісторыю ўтварэння і станаўлення БССР праз трагічныя лёсы нацыянальных дзеячаў, што стаялі каля яе вытокаў, раскрыў **А.Калубовіч** (Кліўленд, 1982 г., 1985 г.). Публікацыі **Л.Гарошкі** (П.Каваля) і **В.Кіпеля** асвятляюць узброены супраціў Савецкай уладзе, паказваюць Слуцкае паўстанне 1920 г. як змаганне за ідэалы БНР. Нацыянальнай палітыцы ў БССР у 20 – 30-я гг. прысвечаны матэрыялы **М.Іванова** ў польскіх навуковых выданнях. Іншы, чым у Савецкай Беларусі, падыход да асвятлення ролі вядомых нацыянальных дзеячаўназіраецца ў артыкулах 50 – 60-х гг. **А.Саковіч** і **А.Калубовіча** пра М.В.Доўнар-Запольскага, публікацыях **С.Станкевіча** і **Я.Запрудніка** пра Янку Купалу і Якуба Коласа (Нью-Йорк, 1982 г.), **А.Адамовіча** пра І.Луцкевіча (Нью-Йорк, 1983 г.), **Ю.Туронка** пра В.Іваноўскага (Варшава, 1992 г.).

У працы **Ю.Туронка** «*Беларусь пад нямецкай акупацыяй*» (Вроцлаў; Варшава, 1989 г.; 2-е выд. 1993 г.) па-новаму асэнсоўваюцца гістарычныя падзеі на Беларусі. Аўтар прыходзіць да высноваў, «незалежных ад папярэдніх супярэчлівых ацэнак сведак і пасляваенных інтэрпрэтатараў падзей».

У 60-я г. пачалі даследаванне гісторыі Беласточчыны вучоныя-беларусы ў Польшчы. Артыкулы **Ю.Туронка**, **А.Баршчэўскага**, **У.Юзвюка**, **М.Гайдука**, **В.Нікіцюка** і іншых даследчыкаў з'явіліся ў беластоцкіх навуковых зборніках (1961 г., 1964 г., 1974 г., 1982 г.),

беларускіх календарах, штотыднёвіку «Ніва». **М.Кандрацюк** асвятляе гісторыю краю праз балцкія элементы ў яго тапаніміцы (Беласток; Вроцлаў, 1974 г.; Вроцлаў, 1985 г.). Грунтоўна разгледжаны становішча і роля праваслаўнай царквы на Беласточчыне ў працах **Я.Міrecords** і **Р.Сасны**, жыццё суродзічаў у Польшчы ў кнізе **А.Садоўскага** «*Народы вялікія і малыя: Беларусы ў Польшчы»* (Кракаў, 1991 г.) і **Я.Мірановіча** «*Беларусы ў Польшчы, 1944 – 1949»* (Варшава, 1993 г.). Зборнік публіцыстыкі **С.Яновіча** «*Беларусь, Беларусь»* (Варшава, 1987 г.) раскрывае складанасць беларуска-польскіх узаемаадносінаў.

Пачынальнікамі даследаванняў гісторыі беларускай эміграцыі з'яўляюцца **А.Калубовіч** (ад ранніх перасяленняў да Другой сусветнай вайны), **А.Латышонак** (беларуская заходняя дыяспара найноўшага часу), **В.Кіпель** (нацыянальная дыяспара ў ЗША), **Я.Садоўскі** (у Канадзе), **А.Вініцкі**, **С.Коўш**, **М.Шыла** (у Германіі), **К.Мерляк** (у Аргенціне). На эміграцыі зроблены спробы асэнсавання гісторыі Беларусі ў больш шырокім кантэксце, выкарыстання пры яе даследаванні найноўшых падыходаў. У публікацыях 50-х гг. прафесара **Л.Акіншэвіча** разглядаліся «цывілізацыйныя асновы беларускага гістарычнага працэсу», гісторыя цывілізацыі Усходняй Еўропы паводле канцэпцыі А.Тойнбі. **Я.Запруднік** звярнуўся да праблемаў тэрміналогіі і перыядызацыі беларускай гісторыі.

У 60 – 80-я гг. з'явіліся гістарыяграфічныя працы: кніга-водгук **Я.Станкевіча** «*Савецкае хвальшаванне гісторыі Беларусі»* (1956 г.) на выхад у 1954 г. у Мінску «Гісторыі Беларускай ССР», твор **П.Урбана** «*У святле гістарычных фактаў»* (1972 г.), у якой абвяргаецца версія гісторыі Беларусі, выкладзеная Л.С.Абэцэдарскім у брашуры «У святле неабвержных фактаў» (1969 г.), агляд **А.Калубовіча** стану вывучэння помнікаў беларускага пісьменства X – XVIII стст. (1978 г.), публікацыі пра вывучэнне гісторыі Беларусі ў БССР (**П.Урбан**), спробы адыходу ад афіцыйнай інтэрпрэтацыі ў беларускай гістарыяграфіі (**Ч.Будзька**), гістарычная канцэпцыя В.Ластоўскага (**В.Тумаш**), вытокі беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі (**В.Сянькевіч**), савецкай канцэпцыі гісторыі ВКЛ (**Я.Запруднік**).

Аналізуючы стан гістарычных даследаванняў у БССР, яны вызначылі два этапы: адносна незалежнае ад цэнтра развіццё да 1930 г. «нацыянальнай па свайму духу і сэнсу гістарыяграфіі», а ў далейшым – адсутнасць у беларускіх савецкіх вучоных уласнага погляду на гісторыю беларускага народа, разгляд яе «толькі ў рамках вялікадзяржаўных канцэпцый Масквы», мэтай якіх было «зліць гісторыю народаў СССР з патокам гісторыі рускага народа».

Даследчыкі ў эміграцыі рэзка крытыкавалі гісторыкаў БССР за залежнасць іх пазіцыяў ад партыйна-дзяржаўных установак, аднабаковы ідэалагізаваны паказ гістарычнага працэсу, абмежаванасць даследаванняў межамі БССР (пакідаючы па-за ўвагай іншыя этнічныя тэрыторыі), падкрэслівалі адлучанасць навукоўцаў ад навейшых методык і падыходаў замежных гісторыкаў, іх высноваў па глыбінных з'явах развіцця чалавецтва і народаў. Разам з тым эмігранцкія аўтары адзначалі пэўныя змены ў тлумачэнні савецкай гістарыяграфіяй асобных перыядаў і падзей, падкрэслівалі спробы адыходу ад «спрошчвання беларускай мінуўшчыны», элементы новага асэнсавання нацыянальнага характару ВКЛ, аднаўлення «нацыянальных рыс беларускай культуры XV – XIX – пачатку XX ст.».

Многія працы эмігранцкіх вучоных нясуць адбітак прапагандысцкага характару, не пазбеглі палітычнай перадузятасці, уплыву «халоднай вайны», жорсткай канфрантацыі дзвюх грамадскіх сістэмаў, складаных узаемаадносінаў Беларусі з эміграцыяй, іх ізаляванасці адна ад адной. Ёсць разыходжанні ў поглядах на асобныя з'явы і падзеі ў гісторыі беларусаў.

Каштоўнымі крыніцамі па праблемах, што замоўчваліся ці абыходзіліся савецкай гістарыяграфіяй, сталі апублікаваныя на эміграцыі дакументы па найноўшай гісторыі Беларусі: «*Кніга ахвяраў бальшавізму»* (1950 г.); *стэнаграма «Другога Усебеларускага кангрэса»* (1954 г.); *дакументы і матэрыялы па БНР* (газета «Бацькаўшчына» за 1949 – 1950 гг.; «Дзень незалежнасці Беларусі, 25 сакавіка 1918 г.» 1958 г.; «Запісы», кн. 13, 1975 г.; «Дзень незалежнасці Беларусі ў 200-ю гадавіну адкрыцця Амерыкі» 1977 г.); *матэрыялы да Першага Усебеларускага з'езда 1917 г.* («Запісы», кн. 2 – 4, 1963 – 1966 гг.); зборніка дакументаў «*За дзяржаўную незалежнасць Беларусі»* (1960 г.). На англійскай і беларускай мовах былі выдадзены дакументы пра паўстанне 1863 г. на Беларусі (1980 г.), на польскай – зборнік дакументаў пра становішча праваслаўнай царквы на Беласточчыне ў 1928 – 1939 гг. (1991 г.). Кніга дакументаў і матэрыялаў пра жыццё і дзейнасць вядомага на эміграцыі грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча А.Жук-Грышкевіча выйшла ў 1993 г. у Таронта. Цікавасць для даследчыкаў уяўляюць часопіс «*Летапіс беларускай эміграцыі»* (Бруклін), кніга ўспамінаў пра Янку Купалу і Якуба Коласа (1982 г.), публікацыі мемуараў Я.Германовіча, Я.Калубовіча, В.Рагулі, Я.Станкевіча, А.Жук-Грышкевіча, Л.Галяка, Я.Гладкага, Я.Пятроўскага, М.Сяднёва, Я.Малецкага, П.Сыча і інш.

У 60 – 80-я гг. заахвочванню даследаванняў па гісторыі Беларусі і публікацыі іх вынікаў садзейнічалі новыя нацыянальныя культурна-навуковыя цэнтры – філіял *Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Таронта* (Канада), *Беларуская бібліятэка і музей імя Ф.Скарыны ў Лондане* (Вялікабрытанія), *Інстытут беларусаведы і беларускі музей у Ляймене* (ФРГ), *Беларускае культурна-мастацкае і навуковае таварыства ў Саўт-Рыверы*, *Вялікалітоўскі фонд імя Л.Сапегі, фонд імя І.Любачкі* і *Беларускі харытатыўна-адукацыйны фонд* (ЗША). Актыўны навуковы асяродак склаўся ў Польшчы (Беласток, Варшава). Значную ролю ў пашырэнні гістарычных ведаў адыграў і беларускі перыядычны друк – штомесячная газета «*Беларус»,* штоквартальнік «*Беларускі агляд»,* часопіс «*Беларуская думка»,* «Беларускі сьвет» Для інфармавання заходніх палітычных і навуковых колаў у 1979 – 1991 гг. выходзілі ў Боне (ФРГ) гадавыя агляды беларускага савецкага друку.

Розныя аспекты сваёй канцэпцыі гісторыі Беларусі даследчыкі з нацыянальнай дыяспары выкладалі на міжнародных форумах па праблемах СССР і Усходняй Еўропы, славістычных канферэнцыях, этнічных навуковых мерапрыемствах у ЗША і Канадзе, публікацыях у англамоўных энцыклапедычных даведніках, іншых выданнях. Актывізацыя іх супрацоўніцтва з навуковымі і навучальнымі ўстановамі краінаў пражывання, удзел у міжнародных навуковых мерапрыемствах павышалі зацікаўленасць замежных вучоных праблемамі Беларусі, садзейнічалі далучэнню іх да вывучэння гісторыі, культуры, мовы беларускага народа, пашырэнню інфармацыі аб ім у свеце. Нацыянальная эміграцыя апублікавала ў Нью-Йорку нарыс-роздум ананімнага беластоцкага аўтара «*Праваслаўная царква ў Беластоцкім краі і беларуская мова ў ёй»* (1984 г.), у Лондане – кнігу «*Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс»* **А.Бембеля** (1985 г.), «*Ліст да рускага сябра»* **А.Каўкі** (1979 г.), *Зварот беларускай інтэлігенцыі да М.С.Гарбачова* (1987 г.), якія ў той час не маглі быць выдадзены ў БССР і ПНР. У 1994 г. у Нью-Йорку выйшла кніга «*Курапаты»,* у якой на англійскай і беларускай мовах змешчаны навуковая справаздача пра археалагічныя даследаванні ў 1988 г. і артыкулы пра рэпрэсіі на Беларусі ў 30 – 40-я гг.

У БССР публікацыі эмігранцкіх аўтараў былі недаступнымі чытачу (калі і паступалі ў бібліятэкі, то знаходзіліся ў спецсховішчах), па ідэалагічных прычынах немагчыма было іх навуковае рэцэнзаванне. Высновы эміграцкіх даследчыкаў па розных аспектах гісторыі Беларусі падаваліся як фальсіфікацыі «буржуазных нацыяналістаў», памагатых «буржуазных саветолагаў».

Абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь паклала пачатак складванню новых узаемаадносінаў з гісторыкамі і іншымі вучонымі на эміграцыі, асэнсаванню іх спадчыны. Праявамі гэтага сталі сумесны ўдзел айчынных і замежных вучоных-беларусаў у міжнародных і нацыянальных навуковых канферэнцыях. У 1993 – 1994 гг. у Мінску выдадзены працы «*Беларусь пад нямецкай акупацыяй»* **Ю.Туронка**, «*Беларусь учора і сёння»* **Я.Найдзюка** і **І.Касяка**, «*Крокі гісторыі»* і «*На крыжовай дарозе»* **А.Калубовіча**, «*Беларусы ў ЗША»* **В.Кіпеля**, «*Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвінаў»* **П.Урбана**, «*Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме»* **А.Цеханавецкага**, гістарычнае эсэ «*Паратунак»* **М.Гайдука**, «*З гісторыяй на «Вы»* (Вып. 3, уклад. Я.Запруднік). Падрыхтаваны да друку інш. выданні. З пачатку 90-х гг. багаты дакументальны матэрыял з гісторыі эміграцыі, пра яе найбольш вядомых прадстаўнікоў публікаваў часопіс «Спадчына».

З’яўленне новых незалежных дзяржаваў на постсавецкай прасторы абумовіла значнае павелічэнне нацыянальнай дыяспары, у тым ліку даследчыкаў айчыннай гісторыі за межамі Беларусі. Сумеснымі намаганнямі вучоных блізкага замежжа і Беларусі выдаваўся літаратурна-навуковы гадавік «*Скарыніч»* (вып. 1 – 2, 1991 – 1993 гг.). На яго старонках, а таксама ў новых ці адноўленых беларускіх замежных выданнях папулярызаваліся набыткі сучаснай гістарычнай думкі ўсходняй дыяспары: «*Наша ніва»* (Вільня), «*Сьвітанак*» (Рыга), «*Шляхам Скарыны»* (Масква). Для даследавання і папулярызацыі гісторыі беларусаў у Польшчы было створана ў 1993 г. у Беластоку Беларускае гістарычнае таварыства, якое выдае часопісы «*Беларускі гістарычны сшытак»,* «*Часопіс»,* «*Беларускія навіны»,* а ў Варшаве выходзіць беларуска-польскі часопіс «*Дыскусія»*.

Працэсы нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння актывізавалі навукоўцаў заходняй дыяспары. Заснаваны часопіс «*Полацак»* (Кліўленд), дзе друкуюцца даследаванні гісторыкаў Беларусі і замежжа. З'явіліся іх публікацыі ў часопісе «*Весткі Інстытута беларусаведы»* (Ляймен, Германія). Пачаў выходзіць часопіс «*Прамень»* (Манрэаль, Канада). Вынікам цікаўнасці ў ЗША да новай незалежнай дзяржавы стала выданне ў 1993 г. на англійскай мове працы «*Беларусь. На гістарычных скрыжаваннях»* **Я.Запрудніка** – нарыса гісторыі народа ад старажытнасці да пачатку 90-х гг. XX ст.

---

Тэкст падаецца паводле: Сяргеева П. Гісторыя Беларусі ў даследаваннях беларускай эміграцыі / Г.Сяргеева // ЭГБ: У 6 т. – Мн. БелЭН, 1996. – Т. 3. – С. 28–31.

## Праверачны тэст

***I. Вызначце правільны адказ.***
1. Псеўданім А.Луцкевіча ў эміграцыі
    А) Н.Недасека
    Б) М.Волаціч
    В) А.Навіна
    Г) У.Глыбінны.
2. Нарыс А.Цвікевіча «Беларусь» быў выдадзены ў
    А) Коўне
    Б) Парыжы
    В) Берліне
    Г) Вільні.
3. Лідэры беларускай эміграцыі ў 1918 – 1919 гг. ставілі пытанне аб
    А) незалежнасці Беларусі
    Б) аўтаноміі Беларусі ў складзе Польшчы
    В) аўтаноміі Беларусі ў складзе Савецкай Расіі
    Г) аднаўленні ВКЛ.
4. Узаемаадносіны беларускаў і палякаў даследаваў
    А) Я.Варонка
    Б) К.Езавітаў
    В) В.Ластоўскі
    Г) П.Крачэўскі.
5. Першая публікацыя дакументаў і матэрыялаў з гісторыі беларускай эміграцыі прадстаўлена ў
    А) часопісе «Беларускі сцяг»
    Б) «Гісторыі беларускай кнігі» В.Ластоўскага
    В) зборніку «Замежная Беларусь»
6. Беларускае выдавецтва «Бацькаўшчына» было заснавана ў
    А) Лондане
    Б) Мюнхене
    В) Нью-Йорку
    Г) Таронта.
7. БІНІМ выдае гадавік
    А) «Сшыткі»
    Б) «Нататкі»
    В) «Запісы»
    Г) «Беларусь».
8. Практыку рэпрэсіяў у БССР вывучаў
    А) С.Станкевіч
    Б) Г.Паланевіч
    В) П.Урбан
    Г) С.Кабыш.
9. Псеўданім Г.Паланевіча
    А) М.Валоціч
    Б) У.Глыбінны

В) Г.Няміга
Г) А.Навіна.

10. Я.Станкевіч, В.Пануцэвіч прытрымліваліся
А) тэорыі славянскага паходжання беларусаў
Б) тэорыі балцкага субстрату
В) тэорыі старажытнарускай народнасці
Г) крывічскай тэорыі.

11. Доктарскую дысертацыю па праблеме палітычнай барацьбы вакол беларускага пытання ў Дзяржаўнай думе абараніў у Нью-Йоркскім універсітэце
А) М.Белямук
Б) А.Караль
В) Я.Запруднік
Г) В.Астроўскі.

12. Першую абагульняльную працу па гісторыі Беларусі савецкага перыяду напісаў
А) Я.Найдзюк
Б) І.Касяк
В) І.Любачка
Г) Я.Запруднік.

13. Аўтар абагульняльнай працы «Беларусь пад нямецкай акупацыяй»
А) А.Мірановіч
Б) Ю.Туронак
В) А.Калубовіч
Г) С.Яновіч.

14. Гісторыю беларускай дыяспары ў Аргенціне распрацаваў
А) К.Мерляк
Б) А.Вініцкі
В) В.Кіпель
Г) А.Латышонак.

## *II. Што аб'ядноўвае пералік?*

1. «На чужыне», «Голас беларуса», «Крывіч», «Пагоня», «Беларускі сцяг».
2. Я.Запруднік, В.Кіпель, Я.Садоўскі.
3. Ю.Туронак, А.Баршчэўскі, У.Юзвік, М.Гайдук, В.Нікіцюк.
4. Беларускае культурна-мастацкае і навуковае таварыства, Вялікалітоўскі фонд імя Л.Сапегі, фонд імя І.Любачкі, Беларускі харытатыўна-адукацыйны фонд.
5. «Беларускі гістарычны сшытак», «Часопіс», «Беларускія навіны».

## *III. Вызначце дату.*

1. Арганізацыя Крывіцкага навуковага таварыства Ф.Скарыны ў Рэгенсбургу.
2. Заснаванне Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку.
3. Арганізацыя Беларускага гістарычнага таварыства ў Беластоку.

# Змест

